# ВАЛЯНЦІНА КОЎТУН

# КРЫЖ МІЛАСЭРНАСЦІ

РАМАН

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1996

# ГЭТА БЫЛО ЖЫЦЦЁ

Цяпер, калі я думаю пра Цябе, мне ўжо неабавязкова браць у рукі кнігу з адным толькі словам — Знакам Бацькаўшчыны — на вокладцы: «Цётка». Цені тваёй душы — Сымоны і Сцяпаны са Старога Двара, васілішкаўскія прыгажуні Касі і змардаваныя лёсам Міхаські, пецярбургскія і віленскія студэнты, беларускія адраджэнцы пачатку стагоддзя прыходзяць самі і ўваскрашаюць перажытае, здаецца ж, не мною, але ўсё ж кожным з нас, сённяшніх, далёкае Тваё Жыццё.

Баюся пачуць папрок: рамантычная ідэалізацыя. Але рамантычнае нараджаецца найперш праз вялікую духоўную пакуту, вялікі боль. І ўжо толькі пасля праз іншыя пачуцці і адчуванні — гордасць, самаахвярнасць, пасталенне.

З чаго гэта ў Цябе пачыналася?

Спачатку ўспыхнула ярка-чырвоная зорка, дробна распырскалася і разляцелася ў бакі мошкамі. І тут жа — то абрываючыся, то зноў мацнеючы, у вушы ўкінуўся нясцерпны звон. І тады ўнутры аглушанай і нязвыкла вялікай галавы, у розных яе куточках пачалі ўзнікаць дзіўныя прывідныя малюнкі. «Вочы — неба... Броў — чарненька... Гарацъ шчокі... З губ — маліны... А галоўка як бы жытам, як пшаніца каласамі... Залаціцца над грудзямі...»

І ўсё ж не — такое ўжо надыходзіла пазней. Калі Ты адвучыла сваё на курсах Празаравай у Вільні і збіралася ехаць у Пецярбург, пражыўшы цэлую чвэрць стагоддзя і больш паловы свайго жыцця.

Ніколі не паверу, што Ты пачала пісаць такой сталай, дарослай. Бо вершы пішуцца яшчэ ў маленстве. Калі мелодыі гукаў снуюцца ў паветры, калі паэзія ўбіраецца і ў душу, і ў цела праз само бачанне і адчуванне свету.

Калі б хто з нас, сённяшніх, ведаў, колькі напісаных Табою вершаў так і асталося за мяжой не-

зваротнасці!.. Была б магчымасць іх усе сабраць, атрымаўся б немалы аб'ёмам том.

Курсы кіраўніц і выхавальніц фізічнай адукацыі П. Лесгафта, на якіх Ты вучылася з 1902 па 1904 гады, сталі школай выхавання грамадзянскай годнасці.

Ты была ў бараках, трупярнях, бальніцах. І не толькі на экскурсіях, але і працавала там, зарабляючы капейчыну, змагаючыся за самастойнасць. Усё тое, што здавалася некаму ўпартым беларускім фанатызмам, толькі заглушала балючы крык, што рваўся знутры. Бо ўжо нельга было бачыць, як Твой народ, спрацаваны і цёмны, пад прымусам сталаначальнікаў (і без прымусу) запіраецца ўсяго свайго роднага і падшываецца пад чужыя апраткі. Бо хто гэта вытрывае?

Але ведала: калі хочаш дасягнуць вялікай мэты, з народам трэба гаварыць на мове народа. Гэтай ісціне Ты была верная да канца.

Твае героі не былі прыдуманыя, вымаляваныя толькі творчай фантазіяй. Твой стары Мацей дыхаў гэтак жа цяжка, як і Ты сама, аслабленая хваробай, сніў тое ж, што і Ты, марыў пра вядомае і зразумелае — пра зямлю і волю.

«Мужыцкая доля», «Музыкант беларускі», «Мора», «Пад штандарам», «Бунтаўнік», «Мае думкі», «Сынок маленькі», «Родная вёска», «Вясковым кабетам», «З чужыны», «Лучынка», «Прысяга над крывавымі разорамі», «Асеннія лісты»...

...Помніш, у Львове сядзелі ў летнім Стрыйскім парку са Свянціцкім, жавалі хатнюю кілбасу, слухалі салаўёў і ўслых думалі, як лепш аформіць дакументы для паступлення ў Львоўскі універсітэт.

Але яшчэ столькі дарог Заходняй Еўропы трэба было абхадзіць: Закапанэ і Кракаў, Дрэздэн і Венецыя...

«Мамачка, хачу нешта табе сказаць, але не паверыш так адразу пасля маіх лістоў, дай хіба вушка: мамачка, нідзе так не пекна, як у нас». Гэта быў ліст з Трыеста. «Прымерам, калі сядзімо мы з табою на нашым прыгорачку ў даліне, ля рэчкі, бягуць загоны сівога аўса, па ручаю ляжыць палоска бела-ружовай грачыхі і ніжэй вусаты ячмень упіраецца пазалацеўшымі загонамі ў канюшыну...»

Лячыла, вылежвала прыступы задухі ў простай гуральскай хаціне, нацягваючы да падбародка коўдру, і слухала, ці не адагрэліся ногі... Але гэта былі толькі хвіліны. Імгненні. Хоць яны і доўжыліся днямі, тыднямі, месяцамі, гадамі. Душа была ў агні!

*Покі дужка рве да неба,*
*Покі скрыдал не зламалі,*
*Покі душы трэба хлеба, —*
*Будуць струны байчэй граці*
*Усё найлепша, наймілейша...*

Гарачкавы максімалізм адступаў перад разважлівасцю, калі дыпламатычна вяла ў Львове справу аб надрукаванні сваёй першай чытанкі для беларускіх дзяцей, сваіх вершаў.

Магутныя фігуры багоў і фантаны ў Рыме, здавалася, былі апушчаны на зямлю з самога неба.

Адукаваная жанчына, якая вучылася ў Вільні, Пецярбургу, Львове, Кракаве, улюбёна слухала высокія тоны голасу знакамітых прымадонн і шліфавала сваё артыстычнае прызванне (прырода дала і гэта). Ты потым дзівілася сама сабе ў звычайным гарадзенскім мястэчку, куды нарэшце даставалася з аматарскай трупай. Ставілі «У зімовую ноч» Ажэшкі. На імправізаванай сцэне, Табе, Крапівісе (людзі чамусьці заўсёды бачылі Цябе старэйшую за гады), амаль пасля кожнага спектакля вясёлы прыгажун Ігнат Буйніцкі заклапочана клаў на разгарачаны лоб халодную руку. І ты падала ў забыццё кароткага адпачынку перад новаю дарогай, і ўяўны смуглаваты гандальер з Венецыі ўсміхаўся да цябе жоўтымі зубамі, размашыста падымаючы над каналам доўгае весло.

«Мілая мамачка! Усяго найлепшага пасылаю з Гётэбарга. У дарозе вельмі дрэнна вядзецца: маю бабутаварку муж адзывае дахаты, змаркоціўся, каб яго маланка. Мусіць, адна пайду па Нарвегіі. Як згіну — не шкадуйце...»

Дзёрзкая, самаахвярная жанчына, Ты ніколі нідзе не пераставала быць паэтэсай. Але сумленне Твайго таленту было настолькі актыўным і балючым, што на першы план выступала дзеянне, справа: зборнікі вершаў, чытанкі, гастролі з тэатральнай трупай па беларускіх мястэчках, наладжванне беларускіх школак, рэдагаванне першага часопіса для моладзі «Лучынка», доўгая дарога з вёскі ў вёску, з хаты ў хату да тыфозных хворых — з надзеяй памагчы.

Гэта было нешта больш значнае, глыбейшае, гістарычна прадвызначанае, чым проста работа. Сімвалічнае для ўсёй нашай літаратуры, культуры, адукацыі. Для ўсяго нашага нацыянальнага Адраджэння, якое працягваецца і цяпер, на новым складаным этапе. І ўсё ж каго ці што ўспамінала Ты ў свой апошні

зімовы вечар, калі ўрэшце тыфозная гарачка адпусціла і настала хвіліна прасвятлення?! Купалу? Любога паэта, які ўспрымаў Цябе толькі як «акравак маланкі», след агню? Ці, можа, братоў Луцкевічаў, Вацака Іваноўскага, шчырага сябра з Лябёдкі, дзе так часта гасцявала? Ці то Браніслава Эпімах-Шыпілу, да якога так часта звярталася па многіх справах, а неяк нават папрасіла прыслаць брыльянцік у завушніцу...

А можа, згадала Ты доўгую зімовую дарогу праз фронт, калі везла дахаты цела малодшанькага з Пашкевічаў — брата Юзіка, маладога паручніка, забітага на першай сусветнай.

І гэта таксама сімвалічна. Бо колькі яшчэ братоў Тваіх, маладых салдат і афіцэраў беларускіх страцяць свае жыцці ў войнах, распачатых зусім не намі. Аднак жа ў бясконцай дарозе чалавецтва да міру і спакою, у дарозе, што праходзіла праз крывавае месіва пачатку стагоддзя, Твой любімы брат стаў самай першай найгалоўнейшай еўрапейскай ахвярай. Лёс цэлага народа, будучыня цэлай еўрапейскай нацыі здаўна былі прадвызначаны ахвярным наканаваннем выконваць ролю не мяча, а шчыта.

Ці не адбываецца тое ж і сёння?

Ці не пра гэта думала Ты ў той свой апошні вечар на зямлі?!

Якіх сяброў і ворагаў, якія справы і недаробкі згадала, якія радасці і пакуты напрыканцы Жыцця ўспомніла Ты — родная, незаменная, незабыўная, блізкая ўсім нам Пачынальніца. Паэтэса. Алаіза... Алаіза Сцяпанаўна... Цётка.

*Аўтар*

# РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

## 1

Шырокая і ўся на раніцы пацяжэлая, рака быццам і не рухалася зусім, а толькі дрыжала. Вялікая і дўжая, пагрозліва цямнела блізка наперадзе і цягнула да сябе Алаізу, як магніт.

Мігатлівая зорка, якая ўспыхнула ў вачах, тут жа разляцелася чырвонымі кропачкамі, ажно па скронях і патыліцы расцёкся пякучы нясцерпны боль. Спалохаўшыся яго, Алаіза рэзка скранулася з месца, ступіла некалькі крокаў да Піны і замерла. Боль адразу ж адпусціў, і яна ўжо слухала, як па-камарынаму ўедліва і тонка ные навокал вільготная цёмная цішыня. Па ўсёй бачнай адсюль даўжыні Піны ядавіта пераліваласа шырокая паласа месячнага святла. Але тут жа ўсё навокал раптам пашарэла і паблякла.

Высока над ракою пацёк туман, пускаючы ў бакі і ўніз, да вады, свае доўгія белаватыя змейкі. Рачная роўнядзь заільснілася, аблітая месячным алеем, а ўся рака выгнулася пасярэдзіне і ледзь прыкметна тарганулася знутры, гонячы да берага дробныя рэдзенькія хвалі. Быццам пачала дыхаць.

Алаіза праз сілу цісканула пальцамі ручку свайго драўлянага з бліскучай металічнай акантоўкаю чамаданчыка. І пайшла ад ракі. Ногі таксама набраклі і цяпер амаль не слухаліся.

Метраў за дзесяць ад вады бераг крута браўся ўверх, потым пераходзіў у напаўкруглую брукаваную плошчу, якая цягнулася амаль да самага будынка пінскага местачковага суда.

Пачала асцярожна падымацца. У слізкую гліну няроўнага берага ўгразалі абцасы чаравікаў. Ад думкі, што яшчэ, чаго добрага, яна паслізнецца тут і паляціць на спіну, абдало холадам. Ані апомніцца!

Нарэшце ступіла на цвёрдае, аддыхалася і крыху супакоілася.

І тады пайшла напрасткі, нават не бачачы, дзе канчаецца плошча. Было мутна ад застаялага за ноч туману і яшчэ так ціха, што кожны яе крок па брукаванцы ажно звінеў. Як на новым мосце альбо ў пустым касцёле. Калі добра чутныя і дыханне, і тугія ўдары ўласнага сэрца. Прыпыніўшыся, зірнула сабе пад ногі, на чорную зямлю, і пахітнулася. Ад шыі па спіне пакаціўся непрыемны вільготны холад. Здалося, што тут, каля самых яе ног, зеўрае бяздонная чорная яма. Імгненне — і сарвешся, і паляціш, як камень, у тую страшную прорву.

Алаіза крутнулася ўбок і ледзь не пабегла, але тут жа гучна рассмяялася, ткнуўшыся плячом у тонкі ствол халоднага гнуткага клёніка. Як апрытомнела. Паправіла стаячы беленькі каўнерык сукенкі, падняла галаву і нарэшце азірнулася.

Неяк нечакана, на вачах, пачало сінявата днець. Яна яшчэ раз засмяялася, ужо ціха, выпрастала худзенькія плечы, адганяючы насланнё страху. Кірмашовы дзень пачынаўся.

Не прайшло і паўгадзіны, як да плошчы з усіх бакоў амаль аднначасова паз'язджаліся важка наладаваныя для кірмашу гарбатыя і непаваротлівыя вазы. Возчыкі паспешліва выбіралі зручнейшыя месцы, употайкі ваўкавата зіркалі на суседзяў, нарэшце прывязвалі распрэжаных коней ззаду да драбін і падвешвалі пад конскія храпы торбы з аўсом. Кабеты мітусліва расстаўлялі рэшаты з жоўтымі яйкамі, выкочвалі наперад бочачкі з мёдам і кубэлкі з тлушчам. Выглядалі, куды б яшчэ прыткнуць старыя цвёрдыя аўчыны, лазовыя кошыкі-шыяны, выдзеўбаныя з моранага дубу карцы і місы.

Ганчары ўжо нахвальвалі першым пакупнікам свае глянцавыя макотры і глякі («Тыдзень малако не кіс-

не!.. От пабачыш!»), пстрыкалі пальцамі па іх звонкіх пукатых баках. Але местачкоўцы толькі пазяхалі, згодна ківаючы галовамі, і нічога не бралі.

Амаль палова плошчы, бліжэй да суда, ужо запоўнілася людзьмі. Каля сівога, нібы абсыпанага крэйдаю, і п'янага з раніцы ганчара прыпынілася шыраканосая кабета, па-качынаму тарганула ўперад галавою, здзівілася:

— Сымон, ці ты? І на вус ужо ўзяў! Ах, каб жа ж цябе зямелька ўзяла... Не выцерпеў...

Ганчар, ваяўніча натапырыўшыся, гатовы быў рынуцца да кабеты, але ўсё ж не рашыўся пераступаць гаршкі і толькі п'яна дрыгнуў каленам.

— Іч! Ягадзіна воўчая... Сымон... Сымон... Што табе Сымон?! Збанок лепш бяры! Узяла б во...

— Квасоля! Шальбабоны «Яські»!.. Квасоля... Шальбабоны, — няроспая і немаладая яўрэечка заверашчала як не пад самым вухам у ганчара, і той спалохана тузануўся ад яе і здзіўлена ікнуў.

— На чарвя адпорная... Квасоля...

— Тукі, тукі, гаспада, — асіпла перабіла яе такая ж нізенькая і кучаравая, што авечачка, гандлярка.

Ганчар перавёў здзіўлены позірк з адной на другую:

— Іч, дарогу аруць! — і зноў рашуча дрыгнуў каленам.

Але кучаравая ўжо адвярнулася ад яго і затыцкала пальцам у бок высокага і худога, аж чорнага, хахлакаваля.

— І гэты ўжэ тут. Ужэ стаў, як тычка! І заўсягды ж каля мяне! Кожан жэ раз! Кар-роль Сабескі!

Потныя бліскучыя валасы каваля былі схоплены наўкруг галавы чорным раменьчыкам. З пляча звешваліся нанізаныя на драціну вілы і сякеры, што глухавата пазвоньвалі пры кожным руху.

Блізка ад каваля нерухома стаялі аднолькава цемнатварыя і даўгавусыя браты-рымары, згробшы далонямі на грудзях ручкі бізуноў. Вошчаныя, бліскучыя языкі бізуноў спускаліся з рымаравых плячэй аж да самай зямлі.

— От-то-то! От гэта бацькавы дысцыпліны! Я панімаю... — маладзенькі і дробненькі, што шпачок, ганчар не адрываў ад бізуноў круглых, бліскучых ад захаплення вачэй. Нарэшце гучна ляпнуў сябе па кішэнях пінжака і пагардліва скрывіў тонкія, куточкамі ўніз

вусны. — От гэта я панімаю... От гэта на маю распусту! — Ён павярнуўся да такой жа бяльматай, як і сам, жонкі, паказаў на яе патрэсканым пальцам у гліне: — Якраз! А то вісяць без дзела.

Тая ад нечаканасці ажно хітнула спадніцамі і ледзь не прысела на збанкі.

— Тукі, тукі, гаспада...

— Ад анёльскай хваробы дзетак...

— Распусто!

— Сам распуста! Гэта куды ўжо пацёгся?..

Алаіза азірнулася, не разумеючы, адкуль на яе навалілася гэтае важка-густое і бязладнае гудзенне. Як быццам недзе блізка завялі малатарню. Ажно залажыла вушы.

Людскі натоўп ужо расцякаўся па ўсёй плошчы да самай Піны, і ў вачах застракацела ад бясконцых квяцістых хустак.

Як град перад навальніцаю, на плошчу сыпануў рэзкі перасвіст гліняных пеўнікаў, кавалераў і баранчыкаў. Быстрыя хітравокія цыганкі, шырока ступаючы, яшчэ нахабней замахалі доўгімі спадніцамі, ледзь не сілком хапаючы людзей за рукавы. Местачковыя гаспадыні з бруднымі кашолкамі на шырокіх жыватах падскоквалі адна перад адной, кідаючы паверх натоўпу хцівыя позіркі. А чаго навезлі яшчэ? А як яно там далей?

На асобным паўкруглым пляцку злева стаяла некалькі вазоў з парсюкамі. Каля крайняга, чырванашчокага і маленькага, што клопік, гаспадара прыпынілася чарнабровая прыгожая маладзіца, глянула на вялізнага кормніка, што нават не рохкаў, лежачы на саломе белаю шарсцінiстаю гарою, і нібыта праспявала нечакана нізкім грудным голасам:

— Ай-я-а-а! А твайго і рэшатам накрыеш. Праўда, дзядзечка? — Азірнулася навокал, як шукаючы падтрымкі, гарэзліва ўскінула бровы, ажно зарагатала, падняўшы галаву, бліснула белымі перлавіцамі зубоў з-пад надзіва вішнёвых, як падфарбаваных, вуснаў. І пайшла сабе. Алаізе адразу ж захацелася дагнаць і загаварыць з ёю, хоць аб чым, але каб і самой трохі падвесяліцца ў гэтым тлумным чужым гарадку. Яна ўжо была блізка ад яе, здзіўляючыся ўласнай рашучасці, і раптам замерла, як спатыкнулася на гладкай дарозе, пахаладзела нутром.

Адчула ў сабе нядобрую перамену. Спалоханая, неспакойна павяла позіркам па людзях, шукаючы хоць каго знаёмага. Усе чужыя.

Гэтак жа, як сёння на раніцы, у вачах успыхнула ярка-чырвоная зорка, дробна распырскалася, разляцелася ў бакі чорнымі мошкамі. І тут жа — то абрываючыся, то зноў мацнеючы — у вушы ўкінуўся той, ужо знаёмы ёй, нясцерпны звон. Спачатку востры, як шыла, ён праця ў наскрозь усю галаву, ажно пацямнела ў вачах і цяжка было вытрымаць, устаяць на ватных нагах. Потым боль пачаў разбухаць і мацнець, павялічвацца, як надзьмуты шар, — зазвінеў усё мацней і мацней, распіраючы ўласную абалонку, і раптам лопнуў на самай высокай ноце.

Наступіла цішыня. Як кароценькая перадышка.

І тады ў аглушанай галаве, у розных яе куточках пачалі ўзнікаць дзіўныя прывідныя малюнкі. Ледзь не да самых Алаізіных вачэй наблізіліся аблічча знаёмых і нават незнаёмых ці толькі аднойчы недзе бачаных людзей. Яны адразу ж загаварылі. Але загаварылі ўсе разам, і таму вельмі гучна. Цэлая залева розных слоў! Насланнё... Вадаспад... Бясконцасць...

«Вочы — неба... Броў — чарненька! Гарацць шчокі... З губ — маліны... А галоўка як бы жытам, як пшаніца каласамі... Залаціцца над грудзямі!..»

Алаіза машынальна пашукала позіркам тую вясёлую, смуглатварую... «Доўгі косы вянком ўюцца... Зубы белыя смяюцца!» ...але ўбачыла чамусьці маці. Убачыла, але не верыла сама сабе. Было ўжо такое і раней. І раней у чужым натоўпе так часта бачылася маці.

Дождж раптам закіпеў, працяўшы рэзкім непрыемным віскам:

— ...аж-жы! Каму наж-жы? Налятай!

Здзіўленая, Алаіза адразу ж убачыла перад сабою тачыльшчыка, які сядзеў за высокім вузкім варштатам. Вельмі худы і прыгорблены, з ненатуральна адтапыранымі тонкімі вушамі, ён стараўся перакрычаць гудзенне свайго варштата.

Усё ніяк не магла адарваць позірку ад гэтых смешных вушэй, падобных на тонкі жоўты лопух, і тачыльшчык таксама выскаліўся да яе бліскучымі зубамі, рыўком, зухавата націснуў на педаль: ззіх!

Тоўстыя гандляркі паблізу падскочылі ад нечаканасці, але тут жа яшчэ весялей затрэслі перад сабою старымі андаракамі і такімі ж сцяганымі мужчынскімі пінжакамі.

У правым куце плошчы, якраз там, дзе нізкаваты бераг амаль зліваўся з ракою, паблісквала сваім гонтавым фарбаваным дахам новая пральня. Пазакладаўшы рукі за спіны, да яе шэрай цёплай сцяны прыткнуліся вясковыя маладзіцы ў каптанчыках, і перад кожнаю, утварыўшы роўны стракаты радок, час ад часу палопвалі крыламі пеўнікі з перавязанымі лапамі. Тут жа з кошыкаў уверх і ў бакі цягнуліся сваімі бліскучымі шыямі маладзенькія белыя гускі.

Алаіза таропка адступіла ўбок — па бруку залапатала гружаная кафляю тачка, круцячы ў коле жоўтае сонца.

Ужо каторы раз праходзіла яна міма тытунёвых і паркалёвых лавак, нізкіх крамак з наваленым проста на прылаўкі таварам. Тут жа, шчыльна прыслоненыя адзін да аднаго, стаялі мяхі з мукою, соллю і грэчкаю. На сценах віселі вяроўкі рознай таўшчыні, дугі, абады і нават цапы. Блішчалі новенькія медныя аздобы для брычак і санак. На прылаўках, дзе відней, згрудзіліся плоскія і пукатыя бутэлечкі з парфумай, лёгкія жаночыя пантофлі і фарфоравыя амурчыкі з паднятымі ўгору тоўстымі ручкамі, да якіх, здавалася, былі прыклеены мініяцюрныя лукі са стрэламі.

Недалёка ад пральні людзі спускаліся ўніз, да невысокага купчастага берага, куды якраз пачалі прыставаць рыбакі. Стоячы ў карме на поўны рост, яны вялі чаўны наперад вельмі асцярожна, пацішу адштурхоўваючыся вёсламі ад цвёрдага дна. Рыба была прыкрыта зверху мокрым аерам і маладзенькім сітнікам, важкія чаўны ледзь не чэрпалі бартамі ўскаламучаную карычневую ваду і павольна паварочваліся да берага высока паднятымі тупымі насамі. Рыбацкія латы і сеці былі загадзя схаваны ў скрыню кармы.

Каля берага рыбакі клалі вёслы на рыбу і асцярожна саскоквалі проста ў ваду. Трымаючыся пасінелымі рукамі за борт, павольна сунуліся да носа, накручвалі на рукі ланцугі ці вяроўчыны-прывязкі і валаклі чаўны за сабою на цвёрдае. Потым, адкрываючы рыбу, зграбалі і кідалі ў раку аер і сітнік.

Рыбакоў тут жа абступалі местачкоўцы, весела таргаваліся і куплялі рыбу цэлымі кашамі, выбіраючы часцей толькі шчупакоў і чорных мянькоў.

У цэбры з уюнамі дзеля забаўкі падсыпалі солі, і тыя тоненька і праціўна пішчалі, бліскалі жаўтаватымі чэраўцамі і скручваліся ў вялізныя слізкія клубкі, гонячы наверх брудную пену.

Якраз азвалася царква, і Алаізе здалося, што кірмашовы гул пачаў адрывацца ад людскога натоўпу і падымацца над усёй плошчаю, над яе шэрымі крамкамі і ліпавай алеяй, падымацца ўсё вышай і вышай, разам з гэтым глухаватым царкоўным звонам. Захацелася адысці ад бязладнага тлуму і таўкатні, і яна міжволі далучылася да купкі местачкоўцаў, што пераходзілі з рыбнага базару на другую ад моста частку берага.

Мост быў падгнілы, з касцістымі парэнчамі. Пясчаны бераг каля яго зыбка асыпаўся, і Алаіза, пакуль прайшлася па ім, добра задыхалася. Убачыла, што за некалькі метраў ад моста да паваленай прыстані шчыльна прыставала старая лайба, баржа. Баржа была невялікая. Уся яе правая палавіна, загружаная кафляю, глыбока апусцілася ў раку. На левай стаяў невысокі, засланы зялёным сукном стол з трох, пакладзеных адзін на адзін, чамаданаў. За ім, шырока расставіўшы ад няўручнасці ногі, сядзелі два немаладыя мужчыны ў пацёртых чыноўніцкіх мундзірах і аб нечым — Алаіза яшчэ не зразумела, аб чым, — перамаўляліся з худым смешным чалавекам у зашмальцаваным зіпуне і вялізных надзягцяраных ботах.

Чуўся мяккі акцэнт, напэўна, гэтая аматарская трупка забрыла ў Пінск аднекуль з Падолля ці Валыні. Людзі паціху рассаджваліся на беразе — прымошчваліся на перавернутых днішчам уверх бочачках ці проста на ўтравелых сухіх грудках. Нехта падсунуў Алаізе невялікую, але крэпенькую скрыню.

Стракатая кітайская штора з дзвюх створак-рамачак падзяліла сцэну на дзве палавіны. Па другі бок ад стала, за шырмаю, чакалі сваёй чаргі яшчэ некалькі артыстаў у сялянскіх світках і саламяных капелюшах.

Гледачы раз-пораз пасмейваліся з пінскіх шляхцюкоў і падпускалі жарты, асабліва тады, калі лысенькі артыст, па-заечы дробна торгаючы пульхнымі вуснамі, бухнуўся на калені перад жаўтачубым хлопцам, пера-

апранутым у жаночую сукню, і пачаў мітусліва ляпаць сабе далонямі ў худыя грудзі.

На беразе ўзарваліся смехам.

— Ут, гэта я панімаю... Усё, братцы-манахі! Ут, гэта Марыська!

— Згаблюе на дошчачку беднага! Гля...

— Гы-го...

— Табака чортавая!

— Іч! А разахвоціўся! А прэ...

— Бач... А табе шчо? Ічкала няшчаснае.

— Дзе кветкі — там і мёд. Братцы-манахі! Ут, гэта я панімаю...

Нарэшце «найяснейшая карона» — тоўсты барадаты акцёр з натапыранымі бровамі ледзь падняўся з-за стала, недавольна абсмыкнуў кароткія рукавы мундзіра. Павольна разгарнуў перад сабою папяровы скрутак. І нечакана грымнуў, прыгнуў да зямлі ўсіх сваім густым важкім басам:

— І другое, па дзесяць рублёў штрафу на карысць урэменнага прысуцствія... — Ён важна насупіўся, і бровы тут жа сышліся цёмным густым радам.

Алаіза падумала, што ўжо бачыла вось такія кусцістыя бровы, бачыла такі самы роўны радок над глыбока пасаджанымі, але не чорнымі, а бякла-шэрымі вочкамі.

У каго толькі?.. Але ж бачыла, бачыла...

У Сымона! У старога, высахлага ў шчэпку Сымона са Старога Двара.

Маці яшчэ жартавала. Маўляў, калі Сымон сядаў ці падымаўся з лавы, то яго косці так гучна перастукваліся, што ўсё гэта — а-я-а... — было чуваць ажно ў васілішкаўскім касцёле.

...Стары пачынаў скардзіцца на сваё доўгае адзінокае жыццё з самай раніцы, яшчэ добра і не адсопшыся са сну. Потым апускаўся на паваленую ліпіну, бліжэй падсаджваўся да такога ж абымшэлага, як сам, Сцяпана. Паварочваўся да яго, доўга прымошчваўся і пасля пачынаў шамкаць пустым, як пограб вясною, ротам. Сцяпан быў глухаваты, пастаянна настаўляў да суседа вуха. Абодва ўчарнелыя, з апушчанымі галовамі. Маленькія такія галовы, як высахлыя на ветры макаўкі.

— Дзякуй, Сымонка, дзякуй, што адведаў ты мяне хоць перад смерцю. Рад, вельмі рад... Гляджу на цябе і не веру сваім вачам — ці гэта ты, ці не ты?

— Мо і не я, пастукай! Толькі паволі, бо я цяпер шкляны, гы-гы!

— Смех смехам, а кусок часу. То ж мы з табой не бачыліся з тае пары, як я купіў у Меера рабую карову і як прытрапілася, помніш? тое...

Седзячы каля суседа, Сцяпан усё пыхкае люлькаю ў свае ржавыя вусы, і ад смярдзючага тытунёвага дыму ёй, Алаізе, аж няможна глыбока, на поўныя грудзі, дыхнуць. Але гэтыя двое з яе далёкага Старога Двара, з яе дзіцячай памяці нічога не чуюць, занятыя толькі сваім.

— А знаеш, удалая была жывіна, словам не сказаць, і ўежна, і да зімы ўладна, і на цяляты, проста гад — не карова...

Ёй добра. Яна з такой радасцю слухае гэтае старэчае прастарэкванне, гэтую марудную балбатню пра ўдала купленую ў Меера карову. Ёй добра... Але вось ужо артыст, падобны на старога Сцяпана, яшчэ раз калыхнуўшы дыханнем тытунёвы дым перад сабою, важка падняў ускудлачаную галаву, нядобра зірнуў на Алаізу.

— А ўсёй іншай шляхце, якая не бачыла бойкі, за тое, што не бачыла, а па той прычыне і не магла развесці б'ючыхся, назначаецца, па-першае, па пяць бізуноў на дыване...

Людзі на беразе ажно пакаціліся ад рогату, некалькі брудных чаек спалохана ўзвіліся з моста, нізка закідаліся над ракою і зачыркалі крыламі па вадзе. Натоўп вакол Алаізы гудзеў, як растрывожаны вулей, настойліва вяртаючы яе да рэальнасці.

— То што, можа, свае будзем, калі не паб'ёмся?!

Той самы п'яненькі сівы ганчар падняўся з бочкі, адпіхнуўшы яе нагою, і няцвёрдаю хадою, бясконца ічкаючы, накіраваўся да баржы.

— Галганы! Ёлупы сабачыя! — выпаліўшы ў натоўп абразу, суддзя раптам засмяяўся. Усе на беразе паўскоквалі са сваіх месцаў, гатовыя кінуцца на баржу. Артысты падняліся з кафлі, не ведаючы, што рабіць. Але тут жа з іх гурту выскачыў той самы хлопец, што іграў Марыську, адштурхнуў убок кітайскую штору. Тая гучна ляснулася аб дашчаны наст баржы, і гледачы на беразе адразу ж прыціхлі. Хлопец падняў уверх правую руку, выкарыстаўшы хвіліну замяшання, і,

паспешліва, глытаючы словы, залапатаў звонкім пры-гожым голасам:

Дзе ўнадзіцца юрыста,
Вымяце хату дачыста.
Такіх дзіваў натворыць,
Такіх кручкоў нагаворыць...

Хлопец ужо супакоіўся і чытаў верш больш стры-мана, павольна.

Як гэта проста, аказваецца... Не па-расейску, не па-польску. А вось чытае ж ён па-свойму, той самай га-воркаю, на якой... У сваіх жа вёсках...

А людзі слухаюць. Слухаюць вершык, напісаны па-мужыцку! Слухаюць тое, што яна душыць у сабе ўсе гэтыя бясконцыя гады, а яно ўсё роўна вырываецца і амаль даводзіць яе да бясцямнасці. Так доўга яна ду-шыла ў сабе т о е, што яно і само ўжо зняверылася, збаялася і спакутавалася, — і накіпае ў душы і ў гала-ве хіба толькі разам з пякучым болем.)

Разумеючы, што прадстаўленне кончылася, людзі на беразе паціху разыходзіліся. Кірмаш таксама ўжо амаль распаўся.

Па беразе Піны тэпала касцістая, амаль напалам перагнутая ў спіне старая, усё прыглядвалася і пры-нюхвалася да зямлі, амаль торкаючы яе сваім доўгім варонім носам. Два хлопчыкі-блізняткі, гадоў па пяць, пабеглі ад яе да брудных натапыраных катоў, што ўжо цягалі за сабою зваляныя ў пяску рыбіны вантробы, але чапаць іх не рашыліся. З піскам і смехам паляцелі з берага на плошчу — блізка пральні, міма невялікай кафельнай горкі. Алаіза раптам як спатыкнулася: каля кафлі стаў Костусь. Наўздзіў высокі і тонкі, як жэрдка. Сапраўды — Костусь!

— Ці ты?!

Здаецца, яшчэ нават не ўбачыўшы Алаізу, а толькі пачуўшы яе голас, Костусь Каранец ад нечаканасці рэзка крутнуўся на месцы і пачаў зрываць з сябе ску-раны фартух — тузаць ззаду за матузкі. Зноў, але ча-мусьці трымаючы гэты фартух перад сабою, пабег да Алаізы напрасткі, праз усю плошчу.

Яны не бачыліся, пэўна, гадоў пяць!.. І цяпер, на здзіўленне, у Костуся былі не зялёныя, як некалі, а цемнаватыя вочы з чорнымі вялікімі крапінкамі на-ўкруг зрэнак. І яшчэ — гэты залізаны, крыху пададзе-ны назад лоб. Костусь успыхнуў і чамусьці пачаў у

нечым апраўдвацца перад ёю. Але Алаіза — маўчала. Зрэшты, нічога не здарылася. Пры чым тут гэтыя чужыя цяпер, зусім не ягоныя вочы? І гэты ненатуральна высокі лоб?

Ні з ім і ні з ёю нічога не здарылася. Нават нічога не зварухнулася ўнутры. Проста застыла. Не магла ўзяць сябе ў рукі, не чула, пра што ён гаворыць. І нават прамоўленае ім жа імя Андрэя прагучала цяпер нібы ў сне. Таропка правяла пальцамі па сваёй залітай чырванню шчацэ.

— І чаму гэта я цябе так доўга не бачыла? Во калі ўжо са станцыі дасталася. А як па сляпым крузе хаджу. Ні цябе, ні Андрэя...

Костусь уздыхнуў:

— Андрэй з самай раніцы выехаў адсюль. Я толькі...

— І цябе — нідзе відна не было...

— Грузілі доўга, знаеш. Я вот... Знаеш, ты пастой тут. Добра? Я ўмомант!

Праз хвіліну, ужо дабегшы да цанііннікаў, ён шпурнуў на гружаную кафляй тачку свой фартух і пачаў таропка закасваць рукавы грубай шарачковай сарочкі. Цаніннікі дружна, як па камандзе, зарагаталі, і Костусь зніякавела крутнуў галавою, азіраючыся на Алаізу, яшчэ трошкі пастаяў каля тачкі, перамовіўся з паспакайнелымі цаніннікамі і... назад. Але ўжо не бег, а проста ішоў, смешна заграбаючы па бруку худымі цыбатымі нагамі. Следам за ім адразу ж затупаў кучаравы непаваротлівы дзядзька ў доўгай запшмальцаванай світцы. Яшчэ здалёку праця ў Алаізу чорнымі вачамі і весела тарганууў верхняй губою над роўненькім радам вострых, як ледзяшы, зубоў. Падышоўшы блізка, ледзь не засланіў Алаізе разам і будынак суда, і ліпавую алейку. Стаяў перад ёю шыракаплечы і ўвесь непамерна вялікі і грубы, як воз дроў. Адно толькі вочы — вострыя, чорныя.

— Шустры ты, мулярчыку! — гэтак да Костуся, але ўсё яшчэ гледзячы на яе. — Шустры... То чакайце, зара да Ёселя злётаю. А то, бра, сілы на дарогу не стане,— уздыхнуў з лёгкай насмешкаю ў голасе. — А ты што адвярнуўся, мулярчыку? Га? Не псуй мазгоў! Я ж, бра, як чыжык, толькі кроплю!

— Знаю я тваю кроплю, Міхайла! Не кажы лепш.

Яны моўчкі праходзілі ўздоўж пашарпанай кляштарнай сцяны, потым павярнулі на невялікую дашчаную пляцоўку, што ўпіралася сваім пашчэрбленым языком у высокі ганак драўлянага будынка насупраць кляштара.

...Гэта ўжо быў не той Костусь, якога яна ведала ў Старым Двары. Яна не пазнала ў ім анічога! Заблыталася ў сваіх адчуваннях. Адвярнулася. Але тут жа зноў на яго зірнула. А Костусь, здаецца, толькі цяпер адчуў яе трывожны настрой.

Уздыхнуў, асцярожна паклаў ёй рукі на плечы. Усміхнуўся. І яна таксама ўсміхнулася яму, пацяплела вачамі.

— А помніш?..

Падняла руку і лёгка націснула пальцамі на кароткі, але глыбокі шрам на Костусевай шчацэ. Костусь адразу апусціў плечы, заплюшчыў вочы.

Адчувала, які ён гарачы, гэты шрам на Костусевай шчацэ. Як запалены знутры.

— Баліць? Костусь, ён яшчэ баліць? — Горача, хоць ты адразу, толькі адняўшы ад гэтага шнара пальцы, падзьмухай на іх, астудзі...

— Баліць, Ліза...

## 2

Ад сялібы Стэфана Пашкевіча да Васілішкаўскага гасцінца кіравала нешырокая дарога, зрэзаная ўздоўж коламі важкіх вазоў, скапычаная і збітая ўвосень калючымі дажджамі, уся чорная і гразкая. Яна, гэтая дарога, заўсёды здавалася Алаізе жывою і дрогкаю — дыхае, баліць...

Неба сыпала ўніз халодную дажджавую сечку — каторы ўжо дзень. Зрэдку праз хмару цвіком прабіваўся серабрысты прамень, і ўсё навокал адразу ж весялела і шырэла, як абяцаючы людзям хуткую пагоду.

Нішто так не прыгнятае і не прыгінае чалавека да зямлі, як вось такі шэры вераснёўскі холад з калючым дажджом, гэтая нудотная песня палявога беспрытульнага ветру, які нават не можа парухаць хмары. І яны разлягаюцца сабе па небе. Распатланыя і брудныя. Важка апускаюцца ўсё ніжай, ледзь не чапляючыся за высокі гонтавы дах новай хаты Пашкевічаў на ўскраіне Старога Двара.

Стэфан Пашкевіч любіў раннюю восень. На гэты раз нечакана ярка і святочна запунсавела гронкамі яго любімая арабінавая алейка. Падступалася амаль да самага кветніку, акуратна пасаджанага перад хатаю ў шахаўніцу. Шалясцела рукавамі-галінамі, паціўквала дробным свіргатлівым птаствам. Як спяваючы, дрэўцы ледзь-ледзь пагойдваліся пад ветрам — такія яркія пунсовыя гронкі! За лета арабінавае віно добра набралася і пахаў жываплоту, і едкага каровінага і конскага духу, і мяккага тонкага водару кветак і рамонку.

Молячыся вечарам, Стэфан ціха ўздыхаў, а пасля яшчэ доўга ўсё варочаў, усё парадкаваў, як бульбяныя мяхі на возе, свае цяжкія клапатлівыя думкі аб гаспадарцы. Жагнаўся і раз-пораз астуджваў далонёю гарачы лоб.

Апошнім часам Стэфан усё мацней адчуваў асцярожны, але настойлівы надыход старасці. У барадзе — ніткі сівізны («Ганна, праўда, смяецца... Жартуе. Аднак жа — хада ты мая пераходжаная!»). Лоб таксама залішне падняўся і заблішчаў — пачаў шырока, аж да скроняў, лысець.

Сённяшні дзень здаўся Стэфану такім доўгім, што і не пераажыць ужо было: падумаўшы, ён нарэшце ўсё ж насмеліўся адправіць у Вільню Войцаха і Лізаньку. Лёг пазней звычайнага, але не здолеў нават звесці павек. Не мог ужо ні аб чым іншым думаць. Знерухомеў на ложку («Добра, што Ганна хоць заснула. Не чуе. Цалюткі ж дзень гарбела... Бадай яго!»), слухаў, як гарачая пругкая хваля пакацілася па грудзях да горла — першая, другая і трэцяя, — ціснучы і душачы. Доўга баяўся паварушыцца — ляжаў, ажно замуляла ў бакі, і тады не выцерпеў і падняўся, намацаў рукою каля дзвярэй старыя боты, пачаў павольна нацягваць іх на гарачыя разбухлыя ногі. У сенцах запаліў ліхтар, потым накінуў на сябе халодны кажух і выйшаў на двор. Плячам і грудзям зрабілася лягчэй, лягчэй на дварэ і дыхалася.

Ноч была спюдзёная, жаўтаватая, з рэдкімі буйнымі зоркамі. Міма тонкага і залацістага, як анёльская скабка, маладзіка лёгкімі грыўкамі пралятаді пушыстыя воблакі. Высока-высока. Здавалася, аднак, што гэта рухаюцца не воблакі, а ляціць сам маладзік.

Жоўтымі былі і прыцярушаныя саломаю драбіны, што ляжалі каля сцяны пад вокнамі. Цьмяна жаўцела

поле за стайняю і, калі добра прыгледзецца, часта гарбацілася высокімі бульбянымі буртамі.

Раптам, у адзін момант, зрабілася цёмна, хоць вока выкалі. На месяц, пэўна, нацякло густое воблака.

Стэфан паправіў на плячах кажух і падняў над галавою ліхтар. Падзьмуў ветрык, і ліхтар адразу ж загайдаўся і зарыпеў. Доўгія цені ад дрэў і новага плота, каля якога ён стаяў, мітусліва пабеглі ў бакі, рассейваючыся на адлегласці, мяшаючыся з густой цемраю.

І раптам, гэтак жа нечакана, як сцямнела, зрабілася светла. Маладзік вылузнуўся з хмары, і неба адразу ж паяснела і паглыбела.

Стэфан азірнуўся, прыслухаўся. І тут жа пачуў, як высока ў небе, паціху, зашалясцелі нябачныя кросны, тонкія пругкія ніткі сіняга святла нацягваліся на зорачкі-калочкі, паўбіваныя ў цвёрдую начную столю. Шу-шша... Шу-шша... Шу-ш-ш-а.

Які ён няўмольны і жорсткі, гэты час... Гэты лёс. Усё тчэцца і тчэцца. Бясконца. Усё жыццё.

Занылі калені, і Стэфан зрушыўся з месца, пайшоў у глыбіню двара да гумна. Рыпнуў дзвярамі, але тут жа заціх, як захлынуўшыся дыханнем, нават адкінуўся крыху назад. Нязвыкла рэзка і едка пахла сена. Павяло, закружыла галаву. Гэта было п'янкое, бы сама нядаўняя маладосць, такое гаркаватае і салодкае, толькі што адцвіўшае лета.

Жоўтае святло павольна расцякалася ад ліхтара да самых сцен, да глухіх куткоў гумна. З правага боку, на цвіках і ўбітых у пазы штырах, вісела некалькі цапоў з тонкімі арэхавымі цапільнамі. Нібыта на сцяну ўспаўзлі, а пасля звесіліся ўніз галовамі, ды так і паснулі пярэстыя, з бліскучымі спінкамі, вужы. Тут жа вісела некалькі сырамятных прузачак-раменьчыкаў. Вострымі ікламі блішчалі матыкі, блізка ад іх вытыркаліся абівалкі, завалены ліпавымі шуфлікамі, цуркамі для перавяслаў і трыма старымі рэшатамі з парванымі жыватамі. «Бадай вас мяцеліца замяла...»

Выйшаў. Ноч стаяла светлая, ажно празрыстая — ціха-ціха! — і ў Стэфанавай душы пачало абвастрацца адчуванне і разуменне і сябе самога, усяго тлумнага свайго жыцця, і сваіх штодзённых занятказ, і вось гэтай сваёй гаспадаркі — вялікай хаты і садка за ёю, хлява, гумна, стайні. Але ж адных падаткаў! І дзеці

ўжо вялікія. Нават ягоная цяга да работы, ягоны клопат рабіліся цяпер нібыта адчувальныя на дотык і пах; наліваліся нецярплівасцю рукі («А так і не прыкрыўшы бульбоўнікам во тыя бурты, што каля... Забыў, бадай яго!»), распрамляліся плечы і спіна, моцна, ажно пачуў сам у цішыні, забілася сэрца.

Не змагу ані дня без цябе,
Без твайго незабыўнага голасу...

Ліха яго, што гэта такое прытрызнілася на сівую бараду?!

Ужо ў ложку, ва ўтульным цяпле, успомніў: «Прысвячэнне». Гэта тое самае прысвячэнне («Твае вочы і слёзы твае, валасы, як агонь, залатыя...»), напісанае яшчэ год назад. Вядома ж, кім — ёю, зялёнкаю гэтаю. Лізай. У пятнаццаць гадкоў. Бадай цябе, малеча!

Летась увосень, помніцца, да іх ажно з другога канца Старога Двара хадзіў Гмыракаў хлопец Андрэй. Вучыўся разам з Войцахам і гэтай зялёнкаю ў настаўніцы.

Ганна застагнала ў сне, і Стэфан адразу ж занепакоена павярнуўся да яе. Але не разбудзіў. Яна, яго Ганна, цягнула больш за ўсіх. Нават зімою заседжвалася са старою Ягасяю за кудзеляй да самай раніцы. Спахапіўшыся, дзьмухала на спрадзеныя да крыві пальцы, самыя шыпушачкі. Працуе, як усе ў вёсцы. Хоць і лічацца яны заможнымі.

...Зямля ёсць. Тую, каля Пяшчыны, аддае ў арэнду, на гэтую, каля Старога Двара, наймае штогод. Найперш — Гмыракаў.

Гмыракаў у Старым Двары трое. Дзед Гаўра, ягоны сын Міхайла, Пашкевічаў галоўны арандатар, і ўнук Андрэй. У старога Гаўры дзіўная мянушка — «Гінжал». Сам вінаваты бо... Вярнуўшыся з турмы, яшчэ гадоў дзесяць таму назад, стары пачаў расказваць байкі пра нейкіх «кінжальшчыкаў», з якімі быў звязаны яшчэ з шэсцьдзесят трэцяга года.

Непагадзь нарэшце кончылася. Блакітна-бляклае неба зацвярдзела і пачало напінацца. Здавалася — дакраніся да гэтага тугога агромністага бубна, і ўсё наваколле працягла і сурова абзавецца, загудзе.

Арабінавыя гронкі і рудое лісце таксама яшчэ больш пацямнелі. Але ночы пакуль былі цёплымі. Штораніцы дрэвы сыпалі сваю дробную расу на жоў-

тую галаву і высокія плечы Костуся Каранца, калі той, няспешна праходзячы пад імі, гнаў на выган статак Пашкевічаў. Костусю было шаснаццаць гадоў. Сірата, ён прыехаў сюды ажно з-пад Рэчыцы да свайго дваюраднага дзядзькі Міхайлы Гмырака. Праз тыдзень, ці што, сам прыйшоў да Стэфана Пашкевіча і наняўся ў пастухі. Родны сын Міхалы Гмырака Андрэй сустрэў свайго стрыечнага брата з радасцю, але не так даўно бацька адправіў Андрэя на вучобу.

Алаіза любіла ўсё, што любіў бацька. І гэтую дзівосную арабінавую алейку, і вялізнае гумно з пахучым сенам і ластаўчынымі гнёздамі пад страхою, і малады садок за хатаю, і заўсёднае бацькава «А хада ж мая пераходжаная!».

Ранняю восенню і арабінавы рад, і сінія аканіцы, і нават страха на хаце ўкрываліся пушыстым шараватым пылам з манежа — вакол кола, апусціўшы галовы і натужна фыркаючы, хадзілі па сваім чорным крузе дзве пары коней.

З шырока адкрытай пуні клубамі вырываліся клубкі пацярухі — там шалясцелі снапы, папісквала каторая са старадворскіх дзяўчат, успыхваў мужчынскі рогат.

І яшчэ, як і бацька, яна любіла прачнуцца раненька, каб нават раней за бабцю Ягасю, злётаць босаю — ажно раса адбірае пяты — у малады альшэўнік за хатаю. Пахадзіць там з паўгадзінкі... Пасля завярнуць на той клін, дзе сцелюць лён... І — дамоў! Сёння яна вярталася раней звычайнага. З двара насустрач сунуўся дзядзька Міхайла — у шэрых нагавіцах і расхрыстанай сарочцы. Вецер вольна бегаў па шырокіх дзядзькавых грудзях, потым моцна дзьмухнуў у спіну, прыклеіўшы да яе сарочку. Рэдзенькія сівыя валасы дзядзькі Міхайлы наляцелі на вочы, і ён адхінуў іх рукою назад, залізаў даланёю. І раптам, як успомніўшы нешта, выцягнуў з-за апаяскі пугу — у дзвярах гумна, як на тое ліха, якраз паказаўся Костусь — і ледзь прыкметна, але моцна і спрытна круцянуў пугаўём над сваёю галавою. У паветры маланкава бліснуў даўжэзны чорны язык біча, самым кончыкам разануў Костуся па твары. Той адразу ж схапіўся рукою за рассечаную шчаку, і з яго раскрытай далоні паляцела на зямлю некалькі ядлоўцавых ягадзін.

Яны, Костусь і бабця Ягася, з самай раніцы лячылі карову, па дойках ужо цёк гной, вымя набухла і патрэскалася. Загналі яе ў цёплае гумно і ўціскалі ягады паміж зубамі. Прамыўшы ранкі падагрэтым малаком, бабця змазала іх нясоленым смальцам («У пнёўе ўгнаў... Валачашчы хлопец!..»).

Вінавацілі Костуся. Пастушка. Плаці, Міхайла Гмырак, за ўчыненае пляменнікам... Недагледзеў... А такая ж карова!

Шырока расстаўляючы ногі, дзядзька Міхайла зноў пачаў падымаць цэўку пугі. І тады яна, не чакаючы, сарвалася з месца:

— Што вы як гаплікам зачапіліся? Ну, дзядзько... Міхайло?!

Дзядзька здзіўлена адступіў, пусціўшы пугаю па кучаравым рамонку ў двары частыя хвалі.

Алаіза тут жа штурхнула Костуся ў гумно, хуценька прычыніла за сабою дзверы, як адрэзаўшы іх рыпеннем ад сябе і сляпую злосць дзядзькі Міхайлы, і яркае святло трывожнага дня, і гаманкі клопат у двары. Стала цёмна. Тады азірнулася і прыслухалася — у гумне было ціха. Праз тонкія шчыліны ў дзвярах прабіваліся доўгія жаўтаватыя промні, у якіх мітуслiва плавалі пылінкі. Было добра чуваць, як, залятаючы пад страху, зусім, здавалася, блізка чыркаюць паветра ластаўкі. Сваімі чорнымі доўгенькімі крыламі.

Яны з Костусем сядзелі каля самых дзвярэй. З двара якраз данеслася рэзкае гусінае доданне і шорганне па зямлі сабачага ланцуга.

— Хрыпка праклятая! Чысто ў горле таркаю дзярэ, — гэта жалілася маці.

— Майранку адварыць трэба. І пырніку напарыць, — раіла бабця.

Заскрыгатаў калаўротак, і ў калодзеж глуха бухнулася драўлянае вядро. Напэўна, Вацак. Дастаў вады.

Алаіза ўявіла: вось ён, ідучы ў хату, правёў рукою па сваім густым рудаватым чубе, уявіла гэта выразна, як убачыла на ўласныя вочы, і адчула, як па ёй разліваецца млявая цеплыня.

Прыціснулася плячамі да шурпатай халоднай сцяны гумна. Злавіла востры пах мужчынскага поту, але не такога едкага, які часам бывае ў бацькі. Употайкі скасілася на маўклівага наструнелага Костуся — ён сядзеў тут жа, побач з ёю, на саламяным кулі.

Костусь імгненна адчуў яе позірк і яшчэ больш напяўся. Варухнула зацёклымі нагамі, хацела падняцца. Але Костусь раптам як апрытомнеў, павярнуўся, рэзка абхапіў яе твар гарачымі рукамі і няўмела пацалаваў, трошкі балюча клюнуў носам у шчаку.

— Я маля... маляваць буду! Паеду ад іх у Вільню, і трасца з імі!

Алаіза не пакрыўдзілася, нават не здзівілася гэтай ягонай смеласці. Толькі спіне стала холадна. І гэтае слова — «трасца» — не іхняе... Дзіўны такі і смешны Костусь. Шкода яго. Так шкода. Зрэшты, гэта добра, няхай едзе. Няхай вучыцца. Няхай малюе неба і анёлаў на блакітных пуховых воблачках. Каб пралятала над зямлёю, абсыпалі яе залатымі слязьмі жалю і любові. Каб ніхто нікога не ганьбіў і не біў па твары, каб не было на жывых целах ні ранаў, ні крыві, ні гною. І каб усе любілі адзін аднаго і ўсім паміж сабою дзяліліся: і жытам, і зямлёю, і лугамі, і лесам...

Яна падняла галаву, зірнула Костусю проста ў вочы і раптам пахаладзела, прыціхла, нібыта разгледзела ў гэтых вялікіх вачах самае патаемнае, але не ягонае, Костусева, а сваё — нейкі дзіўны стракаты малюнак. І на ім — менавіта яна сама і яе ўласная душа, нядобрыя прадчуванні, якія раптам нібыта ажылі і захіталіся, як дрэвы з тоўстымі жаўтавата-зялёнымі ствaламі-целамі.

Ногі шчымелі і цяжка рухаліся, як драўляныя, хацелася хутчэй у цёплы сонечны двор. Пацягнулася рукою да...

— Хоць пеша няхай бяжыць, хоць вечарам!

Рука апусцілася сама — за дзвярамі каля маці якраз стаяў нечым узрушаны бацька. Крыкнуў у хату:

— Юзік! Да быдла, за бярэзнікам! — Потым да маці: — От што тая настаўніца-маскаліха навучыла!

— Ты глянь, Стэфан, а вот жа пад ногі ляціць! — У гумно данеслася кудахтанне. — Як жывую скубуць! — Бацькаў голас: — Круціцца, як шалёная. І тая як шалёная. «Выйдзь на Волгу, чый стон раздаецца?!» Бадай вас мяцеліца замяла! Прыбытка ўрадніку данёс. Генерал ваш хвалёны...

— І мы — не адным аром! Не нам баяцца, бацько. Я так скажу.

— Генерал! — Здаецца, бабця Ягася ўступіла.

— Такімі генераламі толькі комін затыкаць! — Бацька, адчувалася, перагарэў і ўжо прымірэнча ўздыхнуў: — Дзеўку выбера, што мядзведзя. От і стары. Паглядзіце...

— Хай яго на рабой сучцы жэняць!.. Няма чаго санкі гнуць...

— До-до... Досі. Бадай яго. Але ж данёс! Ладна, так і рашым. Хоча, хай сабе едзе. Хоць да Марысі, хоць сама як сваю вучобу даганяе. У шлях-то выправім. А далей — сама...

— Як гэта — сама?! Ці ж то блізкі свет? Вільня тая... Скажаш...

Алаіза не помніла, як вылецела з дзвярэй гумна, уткнулася бацьку ў грудзі.

— Толькі ж... Думаеш, тая Вільня мёдам намазана? Зялёнка дурненькая... Значыць, надумалася?! — Алаіза згодна кіўнула галавою, і бацька засмяяўся. — Красулю прадамо. З Войцахам паедзеце. До ўжо... — І раптам адштурхнуў ад сябе. — А ты чаго тут?!

Яна спачатку нічога не зразумела, потым азірнулася і ўбачыла за сабою Костуся. Яго вялікія, ажно сінія слёзы — пасярэдзіне вачэй, на ніжняй вейцы. І на белай, што крэйда, шчацэ — ярка-ружовы шрам. Тады раптам павярнулася, нечакана для самой сябе падняла руку і без боязі дакранулася да гэтага шрама пальцамі. Костусь тарганyў плячамі, адхіснуўся ад яе і кінуўся з двара.

...Яна трызніла. Прылегла на канапу, і адразу ж... Так цяжка. Здавалася, што ляжыць цяпер на мяккай пахучай траве і пазірае ўгору. Проста над галавою расшатрылася высокая жоўтая ліпа. Бухматае голле ажно грымела залатымі хрушчамі. Неба стала апускацца ўсё ніжэй. Хрыпла зайграў арган. Яна і сапраўды ўбачыла старога арганіста з бясколернымі вырачанымі вачамі і распатланымі сівымі валасамі на патыліцы.

Махаючы рукамі, арганіст пачаў адрывацца ад зямлі і паплыў па сваёй густой, як мёд, музыцы ўвышыню.

Алаіза пацягнулася да яго рукамі, асмягла зашаптала малітву, але арганіст раптам глянуў на яе нядобрымі вачамі, і ў яго руках бліснуў востры доўгі кінжал.

Ды не, не, гэта быў ужо не арганіст, а дзед Гаўра, толькі малады, з шырокімі, як камянюкі, шчэлепамі. Ён крычаў і ўсё махаў перад сабою гэтым доўгім і вострым кінжалам, вельмі падобным да звычайнай касы.

— Ты той, хто народ загубіў... На́ табе, на́ табе! Н-на́ табе!

Дзед Гаўра кідаў уперад руку з кінжалам, вострае джала якога то набліжалася, то аддалялася ад Алаізінага твару.

Хацела аблізнуць сухія вусны, але на яе раптам абрынулася цэлае мора, халоднае, успененае, сіняе-сіняе. Тое самае, якое ёй неаднойчы ўжо снілася.

Пасля такога мора, такой колкай свежай прахалоды яна заўсёды прачыналася.

Цяпер таксама.

Ляжала, не расплюшчваючы вачэй, усё думала аб тым, аб чым так часта гаварыў з ёю і Андрэем стары Гаўра. Што ўсе роўныя. Што так павінна быць. Усе — чалавекі, людзі. А значыць — роўныя. Значыць, і яна, і Андрэй (ці знойдзе яго ў Вільні?), і тая гарбаценькая Еўка, якая ўлетку збірае рыззё, а зімою цягаецца ў бахілах па чужых дварах, як галодная ваўчыца, і сам дзед Гаўра, і ўсе іншыя — знаёмыя і не знаёмыя Алаізе — роўныя. Толькі вось перад кім? Перад Богам?.. Перад людзьмі?..

Нечаканая дарослаць улівалася ў яе цела спачатку толькі першымі густымі кроплямі. Потым хлынула балючае, абвострана-замілаванае адчуванне ўсяго, што было навокал яе. І хатняй цеплыні раніцаю, і Каралінчыных сонных усхліпаў... Раскручаны вір уяўлення ўжо не мог спыніцца, у яго глыбіню бясконца несліся і падалі сярпы і граблі, бароны, конаўкі, касы... Туга натаптаныя травою пошкі і пазлізваныя ветрам з хатак саламяныя стрэхі, вырваныя з карэннем пасля навальніцы каштэлі, жак з лінкамі, чорныя надмагільныя крыжы і медныя фігуркі Хрыстосаў з панура нахіленымі да пляча галовамі, сляпыя жабракі з пустымі торбамі і худзенькія даяўчаткі-павадыркі ў парваных сукнях. Усё кружылася, усё пазірала на яе тысячамі вачэй і прамаўляла да яе тысячамі галасоў. Быццам толькі ёй адной, Алаізе, трэба было цяпер вось знайсці адказ на самае важнае для ўсіх, мёртвых і жывых, людзей запытанне...

— Дык я кажу, Красулю трэба прадаць. Згніло вымя... Толку не будзе.

Алаіза паднялася з канапкі і паглядзела ў акно, каля якога, спінаю да хаты, стаяў бацька. Падышла і маці.

— Трэба, дык прадамо. — Падумала трохі. — А мо?..

Бацька ўздыхнуў:

— Ды рабіце, што хочаце...

Выскачыўшы з хаты, Алаіза зірнула спачатку ў садок, укусіла яблык, потым паціху рушыла з двара. Пайшла сабе напраскі на той канец Старога Двара да Гмыракаў.

Ішла і ўспамінала, як Андрэй, яшчэ да прыезду Костуся і свайго ад'езду ў Пецярбург, амаль штодня крыўдзіўся на бацьку («б'е па галаве»), жаліўся на дзіравыя мокрыя боты і старую світку, на халодную хату («сабачая буда, а не хата!»). Але найбольш на дзеда Гаўру. Быццам бы гэта з-за яго яны жывуць у старой лядоўні.

Хата іхняя і праўда была старая, з рэдкім жываплотам каля сцен. Каля парога старавала бог ведае калі прывезеная з лесу вялізная пчаліная калода-ляжак.

Задумаўшыся, Алаіза ледзь не прамінула хату Гмыракаў, але яе спыніў грубы выкрык дзядзькі Міхайлы на Костуся («Нуб што ты пнешся, як чарвяк на ліст! Злазь ужо!»). Костусь з вялікім, поўным яблыкаў кошыкам стаяў на лесвіцы, прыстаўленай да старой высокай каштэлі каля самага акна. Радасна ўсміхнуўся ёй. Дзядзька Міхайла таксама адразу махнуў рукою на дзверы («Пачакай-но хвілю, паненка... Пасядзі там»), і яна пайшла ў хату.

Было цёмна. Дыханне адразу ж збіў востры пах адсырэлай цэглы і густы цвілаваты дух, што, здаецца, падымаўся ад вільготнага току амаль што бачнымі, хоць рукамі пакратай, шэрымі клубкамі. Прысела на ўслончык каля стала, сцішылася і раптам адчула на сабе нейчы пільны позірк. Падняла галаву. Не міргаючы, а толькі трасучы галавою, з печы на яе — пякучымі шалёнымі вачамі — пазіраў стары Гаўра. Адразу ж пачаў злазіць уніз, брудныя калашыны яго палатняных споднікаў задзерліся, і Алаіза ўбачыла худыя, амаль празрыстыя, як дуйкі гусіных пёраў, доўгія ногі.

Паднялася з услончыка і павярнулася да дзвярэй — хутчэй бы выйсці. Але Гаўра раптам гучна ўсхліпнуў, як захлынуўся слінаю, ступіў два крокі наперад і нечакана гупнуўся перад ёю на калені.

— У Вільню паедзеш, красачка? кажуць людзі — на тэлеграфістку... вывучышся! — Заёрзаў каленьмі па цвёрдай гліне. — Ну, то вазьміце і мяне. Не магу тут...

— От «Гінжал» шаляпаваты! — У хату ўступіў дзядзька Міхайла. За ім, бледны і маўклівы, Костусь. Паставіў каля печы кошык з паданкамі, павярнуўся бокам да Алаізы.

— Ты слухай яго, паненка, — кінуў на бацьку недавольны позірк.

— Вярзе! Гэта ж трэба, есці не дай, а толькі б языком пайшянціць...

— Есці? А ты мяне многа ж накарміў! Аж спіна над місаю ўгнулася! Ды я ў тэй турме праклятай столькі не пакаштаваў, колькі ў сына роднага...

— Чысто дзіця малое.

Стары раптам падхапіўся на ногі, сарваў з пояса некалі, відно, прыгожа вышытую, але цяпер зашмальцаваную каліту, пачаў трэсці ёю над сваёй маленькаю галавой. Нарэшце апусціў рукі і, сагнуўшыся, выняў з каліты сваімі вострымі пазногцямі два чырвонцы, працягнуў іх Алаізе. Замерла, але стары вар'ят паранейшаму тыцкаў грошы ў яе ўспацелую жменю. Яго буйныя слёзы не падалі, а павольна скочваліся са шчок на вузенькую бародку. Алаіза не разумела, навошта гэты стары змучаны чалавек аддае ёй свае апошнія грошы, чаму ён плача і просіць яе, каб ехала і вучылася. Што яму да таго, будзе яна жыць недзе ў Вільні ці не будзе, вывучыцца яна ці не?

— Во стары пянёк, унуку дык нічога не даў, — раптам пакрыўдзіўся дзядзька Міхайла. — Хоць бы грош!

— А нашто яму сляза мая? Э-э?! — Дзед Гаўра нечакана лёгка павярнуўся да сына, ледзь не клюючы яму ў грудзі вострай бародкаю. — А нашто?! Калі ты змеям яго прадаў! Сваякі! Такія, што хлопца ў родную хату не пусцілі.

— А чаго сюды пускаць? На цябе, дурнога сіберніка, глядзець?

Стары Гаўра шырока развёў рукамі, замахаў імі. І Алаізе здалося, што вось падыдзі да старога, дакраніся

да падмышын — і намацаеш там вялікія, з кулак, мазалі.

— Аддаў, то хай вучыцца. Вучыцца няхай, кажу! — Дзядзька Міхайла ткнуў старога пальцам у грудзі. — А ты... Ты лепей выцягні ды пахваліся гербамі! Пахваліся... Выцягвай, каб табе гізунты выцягнула! Усё з дымам пайшло! І зямля і грошы... За каго касцьмі клаўся? За што нас у зямлю ўбіў?

Не разумела, у чым старога Гаўру абвінавачваюць, маўчала.

— Столькі ўсяго было! А цяпер — толькі гной!

Нават не развітаўшыся, яна рэзка штурхнула перад сабою дзверы з хаты, выйшла. У двары азірнулася, глыбока ўдыхнула свежае паветра.

— Чакай-но!

Азірнулася, убачыла Костуся і адчула, што вусны самі расцягваюцца ў давольную ўсмешку. («Узрадавалася!.. Аднак жа пайшоў, каб мяне правесці...») Павольна падняла непаслухмяную і цяжкую цяпер, як налітую волавам, руку, дакранулася да ягонай шчакі. Якраз да шрама. Глянула на роўненькі, чырвоны ад крыві слядок на сваіх пальцах. І пабегла дахаты.

## 3

Насупленыя цаніннікі сядзелі на вёслах, ведучы лайбу блізу левага, нізкаватага, зусім голага берага.

Рака цякла павольна і паўнаводна, часта прымала бліскучыя вузкія прытокі, што расціналі тарфяністыя лугавіны ад самага гарызонта. Было, з вады каля берага выпіналіся барвяныя глiністыя водмелі, і тады лайба павольна абыходзіла іх, пакідаючы за сабою мутныя глыбокія варонкі.

Каля самай кафлі, складзенай на носе ў шчыльныя роўныя рады, Костусь кінуў на днішча мяккі, вывернуты аўчынаю наверх Міхайлаў кажух. Алаіза адразу ж апусцілася на яго, яшчэ каля Пінска, каб хоць трошкі адпачыць. Пасля вось і задрамала.

Лайбу валаклі па чарзе: ці Костусь, ці Міхайла з маладзейшымі артыстамі.

Па беразе якраз павольна ішоў мокры да пояса Міхайла — яго перацiснутыя лямкаю, набраклыя ад напружання і стомленасці рукі віселі цяпер ледзь не

ззаду, уздоўж хрыбціны. Нязвыкла доўгія і прамыя, як калодзежныя вочапы.

— Дайце ж перадых чалавеку... Я ўжо валок, — гэта ўскіпеў Уладзік, той самы жаўтачубы артыст, што іграў у спектаклі Марыську, а пасля чытаў вершык. Пераапрануўшыся, ён быў цяпер у белай, аж адбірала вочы, крамнай сарочцы са стаячым каўнерыкам і суконных штанах.

Міхайла толькі крутнуў да яго мокраю ад поту галавою.

— Не псуй... мазгоў.

— Ага, Бог мае больш, як раздаў.

— Заменім! — гэта ўжо басануў, але неяк няўпэўнена, суддзя, «найяснейшая карона», якога цяпер называлі чамусьці «васпанам ідэалістам».

— Сена... Языком... Накосіш.

Нарэшце Міхайлу і сапраўды падмянілі — адзін з цаніннікаў.

Мужчыны на лайбе паціху паразуваліся і паселі на цёплае днішча, выцягнуўшы перад сабою ногі і задаволена варушачы замлелымі пальцамі. З ракі цягнула колкай прыемнай вільгаццю, артысты зябка пацепвалі плячамі і бясконца падколвалі адзін аднаго жартамі. Даставалася найбольш «васпану ідэалісту».

— Капыты! — Уладзік ажно вусны падціснуў ад непрыемнага ўспаміну. — Такі спектакль ляснуўся! Гэта ж каб не я...

«Васпане ідэаліст» насмешліва працяў яго цёмнымі маленькімі вочкамі і пагладзіў абедзвюма далонямі сваю белую распушаную бараду.

— Не ён... Хвалько... Але што ты возьмеш з такога вялікага эксцэнтрыка, як наш Уладзя? Га? О, калі б я мог вось так бяздумна, як ён, сноўдацца па бездарожжы летуценняў?!

— Скажыце ласкава, — асцярожна перапыніла яго Алаіза, збітая з тропу артыстычным красамоўствам, — а дзе вы гэтую п'еску чыталі?

Уладзік, не чакаючы адказу «васпана ідэаліста», раптам бухнуўся перад Алаізай на правае калена і тэатральна развёў рукамі.

— Верце мне! Ён не проста чытаў, а самаручна — о! — перапісваў яе, — уздыхнуў, — ад нейкага там шалапутнага мужыцкага паэта.

— І перапісваў! — «васпана ідэаліста», адчувалася, ужо не дзівілі Уладзікавы выбрыкі. — Яшчэ калі вучыўся ў Горы-Горках... — усміхнуўся Алаізе, падняўшы свае кусцістыя бровы. — Усе мы, валынскія, хто тады ўкінуўся ў вірлівы тракцір пані Людманавай, былі ў горы-горацкіх уладаў на асобым учоце.

— Павольна ўзняў уверх свой кароткі палец і ўважліва глянуў на жоўты пазногаць. Рэзка, усім целам павярнуўся да Алаізы:

— А-а? Колькі разоў у Горках быў граны гэты фасовы тэатр! Толькі я быў яшчэ маладзенькім Пісулькіным, а не суддзёю. Аднак... франтаўство адно! Дзіўныя вы, беларусцы. Я вёў сваю ролю па-свойму, а той віцебец, мой мілы дружа Тамаш, — па-вашаму. Вось такія мы былі гутарнікі. І ўсе чыста нас разумелі, не маючы між намі вялікай адлічкі. Як ты з людзьмі, так і людзі з табою. Такі закон прыроды.

— Закон прыроды? — ускочыў з каленяў Уладзік. — А што гэта за такі закон прыроды, калі я не ведаю, нашто мне вучыцца гэтым каструбаватым вершыкам...

— Ці-ці-ці! Сказаў як звязаў! Сам жа з тутэйшых і вучыш сваё...

— Вучу, дзядзечка, вучу. Дурны бо... А ўсе рагочуць! Гы-гы! А скажыце мне, ну чаму я мушу любіць гэтую мужыцкую гаворку, калі самі з яе і смяюцца?! Клоуны... клоуны мы і ёсць... А ты ўсё: «Любіць! Любіць!»

— А хіба можна не любіць сваю маці, якая пусціла цябе ў свет і ўлажыла ў твае вусны слова?

— Гергечуць усяляк, а каўбаса пахне для ўсіх аднолькава, як ты яе ні назаві. У добрых мацерак вунь якія маёнткі, да неба дастаюць.

— А калі твой маёнтак разбурылі самі вятры гісторыі? Мой гарачы дружа, чаму ты не хочаш дасюль памудрыць свой буяны дух і пасцігнуць вялікае таінства вечнасці? Разважаеш, як цівун!

— А ты суддзю ніяк не сыграеш! Капыт!

— Ну, брат, гэтая недамысленая экзальтацыя занесла цябе далёка ў нашай высокай палеміцы. Каб я ды гэтага смярдзючага суддзю не сыграў?! — «Васпане ідэаліст» злосна шмаргануў па барадзе растапыранай пяцярнёю. — Ды я ж сам меў на сваім карку следчую камісію.

— Калі гэта было! — Уладзік ужо знайшоў і вёў далей сваю грэблівую нотку.

— Калі? А калі ўсе мы, горы-горацкія студэнты, спусціліся з гары Мазепы...

— У тракцір пані Людмановай?

— Людмановай... Што ты кеміш? У амальгаму! У тую сплаўленую амальгаму нашых сэрцаў і крыві, якая нарадзіла шэсцьдзесят трэці год і вось гэтую волю!.. — расхваляваны «васпане ідэаліст» рэзка развёў рукамі, зачапіўшы за плячо маўклівага насцярожанага Костуся, і той адразу ж падсунуўся бліжэй да Алаізы.

— Якая ж гэта воля, дзядзечка?

— Не хнюпся, галубок! От пабачыш! З усіх нас у губернскую трупу возьмуць толькі аднаго цябе!

Не паспеўшы адказаць яму, Уладзік раптам здзіўлена выцягнуў шыю, і Алаіза міжволі павярнулася туды ж, куды ён цяпер пазіраў. Насустрач лайбе плыў расфарбаваны, як цацка, доўгі човен з невысокай каютай, абцягнутай тонкім жоўтым палатном. Веславаў, стоячы на карме, рослы малады селянін толькі ў споднім.

Амаль усе на лайбе, акрамя цаніннікаў, паўскоквалі [redacted] месцаў. Уладзік («і праўда, эксцэнтрык!») не вытрымаў і гучна свіснуў. [redacted] каюткі тут жа высунуўся сівы падарожны з белаю, як пазоленай, бародкаю. Міхайла, убачыўшы яго, забегаў каля самага борта, расхвалявана заікаў, замахаў падарожнаму рукамі. Той, пазнаўшы Міхайлу, таксама падняўся на ногі, яшчэ больш здзіўляючы ўсіх сваёй экзатычнай вопраткаю: з-пад шырокай, але кароценькай куртачкі вытыркаліся звычайная шарачковая сарочка і сіняя камізэлька.

— Да Пінску, Міхайла!

Човен з каюткаю імкліва аддаляўся, але турыст усё яшчэ нешта крычаў, склаўшы гняздзечкам далоні.

— Эх, бра... Не псуй мазгоў! Буду... Буду ў Пінску... Эх, бра! — Міхайла ўсё тупаў па лайбе, не ведаючы, што рабіць. Потым рэзка спыніўся і распраміўся. Шумна ўцягнуў у грудзі паветра, пачакаў імгненне, закрыўшы вочы, і раптам узяў нечакана высокім гнуткім голасам:

На зялёным дубочку
Сядзіць чорны арол...

Ён раскінуў рукі з вялізнымі, што кавуны, плямістымі кулакамі і праз хвіліну, зноў уцягнуўшы ў

сябе паветра, павёў песню на той жа звонкай урачыстай вышыні:

Буйну галовушку разбіваючы,
Кроў гарачу разліваючы,
Распусціў крылле сей па сіню мору,
Параняў пер'е па чыстаму полю...

І тут жа замоўк і схапіўся рукамі за горла, нібыта сціскаючы ў ім горкі і цвёрды камяк.

— Ну, Міхайла! Ну, як нябёсы расхіліўшы! Ат-т цябе! — «васпане ідэаліст» грымеў на ўсю лайбу, моцна ляпаючы па плячы абвялага пасля песні, прыгорбленага Міхайлу. І толькі праз колькі хвілін, супакоіўшыся, запытаў: — Што гэта за матылёчак плыў?

— Матылёчак... — Міхайла гучна выдыхнуў. — Прахвесар, бра... І вельмі вучаны чалавек...

— Хлусі! Табе — што кафлю зляпіць! — уеў Міхайлу Костусь. Сядзеў цяпер на кажусе, ціснучыся плячом да прыціхлай ад стомленасці і думак Алаізы.

— Кафлю зляпіць... З яе кашы не зварыш. А ён — з самога Пецярбурга штогод прыязджае... Моцна вучаны чалавек. Вазіў яго паўсюль, бра. А я скажу, хоць і разумны — а дурны... Псуе мазгі! Убачыць што — малюе. Песенькі запісвае... бра.

— Значыць, да святой справы далучаецца чалавек, — шчоўкнуў пальцамі «васпане ідэаліст». — У народ ідзе. А хто ў народ ідзе, той скарбы знойдзе.

— Э, бра, не псуй мазгоў! — па-заечаму бліснуў верхнімі зубамі Міхайла. — Не скажу, каб ён дзе тыя скарбы знайшоў.

— Сляпец ты! — Ядлоўцавыя бровы «васпана ідэаліста» пагардліва тарганuліся. — А сляпец таму, што не ведаеш: чым болей свайго агню духоўнага, гарэння душы сваёй людзям аддаеш, тым большы скарб абрэтаеш...

Плысці заставалася добрую гадзіну. Рака, пабітая частымі вострымі вірамі, пачала вузець, як падцягнутая за нябачную пупавіну да нізкага цёмнага неба.

Звужаўся, шарэў і дзень. Шурпатыя і колкія, што парваныя па краях, ветрыкі праляталі праз усю лайбу, потым уцягваліся ў вароначкі за бартамі — з цмоканнем і глухім прысвістам.

Алаізе стала зябка. Адчуўшы гэта, Костусь лагодна прыціснуўся вуснамі да яе гладка прычасаных валасоў. Але не выдыхнуў ні слова, быццам усё, што хацеў ска-

зацы ёй яшчэ на беразе ў Пінску, выбілася цяпер з ягонай душы, выкацілася, утапілася ў гэтай бясконцай соннай рацэ.

Прыбярэжныя вёсачкі з невялікімі, рыхтык пчаліныя вуллі, хатамі пад саломаю і нездаровымі садамі адзываліся да ракі толькі здаўлена-глухім сабачым брэхам. Ні гармоніка, ні пастушковай дудкі.

Алаіза зірнула ўлева. Укруціўшыся ў посцілку, Уладзік апусціў сваю жоўтую галаву на грудзі і нарэшце заснуў. Прыткнуўся плячом да «васпана ідэаліста». Бачыла, як у сне смешна торгаецца яго прыпухлая ніжняя губа.

Што гэта ён плёў пра катрынку? Ага... Мова для яго — катрынка, а каўбаса ўсім аднолькава пахне... «Недамысльная экзальтацыя», як кажа «васпане ідэаліст»...

Катрынкаю, мусібыць, стала ўсё во гэтае наша жыццё. Чым бы яго ні абклеілі. А слова... Яно ўнутры жыцця. Здаецца, і колер мае, і пах, і сваё гучанне... А ўсё роўна не відна кожнаму. Вымаўляецца, але не чутна ўсім аднолькава. Хто толькі і ведае скрыпучае катрынкавае мадленне. А нехта... О, ёсць жа, ёсць жа на свеце людзі. Тыя, хто пасцігае, як кажа «васпане ідэаліст», таямніцу народнай душы, каб яе, душу зачараваную, выняць з будзённай скрыні, разам са словам, і даць крылы...

Мільганула яшчэ адна вёсачка-вулічанка. Малараслы і худы, як дзіця, рыбак выбіраў на бераг пустыя сеці. Разагнуўся і доўга, сумна ўзіраўся ў людзей на лайбе.

Кінуўшы на плечы Алаізе свой пінжачок, Костусь сышоў на бераг, у бурлацкую вупраж.

Без яго Алаіза адчула сябе яшчэ больш адзінокай і тады нагнулася і адкрыла чамаданчык. Пакруціла ў руках вялікі ружовы пернік, паклала назад. Потым, пакорпаўшыся трохі, выцягнула з-пад акуратна складзенага жакеціка некалькі канвертаў. Выняла з самага верхняга ліст паперы, разгарнула, прабегла вачамі па першых радках напісанага. Міжволі ўсміхнулася. Гэта былі лісты ад яе былой настаўніцы Веры Тацішчавай. З самога Пецярбурга. Не маючы лепшага занятку, пачала чытаць іх нанова, ведаючы многія мясціны на памяць. Спахапіўшыся, азірнулася, але ніхто за ёй не сачыў.

«...Лізанька, дарагая! Я, вядома, з самага пачатку не спадзявалася, што буду. тут, у Пецярбургу, як у Хрыста за пазухай. Але ж пакуль знайшлі са Станяю хоць які прытулак для нашай школкі, ледзь ногі не выцягнулі. Дзякуй Богу, памог Пётр Францавіч Лесгафт. Чалавек незвычайнай эрудыцыі і высокай душы. Неяк Станя прыпазнілася на заняткі, то ён заняў нашых дзетак. А потым, з вінаватым выглядам, што мне хоць скрозь зямлю праваліся, пачаў яшчэ і апраўдвацца: «Нічога, прабачце ўжо, мілая Вера, я ўстаю ранепька... А дзяцей, следавацельна так, нельга пакідаць без старэйшых».

Алаіза падняла галаву, азірнулася, дастаючы позіркам да супрацьлеглага берага. Лайба быццам і не рухалася цяпер, застыла, як нанізаная на нябачны стрыжань паміж сталёвым небам і рачным дном. Глянула ўніз, на бераг. Костусь з усяе сілы налягаў на лямкі. Ніхто пакуль не спяшаўся яго замяніць.

«Як я рада, Лізанька, што ты ўсё ж дасталася да нашага настаўніцкага хлеба і нават пайшла на курсы Веры Міхайлаўны Прозаравай. Шкада, што не ведаю яе, хоць і жыву ў Вільні...»

Алаіза ўспыхнула: усё ж забыла напісаць Тацішчавай, што курсы яшчэ не скончыла. Яно — вядома. Усё было б добра, калі б не Марысіна смерць.

«...Як гэта сумна, Лізанька, што мой прыезд у Пецярбург супаў з вялікім няшчасцем. Памёр Пётр Аляксеевіч Афанасьеў. У цягніку, ад грудной жабы... І знаеш, Лізанька, мне тады, у міг слабасці, здалося, што нярэдка чалавек стараецца пры жыцці не толькі дзеля зямных почасцей, але і з таемнай думкай: а як жа потым будуць хаваць? І дзе? І ці пышна? Не думае, што вочы ягоныя ўсяго гэтага не ўбачаць... Пасмейся з майго цяперашняга стану душы, але хіба ж не маем мы, жанчыны, права на салодкія хвіліны глупства і слабасці? Як кажа адзін з тургенеўскіх герояў, «чувствительные излияния», як саладкаваты корань: пасмокчаш яго і спачатку здасца, што няблага. А потым у роце вельмі ж дрэнна. Вось так і з маім рэзанёрствам.

З паніхіды вярнулася толькі вечарам. Акно было адчынена, і я апусцілася на калені і доўга і горача малілася. І за Афанасьева, і за тваю сястру Марысю, і за спакой душы адной з маіх самых здольных вучаніц, якая за тыдзень згарэла на Васільеўскім... Як шалё-

ная, паляцела ў цацачны магазін на Ліцейным, купіла няўклюдную чырвоную карову, каб назаўтра падараваць яе якой-небудзь дзяўчынцы са свайго класа...»

У яе, Лізінай, школе была толькі адна дзяўчынка Лёдзя, дачка салдаткі Леаніды. І, як на тое, у мінулым годзе таксама памерла. Перад самымі Калядамі. Мучылася, але маўчала, быццам дагэтуль ужо ўсё выкрычала. Алаіза разам з Леанідай прасядзелі каля ложка ўсю ноч, але дзяўчынка маўчала, ні на хвіліну не зводзячы чыстых, без кропелькі сну, вачэй. Толькі хрыпела грудзьмі. Ці жалілася, ці чакала дапамогі, ці прасіла аб чым? Леаніда раптам кранула Алаізу за локаць: «Адыдзем. Мы ёй мяшаем. Бачыш, як трудненька памірае...» І праўда. Як толькі яны адступіліся, малая стала заціхаць і праз хвілін пяць кончылася.

«О працаўніца невядомага заўтра! О пчала залатая, што крадзе мядовую слодыч ва ўсіх кветак зямлі! О праля, што сукае сівую нітку часу ў няўтомных пальцах! О смерць!..»

Здаецца, гэта з Канапніцкай. Так-так, з яе апавядання...

Аднаго не разумее і цяпер Алаіза, навошта ёй, той малалетцы Лёдзі з яе школкі, выпала цярпець пакуты нечалавечыя?! Гэта яны, дарослыя, у грахах жыццё жывуць, і само жыццё, здаецца, суцэльны грэх, пачварная магма слёз, хлусні і пахатлівага поту. А яшчэ солі, якая ніколі не сатрэцца ні з павек, ні з чала беднага гарапашца. Адзін лайбу цягне, як мізэрны слімак, другі плыве на ёй, вырываючы душу з д'ябальскай цемры, і ўсё роўна задыхаецца, труціцца гарэлачным перагарам, трэці марна развыжае, як і да чаго лепей прыкласці свае сілы, каб палепшыць гэтае жахлівае жыццё. Лёдзя... Маленькая кволая Лёдзя. Як часта яна ўспамінаецца.

Напэўна, усе вось такія памерлыя малалеткі, а можа, і дарослыя, і старыя, кожны раз, пры згадванні пра іх жывымі, як бы ўваскрасаюць нанова. Няўжо і праўда яны вяртаюцца на зямлю, дзякуючы нашай памяці, каб потым яшчэ раз перажыць страшныя пакуты згасання?! Лёдзя... Маленькая мая пакутніца. «Ціпяху, ляпяху, сем вярстоў на маху, цераз бор ды ў чапляў двор... — Як маешся, Чапля?»

Пасля Лёдзінай смерці ў школе не засталося ніводнай дзяўчынкі, і Чапляю стаў тоненькі, як

сярнічынка, кавалёў Мікіта. Над яго вострымі плячамі смешна жаўцела вушастая галава. Мікіта ажно згінаўся, па-птушынаму рэзка дыбаючы сярод хаты.

— Здароў, Журавель.

— Ці пойдзеш, Чапля, за мяне замуж?

— Табе ногі доўгі, пер'е каротка: дужа ты брыдкі... Ідзі сабе, дзе быў!

Шорнікаў разумнік Грышка выразаў з дубца доўгую дзюбу, пафарбаваў яе ў чырвоны колер і прывязаў вяровачкаю да лоба. Дзюба ўсё ж з'ехала ўніз, цюкнуўшы Грышку па носе. Ад крыўды вочы яго наліліся слязьмі. Але ніхто не засмяяўся, хоць у хату набілася людзей з усіх навакольных вёсачак. Перад канцом спектакля зрабілася так горача, што хоць ты вынесі дзверы. Усё было так добра...

Чамусьці менавіта тады, пад час яе настаўнічання, пачаў часта ўспамінацца Костусь, і сэрца сціскалася ад дзіўнага пачуцця любасці. Гэта не было моцнае каханне... Але струнка тая звінела ў яе душы пастаянна. Ці, можа, так і нараджаецца сапраўднае?!

Плёскат рачных хваляў супакойваў і закалыхваў, размываючы вернутыя памяццю светлыя, мілыя аблічча. Дзіцячыя галасы на імгненне прыглушыліся, пэўна, і ад нізавога сырога ветрыку, і ад незнаёмага дасюль шуму, голасу бясконцага Часу, што нечакана ўварваўся да яе на гэтую чорную лайбу.

...Усё ішло так добра! І раптам, у канцы вечара, старастаў пераростак, крыва ўсміхнуўшыся, адмовіўся ад яе, Алаізінага, пачастунку — жменькі ледзяшоў.

— А нашто мы так па-мужыцку дзейкаем, пані настаўніца? Татка казаў, што так нельга і ўсё гэта глупства.

Не фанабэрысты дурнік, падвучаны бацькам, таргануў тады яе за сэрца. А яны, самі гледачы, што заўсміхаліся вінавата-спалохана, засоўвалі рукамі па кішэнях, як шукаючы нечага («Ці не ўчарашняга дня?» — так хацелася крыкнуць). Нібыта ўсім ім стала сорамна і за саміх сябе, і за гэту казачку, што здалася раптам нецікавай і дураватай, і нават за яе, Алаізу, якая разам з імі ж і іхнімі дзецьмі вось толькі нядаўна пачала разумець нешта важнае ў гэтым глухім морачным беспрасвецці. Выручыў кавалёў Мікіта: хмыкнуў і так залівіста рассмяяўся, што ўсе ўмэнт як атрэсліся ад бруду. Заўсміхаліся, пераглядваючыся.

«Спі, хто можа, я спаць не магу...» Дзе гэта чытала? Пэўна ж, у лісце мілай Верачкі. Дзе ж яшчэ?!

«...Як знамянальна, што мы ўступілі ў апошні год гэтага веку. Восьмага лютага — дзень заснавання універсітэта. Усе сабраліся на вечарынку ў зале Пятроўскага камерцыйнага вучылішча. Потым уся студэнцкая хваля вырвалася на гарадскія вуліцы. Цэлыя атрады конных і пешых гарадавых сталі на шляху дэманстрантаў да самага Дварцовага моста, але дзе там спыніш гэтую маладую паводку?! Эскадрон коннай паліцыі ўсё ж дагнаў студэнтаў каля Акадэміі мастацтваў, а каля Румянцаўскага сквера пачаў вырабляць такое штукарства сваімі нагайкамі, што гэта ўжо нагадвала звычайнае пабоішча.

Не ведаю, Ліза, да чаго прывядзе гэтая страшная нянавісць адных людзей да другіх, але ўпэўнена, што і жанчыны не могуць стаяць убаку.

Мне трапіла ў рукі адозва камітэта Бястужаўскіх курсаў. Пішуць, што ў нашым грамадстве і ў высокіх сферах яшчэ многа праціўнікаў жаночай адукацыі. А значыць, палітычныя выступленні зусім недарэчы! Што ж, гэта праўда. Названы камітэт рашуча супроць жаночых выступленняў, маўляў, яны стануць новым аргументам на карысць думкі аб непатрэбнасці для жанчыны вышэйшай адукацыі, жаданай падставай для закрыцця курсаў! Што ж рабіць, Ліза? Схавацца пад парасончык усеагульнай слёзнай дабрачыннасці? Я доўга думала, ці варта шукаць нейкі іншы шлях. Як дзіўна, што ў нашым жыцці амаль побач існуюць вельмі кантрастныя і, на першы погляд, зусім несумяшчальныя рэчы...

Мебліраваныя пакоі ў «Пале-Раяль» на Пушкінскай... Рэстаранчык вунь за вуглом з лакеем-татарынам, прыгожыя барынькі ў капелюшах колеру бэж з тонкай філяравай аблямоўкай. І тут жа — такія гнілыя шэрыя двары, такія хворыя цёмныя твары работніц і дзяцей, такія азвярэлыя тупыя морды паліцэйскіх...

Курсістак, якія прынялі ўдзел у забастоўцы, усё ж выслалі. Шчэпкіна-Купернік напісала верш...»

Алаіза адарвалася ад ліста. Яна ведала ўжо гэты верш на памяць:

Лес рубят оттого, что рано он шумел,
Что шумом радостным своим будил природу,
Что молодой листвой он слишком смело пел
Про солнце ясное, про счастье и свободу...

Нехта з вялікіх сказаў, што ісціна — у дарозе і ніхто яе не спыніць. Але ж дарогі... Яны таксама розныя.

Апусціла павекі. Чула, як па лайбе тупаюць важкімі ботамі, ціха перамаўляюцца. «Счастлив, кто спит, кто про долю свободную в тесной тюрьме видит сны...» А на Басейнай сабяруцца эканамісты. О, як я, Лізанька, хачу паслухаць рэфераты, пасля якіх пачынаюцца такія спрэчкі, што ператрасаецца сусветная гісторыя. Усе спрачаюцца, даводзяць сваё. Ёсць і свае Ласалі, і свае Гегелі. І ўсё ж, Ліза, адчуваю я, што гэта толькі першая хваля-верхаводка.

Кажуць, арыштавалі некалькі студэнтаў-тэхнолагаў, называюць сябе «радзімаведамі», вывучаюць палітычную эканомію...» «Радзімаведы»... Гэта, напэўна, цікава. Цікава ведаць пра свой край. Зрэшты, хіба табе невядома, што ў Свянцянах точаць калаўроты, а ў Лабанарах на Віленшчыне плятуць кашолкі для ракаў? У Ганушышках па хатах шастаюць хадакі і скураты, шыюць кажухі. А на Магілёўшчыне робяць «дубы», такія вялікія лодкі... Недзе пад Лунінцом з лыка плятуць вярэнькі, хатулі з дзвюх частак, што складваюцца, як партсігары... А ў Радашковічах, калі ласка, выраб-ляюць веялкі, малатарні і сячкарні. Дык чаго ж табе яшчэ? Хіба не ведаеш, што паўсюль на свеце, па ўсіх кутках адно і тое ж?! Адзін гне, а другі гнецца... Адзін малоціць, другі падстаўляе сваю спіну замест тока... Адзін разводзіць пчол, а другі п'е мёд. А можа быць, усё і не так у жыцці. Ты, Вера Тацішчава, сама напісала, што самае галоўнае для жанчыны — гэта быць ёю. Нагадала, што Гейнэ пісаў, што хацеў бы знайсці на самай высокай вяршыні магутны дуб, вырваць яго, умакнуць вяршыняй у кратэр вулкана і напісаць ім на небе вогненнае прызнанне: «Ich liebe dich!» — Я кахаю цябе!

Навошта таіцца, хавацца ад сябе самой? Імчалася ж у гэты кірмашовы Пінск, як на пажар, атрымаўшы той ліст ад Костуся. Ich liebe dich!

О, не, гэта ж хіба толькі ў казцы нянькі Ягасі можна так проста вярнуцца ў сваё рамантычнае маленства. Яна ведае, яна цяпер зразумела, добра зразумела, што паміж тымі далёкімі дзіцячымі прываблівымі лятункамі і яе цяперашнімі адчуваннямі памяць яшчэ не паспела ўзвесці крышталёвы масток.

А Костусь усё цягне і цягне гэтую праклятую драўляную рапуху па знямелай рацэ і, мабыць, такcама думае аб тым жа...

Сьвяты Езус, як ён глядзеў на яе там, на тым разрытым кірмашовым беразе, як ён паціхеньку абдымаў яе ўжо на лайбе, як дрогка-вінавата маўчаў усю дарогу, баючыся сказаць нешта такое, што ёй не спадабаецца.

Я люблю цябе...

Як гэта трудна, як балюча ўявіць тое, аб чым напісала Вера Тацішчава. «По подозрению в намерении» арыштавалі курсістку Бястужаўскіх курсаў Марыю Ветраву. Абліла сябе газай і згарэла ў Петрапаўлаўцы. А можа, яе спалілі? Жахлівы час, жахлівыя людзі.

Не-не! Яна прачнулася ўжо... Толькі вось палын, смярдзючы, як газа, прарос праз усю яе і, здаецца, не дае дыхаць.

Расплюшчыла вочы. «Васпане ідэаліст» падняў, як мула, далоні і прахрыпеў прапітым голасам:

> Ступай же ввысь, где обитают боги,
> Путь на Парнас открыт перед тобой!

Уздыхнуў, прыжмурыўшыся ці то ад вячэрняга сляпучага сонца, ці то ад насцярожанай увагі, з якой глядзеў цяпер на Алаізу:

— Ну, і куды ж вы спяшаецеся, мілая рамантычка? У храм Мельпаменавай веры?

Усміхнулася:

— Спачатку — дахаты. Хоць бы на дзянёк. А потым ужо назад у Вільню.

Пачынала цямнець, і берагі па-вячэрняму прыціхлай Піны былі амаль нябачныя, быццам патанулі, апусціліся пад густую набухлую ваду.

Ich liebe dich! Зашапталі, забіліся ў вірах каля самых бартоў цёмныя хвалі. Я кахаю цябе... Яна прыслухалася.

Шум... Не, зусім не шум, а тонкі-тонкі перазвон...

Гэта паклікала да сябе яшчэ незнаёмая, але блізкая, самая родная ёй на гэтай зямлі душа і, не дачакаўшыся адказу, узляцела ўверх, затрапятала крыламі, забілася паміж далёкім ужо днём і хуткай ноччу. Чыя гэта была душа? Чыя яна, чыя... Хто ведае?

## 4

Было шаргаценне колаў і парыпванне вазка, быў пранізлівы вецер, які рыўкамі штурхаў яе ў плечы, прабіваўся за каўнерык і пускаў па цёплых плячах казытлівыя халодныя шнурочкі. Так зябка і добра.

І не падумала б, што ад'езд у Вільню зацягнецца. Моцна прастудзілася і праляжала амаль месяц. Нарэшце сабралася. Вырашыла толькі па дарозе заехаць у Лянтварыс. Да цёткі. Пакідала ў яе на лета цёплую апратку. Трэба было ўжо забіраць. Сеўшы ў вагон, адразу ж уткнулася носам у акно.

Сцяжынка ўздоўж чыгункі, на глiністым чырванаватым насыпе, абрасла густым пажухлым дзядоўнікам. Відаць, па ёй мала хадзілі. З пагорыстых лабацін вытыркаліся калючыя рожкі ржавага дроту, за якія начаплялася старых газецін і матузкоў. Пад сонцам блішчалі круглыя, што савіныя вочы, донцы перавернутых ветрам бляшанак.

Была ўжо восень.

Доўгі і вузкі вагон, асветлены толькі адным агаркам, троссяя як у ліхаманцы, скрыгацеў, стукаў коламі.

Насупраць Алаізы сядзеў хударлявы юнак у башлыку паверх гімназічнай шапкі — сарамліва апускаў вочы, нешта хутка-хутка, ціхенька шаптаў, як гаварыў пацеры, і сутаргава пастукваў сябе кулаком па калене.

Праз бруднае, задымленае і запыленае акно бачыла маладыя хвойнічкі, высокія пагоркі жаўцелі ржышчам, у рэдкіх раўчуках і ямінах блізка насыпу бліскала чорная вада. З тамбура ў вагончык раз-пораз урывалася шэрая гарачая пара, вільготнячы Алаізе твар і рукі.

Яна трымалася прама, баючыся налегчы плячом на старую, што сядзела побач.

— Аднаго разу вёз гаспадар збожжа да млына і рассыпаў па дарозе жменьку...

Старая прыціскала да сябе дзяўчынку гадоў пяці, абматаную з ног да галавы вялізнай кураўкай.

— Жменьку? — галасок малой быў прастуджаны. — Такую, як у мяне, бабо?

— Не, як у мяне, большую.

— Пакажы.

— От, крапіўка! Не перабівай. Ну, дык угледзелі гэта галубы дый давай кляваць. А пявун прыбег, галубоў разагнаў і сам пачаў дзюбаць...

Студэнт насупраць Алаізы зашаптаў свае пацеры яшчэ хутчэй, мыляючы тонкімі вуснамі. Дзяўчынка запытала гучна:

— І ўсё чыста падзюбаў?

— Не, дзеткі, яшчэ трошкі аставалася. То галубы дужа зазлавалі дый кажуць: «Мы табе шальмоўства такога не даруемо, паскардзімося каму трэба...»

— А каму трэба? І паскардзіліся?

Студэнт ляпнуў сябе даланёю па вострым калене і падняўся, ледзь не пабег па праходзе ў тамбур.

— Паскардзіліся. Паляцелі да каршука. А таму была на руку такая скарга. Ён і расправіўся з усімі, спачатку з'еў пеўня, а после закусіў галубамі...

Алаіза была амаль аглушана гэтым вагонным сутоннем з рыпучым глухаватым голасам старой, з таропкім перастукваннем вагонных колаў і цьмяным святлом агарка. Здалося цяпер, што вось так яна будзе калыхацца сонна і прыслухвацца да чужых галасоў усё сваё жыццё і што гэтай нуднай дарозе ўжо не будзе канца.

— Лянтварыс! Каму Лянтварыс? Лянтварыс...

Праз вагон ужо ішоў праваднік, нізка нахіліўшы галаву і асвятляючы праход перад сабою маленькім ліхтарыкам. Алаіза адразу ж паднялася і таропка пайшла следам за ім, цягнучы вялікі кошык з зімовым абуткам і ядой.

...Як на тое ліха, цётку дома не застала. Памацаўшы на дзвярах замок, сышла з ганка, паставіла на зямлю свой важкі кошык. Разгубілася, праклінаючы ў душы нечаканую няўдачу, і тут жа адчула, што пачынае мерзнуць. Асабліва ў ногі.

Незнаёмы малады мужчына, які праводзіў яе ад станцыі да цётчынага дома — было па дарозе, — раптам вярнуўся, падняў з зямлі яе кошык і ціха, нават крыху вінавата, прабубніў: «Хадземце да нас, пераначуеце. Яна, можа, цётка ваша, і заўтра не прыедзе. Успомніў я. Учора яшчэ з'ехаўшы да Вільні. Успомніў, то і вярнуўся...»

Нават не паспеўшы ўзрадавацца і падзякаваць яму, скранулася з месца і паслухмяна пайшла ў ледзь бачныя ў цемры вароцечкі цётчынага двара.

Хата, да якой яны завярнулі, была нізкаватая, накрытая гонтаю. Два акны жоўта свяціліся ў ноч.

Замарудзілі ў сенцах.

Нарэшце бразнула клямка, і яны — спачатку гаспадар, потым Алаіза — уступілі ў невялікі пакой-залу з печаю з правага боку і сталом — злева. Да сцяны пад акном, каля стала, прыляпілася неширокая адгляицаваная лава. З другога краю стаялі два старыя раскірэчаныя крэслы. За печаю віднелася невысокая кніжная шафа і акуратна засцелены ложак.

Гаспадыня здзіўлена кальнула Алаізу маладымі цёмнымі вачамі, але нічога не сказала, а толькі павіталася ціха і адвярнулася да печы. Яе шырокія плечы былі распрамленыя, і ад гэтага ўся жаночая пастава выдавала па-асабліваму зграбнай. Зачасаныя ўверх русыя валасы былі сабраны ў маленькую куксу. Выцягнула з печы чыгунок з вадою і паклікала мужа мыцца, наліўшы вады ў вялікі медны таз. Потым паліла з кубка і Алаізе. На рукі.

Алаіза падзякавала і з прыемнасцю выцерлася халаднаватым шурпатым ручніком. Глыбока ўдыхнуўшы паветра, адчула, як закружылася стомленая дарогаю галава, як захацелася прылегчы. Ці хоць сесці на лаву. Напэўна, гаспадыня заўважыла ў Алаізе гэтую ўтому, бо рашуча, ледзь не за руку падвяла яе да стала, пасярод якога стаяла лямпа. Паказала рукою на лаву. Потым, запаліўшы лучыну ў гарлачы, выйшла ў сенцы і праз хвіліну вярнулася з галоўкаю квашанай капусты ў паўміску. На стол паставіла яшчэ і разваранную сопкую бульбу, палітую канапляным алеем.

У другім пакойчыку — ён аддзяляўся ад залы дзвярамі, завешанымі стракатай дзяругаю, — раптам закашляла дзіця.

— Бухае, як у бочку, — упершыню за ўвесь час загаварыла гаспадыня. Ціха і стрымана, як бы прасіла ў госці прабачэння. — Другі тыдзень мокранькі, як шчупачок... Ніхто ж удзень не бачыць. А прыйдзеш з работы — ён і гуляе сабе адзін голенькі...

Нават за сталом Алаізу ні аб чым лішне не распытвалі. Павячэраўшы, гаспадыня адразу ж павяла яе ў суседні пакой, дзе на тапчане каля самага, адзінага тут, акна пад посцілкаю і вялізным кажухом спаў хлопчык гадоў пяці. Недалёка ад ложка на падлозе ўжо ляжаў доўгі і круглы, як кішка, сяннік, прыкрыты тонкаю коўдраю. Нібыта падрыхтаваны загадзя.

Дом заціхаў.

Хлопчык раптам паварушыўся на ложку, ледзь чутна паклікаў маці. Падышоўшы да тапчана, прысела на край. Хлопчык, відно, прыняў яе за маці, папрасіў казку.

— Пра птушачак, добра? — Не накінула нічога на плечы і пачала зябнуць. — Птушачкі вельмі ахайныя грамадзяне, штодня купаюцца ў пясочку, знаеш... Усё пер'ечка на сабе вычысцяць. І гняздо колькі разоў у дзень выметуць...

— У вырай ляцяць... Праўда?

— То паслухай... Аднаго разу салавейка, як у вырай ляцеў, упаў на спячага марака і ўссеўся на ім адпачыць. Марак абудзіўся і пакарміў птушку, прыгарнуў... — Памаўчала, слухаючы ахрыплае частае дыханне малога. Уздыхнула. — І ў нас, у людзей, бывае такое... Салавейка асвойтаўся і некалькі дзён ехаў на параходзе. Добра... А толькі адпачыў і спасцярог, што параход не ў тую старонку ідзе, куды салавейку трэба. Дык узняўся і паляцеў. А вось ці даляцеў да свае мэты — хто знае?

Нарэшце Алаіза вярнулася да свайго калючага сенніка, скруцілася пад халоднаю коўдрай.

...Ужо каторы раз — гэта і ў сне яна помніла дакладна — убачыўся хлопчык з мокрым ліпкім чубікам. Ён выслізнуў з-пад коўдры, падняў над сабою рукі... Напружыла зрок: хлопчык трымаў у руках вялікую белую птушку. І ад яе, здавалася, палова пакоя залілася сінім, не-не, нейкім шаравата-серабрыстым святлом. Птушка раптам выпырхнула з хлопчыкавых далоняў і з усяго лёту ўдарылася грудзьмі ў цьмяную шыбіну-абалонку. Закрычала і застагнала, як хворае дзіця...

Прачнулася. У зале чамусьці была запалена лямпа, і адтуль праз дзірачку ў дзяружцы ў бакоўку прабіўся жоўты праменьчык. Як наўмысна, пацэліў ёй проста ў вочы. Адвярнулася.

Успомніла сон і тую птушку, што білася аб шыбіну. І тады сапраўды пачула, што нехта ціха стукае. Але не ў акно, а ў дзверы.

Гаспадар пайшоў адчыняць, а яна зноў зашалясцела сеннікам, павярнуўшыся на другі бок, заплюшчыла вочы. Але сарваны сон не ішоў.

Госць быў адзін. Мужчына. Алаіза добра чула, як гаспадар шэптам запрасіў яго за стол. Забразгалі лыжкі, міскі, кубкі. («Ці не вячэраюць сярэднячы?»)

Гаварылі спачатку ціха. Зрэшты, яна і не прыслухоўвалася, проста ляжала на сваім жорсткім сенніку і пакутавала. Госць, відно, быў малады, бо называў гаспадара Іванам Кірылавічам. Пакашліваў. Іван Кірылавіч стараўся гаварыць павольней і цішэй, як бы стрымліваючы тым самым і госця.

— ...было б смешна спадзявацца на сумленне фабрыканта...

— А яны? Адваявалі толькі медзякі. Ці варта было пачынаць?!

— Варта. Толькі каб не пераплавіліся ў срэбранікі... тыя медзякі.

— Ты, Сцяпан, лішняе не гні. Гродзенскія тытуннікі паказалі іншае...

— Віцебскія сацыял-дэмакраты... Не, праграмы пакуль няма! Пачакаем новы з'езд...

— Ён арыштаваны...

Святло ад лямпы ўпарта прасочвалася праз тонкую дзяружку.

Чула, як гаспадыня сонна забубнела на мужчын, успомніла — толькі цяпер! — што ў іх начуе чужы чалавек. Сцяпан занепакоіўся («Чаму не папярэдзіла?» — «І трэба ж, як выветрылася з галавы»), падышоў да дзвярэй і хуткім рухам адхіліў дзяружку. Алаіза нават не паспела заплюшчыць вочы.

У мутнаватым лямпавым святле бародка начнога госця, Сцяпана, была амаль пуховай. Такімі ж мяккімі здаваліся і высока зачасаныя валасы. Твару не разгледзела.

Пастаяўшы хвіліну, Сцяпан моўчкі адпусціў дзяружку, і ў бакоўцы зноў стала цёмна.

«Убачыў — і добра. Цяпер толькі адно... Заснуць!»

Моцна стуліла павекі.

Госць у зале пачаў збірацца. Зашалясцела папера, нешта мякка гупнулася на стол.

— Асцярожней... — гэта шапнуў гаспадар.

Пачула, як зашаргацела каляная скуранка. Куды гэта, на ноч гледзячы?

...Тая вялікая блакітная птушка ўсё білася і білася грудзьмі ў шыбіну, і на падаконнік з яе пасечаных крылаў часта закапала густая, ярка-бурачковая кроў.

(«Вам што, залажыла? Выб'ем!» — грубы незнаёмы мужчынскі голас. Але, здаецца, не ў хаце.)

Птушка павярнула ад акна галаву, захрыпела, і Алаіза з жахам убачыла, што ў яе — чалавечы, мужчынскі твар. З мяккай пуховай бародкаю і высока зачасанымі валасамі.

— Ды зараз, толькі апрануся! — гэта ўжо спалоханы голас гаспадара.

Алаіза нехаця паварушылася на гарачым, як засланым жарам, сенніку, адкрыла і адразу ж заплюшчыла вочы.

Была раніца. Яшчэ не светлая, а толькі сіняватая.

— Куды гэта дзецъ? — роспачны голас гаспадыні каля самых дзвярэй у бакоўку.

Зноў забарабанілі кулакамі ў дзверы. Гучна і патрабавальна закрычалі.

Алаіза падхапілася на ногі, замітусілася, не помнячы, куды засунула панчохі. І дзе тая сукенка. Напэўна, гаспадыня занесла ў залу, павесіла ў шафу...

Рэзка калыхнулася дзяружка — распатланая, белая, што мел, гаспадыня, з пачкам лістовак у руках, бясцямна аббегла позіркам пустыя куткі бакоўкі і, не прыдумаўшы нічога, паспешліва засунула лістоўкі пад сынаву падушку.

(«Той жа не спіць, бачыць усё... Малы ж яшчэ!»)

Дзверы адчыняў сам Іван Кірылавіч, гучна вітаў некага, дзівячыся, чаму так рана.

Гаспадыня тут жа выскачыла з бакоўкі, і Алаіза бездапаможна азірнулася і апусціла рукі. Галава пачала запаўняцца гарачкаю — важкай і цвёрдай.

Кінулася да тапчана і выхапіла з-пад падушкі той пачак («Не такі і важкі. Тонкі. Гэта добра!»), засунула яго за пазуху, пад споднюю кужэльную сарочку, забраную ў такую ж тонкую спадніцу. Прылегла на край тапчана пад кажух, павярнуўшыся тварам да маўклівага, здзіўленага хлопчыка з вялізнымі шэрымі вачамі, шапнула: «Ты маўчы толькі, добра? Маўчы!» Той кіўнуў згодна, кашлянуў, але ціха, больш па прывычцы.

І адразу ж у дзвярным праёме ўзнікла фігура паліцэйскага.

Гэта быў яшчэ малады ротмістр, з прыгожымі, як у жанчыны, але нейкімі нерухомымі вачамі.

Адкінуў назад галаву, паказаў рукою на сяннік, запытаўшы, хто тут начаваў. Адказала гаспадыня, якая стаяла ў дзвярах, за яго спінаю. Здзіўлена падняў

бровы і часта, як блазнуючы, заміргаў сваімі пушыстымі чорнымі вейкамі, нібы толькі і ўбачыў Алаізу.

— Вы замерзлі і — перабраліся да маладога чалавека?

— Гэта хворае дзіця.

Яшчэ раз абвёў вачамі маленькую бакоўку і раўнадушна, нібыта і не спадзеючыся на адказ, запытаў:

— Дык вы, мая мілая, нікога тут ноччу не бачылі?

— Я сама тут выпадкова. Мушу падзякаваць за гасціннасць. А то невядома...

Пазяхнуў, але Алаіза прыкмеціла, што позірк у яго той самы: востры і запытальны.

— На жаль, не застала дома свае цёткі. Паехала...

— Яна паехала, а вы прыехалі...

— Ага ж! Пешшу было б далекавата! («Прыкусі, дурэпа, язык! Ты што?!») — збавіла тон. — Еду далей вучыцца на курсах Празаравай. Праўда, спазняюся... Хварэла...

Лістоўкі прыліплі да цела. Калі цяпер нават прысесці, то ён адразу ж усё ўбачыць.

«А бадай цябе мяцеліца замяла!» — гэтае, бацькава, успыхвала ў Алаізінай памяці менавіта вось у такіх, здавалася б, безвыходных, сітуацыях. Але яна ўзрадавалася. Няхай сабе і «бадай!», але калі ўспомніла, то, значыць, усё добра кончыцца. Такая прыкмета ёсць.

Дзяружка ў дзвярах зноў закалыхалася, нібыта яе падхапіў і затузаў знізу ранішні скразняк. У бакоўку зірнуў высокі русавалосы хлопец у доўгім чорным пінжаку. Ротмістр кіўнуў яму, маўляў, заходзь, але той, не сказаўшы ні слова, крута павярнуўся назад. Пачуліся таропкія мяккія крокі.

— Андрэй! — Алаіза здзіўлена прыўзнялася на ложку, нават забыла пра лістоўкі. Аднак, глянуўшы на ротмістра, схамянулася і зноў бухнулася на падушку.

«Адвярнуўся хоць бы...»

— Няўжо так спадабаўся?

Не ўцяміла спачатку, пра каго пытае.

— Ды Андрэй, Андрэй гэты!

— Не... Тут іншае. Проста здалося...

— Здалося? А што вам здалося?

— Нічога...

— Зрэшты, гэта не так і важна, — ротмістр мякка хруснуў пальцамі. — Хацеў бы глянуць на вашы дакуменцікі.

За ўвесь гэты час гаспадыня, прысланіўшыся спінаю да сцяны супроць ложка, нават не варухнулася.

Цяпер спалохана глянула на Алаізу, запытала вачамі: дзе яны, тыя вашы паперы? Павольна выйшла ў залу і прынесла Алаізіну сукенку.

Дакументы былі ў кашолцы. Трэба было ўставаць з тапчана, на якім і так ледзь трымалася, і апранацца.

— Прабачце, мне трэба...

Афіцэр павольна апусціў павекі, як падаючы знак, што разумее (маўляў, адзявайцеся, паненка, дазваляю...), лена варухнуў плячамі і пачаў адварочвацца.

Ужо абаперлася на локаць, каб падняцца, але афіцэр рэзка крутнуўся да тапчанчыка, нахіліўся і тузануў да сябе падушку. Злосна, з усяе сілы. Хлопчык, пра якога, здаецца, усе забылі, падскочыў ад нечаканасці, балюча выцяў Алаізу локцем па шчацэ і спалохана крыкнуў. Падушка была вялікая і цяжка зваляная, а таму толькі крыху пасунулася і звесілася з тапчана ўніз.

Алаіза ўжо не магла стрымлівацца, прашыла афіцэра, як ёй здалося, ненавідзячым позіркам, але тут жа... здзіўленая, прыціхла — перад ёю стаяў зусім іншы чалавек. Прынамсі, нешта ў ім змянілася. Бачыла, як задаволена ўсміхаўся, быццам хацеў, каб яна ўспыхнула, страціла над сабою волю — і тады адразу ж змяніўся. Пагардліва перасмыкнуў вуснамі. Не развітаўшыся, павольна пайшоў з бакоўкі.

Каля дзвярэй усё яшчэ стаяла гаспадыня. Пазірала на Алаізу:

— І як вас толькі дзякаваць, паненка?!

— А вось на вакзал правядзіце. Пара... Толькі да цёці зазірну. Можа, прыехала.

## 5

Яна добра запомніла тыя два дні... У Вільні было зімна.

Каля чыгуначнай станцыі спальвалі рыззё, і дым ад вогнішча тонкім чорным вінтом ішоў уверх. «Няйна-

чай, возьмецца на мароз...» Алаіза набліжалася да пераезда, спяшалася.

Ужо два дні яна падмяняла канторшчыцу на кніжным складзе — хворую дачку суседкі. Папрасілі: «Толькі на тыдзень... А то, знаеш...» Згадзілася, хоць заняткі забіралі ўвесь час. Але на складзе абяцалі заплаціць.

Прыходзіла на склад толькі ў другой палове дня, на гадзіны дзве-тры садзілася за тоўстую гандлёвую кніжку. З цяжкасцю, але ўсё ж паціху разбіралася.

Ад гэтага чыгуначнага пераезда да склада — рукой падаць. Можна было б абмінуць вакзал, але ногі самі ішлі туды. Любіла вакзалы. Любіла глядзець на цягнікі. Ездзіць у цягніках. Нават ноччу.

Перад пераездам стаялі, адпачываючы, яшчэ двое — старцы, мужчына і жанчына, — у аднолькава чорных падраных світках, з глыбока нацягнутымі на лоб, завязанымі пад рукамі на спіне хусткамі-абкручанкамі і доўгімі торбамі цераз плячо.

— А былі ў нас такія людзі, — старчыха ад хвалявання ажно панізіла голас, — а жылі яны ў барэ, дык тыя ёжыкаў елі. Але не ўсякіх, а толькі каторыя са свінымі лычамі...

— Рабёначак у чрэві яшчэ не знае, ці родзіцца, — стары нецярпліва стукнуў кійком па рэйцы, — а маці ўжо робіць пялёначак... Так і кожны заўтрашняга глядзіць!

«Нядобра ж глядзеў, старавіна, калі цяпер на каня драўлянага сеў...»

Разложысты кашаль ажно затрос касцістыя і шырокія, што драбіны, грудзі старчыхі.

— А я ж і не брала тых грошай у паповіча, — зарыпела праступджана, жалячыся, пэўна, на нейкае даўняе, але балючае для яе здарэнне. — Богам клянуся... А толькі хіба яны мне, сіраце, павераць? — зноў кашлянула, папярхнулася. — Пацягнулі, кажу, на крывое кола, ды ўсё ж мучылі-мучылі, пыталіся пра тыя грошы. Пакуль адпусцілі, ірады, смалянымі слязьмі залілася. Пайшла сабе на цвінтар, падумала: во лягу на магілку і памру! Ляжала, ляжала... А яно і не паміраецца!

Стары вырваўся наперад, заматляў перад Алаізаю амаль пустою пажмяканаю торбай, спачувальна азірнуўся на задыханую старчыху:

— Гэ! Чаго захацела...
— Мо не на тую магілку лягла?
— Гэ, дурная! Тыя боскія вароты, — ён ткнуў каравым пальцам у неба, — нашымі пірагамі не так хутка і адкрыеш! Заварочвай, баба, аглоблі! Цярпі зямныя пакуты! Я ж некалі, — адкрыў ва ўсмешцы вялізны пусты рот, — у сваім сяле дабрэнныя труны рабіў...
Заўважыўшы недаверлівы позірк старой, пакрыўдзіўся, замуляў губамі.
— Яшчэ як рабіў! На ножках!
— І не бачыла, дальбог, каб труны на ножках былі.
— Ну й што, што не бачыла. Суседу — усё ж, гэта, ён баяўся, што я першы памру і яму не зраблю, — дык такую труну... Як цацачку! Пайшлі на цвінтар месца выбіраць. Добрае выбралі, нічога не скажу. Віднае. На самае гары каля дарогі. Ён жа, сусед, і пітва з сабою ўзяўшы. Да як папразнавалі... Аж магілкі гудзелі! Гэ! А ты кажаш...
— Каб труны ды на ножках? — старая ўсё ніяк не паддавалася і толькі недаверліва сціснула тонкія вусны, як звязвала іх у цвёрды вузельчык.
Алаіза нарэшце абагнала старых і павярнула да вакзала.
(«Падумаўшы, дык і смех і грэх, і не разбярэшся, ці плакаць тут, ці смяяцца. Такое жыццё чалавечае складанае, што з бядою спаць кладзешся, а з радасцю прачынаешся...»)
Да вакзала бясконца рухаліся неспакойныя цёмныя хвалі пасажыраў. Вужакаю паўзлі экіпажы, раз-пораз пераразаючы дарогу концы.
...Памяшканне кніжнага склада было надзіва сырое. Дыханне забіваў густы важкі смурод, быццам па кутах, пад папераю, ляжала цэлая плойма здохлых пацукоў.
На паліцах, а дзе-нідзе і проста на слізкай («Упадзеш, як на тое ліха!») бруднай падлозе ляжалі кнігі. Да сцяны было прыстаўлена некалькі скрынак. Таксама з кнігамі. Паўсюль — раскіданыя клубкі шпагату, абрыўкі абгортачнай паперы, парваныя вокладкі. «Сметнік, а не склад. Ніколі б не падумала, што з кнігамі можна вось так!» Зайшоўшы, павіталася з трыма наведвальнікамі. Але тыя, занятыя сваім, нават не адказалі ёй.

Каля незнаёмага хлопца ў студэнцкай куртцы перашэптваліся, закрываючы насы хустачкамі, дзве прыгожыя дзяўчыны — адну з іх Алаіза пазнала адразу ж: дачка гаспадара ў вышытых шэрым шоўкам накідках і нешырокіх аксамітных капялюшыках. З маленькімі лайкавымі сумачкамі на ланцужках.

— Не-не, што ні кажыце, — студэнт, напэўна, доўжыў раней пачатую гаворку, — але мы спачатку начытваемся кніг да ачмурэння, бегаем па розных музеях і выстаўках, а ўжо затым пачынаем і самі жыць, стараемся ўрэшце зразумець і спасцігнуць гэтае самае рэальнае жыццё.

— Колькі разоў я лавіла сябе на думцы, — загаварыла якраз дачка гаспадара склада, — што не карціны нагадваюць мне жывую прыроду і жыццё, а якраз наадварот... Рэальнае жыццё і жывая прырода нагадваюць мне нейчыя малюнкі... Проста фантастыка!

— Ну, што ты, мілая, — запярэчыла ёй сяброўка, але даволі зласліва, фанабэрыста, — ты перабольшваеш... Не трэба меркаваць аб уласных пачуццях так катэгарычна і, я сказала б, аднабокава...

— А чаму б і не аднабокава? Зрэшты, чаму б і праўда не аднабокава? — Студэнт ужо накіраваўся да выхаду. — Давайце пагодзімся з тым, што лепей усё ж глядзець на жыццё з аднаго боку, з боку ўласнай, а значыць, і ўсеагульнай карысці. Я, між іншым...

Алаіза ўжо стала зацікаўлена прыслухоўвацца да гаворкі, але студэнт нечакана замоўк, быццам папярхнуўся. Потым незадаволена і рэзка, бо, відно, звяртаўся да некага чужога і непажаданага тут, павысіў голас:

— Чым абавязаны?

Дзіўна, але Алаіза нават не пачула, што на склад яшчэ нехта зайшоў. Проста слыхам была настроена на іншае.

— Менавіта вы, пан студэнт, нічым. Аднак пакуль што застаньцеся тут. Магчыма, спатрэбіцеся.

(«Жандар! І, пэўна ж, афіцэр, калі так смела паводзіць сябе».)

Задумалася на хвіліну. Голас афіцэра, гэты ягоны тон, даволі самаўпэўнены і грэблівы, здаўся ёй вельмі знаёмым. Галавы, аднак, не падняла, не азірнулася.

— Ах-ах! І адразу ж так грозна! — тонкі галасок гаспадаровай дачкі, напяты ад крыўды і здзіўлення, таксама перарываўся.

— А чаму вы хвалюецеся? Я не разумею. Ваш бацька ў курсе справы.

— Справы? Якой справы? Важнейшага дзяржаўнага...

— Супакойцеся, паненка. Я не трымаю вас тут. Ды і гэты інтэр'ер... — афіцэр хмыкнуў, — і амбро! Фі! Для вас, прабачце, яны не падыходзяць. Вы такая ўся... А-а-а? — з'едліва, нават крыху па-блазнерску падвысіў голас.

— Што?! — (здаецца, студэнт).

— Фараон!

(«Усё ж дзёрзкая. А дзёрзкая таму, што змалку, як і кожная гарадская панюсечка, носіцца са сваім разбухлым адчуваннем уласнай годнасці і чванства».)

— А вось так груба не трэба. Разумею ваш пяшчотны максімалізм, але ў мяне няма на яго часу і жадання. Пустая трата энергіі шэрага рэчыва і фізічных сіл. Прабачце. Болей — не затрымліваю!

«Умее, — Алаіза прыкусіла, каб не ўзарвацца смехам, ніжнюю губу, прыкрыла павекі. — Зух! Ну, вось, панове, і пазнавайце цяпер сапраўднае рэальнае жыццё! Начытвайцеся кніг да ачмурэння, бегайце па выстаўках і музеях, каб потым зрабіць выснову, што ўсё гэта значна рэальней і праўдзівей, чым сённяшні рэальны дзень...»

Мяркуючы па важкіх павольных кроках, афіцэр кіраваўся ў самы цёмны куток склада. Здаецца, тупаў за самай яе спінаю.

Ад падлогі над растрэсенымі газетнымі падшыўкамі паднялося воблачка — двое жандараў амаль адначасова гучна чхнулі — жаўтаватага пылу.

— Дзе пыл, там высокай палітыкі быць не можа! — ротмістр рэзка і залішне гучна, як бы сам задаволены ўласным жартам, зарагатаў. — Ці не праўда?

Невядома, да каго было звернута гэтае ягонае пытанне, але Алаіза не адрывала позірку ад адной і той жа старонкі ў гандлёвай кнізе. Чакала, хто яму адказа. На складзе залегла глухое, даўкае, насцярожанае маўчанне.

— Досыць!

Жандары з палёгкай выпрасталіся і паляпалі сябе на рукавах мундзіраў, спешна затупалі адзін за адным да адчыненых дзвярэй склада.

— Вы арыштаваны!

Яна зноў не зразумела, да каго гэта звернута, але па-ранейшаму не варухнулася. І тут жа... У памяці — як маланка: «Лянтварыс!» Лянтва...рыс! Той самы афіцэр.

— Але за што?!

Арыштоўвалі, аказваецца, маладзенькага грузчыка.

— Іванчык, дастаўце ва ўчастак!

«Але тады, у Лянтварысе, я амаль не бачыла яго...»

Рука ў белай пальчатцы перагарнула некалькі старонак гандлёвай кнігі. Алаіза выпрасталася і, стараючыся не падаваць выгляду, спакойна ўздыхнула.

— А вы выпадкова не ведаеце, — перадыхнуў, — ці не хавалі тут, і дзе? — антыўрадавую палітычную літаратуру? Лістоўкі, брашуры, газеты...

Падняла вочы.

— Я толькі тыдзень працую. Замяняю канторшчыцу.

— Так-так. Разумею. Вядома ж.

Адчуўшы, як нахабны позірк жандара слізгануў па шыі, падняла руку і механічна міжволі сабрала ў жменю расшпілены зверху каўнер кофтачкі. Афіцэр адразу ж адвярнуўся і ўпэўненай хадою, толькі яшчэ раз глуха пракашляўшыся ў дзвярах, выйшаў на двор.

Тады паднялася, каб прайсці ўздоўж складскіх паліц і сцен, каля якіх пасля наведвання жандараў было ўсё перавернута.

Часопісы ў пашарпаных вокладках і пажоўклыя па краях газеты грудамі ляжалі на падлозе.

Пачынала жоўта вечарэць, але на склад так ніхто і не зазірнуў. Нават гаспадар.

Спынілася каля горкі старых «Губернских ведомостей». Нахілілася з намерам падняць і пакласці іх на паліцу, але газетныя падшыўкі былі настолькі цяжкімі, што не змагла нават варухнуць іх з месца. Схілілася і падняла адзін з адсырэлых, даўніх часопісаў («Цяжкі, як пабыў у студні заваленай»). Зябка павяла плячамі, адчуўшы ўгусцелую сырасць склада.

Першыя дзве ці тры старонкі часопіса адгарнуліся. Здзіўлена заўважыла, як на падлогу, лёгка пагойдваючыся, паляцела вузенькая, спісаная з двух бакоў паперка. Нехаця падняла яе і прачытала загаловак — «Пісьмо рэдактару» (чарніла ўжо даволі паблякла), скептычна ўсміхнулася. Але вочы, хутчэй па прывычцы, ужо беглі па радках: «Чацвёртага красавіка

каля Казанскага сабора адбылося наўмыснае збіенне безабаронных людзей...» У роце стала горка. Здаецца, усё назапашанае за гэты дзень вырвалася знутры і душыла... «Казакі ўрэзаліся ў гурт, таптала ўсіх конымі і нявечылі нагайкамі. Паліцэйскія вырывалі з грамады і навальваліся па некалькі чалавек на аднаго, няшчадна білі кулакамі і шаблямі...»

Пацерла рукамі скроні. Перад вачамі ўспыхнула яркая сталёвая паласа. Не, не паласа. Не святло, а ручка. Бліскучая, адглянцаваная ручка ад нагайкі. Яна бачыла яе, гэтую нагайку, на зямлі, выбітую з рукі паліцэйскага. Зусім нядаўна. Ага. Успомніла! Успомніла... Месяц таму, як...

«...Білі нават тых, хто ляжаў, можа, нават да смерці. Тых, хто заступаўся, праганялі прэч. Нават афіцэраў цягнулі за каўнер.

Мы, пісьменнікі, даўно ўжо не маем магчымасці своечасовымі паясненнямі патрэб сваё радзімы папярэджваць падобныя здарэнні. Мы не маем магчымасці словам пераканання асвятліць выхад з гэтага цяжкага становішча. Мы не маем магчымасці выканаць свой абавязак перад радзімаю... Мы робім спробу хоць бы перадаць народу факт...

Аненскі... Максім Горкі... Пісараў... Мамін-Сібірак... Марыя Сляпцова...»

Месяц таму! Вядома. Як жа яна магла — хоць на імгненне — забыць такое! Тую ружаватую — кавалкамі — пену, што ляцела ўніз з ашчэранай конскай храпы. Перакошаныя ад злосці і страху твары. Такія чорныя, з'едзеныя мазутам і машынным маслам, з шырокімі костачкамі пальцаў, кулакі.

Здаецца, толькі ўчора, а не месяц назад бачыла яна ўсё гэта на Лукішскай плошчы, недалёка ад будынка акружнога суда. Убачыла тую нагайку і нібыта звар'яцела, закрычала...

Яе ўцягнулі — дзяўчына і хлопец — у нейкі пусты халодны пад'езд. Потым дзяўчына знікла. І тады ён, гэты дзівак у чыноўніцкім мундзірчыку, стаў цягнуць яе яшчэ вышэй, па лесвіцы. Яна ўжо была гатова закрычаць, і раптам — застыла. Пазнала!

— Андрэй?!

...«А нашы дні ляцяць і мільгаюць, як спіцы ў коле залатой варшаўскай карэты!» — так гаварыў іхні сусед генерал Прыбытка, сустракаючы Алаізу на тым гарба-

тым кліне, дзе штовосень слалі лён. І яшчэ дадаваў, прыжмурыўшыся: «Ох-ох! Час ляціць, — але вам толькі на карысць. Прыгажэеце, мілая паненка!»

Пасля таго пабоішча на Лукішскай плошчы яны сустрэліся з Андрэем толькі праз тыдзень, сам знайшоў яе на курсах.

Спачатку цэлую гадзіну блукалі па вузенькіх, сціснутых чырвона-ржавымі сценамі камяніц вулічках. «Нават няёмка яму прызнацца, што не люблю Вільню раніцаю: усё такое цёмнае, вільготнае, як шлунне вялікага звера...»

З трэшчын дзе-нідзе вытыркаліся джальцы жоўтай сухой травы, да самых дахаў па сценах паўзлі зеленаватыя мохавыя лапіны.

Дайшлі да чыгуначнага насыпу.

Усе гэтыя два тыдні Алаіза думала аб тым, як дзіўна яны з Андрэем — насцярожана, але з асаблівай, глыбока схаванай унутры цікавасцю успрынялі адно аднаго. І зусім жа не так, як звычайныя аднавяскоўцы. Гаварылі пра Гаўру, успаміналі Стары Двор. Але — не Костуся!

Засмяялася:

— Прабач, здалося, што я цябе аднойчы ў Лянтварысе бачыла... Цяпер нават смешна.

Андрэй адкінуў чаравікам іржавую бляшанку, і тая гучна бразнулася аб дошку, якая тырчала з кучы смецця. Усюды гарбаціліся шараватыя пясчаныя пухіркі, быццам пад зямлёю бясконца гналі свае пакручастыя хады дзесяткі, сотні пачварна-вялізных кратоў.

Іржавыя бляшанкі, пагнутыя, пакарабачаныя каністры і скрынкі, парваныя сеннікі і травяныя падушкі, стаптаныя чаравікі, касмылі рудой ваты, гліняное чарап'ё...

А пасярэдзіне гэтай катлавіны, сціснутая высокімі перакапанымі схіламі, далёка ўнізе блішчала рэйкамі новенькая чыгунка.

— Скажы, ты быў там? У Лянтварысе?!

Не адказваючы, Андрэй глядзеў цяпер на старую жабрачку, абвязаную ў паясніцы баваўнянай хусткаю. Старая ледзь не баранавала зямлю вострым носам, павольна абыходзячы завалы смецця. У адной руцэ яна трымала закураны чайнік з пагнутым носікам. У дру-

гой — жалезны прэнт, якім тыцкала, шукаючы здабычу, у рыззё.

За старою бегла дзяўчынка гадоў васьмі, з тонкімі ручкамі, з шырокім саламяным капялюшыкам на беленькай галаве, з вострым позіркам не падзіцячы насцярожаных, глыбока пасаджаных маленькіх вачэй. Яна палахліва цікавала за незнаёмымі людзьмі, спатыкалася, азіраючыся, і зноў ляцела наперад. Нешта прапішчала старой на вуха, і тая рэзка разагнулася і ледзь не ўдарыла малую жалезным прэнтам:

— А каб ты наелася!.. Дзе я табе?

Алаіза спачувальна глянула на зарумзаную дзяўчынку.

— Усюды так. Як пракляцце. Беднасць і цемра. А ты хочаш глядзець на ўсё спакойна. Добры выхад, скажу...

— Выхад? А тут адзін выхад. Моцная рука.

— У Пецярбургу навучыўся?

— Навучыўся... Калі дубінкаю — па галаве. Яны ж — па галаве любяць.

— Прабач.

— Калі ў карцэры гніль сёрбаў!

— Ціха...

— А я ціхі. Тады — ніхто не заступіўся. А сябры нават не пацікавіліся.

— Адкуль ты ведаеш? Можа, ім горай было.

— Горай! Дурні з пустымі рукамі. Рамантыка балбатуноў — вось наша бяда. Ах! Народнае шчасце... Народная воля! Радзімаведы з мамчыным малаком на губах. І з пустымі кішэнямі ў прыдачу. А Лянтварыс... Я, можа, і быў там. Але табе ж лепш не паверыць. Праўда?

Яна ўжо не слухала. Здзіўленая і пакрыўджаная, адштурхнула ад сябе Андрэя, пабегла па крутым схіле ўніз, нават не бачачы, што з-пад высокай аркі нядаўна пабудаванага вакзала выпаўзае і імкліва набірае хуткасць цягнік.

Алаіза выпусціла з рукі маленькую сумачку, і тая пакацілася наперадзе. Трэба было неяк паспець, нагнуцца, схапіць яе. Але не змагла, а пабегла яшчэ хутчэй, загараючыся адчуваннем нястрымнага руху, гэтым адчайным неадольным жаданнем — вось так усё ляцець, як на злом галавы, але толькі не ўніз, а каб па-

дымацца на крылах і махаць імі, махаць штосілы. Адзін раз, другі, трэці... Вось ужо... Ах-х!

Пераступіла дзве серабрыстыя лініі рэек. І раптам, здзіўленая, замерла. Толькі цяпер пачула страшнае груканне блізкага цягніка, азірнулася...

Андрэй бег наперарэз вялізнаму чорнаму паравозу. Яна крыкнула і памкнулася назад. Але тут жа захіталася, абмякла, апусцілася на сухі ўтравелы грудок.

Так блізка, ажно абпальваючы яе гарачым дыханнем і шалёна грукаючы коламі, праносіўся цягнік з высокімі зялёнымі вагонамі. Захацелася падняцца з зямлі і бегчы адсюль куды вочы глядзяць. Але... («Мам-мач...Мамачка!»)

Не растуліць вусны — такія чужыя і гарачыя. Нібыта па іх расцёкся расплаўлены воск.

...Дурніца! Ён жа тут, Андрэй. Жывы. Так моцна заламаў ёй рукі за спіну, пэўна, каб не зацягнула пад колы. Так бясконца, не прадыхнуць, трымае яе вусны... Няўжо гэта і ёсць — вось так, балюча і даўка, яго пацалунак?!

Грукат далёкага цягніка не аціхаў, але наплываў цяпер хвалямі — раз-пораз нарастаў, тузаючы страхам, і зноў адкочваўся.

Пасілілася і паднялася на ногі, не магла нічога гаварыць. Нарэшце падняўся і Андрэй, прыціснуўся лобам да яе растрэсеных, паблытаных валасоў, злавіў пасмачкі асмяглымі вуснамі, зашаптаў у самае вуха нешта такое, ад чаго... Але яна цяпер амаль не чула слоў, а толькі хіба што адчувала іх сэнс. Ці здагадвалася, што гэта яны, тыя самыя словы кахання.

На імгненне раўнадушна кінула вачамі навокал, па ўсёй чыгуначнай катлавіне і яе схілах. Жабрачка з жалезным прэнтам у руцэ круцілася зусім блізка, нібыта і не заўважала іх. Адна толькі беленькая дзяўчынка ў парваным капялюшыку, спатыкнуўшыся аб нешта, азірнулася і так весела засакатала, што Алаіза ўспыхнула ад сораму. Замітусілася, хацела расчасаць валасы, але грэбень застаўся ў згубленай наверсе сумачцы. («Лісты ж там, паперы. І грошай крыху».) Як узрадаваўшыся нагодзе дапамагчы ёй, Андрэй лёгка пераступіў рэйкі і пачаў караскацца па адкосе, зрэдку прыпыняючыся, каб добра прыгледзецца да зямлі.

Шукаў. Нарэшце знайшоў, узрадавана махнуў рукою. Спусціўся.

...Гарадскія вуліцы зашарэліся рэдкім вечаровым туманам, і тады яшчэ весялей затарахцелі брычкі. Нязменна заклапочаныя і насупленыя гаспадыні з бедных завулкаў, несучы дахаты кашолкі з прадуктамі, збочвалі з тратуараў і цягнуліся па цэнтры вузкай брукаванкі, каб не замінаць адна адной, не церціся калянымі, як у вясковых кабет, спадніцамі аб цагляныя сцены камяніц. І толькі зрэдку каторая саступала дарогу нагружанаму пустымі бочкамі ці скрынкамі ламавіку.

Андрэй шапнуў на вуха, што ведае самую кароткую дарогу да Гедымінавай вежы, і Алаіза адразу ж згадзілася. Цяпер хоць не прызнавайся, што яшчэ дасюль ні разу там не была. Андрэй спачатку лёгка перанёс яе на руках праз асохлы і ўжо забіты палыном неглыбокі равок, ад якога крута ўверх падымаўся даволі густы бярэзнік, абветраны і пабіты чорна-ружаватымі наростамі на ствалах. Калі нарэшце ўзабраліся на ўзлобак гары, да чырвонай круглай вежы, было яшчэ даволі светла. Алаіза прыціснула рукі да грудзей, супакойваючы сэрца. На разгарачаныя пасля пад'ёму шчокі адразу ж насеялася калючага непрыемнага маку вечаровай вільгаці. Тады засмяялася, і ў згодзе з яе настроем гучна засмяяўся і Андрэй. Нахіліўся, абняўшы яе за плечы. Пачаў грэць.

Вячэрні горад здаваўся цяпер прыкрытым зверху толькі тонкай нябеснай абалонкаю: жаўцелі зярняты запаленых вокнаў, мігцелі ярка-вогненныя вялікія матылі карэт.

Начная цемра яшчэ не распаўзлася па бакавых вузенькіх кварталах з адзінокімі сляпымі ліхтарамі, і зверху ўсё выдавала таямніча-прывідным. Вось там, амаль у самым цэнтры, над мізэрнымі кропачкамі агнёў узвышаецца пацямнелы цяпер, з размытымі паўзмрокам, дрыготкімі статуямі святых — а іх ажно трыста! — касцёл імя Святога Станіслава. Над яго франтонам узлятаюць тры анёлы, падымаючы на тонкіх крылах магутную музыку вечаровага горада, сплаўленага з крыві, камення і чалавечых лёсаў.

Зрэшты, і не бачыць яна нічога здалёк, не можа ўбачыць, але ўсё роўна ў нейкае імгненне здаецца, што

контуры тых далёкіх статуй пачынаюць выдзяляцца на цёмным фоне і свяціцца.

Касцёл імя Святой Ганны, трошкі злева, прабівае калючай пікаю ружаватую паласу ў небе, і на гэтай яркай стужцы рэзка акрэсліўся і паплыў над горадам вастраносы мужчынскі профіль. Ружаватая паласа пачала паволі набракаць чырваннню, пад ёю адразу ж цьмяна заблішчалі чарапічныя і гонтавыя дахі, пазалочаныя банькі цэркваў і шапкі касцёлаў. У глухой глыбіні абшарпаных завулкаў засыналі спрацаваныя гараджане. Брудныя лужыны перад брамамі і ўваходамі ў пад'езды браліся на ноч халоднай, але яшчэ не ледзяной плеўкай.

Святыя... Святыя і пакутнікі ўсяго белага свету, злітуйцеся над імі... Злітуйцеся над намі...

«Ні я, ні ён... Мы ніколі не здрадзім адно аднаму. Ды як я увогуле магла падумаць пра здраду?! Літасцівы, не пакідай нас...»

Зашаптала ціха, як успамінаючы напаўзабытую матчыну песню:

На хрысцінах, на вяселлі,
То на йгрышчы, то ў касцелі,
То пры працы, то пры песні
Тут і слёзы, тут балесці,
Тут магілы, тут і труны,
Тут грамніцы, тут цалуны...
Нейка пекла, нейка каша!
А дзе ж шчасце, братцы, наша?

— Ты што? От жа...

Няўжо яна магла забыць, што побач стаіць Андрэй? Але ж — забыла. Забыла. Дзіўна...

— Ужо і не помню, калі чуў па-нашаму. Даўно. Нават дзіка! Дзіка, знаеш, па-мужыцку. Ну, на рынках там... слова якое... Ці як лупяне каторы хам: «А бадай ты зямелькі наеўся!»

Алаіза пачырванела. («Добра, што цяпер нічога не відна...») Але Андрэй і сапраўды нічога не заўважаў.

— А вось як ты загаварыла, то аж вушы рэжа. Усё ж па-руску... Ці хоць па-польску... Культура — вялікая сіла...

— Гэта тая самая культура, дзе моцная рука?

— Ты пра што? — Андрэй занепакоіўся змене яе настрою, але ненадоўга. Цяпер яго хвалявала толькі тое, з якога боку яны пачнуць спускацца адсюль уніз.

Алаіза адкрыла сумачку, каб дастаць грэбень і прычасацца. Андрэй жвава падняў з зямлі акуратна згорнутыя паперы, што вылецелі з сумачкі, прысвіснуў жартам:

— Гэта што, таямнічая перапіска?

Засунуў іх сабе ў кішэню, як бы наўмысна нервуючы яе.

— Андрэй! — Алаіза і сапраўды раззлавалася. — Што гэта за...

І раптам замерла на паўслове, як адчуўшы спінаю блізкую небяспеку, прысутнасць чужой, дзікай, неразумнай сілы. Асцярожна павярнула галаву ўбок і як скамянела. Зусім блізка ад яе стаяў вялізны, з бліскучаю шэрай грываю па ўсім хрыбетніку, ашчэраны звер. Гэтаксама, як і яны, людзі, не варушыўся, толькі дрыжаў, рыхтуючыся... Яна ўжо ледзьве не страціла прытомнасць, уявіўшы, як ён скокне ёй проста на грудзі і пацягнецца да горла, але звер нечакана быццам абмяк і паменеў на вачах, вяла махнуў апушчаным хвастом і скавытнуў.

Калі яна праз хвіліну зноў расплюшчыла вочы, яго ўжо на гары не было.

— Ціха-ціха... Ну што ты, золатка маё... — Андрэй, відно, таксама напалохаўся, бо гаварыў цяпер ахрыпла і рэзка. — Ну во і Гедымінаў воўк прадстаў перад намі ў праяве галоднага цюцькі!

— Хадзем адсюль.

— Новая прыгода.

— Не, досыць ужо...

Перамагаючы пачуццё прыкрага недаверу да гэтай спакойнай вышыні, яна ўсё ж прымусіла сябе засмяяцца. Спачатку глуха, а потым яшчэ раз, але ўжо спакайней і весялей.

Праз хвілін колькі яны ўжо спускаліся, вольныя ад нядаўняга страху, нібыта пакінулі яго наверсе, спешна, але ўсё ж асцярожна ступалі па мяккай слізкай зямлі і абмацвалі перад сабою белыя бярозавыя ствалы.

Яна запаволіла хаду, адчуваючы, што загараецца цяпер яшчэ адным, незнаёмым дасюль пачуццём любові. Вялікай і ўсеабдымнай любові. Яна любіла і тую магутную вежу над усім горадам, каля якой толькі што перажыла дзікі страх, і сам горад, што разлёгся ў ціхай соннай катлавіне паміж пагоркамі, і бязлітасны

мокры вецер, які няспынна шкамутаў бярозавыя вяршаліны. Але найперш Андрэя, з такой дужай вялікай рукою і ўпэўненай выпрастанай паставаю. І яшчэ сябе самую, маленькую і азяблую, асеплую ад неспадзяванага шчасця сярод гэтай восеньскай сцюдзёнай ночы.

Яна любіла. Любіла... І больш ні аб чым іншым не магла думаць.

* * *

— Згатую я табе страву, убачыш, якая будзе смачная. Аддзячу я табе... Усім вам пакажу... Будзеш задаволены маёй стравай... Будзе табе добра, калі паясі! Пачакай, пачакай! — Алаіза гучна вымаўляла кожнае слова і ажно насілася па вузкай сцэне, усё яшчэ трымаючы ў руках новенькі гаршчок. («Казала ж ім, трэба хоць трохі ўжываны, чорны... А то... Эт!») — Хіба ўжо на тым свеце паспрабуеш такіх, як я, малаціць сваімі хамскімі кулакамі...

Нарэшце паставіла гаршчок проста на лаву, што працягнулася ўздоўж усёй сцэны паміж драўляным, засланым шэрай грубай дзяругаю ложкам з правага боку і маленькай драўлянай, але пабеленаю печаю і сталом — з левага. Выцягнула з кішэні капцаніка белы папяровы пакецік, дзе быццам бы павінна быць атрута. Але тут жа засунула яго назад — успомніла, што яшчэ ж не сыпнула ў гаршчок ніякіх круп, не лінула ні шклянкі вады.

Два месяцы назад гэтую ідэю — ставіць Ажэшкавага «Хама» на сцэне ў іхнім вучылішчы ў доме Пімакава на Скапоўцы — падала сама Прозарава. І калі на перапынках аб спектаклі загаварылі ўсе дзяўчаты, Алаіза не стрымалася і пайшла да дырэктрысы сама.

Пайшла прасіцца хоць на якую эпізадычную ролю. Пасля трох рэпетыцый — на здзіўленне ўсяму класу — рэжысёр спектакля пан Глазуноў, які яшчэ і выкладаў у гімназіі рускую мову, прапанаваў Алаізе іграць Франку. Адразу ж саму Франку.

— ...Вось цяпер наясіся, будзеш сыты! Я так цябе накармлю, што ўжо ніколі не захочаш есці! І біць мяне ўжо ніколі не захочаш. Падзякуеш мне! У гадзіну смерці сваёй даведаешся, што значыць узнімаць руку на такую, як я!

Зрэшты, яна добра засвоіла на рэпетыцыях самае важнае: неўтаймоўную натуру яе гераіні ў такой невялікай зале можна перадаць не толькі жэстамі, колькі мімікай і адпаведнымі тонамі ў голасе.

— Кара Боская! Кара Боская! Бог пакараў мяне за тое, што сама сябе шанаваць не ўмела і з хамамі параднілася...

Яшчэ месяц назад пан Глазуноў вельмі хваліў яе, захапляўся натуральнасцю і шчырасцю ігры. Захапляўся нават адзеннем, пазычаным у Стэфкі. Добра, што сястра навезла гэтага саматканага дабра цэлы куфар.

— Вас гэтая спадніца мяняе так, што я проста рэальна ўбачыў перад сабою Франку. А помніце ў Ажэшкі: «Надзеўшы грубыя скураныя чаравікі, саматканую спадніцу ў рознакаляровыя палосы, накінуўшы на зрэбную сарочку паркалёвую квяцістую хустку, Франка агледзела... — Пан Глазуноў таксама чэпка агледзеў Алаізу насмешлівым позіркам, — ...агледзела сябе і пачала галасіць: «Вось я і мужычкай стала!» — помніце?!

Павольна падышла да ложка з правага боку, каля якога стаяў невялікі адчынены куфэрачак, павольна нагнулася і падняла з падлогі белую сукню з фальбонамі... «Навошта я падымаю?! Яна ж павінна тут заставацца! Пакуль не завяршыцца ўся сцэна атручвання!»

Таропка кінула сукенку зноў на падлогу. У зале нядобра зашумелі. Нехта хіхікнуў.

Была яшчэ толькі галоўная рэпетыцыя. Залу запоўнілі курсісткі і выкладчыкі, але менавіта ад іх галасоў, дакладней, воплескаў, залежала ўсё. Так сказала Прозарава.

— Кара Боская!.. Вось да чаго я дайшла! Вось што мне цяпер даводзіцца рабіць!

Яна хацела, вельмі хацела быць цяпер Франкаю. Яе душою і нянавісцю. Нянавісцю да Паўла.

— Вось да чаго...

Ведала ўсё, але з жахам адчувала, як вусны не слухаюцца яе і раз-пораз расцягваюцца ў кароткую, бо стрымлівала ж іх з усяе сілы, але даволі лагодную, мройлівую ўсмешку.

— Кара...

Зноў пацягнула па твары гэтай прыкрай дурнаватай усмешкай. Ажно зашумелі і засмяяліся ў зале. Як гэта

магло здарыцца, што яна ні кропелькі не хвалюецца. Ні кропелькі. Выйшаўшы перад гледачамі ў самы першы раз.

Старалася думаць, як Франка. Яна і думала, як гэтая Франка.

...Зараз прыйдзе Андрэй... Божачка, не Андрэй жа... Ажно пахаладзела ўся. Зараз прыйдзе Павел і з'есць гэты атручаны крупнік...

Андрэй стаіць каля сцяны якраз насупераж сцэны і, пэўна, вельмі ўважліва сочыць за ёю. Кожнаю жылкай, пакутліва і балюча, адчувала на сабе яго неадрыўны позірк.

І не магла — з самага пачатку спектакля! — ні аб чым і ні аб кім другім думаць...

Павел (іхні географ з прыклеенай барадою) ужо ставіў на стол новенькі жоўты гаршчок з атручаным крупнікам. («Казала ж ім, каб хоць трохі быў чорны, закураны...»)

У зале засмяяліся. Якраз тады, калі Павел садзіўся за стол, а яна (Франка!) стала падымацца з ложка, на які толькі што прылегла...

Гэта быў правал!

Чаму яшчэ раней, калі пачаўся спектакль, яна не ўбачыла гэтай жанчыны? Зграбнай, з такім прадаўгаватым суровым тварам. Нават са сцэны добра відаць, як яе сціснутыя вусны дрогнулі. Алаіза ўжо не магла адвесці ад жанчыны позірку, паступова пазнаючы ў суровых рысах аблічча нешта вельмі знаёмае.

Стаяла сама... Сама Ажэшка! Хто мог бы падумаць, што Прозарава ўсё ж напіша ёй! Ледзь дыхнуўшы, Алаіза адвярнулася ад залы і павяла вачамі па сцэне.

Андрэй... Ды не Андрэй жа, а Павел (Павел!) падняўся з-за стала і нешта прабубнеў ёй. Здаецца, што хоча прылегчы, што яму нядобра. Але Алаіза не адказала, а толькі яшчэ раз скасілася ў залу. З жахам убачыла, як Ажэшка павольна, амаль што не рухаючы плячамі, пайшла адсюль. Не, вось прыпынілася каля выхаду і роспачна глянула на сцэну. На яе... На Алаізу.

## 6

Віленскі паліцмайстар калежскі асэсар Канстанцін Міхайлавіч Назімаў прайшоў ужо амаль усю Благавешчанскую — любіў ранішнія праменады. З лагоднай

усмешкаю пакланіўся губернатарскай жонцы княгіні Марыі Міхайлаўне Грузінскай, якая праязджала ў ландо. («І трэба ж, — з самай раніцы! Як дурань напароўся...») Што, калі гэтая апантаная ўласнай міласэрнасцю папячыцельніца дзіцячых прытулкаў і сёння пацягне яго бог ведае ў які мядзведжы куток на ўскраіну — гладзіць па брудна-шэрых калючых галовах мурзатых байстрюкоў і пры гэтым міратворна закочваць угору вочы? Пасля такіх сантыментаў лёгка трапіць і ў той жоўты дом на Дварцовай. Як ён ні адмахваўся, Марыя Міхайлаўна толькі сонна ўздыхала і ласкава дакраналася пальчыкамі да яго пляча. Маўляў, ну што ж вы, збірайцеся хутчэй, я ж вас чакаю...

Дабраўшыся нарэшце да жандарскага ўпраўлення ў доме Валерштэйна, Канстанцін Міхайлавіч лёгка змахнуў з плячэй сняжынкі і з горда ўзнятаю галавою павольна і важна падняўся ў свой кабінет на другім паверсе. У правае крыло. Распрануўся і прайшоўся па кабінеце. Потым расшпіліў мундзір, падыхаў трошкі вальней — супакоіўся. Зноў зашпіліўся, ужо седзячы ў крэсле за сталом.

Роўна праз пяць хвілін у кабінет увайшоў яго памочнік. Платон Кліменцьевіч Смольскі. З тоўстаю чырвонаю папкай. Невысокі, клышаногі, з налітым хваравітаю стомай таўстагубым тварам. Ліслівa схіліўся. Але Канстанцін Міхайлавіч лепш за другіх ведаў сапраўдную натуру Платона Смольскага. Недалёкі, але надзейна падаткнуты з усіх бакоў падпорамі сваяка, аднаго з самых уплывовых у Вільні людзей — губернскага дваранскага прадвадзіцеля графа Адама дэ Броэль-Плятара. Па тым, як груба і адначасна вытанчана Смольскі адчытвае сваіх приставаў, як ён імгненна мяняецца пры вышэйшых па чыне, як умее нязмушана і заўсёды дарэчы ўспамінаць пікантныя факты з жыцця вышэйшага свету, ды яшчэ па многім іншым Канстанцін Міхайлавіч зразумеў, што характар і накірунак жыццёвых памкненняў памочніка ім яшчэ да канца не спасцігнуты.

Зноў і зноў Пецярбург запрошваў у яго новыя звесткі пра гродзенскіх тытуннікаў. Сляды забастовачнага камітэта і сапраўды кіраваліся ажно ў Вільню.

Смольскі, аднак, залішне ўпэўнена спяшаецца дакладваць яму пра свае поспехі ў гродзенскай справе. Даволі сумніцельныя поспехі. Аднак нешта важнае ў

чырвонай папцы абавязкова знойдзецца. Назімаў з асаблівай увагай сачыў за кожным данясеннем Смольскага, знаходзячы ў самым, на першы погляд, нязначным і нецікавым каштоўнае зерне. На тое ў Канстанціна Міхайлавіча меўся асаблівы талент і нюх. Ён падняўся з-за стала і пайшоў да акна — любіў назіраць за вуліцай. Рабіў гэта заўсёды, калі хацеў выбіць думкі субяседніка з надзейнай каляіны, прымусіць таго захвалявацца і засумнявацца ў правільнасці нават самых бясспрэчных фактаў.

«А гэты Генісарэцкі, Апалон у залатых пагонах, усё ж не ажаніўся з Таечкай Смольскай. Так закахаўся ў актрысу Аляксееву, што зарваўся! У наш час, яшчэ гадоў пятнаццаць назад... такое не прайшло б!»

Смольскі кашлянуў:

— Упэўнены, што ў Лянтварысе спыняўся Грынёў — адзін з галоўных зачыншчыкаў не толькі гродзенскай справы, але і бунту на Гомельскай чыгунцы.

Назімаў нарэшце адступіў ад акна і важка апусціўся ў крэсла за сталом. Здавалася, быццам усё сказанае Смольскім яго не зацікавіла. Стомлена ўздыхнуў.

— Напомніце, што знайшлі ў Косача.

— Толькі «Минский листок». Але якраз нумар з графам Салтыковым-Шчадрыным. Дарэчы, у Косача якраз начавала адна шляхцяначка.

Назімаў стомлена, але крыху зацікаўлена звёў бровы, чакаючы паясненняў.

— Дачка мешчаніна з Лідскага павета Сцяпана Пашкевіча. Дзяўчына. Трапіла сапраўды выпадкова... Нічога важнага.

Назімаў зноў падняўся з-за стала і зноў засланіў спінаю ад Смольскага акно. Паўтарыў, задумаўшыся, пачутае:

— Нічога важнага...

— Прыехала працягваць вучобу ў Прозаравай. Цікава, што яна пазнала аднаго з нашых новых агентаў. — Смольскі перагарнуў у папцы некалькі старонак, але тут жа рашуча яе закрыў.

— Я маю на ўвазе таго далёкага родзіча Радзівілаў.

— А-а...

— Закончыў Нясвіжскую семінарыю, працаваў у галоўным упраўленні радзівілаўскіх маёнткаў. Потым паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага уні-

версітэта. Пачаў як крайне левы. З Пецярбурга высланы яшчэ вясною...

— Значыць, «семінарыст з народа»! І за што выгнаны?

— Збіў гарадавога. Па справе Ветравай. Здаецца, смяротны зыход.

— Гэта ўжо цікава. — Назымаў павесялеў. — Гарачы парыў?

— Цяпер служыць у акружным судзе.

— Пасля таго як яго павінны былі выслаць у штрафную роту? — Назімаў ціха засмяяўся. Ён ведаў розныя кур'ёзы, назіраў за такімі людскімі ўзлётамі і падзеннямі, якія нямногім былі вядомы. — Дык чаму ж не ў штрафной роце?

— Родзічы...

— Родзічы? Ах, так-так. Але ж цяпер, здаецца, вы праяўляеце да яго бацькоўскую ўвагу? Рыцар з народа — і на табе! Звычайны даносчык... Псіхалогія!

— Пры чым тут псіхалогія, ваша правасхадзіцельства? Звычайная справа. Да таго ж матэрыял яшчэ сыры. Няма гарантыі.

— Не прыбядняйцеся. Ведаю ваша ўменне знаходзіць у любой малададзекабрысцкай душы тую шчылінку, куды можна перспектыўна ўліць дозу подласці. Ці ж не праўда? Здрада маладым ідэалам заўжды подлая.

— Што было рабіць, калі ў гэтым радзівілаўскім выпладку столькі пыхі. А кішэні — пустыя. Драма жыцця!

Генісарэцкі ўжоданёс яму пра гэтага Андрэя Гмырака. Унук бунтаўшчыка, якога Мураўёў трымаў — і нямала! — у турме. Гол як сакол. Мае гарачы нораў, але не мае ў кішэнях нічога, акрамя злосці на нікчэмнага дзеда.

...Андрэй Гмырак прыходзіў... прыходзіў у гэты самы кабінет. Па нейкіх справах акружнога суда. Але не яму, паліцмайстру Канстанціну Міхайлавічу Назімаву, можна беспакарана пускаць пыл у вочы. Нешта іншае было ў намеры нядаўняга апальнага студэнта. Але што?

...А гісторыя з Грынёвым? З якім Гмырак сябраваў яшчэ ў Пецярбургу. Адразу ж пасля паражэння студэнцкага максімалізму і не паспеўшы атрэсці пыл ад падзення з чыноўніцкага мундзіра... Ужо ў Вільні, на

службе... Як бы мімаходзь сказаў, што бачыў пецярбургскага сябра сацыяліста на Віленскім вакзале. Ці, можа, і сапраўды, не здагадваўся, што адразу ж данясуць куды трэба.

Задумаўшыся, віленскі паліцмайстар павольна пачаў зашпільваць мундзір, але тут жа адчуў на сабе насмешлівы позірк Смольскага.

Канстанцін Міхайлавіч Назімаў быў сярэдняга веку і сярэдняга росту, ладна збіты мужчына, з шырокімі круглаватымі плячамі, з палыселай і набычанай — пададзенай крыху наперад — галавою. Пад нізкім прамавугольным лобам кусціліся шырокія бровы, вочы былі цёмна-шэрыя, глыбока пасаджаныя, чэпкія. Ён хадзіў толькі па самай сярэдзіне калідора, па-ваеннаму гучна, чотка адпячатваў крок за крокам. Пазнаючы яго хадку, за дзвярыма кабінетаў адразу ж прыціхалі. Смяяўся ён таксама гучна і рэзка, адкідваючы галаву назад. Гэтак жа раптоўна і замаўкаў. І толькі адзін Платон Смольскі, нізка апускаючы галаву, ведаў, што галоўная сіла і падтрымка віленскага паліцмайстра — сам губернатар, егермайстар яго імператарскай вялікасці Мікалай Ільіч Грузінскі — даўно ўжо для сваіх пратэжэ сіла ненадзейная. Смольскі ведаў таксама, што віленскі губернатар па самыя локці ў даўгах (і чым толькі адкупіцца ад Броэль-Плятара?). Але час ішоў, і Назімаў па-ранейшаму смяяўся, горда адкідваючы галаву назад.

— Святлейшая княгіня... — ведаючы густ свайго начальніка, Смольскі пачаў напышліва, — святлейшая княгіня Марыя Міхайлаўна збіраецца праз тыдзень да Плятараў.

Назімаў шумна ўздыхнуў. «Пакуль не накорміць сваімі каталікамі і яўрэямі — не супакоіцца!»

— Ганьба мяшчанам Расійскай імперыі! — гэта вырвалася ў Назімава нечакана для яго самога.

Смольскі ўхмыльнуўся.

— Ёсць і магніт. Нядаўна з замежнага вояжу прыбыла Магдалена Радзівіл, самая ўважлівая да лёсу айчыннага мастацтва... Між іншым — і да лёсу Андрэя Гмырака.

Назімаў з цікавасцю зірнуў на субяседніка.

— Хто будзе ад нас?

— Не хвалюйцеся, ваша правасхадзіцельства. Запрошаны ротмістр Генісарэцкі.

— Хто?

— Але ён запрошаны разам са сваім дзядзькам, генерал-маёрам Леапольдам Ражновым.

— Папячыцелем?..

— Папячыцелем «Дома Ісуса-немаўляці». («Можна падумаць, ён толькі цяпер успомніў пра Ражнова... Але ж і ў пячонках у цябе гэтыя сіроцкія прытулкі!»)

— Думаю, без тэатральных прымадонн таксама не абыдзецца?

— Кацярына Аляксандраўна ўжо запрошана...

Назімаў усё ніяк не мог закончыць гэтую доўгую нудную гаворку з памочнікам, не разумеючы, што ж яго так зацікавіла, адклаўшыся недзе ў глыбіні падсвядомасці. Яшчэ раз недавольна глянуў на Смольскага:

— Дык як завуць тую курсістку? У Косача...

Смольскага здзівіла і рэзкая змена тэмы гаворкі, і гэтая нечаканая ўвага шэфа паліцыі да шэранькай і, вядома ж, прымітыўнай асобы.

— Алаізія Пашкевіч.

— Прасачылі?

— Вядома, ваша правасхадзіцельства. Але, прызнацца, без належнай увагі. Выпадковы чалавек...

— А як цяпер? — Назімаў нядобра звузіў вочы.

— Ротмістр Генісарэцкі далажыў, што яна добра знаёмая, яшчэ з маленства, з Андрэем Гмыракам. Цяпер у іх нешта накшталт працягу дзіцячага рамана...

Назімаў адвярнуўся, але тут жа перавёў гаворку на іншае:

— Праз два дні, калі я не памыляюся, трэба далажыць аб гэтай тытунёвай вакханаліі! Ці будуць нарэшце дакладныя звесткі?

— Ваша правасхадзіцельства, але ж... — Смольскі пачаў развязваць чырвоную папку. — Паявіліся новыя звесткі!

— Гэта — вы?! Марыя Міхайлаўна, няўжо я бачу — вас?! — З'яўленне губернатарскай жонкі ў кабінеце было нечаканасцю не толькі для Смольскага, але і для Назімава, які ўжо выходзіў з-за стала. — О, Марыя Міхайлаўна!

Смольскі з задавальненнем назіраў, як Назімаў, схіліўшы галаву, хавае позірк ад расхвалянай нечым губернатаршы. Як снег на галаву.

— Вы зусім забылі, Канстанцін Міхайлавіч, сёння нас чакаюць бедныя сіроткі ў прытулку святога...

— Ну, што вы?! Я ўсё помню! З вамі, Марыя Міхайлаўна, можна і ў прытулак! (Жартачкі!»)

Смольскі падаўся да дзвярэй.

Затым, краем вока зірнуўшы на госцю і заграбаючы сваімі крывымі нагамі, ціха адчыніў дзверы і нарэшце выйшаў, спусціўся па лесвіцы на першы паверх...

Ён стаяў каля акна, назіраючы за тым, як з упраўлення — то па адным, то па некалькі чалавек — выходзяць падначаленыя яго дзяржаўнай улады.

Вось адзін з іх, маленькі, але даволі збіты, у доўгім шынялі, азірнуўся, і Смольскі адразу ж пазнаў генеральскага пляменніка, маладога, але ўжо разбэшчанага Генісарэцкага. Генісарэцкі, як адчуўшы на сабе яго позірк, на хвіліну прыпыніўся. Потым апусціў галаву і яшчэ хутчэй пакрочыў па вуліцы.

...Не прайшло і пятнаццаці хвілін, як Генісарэцкі ўжо заварочваў у арку пад'езда пашарпанай камяніцы, падняўся на другі паверх. Пастукаў у дзверы. Не чакаючы запрашэння, адкрыў іх.

Пакой быў прасторны, але абстаўлены беднавата. Андрэй Гмырак, гаспадар гэтага пакоя, адразу ж падхапіўся з канапы, азірнуўся, шукаючы месца для госця. Але Генісарэцкі ўжо садзіўся за стол.

— А ты яшчэ ляжаў? Ну-ну!

Андрэй незадаволена таргануў плячамі.

— Не крыўдуй, Андрэй... Дарэчы, як параіш, ці варта з'яўляцца на вочы Магдалены Радзівіл у мундзіры?

Андрэй маўчаў.

— Жартую. Лепш пахваліся, як твой раман?

— Я прасіў цябе... Гэта мая асабістая справа.

— Прабач. Лепш прынясі чаго. З раніцы анічога ў роце. Ні кроплі.

Андрэй павярнуўся да шкапчыка, зазвінеў кілішкамі. Разваліўшыся ў крэсле, Генісарэцкі яшчэ раз зацікаўлена спыніў позірк на паперах, параскіданых на стале, падняў правае брыво. Нават не зірнуўшы на гаспадара, хутка сабраў і схаваў паперы ў кішэню.

Разліўшы гарэлку, Андрэй павярнуўся да госця, слізгануў вачамі па стале. Густа пачырванеў. Але не сказаў ні слова.

— А ведаеш, — Генісарэцкі імгненна зарыентаваўся, — яна бачыла цябе ў Лянтварысе. Казаў жа табе не ехаць. Што за дурацкія жаданні бываюць... Рамантык!

Я на гэты раз пераканаў мадэмуазель, што ты — гэта не ты! Аднак — вып'ем... Ну, як хочаш... А я з твайго дазволу...

Андрэй Гмырак усё яшчэ стаяў каля акна, прыціскаючы лоб да халоднай шыбіны.

Госць недавольна падняў брыво.

— Дарэчы, я гаварыў пра цябе Смольскаму. Рэкамендаваў...

Андрэй рэзка павярнуўся да яго:

— Я што, прасіў?!

— Ды што з табой?! Дарэчы, я добра адчуваю момант...

— Які момант?

— Зноў не разумееш жартаў!

7

— Я хачу падарыць вам... — Банкір граф дэ Броэль-Плятар, ужо немалады, але даволі франтаваты і рухавы чалавек, глянуў на прыгажуню-актрысу Кацярыну Аляксееву прыжмуранымі вачамі. — Я хачу падарыць вам, Кацярына Аляксандраўна, таямніцу... — адарваўшыся ад спінкі крэсла, выпрастаўся. — Сам Поклюс, гаспадар пекла, са мною на кароткай назе... Некаторыя з прысутных тут ужо ўключаны ў яго канторскія спісы грахаводнікаў. Але толькі не мы з вамі. Аднак, з другога боку, гэты факт мяне нават засмучае.

Аляксеева гучна засмяялася, адразу ж прыцягнуўшы да сябе ўвагу маладога чорнавалосага мужчыны ў чорнай скуранцы.

(«Акцёр Любскі... Нядаўна з Пецярбурга. Арыгінал!») Андрэй запабегліва лавіў кожны здзіўлены позірк Алаізы і ціха, так што нават вусны амаль не рухаліся, паясняў.

— Давайце дамовімся, Кацярына Аляксандраўна. — Банкір яшчэ раз дэманстратыўна прыпаў у пацалунку да тонкай рукі актрысы. — Калі я памру, пакладзіце хоць адзін з вашых пазурчыкаў на маю магілу. І не трэба смяяцца з дзелавога чалавека... — Перачакаў, прыжмурыўшыся, імгненне. — Літоўцы кладуць на магілы сваякоў і родных кіпцюры мядзведзя альбо рысі, каб потым, — махнуў рукою ўверх, — было ляг-

чэй падняцца на шкляную гару асалоды Анафелас... Але мне будзе даволі аднаго вашага пазюрчыка...

— Вы такі ласы да асалоды? — актрыса хрыплавата засмяялася.

— Горш таго. У тым раі кожнага чакае апроч пачуццёвых асалод яшчэ і сто новых, невядомых на зямлі...

— Спадзяецеся трапіць у рай?

— З вамі, Кацярына Аляксандраўна...

Седзячы з Андрэем за невялічкім кансолем, прыстаўленым да сцяны, Алаіза сціху азірала прасторны пакой. Строгі кабінет чорнага дрэва з устаўкамі са слановай косці. Прыгожая кніжная шафа, інкруставаная меддзю, фарбаванымі рагамі і чарапашымі панцырамі. Дзве невялікія канапы і некалькі крэслаў. Каля высокіх дзвярэй — у правым кутку — на мініяцюрнай падстаўцы вялікая ружаватая ваза з кітайскімі малюнкамі.

Застаўлены дарагой мэбляю, прасторны пакой патанаў у мяккім блакітным святле, што лілося з сініх шкляных свяцільнікаў, упрыгожаных па краях пазалочанымі фігуркамі антычных багоў і феніксаў. З развешаных на супрацьлеглай сцяне карцін Алаіза заўважыла «Маленькага Гендэля», здзівілася, як гэтая танная англійская гравюра можа суседзіць з партрэтамі графскіх продкаў у масіўных пазалочаных рамах.

Угаворваючы яе ўчора прыйсці на сустрэчу з самой Магдаленай Радзівіл, якая згадзілася ўбачыцца з некаторымі са сваіх віленскіх знаёмых у доме банкіра дэ Броэль-Плятара, Андрэй сказаў праўду: на гэты раз была запрошана даволі стракатая, найбольш блізкая да культуры і мастацтва публіка. Нават апрануты былі ўсе даволі сціпла. Акрамя дваіх — актрысы ў шыракаполым капелюшы з мноствам ружовых штучных кветак і паважнага маладжавага генерала Ражнова ў расшытым золатам мундзіры.

Алаіза ўсё больш сумнела і насцярожвалася, гледзячы на гэтага бліскучага генерала, які, па словах Андрэя, дзе-што выдаткаваў на школы, яшчэ на двух-трох прысутных тут палітыканаў, якія холадна і, адчувалася, больш дзеля позы разважалі пра духоўны генацыд у такой магутнай імперыі... («Што такое фізічнае знішчэнне чалавека ў параўнанні з духоўным? А-а? Дзіцячыя гульні... Вось калі ў народзе, панове, зніш-

чаецца дух свабоды, цяга да асветы, калі хітра і настойліва падточваюцца карані айчыны... Вось тады, панове, сапраўды смерць!»)

У насцярожана-стрыманым гурце гэтых даволі ўплывовых, з маскамі нарадавольцаў і асветнікаў, віленскіх мяшчан, якія старанна прыхоўвалі за ветлівымі ўсмешкамі фанабэрыстасць, Алаіза пачувала сябе ўсё больш няёмка. Гняло і падточвала адчуванне выпадковасці ўласнай прысутнасці тут, непатрэбнасці і нават варожасці ўсяго гэтага для яе.

Зусім блізка ад кансоля стаяла трое падобных на судовых засядацеляў мужчын у аднолькава светлых клятчастых гарнітурах, з маленькімі залатымі ланцужкамі ад гадзіннікаў на жыватах. Двое з іх мелі бакенбарды — доўгія, але тонка падстрыжаныя нажніцамі, а таму падобныя на прыклееныя да шчок лапіны цёмных шкурак.

— Досыць таго, што пасля рэформы абяцалі «сапраўдную волю»! І вось — абяцанкі-цацанкі...

(«Усё ж які прыгожы мужчынскі барытон... Як у спевака».)

— Нашы гнюсныя памешчыкі, — у другога голас быў залішне піскрявы, але з ноткамі пыхі і самаздаволенасці, — гэтыя засцянковыя бажкі ўшчэнт разбэсцілі і палітычную аснову гістарычных дасягненняў нашага стагоддзя, і сельскую гаспадарку...

Андрэй схіліўся над кансолем, наблізіўшыся тварам да Алаізы, весела шапнуў:

— Цяпер пачнуць пра амерыканскі шлях развіцця. Новы павеў: далоў наша землеўпарадкаванне, падавай фермерства!

З мужчынскага гурту і сапраўды данеслася кароткае: «Але ж амерыканскі шлях!..»

— Запэўніваю вас, гэта чужародна Расіі, — уступіў той, з прыгожым барытонам. — Чу-жа-род-на! Амерыканскі шлях... Прабачце, але калі пра тое ўжо йдзе, дык якраз тут, у нашай дзікай мясцовасці, гэтыя самыя хутаранскія бажкі, як вы дазволілі сабе іх назваць, не што іншае, як фермеры. А што, прабачце, з таго? Што гэта, прабачце, мяняе?!

Калі Магдалена Радзівіл, павольна, па-жаночы элегантна ўплыўшы ў пакой з бакавых дзвярэй, пачала

вітацца і нязмушана загаворваць амаль з кожным, Алаіза здзівілася: яна была такою, якой і ўяўлялася. Невысокая, але статная, што рабіла яе як бы вышэйшаю, драбнатварая, з прадаўгаватым носам і цёмнымі, амаль карымі калючымі вачамі пад доўгімі брывамі, ад чаго ўвесь твар здаваўся цямнейшым. Уся ў бурачкова-чорным з белымі карункамі, з высока паднятымі густымі валасамі, у якіх пабліскваў толькі адзін маленькі брыльянцік сярэбранай заколкі.

Рослы маладжавы генерал пацалаваў руку вяльможнай госці і з пашанаю падаўся наперад плячамі, схіліў галаву, гатовы слухаць кожнае яе слова. Голас Магдалены быў нізкі, чысты і спакойны:

— Вы думаеце, гэты страшны голад у Казанскай і Уфімскай губернях... — Магдалена шматзначна замаўчала, чакаючы адказу.

— Але ж атрады дапамогі павінны...

— Павінны... Паненачкі з курсістак пакуюць у капялюшныя каробкі карамелі і пахучае мыла і едуць, бачыце, «на голад»...

— Цяпер у імперыі такі рух, — уставіў свае тры грошы і Броэль-Плятар. — Усе прагнуць у народ.

— І з народа таксама! Яшчэ больш!

Магдалена, а разам з ёю і ўсе прысутныя павярнуліся да ўладальніка нязвыкла гучнага тут, разкаватага голасу. Алаіза здзівілася, як гэта яна раней не заўважыла гэтага невысокага кучаравага маладога чалавека, твар якога, асабліва гэтыя вось як шкляныя, але прыгожыя блакітныя вочы, гэты насмешлівы голас і нават крыху адкінутыя назад акруглыя плечы адразу ж здаліся ёй знаёмымі. Не магла толькі ўспомніць, дзе і калі... Нешта перашкаджала, блытала думкі.

Блакітнавокі стаяў тварам да акцёра Любскага і, здавалася, менавіта яму, а не Магдалене і ўсім іншым прысутным тут, паясняў:

— Нават ваенныя афіцэры падключаны да ўдзелу ў спецыяльных атрадах загароды. Па вагонах вобыскі, каб затрымаць гвалтоўніцкую перавозку прадуктаў, якая можа паставіць пад удар голаду і іншыя раёны імперыі. Хай ужо там, у гэтым абсалютна гультайскім Паволжы, распінаюцца і пухнуць!

У пакоі запанавала цішыня. Магдалена, аднак, як нічога не пачуўшы, падышла да Любскага і лёгка кранула пальцамі каляны рукаў яго чорнай скуранкі:

— Кажуць, Павел Арленеў ужо не ўдзельнічае ў гэтых сумніцельных вадэвілях тыпу «Цётка Чарлея»?

Алаізе ўсё ж падабаўся чысты, спакойны голас Магдалены. І пастава... Калі б ёй далі іграць ледзі Макбет, можна было б падумаць пра вось такі фасон для сукенкі.

Любскі ўздрыгнуў, ягоны твар ледзь не ўспыхнуў жывым полымем.

— Мінулаю зімою мы разам працавалі ў Суvoраўскім тэатры.

Кацярына Аляксеева, якая ўважліва і раўніва лавіла кожнае слова Магдалены, жвава паднялася з крэсла, падалася насустрач:

— А я бачыла яго, калі вёў галоўную ролю ў «Фёдары Іаанычы». — Актрыса рэзка махнула маленькім кітайскім веерам. — Засведчу — з трыумфам! Мы ўсе тады проста зайздросцілі.

— Пасля няўдалай прэм'еры «Цара Барыса»... — Броэль-Плятар пагардліва хмыкнуў.

Але Магдалена не падтрымала яго.

— Бачыце, граф, я таксама помню Арленева з дзевяноста другога года. Тут, у Вільні, іграў Малчаліна. Ці не помніце і вы? Чацкім быў, здаецца. Ге? Цудоўная ігра!

— Адно імя Арленева... — Аляксеева гарэзліва рассмяялася. — Вечна п'яны і без грошай. Але такія буйныя хвалі валасоў і такія вочы... Чорныя!.. Плашч насіць, як вяльможа эпохі Адраджэння!.. На рэпетыцыі «Злачынства і пакарання» ў злосці і гарачцы ўскочыў у дырэктарскую ложу і выхапіў у Суворына кій. «За вяртанне гэтага кія, шаноўны, вам давядзецца дорага заплаціць!»

Магдалена, адчувалася, была стомлена гаворкай актрысы, але ветліва ўсміхалася і цярпліва слухала.

— Пасля ў рэстаранах прасіў запісаць доўг за кіем, на якім была манаграма: «А. С. С.». Кій належаў Суворыну, — зарагатала. — Дзякуй Богу, у Аляксея Сяргеевіча сапраўднае пачуццё гумару, і арленеўскія выбрыкі яго толькі забаўлялі...

Магдалена з усмешкай пахітала галавой і нарэшце павярнулася да кансоля, за якім стаяў Андрэй, лёгкім, але ўладным рухам рукі загадала яму сесці.

Следам за Магдаленай кінуўся і блакітнавокі, паслужліва падсунуў да кансоля вольныя крэслы. Сам

сеў каля Андрэя, ціха, але нязмушана, як са старым знаёмым, перакінуўся з ім некалькімі словамі пра ўчарашнія адведзіны... Якраз панізіў, прыглушыў голас. Алаіза ажно распрамілася ў крэсле, не адрываючы ад яго твару вачэй. («Так, напэўна, няветліва... Што гэта я?») Але гэта быў той самы жандарскі ротмістр, якога яна нядаўна сустрэла на кніжным складзе. І яшчэ раней — у Лянтварысе. Цяпер быў у цывільным. Але пры чым тут Андрэй? І пра што яны з гэтым пераапранутым жандарам могуць гаварыць?

— Я перашкодзіла, маладыя панове? — Магдалена паблажліва ўсміхнулася, прыкрыла вейкамі вочы. — Дык пра што цікавае?

— Пра шляхі да свабоды!..

— Свабоды?

— Дакладней, пра тое самае мужыцкае сялянства, якое паглынула ў сваю цемру дзевяноста працэнтаў нашага насельніцтва. І якое ў свой час не падтрымала вашага Каліноўскага, — гэта ўжо да Алаізы, але скасіўшыся на Андрэя.

— Генісарэцкі!

«Вось як, Генісарэцкі, значыць. Але адкуль ты, Андрэй?..»

— Ты выдатна ведаеш, што ён быў, па сутнасці, адзін.

— Як гэта — адзін? — Генісарэцкі, відно, узрадаваўся, што навязаў вострую тэму, заспяшаўся: — Чаму ж, калі бунтаўшчыкоў павялі на эшафот, то іх аказалася якраз многа.

— І ўсё ж такія, як Спартак, Каліноўскі, Касцюшка... Гэта адзінкі.

Не зважаючы ні на кога, Генісарэцкі са скептычнаю ўсмешкаю выняў з кішэні некалькі паперак, дэманстратыўна памахаў імі, як інтрыгуючы, зноў засунуў іх назад у кішэню.

— Давайце лепш пра мастацтва! — затрымаў у руцэ толькі самую вузкую, спісаную з двух бакоў дробным почыркам.

Алаіза здзіўлена ўзіралася ў паперку — якраз такую яна нядаўна знайшла на кніжным складзе.

Генісарэцкі высакародна ўздыхнуў:

— Я вельмі люблю Фларэнцыю. Хоць таксама... Жах! Гэтыя манахі сярэднявечча... Бацічэлі кідае ў агонь свае лепшыя малюнкі, а ў гэты час набірае сілу

магутны Леанарда... Зрэшты, прабачаюся, сказанае агульнавядома і нецікава...

(«Калі гэта тая самая паперка, то я нічога не разумею...»)

— Праўда, ёсць і іншае. Вось, паглядзіце... — Генісарэцкі паднёс жоўтую паперку амаль да самых вачэй. — Прашу паслухаць: «Чацвёртага красавіка каля Казанскага сабора...»

(«Але ж я аддавала гэта Андрэю. Ён сам тады, на Гедымінавай кручы, узяў з сумачкі...»)

Цёмныя Андрэевы вочы былі амаль невідушчыя.

(«Вядома, невінаваты. Гэты — Генісарэцкі — мог і ўкрасці!»)

— «...Максім Горкі, Пісараў, Мамін-Сібірак!» — паперка ў руцэ Генісарэцкага дрыжэла. — Што хочаце думайце... Але вось гэта, — Генісарэцкі павысіў тон, — гэта сапраўдная актыўнасць. Сапраўдная барацьба магутным рускім словам.

Магдалена, якая ўвесь час уважліва слухала суразмоўніка, не прамовіла ні слова. Той на хвілінку прымоўк, але зноў:

— А што крэмзаюць паэцікі з нашых тутэйшых нізоў? Вось! — Выняў з кішэні яшчэ адну паперку і паклаў яе перад Магдаленай. — «Ніўкі зжаты... Снапочкі ў полі... Наша доля, гдзе ж ты?!»

Гэта былі яе, Алаізіны, вершы. Яе, спісаныя вось гэтай рукою, лісткі, вырваныя са звычайнага школьнага сшытка.

— Хутаранская слязлівасць і пустая сентыментальнасць! — Генісарэцкі ўвесь час глядзеў толькі на Магдалену, і тая нарэшце адказала яму, але трошкі насмешліва:

— А можа, гэта проста замілаванасць краем, дзе гэтыя людзі нарадзіліся? «О, Літво, ойчызна моя!» Вось вы, дарэчы, дзе вы самі нарадзіліся?

— Разумею, пані, ваш падтэкст... Але ўсё ж ці можна напісаць пра Айчыну і свабоду на мове хамаў?! Да таго ж — патомных нявольнікаў?!

(«Але чаму ты маўчыш, Андрэй? Чаму?.. Аднак калі маўчыш ты — то я...»)

— Уся бяда гэтых нявольнікаў у тым, што яны ўсіх вас — кормяць! («Трэба ўзяць паперы, не пакідаць жа іх тут... Божа літасцівы, навошта гэты здзек?»)

Рашуча паднялася з крэсла. — Кормяць!.. Цэлыя стагоддзі... І сваіх, і такіх збродных з усяго свету!

— Супакойся, Алаіза.

(«А ты чаго трывожышся, Андрэй? Хацеў паказаць мяне вяльможнай?..»)

Гэта — як у тумане. Усё — як у белым тумане... І пачварна раздзьмутымі конскімі храпамі. З прывіднымі серабрыстымі ценямі высокіх, на цэлую галаву вышэйшых за звычайных людзей, антычных багоў і феніксаў... Як на свяцільніках графа дэ Броэль...

(«Снапочкі ў полі», «Доля ж ты наша...») Як жа пагардліва ён гаварыў пра ўсё, гэты Генісарэцкі. Але чуўся моцна! Моцна... Бо ведаў, што ніхто за гэтую ніўку хамскую не заступіцца. Усім сорамна, бачыце. І ніхто не запытае, чаму ў гэтага цюцькі ў зубах апынулася маё сэрца...

...У вочы сыпанула снежнай сечкай. На двары было ветрана.

— Пачакай, трэба наняць што.

— Не трэба. Мне блізка.

— Не блізка. Ды яшчэ такім холадам.

Андрэй неспакойна абмацваў вачамі аснежаную вуліцу, але ніякіх вазакоў нідзе блізка не было. Ціха, але злосна вылаяўся.

Не азіраючыся і не ўпяміўшы, ці ў той бок яна цяпер павярнула і ці патрапіць дахаты, ледзь не пабегла ад Андрэя, на хаду зашпільваючы доўгае, на тонкай ваце паліто. Пальцы адразу ж задубелі.

Нарэшце пачула за спінаю гучнае конскае фырканне і рыпенне палазоў, міжволі прыпынілася каля тонкага цёмнага слупа з пагаслым ліхтаром, на каптур якога насеялася цэлая снежная шапка. Зірнула перад сабою: уздоўж няроўна вытаптанага тратуарнага ходніка тырчалі шэрыя снежныя гурбы, асабліва каля самых сцен завулка, яго анямелых і аглухлых ужо звечара шэрых камяніц.

Сані спыніліся, з іх тут жа саскочыў Андрэй і, не кажучы ні слова, падняў яе на рукі, пасадзіў на мяккае, ледзь прыпушанае снежным пылам сена.

— Кажушыну вазьміце. З галавою ўсенькі накрыйцеся.

Вазак дадаў яшчэ: «От так!», нокнуў на каня, і сані, разануўшы слых скрыпам палазоў, хутка пасунуліся наперад.

Яна і сапраўды сагрэлася, удыхаючы густы пах зімовага сена і павільгатнелай ад іхняга дыхання мяккай аўчыны.

Гэты церпкі, з аскомінаю на зубах, такі родны вясковы пах нечакана дарэшты расслабіў. Зусім цяпер і не помніла, адкуль жа едзе і колькі часу ўжо сядзіць вось так, у моцных Андрэевых абдымках, закручаная ў мяккі цёплы кажух. З душы пачало ўздымацца ружовае пругкае святло, настойліва ўдараючы ў скроні.

Здавалася, што гэта важкая, такая густая і колкая, поўная высокай травы паляна атуліла цяпер плечы сваіх закаханых дзяцей, аддзяліўшы іх ад грубай знешняй рэальнасці.

Паміж іхнімі рукамі, вуснамі, пераплеценымі пасмачкамі валасоў быў ліпень. Духмяны і хмельны...

«Я зайграла [redacted] смехам кветак... Нівак шэптам залацістых... Звонам струнаў, касы ўлетак... Мёдам ліп з садоў душыстых. Я зайгра... Не — не... Нешта не так! Звонам... Звонам — серпа! Вядома, серпа, а не струнаў... Звонам серпа, касы ўлетак...»

— Алаіза...

Які лагодны, сагрэты дыханнем шэпт. Ледзь чутны, бо такі глухі.

— Алаіза...

І раптам:

— ... я ні ў чым...

Адкінулася ўбок, як вяртаючыся з далёкага салодкага дня ў гэтую жахлівую ноч.

— .... я ні ў чым не вінаваты!

Прамаўчала, і Андрэй цяжка ўздыхнуў, як вырваўся сам з сябе:

— Ты думаеш, каб я выхапіў з рук... пляснуў яму па мордзе?! Так? Але — людзі. Зрэшты, гэта было б проста неінтэлігентна.

«Не. Ін. Тэлі...»

Сані раптам рэзка спыніліся.

Андрэй скінуў з сябе крысо кажуха і саскочыў на дарогу.

Снежная соль тут жа балюча шарганула Алаізу па вачах, нават не паспела зажмурыцца.

— Ты што, спаў? Спаў?! — Андрэй злосна ўдарыў вазака па плячы і кінуўся да ашалелага каня, які ледзь не садзіўся на сані і спалохана хроп.

Зусім блізка, перарэзаўшы ім вузкаю дарогу, ледзь не да самага неба шугала полымя. Каля двух суседніх, яшчэ не ахопленых агнём рабочых баракаў мітусіліся людзі.

— Назад варочай, дурань! — Андрэй ледзь не ўпаў, паслізнуўшыся на падталым цёмным снезе.

— Гэй! Тут... Двое абгарэлі... — Да санак бег рабочы ў кароткім расхрыстаным пінжачку, без шапкі. Здалёку было відна, які ў яго чорны, увесь у сажы, твар.

— Ды назад ты, падла! — Як не чуючы нічога, Андрэй заварочваў каня, з маху адкінуўшы на сена перапалоханага вазака.

Азірнуўся, глянуў на Алаізу:

— Калі за намі зоймецца, то... Алаіза... Ты куды? Я прашу!..

Не хацела і чуць яго!

Баялася аднаго — адстаць ад таго самага рабочага ў кароткім пінжачку, які прасіў у Андрэя дапамогі, а цяпер спяшаўся да вялікай драўлянай будыніны, што стаяла зусім блізка каля палаючых баракаў.

Насустрач Алаізе бегла тоўстая невысокая жанчына з распатланымі, нічым не прыкрытымі валасамі, у вялізным доўгім кажусе. Кінула на снег пустое вядро, і яно пакацілася Алаізе пад самыя ногі. Ледзь не ўпала, спатыкнуўшыся аб яго. Азірнулася, але рабочага ў пінжачку ўжо не ўбачыла. Адно толькі шугала полымя.

Праз гадзіну Алаіза выйшла на суседнюю вуліцу. Хвіліну адпачыла. Зірнула ўверх, туды, куды прагна цягнуўся жоўты, ужо крыху прыцішаны людзьмі пажар. Удыхнула горкае, дымнае паветра.

Ці гэта сам д'ябал у чорным скураным фартуху, пагардліва выскаліўшыся да людзей, ці Гефест, які некалі скаваў ланцуг для свайго сябра Праметэя і цяпер скрушна ўздыхае, ці, можа, сам Праметэй са збалелым, ды ўсё яшчэ мускулістым дужым целам, ці гэта...

Яна бачыла, як нейкі магутны каваль, нахіліўшыся над зямлёю, раз-пораз падымае свой цяжкі молат і зноў павольна апускае яго на чырвонае кавадла нізкага вогненнага неба.

...Не ведала, колькі ўжо абхадзіла, але калі ногі ўжо амаль не рухаліся, прыпала плячом да дзвярэй у цёмным незнаёмым пад'ездзе і гучна пастукала. Хоць і не чакала адказу.

У горадзе, які сярэдначы нікому не адчыняецца, чулася цяпер бясконца стомленай. Прыкінуўся халодны глухі страх.

Як ні дзіўна, за дзвярамі прашалясцелі крокі. І яшчэ дзіва: нават не пытаючы, хто стукае, ёй адчынілі.

Маленькая, акуратная, маладая жанчына з распушчанымі саламянага колеру валасамі. Пад электрычным святлом яе твар здаўся вельмі бледным.

— Там пажар...

— Ды заходзьце ж! — гаспадыня гаварыла палітоўску. — Маткай Боскай клянуся, вы ўцеклі з самога пекла...

— Там пажар! — паўтарыла хрыпла. — Двое...

— Згарэлі?

— Амаль...

— Зноў Божа міласэрны, адзіны ў святой Тройцы, заклікаў гаротных да сваёй святой веры і вечнага жыцця... Бяда, бяда! — гаспадыня павярнула галаву да залы. — Ёнас, калі ласка, памажы... А вы заходзьце!

Калі пераступіла парог, міжволі азірнулася. Край неба ўсё яшчэ быў чырвоны. І важкі молат усё біў і біў па гарачым нябесным кавадле, асыпаў на зямлю вуголле зорак і зноў біў, нібыта каваў там ключы да крыштальных дзвярэй новага стагоддзя.

Ужо дваццатага.

## 8

Мінула некалькі месяцаў пасля таго, як адбылася гэтая сустрэча.

«Вялікая гродзенская самотніца» Эліза Ажэшка сама сустрэла сваю амаль удвая маладзейшую госцю Алаізу Пашкевіч. Нібыта ва ўсім вялізным доме больш нікога, апроч яе, і не было. Стаяла перад Алаізаю з высока паднятай галавою: над бледным лобам мякка свяціліся зачасаныя ўверх, акуратна сабраныя касцяной заколкаю, сівыя валасы. Замест прывітання з годнасцю, але ветліва кіўнула і, не пытаючы ў госці ні прозвішча, ні мэты візіту, рэзкім рухам рукі запрасіла

ўваходзіць. Але не на другі паверх, куды вяла лесвіца, а на першы.

(Аднак не, у доме быў яшчэ нехта: калі праходзілі залу, пачуўся прыглушаны дзявочы смех. Праўда, у якім пакоі — не разабраць...)

Нарэшце апынуліся ў невялікім і цесна застаўленым старою мэбляю глухім кабінеце: Алаіза тут жа пусціла па ім спадылба прытоены позірк. Аднак вочы хацелі бачыць адну гаспадыню.

Ажэшка была ў сукенцы шэра-блакітнага колеру, і ад таго яе прадаўгаватае, амаль без маршчынак аблічча выдавала маладзейшым; нават карыя вочы пасвятлелі, злёгку заблішчалі, павільгатнелі. Вось яна ўзяла з паліцы тоўстую, у вішнёвых вокладках кнігу, палажыла яе на круглы стол, засланы даволі просценькім, вышытым гладдзю ў цёмныя ружы абрусам. Стомлена абаперлася на край стала рукою і перавяла дыханне.

Затым важка апусцілася ў крэсла з высокай, пацягнутай чорным лакам і ўпрыгожанай разьбянымі ўзорамі спінкаю. Слізганула па Алаізе раўнадушным позіркам, нехаця ўсміхнулася:

— Мне, мілая паненка, найбольш падабаюцца кнігі-манашкі, — павяла пальцам па тонкім аброжку вокладкі. — Не заўважалі? Ва ўсім цёмным і моляцца дзень і ноч. А вось думаюць такое, што чытаць брыдка!

— Ёсць і манахі, — Алаіза заспяшалася, загаварыла гучна і блытана. — Ды не! Не... Найбольш ксяндзы. Але ж... Ксяндзы!

Зразумеўшы, што лішне гарачыцца і нервуецца, тут жа прыкрыкнула на сябе: «Маўчы, язычку, то кашкі дам!», але не стрымалася:

— Тоўстыя і дыхаюць цяжка. Толькі крыжыка на жываце, на тым ланцужку, бракуе!

Ажэшка ўсміхнулася, казытнула яе крыху насцярожаным позіркам, маўляў: «Пабойся граху, дзеўка!» Але ўслых ушчуваць не стала, а толькі таропка («Ох, што ж гэта я?») кіўнула на крэсла, што стаяла якраз насупраць. Алаіза паслухалася і, сеўшы, адразу ж з палёгкаю выпрастала пад сталом находжаныя ногі. Заўважыла, што Ажэшка спачувальна глянула на яе, нават уздыхнула, і яшчэ вышай падняла галаву, прыціснуўшы густыя валасы да высокай спінкі крэсла. Прымружыла вочы.

У кабінеце залегла ціша.

Алаіза ўсё ніяк не магла адысці ад стомленасці, таго зацятага ўнутранага ўтрапення, якое адчула адразу ж, як толькі апусцілася з вагоннай прыступкі на цвёрды наст гродзенскага перона.

Яшчэ і цяпер ёй здавалася, што яна зусім не сядзіць у гэтым ціхім утульным кабінеце, а ўсё тупае па вузкай зялёнай вуліцы, пакутуючы ад прыкрага мільгацення ўваччу і неадольнага адчування страху — а што, калі вось тут, на вуліцы, пры ўсіх, яна раптам сустрэне Ажэшку?! Аб чым загаворыць?

Усе, каго яна спыняла па дарозе са сваім адзіным пытаннем, з нейкай асаблівай гатоўнасцю і павагаю на тварах паказвалі ёй дарогу. Таму дом Ажэшкі, блізу мосціка, з высокімі вузкімі вокнамі, знайшла адразу ж. Спачатку некалькі разоў прайшлася міма яго па супрацьлеглым баку вуліцы, узышла на мост праз вузкую рачулку. Намагалася здалёку зазірнуць унутр хоць аднаго з пакояў, заўважыць там рух, каб упэўніцца ў прысутнасці людзей. Але ўсё было дарэмна. Ні ценю, ні гукаў... Дом нібыта амярцвеў. Нечаканае здрадлівае жаданне кінуцца адсюль назад, на вакзал, адчувала ўжо амаль фізічна — на вуліцы было ціха, але па яе апушчанай галаве, здалося, крataючы валасы, прабягала хваля ўяўнага ветру.

Нарэшце стала прыкмячаць на сабе насцярожаныя позіркі прахожых, разнервавалася і махнула рукою: «Хоць на дзіравы мост!» Пераходзячы праз дарогу, чула, як часта і моцна, ледзь не зрываючыся, трапеча сэрца.

(«Няўжо яна дасюль не пазнала мяне?»)

Схіліла галаву да пляча і здзівілася: той гучны балючы стук сэрца ў грудзях не аціхаў і цяпер, у кабінеце.

— Пані Ажэшкава, а як вы самі думаеце... пра свае кнігі?..

Ажэшка падняла нерухомы, як схаваны пад маску, адразу ж пацямнелы твар.

(«Сто, тысячу разоў яна адказвала ўжо на гэтае дурное пытанне! Дык не ж, на табе! Яшчэ і я...»)

— Паненка, пэўна, думае...

Здалося, што гэтым глухім голасам загаварыў не жывы чалавек, а цень альбо прывід.

Алаіза ўжо нічога не бачыла, адно толькі напружана стаіла дыханне. Нават нечаканы вырата-

вальны стук у дзверы здаўся ёй цяпер рэзкім попічакам. Ажэшка таксама як апрытомнела, памкнулася наперад. Але не паспела нічога сказаць: у кабінеце перад ёю ўжо стаялі дзве дзяўчыны. У светлых аднатонных сукенках, з мяккімі палярынамі на плячах. Адной было гадоў дзевятнаццаць, другая выглядала амаль дзіцем.

— Пані, — гэта няўпэўнена пачала старэйшая, — пані дазволіць пагуляць?!.

(«Ты глянь! — Алаіза нават здзівілася. — Не па-польску! Ці не з вёскі якой?»)

Ажэшка даволі строга скасілася на паўнагрудую красуню, з хваляю цёмных бліскучых валасоў да самых плячэй, з гарэзліва прыжмуранымі вачамі.

— А гарбаты вы нам з госцяю прынеслі? Э-э-э?

Духмяная гарбата — у прыгожых фарфоравых кубачках, пастаўленых на неглыбокія талерачкі, з'явілася на стале праз адну-дзве хвіліны. Дзяўчаты, відно, добра ведаючы нораў гаспадыні, прыгатавалі яе загадзя.

— Дык пані дазволіць?

— А ручкі не памерзнуць? — Ажэшка насмешліва кіўнула на палярыны. Цягнула час.

— На дварэ так пахаладала! — прапішчала, надзьмуўшы вусны, малодшая — з каштанавымі, як у сястры (былі вельмі падобныя), густымі валасамі і наіўна расшыранымі, як бы здзіўленымі ад маладосці вачамі.

— Пахаладала! «Poszedł Marek na jarmarek!»[1] Чым марна шліфаваць тую вуліцу, то лепей пачыталі б!

— Але ж, пані, свежае паветра для маладога арганізма...

— Вы чуеце? Усюды яе гліна нос усуне! — Ажэшка гучна засмяялася, ажно тупнула нагою пад сталом. Нарэшце ляніва махнула рукою. — Калі гэта хто пытаў у мяне?

Дзверы за дзяўчатамі тут жа зачыніліся, пачулася толькі таропкае тупанне і прыглушаны смех.

— Старэйшую хутка буду выдаваць замуж, — Ажэшка задумліва правяла пальцамі па стале, як прыгладжваючы абрус, насупіла густыя бровы.

---

[1] Пайшоў Марак на кірмаш! *(польск.)*

(«І адразу ж пастарэла».)

Перад Алаізаю і сапраўды сядзела ўжо іншая, бясконца змучаная жыццём і ўласнай душою немаладая жанчына — з прыгнутымі плячамі, бязвольнымі, важкімі рукамі, якія ляжалі якраз цяпер на кнізе, на яе шурпатай вішнёвай вокладцы. Толькі вочы былі ранейшыя: з-пад рэзка акругленых верхніх павекаў плыло моцнае, прытоена-страснае святло цёмных вачэй.

Загаварыла ціха, як і не зважаючы на Алаізіну прысутнасць, а толькі думаючы ўслых:

— Найбольш вось такія чыстыя дзявочыя душы і крышталізуюць у сабе самыя здаровыя асновы народнага характару, самыя лепшыя рысы яго... — Устрапянулася, лёгка стукнула далоняю па кнізе. — А!

Нарэшце паднялася з-за стала, вярнулася ў залу да распаленага камінка недалёка ад кабінетных дзвярэй, падкінула ў атухаючы агонь два кароткія бярозавыя цурбанчыкі. Зябка павяла плячамі.

— Я, мілая паненка, апошнія гады маю грэх прыхворваць летам. Хрыплю, мерзну, — скептычна ўсміхнулася. — У кожнага з нас нават тое добрае, што было ў жыцці, — знікае. Асабліва пад старасць.

Апусцілася на вузкую, засцеленую паласатай грубай дзяружкаю канапу, што стаяла бокам да камінка, абаперлася локцем на вышытую падушачку.

— Ніяк нельга дапускаць, каб дом, у якім ты жывеш, апусцеў. Цяпер тут са мною толькі людзі новыя, маладыя. Не знаюць майго мінулага, ды і сёння, — скрушна дрогнула вуснамі, — зусім не здольныя да сяброўства. Мілыя дзяўчаты! Мілыя істоты, над якімі я працую і выпраўляю ў людзі... Адпаведна здольнасцям кожнай. Пералётныя птушкі! Яны, вядома, удзячныя, але, разумееце, тут не можа быць ніякага цяпла ад сэрца...

— Але чаму?

Ажэшка, не адказаўшы, расхвалявана працягвала:

— ...ды і ніякага паяднання разумовага. Мілыя істоты!

Алаіза зноў памкнулася запярэчыць ёй, і тут Ажэшка як успомніла:

— Што ж гэта я, зрэшты?! Вы ж госця... Прабачце ўжо, вазьміце крэсла з кабінета ды ідзіце сюды. Праўда, яно цяжкае...

— Не падарвуся!

— Але ж! Такой маладой, як вы...

Алаіза паслухмяна падняла і перанесла, паставіла крэсла насупраць канапы. Цяпло ад камінка абвеяла правае плячо.

— Сядайце зручней, зручней. І выпрастайце ногі перад агнём.

— Ды...

— Так-так! Няхай паненка пагрэе ножкі!

(«Напэўна, усё ж не пазнала мяне. Бадай гэтую Франку!»)

— Пагрэйцеся, пагрэйцеся! А то з халодным настроем не будзе ў нас гаворкі ні пра якія справы літаратурныя, warsztatowe, як кажуць! — Ажэшка весела хмыкнула, але тут жа пасуровела, здзіўляючы Алаізу такой здольнасцю імгненна мяняцца, панура апусціла галаву. — Я не крыўдую на паненку за тое («От яно! Пачынаецца!»)... за тое гвалтаванне маёй Франкі.

— Я прыехала, каб прасіць...

— Так ёй і трэба! Не люблю Франку!

— Але ж вы яе шкадуеце.

— Шкадую? А як жа! Шкадую. Як і ўсіх сваіх дзяцей. Але не люблю.

Ажэшка прыўзнялася на канапе, нервова папраўліла падушачку. Скасілася на Алаізу.

— Зрэшты, хіба яна вінаватая? Га-а?

І сама сабе адказала:

— Хто знае...

Алаіза адчула, што ёй трэба цяпер толькі слухаць.

— Прызнаюся, спачатку хацела даць вам добрую пстрычку. А пасля падумала... — вочы Ажэшкі пацяплелі. — Калі нават на сцэне перад поўнаю залаю, перад людзьмі вы не змаглі перасіліць у сабе таго пачуцця... О-о-о! Гэта сведчыць аб душы з магутнымі эмацыянальнымі патэнцыямі... — задумалася, адвярнуўшыся ад камінка, — і, пэўна, здольнасцю да самаахвяравання! У вас, паверце, жыццё і пачуцці яшчэ не ўступілі ў той смяротны канфлікт, які ўрэшце ўсё роўна завершыцца перамогай будзённасці. Усясільная будзённасць! Ах-х!.. Але няхай. Калі тое яшчэ будзе?!

— Значыць, перамагае жыццё?

Ажэшка марудна, уважліва разглядвала кожную рысачку на Алаізіным твары («...хоць скрозь зямлю праваліся!»), нібыта некага пазнаючы ў ёй. Апусціла вочы, заківала галавою. І раптам замкнулася ў сабе,

імгненна аддалілася і ад Алаізы, і ад усяго, што іх цяпер акружала. Шапнула: «Перамагае жыццё...», пераняла позірк на агонь у камінку — глядзела на яго доўга, неадрыўна, мыляла вуснамі.

...Гэта Андрэй, зноў Андрэй, нахіляецца над Алаізай і ў самае вуха, так, што казыча вуснамі мочку, шэпча:

— Я прашу цябе, не плач. Усё было добра.

— Яна пайшла.

— Ну і што? Знецярпівілася! Ты ж не прымадонна. Ды няхай яны ўсе спрахнуць, гэтыя Франкі! Не плач...

Андрэй гладзіць яе, чыста малую, сваёй гарачай рукою. Па валасах, потым — па скронях, па шчоках. Дакранаецца да вуснаў, якія, здаецца, вось-вось успыхнуць жывым агнём...

Алаіза адчувае на сабе нечы моцны, вельмі моцны позірк, падымае і потым паварочвае галаву... І тут жа — сурова-калючыя, крыху насмешлівыя, (яе!) цёмныя вочы.

— Здаецца, і вы, мілая паненка, уступаеце ў тую пару, калі чалавек пачынае глядзець ужо болей не навокал, а толькі ўглыб, унутр сябе!

Ажэшка па-змоўніцку схіліла набок галаву. Але Алаіза маўчала.

— А дзе той малады прыгожы пан, з-за якога вы тады... Помніце? І людзей не бачылі!

— Вас жа ўбачыла.

— Э-э... Не кажыце. Смешна. Каму я ўжо трэба? Каму?.. Як уздумаю, то галава — як млынам пушчана.

(«Як яна можа так крывадушнічаць? Какецтва нейкае! Маючы столькі напісанага, столькі славы, столькі захопленых людзей вакол сябе...»)

— Як гэта каму?!

— Некаторыя кажуць: народу. Але я ў тое не веру. Народ вялікі, а я такая малая. Хіба не мог бы ён абысціся і без мяне? — Ажэшка дробна засмяялася, нават вочы пасвятлелі. — Зрэшты, мілая паненка, няхай так і будзе: народ, абстракцыя. Я ўмею любіць абстрактнае, ім-то, папраўдзе, даўно жыву. Але скажыце, а вось яму, таму абстрактнаму, я сама патрэбна? — паднялася з канапы, падкінула ў камінак яшчэ адно кароткае бярозавае паленца. — Дзе там!

— Як вы можаце на сябе нагаворваць, пані Ажэшкава?

(«Чаму яна смяецца? Яна што, насміхаецца з мяне?»)

— Як вы, пані Ажэшкава, можаце гаварыць пра нейкія абстракцыі, калі мне нават цяжка ўявіць, што чалавек... што жанчына... вы вось! — маглі столькі зрабіць. Гэта ж... — Алаіза парывіста махнула рукою на кніжную шафу ў глыбіні кабінета. — Гэта ж усё ваша! Сэрца, душа, жыццё... Прабачце, але мне цяжка паверыць...

— Што ўсе мы людзі? — Ажэшка рэзка падняла галаву, блiснула вялікімі вільготнымі вачамі. — Самая шчаслівая для мяне хвіліна, калі я думаю аб тым, каго люблю, да каго ад мяне снуецца залаты цёплы праменьчык... І хто сам любіць. І калі думае пра мяне, то мае перад вачамі не толькі чорныя літары майго прозвішча на паперы... Не толькі... Але найперш душу маю. Гэта нават больш, чым каханне.

— Хто можа адмовіцца ад зямнога шчасця?! Ды і як адмаўляцца? Навошта?! Але ўсё роўна... Пані Ажэшкава, і не кажыце... Усё ў такіх, як вы, ідзе на адно: натхняцца ад рэальнага жыцця! Карміць, карміць вечнае сваё дзіця — талент! — Алаіза перадыхнула, але яе маўчанне доўжылася не болей як хвіліну. — Прабачце, я не знаю... Можа, памыляюся... Але я думаю, пані, што такія, як вы, — я так думаю! — моцна любяць. Вельмі моцна, — зноў памаўчала, як ахалоджваючы свой імпэт. («Далібо, падумае, што кручоная штучка з мяне!») Аднак бачыла, што Ажэшка назірае за ёю з цікавасцю. Гэта хвалявала і надавала большай смеласці. — Пасля вы ўсё роўна гэтыя свае пачуцці аддаяце абстракцыі. Ці не праўда? Усе свае зямныя, рэальныя пачуцці...

— Вы ставіце пад сумненні магчымасць шчасця для мяне? Што ж, не буду спрачацца. Аднак жа сталасць і дасканаласць шчасця прыходзяць да нас пасля спазнання ўсіх пачуццяў... І самых высокіх, і самых нізкіх. Перажытых — намі.

Ажэшка паволі выпрасталася, прыкрыла твар далонню, але тут жа апусціла руку, разгладзіўшы на каленях сукенку.

— Сэрца не вытрымлівае! Хапаеш пяро, пішаш, пішаш... Нават гэтае бяссоннае пісанне як адпачынак! Як лекі! Пакуль накорміш тое, як вы кажаце, вечнае дзіця, то ўжо і некалі жыць! Дзіця... О, яму патрэбны іншы хлеб — нашы пакуты, нашы памылкі, нервы,

наш прах! Каб мы закохваліся да самазнішчэння... Да нейкага шаленства!

Ажэшка ўжо не заўважала, што цяпельца ў камінку ледзь дыхала: толькі рэдкія зорачкі ўспыхвалі над бязважкім серабрыстым попелам.

— Вы яшчэ толькі пачынаеце, мілая паненка. Але не чакайце ад лёсу літасці... Спагады... Разумення! У вандроўку да зорак мы адпраўляемся на адзіноце. Я не хлушу ні вам, ні сабе, калі гавару: мая творчасць такая малая, а я ж аддала ёй усё жыццё! Папраўдзе, дык нічога, акрамя творчасці, нічога больш не хацела ад жыцця! Ды і не бяру... Але калі ўжо лямпа тухне, то не трэба падкручваць кнот. Лямпе проста не хапае паліва — дароў каралевы Сабы...

— Дароў?..

— Таго бальзаму, што даецца чалавеку вялікай працай. Цярплівасці, што здабывае золата з нікчэмнай зямной руды... Таго духу, які сягае ў вышыні. Ах! Я ўжо напісала аб гэтым аднаму пану... Даўнавата, праўда. Зрэшты, не, не так і даўно.

Ажэшка стомлена падналася з канапы і вярнулася да стала. Алаіза таксама ўстала, трымаючыся рукою за высокую чорную спінку крэсла.

— Я так удзячна вам, пані Ажэшкава.

— За што? Вы ж хацелі пачуць палкія словы аб мілым ценжару літаратурнай славы, аб таямніцах майстэрства! Спакой і гардыня...

— Я зразумела самае важнае. Усё, што прыйшло да нас ужо гатовым і правераным, — усё трэба выпрабоўваць сумненнем.

— Скептыцызм?

— Не, аптымізм, пані. Выпрабоўваць сумненнем, значыць, імкнуцца паляпшаць.

Ажэшка задаволена засмяялася і, крыху схіліўшы галаву, зірнула на Алаізу ўжо вясёлымі, добрымі вачамі.

За дзвярамі раптам пачуліся крокі.

— Ну вось, дзяўчаты вярнуліся!

Але не, крокі былі даволі гучныя. Стук у дзверы таксама здаўся лішне рэзкім і патрабавальным.

— Прашу!

Алаіза чакала ўбачыць у гэтых адчыненых дзвярах каго хочаце, але толькі не жандарскага афіцэра. Ад здзіўлення і раптоўнага прыліву агіды заплюшчыла на хвіліну вочы. Потым павольна, як у сне, апусцілася на

канапу, на тое самае месца, дзе перад ёю сядзела Ажэшка. Толькі цяпер прыкмеціла, што афіцэр немалады, даволі высокі і грубы на выгляд — шырокі жывот ледзь умяшчаўся пад белым кіцелем. Усё болей нервуючыся, здзівілася той падкрэсленай ветлівасці, з якой Ажэшка запрашае афіцэра сесці. Амаль фізічна адчула чужароднасць гэтага чалавека ўсяму, што запаўняла цяпер кабінет Ажэшкі, што тут адбывалася.

— Прашу садзіцца!

— Не-не!

Сухое пстрыканне пальцамі.

(«Чаму яны ўсе любяць пстрыкаць пальцамі? Той, Генісарэцкі, таксама!»)

— Не хацелася б у прысутнасці старонніх асоб.

— У мяне няма прычыны выпраўляць госцю. Калі пан афіцэр хоча...

— Не-не! Зрэшты... Я ўпэўнены, што наша гаворка застанецца пры нас. Прашу ўспрыняць мой прыход як звычайную фармальнасць... Ды і справа простая. Адкажыце, ласкавая пані, ці маеце экземпляры такога, вядомага вам, Багушэвіча?

— А калі маю, то што? Пан афіцэр хоча...

— Не-не!

— А ў чым жа мітрэнга?

— Як забароненая, кніга афіцыйна падлягае знішчэнню.

— Пан афіцэр хоча...

— Не-не! Я не схільны падтрымліваць тую думку, што вас і таго мужыцкага прарока, — стомлена ўздыхнуў, — нешта звязвае. Абсурд, прыдуманы мясцовымі пісарчукамі.

— Цікава... А як вы думаеце, вось я — мужыцкая? («І праўда — цікава, як ён у сапраўднасці думае?!»)

— Вы? Не-не!

— Ну, дзякую, — у голасе Ажэшкі зазвінеў такі чысты моцны метал, што афіцэр яшчэ раз пстрыкнуў пальцамі і заспяшаўся запытаць:

— А як здароўе пані? Я, знаеце, пакутую...

Гэта было ўжо вышэй яе цярпення — Алаіза адняла ад шчакі павільгатнелую далонь, скептычна зірнула на жандара:

— Калі вы так любіце... то хоць «Хама» пачыталі б! Ці «Над Нёманам»! Пісарчукамі...

І тут жа прыкусіла язык. Адчула сябе і сапраўды лішняю ў гэтай дарослай гульні — яе ажно кальнулі насмешлівыя мужчынскія вочы.

Але не адвярнулася.

Жандар усё яшчэ стаяў і ўпіраўся ў стол шырокім мяккім жыватом. Лёгка скасіўшыся на Алаізу, пакланіўся Ажэшцы, спрытна паднёс руку да брылька і развітаўся. У дзвярах, аднак, яшчэ раз прыпыніўся і казырнуў:

— Думаю, што ніякіх «дудак беларускіх» у вас няма, пані Ажэшка. А таму няма патрэбы рабіць вобыск.

Пакланіўся. Гучна зачыніў за сабою дзверы.

Ажэшка адразу ж павярнулася да Алаізы, на яе бледным твары зацямнелі бурачковыя плямы, усхвалявана павысіла голас:

— Знаеце, пра каго ішла гаворка?

— Не.

— Ну-у? Думала, не прызнаецеся, — яна неяк адразу ж паспакайнела, засмяялася задаволена. — Малайчына вы ўсё ж... — прыўзняла галаву. — Пан Багушэвіч памёр вясною, летась. А перад тым мы бачыліся. У нас было што ўспомніць з ім. Было што... Той шэсцьдзесят трэці! Gloria victis![1] Я заўсёды казала яму, што да велічнага пераможнага пажару нас не дапусціла замкнутая мужыцкая хата! — Маршчынка на яе лобе, над самымі бровамі, зрабілася яшчэ глыбейшая. — Не хачу, каб у вашай памяці астаўся толькі гэты мой сённяшні меланхалічны стан. Усё не так... Але знайце, калі я напісала хоць што вартае, то гэта зрабіў са мною і ўва мне толькі шэсцьдзесят трэці год... Gloria victis!

Апошнія два словы Ажэшка амаль прашаптала, потым падышла да напаўадчыненай кніжнай шафы, нагнулася і, амаль не шукаючы, выняла аднекуль маленькую кніжачку ў шэрай, як світка, вокладцы.

(«Кнігі падобны на людзей...»)

— У кожнага з нас павінен быць свой шэсцьдзесят трэці год... — працягнула руку з кнігаю праз стол. — Вазьміце! Яна напісана па-беларуску. Калі мая інтуіцыя не лжэ, то яна вам, Алаіза, прыдасца! — Дзівіцеся, што ведаю ваша імя? А я яшчэ тады пра вас распытала, у Вільні. Вельмі ж вы маю Франку збэсцілі! Таму і запомніла. Вось так! — засмяялася. — Пайду патурбуюся, а то мае птушачкі нас і без абеду пакінуць. Яны такія.

---

[1] Слава пераможаным! (лац.)

(Алаіза ўжо ведае, як пылам асыпаюцца на зямлю сцены высокіх камяніц. Як знікаюць любыя перашкоды перад сілаю ўяўлення...)

Францішак Багушэвіч. Дудка... беларуская.

Слова, падобнае на вогненны шар, можа каціцца па гразкай дарозе, па лузе і полі. Ажно людзі з хат выбягаюць. Яна бачыць гэта на ўласныя вочы...

Вось яно прыпыняецца перад ёю, слова, акруглае, улітае ў тонкую бліскучую абалонку. І Алаіза асцярожна бярэ гэты шар і падымае над сабою. Але раптам ён пачынае дрыжаць, яшчэ больш загараецца чырванню знутры і імгненна лопаецца, расцякаецца па яе руках, апякаючы.

«Братцы мілыя, дзеці зямлі — маткі маёй! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, ды і не мы адны, а ўсе людзі цёмныя «мужыцкай» завуць, а завецца яна «беларускай»...»

Вакол — мора людзей, усе хвалююцца, калышуцца ў розныя бакі, як хвалі ад ветру, нічога не слухаюць. Нагінаюцца да зямлі, бяруць у рукі каменне — і кідаюць!

«Я шмат гдзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў: і пераканаўся, што мова нашая ёсць... не пакідайце ж... Каб не ўмёрлі!»

Адарваўшыся ад кніжкі, агледзелася, як бы пановаму ўсведамляючы, дзе знаходзіцца. Каб надоўга запомніць кабінет Ажэшкі...

Вялікі цемнаваты партрэт ужо немаладога пана — у важкай раме на сцяне насупраць дзвярэй. Некалькі крэслаў з высокімі чорнымі спінкамі, медны падсвечнік на этажэрцы з часопісамі.

«Tygodnik ilustrowany». На вокладцы — партрэт самой Ажэшкі, але яшчэ маладой.

Асобна палічка з некалькімі кнігамі, тоўсты светлы альбом на стале, начная лямпа з круглым шкляным абажурам, нізкая, засланая грубай дзяружкай канапа насупраць камінка. Зусім блізка на сцяне — зялёны пейзажык у рамачцы, побач — яшчэ адзін пейзаж: горы, укрытыя смарагдавымі льдамі і снягамі. Унізе подпіс дробнымі літарамі: «Швейцарыя — гэта рай зямны».

— Абедаць! Вось так!

Нават не заўважыла, як Ажэшка ўвайшла ў пакой.

— Абедаць, Алаіза!

Ажэшка паспела пераапрануцца. Была цяпер у цёмна-зялёнай, ледзь не чорнай, важкай суконцы з мноствам карункаў. Па-ранейшаму акуратна зачасаныя ўверх і сцягнутыя касцяною заколкаю сівыя валасы, суровыя, з густымі веямі цёмныя вочы на прадаўгаватым твары... Усё гэта надавала твару яшчэ большай непрыступнасці і строгасці. І толькі поўныя падфарбаваныя вусны лагодна ўсміхаліся.

— А кніжку гэту, Алаіза, вазьміце сабе.

— Тут надпіс, — Алаіза перагарнула тонкую вокладку, прачытала ўслых: — «Каралеве жывога слова і пакутлівай праўды».

— Нічога. З панам Багушэвічам мы як-небудзь дамовімся. Вось хутка сустрэну яго, і... Ну, а з мясцовымі ўладамі, думаю, будзе лягчэй. Ды і скуль ім што ведаць?!

— А няхай! Дзе сядуць, там і злезуць!

— Ого! — Ажэшка рассмяялася. — Усё ж бачу, што прадчуванні мае не марныя!

Яна стала перад камінкам, паварушыла доўгай качаргой шэрую гурбачку попелу, над якім тут жа паднялося, згасаючы ўверсе, некалькі жарынак.

— Мне так рэдка даводзіцца бачыць маладых людзей, у якіх я пазнаю сябе ранейшую. — Павярнулася да Алаізы. — А ў вас пазнала. Але так хачу... — Задумалася, пасумнела. — Дай вам Бог быць лепшымі. І каб зрабіць болей за нас, і стаць шчаслівейшымі. І раднейшымі свайму народу. Гэта цяпер самае... Самае!

Ажэшка стомлена апусцілася на канапу, механічна правяла рукою па вялікіх карунках на каўняры, потым дакранулася да шыі, лёгка пацерла яе, нібыта размякчала ўнутры даўкі камяк.

Алаіза глянула на кніжачку Багушэвіча. Падумала, што трэба быць прасцейшаю, больш натуральнай, стрыманай, але настрой быў такі, што хоць ты пачынай маліцца. Аднак узяла сябе ў рукі, задыхала роўна і глыбока.

— Я чакала, што яна ёсць. Яна павінна была быць, гэтая кніга. А то што робіцца?! — адчула, як зноў загараецца. — Быццам вось пустое месца было. Быццам усе мы раптам — і з падпечка вылезлі! От цяпер кожны і тыча пальцам: хамы, свінні, калі з падпечка, то лезьце зноў туды! Лезьце! І ў зямлю можаце! Яшчэ ў дадатак такога нагавораць і наробяць, што ўсю нашу

гісторыю перакрываць і пералгуць! А што лепшае — пад сябе падграбаюць.

— Не хвалюйцеся, Алаіза. Гарачая галава не заўсёды памочніца.

— Халоднае сэрца таксама.

— Трэба іх памяняць. Галава халодная, а сэрца гарачае, — і, каб весці гаворку пра іншае, запытала: — Вы куды цяпер?

— Я ж казала.

— Прабачце, Алаіза, часам я так хутка ўсё забываю. Асабліва калі спачатку чалавек мяне не цікавіць. Не крыўдуйце. Дык адкуль і куды?

— Папрацую трохі пасля курсаў. Грошы ж трэба. А пасля... «Красуйся, град Петров». — Алаіза змушана расцягнула ва ўсмешцы перасохлыя вусны.

— Замуж не пара?

— Хто-хто, а ўжо мая бедная Ганулька, — перахапіла здзіўлены позірк Ажэшкі, — маці мая, — ох, так яна ўжо гэтага чакае! А я... Не хачу жаніцца, а хачу ву...

У дзверы пастукалі. Ажэшка тут жа паднялася з канапы, і Алаіза панізіла голас:

— ...чыцца.

Аднак ніхто ў кабінет не заходзіў. Відно, дзяўчаты проста паклікалі іх наверх. Гаспадыня падышла да дзвярэй, адкрыла іх і лагодна ўсміхнулася Алаізе, запрашаючы ісці наперад.

* * *

Праз два месяцы, ужо ў Вільні, Алаіза адразу ж пабегла па старых адрасах напытваць работу. Справа для яе была прывычная: кожны год мусіла зарабляць. Але на гэты раз з самага пачатку ўсё складвалася дрэнна: у Вільні засталося многа пецярбургскіх студэнтаў, асабліва універсітэцкіх. Яны расхапалі найбольш выгадныя месцы, адклаўшы вучобу на год ці два. Да таго ж лета ўжо сыходзіла, і сваё, віленскае, студэнцтва таксама павінна было вось-вось з'ехацца на вучобу. Многія, значыць, і на пошукі якой капейчыны.

Не па-летняму задаждзыла і пахаладала: замест парасона ў Алаізы быў старэнькі лёгенькі плашчык, які імгненна намакаў.

Пошукі работы нарэшце скончыліся. Праўда, не вельмі ўдала. На Звярынцы, у адной яўрэйскай сям'і,

за мізэрную плату згадзілася весці «лекцыі» з васьмігадовым Барыскам па арыфметыцы і прыродзе. Быў калекам — нарадзіўся з кароценькай сухой ножкай.

Хоць і не ў кожны прыход на тыя «лекцыі», але яе запрашалі на гарбату з мяккімі смачнымі піражкамі. Гэта было часам і абедам, і вячэраю.

Шкадавала Барыса і кожны раз цярпліва зносіла ўсё новыя злыя выбрыкі гэтай непамерна эгаістычнай, але ўжо з маленства няшчаснай істоты. Адчаялася, што ўсё ж давядзецца кінуць нават такую, знясільваючую работу, пачала прыдумваць на кожную «лекцыю» якую-небудзь баечку. Толькі б зацікавіць і супакоіць вучня. Толькі б утрымацца.

Нарэшце знайшла.

— ...Сірата гэты быў вельмі брыдкі: насок з дробную бульбачку, барада — брылем закручана, праз усенек левы тварычак чырвоная пляма радзіма. Адно вочка глядзіць у правы бок, другое — у левы.

— Касы заяц!

— Не перабівай.

На стале перад Алаізаю ляжаў насмерць раздушаны, зваляны ў акрываўленым, яшчэ сырым пяску голуб.

(«Дзе ён толькі падняў яго? І схаваў ад маці!»)

Калі Барыс кінуў гэтага голуба на падручнік, ціхенька выцягнуўшы яго з-пад стала, думала, што не вытрымае і ўдарыць хлапчука, але тут жа села.

Доўга глядзела на гэтую мёртвую птушку з раструшчаным крыллем. Потым пераняла вочы на сціснутае страхам і чаканнем, амаль дарослае ад непрымірымасці са светам аблічча маленькага калекі... Загаварыла спакойна, павольна вымаўляючы кожнае слова, як чытаючы толькі перад ёю расчыненую кніжку: «Сірата гэты быў вельмі брыдкі...»

— Касы заяц!

— Не перабівай, кажу.

— А праўда, касы заяц?!

— Ну, то во запхнулі яго ў запечак: так ён там і рос, як тое дзікае зеллечка пад абваліўшымся тынам...

Зрабіла выгляд, што не заўважае, як Барыс цягне да сябе голуба, пакідаючы на чыстым, нічым не засланым стале доўгі і цёмны ад крыві след, другой рукою адсоўваючы ўбок сшытак і падручнік.

«Лекцыі» пачыналіся цяпер толькі з «Міхаські». Не запомніла тэксту, запісвала тое-сёе на асобных лістках.

І яшчэ, дзіва дзіўнае, перад кожным прыходам на Звярынец пачала моцна хваляваццa, нібыта перад экзаменам. Стамлялася — заняткі на курсах ускладніліся і займалі шмат часу. Але напісанае для Барыскі перачытвала па некалькі разоў.

«...Ажно скуль ні вырвецца воспа; ідзе, брыдзе, пад нос бармоча; спаткаўшы Міхася, аж заржала ад радасці паганка: — А мой ты сякі, а мой ты такі, — кінулася да яго цалаваць, абдымаць...»

Аднойчы маці Барыскі, відно, пастаяўшы за дзвярыма, не вытрымала і рэзка адчыніла іх. Даволі раздражнёна і без лішняй цырымоніі запатрабавала:

— Пожалуйста, говорите по-русски. И учите делу.

Замаўчала, убачыўшы сынавы дрыготкія вусны. Відно, адчула няёмкасць. Але толькі на імгненне. Паправіўшы на поўных плячах кароценькі шалік, грэбліва хмыкнула і высока падкінула тонкія бровы:

— Сентиментальность только вредит. В наше-то время! Учтите, прошу вас...

— Калі не падабаецца...

— Вопрос так не стоит. Вы думаете, я не понимаю роли положительных эмоций?!

У яе быў поўны твар з яшчэ не глыбокімі ўздоўж шчок маршчынкамі саракагадовай жанчыны. Надзіва густыя, але рана пасівелыя валасы. Сівізна была ажно сiняватая, захапіла валасы над самым лобам, і ад таго аблічча выдавала прадаўгаватым.

— Ведаеце, я ўсё праду...

— Но, повторяю...

— Мама!

Барыс рэзка пасунуўся на самы край стала, і яго маці тут жа замаўчала.

...«Кожнаму мсціў колькі мог: дзе каторага пастуха птушку асачоную з гнязда выпара, то торбачку з хлебам у балота закіне і чужую скаціну ў шкоду нажане».

— ...Вы же берете на себя ответственность!

Не вытрымала і нарэшце выйшла, грукнуўшы дзвярамі. На стале астаўся ляжаць тонкі стракаты шалік.

Алаіза не запісала толькі аднаго эпізоду — гэта якраз пасля таго, калі пачулася дрэнна на лекцыі ў Прозаравай і яе вызвалілі ад заняткаў на два дні. Доўга ляжала ў гарачым ложку і не магла заснуць, адно толькі думаючы ў начной цішыні, успамінаючы нянькчына: «Палын, палын, палын зялёны, хто цябе,

палын, у гародзе сеяў?» Едка-зялёная, з бурымі плямамі па баках нізкая поўня дрогнула, ссунулася са свайго нябеснага палка і раптам пакацілася проста ў акно яе маленечкага закутка.

— ...Дзяржы! Бяры! Янук! Ігнат! Лаві...

У вачах паяснела: шырокае поле і на ім — цэлая хлапечая грамада... Яны беглі, гналіся ўпапярок загонаў за падстрэленай птушкай — жоравам.

Закрылася з галавою старой тоненькай коўдрай, з палёгкаю адчуваючы, як з цела адразу ж сплыло ліпкае месячнае святло. Задрамала. І тады ў гэтай дрымоце, ужо недзе пад самую раніцу, для яе наступіў яркі гарачы поўдзень. Прыслухалася і пачула, як з усіх бакоў даносіцца бязладнае тупанне людзей. Пачала азірацца, як пытаючыся ў сябе, дзе гэта яны, тыя людзі. Але не, нікога. Нікога, акрамя вось гэтага аднаго мужчыны. Стаяў вельмі блізка, ледзь не кранаючы яе плячом. Можна было добра разгледзець кожную рысачку на твары — насупленым і спакутаваным, з глыбокімі прамымі маршчынамі праз лоб, з мяккімі рудымі валасамі і вусамі. Быў ужо немалады, у доўгім і цёмным, расхрыстаным (бачыла нават чорныя вялікія гузікі) паліто. Крыху сутуліўся.

Неадрыўны позірк цёмна-шэрых вачэй быў звернуты проста на Алаізу. Са стоеным і яшчэ пакуль незразумелым хвалюючым пытаннем.

Раптам нібыта ўдарыла: гэта быў ён, сам Францішак Багушэвіч.

Той, каго яна бачыла толькі на фотакартцы ў Ажэшкі. Але ў гэтым сне ён здаваўся Алаізе нават болей рэальным, чым гэта быў бы жывы чалавек у жывым свеце. Настолькі выразна праступілі на ягоным абліччы пакутлівыя цені і выпнуліся бугры лысаватага чэрапа. Настолькі моцна трымалі яе гэтыя суровыя вочы. Нават паліто было ўжо зношанае, з бліскучымі выцертымі кантамі на рукавах. З гэтымі вось вялікімі чорнымі гузікамі.

Нарэшце Багушэвіч апусціў галаву, і тады яна сама змагла азірнуцца. Змагла — і азірнулася. Войкнула, прыкмеціўшы, што... Гэта было дзіва! Багушэвіч прытрымліваў рукою каля сябе высокі драўляны крыж. Ужо цемнаваты, пабіты плямамі сырасці і холаду.

— Там памёр наш Міхаська, — Багушэвіч махнуў галавою на высокую жоўтую выспу, каля падножжа якой яны стаялі, — трэба пахаваць. Памажы мне, — зірнуў на крыж, — давалачы яго.

Не ўспомніць ужо, ці памагла яна тады Багушэвічу. Усё выбіў з памяці нясцерпны боль у грудзях, які яна адчула пры самым канцы трызнення. Вялізны акалечаны жораў, упаўшы з кручы, раптам ударыўся ў яе з усяго лёту... Схапілася за грудзі, але Багушэвіча ўжо побач не было.

...На Звярынец (у маці Барыса — той жа стракаты шалік на плячах) пайшла толькі праз тыдзень і нечакана атрымала разлік. Прыкінула, што з месяц, пакуль знойдзе новае месца, на сітным ды гарбаце пражыве.

Вось толькі...

Ажно праз паўгода, ужо здаўшы два экзамены і ператрасаючы шафку, натрапіла на свае восеньскія запісы пра Міхаську, паклала іх у розныя падручнікі на стале. Потым ужо і не думала пра напісанае.

* * *

З таго апошняга лета перад Пецярбургам ёй запомніліся найбольш толькі сустрэчы з Вацакам.

Спачатку было кароценькае знаёмства...

Мінула паўмесяца пасля заканчэння курсаў Прозаравай. Паехала ў Стары Двор да бацькоў. У Васілішках ёй адразу ж пашанцавала. У тую кірмашовую нядзелю ў суседнія са Старым Дваром Бакшты вярталіся ажно тры пустыя вазы. Села на пярэдні да знаёмага дзядзькі Сымона Кастэцкага. Слухала, як лёгка шапаціць і патрэсквае гарохавая салома. (Хітры Кастэцкі скасіўся: «Уседзіш? Уг-гу... Пакуль з мяне пух, з паненачкі дух. Ого так!» Крануў лейцы, пажаліўся, павярнуўшыся да яе бокам: «Гэта ж мне нешта ў паясніцу ўступіла. Яшчэ такрок. А ты, паненка, дахаты? Уг-гу! Звонкі бубны за гарамі, але свой званчэйшы. Ого так!»)

Калі ад'ехалі ад Васілішак, раскачала ў далонях і аблупіла варанае яйка. Была галодная, але з'ела яго без апетыту, не маючы нават чым запіць. Недзе праз гадзіну, падзякаваўшы дзядзьку Сымону за ласку («Кабылцы адрэж, паненка, мне што?!» Быў п'янаваты і ўвесь час рагатаў), пачала прыкідваць, па якой дарозе ёй цяпер пакіравацца да Бакштаў і дахаты. Можна было б напрасткі праз Ваўкаўшчыну — так называўся лес, — але збаялася, што як бач памыліцца ў глухой, калдобістай «свіной» сцежцы. Аставалася другая дарога, даўжэйшая, але затое добра вядомая. Праз Мякішы і Тарасіно. Выбрала яе.

...Нават у нядзелю вёска была наўздзіў бязлюдная і ціхая. Нарэшце спынілася, заўважыўшы старога Гаўру. Даволі гучна павіталася, але той усё роўна не пачуў.

Стары стаяў каля самай дарогі, упёршыся старой дрогкай рукою ў зампэлую пустую калоду. Здаецца, і не змяніўся за гэтыя гады. Такі ж чысты тварам, толькі ссівелы. Падслепавата ўзіраўся ў Алаізу круглымі вачамі, амаль без павек, нарэшце пазнаў, расцягнуў ва ўсмешцы паморшчаны, зарослы шчэццю рот. Рэзка махнуў вольнаю рукою, запрашаючы ў двор ці ў хату, але не разлічыў сілы і ледзь не кульнуўся на калоду. Стаяў і хістаўся, як п'яны, на шырока расстаўленых нагах. Зноў шчарбата ўсміхнуўся, але Алаіза змеціла, што позірк старога быў скіраваны некуды ўбок.

І раптам зразумела... Але не, хутчэй адчула, што Гаўра ўсміхаецца зусім не ёй, а некаму другому. Таму, напэўна, хто цяпер стаяў у яе за спіною. «Андрэй?!» Вядома, Андрэй. Можна было б пайсці. І трэба было б пайсці, зрабіўшы выгляд, што нават не здагадваецца аб яго прысутнасці. Нахіліцца і падняць чамаданчык.

Вусны расцягнула прыкрая здрадлівая ўсмешка, і Алаіза рэзка павярнулася. І тут жа ўсё ўнутры затрымцела ад смеху і расчаравання.

Да хаты шырокім крокам ішоў жоўтавалосы (чыста куль аўсяны!), даволі высокі незнаёмы хлопец у кужэльнай вышыванцы, падперазанай раменьчыкам, цёмных суконных штанах навыпуск і карычневых штыблетах. Правай рукой ён прыціскаў да боку чорны футарал ад мікраскопа.

(«І праўда куль аўсяны! Базараў віа Лідчыны!»)

— Сына вашага прагну ўбачыць і абняць...

Проста на яе быў нацэлены вясёлы позірк шэра-блакітных прыжмураных вачэй незнаёмага. Не ведала, што яму і адказаць. Зрэшты...

— Вацюк! А ці ты? Гля... А той жа, Андрэй, яшчэ і не прыехаўшы, паганец!

(«Дзядзька Міхайла! От яно што...»)

— Паненка Алёйзія?! Гэта ж я і не павітаўся. То выбачце ласкава.

Дзядзька Міхайла стаяў перад ёю і спакойна, хітравата ўсміхаўся сабе ў рэдкія абвіслыя вусы. Зірнула, аднак, на незнаёмага. Усміхнулася.

— Вацак, — хлопец шырокім жэстам працягнуў ёй руку, страсянуўшы жоўтай чупрынай, — студэнт хі-

мічнага аддзялення Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута. Па часе адбыцця вакацый даследую лімоннакіслае бражэнне збожжавых прадуктаў і грамадскай самасвядомасці ў тутэйшых ваколіцах.

— А гэта што за «лешафоўка»[1]? — Алаіза нарэшце вызваліла сваю далонь з яго чэпкай гарачай рукі і кіўнула на футарал.

— Для ўзяцця на мушку памяці пякнейшых прадстаўніц павятовых двароў.

(«Куль аўсяны!» — гэты Вацак чамусьці насцярожыў.) Зрэшты, яе насцярогу да гэтага чалавека можна было вытлумачыць звычайнай стомленасцю.

Столькі ўжо яна праехала па выбоістай пыльнай дарозе, прайшла такую дарогу праз жыта да самых Мякішаў, з любасцю высочвала позіркам купкі маладых бяроз удалечыні, а вось жа не магла ўліцца душою ў гэты навакольны спакой вясковага краявіду, такі ж, здаецца, свой, такі родны з самага маленства. У вушах, заглушаючы пераклічку курапатак у просе за хатаю Гмыракаў, гучаў горад: бясконца звінелі бразготкі і спявалі клаксоны, цокалі капыты па мокрай брукаванцы, манатонна перастукваліся між сабою вагонныя колы. Перад вачамі ўспыхвалі гарадскія малюнкі. І зноў — пярэстыя рады сухіх валкоў у загарадках перад хатамі... Блішчастыя саламяныя стрэхі, шызыя палыны...

— Людцы хрышчоныя, — Гаўра, аб якім яны з Вацакам забылі (дзядзька Міхайла махнуўся ў хлявушок), усё яшчэ ўпіраўся ў калоду, і па яго доўгай барадзе сцякала сляза.

— Зноў скігліць! — Дзядзька Міхайла выходзіў з хлевушка, трымаючы цераз плячо тоўстую вяроўчыну.

— От ягоны бацька, — кінуў позірк на Вацака, — пан інжынер. Бо бацька, не з паўрэчы сказана, не падстаўляў дзяцей пад сякеру.

— Мусібыць, падумаўшы, і я сваю «лешафоўку» не люляў бы, — Вацак стукнуў рукою па футарале, зрабіў крок управа, як бы засланяючы плячом ад усіх выпаласканыя доўгім жыццём да бляклага блакіту, слязлівыя вочы старога. — ...Не люляў бы, спадар Міхайла, каб такія во, як ваш бацька... — Спахмурнеў, насупіўся. — Каб тым годам яны не выцягнулі з падстрэшкаў жалезныя цацкі свабоды!

---

[1] Стрэльба *(мясц.)*.

(«Аднак любіць карункі. Зрэшты, такіх, як ён, мала... Сталічныя злёткі дома ні слова па-свойму не вякнуць. А гэты не такі...»)

Дзядзька Міхайла ўздыхнуў і незадаволена падкінуў бровы:

— Шэнціць мне сёння, як жыду ў баразне! А табе што, — ужо да Вацака. — Пане студэнт? Ці не Андрэй ужо лішне шапнуў?

Адзін стары Гаўра як і не чуў нічога, нарэшце сеў на калоду.

— Граюць арганы...

Вацак ужо ўзяў ад Алаізы чамаданчык, з яўным намерам праводзіць яе да самага двара. Успыхнула: маці, чаго добрага, прыме яго за жаніха. Засмяялася:

— А калі прыпяражуць мяне пану Вацаку, як шаблю да боку?!

— Ну й добра! А я не супраць. — Вацак глядзеў на яе такімі адкрытымі вачамі, так спакойна ўсміхаўся поўнымі ружаватымі вуснамі, што Алаізе зрабілася нават сорамна. Аднак жа ён даволі дзіўны.

— Хоць не буду на старасць дзецюком славіцца...

Ужо каля самай хаты Алаіза ціхенька агледзелася, шукаючы маці, але тае якраз не было. Адно толькі бацька як знарок чакаў іх. Стаяў каля гумна, стругаў з ялоўчыны пугаўё. Але адразу ж пайшоў ім насустрач. З хаты выбегла Каралінка, павісла на Алаізінай шыі, тут жа намачыўшы слязьмі тонкую сукенку на плячы. Вацак павітаўся з бацькам, але ў хату ўсё ж не пайшоў, маўляў, спяшаецца ў Бакшты. Папрасіў выпіць малака.

Толькі тады, калі Вацак ужо выходзіў з іхняга двара, Алаіза ўбачыла, які ён усё ж высокі і ладны. Недзе на паўдарозе да ляска за ляшчыннікам Вацак спыніўся і высока махнуў рукою. Пастаяў крыху, павярнуўся і амаль што пабег. Здалося, што болей і не сустрэнуцца. Аднак...

Аднак з Вацакам Іваноўскім Алаіза сустрэлася яшчэ раз, недзе перад самымі Калядамі. Калі ў Галавічполе, дзе яна працавала настаўніцай, да інжынера прыехалі сыны. Адным з іх быў Вацак. Ён таксама ўзрадаваўся Алаізе, проста на вуліцы нахіліўся ў сваім расхрыстаным паліто і пацалаваў ёй халодную руку. Пад ногі на снег упала худзенькая студэнцкая шапка з патрэсканым брылём.

Пасля першых агульных роспытаў і адказаў, толькі дазнаўшыся, што вучні ў Алаізінай школцы мерзнуць, рашуча паабяцаў:

— Заўтра ж прывязём! — Падняў з дарогі шапку, ударыў ёю аб крысо, страсаючы снег. Але, адчуўшы ў маўчанні Алаізы недавер, пасумнеў:

— Разумею... Яно вядома, на якую балячку абяцаю! А вот як падумаю... Палова малечы — пасля тыфусу. — Роспачна разануў рукой, разганяючы снежны рэдзенькі пылок. — Гэта як? Можа, хай усё растрасецца да скутку? Усе беларускія сілы будучыні...

Алаіза ледзь стрымала сумную ўсмешку.

Добра, калі гэта ў яго і сапраўды не гульня «ў народ», не пустая балбатня. Затупала на адным месцы, выганяючы з боцікаў колкі марозны дух.

Калі развіталіся, пастаяла яшчэ хвілінку, праводзячы яго позіркам. Нарэшце павярнулася і амаль што пабегла ў школу...

Па данясенні прыстава чацвёртага стану Лідскага павета сыпняк у Галавічполе быў занесены ў сям'ю Лявона Ігнатовіча анучнікам, які «папрасіўся ў Ігнатовіча нанач, пакінуўшы ў двары павозку з нічым не прыкрытымі бруднымі анучамі, сабранымі ў навакольных хутарах і вёсках. Праз дзень у Ігнатовіча захварэла двое дзяцей, аб чым ні старасту, ні паліцэйскаму чыну ім, Ігнатовічам, не было паведамлена. Дзеці названага гаспадара, двое хлопчыкаў ва ўзросце [redacted] і 10 гадоў, памерлі: першы — 14 лістапада, другі — 17 лістапада.

Іншыя сем'і, у якіх залішне позна былі выяўлены хворыя на сыпны тыфус, усяляк ад вакцынацыі ўхіляліся, даходзячы нават да таго, што перад прыходам урача хавалі хворага пад ложкам і нават зацягвалі яго на гарышча».

Па данясенні таго ж прыстава чацвёртага стану сыпняк у Бакшты і Стары Двор не перакінуўся...

З Вацакам Алаіза ўбачылася праз чатыры дні. Паспела нават засумнявацца ў ягоным абяцанні дапамагчы дровамі.

Якраз ішоў урок.

Дзеці, амаль усе ўкручаныя ў канаплянкі, моўчкі павярнуліся да акна. Вось гэтак, моўчкі, назіралі за тым, як да школы пад'ехала падвода, важка нагружаная дрывамі, найбольш бярозавымі. Алаіза чакала ад дзяцей зусім іншага. Думала, узрадуюцца, па-

зрываюцца, як гэта раней бывала, са сваіх месцаў, загамоняць узрушана, перабіваючы адзін аднаго.

Але ў класе стаяла амаль раўнадушнае маўчанне. Халоднае маўчанне дарослых маленькіх людзей, побач з якімі так нядаўна спала пад адным акрываддам, сёрбала з адной місы, хукала ў халодныя далоні сама смерць.

Алаіза бачыла, што каля падводы забегаў Вацак — зноў у расхрыстаным паліто і пабеленай снегам студэнцкай шапцы.

(«Куль аўсяны... Абяцанка не цацанка!»)

Вацак падняў руку і выцер пот з лоба.

Зірнула на клас:

— Хутка ў нас будзе добра, дзеткі. Як улетку.

Потым, калі дровы (дапамагалі ўсе, хто праходзіў міма) былі знесены пад паветку, развіталася з Вацакам ужо як з даўнім добрым сябрам і хуценька вярнулася ў клас. Вучні па-ранейшаму моўчкі сядзелі на сваіх месцах.

— У нас — будзе цёпла! Чуеце?! Як улетку... Помніце? Так цёпла! А сонца... Народу ў полі — жмыр!

Цяпер усе дванаццаць пар вачэй — толькі на яе.

Доўгі косы вянком ўюцца,
Зубы белыя смяюцца.
Стан танюткі, як былінка,
Ну і Кася, ну дзяцінка!
Як царэўна, як багіня!
Як нарцыса, як вяргіня!
Як лілея на Дунаю...

Калі яна паднялася з крэсла і пачала чытаць гэта, позірк сам выдзеліў з грамадкі Касю Ігнатовіч, адзіную ў сям'і пасля смерці двух брацікаў.

Кася Ігнатовіч была таксама ўкручаная ў бруднаватую, палапленую хустку-кураўку, і з гэтага глухога кокана за Алаізаю сачылі дзве вялікія празрыстыя птушкі, гатовыя выпырхнуць у свет з распаленых ад холаду і галоднага бяссоння павек.

Як пралеска сярод гаю,
Цвіце Кася на ўсю вёску...
Сіл не стане гэткім летам
Змаляваці. Пайду светам...

Празрыстыя птушкі нарэшце выпырхнулі з-пад павек, бліснулі слязьмі і імкліва паляцелі ўніз.

— Плач, маленькая, плач...



# РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

## 1

За спінаю, натужна скрыпнуўшы спружынай, цяжка грукнулі дзверы пад'езда.

У уваходнай пляцоўкі праз метры два ўніз спускаліся прыступкі — проста да бліскучых, абабітых бляхаю, амаль квадратных дзвярэй падвала. Упоперак іх ішоў прэнт з кручанага жалеза на двух убітых у цагляную сцяну тоўстых прабоях. Злева вісеў вялікі ржавы замок.

Адчувалася, што ў падвал спускаюцца даволі рэдка.

І ўсё ж над дзвярамі свяціў запылены жоўты шарык электрычнай лямпачкі.

З гэтай каменнай глыбіні на Алаізу патыхнула холадам і смуродам зацвілай ад вільгаці, размяклай атынкоўкі. Павярнулася і ступіла некалькі крокаў управа, дзе ўздоўж гладкай і жоўтай у паўзмроку сцяны дома падымалася нешырокая мармуровая лесвіца. Абаперлася на каваныя ўзорыстыя парэнчы: па чорным метале каля самага нізу рассыпаліся жоўта-рудыя крупінкі ржы.

Нарэшце рашуча пайшла па лесвіцы ўверх. Чамаданчык часам тыкаўся ў сцяну, сцярушваючы на прыступкі мяккую шараватую муку.

Ні на другім, ні на трэцім паверсе патрэбнага нумара не было. Сабіна Ячынаўская наймала невялічкі пакой ажно на чацвёртым.

Змучаная дарогаю, Алаіза мармытала пад нос прасценькі вясковы матыўчык. Пэўна, «ад нэрваў», як казала маці.

Сабіна павісла ў яе на шыі, зазвінела радасна, што і сама прыехала тыдзень назад. Потым, паставіўшы Алаізін чамаданчык пад нешырокі пісьмовы стол перад акном, павяла яе міма чужых дзвярэй па доўгім калідоры, які быў застаўлены скрынкамі, вёдрамі і бочачкамі. Патыхала смажаным салам з падгарэлаю цыбуляю, недзе скімліла дзіця, даносіліся брыдкія словы сямейнай сваркі.

Сабіна толькі пасмейвалася. У самым тарцы калідора, у кутавым памяшканні размяшчалася агульная душавая. Першае, што кінулася ў вочы, — глыбокая пазелянелая мядніца пад металічнаю ракавінаю. Збоку на цвіку вісела некалькі зашмараваных мачалак. У самым закутку на ўслончыку стаяла глыбокая конаўка з вадою. Сабіна паклала на ўслончык брусок жоўтага мыла і, смеючыся, зачыніла за сабою дзверы: «Давай, Лізо! Чысці пёрыйкі!! Якраз вада цёплая ёсцека».

Алаіза мылася нядоўга, але з амаль дзіцячым захапленнем. Быццам кожны раз, калі па голым, крыху азяблым целе сплывалі ўніз цёплыя струмені вады і казытлівай пены, з душы тут жа выцякалі ўсе страхі і сумненні, звязаныя з гэтым рызыкоўным прыездам у Пецярбург. Паявілася лёгкасць. І яшчэ тая бадзёрасць, якая ўмомант напоўніла кожны яе рух. Была цяпер давольная і сабою, і гэтай сустрэчай з Сабінаю Ячынаўскаю.

З мокрых расчасаных валасоў казытліва пабеглі колкія халодныя вусікі вады. Зноў павесіла сукню на цвік і скруціла валасы на патыліцы ў маленькую куксу. І тут жа ледзь не паслізнулася: у фанерныя дзверы гучна пастукалі. («Хай ты затані!»)

— Хто?!

У адказ данеслася вясёлае Сабініна хіхіканне. («А ні апомнішся тут, ліха!») Адкінула зашчапку — у шчыліну прачыненых дзвярэй прасунулася рука з летнім стракатым халацікам і самаробнымі палатнянымі тапачкамі.

Сабіна чакала яе за дзвярамі душавой. Тут жа падхапіла пад руку і пацягнула па тым жа доўгім, напакаваным, як вакзальны перон, цёмным калідоры. Праўда, шапнула: «Табе сюрпрыз! Але ніц, не трусіся,

ты цяпер файная такая... От!» Гэты «сюрпрыз» павінен быў бы насцярожыць, але, агаломшаная, Алаіза як і не пачула нічога.

Нарэшце Сабіна моцна штурхнула дзверы ў свой пакойчык, увайшла ў яго першая. Алаіза падняла вочы і міжволі хітнулася назад: каля стала, якраз перад ёю, стаяў незнаёмы хлопец («Гадаўка Сабінка!») — высокі і галаваты, з блакітам насцярожаных, крыху насмешлівых вачэй. У звычайнай, сцягнутай у поясе раменьчыкам, выпаланелай вышыванцы. Прыгожыя цёмныя вусікі.

«Сюрпрызы» працягваліся. Падкраўшыся ззаду, нехта затуліў ёй далонямі вочы і пракрычаў у самае вуха: «А-ну-хто?!» І тут жа сам сабе адказаў, але ўжо непрыемным піскլявым галаском: «Гусак яго вялікасці клоуна Дурава».

Вацак!

Ён адразу ж адняў рукі і праз імгненне ўжо стаяў перад Алаізаю — з адкінутай назад моцна выгаралаю («Чыста куль аўсяны!»), ажно сіваватай галавою. Смяяўся, але нягучна, паказваючы буйныя белыя зубы. Маленькі востры коўцік на горле пайшоў уніз і задрыжаў.

— От так, цятке!

Яшчэ ў Галавічполі, пачуўшы ад аднаго з яе вучняў: «А цятке настаўніца не дазволе», панёс гэтае «цятке настаўніца» па ўсёй вёсцы. Пасля стаў называць яе проста цёткаю. Прызнацца, чулася ад гэтага вельмі нязручна, асабліва на людзях. Злавалася. («Чакай, язычку...»)

Пасля, адпусціўшыся крыху, жартам стала называць Вацака Іваноўскага «пляменнічкам». Смяяўся з таго.

Сабіна спешна падалася на кухню.

Вацак павярнуўся да незнаёмага, які здаўся цяпер Алаізе значна маладзейшым — у куточках тонкіх вусаў успыхнула сарамлівая ўсмешка.

— «Археолаг» Янук. Луцкевіч. Вілянчук, з якім мы сутыкнуліся лбамі ў тамбуры. — Вацак хмыкнуў. — Вось так!

Янук тут жа схіліў галаву набок.

— А знаеш!.. Дарэчы, дзе гэта Сабінка так доўга?.. («Любіць у рожкі стаць!»)

Нарэшце адчыніліся дзверы.

— Гарбата хутка будзе гатова, панове! Хай толькі счахне трохі. — Сабіна каплянула і гарэзліва ўсміхнулася. — Слухай, «археолаг»...

— Але чаму «археолаг»? — Алаіза не ўпадабала гэтай гуллівай, як ёй здалося, Сабінінай усмешкі, перабіла яе. Ініцыятыву тут жа перахапіў Вацак:

— Бо любіць дакопвацца, калі і хто гэта святкаваў на нашых касцях!..

— Каму несць гарбаты? — зноў Сабіна. — Я ўмэнт!

Выбегла.

— Не, людцы! Мне пара. — Вацак нечакана секануў перад сабою вялікай рукой. — На жаль, і праўда няма як расседжвацца!

Янук таропка ступіў да дзвярэй, папраўляўшы апаяску на вышыванцы. Павярнуўся да Алаізы і даволі нязмушана прапанаваў:

— Калі хочаце, я забягу праз гадзіны дзве. — Запнуўся, зірнуў на ходзікі на сцяне. — А шостай. Добра? Паходзім, паглядзім.

— Ну не! — Вацак нечакана ўзарваўся. — Цябе самога яшчэ трэба за ручку вадзіць! Па Неўскім, знаеш, прамою лініяй! — засмяяўся, але цяпер ужо нязлосна, прыплюшчыў вочы, нібыта ўяўляючы ўсё, аб чым гаварыў. — Ага, па Неўскім! — крутнуў рукою. — Потым да лаўры... Знаеш, дзе лаўра? (Янук не паспеў адказаць.) Кацярынінскі сад! Па правай старане... Марская — Казанская — Вялікая Садовая — Троіцкая — Уладзімірскі — Мікалаеўская — Пушкінская — Палтаўская... Ага, прапусціў...

— Публіка, памажэце хто! — цяпер Сабінчын голас выразна чуўся з кухні, што размяшчалася ў суседнім пакоі.

— Ага, прапусціў! Мілюцінскія лаўкі! Гасцінны двор праз Суконную лінію... Царства жыцейскага мамона! Вуліца Пярынная... Не, браце, а шостай тут буду я!

— Вацак! Бадай цябе вар!

Вацак незадаволена, крыху па-блазенску зморшчыўся, шапнуўшы Януку: «Уцякайма!» Нават адчыніў ужо дзверы, але тут жа адступіў назад. Убачыўшы перад сабою Сабіну з чайнікам, відно, разгубіўся, лішне рэзка павярнуўся да Алаізы, перапытаў:

— То я праз тры?

Янук стрымана ўхмыльнуўся. Але болей у праважатыя не набіваўся, і Алаіза здагадалася, што ён у Пецярбургу і сапраўды ўпершыню, магчыма, гэтак жа, як і яна, толькі сёлета прыехаў паступаць на вучобу ў які-небудзь інстытут.

Сабіна разліла ў шклянкі на стале гарбату, паставіла чайнік збоку на дэнка.

Вацак, паказаўшы рукою на дзяўчат (маўляў, частуйцеся самі), зноў рашуча адчыніў дзверы.

— Да відзэння!

— Не-не, чакайце! Янук, вы заўтра куды?

— Што-о? Цётка...

— Ціха, Вацак. У цябе, кудлы, і так галава ўёмістa.

Янук, не чакаючы ад Алаізы такога пытання, трохі сумеўся і пацёр сагнутым пальцам куточак вуснаў.

— Ды не, што тут! — заўважыўшы гэтую яе ўсмешачку, Янук заспяшаўся, нават падвысіў тон. — Пра што гаварыць?! Ніякіх таямніц. Пойдзем да універсітэта. З братам.

— Афармляцца? То й мяне падграбіце!

Зноў сумеўся, адтапырыўшы над акуратным ротам цёмны вус, але тут жа паправіўся:

— А што? Разам яно і спраўней.

— Ну, цятке! — не вытрымаў Вацак і здзіўлена пакруціў галавою.

Хлопцы пайшлі (Сабінка праводзіла іх да самага пад'езда), і Алаіза тут жа ўзяла гарачую шклянку з гарбатай, адпіла колькі глыткоў і зноў паставіла на стол. Сонна сцягнула з сябе абрыдлы чужы халат. Лягла ў Сабінін ложак пад лёгкую казытлівую коўдрачку. Заплюшчыла вочы і ледзь не ўскрыкнула...

З вышыні, з самага, здаецца, неба, павольна гойдаючы вершалінамі, да яе пачалі нахіляцца вялікія разгалістыя дрэвы з дробненькімі, як мурашкі, лісцікамі. Здалося, вось-вось па вачах шаргануць тоўстыя каструбаватыя сукі. Уздрыгнула ад жаху, але дрэвы ўжо ляцелі некуды ўніз, у нябачную прорву, захопліваючы ў сваё імклівае падзенне цэлыя зграі варання і шматы гнёздаў. Потым туды ж паляцелі залатыя шары царкоўных банек з чорнымі крыжамі. І толькі пасля — даўжэзная драбіна нізкіх вакзальных памяшканняў з іржавымі кратамі ў шчылінах акенцаў, некалькі каменных ільвоў з разяўленымі зяпамі і невідушчымі выпучанымі вачамі...

цела стала мяккім і гарачым. Адчувала, як яна сама зліваецца з гэтай суцэльнай плынню яркага лісця і чорных скрыдлаў, імкліва ляціць уніз, чуючы толькі шаргаценне ветру на скронях. І раптам усё гэта прыглухла і знікла, парванае нейчым незадаволеным голасам.

У паўсне пазнала тоны Вацака.

— Не трэба яе пускаць з Януком.

— Чаму? (Здаецца, Сабінка.) Нешта я цябе не разумею.

— Чаму?.. У яе ж проста не возьмуць дакументы. Прыватныя курсы. Гэта што?

— Яшчэ можна было б даздаць. Хаця... Хаця хіба ж яна не чытала абвесткі пра ўмовы прыёму?!

Алаіза прымусіла сябе адкрыць вочы: бокам да ложка, абапёршыся рукою аб спінку крэсла, стаяў сапраўдны, зусім не прыснёны, Вацак. Але цяпер ён выглядаў франтам. З-пад тужуркі віднелася чорная камізэлька і накрухмаленая сарочка пад чорным гальштукам.

(«Дзіўна ўсё ж... Казаў, праз гадзіны тры... Праз цэлыя тры гадзіны!»)

На сцяне спакойна цікалі ходзікі.

(«Няўжо шэсць?»)

— Хацеў звадзіць на Стрэльскую ў «Аляксандраўку»... Аншлаг!

— А! Паспее яшчэ на скорую руку.

За сталом сядзела Сабіна — у вішнёвай кофтачцы з высокім каўнерыкам, завязаным на белыя матузкі. Русыя валасы ў зацемненым пакоі здаваліся амаль чорнымі, вочы блішчалі і ад таго нават пабольшалі.

— А можа, пакінь тут, хай сама пачытае, — Сабіна ўзяла з Вацакавых рук нейкую паперку, паклала на стол. — Знаеш, ты пачакай лепш унізе. Я яе зараз пабуджу.

Алаіза хацела выпрастаць занямелую спіну, але не магла нават варухнуцца і паказаць, што ўжо даўно не спіць і ўсё чуе.

— Ці, можа, няхай... Экстэрнам.

— Ой, не ведаю. Ёй раашаць. Але ж кінуцца, як галодныя ваўкі на свежую костку. Толькі дайся. З лацыні як бач асякуць.

За Вацакам стукнулі дзверы. Сабіна ўзяла са стала пусты чайнік і таксама выйшла. Патупала па калідоры на кухню.

Алаіза раўнадушна паднялася і апранулася. Узяла са стала паперку і падышла да акна, адсунуўшы ўбок крэсла.

«Імператарскі Санкт-Пецярбургскі універсітэт... Набярэжная, 7... канцылярыя, тэлефон 3879... чатыры факультэты, а менавіта: 1) гісторыка-філалагічны...»

Вядома, яна гэта чытала. Але ёсць жа на свеце цуды. З ёй павінен цяпер адбыцца цуд?! Павінен... Ну і што, калі экстэрнам. Няхай і экстэрнам! Іншыя могуць...

«Прымаюцца маладыя людзі, якія закончылі курс класічных гімназій ці роўных ім па курсу вучэбных устаноў, прычым перавага аддаецца тым, хто вучыўся ў пецярбургскіх...»

Класічную гімназію яна не кончыла.

«Аплата за паўгоддзе — 25 рублёў на карысць універсітэта і асобная аплата на карысць выкладчыкаў...»

Для асобнай аплаты на карысць выкладчыкаў таксама ўжо не хапала.

Каля дзвярэй пачуліся гучныя крокі Сабіны. Ледзь стрымліваючы ў сабе балючую роспач, таропка паклала аб'яву на ранейшае месца. Але, відно, залішне махнула рукою, і аб'ява шарганулася з краю стала і пачала павольна апускацца на падлогу.

Калі нарэшце яны з Вацакам выйшлі з перапоўненай конкі, да Афіцэрскай трэба было яшчэ ісці пеша. Але вазака не наймалі.

Вацак узяў на сябе ролю экскурсавода, і Алаіза бясконца здзіўлялася нязвычным, але прыгожым пецярбургскім назвам розных мосцікаў, каналаў, тупікоў, пра якія ён расказваў даволі маляўніча.

Цераз Калінкін мост... Там Фантанка... Адміралцейскі канал... Пікалаў мост...

У доўгай зале Тэхналагічнага, куды яны нарэшце праціснуліся, па абодва бакі цягнуўся яшчэ і бельэтаж, праўда, на даволі значнай вышыні. Зверху спускаліся тры вялізныя, як у тэатры, ужо запаленыя люстры. («Нашы!» — задаволена хмыкнуў Вацак, што, пэўна, павінна было азначаць: «тэхнолагі».) Амаль усе студэнты былі ў цёмных пінжаках і размахвалі шапкамі з патрэсканымі брылямі, — на цёмным сукне бялелі пальцы.

— Варта задумацца, чым жа ўзяў нашу публіку гэты няўклюдны «чумазы» пісьменнік?! Зрэшты, ці доўга трэба думаць? А тым, што Горкі, як і любы самабытны талент, не належыць ні да якой літаратурнай групкі! Толькі бяздарнасці могуць успрымацца не паасобку, а ў нейкай сукупнасці, дзякуючы чаму і звяртаюць на сябе ўвагу. Але кожная групка крычыць пра Горкага, як пра свайго, і змагаецца за сваё права на яго!

Алаіза нават не бачыла прамоўцу, а толькі па яго-ным звонкім, перарывістым ад напружання голасе здагадалася, што гэта яшчэ вельмі малады чалавек.

Вацак ні на хвіліну не выпускаў яе рукі са сваёй і вёртка прасоўваўся праз шчыльна збіты натоўп. З непрывычкі ледзь не задыхнулася.

— Мінуўся ганебны час цкавання «кухарчыных» дзяцей! Князь Мяшчэрскі ледзь не запырскаў усіх нас слінаю, абараняючы «высакародных»!

Зала ўхвальна зашумела: «Стукае кіем супроць жанчын ва універсітэце...»

— Цяпер ён убачыў ва ўдзеле жанчын у духоўным развіцці нашага грамадства толькі «оргію разбэшчанасці»!

Нарэшце прабіліся наперад яшчэ на некалькі метраў, дзе якраз пачыналіся рады крэслаў. Падтрымліваючы адзін аднаго, на іх стаялі студэнты і курсісткі — амаль усе ў цёмных доўгіх спадніцах і накрухмаленых блузках з карункавымі каўнярамі. Цягнуліся ўверх, стараючыся бачыць яшчэ далей, ловячы кожнае слова прамоўцы.

— Горкі — вораг нашага мяшчанскага жыцця, бо высока трымае сцяг беднага рускага народа, той паднявольнай часткі яго, якая яшчэ не адвыкла ад натуральнага, адзіна прыдатнага для ўсіх эпох яднання і адзінства з прыродай!

Убачыўшы знаёмага студэнта, Вацак тузануў яго за крысо пінжака і знакамі паказаў на Алаізу. Той адразу ж, праўда, даволі нехаця саскочыў уніз, шэптам павітаўся. Нават не змаўляючыся, хлопцы лёгка падхапілі Алаізу пад пахі, і праз імгненне яна ўжо стаяла на крэсле, з радасцю адчуўшы спінаю моцны прыток свежага паветра — зусім блізка было вялікае, насцеж расчыненае акно.

У цэнтры залы таксама стаяла крэсла, на якое падымаўся цемнатвары, як мадзьяр, кучаравы студэнт,

але не ў пінжаку, а ў шырокай карычневай блузе з вялізным белым каўняром. Гэты загаварыў значна цішэй за папярэдняга прамоўцу, і Алаіза напружыла слых.

— ...о-о-о! Дастаткова было начытацца гэтага «чумазага» пісьменніка, як у рускім грамадстве знайшоўся новы ідэал! Пагалоўнае захапленне басяцтвам...

Высокая курсістка недалёка ад прамоўцы весела, крыху какетліва захіхікала, але яе адразу ж абсеклі.

— О-о-о... Ён шчаслівы, наш мілы, сімпатычны басяк! Галодны і абдзёрты, але затое вольна тупае сваёю сцязёю. Шчасце волі!

Зала пачынала ёрзаць. Незадаволенасць слухачоў прарывалася грубымі выкрыкамі: «Блазен! Хай бы сам!», «Зайдзі да Вольфа і вазьмі Пуцакевіча!..», «Нечага біць брава!». Але гэта, здаецца, яшчэ мацней падкруціла спружыну яго красамоўства.

— Навошта басяка дапускаць да нармальнага жыцця?! Ён жа вымра, як мамант, ад аднаго толькі суму! Хіба ў асяроддзі цывілізаванага грамадства могуць існаваць такія простыя паняцці, як шчодрасць, чысціня, шчырасць, радасць і захапленне жыццём?!

Гэты смуглатвары невысокі студэнт у блузе раптам здаўся Алаізе тоўстым, але рухавым жучком, які вось-вось падыме крылцы і ўзляціць над усім гэтым растрывожаным натоўпам. Аднак прамоўца не здаваўся. Нарэшце адчуў перамену ў настроі слухачоў і пачаў памагаць сабе рэзкімі жэстамі абедзвюх рук, забіраючы залу з'едлівым, іранічным тонам.

— Басяк ніколі не пасцігне самую галоўную таямніцу нашага жыцця. А менавіта — самаахвярнае прытворства. Нават самы дробны вінцік, нават самы мізэрны сезоннік — і той ілжэ, нацягвае на сябе маску самазадаволенасці і блажэнна ўсміхаецца. І гэта ў той час, калі сэрца абліваецца крывёю...

Каля пятага ці шостага (Алаіза ўжо збілася з падліку) прамоўцы стаяла дзяўчына са шклянкаю вады ў руцэ, што спачатку вельмі здзівіла Алаізу.

(«А што? А можа, ён хворы...»)

Размова па-ранейшаму круцілася вакол той жа тэмы, пра басяцтва.

— ...І яшчэ разам з усімі нашымі міністрамі, з маскаю поўнага ідыятызму на твары пляткарыць аб канчыне Талстога, не прачытаўшы ніводнай ягонай кніж-

кі! Басяк не разважае. Басяк — адрынуты. Яшчэ толькі ў пачатку нашага жалезнага веку недалёка ад Нікольскай царквы прадавалі жывога чалавека. Прыгоннага... Падумаць страшна! Але цяпер яго таксама прадаюць. Не толькі каля Нікольскай царквы, а паўсюль! Прадаюць у басякі, прыкрываючы голае цела няшчаснага лахманамі размоў аб натуральнасці яднання чалавека з прыродаю!

Нарэшце асмелілася скасіць позірк. Усе, хто стаяў побач, былі цяпер залішне разгарачаныя, успацелыя, з бліскучымі вачамі. Азірнулася, назіраючы за курсісткамі. Тыя толькі дакраналіся да шчок белымі хусцінкамі і тут жа нервова ўзмахвалі імі перад сабою. Быццам па ўсёй зале разляцеліся маленькія белыя матылькі.

За двума радамі крэслаў каля самай сцяны былі ўжо вузкія сталы, на якіх таксама тоўпіліся студэнты. Смялейшыя ўзабраліся нават на падаконнікі — зала інстытута нагадвала жывы амфітэатр.

«Пётр Франца...», «Лесгафт...», «Прафесар Лесгафт...».

Гэта прашапацела, як агульны выдых, і Алаіза міжволі пасілілася ўспомніць, дзе і калі ўжо чула гэтае імя.

Глядзела цяпер у цэнтр залы, на хударлявага, ужо немаладога чалавека з яркай рыжай шавялюрай.

Лесгафт маўчаў. Маўчаў працягла. Ажно здалося, што ён разгубіўся і не ведае, з чаго пачынаць. І ў гэтай залеглай па ўсіх кутках цішыні вельмі выразна прагучаў яго кароткі хрыплы кашаль.

Ніхто не абазваўся, не хіхікнуў.

І ўсё ж Лесгафт пачаў неяк нечакана — быццам толькі працягваў ужо сказанае. Спакойна, няспешна, не павышаючы голасу да таго надрыўнага эмацыянальнага тону, які так дзейнічае на слухачоў.

— Калі пан міністр унутраных спраў аддае губернатару ўсю ўладу дзяржаўнага самадурства — неабмежаванасць арыштаў, вобыскаў, ссылак! — даводзіцца толькі здзіўляцца ўздыму мастацтва і навукі, які адбываецца сёння ў нашым грамадстве. Следавацельна, так...

«Следавацельна, так...» Успомніла! З Верынага пісьма.

— А з другога боку, прырода грамадства, як і ўвогуле прырода існавання, не церпіць пустаты. Усё лепшае, што выграбаецца паліцэйскім самаўладствам з душы народа, асабліва моладзі, павінна інтэнсіўна запаўняцца матэрыяй высокай грамадзянскай якасці. І ў гэтым плане мы, людзі навукі і асветы, не павінны шкадаваць сябе. Як і людзі мастацтва...

«Следавацельна, так...»

— Калі грамадства траціць ідэалы, трэба стварыць новыя, але толькі такія, якія б сапраўды павялі да прагрэсу, захапілі ўяўленне людзей сацыяльнымі маштабамі! Іначай пустата запоўніцца ўсяісным паліцэйскім брудам мяшчанства, ілжывымі мроямі, парокамі п'янства і разбэшчанасці.

Алаіза не помніць, калі ўчапілася пальцамі ў рукаво суседа, але той нават не пакратаўся, не адрываючы вачэй ад шчупленькай фігуркі ў цэнтры.

— Апусташаючы душу маладога пакалення і пазбаўляючы яго сапраўдных гістарычных ідэалаў, паліцэйскія мазгі і чэравы ніяк не чакалі, што штучна арганізаваная імі пустата пачне імкліва запаўняцца бацыламі барацьбы і нянавісці. Нянавісці да ўсяго, што тармозіць развіццё навукі і культуры. Пошукі ідэалаў прывялі нашу моладзь да рашучага, крывавага, самаахвярнага змагання за сацыяльнае і палітычнае...

Алаіза ўжо спускалася з крэсла на падлогу, ледзь стрымліваючы ў горле камяк нуды, — паветра ў зале настолькі згусла, што яго цяжка было ўдыхаць. Вацак адразу ж пачаў прабірацца праз натоўп да выхаду. Але гэта ўдавалася яму нават цяжэй, чым тады, калі яны прабіраліся да крэслаў гадзіну назад.

І ўсё ж, выходзячы з будынка, Алаіза са шкадаваннем прыцішыла крок — чула, як з ягонай глыбіні неслiся глухія роўныя воплескі.

...Ноччу, улегшыся з Сабінаю на вузкім ложку, яна павярнулася да сцяны і ўдыхнула густы пах свежай пабелкі. Раптам адчула такую пустату і горыч унутры, што ажно прымкнула векі. Зразумела, што ў гэтым чужым, непамерна вялізным горадзе на экзамены экстэрнам у яе не хопіць ні сілы, ні ведаў, ні ўпэўненасці ў сабе. Мара аб універсітэце так жорстка прытуплялася

даўкім пахам сцяны, што яна даткнулася да яе холаду лобам і заплакала.

Старалася не кратацца, каб не трывожыць Сабіну, але тая, відно, яшчэ не спала.

Слёзы не траплялі на вусны, а толькі скочваліся па шчацэ на падушку, непрыемна казыталі.

Заснула. Але перад самым забыццём яшчэ раз успомніла паездку ў Тэхналагічны і ўсё, што ёй пры вяртанні расказаў Вацак пра Лесгафта. Мільганула думка, што трэба заўтра ж пацікавіцца ўмовамі прыёму на яго курсы, але цела ўсё болей слабела і выпростьвалася.

Калі прыйдзе Янук, яна не зможа... Не зможа...

Нават на раніцы, прачнуўшыся, не здолела адысці ад гаркаты і не стала нікога чакаць.

На Гандлёвай каля самага ўвахода ў трохпавярховы, просты з выгляду будынак, дзе размяшчаліся Біялагічная лабараторыя і курсы Лесгафта, стаяла невялікая тумба з аб'явамі. Адна была якраз аб прыёме на курсы выхавацелек і кіраўніц фізічнай адукацыі.

Прачытала: «Прыём слухачак можа быць толькі на малодшы курс на працягу канікулярнага часу да 15 верасня. Аплата 30 рублёў у год».

Гэта падыходзіла. «Рэхт!» — як казала Сабіна. Прыхапіла позіркам яшчэ адну аб'яву. Аплата ў Марыінскую школу каруначніц складала 160 рублёў у год. Але яна не збіралася туды запісвацца.

Вярнулася да ранейшага. «Анатомія, тэорыя рухаў і педагогіка — праф. Лесгафт Пётр Францавіч.

Хімія — Мальчэўскі Павел Людвікавіч.

Матэматыка — праф. Долбня Іван Пятровіч.

Механіка — праф. Багаеўскі Леанід Рыгоравіч.

Фізіка — Лебядзінскі Уладзімір Канстанцінавіч.

Фізіялогія, гігіена, чарчэнне, спевы, маляванне, фехтаванне...»

На гэтым фехтаванні ўсміхнулася і паставіла кропку.

Пятра Францавіча Лесгафта Алаіза ўбачыла толькі праз месяц — на занятках у вучэбным класе курсаў, побач з заалагічным музеем.

Весела павітаўся і лёгка прайшоў міма лавак, на якіх сядзелі слухачкі з блакнотамі на каленях, стаў за вузкую высокую кафедру. Памаўчаў.

Успомніла яго выступленне ў зале Тэхналагічнага інстытута, падумала, што такая падрыхтоўка для Лесгафта нешта накшталт рытуалу. Каб адразу ж пачаць з галоўнага.

Крыху адкінуўся назад. Як і ў Тэхналагічным, загаварыў нізкім глухаватым голасам:

— Многія з вас прыехалі сюды з далёкіх ускраін. І кожны год, прыходзячы сюды, я пытаю ў сябе: ці станеце вы так моцна сумаваць па радзіме, што прытупіцца галоўнае.

Ніхто яшчэ не адгарнуў блакнота, заварожана гледзячы толькі на Лесгафта.

— Аднак супакойваю сябе. Сум па радзіме даволі часта і моцна адчуваецца менавіта на радзіме. Гэта сум па радзіме іншай — выснёнай і прымроенай сацыяльнай свабодзе! In primo loko[1] цяпер не толькі авалодаць вучэбнай праграмай, але найперш умацаваць свой дух. Дух! Таму лічу абавязковым для вас наведванні заводаў і фабрык, гарадскіх фільтраў. З мэтаю не толькі бачыць становішча працоўнага чалавека і язвы на скуры ўсёй нашай дзяржаўнай палітыкі і эканомікі, але і высняць іх першапрычыны.

Разумею, як няпроста будзе вам зжывацца з суцэльным вар'яцтвам цэлага грамадства, якое прасмярдзела ад ананізму балбатні. Следавацельна, так! Паходзім на дзяжурствы ў бальніцы, і асабліва для душэўна хворых. Каб усвядоміць усю розніцу і ўсё падабенства паміж апошнімі і тымі, хто лічыць сябе здаровымі і благанадзейнымі.

У даўнія часы вар'ят, як кажуць, «апанаваны д'яблам», закоўваўся ў ланцугі. Цяпер гэтыя ланцугі зашчоўкваюцца на руках зусім іншых людзей, самых моцных і непрымірымых ворагаў паліцэйскай мамоны. Следавацельна, так, ланцугі як сродак насілля выкарыстоўваюцца палітыкамі не ў інтарэсах прагрэсу і будучыні, а наадварот!

У кожнай з вас ёсць талент, здаровае святло той планеты, якая завецца «жанчынай». Не маю на ўвазе тых лянівых таўстух з «праплёванага камфорту», «белападкладачных» студэнтаў і паненак у сукенках ад Ворта, якія пакутуюць свербам літаратурных плётак і

---

[1] На першым месцы *(лац.)*.

для якіх прымальны толькі адзін агульны дыягназ: «пустыя ў сур'ёзным і сур'ёзныя ў пустым».

Бывае цяжка бачыць асоб, якія пасля выхаду з гэтых сцен адракаюцца ад усяго, чаму яшчэ ўчора маліліся. І ў адрозненне ад апостала Пятра, нават раней, чым праспявае певень.

Спрэчкі, што закруціліся вакол жаночага пытання, самі па сабе ўжо сведчанне агульнага дзікунства. Сумленны голас часцей толькі vox clamantis in deserto[1]. Усцяшаюся: «Dixi et animal levavi»[2]. Але з разумных прыгажунь пад высокімі прычоскамі трыццатых гадоў цяпер робяць сенсацыі. У Тулузе ў судзе прысяжных у якасці адваката выступала маладая суперніца знакамітай Жанны Шавэн — Маргарыта Дзілан. Так, знаеце, умела вяла дазнанне, што суд прызнаў за вінаватым не абдуманае забойства, а толькі нанясенне цяжкіх ран у запале і раздражненні! Сенсацыя!

Лесгафт выйшаў з-за кафедры і абвёў слухачак цяжкім, але спакойным позіркам цёмных вачэй.

— Прашу запісаць план заняткаў па курсу фізіялогіі.

Побач на лаве заварушыліся, але Алаіза бачыла, што і цяпер мала хто падняў аловак.

— «Глікагенная функцыя пячонкі. Панкрэатычнае пераварванне стравы...»

«Натуральная цеплыня, яе рэгуляцыя і адносіны яе да мышачнай работы».

«Абмен рэчываў пры галаданні, пры ўжыванні розных прадуктаў і пры мышачнай рабоце».

Адчувалася, што Лесгафт думае зусім пра іншае. Пачаў нечакана:

— Статыстыка сведчыць: па ўсёй Расіі дзвесце тысяч сляпых, «ацямнелых». Што да слепаты духоўнай, то такіх «ацямнелых» у нас столькі, што падлікам статыстыкі ўжо не паддаюцца. Адны проста марац «раздушыць саракоўку». Другія — з вядомага анекдота: «Дзядзечка, дай майму коніку сена». — «А дзе я яго вазьму?» — «А чаму ж мама гаворыць, што ў цябе галава сенам набіта?»

Нехта ў заднім радзе захіхікаў.

---

[1] Голас прамаўляючага ў пустыні *(лац.)*.

[2] Я сказаў і аблегчыў тым душу *(лац.)*.

— Трэція... Прафесар палеанталогіі Якаўлеў, які практыкуе ў нашай біялагічнай лабараторыі, шэрагам вопытаў і назіранняў даказаў, што ў сучасным грамадстве ёсць дзіўныя ў заалагічных адносінах спіны. Следавацельна, так, спіны без пазванкоў, якія нясуць на сабе галовы псеўдавучоных і ўчарашніх лібералаў. Да гэтай высновы далучаецца і інжынер-тэхнолаг Міхаіл Уладзіміравіч Галалобаў, які вывучае разам з вамі архітэктуру касцей.

Адзін з маіх нядаўніх універсітэцкіх вучняў, на якога ўскладаліся вялікія надзеі, цяпер дэманструе свае веды і пачуццё гумару ў тоўстым часопісе ў раздзеле «Брыдкія жывёлы». Да ліку апошніх ён адносіць камара, блыху, мураша, прусака, вош і іншых. Прынамсі, вош — цікавейшая, на яго думку, істота! Гэтых самых «жывёл» малпы, кафры і жыхары Алеуцкіх астравоў шукаюць адзін у аднаго і потым, па яго ж назіраннях, прапаноўваюць сябрам плён свайго цудоўнага палявання. Рыса пад гэтым навуковым артыкулам падводзіцца тым, што вош не пакідае той чалавечай расы, на якой нарадзілася. Прынамсі, «жывёлы», якія жылі на жыхарах Сандвічаскіх астравоў, на кітабойнай лодцы загінулі, калі перапаўзлі на цела англійскага матроса!

А на суседняй старонцы ў часопісе — апавяданне «Жаніх» і фота аўтара, слаўнага князя Галіцына.

Шаноўныя паненкі, прашу запомніць, што гэта ніякім чынам не адносіцца да заняткаў, якія тут праводзіць з вамі прафесар Іван Якаўлевіч Шэвыраў.

Ёсць і чацвёрты тып сляпых. Але гэта ўжо ад слабасці недаразвітага сэрца. У псіхалагічным і маральным плане.

Даследаванне Нікіфарава паказала наступную сярэднюю вагу сэрца для розных узростаў. Прашу запісаць. Пішыце, пішыце. Нованароджаны — 21,3 грама. Канец першага года — 50 грамаў. Ад аднаго года да дзесяці — 85,4. Ад дзесяці да пяцідзесяці — 244, і ад пяцідзесяці да сямідзесяці — 320 грамаў. Следавацельна, так, абсалютная вага сэрца з узростам павялічваецца, а ў перыяд пасталення нават падвойваецца, што можна вытлумачыць развіццём яго механічнай сілы з паралельным паслабленнем пругкасці сценак сасудаў. Разам з тым сэрцу даводзіцца перадольваць усё большыя перашкоды на перыферыі. Але

гэта ўжо з галіны, аб якой я ўспамінаў! Унутраная слепата чалавека знаходзіцца ў прамой залежнасці ад працэсу атлушчэння сэрца. Следавацельна, так, прашу сканцэнтраваць на гэтым увагу.

Палавінчатая прэмія тэатра літаратурна-мастацкага гуртка аддадзена Елізавеце Пентэфрыевай за сачыненне «Палаючае сэрца» — раман у пяці частках з веліка-свецкага жыцця. Дадамо сюды яе ж «Гісторыю жаночай падвязкі», драму «Каварныя мужчыны», манаграфію «Кіраўніцтва па засолцы гуркоў», якая вытрымала ўжо сорак выданняў! Таксама сенсацыя! Прапаную вашай увазе частку з яе апошняга опуса «Аб характарах і манерах». І прашу запісваць, хоць такое не забываецца!

Алаіза і сапраўды ўзяла аловак.

— Цытую па памяці. Паненкі ўвогуле не павінны ні смяяцца, ні многа плакаць, ні многа гаварыць, ні многа маўчаць, ні многа есці, ні многа піць, ні хутка хадзіць, ні гучна смаркацца. Не прынята ўвогуле, каб выхаваная паненка ў чужой кампаніі, асабліва ў мужчынскай, ляпала сябе абедзвюма рукамі па сцёгнах, альбо садзілася ў крэсла, паклаўшы нагу на нагу, альбо папраўляла сабе падвязкі, альбо калупалася пёркам у зубах, альбо ўцягвала носам паветра, альбо шукала ў сваёй галаве вязальным прутком, альбо чухалася спіцаю аб вушак, альбо высоўвалася напалавіну з акна, калі заўважыць на вуліцы афіцэра, альбо ікала, альбо...

Панавала такое маўчанне, што было чутна, як недзе ўверсе б'ецца аб шкляную люстру дурная адзінокая муха. І толькі калі Лесгафт выйшаў, у класе грымнуў такі рогат, што, здаецца, у суседнім заалагічным музеі на падлогу пападалі адразу ўсе муляжы.

Алаіза маўчала. Слухала, як дзяўчаты наперабой цытуюць асобныя колкія выказванні Лесгафта, але не магла выціснуць з сябе нават усмешкі. Сілілася стрымаць унутры горыч сораму і агіды.

У канцы тыдня, як і мелася па плану, пасля заняткаў паехалі на прыгарадную бойню. Экскурсія была добраахвотная, сабралася не так і многа. Суправаджаў той самы інжынер-тэхнолаг па архітэктуры костак Міхаіл Уладзіміравіч Галалобаў, пра якога ўспамінаў Лесгафт.

Ад вузлавой станцыі трэба было вярнуцца крыху назад да Чорнай рэчкі і Ланскага моста. За невялікай

вуліцай з двухпавярховых камяніц ішлі склады, жылыя драўляныя дамы і вялікія гароды з пажухлым плямістым бульбоўнікам. Дзе-нідзе за платамі дыміліся вогнішчы.

Алаіза парадавалася, што загадзя прыхапіла гумовікі. Яшчэ ў вагоне пераабулася і цяпер смела шлэпала па збітай і настолькі гразкай дарозе, што ногі ад напружання ажно трымцелі.

Перад вачамі нечакана раскінулася прыгожая нізіна, за якою сінеў лясок. Злева ад яго высіліся будынкі той самай бойні, куды яны кіраваліся. Але ўвагу ўсіх прыцягнуў людскі натоўп каля самага ляска.

Галалобаў вёў гутарку, пачатую яшчэ ў прыгарадным.

— ...гэта тое, што ў механіцы завецца «бескарысным» трэннем. Па звестках медыцынскага дэпартамента ў Расіі за адзін год памерла ад адной воспы больш за сорак тысяч, ад шкарлятыны каля ста шаснаццаці тысяч, ад тыфусу больш за семдзесят сем, а ад звычайнага дзіцячага паносу дзвесце трыццаць адна з паловай.

— Гэты енк вакол раку зусім неапраўданы! — Кацечка Іванова паслізнулася і чэпка схапілася за рукаво Алаізінага палітончыка.

— Ну, не, мілая, — запратэставаў Галалобаў. — Хвароба жахлівая, бо не паддаецца лячэнню. У Барнэо пры частаце балотных ліхаманак не зафіксаваны ні адзін выпадак раку. Лёфтэр, прафесар, выказвае думку, што з'яўленне раку ў Еўропе ўзрасло з прычыны аздараўлення краін. Дайшло да таго, што той жа Лёфтэр прапануе правесці вопыты. З аднаго боку, можна штучна прывіць малярыю ад хворага здароваму. З другога, малярыя лёгка вылечваецца хінінам.

— А ён паясніў, хто будзе падвопытным? — не стрымалася Алаіза. — Як гаворыць у такіх выпадках Пётр Францавіч...

— А скажыце, — Кацечка Іванова, звяртаючыся да Галалобава, перабіла Алаізу такім усхваляваным голасам, што ўсе толькі пераглянуліся. — Праўда гэта, што Пятру Францавічу было забаронена жыць у Пецярбургу?

Галалобаў прамаўчаў, і Люба Казанкіна тут жа шапнула на вуха Алаізе:

— Як кажа Наталь, — мела ва ўвазе выкладчыка фехтавання італьянца Кіяверы, — ангажэменты па верхніх лініях і атака на шпагу!

Дзяўчаты прыглухлі. Галалобаў, як адчуўшы, што сваім замоўчваннем толькі шкодзіць агульнаму даверліваму настрою, вярнуўся да пытання Кацечкі.

— Ёсць трапны выраз, што наш Пецярбург падобны да вугалю. У ім калі не апячэшся, то запэцкаешся. Пётр Францавіч у самым добрым сэнсе максімаліст. Але ад мая гэтага года яму зноў дазволена вярнуцца ў Пецярбург.

Стала добра відаць, што каля паляны, якая пад халодным восеньскім святлом блішчала і здалёк нагадвала гладкую пярэстую шкуру, стоўпілася многа розных людзей. Паважныя, у клятчастых паліто, пад капелюшамі, і бяднейшыя, у выпаленых тужурках і чорных пляскатых шапках. Асобна стаяла некалькі жанчын.

Пасярэдзіне паляны чарнела вузкая дарожка, па якой павольна праходжваліся чатыры чыноўнікі ў шэрых суконных шынялях, залажыўшы рукі ў пальчатках на грудзях ці засунуўшы пальцы ў кішэні.

Першая зазвінела Кацечка:

— Зайцы! Гляньце, дзяўчаты.

Алаіза ажно прыцішыла ад здзіўлення хаду. Уся паляна і сапраўды была закладзена роўнымі радамі шаракоў з акрываўленымі лапамі, пыскамі і жыватамі.

— Аўкцыён пасля прыдворнага палявання, — паясніў Галалобаў.

Зайцоў было не дзесяткі, а сотні, нават тысячы, і Алаіза, праходзячы разам з усімі ўздоўж іх мёртвых радоў, жахнулася.

— Што не прададуць — здадуць на бойню. Там ёсць спецыяльны куток для гэтай свежаніны.

Каля аднаго з чыноўнікаў спынілася немаладая жанчына ў шэрай накідцы і маленькім капялюшыку. Коратка перамовілася з ім і пайшла па дарожцы, паказваючы рукою на аблюбаванага зайца.

— Паніна, — паясніў Галалобаў. — Адкрыла нядаўна Народны дом. Але, здаецца, гэты абед вылеціць ёй у капеечку!

За жанчынай дробна мельцяшыў каратканогі мужычок у світцы і паспешліва кідаў выбраных зайцоў у брудны мяшок.

— А хто прадае? — Хітра прыжмурыла вочы Люба Казанкіна, штурхнуўшы Алаізу ў бок.

— Сталаначальнікі, — умяшалася Кацечка.

— Як сказаў Мікалай: «Расіяй правяць сталаначальнікі».

У адказ на Алаізіну рэпліку Галалобаў толькі весела азірнуўся.

Тры нізкія цагляныя будынкі бойні стаялі так, што ўтваралі літару «П». У правы, відно, заганялі жывёлу, — адтуль цяпер чулася жаласлівае ржанне. Каля сцяны хлява высіліся цэлыя кучы гною, валяліся паламаныя колы і драбіны. На двары стаяў едкі смурод. Над выпражаным возам з мокрым сенам унурылася некалькі кароў, падобных на абцягнутыя бліскучай гумаю шкілеты.

Па цэнтры размяшчаўся бойны цэх, дзверы ў яго былі шырока адчынены. Увайшоўшы туды следам за іншымі, Алаіза міжволі напружыла зрок.

Затаптаны да чарнаты гліняны ток. У сценах зверху — вузенькія амбразуркі незашклёных вокнаў. Два рады падцягнутых да столі на круках вялізных конскіх туш. З правага боку — некалькі доўгіх сталоў з запечанай пасярэдзіне цёмнай крывёю. Насустрач ужо спяшаўся замашысты барадаты мужчына ў пенснэ, што ніяк не пасавала да яго насупленага, непрыветлівага аблічча. Паверх сіняга халата завязаны скураны фартух. Усе прыціхлі, але мужчына, убачыўшы Галалобава, так шчыра ўсміхнуўся, што здаўся цяпер зусім не такім — прыветлівым і мілым. Аднак папярэдзіў:

— Каранцін, каранцін, паненкі! Следавацельна, так!

Сарамліва ўсміхнуўся яшчэ раз, нібыта асабіста быў вінаваты ў непрыемным здарэнні. Пачуўшы знаёмае «следавацельна, так», дзяўчаты закраталіся да яго бліжай.

— Што там, Пётр Яўсеевіч? — устрывожыўся Галалобаў.

— Сап.

— Ого! Выпадачак...

— Трэба было б адразу знішчыць труп, але рук проста не хапае. Такім чынам, — сап! Адыдзіце. — Пётр Яўсеевіч захваляваўся, хаця ніхто з дзяўчат і блізка не падступаўся да трупа. Падняў з падлогі тоўсты кароткі кій, зарухаў ім. — Бачыце вузлы ў лёгкіх? Велічынёю

з грэцкі арэх і нават курынае яйка. Засевы з вузлоў пячонкі далі чыстую культуру сапу. З гною трахеі і бронхаў атрыманы калоніі сапных бацыл у сумесі са стрэптакокамі...

Алаіза выйшла. Услед за ёю з дзвярэй выпырхнула Кацечка Іванова. З трупярні ўсё яшчэ даносіўся рэзкі, нечым незадаволены голас доктара.

— Гадка! — не вытрымала Кацечка. — І каму гэта ўсё трэба? Калі яшчэ і Пётр Францавіч, следавацельна, так, падсыпле гэтых стрэптакокаў — падмятуся!

— Панюсечка ты... Смех недасмяяны...

Падзьмуў вецер, але прынёс не свежасць, а смурод ад хлява.

Позна ўвечары, пасля заняткаў, напілася несалодкага чаю і, пажадаўшы Сабіне добрай ночы, уключыла настольную лямпу пад металічнаю аладкаю-каптуром. Кінула на плечы палітончык. У аконныя шчыліны, рухаючы фіранкі, дзьмуў вецер. Пагартала блакнот. Апусціла гарачую галаву на скрыжаваныя рукі з надзеяй адпачыць хоць некалькі хвілін. Прыслухалася. У вокны па-ранейшаму дзьмуў халодны вецер. Трэба было паправіць на плячах скошаны палітончык, але паленавалася. Зноў прыслухалася.

... Насустрач ёй з глухім, але пагрозлівым груканнем капытоў блізіўся табун. Амаль усе коні былі яркай рудой масці, з лёгкімі грывамі, што ўскрыльваліся над шыямі і гарэлі пад ружаватым заходзячым сонцам. Высокі і чорны, чыста вірутны чорт, пярэдні жарабец раптам звярнуў з дарогі, забіраючы за сабою ўвесь табун, і цяпер той ужо пакіраваўся працяком да Алаізы. Аднак не магла крануцца з месца, чулася, бы ў нейкім моташна мёртвым сне.

І тут жа ўзрадавана заўважыла недалёка ад сябе Костуся Каранца. З такою ж стрыжанаю, як пры іхняй апошняй сустрэчы ў Пінску, галавою, у той жа шарачковай сарочцы навыпуск.

Падняў руку з пугаю, моцна крутнуў ёю ў паветры і з усяго маху паласнуў бізуном па жарабку, рэжучы спіну. Жарабок тут жа крутнуў убок і нечакана рухнуў на зямлю, а табун грымнуў міма Алаізы, пакінуўшы за сабою воблака пылу і апалага на бок важака, толькі

тонка заржаў да яго. І ўжо ў бязмежнай, як вокам акінуць, далечыні амаль паслаўся па зямлі. Знік у ружовым захадзе сонца.

Які дзіўны сон...

## 2

У другой палове кастрычніка ў Пецярбургу выпаў першы снег. І адразу ж падзьмуў моцны вільгатнаваты вецер, пад вечар крыху марозіла. Парэнчы мастоў над Нявою здалёк сіне блішчалі ад наледзі. На калоне Перамогі яркаю жаўцізною адлівалі залатыя крыжы і крылы залатога анёла. А на праспектах і вуліцах ледзь не ўдвая паменела народу, асабліва падлеткаў — разносчыкаў газет. Магчыма, так толькі здалося. Газеты прадаваліся па-ранейшаму з самай раніцы. Але мальцы нібыта згубілі свае бадзёрыя звонкія галасы, і без іхніх прызыўных крыкаў усё навокал адразу ж прыглухла і апусцела. Горад замёр на цэлы тыдзень. Нават гарадавыя пачалі пільней узірацца ў прахожых з настаўбучанымі каўнярамі куртак і плашчыкаў. Многія спыняліся і трывожна лавілі подых сцюдзёнага ветру, вызначаючы яго накірунак. Пецярбуржцаў цікавіла цяпер толькі адно: ці не з заліва ён, гэты вецер, ці не прынясе ён гораду навадненне?!

Нядаўна прызначаны на пасаду таварыша міністра ўнутраных спраў генерал-лейтэнант фон Валь насуперак логіцы абвінавачваў гарадскую ўправу ў недастаткова актыўным ачышчэнні сталіцы імперыі ад басякоў, асабліва ў начлежках Казанскай часткі горада. Земства ў адказ заявіла, што крыніцай заражэння тыфусам сталі выпушчаныя на волю бяспашпартныя арыштанты.

Конкі перапоўніліся, карэт таксама пабольшала.

Басякі адчайна ўцягвалі гараджан у бойкі, імкнучыся трапіць у каталажку, дзе можна было б схавацца ад непагадзі.

Вецер не аціхаў. Аднак роўна праз тыдзень на Пецярбург паваліў такі густы і буйны снег, што ўсе ўздыхнулі з палёгкаю. І першымі аб гэтым абвясцілі сваімі асіплымі, але па-ранейшаму бадзёрымі галасамі падлеткі з газетамі. Праўда, цяпер яны былі ўжо ў грубых мужчынскіх чаравіках і ў даўгаполых пінжаках з чужога пляча. На тонкіх шыйках шыкоўна матляліся стракатыя брудныя шалікі.

Вецер яшчэ сваволіў, і на Няве з-за шугі мог узяцца няроўны лёд. А гэта перашкодзіла б наладзіць санныя пераезды на астравы. І ўсё ж праз тыдзень у горадзе пачалася сапраўдная адліга — мокрыя цёмныя сцены камяніц пачалі зверху падсыхаць, над пад'ездамі затляліся парусінавыя анучкі з чырвонымі палоскамі, абвяшчаючы нейкае свята: канцэрт альбо студэнцкую сходку. Каля Гасцінага двара пырхалі аднаконныя каляcачкі «на гуме».

Была раніца другога лістапада.

Апошнія два гады амаль усе свае афіцыйныя данясенні папячыцелю Вучэбнай акругі рэктар Пецярбургскага універсітэта даручаў складаць сакратару Вучэбнага камітэта. Правяраў і падпісваў. На гэты раз ішло пра адмену традыцыйнага святкавання гадавіны універсітэта, і ён выклікаў да сябе даволі ўплывовага ў навуковым свеце, папулярнага сярод студэнтаў — найбольш з-за верхагляднага палітыканства (як лічыў рэктар) і гульняў у модныя тэорыйкі — саракагадовага прафесара неарганічнай хіміі Сямёна Рыгоравіча Юхневіча. Разлік рэктара быў просты — заручыцца падтрымкай Вучэбнага камітэта.

Юхневіч сядзеў за шырокім сталом у сваім цесным мундзірчыку разначынца з такім насцярожаным выразам на худым твары, з такімі нядобра прыжмуранымі калючкамі вачэй, што ў адказ можна было толькі ветліва ўсміхацца.

— Вы ўжо ведаеце, Сямён Рыгоравіч, што праз месяцы два трэба будзе думаць, усім нам, аб наладжванні ў бягучым годзе святочнага акта. Гадавіны альма-матэр!

Юхневіч з лёту ўлавіў трывогу рэктара і здзекліва скрывіўся:

— Але ж мы не можам, як факіры, пераскочыць з сёмага лютага ў дзевятае. Не хопіць пачуцця гумару.

Рэктар яшчэ раз дружалюбна, але з годнасцю ўсміхнуўся яму і схіліў набок вялікую сівую галаву з магутным падбародкам.

— Ці не гэтае пачуццё гумару, аб якім вы мне, пан прафесар, нагадалі, дало штуршок для арганізацыі нейкага там студэнцкага хору?

— Калі студэнт спявае вечарам рэвалюцыйныя песні, то ці значыць гэта, што назаўтра ён пабяжыць да Ісакіеўскага з бомбаю?.. Маладосць, знаеце.

— Між іншым, вы ў курсе, што сёння павінен адбыцца вечар гэтых самых... Ну, ведаеце ж! Лесгафтычак!

— Мне вядома толькі тое, што будзе канцэрт з мэтаю матэрыяльна падтрымаць курсы.

— Многія ў Вучэбным камітэце...

— Хто многія?..

— ...лічаць, што ўмяшанне прафесуры ў культурны фактар студэнцкага асяродку, — голас Юхневіча ўжо звінеў, — не што іншае, як патуранне рэакцыйным мерам! — Юхневіч схаваў пенснэ ў кішэнь, ссунуў цёмныя бровы, і ад таго ягонае аблічча яшчэ павузела і завастрылася ў падбародку.

— Прашу не крыўдаваць. Але я бачу ў вас аднадумцу, Рыгор Сямёнавіч. І дазвольце мне нагадаць вам як члену Вучэбнага камітэта аб тым, што калі ў студэнцкай сталоўцы з'явілася вядомая ўсім нам адозва, то назаўтра ж, у дзесяць гадзін раніцы, хімічны двор быў запружаны. Ці не так? Сабралася семсот чалавек! Семсот! І пры гэтым, уявіце, у аўдыторыях мірна ішлі лекцыі і заняткі, пры звычайнай колькасці студэнтаў. Вядома, змест пракламацый сацыялістычны і стасуецца хутчэй да рабочага руху. У большасці. Але ёсць жа і звернутыя да нашых з вамі дзяцей. А вынікі?

— Вы маеце на ўвазе тры раскрытыя тайныя друкарні?

— Толькі пачуццё гумару падказвае мне, што там друкаваліся любоўныя куплеты ці, у лепшым выпадку, курсавыя па неарганічнай хіміі.

— Здаецца, вы хочаце абвінаваціць мяне?

— Памілуйце! Але калі ў праўленні, якое хутка збярэцца, прагучаць ліберальныя ноткі дзевяностых гадоў...

— Нельга нічога прадугледзець.

— Зразумела.

— Але...

— Вось іменна. Але!.. І яшчэ. Як стала вядома, некаторыя з нашых студэнтаў увайшлі ў незразумелую, на мой погляд, групоўку выхадцаў з Паўночна-Заходняга краю. Ускраіны. Здаецца, нават рэвалюцыйную партыю!

— Вас насцярожвае слова рэвалюцыйную?

— Што [redacted] мяне ні насцярожвала, але ў данясенні папячыцелю я не магу адкінуць гэты факт.

— Пры чым тут акт восьмага лютага?

— Усё пры чым. Усё, пан прафесар. Павароты ў хо-дзе святкавання могуць быць розныя. Да таго ж, прызнацца, я мяркую, што нацыянальнае пытанне аднаго кораня з рэвалюцыйным і сацыялістычным.

— Праблему іншародцаў ніхто не чапае.

— Вы памыляецеся.

— Працэс асіміляцыі забараняе прыцягваць увагу да асобных выпадкаў нацыянальнай актыўнасці. Ад гэтага рэвалюцыйнага зямляцтва па нашай волі могуць пайсці такія кругі...

— Ёсць абавязак...

— Магчыма! Вядома ж! Але калі гаварыць пра канкрэтнае данясенне, дакладней, пра ўвядзенне ў яго факта пра студэнтаў-беларусаў, то я дазволю сабе ўспомніць адну даўнюю гульню рускіх афіцэраў. «Зязюльку». У вялікім пакоі, цёмным, стаіць некалькі чалавек. У кутках. [redacted] зараджанымі рэвальверамі. Чакаюць. Раптам у нейкім кутку раздаецца «ку-ку». І туды імгненна ляціць некалькі куляў. І слухаюць, ці не прагучыць стогн, ці не грымнецца вобзем цела. Калі не, гульня працягваецца...

— Жахліва.

— Не думаю, што якраз цяпер гэтае «ку-ку» павінна прагучаць з універсітэцкага кутка. Там жа не толькі нашы, як вы кажаце, дзеці! Дык што ж нам браць гэта ўсё на сябе?

Рэктар асцярожна прамаўчаў. Пасля ўсміхнуўся.

— Я таму і раюся.

— Пракламацыі і друкарні не схаваеш. Што ж да астатняга, то... Я сумняваюся!

Ужо ў самых дзвярах Юхневіч азірнуўся, прыжмурыўшы вузкія ад блізарукасці вочы, скрывіў недаверлівую ўсмешку. Пакланіўся і выйшаў.

Не падымаючыся з-за стала, рэктар падсунуў бліжай ужо гатовае данясенне, выкрасліў алоўкам усё, што адносілася да беларусаў, успомніў раптам, што Юхневіч сам з Віленскай... Не-не, здаецца, з Мінскай губерні. Зрэшты, няважна. Дапісаў унізе: «Праўленне ўпэўнена, што на акце 8 лютага, калі ён адбудзецца, з

хораў, без сумнення, паляцяць пракламацыі, а гэта, як сведчыць вопыт, выкліча поўнае парушэнне парадку».

* * *

Было не па часе цёпла і лагодна. Дрэвы ў Кацярынінскім садзе недзе дні за два скінулі апошнюю лістоту і здаваліся цяпер тонкімі да празрыстасці.

Кацечка Іванова тузанула Алаізу за рукаво.

— Зашпіліся! — Скасілася на яе старэнькі плашчык. — І так хоць па ветры пускай!

— Лішэнь азлівала ўжо?!

Праз гадзіну ў зале Дваранскага сходу пачынаўся вечар. Пакуль дасталіся туды, Алаіза і праўда азябла.

Нарэшце ўляцелі ў ярка асветлены вестыбюль: каля гардэроба таўкліся студэнцкія кампаніі. Была і даволі шыкоўная сталічная публіка, — на голых плячах некаторых дам пухам слаліся расчасаныя боа. Прыглушаны святочны гул перарваўся дэманстратыўна гучным рогатам са студэнцкай палавіны. Асабліва многа сабралася універсітэцкіх — на пінжаках са стаячымі чорнымі каўнярамі бліпічалі ў два рады металічныя напараваныя гузікі. З грамады радасна вылучыла Вацака, «археолага» Янука і ягонага брата Антося, з якім пазнаёміліся толькі заўчора. Захацелася да іх, але задрымдзеў рэзкі званок. Публіка хлынула ў залу.

Яны з Кацечкай сядзелі на рыпучых драўляных крэслах, нязручна ўпіраючыся каленямі ў спінкі мяккіх нізкіх крэслаў перадапошняга рада. Якраз перад Кацечькай, на мяккім радзе, сядзелі двое: мужчына з кароткай клінападобнай бародкай у светлым касцюме і зусім маладзенькая дзяўчына. На сцэне стаяў немалады лысаваты артыст-дэкламатар. Чытаў моднага «Дон-Кіхота»: «И любовь, и вера святы. Тою верою согреты все великие безумцы, все пророки и поэты».

Шуганулі апладысменты. Але Алаіза толькі мацней сціснула пальцамі гладкае сядзенне. Мужчына з клінападобнаю бародкай нізка схіліўся да белага пляча суседкі, каменціраваў кожны новы нумар, і гэта ўрэшце пачало раздражняць. Як на тое, пачала мяўкаць арфа. Чамусьці нічога не падабалася...

Прыплюшчыла вочы — у нос раптам ударыў дымны горкі смурод. Людзі наперадзе пачалі занепакоена рухацца, і толькі адзін клінабароды ціхім смяшком

супакойваў сваю маладую суседку. Кацечка ткнула Алаізу ў бок локцем, яны тут жа адсунулі назад рыпучыя крэслы, падняліся, каб бачыць сцэну. Перад чорным крыжам, на ўзвышэнні, ярка бялела высокая жаночая постаць. Блізка ад краю сцэны шугалі сапраўдныя, хаця і невысокія парваныя языкі агню, у прыцемку было відна, як уверх віецца сiняваты дым. Клінабароды паднёс да носа клятчастую хусцінку, млява выдыхнуў: «З «Арлеанскай дзевы».

Ах, Славіна! Аднак жа ў «Марыінцы» гэта робяць эфектней!

«Арлеанская дзева», Славіна, не зважаючы на дым, роўна вяла сваю арыю на французскай мове, полымя, здалося, паднялося ўжо да самых яе каленяў, абвіваючы дымам белую вопратку. Зрабілася моташна і дзіка.

Трое студэнтаў у рукавіцах — здзіўлена пазнала ў адным з іх Вацака — выбеглі на сцэну адразу ж пасля апошняй высокай ноты, асцярожна, але таропка паднялі з падлогі доўгую бляху з распаленымі паленцамі, панеслі яе за кулісы. Цяпер стала добра відна, што паміж гэтай бляхаю з агнём і спявачкай было метры тры, Алаіза апантана біла ў далоні, кашляла ад смуроду, незадаволена адчуваючы, як у ногі балюча ўпіраецца тонкае сядзенне крэсла. З люстры хлынула яркае святло, збіла са сцэны апошнія змейкі дыму. Нядаўняе відовішча здавалася ўжо нерэальным, нават смешным, — гледачы спакойна ўмошчваліся ў крэслах. Нехта ззаду казытнуў Алаізу пальцам па шыі, крутнулася і адразу ж убачыла хітраватую белазубую ўсмешку «археолага» Янука. Падміргнуўшы, паказаў вачамі на сцэну: «Туды ўзірайся!» Рашуча ўціснуўся паміж ёю і Кацечкай, якая ўпотайкі змахвала з павек слёзы, абняў абедзвюх за плечы. Пачула, як хлопцы шумна і злосна адсоўваюць іхнія крэслы да самай сцяны.

На сцэну ўжо выбегла тоненькая жанчына ў непамерна шырокай ярка-пунсовай сукенцы, і тут жа, як даганяючы яе, рэзка, адчайна азваліся скрыпкі аркестра, затрапятала тонкая мелодыя. Нехта не вытрымаў:

— Іліядора... Дункан!

— Брава!

Клінабароды гучна пракаменціраваў: «Ідылічны танец», на што Янук нечакана з'едліва выгукнуў:

— У пяты ёй пячэ!

Не зразумела, ці гэта ён жартуе, ці сапраўды нешта не ўпадабаў. Бачыла, што ў глыбіні сцэны ўсё яшчэ пагрозліва высіцца той самы, як абвуглены, крыж «Арлеанскай дзевы», — Янук моцна гарнуў яе да свайго пляча, нібыта баронячы ад нечага ці некага, і маўчаў. Потым падняў галаву.

Галасы аркестравых скрыпак успіналіся вышай і вышай, ліліся адтуль у залу, а па сцэне, развінуўшы чырвоныя крылы лёгенькай сукенкі, імкліва перабіраючы босымі нагамі, танцавала Айсядора Дункан.

Куды гэта ён так нячутна знік, гэты Янук. (Зала амаль апусцела, але з артыстычных пакояў несліся няроўныя, моцныя мужчынскія галасы.)

Кацечка таксама знікла, і Алаіза з трывогаю азіралася навокал. Адчула моцны штуршок у плечы. Не было як злавацца, адно што хітнулася бліжэй да гардэроба, забраць плашч. У спешцы ніяк не магла трапіць у рукавы, таропка зашпільвалася. Аднак усё роўна была апошняй. Па баках уваходных дзвярэй Дваранскага сходу ярка свяціліся, пачэпленыя на прыгожа гнутыя металічныя ручкі, ліхтары.

Твар асвяжыўся сухім вецярком. Алаіза нечакана ўбачыла побач Янука, Антося і Вацака: узяўшыся за рукі, стаялі перад будынкам у даволі даўгаватым студэнцкім радзе. Спявалі «Нагаечку».

Янук раптам ступіў крок наперад, пацягнуў за сабою і Вацака, крыкнуў:

— Апалонаў! Коля?

Зірнула туды ж, куды цяпер глянулі ўсе — з супрацьлеглага боку вуліцы бегла некалькі жандараў у белых кіцелях, і першы з ходу кінуўся да крайняга ў радзе, невысокага юнака ў акулярах. Ланцуг разамкнуўся. Усе рынуліся да жандара, але той ужо выпусціў юнака, пагрозліва падняў над сабою бліскучую ў ліхтаровым святле дубінку.

— Расхадзіцеся!

— Ды ну іх да д'ябла!

Не паверыла, што гэта вырвалася ў яе самой. Змеціла на сабе здзіўленыя позіркі, ступіла наперад і зноў крыкнула:

— Смяццё гэтае.

Што такое смешнае яна сказала? Хіба што абразлівае для тых кіцеляў. Але студэнты раптам грымнулі

гучным рогатам, і агаломшаныя жандары толькі здзіўлена пераглядваліся. Янук ужо лёгенька падштурхоўваў у плячо таго самага студэнціка ў акулярах, Колю Апалонава, усе заварушыліся і пайшлі наўскос тратуара ў суседні завулак. Над галавою ярка свяціліся вялікія ліхтары. Каля сцен і дзвярэй Дваранскага сходу на шэрым бруку блішчалі пісягі пяску, ад лёгкага ветру ўзляталі пакамечаныя білеты.

Яны чацвёра — Вацак, Алаіза і Янук з братам, сеўшы ў конку, дасталіся да Абухаўскай бальніцы праз якія паўгадзіны.

Было запозна, але іх сустрэў высокі цыбаты чалавек у сінім халаце, той самы фельчар, пра якога яшчэ ў дарозе згадваў Вацак: «Свой чалавек».

— Што гэта вы на «свіныя галасы»?

— Выбачай, бусел.

— Там ужэ ўсе.

Мінуўшы прыцемнены калідор, спыніліся перад высокімі фарбаванымі дзвярамі.

— Сталоўка, — паясніў фельчар. — Толькі цішэй, браце, а то і так вушы настаўляюць!

У вялікай сталоўцы сабралася чалавек дваццаць. Усё болей студэнтаў-тэхнолагаў. Асабліва не ўзіраючыся ў прысутных, Алаіза прысела за бліжэйшы хісткі стол побач з Януком. Перад усімі стаяў таўстагубы невысокі студэнт, відно, прамоўца. Янук шапнуў Алаізе: «Мечык Міхаловіч». Вацак падаўся наперад, і Міхаловіч тут жа саступіў яму месца.

— Прашу велькай увагі, шаноўныя, бо маюся прачытаць адозву да інтэлігенцыі беларускай, якая зганьбіла і страціла сваё аблічча перад гісторыяй... Настаў час, калі трэба рабіць нешта з нічога!

— Чытайце ж адозву, калега. — Усе павярнуліся на мяккі, але ўладны голас. — Не варта марнаваць дарагі час.

Яшчэ не абярнуўшыся, Алаіза чамусьці адразу ж здагадалася, што гэта сказаў той самы немалады чалавек з хваравітым абліччам, якога з самага пачатку першым позіркам выдзеліла тут сярод іншых. Быў у простым цёмным касцюме, трымаўся горда і як бы крыху збоку ўсіх, шчыльна закрываючы ад чужых

вачэй выраз твару — знешне спакойны, нават раўнадушны.

— Гэта ўмэнт, прафесар, — згадзіўся Вацак, і прысутныя зноў закруцілі галовамі, крыху здзіўлена азіраючыся на прафесара. — Наша адозва, пан Юхневіч, была напісана па-польску з мэтай дайсці да таго, як я сказаў, апалячанага беларуса-інтэлігента, які складае немалую частку нашага культурнага асяродку. І трэба давесці царскім конюхам справядлівае патрабаванне. — Вацак выняў з кішэні і паклаў на стол тонкі ліст. — Аднак пачытаю цяпер па-беларуску. «Дайце людзям асвету, але дайце яе на мове бацькаўшчыны. Іначай яна ніколі не апусціцца да нізоў. Розум дзіцяці, з цяжкасцю авалодваючы агульнымі паняццямі, мае падвойную працу, калі авалодае імі на чужой мове. Адтуль недакладнасць, хаос, нянавісць да навукі. Родная мова — гэта праява душы, яе пачуццяў, думак...»

Яна не пазнавала Вацака. Стаяў перад усімі з упарта сціснутымі ў кулак пальцамі і фанатычным бляскам у пацямнелых вачах — быццам адразу пасталеў, і яго трэба было цяпер зразумець нанова, прыняўшы, як сваю, альбо адхіліўшы прачытаную адозву, стаўшы на шлях змагання альбо саступіўшы з яго вось цяпер, адразу ж...

— «Дайце народу пазнаёміцца з гісторыяй. Чалавек, які не памятае таго, што рабіў, адчуваў, мысліў, які не карыстаецца ўласнымі набыткамі, — не можа кіраваць сабою, становіцца лялькаю, пасмешышчам у людскіх вачах. Ён можа толькі бедаваць, жыць у галечы. Гэта амаль што быдла... А вы? Вы зрабіліся нявольнікамі! І не столькі ад таго, што вас прыгнялі няшчасці. Вы зрабіліся нявольнікамі духоўна — як вернападданыя свайго цара... Дзе ваша права?..»

— Як я зразумеў (голас Юхневіча), вы кіруеце да асветніцкай дзейнасці. На дадзеным этапе шлях правільны, бо ніякія перадавыя ідэі не ўзрастаюць на полі глухой свядомасці.

— Ці не патыхае «хлапаманствам», пан прафесар? — рэзка ўступіў Міхаловіч.

— Каму што, а млынару вецер! — Алаіза адчула на сабе крыху здзіўлены, але прыязны позірк прафесара, паспешліва павярнулася да Вацака. — Тое, што ты чытаў, ужо даўно хадзіла на дражджах...

У сталоўцы запанавала агульнае ажыўленне.

— Дарэчы, я яшчэ не дачытаў! — Вацак паклаў на стол паперу і, пачуўшы нечае: «То, давай!», працягваў яе чытаць: — «Першае. Стварaць групы з мэтаю працы над моваю, асабліва граматыкай, а таксама краязнаўствам, гісторыяй, літаратурай...»

Студэнты пачалі падымацца з-за сталоў, стоўпіліся вакол Вацака, але Алаіза рашуча падышла да Юхневіча. Той крыху ніякавата ўсміхнуўся:

— А я вас ведаю, Алаіза. Больш таго, чытаў вашыя вершы ў Янука. Слаўныя!

Такога яна не чакала і пачырванела. Юхневіч павярнуўся да суседа, маладога невысокага мужчыны ў вышыванцы, з чорным вусам на далікатным прыгожым твары.

— Знаёмцеся, паэтка. Наш украінскі сябра, пакуль што невядомы збіральнік народных скарбаў Іларыён Свянціцкі.

Рука ў Свянціцкага была цвёрдая — шчыльна абхапіў яе пальцы, балюча ціскануў.

— Як убачыў пекных дам, — Юхневіч адкрыта блазнаваў, бо ў сталоўцы з жанчын яна была толькі адна, — то, знаеце, хацеў гоц — ды за дзверы!

Свянціцкі падхапіў гэты жартаўлівы тон:

— Люблю творы мастацтва, асабліва ў натуральным выглядзе.

— І асабліва паэтак!

— А ты што гэта, прафесар, — Свянціцкі тут жа злавіў яе настрой, — цешышся, як дзіця? Хіба сам вершы не пішаш?

— То пан прафесар вершыкі піша? — яна ўжо не магла стрымацца. — Публіка! Чуеце?! Пан прафесар, — прымоўкла наўмысна, — хоча прачытаць нам вершы. Праўда ж, пан прафесар? Слухаем?! — Алаіза рэзка павярнулася да Юхневіча і прыкусіла губу. Той быў шэры, як палатно.

Усе ўзбуджана рассаджваліся, стаяў толькі Вацак.

— Толькі цішэй, браткі, і без воплескаў, — урэшце падаў свой голас і фельчар. — А то пачуюць, крый Божа.

Добра, што Юхневіч усё ж згадзіўся. Паволі начапіў пенснэ, быццам збіраўся чытаць па паперы. Яго ўсхваляванае аблічча зрабілася яшчэ больш строгім, нават аскетычным. Усе прымоўклі. Толькі, можа, яна

адна, Алаіза, і магла зразумець гэтае хваляванне, адчула яго так глыбока, што нават устрывожылася.

Пытаешся, браце, хто я, якога краю:
З-за Віслы, з-за Нёмана ці з-за Дунаю?
Ёсць рэчка Свіслач малая на свеце,
А там шмат збожжа і кветак расце у леце,
Там дзяўчаты, як красныя кветкі,
А хлопцы, як пінскія дубы-сталеткі.
Зямліца-маці...

На гэтым «зямліца-маці» апусціў голас яшчэ ніжэй...

Ён сказаў Алаізе ўсё, што яна хацела цяпер пачуць. Не стрымала воплескаў, і фельчар прыўзняўся на крэсле, аднак прамаўчаў.

Было ўжо вельмі позна.

Алаізу пакінулі начаваць у бальніцы, фельчар паабяцаў хлопцам знайсці ёй месца.

Паспешліва развітваліся і выходзілі, на хвілінку застаўся толькі Свянціцкі.

— Усё, што зроблена рукамі чалавека, можа ад іншых чалавечых рук і загінуць. Гэта я не раз бачыў. Так што збірайце, Алаіза, пакуль не позна, запісвайце, развярніце сілы. А я вось што вам пачытаю. Нічоганічога, не хвалюйцеся, пачакаюць...

Воно прийде!
Слова — полова,
Але огонь в одежі слова —
Бессмертна, чудотворна фея,
Правдива іскра Прометея.

Нічога не сказаўшы, імпульсіўна ссунула трапяткія бровы, і ён паясніў:

— Наш Франко. Прыеду са Львова, прывязу кніжачку. До побачэння, паэтка!

Нахіліўся і пяшчотна пацалаваў ёй руку.

У дзвярах узнік устрывожаны фельчар, заспяшаўся:

— Усё гатова. Ідзёмце, сястрычка, пакуль спяць.

— Ну, то до побачэння!

... Са Свянціцкім ёй давялося сустрэцца ў Вільні і Львове. Прафесар Юхневіч памёр праз год ад сухотаў.

На наступную раніцу, у нядзелю, як і было папярэдне дамоўлена, сышліся ўжо ў Ромака Мілера, якога Алаіза ўбачыла ўпершыню толькі ўчора на сход-

цы. Быў тут яшчэ адзін дасюль не знаёмы Алаізе тэхнолаг — невысокі, ладна скроены Лявон Малецкі, якога прывёў з сабою Вацак.

Напярэдадзе быў яшчэ цэлы дзень, але Алаіза ўбачыла, што Вацак нервуецца. Збіраўся дахаты і, відно, баяўся спазніцца на цягнік, што адпраўляўся роўна ў пяць гадзін.

Пакойчык Мілера на два акны быў наняты ў трохпавярховай перанаселенай камяніцы, якая хутчэй нагадвала запушчаны танны гатэль. Халодны і бедна абстаўлены: два крэслы і тумбачка каля драўлянага ложка, пад акном на падлозе кнігі ў няроўных невысокіх стосах. Стол перасунулі ад акна да самага ложка, каб было куды сесці. Чакалі Янука, але той пазніўся. На сцяне каля дзвярэй вісела люстэрка ў металічнай пацямнелай аправе, у левым куце тырчаў падвешаны на цвіку ўмывальнік, з яго тонкага язычка ў мядніцу на табурэтцы капала вада...

На ўсе падколы Малецкі адказаў сур'ёзна:

— Не для таго грошы беражом.

Грошы і сапраўды вырашылі здаваць у агульную касу на справу друку. Хоць бы на тонкі часопіс. Яны яшчэ не ведалі, дзе і як стануць яго друкаваць, яшчэ нават не прыдумалі назву, але цяпер рабілі найважнейшае — збіралі сродкі. Малецкі адразу ж прапанаваў змясціць у будучы часопіс адозву да інтэлігенцыі, прачытаную ўчора Вацакам, але той запярэчыў:

— Адной адозвы мала. — Гэтак жа, як і ўчора, стоячы, разгарнуў на стале прынесеныя паперы: — Як падумаю, браткі, трэба ўвесці тэзісы з «Гомана». Першае. — Выбраў з паперак патрэбную і стаў павольна, націскаючы на кожнае слова, чытаць: — «Прынцып абласной самастойнасці як аснова будучага свабоднага федэратыўна-палітычнага ладу, які павінен заняць месца сучаснага абсалютызму».

— Ого! — загарэўся Малецкі. — Прычыняць урэд гасударству! Як гарачай бульбінай падавяцца.

— І яшчэ адно. Так-так, вось... Пра тое, што наш край мае — прачытаю даслоўна: «Усе арыгінальныя асаблівасці, якія надаюць ёй своеасаблівую фізіяномію і самым натуральным чынам вылучаюць яе як асаблівую галіну славянскага племя».

— Гэта б пашырыць! — падаў думку Ромак.

— От і пашыр. Янука далучы. Хай замяшае навукаю. І праз месяц, так-так. Каб разам сышлося, — падумаўшы, дадаў: — А цяпер ты пачытай!

Алаіза спачатку нават не зразумела, што гэта ўжо — да яе.

— Чытай, чытай, Цётка! А то ўчора прафесара выцягнула наперад, а сама за плот! Чытай «Свабоду».

— Дратуеш хрышчанага чалавека! — Яна прыжмурыла векі, пачала ліхаманкава ўспамінаць сваю «Мужыцкую долю». Залегла трапяткая цішыня, і раптам у дзверы так моцна пастукалі, што Алаіза імгненна расцерушыла сабранае ў памяці.

— Якое табе труна! — вырвалася ў Ромака, але Вацак ужо ішоў да дзвярэй. На хаду абярнуўся:

— Янук, пэўне.

Але ў дзвярах стаяла немаладая, неахайна апранутая жанчына з самаварам у руках. На падлозе каля яе ног стаяла кашолка з піражкамі.

— Снуюся ў рэторце жыцця, гаспада! Усё свежанькае. Хоць пакаштуйце!

Жанчына борздзенька хітнулася ў пакой, паставіла самавар на стол. Таропка вярнулася па кашолку. Узяла ў Вацака грошы, яшчэ весялей павалакла яе перад сабою, мацнула быстрымі вочкамі прысутных і спынілася перад Алаізаю:

— Выбірайце, якія таўсцейшыя.

Ледзь стрымліваючы смех, Алаіза ўзяла з кашолкі чатыры цвёрдыя («От народа! Не пражывуць без падману».) піражкі, паклала іх на стол каля самавара.

— Чытай! (Зноў гэты ўпарты Вацак!) Чытай вершык... Для нашай часопісі.

Яна сапраўды ўжо настроілася, раптам успомніла ўвесь верш да канца, пасумнела:

Цяжка жыць, трудзіцца,
Калі няма долі,
Жыта не ўрадзіцца
На мужыцкім полі...

Вацак асцярожна апусціўся на ложак, прысеў каля Ромака. Алаіза не заўважыла, што ў шклянку не наліта заварка, прыгубіла яе, прачытала верш да канца:

І жыві як знаеш,
З бяды выручайся:
Калі сілу маеш,
Долі дажыдайся.

Малецкі тут жа запытаў:

— А як падпішаш? Цяпер жа ўсё гэтыя... Псеўданімы.

— Вядома, — ўсміхнуўся Вацак. — А то назавецца сабою, ніхто замуж не возьме.

— Замуж?! А мне — хоць гаршком назавіце, толькі...

— Ну, асака. Я ж не для крыўды.

— Асака!

— Што асака?

— Асака, кажу. А што? Няхай Банадысь Асака! Так і падпішам.

— Ухваляю. — Вацак крыху стомлена, як выканаўшы важную работу, уздыхнуў, узяў са стала піражок і ўпіўся ў яго зубамі. Ажно прыўзняўся на ложку. Азірнуўся:

— Дзе тая «капялюшная пані»? Ромак, падаць яе сюды! Хай адкусіць!

Засмяяліся. Пілі гарбату.

Праводзіць Вацака на вакзал сабраліся ўсе разам.

## 3

У гэтую снежаньскую нядзелю на «станцыйку» да Алаізы пастукалі з самай раніцы. У дзвярах стаяў усмешлівы шыракаплечы Вацак. Толькі пацалаваўшы ёй руку, пачаў імфармаваць, што завод Поселя на станцыі Вілейка Санкт-Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі выпускае падковы розных памераў, вухналі з вялікай і малой галоўкамі, косы, а яшчэ... Можна было б здзівіцца, але Алаіза прамаўчала. Ведала, што Вацак проста так языком не мянціў бы.

І сапраўды. Услед за ім ступіў незнаёмы хлопец, якога ззаду падштурхоўваў Янук. Пазнаёміліся тут жа: Сцяпонас Кайрыс, студэнт-тэхнолаг механічнага факультэта. Цяпер прыбыў з Нова-Вілейкі, дзе амаль паўгода ўжо зарабляе грошы на заводзе Поселя, каб вучыцца далей. Адрас поселеўскай канторы ў Пецярбургу (у Вацака пры гэтым ад затоенага смеху ажно дрогнулі вусны): Васільеўскі востраў, семнаццатая лінія, тэлефон 36-10.

Нарэшце расселіся, і Алаіза яшчэ раз цішком прыгледзелася да Кайрыса.

Даволі высокі хлопец, але не ў студэнцкім пінжачку, а ў шэрай, крыху пацёртай тройцы («манішка-манаполь» — нязлосна падкалоўу яго Вацак), з хударлявым нервова-напружаным белым тварам. Валасы ў Кайрыса, які ўсё маўчаў і пакусваў тонкія вусны, былі русыя, коратка пастрыжаныя, што вельмі пасавала да ўсяго яго акуратнага выгляду.

Заўважыла, што ён, відаць, старэйшы і за Янука, і за Вацака.

Падаўшыся на табурэтцы крыху наперад, Кайрыс з цікавасцю лавіў кожнае слова захопленага ўласным красамоўствам і катэгарычнага, нецярплівага ў спрэчках Вацака.

— Але згадзіцеся, што ў нас і сапраўды яшчэ дасюль няма пра... — закашляўся. — Прагрэсіўнай і актыўна дзейснай грамадскай думкі.

Увесь час Вацак замашыста мераў «станцыйку» рэзкімі крокамі, ад чаго тая здавалася яшчэ меншай, незадавольна хмыкаў.

Гэты пакойчык на Васільеўскім востраве Алаіза наняла зусім нядаўна ў адзінокай састарэлай рускай дваранкі, былой выкладчыцы Аляксандраўскай гімназіі Кацярыны Пятроўны...

(«Кацярына трэцяя! Ах-х...» Гаворачы так, Алаіза гучна, але зусім нязлосна смяялася.)

Большую палову ўсёй кватэры займала квадратная зала з вузкім акном, зашторaным блакітнымі тонкімі гардзінамі. Пасярэдзіне стаяў адпаліраваны стол, на якім пастаянна былі раскладзены карты: «Кацярына трэцяя» без пасьянса, «вутачак» ды «капрызлівых дам» не клалася.

З правага боку ад стала, перад кафлянкаю, знерухомела крэсла на калёсіках у бэжавым аксамітавым чахле. У левую сцяну ўпіралася зашклёная дубовая скрынка на дзвюх прыгожа выгнутых ножках. Скрынка была запоўнена мноствам высушаных матылёў розных памераў і афарбоўкі, назбіраных, здаецца, з усяго белага свету. Усё, што засталося ў памяць аб мужу «Кацярыны трэцяй», некалі славутым вучоным-заолагу. Спальню, якраз насупраць Алаізінага пакоя, займала цяпер сама гаспадыня.

Алаіза пачувалася спакойна. Тоўстыя дзверы яе «станцыйкі» даволі шчыльна ўваходзілі ў праём, надзейна прыглушаючы ўсе гукі. Зрэшты, «Кацярына трэцяя» была такой мілай, далікатнай асобай, што яе, з першага ж дня пераезду сюды Алаізы, нічога, апроч вячэрняга пасьянса, не цікавіла.

Цяпер да кватаранткі яе прывяла звычайная ветлівая прапанова выпіць свежай гарбаты. Тут жа прынесла на сярэбраным падносе чатыры, ужо напоўненыя духмянай гарачай гарбатаю, фарфоравыя кубачкі і вялікую цукарніцу з тоўстага сіняга шкла. Праўда, не з цукрам, а ■ таннымі цукеркамі. Невысокая і худзенькая, як сярнічка, ■ рэдкімі, ажно прасвечвала ружовая скура на галаве, сівымі валасамі і бляклымі вялікімі вачамі, што пазіралі на свет наўздзіў наіўна і даверліва.

«Кацярына трэцяя» задаволена ўсміхнулася на дружнае мужчынскае «дзякуем!», з годнасцю пакланілася і, хітнуўшы доўгай спадніцаю, мякка паплыла ў залу. Янук адразу ж скіс: «Рэдкі экземпляр сямейства матылёў з прагнілага дваранскага гнязда. Выпадкова не трапіла ў гербарый».

Як асцерагаючыся чужых вушэй, ён усё часцей абсякаў разгарачанага Вацака. Нават злаваў: «Усхадзіўся, як певень на сметніку!» Але Алаіза была настроена да іхняй бясконцай спрэчкі крыху скептычна.

Янук сядзеў за сталом пры адзіным у пакоі акне, якраз бокам да маўклівага і па-ранейшаму насцярожанага Сцяпонаса, упіраўся спінаю ў абклееную зялёнымі шпалерамі сцяну. Увесь час напінаў плячом белую паркалёвую фіранку.

— Пры чым тут, міленькі Вацак, грамадская думка?

— А Сава Мамантаў? Скажы...

— Вы яшчэ хочаце гарбаты? — як і не чуючы спрэчкі, азваўся Сцяпонас: глядзеў Алаізе проста ў вочы і крыху ўпарта, як здалося ёй, нязветліва ўсміхаўся. — Я-то не хачу. Праўда. Так сказаць, не люблю гарбату.

Яго высокі лоб, мякка апушаны кароткімі валасамі, быў белым і бліскучым, як вошчаная папера.

— А што, цётачка, папі-папі! — Вацак па-блазенску скрывіўся, але тут жа прыбляк. — Папі, а то даўно не кашляла.

Сцяпонас ужо трымаў перад Алаізаю кубак з гарбатаю ў правай руцэ і цукарніцу — у левай. Узяла цукерку, апусціла павекі: «До, не трэба больш!» Аднак той настойліва пакланіўся яшчэ раз. Успыхнула, але паслухалася. Адпіла некалькі глыткоў, удыхнула мяккую пару.

— Ну і што Сава Мамантаў?

— А то вы не ведаеце? Абблытаўся павуцінаю балетных спаднічак! «Мадам Сі-сі...» І гэта ў той час, калі трэба было аддаць энергію пабудове Архангельскай дарогі, сібірскім заводам...

— Знаеш, Карл Дванаццаты пакінуў эмблемаю... — пачаў Янук, але Вацак рэзка акруціўся на пяце і ўпёрся кулакамі ў стол.

— Ды калі б у нас гэтая грамадская думка існавала, то хіба ж дапусцілі б мы знішчэнне букавых лясоў? Так-так! Славутых тэмірханшурынскіх! Каму там было дзела да гэтага? А-а?!

— Што ты тут стральбу адкрываеш?! («Сыпані гароху ў халяву! От, Янук!») А я думаю, Карл Дванаццаты ўсё ж нездарма пакінуў сваёй эмблемаю боты. Звычайныя, знаеш. Якія сам насіў і якія яго гвардыя ўсцягвала, калі ішла заваёўваць чужыя землі. І якімі можна ўсё таптаць. Усё! І тваю грамадскую думку, з якой цяпер, знаеш, усе носяцца, як з дзвярыма. У аднаго, знаеш, свая думка, у другога...

(«А ўжо ж Сцяпонас гэты! Хоць ты кніжку яму ткні, каб узіраўся».)

— ...У «Кацярыны трэцяй», — Янук махнуў рукою на дзверы, — трэцяя! «Цялячыя катлеткі». А ў тых, што сядзяць у Елісееўскай «благародцы» каля Паліцэйскага і начамі дуюцца ў карты? От, цікава, брат, і пра што ж яны думаюць?! Ага!

— Глядзіце вы, як ён спінаю печ грэе! — не вытрымаў Вацак. — У нас таксама ёсць эмблема. Так-так! Ёсць! Кулак замест галавы на плячах з унтэрскімі пагонамі. «Трымаць і не пушчаць!»

Прывычным рухам згарнуў з лоба густыя валасы і адвярнуўся.

Алаіза сядзела недалёка ад стала на неширокай канапцы. Вацак падступіўся да яе бліжай і раптам здзіўлена расшырыў вочы: толькі цяпер, пэўна, заўважыў на сцяне над канапкаю стары малюнак, павешаны яшчэ «Кацярынай трэцяй». У акружэнні жоўтых,

як пшанічныя аладкі, воблакаў па ярка-сінім небе ляцеў прыгожы паўнатвары анёл з вялізнаю чашаю пакут у паднятых руках. Пад ім быў выведзены подпіс: «Ды абміне нас чаша сія!»

Скептычна ткнуў у малюнак доўгі тонкі палец:

— Ну, вось і ўся іхняя грамадская думка!

— А знаеце, мілыя грамадзяне Расейскай імперыі, — Янук ляпнуў растапыранай даланёю па каленях, — мне да аднаго мейсца тая грамадская думка, якая сягае на ўсю дзяржаву. Букавыя лясы высякаюцца... Ах! Вяна дома, шкода! Ты, здаецца, сваю сарочку на іх узлажыў бы, каб выпадала. А мне маіх лясоў, што ўшчэнт панішчаны, яшчэ больш шкода! А мне таго мужыка, што цёмны, як крот, у хаты шыецца...

— Не блытай, знаеш!

— Гэта ты не блытай, ведаем мы гэтыя касмапалітычныя шырмы.

— Не я вінаваты, што прагрэсіўная думка пачала заваёўваць наш край толькі стагоддзе назад!

— Ці не залішне, так сказаць, зацяжныя роды? — Сцяпонас уступіў у спрэчку нечакана, мяккім нізкім тонам, але адразу ж забраў агульную ўвагу. Ягонае «так сказаць» лёгка злівалася ў адно слова.

— Зацяжныя? — распаліўся Янук. — Вядома! Затое нарадзіўся не хто іншы, а Каліноўскі.

— Ваша Гродзеншчына...

— Віленшчына, — паправіў Сцяпонаса Вацак.

— Усё ж болей Гродзеншчына!.. Таказаць, адна з самых багатых і культурных у краіне. Нават пасля Напалеона захавала нямала дзейсных прамысловых цэнтраў і больш паловы рабочай сілы. — Сцяпонас кашлянуў у кулак, як сумняваючыся, ці варта працягваць, але ўсё ж рашыўся. — Хачу запытацца: ну як пры ўсім гэтым можна было дайсці да такой нацыянальнай інфантыльнасці, як у вас? Чаго дамогся Каліноўскі? Ды і́ ў сацыяльным, таказаць, плане...

— Лёгка табе налягаць. — Янук рэзка падняўся, але так няўдала тузануў фіранку плячом, што шоўкавая нітка, на якую яна была нацягнута, звонка лопнула. — Сам факт, што мы, каго яшчэ ўчора лічылі цемнатой, знаходзімся тут, у Паўночнай Пальміры, гэта што? Не вынік шэсцьдзесят трацяга? Тое, што ў гушчы народа і ўнутры нас, кончыцца новым уздымам.

І нацыянальным таксама. Служачы навуцы, будзем служыць народу.

— Зноў гэты студэнцкі бог! Колькі можна? — Сцяпонас, відно, расхваляваўся, што адразу ж спадабалася Алаізе. — Ды бажок ён! Бажок, міленькі! От скінем яго з дарогі і сядзем за зялёныя сталы. А што далей? Дружненька ўвальёмся ў той самы, таказаць, агульнадзяржаўны касмапалітызм. [illegible] мясцовым акцэнтам. І будзем рамантычна сніць фэсты ў чоўнах на ўзмор'і. Ноччу першага мая — помніце? — пасля вечарынкі на Пецярбургскай старане... А! Ды ну... У лепшым выпадку налепім палітычных групак і скубанём пярыйкі двухгаловаму!

— Пакуль што ён выдзер язык у нашага прастцтва. Якое ты, дарэчы, так лёгка вінаваціш у нацыянальнай інфантыльнасці. І не разумееш, што нехта адзін павінен прымаць на сябе галоўны ўдар. Адзін! — усё гэта гаварыў Янук. — Спачатку, знаеце, выб'юць зубы, а потым прыйдзе нехта збоку і дзівіцца, чаму не кусаюцца.

Памаўчалі. Цяжка, недаверліва адзін да аднаго.

Першым абазваўся Янук:

— Алаіза не для таго піша вершы, каб ляцець у рэстаранчык Давыдыча! Ах-ах! Для пісьменнікаў жа! Усе інтэлекты, усе свае... Багема. А тут з'явіцца нейкая ці то полька, ці то літоўка, ці то руская... Падкруцяць вусікі языком, дадуць «радужную» на пернікі — і ўю!

— Зарадаваўся (Вацак).

— Ага, зарадуюся. (Янук.) Зарадуюся, калі гэты двухгаловы дазволе друкаваць беларускае слова. Хоць бы аб'явы: «Жадаю купіць каценятка персідскай альбо сібірскай пароды».

— І вы будзеце, таказаць, чакаць літасці? (Сцяпонас.)

— Не, браце! (Вацак.) Нечага грымзаць дзюбаю па чужой сцяне. Так-так! Самім трэба сваё друкаваць. І не толькі за мяжою, а тут.

Алаіза згаджаецца. І з Януком, і з Вацакам, і ў нечым нават са Сцяпонасам. І ўсё ж адчувае, што ў яе душы, вось цяпер, нараджаецца яшчэ слабая, але жывая новая праўда. І тут жа пачынае расці, растварацца ва ўсім целе, у яе неўпарадкаваных, яшчэ балючых думках і адчуваннях.

Хто гэта нядаўна назваў яе фанатычкай? («Беларуска то ж!») Не. Не помніць. Але ўсё тое, што здаецца некаму ўпартым і фанабэрыстым фанатызмам, толькі заглушае крык, што сілаю рвецца знутры. Бо ўжо нельга бачыць, як твой народ так хітра прымушаюць запірацца ўсяго свайго роднага і падпывацца пад чужыя апраткі. Бо хто гэта вытрымае?!

Яе часам называюць нават амбітнай. Ох, як жа гэтая ўяўная амбітнасць прыдаецца ёй для таго, каб сціскаць, задушыць на людзях боль, што ўжо даўно шугае ў душы.

Цяжка сказаць ужо, ці змагла б яна абліць сябе газаю і паднесці агонь. Можа, і не. Зрэшты, калі б ведала, што ўсё зменіцца і народу дадуць галоўнае — свабоду, то змагла б. Нават марыла б, каб хутчэй умерці. Але што, скажыце, што з таго? Згары ты хоць перад самім Зімнім, а нічога не зменіш! Толькі пацешыш!

— «Мужыцкая праўда» Каліноўскага, — сама адчувала, што яе ахрыплы голас непрыемна чуць, але хваляванне падганяла, — выдавалася на беларускай мове не проста з-за нацыянальнага свербу. Калі ставіцца вялікая задача, то з народам трэба гаварыць толькі на мове народа. Іначай ён можа не пачуць.

— Каліноўскага ўсё роўна не пачулі! (Вацак.)

— Ты, здэцца, перцу зашмат з'еў. Каліноўскі проста не паспеў. У яго не хапіла часу на збліжэнне з прастацтвам яшчэ з аднаго боку — праз агітацыю.

Сцяпонас:

— Алаіза! Чакайце. Няўжо вы і праўда думаеце, што я веру, быццам мы станем пустагаловымі чыноўнікамі? Пасля нагаек на Анічкавым? Пасля ўсяго, што нас падняло над насіллем? Прашу вас, прачытайце свае вершы. Хоць некалькі радкоў.

— Чаму некалькі?

— А можа, я? (Вацак.)

— Сама!

Мушу ўзяцца да работы,
Мушу мець мазоль на знак...

Голас быў нізкі і па-ранейшаму глухаваты. Прыпынілася, падняла вочы.

Мушу ліць і я так поты...
Каб прызналі, што радак.

Густая і яркая чырвань заліла пакой, ажно зрабілася горача. І тады адразу ж зазвінелі тоны:

Дайце, жнейкі, серп займісты,
Дайце гострую касу,
Зняту з нівы хлеб зярністы,
З травы белую расу.
Дайце хустку мне пікову,
Кіньце беленькі хвартух,
Зраблю фарбу я цяпёву,
Вас змалюю ў адзін дух.
Толькі шкода — фарб замала,
Трудна будзе рысаваць.
Няма ж такой, каб бліщчала,
Няма ж пэндзля дзе дастаць...
Зраблю квачык з мархавення,
З розных ягад фарб націсну,
З грудзей вырву сноп пламення,
Жывой крові каплю пырсну...

Хлопцы задумліва маўчалі. Паглядзела на Вацака.

— Першы нумар «Свабоды»...

— Чаму «Свабоды», Алаіза?

— А як яшчэ, Вацак? — выступіў Янук.

— Так-так...

— Галоўнае цяпер — шапіограф! (Янук.)

— Я магу прапанаваць...

Запанавала здзіўленае маўчанне, але Сцяпонас тут жа паясніў:

— У цябе што, шапіограф ёсць?

— Чаму ў мяне? У аднаго універсітэцкага...

— Шукай капейку пад каменем!

Усхваляваная, паднялася з канапы, падышла да дзвярэй, узялася за ручку. Дзверы і праўда цяжка адчыняліся. Азірнулася:

— Нічога, знойдзем! І капейку таксама.

Апынуўшыся ў зале, здзівілася: «Кацярына трэцяя», трасучы сівою галоўкаю, ужо сядзела за сталом і засяроджана тасавала карты для пасьянса: нікога навокал не заўважала.

Алаіза падсыпала ў чайнік чаю, наліла вару. Стала механічна наразаць у талерку, тонкімі скрылямі, мяккую ружовую кілбасу.

(«Наце вам: шакалад Блокера, фінікі, грушы «Казанова»! Ат! Нічога, нічога... Сцяпонас не падвядзе. Але ж трэба яшчэ паперы дастаць. Гэта лягчэй. Вось толькі дзе друкаваць?..»)

Не зачакаліся.

— Кілбаса з печаных салаўёў!

Зноў Вацакавы тры грошы.

— А смаката! — Янук пачаў разліваць гарбату, смешна накапыліўшы вусны, кідаў у кубкі прынесены Алаізаю цукар.

— Вы яшчэ некуды паедзеце сёння?

Здзівілася («Бач ты!»), але не ўтаіла:

— У бальніцу святой Магдалены. Дзе калегія каля Тучкова. (Два разы на тыдзень яна дзяжурыла там як санітарка. Па просьбе самога Пятра Францавіча.)

— А што там?

— Ды проста... Сіраціна адна. Паступіла ў пятую палату з запаленнем. Здаецца, каб магла, то ўзяла б да сябе, але куды і як?

— Калі дазволіце — я правяду?

Як не пачула. Адно слізганула вачамі па стале.

— Гэта ж трэба, хлеба не ўкроіла.

— Нічога, цётка. (Зноў Вацак.) Момант! Зараз прынясу. А што, — гэта да Сцяпонаса, з гарэзлівымі тонамі ў голасе, — можа, пад'едзеце разам і на шапірограф глянуць?!

— Язык сабакі адарвуць! — зазлаваў Янук.

— Ну вінюся! До! — Вацак, узіраючыся ў пачырванелага Сцяпонаса, падняў над сталом растапыраныя далоні. — Іду па хлеб. От так!

Прываломшы цэлую буханку, не вытрымаў і яшчэ раз падчапіў:

— У нашых «лесгафтычак» такія тонкія станікі. Пакуль абыдзеш, абаранак з'ясі!

Засмяяліся.

— А ты не саромейся. Бяры-бяры, цётка! А то хутка носам дзяўбаць будзеш!

— От каб не ты, то, далібо, умерла б.

* * *

Нават удзень над закаванаю марозам і пасыпанаю паверсе няроўнымі снежнымі наносамі Нявою вісеў мутны сівы туман — уздоўж усяго саннага пераезда цераз раку ў лёд былі паўбіваны невысокія слупы з запаленымі ліхтарамі.

Алаіза адышлася ад берага, стала чакаць. Стары самаед у калматым стаўбуры і выцертым сабачым футры на ўсе ўгаворы Сцяпонаса толькі адмоўна

круціў галавою, звужаў заінелыя павекі ў тонкія белыя рыскі і, як заведзены, паўтараў:

— Не едэмы, пано! Дальсе не едэмы!

Але Сцяпонас не адступаўся. Нарэшце таропка махнуў Алаізе рукою, кінуўшы да шырокіх санак з упрэжаным аленем — вялізным адзінцом, абвязаным па спіне і чэраве грубай дзяружкаю, замацаванаю некалькімі столкамі тоўстай вяроўчыны.

Калі ўсё ж села ў санкі, прыкрытыя калматай шкураю («Ці не мядзведжая?!»), Сцяпонас апусціўся на калені побач, сціснуў яе рукою за плечы і прыхінуў да сябе. Крыкнуў каюру: «Давай!» Алень тут жа рэзка зрушыўся з крутога берага на лёд, санкі затузаліся ў бакі, не трапляючы ў наезджаную ў снезе палазню. Уверх серабрыстым веерам пырснулі аскалабачкі струшчанай снегавой наледзі.

Палазы кракталулі і зарыпелі яшчэ мацней, пачаўшы гэтым вечарам дарогу, якая для Алаізы і Сцяпонаса аказалася вельмі доўгай.

Ехалі павольна. На супрацьлеглым беразе мігатлівымі жоўтымі шарамі свяціліся вогнішчы. Відно было, што каля іх тупае некалькі прыгорбленых постацей.

Алень ускінуў рагатую галаву і павярнуў ■ наезджанага шляху ўправа. Але Сцяпонас сказаў каюру, што там яны не ўз'едуць на бераг. Ды і ўвогуле, ці мала... Той паслухаўся, гікнуў на аленя і скіраваў санкі на ранейшы шлях.

Не даехаўшы да берагавога вогнішча (Тучкоў мост высіўся па левую руку), каюр дзіка гікнуў, каторы ўжо раз напалохаўшы Алаізу, і алень тут жа спыніўся. Саскочыўшы з санак, Сцяпонас пабег наперад і пачаў нешта даказваць каюру, злосна паказваючы рукою на блізкі бераг. Алаіза таксама злезла з наседжанага цёплага месца на лёд, з палёгкаю патупала захаладзелымі нагамі ў боціках, азірнулася. Уздоўж саннага следу на ружаватым тонкім снезе ледзь бачна цямнела вузкая сцежачка. Пайшла па ёй.

— Сцяпонас-а-ас!

Клікнула ўжо з берага. І Сцяпонас даволі хутка, блізка вогнішча, дагнаў яе, абхапіў за плечы, закружыў па тратуары, смеючыся і не зважаючы на прахожых.

Праз паўгадзіны яны былі ўжо ў дворыку абгароджанай каменнаю сценкаю бальніцы святой Ма-

гдалены, абагнулі з правага боку высокую і тонкую, як пруток, цэркаўку.

(Я хуценька! Во толькі гэта занясу! — паказала Сцяпонасу два чырванабокія яблыкі.)

Паспакайнела толькі ўнутры бальніцы, калі залішне моцна стукнула дзвярамі. Пастаяла крыху, напружыла зрок.

Перад ёю шарэў доўгі калідор: брудна пабелены, з акруглым нізкім скляпеннем. Над уваходамі ў палаты ледзь мігцелі бляклыя лямпачкі.

Яна дайшла ўжо да трэцяй, калі са сталоўкі, што размяшчалася якраз пасярэдзіне калідора, выскачыла санітарка Жэнечка ў збітай набок сіняй хустцы і сінім халаце. Жэнечцы было пад пяцьдзесят, але выглядала яна маладзейшаю — была маленькая, з бледным гладкім тварам, вёрткая і шустрая, як сінічка. Шапялявіла.

— Не ідзі, дацюська.

Усярэдзіне ёкнула: «Умерла!»

— Ох і страсьненька твая памірала!

— Калі?

— Доктар казаў сядзелцы: натры бензінам, пасля — у ванну... А яна!

— Што яна?

— А яна запаліла ванну, пасадзіла тваю сірасіняцьку перад адкрытаю топкаю і давай бензінам церці! Зззі! Так бегала, крычала... Страсьненька ўмерла! А ўцора, ці цуес, дацюська, сваяцька яе прыехала. Марыя Калаганава. Мозя, пахавае па-людску! На Русакоўскай даці...

Не даслухаўшы, павярнулася, пайшла, ледзь рухаючы ачужэлымі нагамі, чула, як па лобе вехаціць густая пасма валасоў.

— Хадаемце, Сцяпонас.

— Што здарылася?

— Тыя дачы, каля Чорнай рэчкі. Русакоўская...

— Ведаю. Жыў неяк месяцы два. Толькі летам. Абапрыцеся, абапрыцеся на руку. Ага... Вось так. Нешта здарылася?

— Нічога.

— Прабачце... Але... Ну так! Трымайцеся мацней. Тут да прыгараднага — паўгадзіны. Ну так! Гэй, сюды! Ванька! — Гэта ўжо да вазака.

Прыдумвала на скорую руку прычыну паездкі, але Сцяпонас ні аб чым больш не пытаўся і нават адвярнуўся, прыкмеціўшы яе слёзы.

* * *

Хіба не даводзілася нам заўважаць, што дрэвы, якія растуць уздоўж дарог, асабліва брукаваных, зусім не такія, як лясныя. Помніце?.. Ідучы па лесе, бачыш, як гнуткія выносныя сосны і елкі ахутаны наўкруг ствалоў празрыстым, ажно загусцелым, як слюдзяным, святлом. Тая пругкая празрыстасць — са смольнага духу, што ажно ўдарае і хмеліць цябе нават на адлегласці, з даўкай парнасці, што хвалямі падымаецца да леташняй, звалянай ігліцы, з тонкага сонечнага прамення, якое ледзь прабіваецца праз лісце і няроўнымі плямкамі мітусіцца па кары і ніжнім голлі дрэў. Кара бывае гладкаю, пацягнутаю бліскучай залатой скурай. А яшчэ — калюча-шурпатай, з пакручастымі і бугрыстымі па краях, чорнымі баразёнкамі-трэшчынамі ўздоўж ствала. Ледзь не да самай вяршаліны.

А перад усім гушчарную сцяну прабівае той суцэльны, перапоўнены рознымі гукамі і трапятаннем незлічоных крыл і крыльцаў, глухаваты лясны гуд, ад якога пахі яшчэ больш абвастраюцца, мацнеюць.

О літасцівы белы свет, як жа твой лясны водар кружыць нам галаву і адбірае сэрца!

А вось ужо каля гасцінцаў растуць найчасцей рабіны і таполі, вольхі, кляны, ліпы. Дрэвы вельмі свойскія, блізкія людзям і ўсяму, асабліва вясковаму, жыццю, — жытлу, нашым простым, святочным і будзённым, настроям, тым трывожным восеньскім вечарам, калі за вокнамі глуха шапаціць і парыпвае ці то адзінокае дрэва, ці то само нізкае захмаранае неба.

Наўсцяж роўных шляхоў не сустракаюцца і тыя высокія старажавыя дубы, што любяць адзіноту сярод палёў і лугавін, узіраюцца ў далёкае наваколле са сваіх грудоў хмура, чэпка, з вечным для ўсіх нас, людзей і прыроды, запытаннем. Аб бясконцасці існавання і смерці.

Усе мы як вечныя вандроўнікі.

Скажыце, а ці не кідалася каму ў вочы найперш тое, што прыдарожныя дрэвы (а яны тут аднолькавай таўшчыні, іх кроны паднятыя найчасцей на адну і тую

ж вышыню) цягнуцца з двух бакоў ствадамі і голлямі толькі да шляху, часам так падаюцца да яго, што ўтвараюць доўгі зялёны тунель. Уверсе пасярэбраныя чыстым праменнем вяршаліны крыху адкідваюцца назад, купаюцца ў халадку нізкага свежага неба.

Унізе ж, пад страхою плаўна выгнутых галін, гойдаюцца сонечныя промні са слупкамі пылу каля самай зямлі і дрыготка-шэрыя, яшчэ ранішнія, цені выпарэння ад росаў, сырых камякоў гліны і апалага лісця.

...Трэба ўсё роўна перажыць гэтую пакуту. Яна аказалася значна мацнейшаю за ўсю яе волю. Яна заняла ўсе яе ночы і дні, кожную хвіліну. Нават у снах думаецца толькі аб адным.

Была пэўная, што ўсё ў іх з Андрэем закончылася яшчэ пазамінулай зімою, згарэла (бачыла ж на ўласныя вочы) у чорных бараках віленскай ускраіны, знішчылася ў тым праднавагоднім начным пажары...

Але ўсё, што пачынаецца нанова, выбухнуўшы ранейшымі пачуццямі, кранае тваю душу асабліва балюча і неад'емна ад лёсу... Калі, здаецца, імчыш у шалёным вазку з гары, не ў стане нічога спыніць, з жахам чакаеш хвіліну, калі ён, той вазок, перакуліцца на ўсёй хуткасці і з усяго маху падамне цябе важкімі коламі.

*«...10 чэрвеня. 1902 год.*

Алаіза! Любая.

...Я зараз насмелюся напісаць табе стрымана-сумны ліст. Бо такі — амаль ужо цэлы год! — настрой. Лепш бы, вядома, не пісаць яго, але не гаварыць з табою я больш не магу.

Ведаеш, я часта ўспамінаю нашу з табою перадапошнюю размову, тую самую... Сваё вызначэнне сваіх жа да цябе адносін. Помніш? Казаў, што я павінен быў стаць для цябе шчытом. Табе так патрэбен шчыт».

(Яна тады абурылася і нават збянтэжылася. А потым яшчэ раз падумала пра тое, што Андрэй, напэўна, сказаў ёй праўду.)

«У розны час кожнаму чалавеку патрэбны розныя «шчыты», Алаіза. Але каб заўсёды і адпаведна абставінам выконваць адну важную функцыю: бараніць такія, як твая, душы — засланіць ад будзённасці, ад

пэрасці і тупасці, ад усяго, што можа перашкодзіць, дакладней, зрабіць чалавеку дабрату і святло.

Я зразумеў і абліўся страхам. За цябе. Ты такая непадобная да іншых. Такая далёкая ад кампрамісаў і хітрыкаў жыцця, што я пачаў сумнявацца ў тым, ці знойдзецца на ўсім белым свеце такі моцны метал, з якога і сапраўды пан лёс здолее выкаваць для цябе надзейны шчыт.

Алаіза, мне вельмі нялёгка цяпер. Не думай, што жалюся, каб выклікаць у цябе спагаду. Іншае тут. Трэба шмат паламаць у сабе, пераадолець, каб не перастаць сябе паважаць канчаткова. Інакш...

Страшна абрыдзеў гэты геаметрычны чыноўніцкі сасуд, запоўнены пачварнымі жабамі!»

І пад гэтым толькі кароткі подпіс: «Андрэй».

Часцей за ўсё Алаізе ўспаміналася пах таго сырога ад холаду, а пасля разамлелага пад цёплым кажухом сена ў санях, калі яны разам з Андрэем ляцелі праз начную Вільню, забыўшы пра ўсё на свеце і нават пра нядаўнюю сварку ў Броэль-Плятара...

«Ніва шуміць каласамі, жыта спелага аўсамі...»

Напэўна, у тым сене было шмат сцятых касою лугавых красак, і востры пякучы водар румянку раптам разварушыў памяць.

Праўда... Гэта праўда, што яна так недаравальна даўно не наведвалася дадому, не бачыла бацькоў, сястрычак Зосю і Каралінку. Сваю арабінавую алею з пунсовым шалам на голлі. Тое канюшынавае поле, што ўпіраецца сваім тонкім ружаватым языком у самыя сосны і елкі Ваўкаўшчыны, лясок пад Бакштамі. «Ніва шуміць каласамі... Усё прыбрана васількамі... Як дзяўчына да вянца». Але чаму, чаму «як дзяўчына да вянца»? Чаму, калі на душы так чорна і горка? Чаму праз гэтую гаркату прабіваюцца толькі залатыя фарбы далёкага мілага краю і светлыя мроі? Да таго ж, здаецца, мроі чужыя.

«...Думаў сёння, які бясконцы гэты чэрвень і як даўно я цябе, Алаіза, не бачыў. Цэлую вечнасць. Ніколі так пакутна не доўжылася чаканне.

І яшчэ думаю пра тое, што наўрад ці хопіць сілы быць тым днём у нашым Старым Двары. Але зноў жа мільгае цвярозае і, напэўна, правільнае, што ўбачу цябе нейкую хвіліну і — усё! А там... Як і трэба, як і прыстойна — заспяшаешся дадому.

Дык ці не лепей мне ўсё ж не паказвацца там? Хто яго знае. Напішы».

Павольна, як сілячыся, да яе паварочваецца тварам вельмі знаёмы чалавек. Вось відно ўжо, якія ў яго доўгія чорныя вейкі, вялікія і блакітныя, нават крыху зеленаватыя, нібы шкляныя, вочы... Зусім нерухомыя. З якой няўтоенай нянавісцю гаварыў тады, пры Радзівілісе, гэты Генісарэцкі: «Ах! (Пагардлівае хмыканне.) Ну, дзе ж падзелася ты, доля мужыцкая?!»

Калі б хто сказаў ёй, Алаізе, дзе ж і сапраўды яна, тая мужыцкая, беларуская, падзелася...

*«18 ліпеня. 1902 год*

Алаіза!

Чамусьці і гавару з табою ў сваёй самотнай адзіноце, і пішу табе, як усё роўна падавіўшыся — не магу ўздыхнуць на поўныя грудзі, выдыхнуць тое, што камом стаіць і душыць гэтаю недаказанасцю, тым, што даўно належыць табе, а сядзіць ува мне. Так, напэўна, і не змагу табе ўсяго выказаць, проста знішчу яго ў сабе. Найлепш зразумеў гэта, калі атрымаў нарэшце твой ліст. Зразумеў і адчуў «тленность» усяго і, хутчэй за ўсё, неабавязковасць. І жахнуўся: а як без тых пачуццяў, тае пакуты, чакання, рэўнасці? Хто яго знае...

Неяк не так усё. А як — так? І што значыць так і не так? Не ведаю. Божа, як я адчуў з твайго ліста, што змучыла цябе ўсё гэта. Стала балюча і крыўдна. За тую недарэчнасць, якую так часта падсоўвае людзям лёс, за нашу немагчымасць што-небудзь змяніць, папраўіць. Таму лягчэй і лепей за ўсё сказаць, што гэта — «цені». А што рэальнасць, Алаіза? Ты можаш адмежаваць цені ад рэальнасці? Я не магу. Гэта зробіць час. І калі табе ўжо здаецца, што ты ведаеш, дзе цені, то не варта пакутаваць. Цені і ёсць цені, Алаіза. (Прабач, гэта ўжо голас пакрыўджанага немаўляці...)

Проста мне, як і табе там, балюча. Як я веру!.. Люблю цябе. На жаль, табе не дапамагае ні мая любоў, ні мая вера. Значыць, яны непатрэбныя табе, бо бяссільныя. Ведаеш, хацеў бы, каб прыйшло да цябе тое, што змагло б усё перамяніць, даць табе столькі сілы, каб адступіліся і сталі непатрэбнымі ўсе слабасці. Наіўна і смешна. Ведаю. І ўсё ж...»

Усе мы як вечныя вандроўнікі. З хаты — у вялікі свет: гэта хутка. А вось вяртанне назад амаль немагчымае.

...Трэба ўспомніць усё з самага пачатку, каб не пераблытаць. Каб запісаць! Абавязкова запісаць:

«Вецярок па ёй гуляе... Клоніць зерне... Клоніць колас... (няхай «клоніць колас») да зямлі. Сонца зерне (вось тут «зерне») налівае; бусл (няхай будзе «бусл», а не «бусел». «Бусел» — нешта яшчэ больш даўгалыгае і белае-белае), бусл клякоча на гумні... Во Сцяпан бяжыць з касою... (чаму «Сцяпан»? «Гаспадар»!) Гаспадар бяжыць з касою на зялёну сенажаць. Спяшыць выкасіць з расою...»

Трэба запісаць! Так чамусьці забываецца ўсё. Але ж, як на тое, зноў няма алоўка. Хоць ты крычы!

*«12 ліпеня. 1902 год*

Як бачыш, ёсць патрэба штодня табе пісаць. Хоць некалькі слоў. А чаму? Таму, што пастаянна пра цябе думаю, гавару з табою, многае-многае табе расказваю. Ну, а лісты, нават тыя, што не адсылаю... гэта як бы матэрыяльнае ўвасабленне, прымітыўны такі выраз таго, чаго (на жаль ці на шчасце?!) ты пачуць не можаш. Учора было сонца. Пякучае і сліпучае. Як мая туга. А сёння ўжо хмурок, лягчэй дыхаць, але стан душы ўсё той жа.

Як не хапае цябе тут: сярод гэтых высокіх духмяных траў, сярод гэтай цішыні і спакою.

Таму, мусіць, нешта зусім адваротнае спакою ў мяне на душы.

Сёння з самай раніцы касіў. Крыху стаміўся. Пасля з бацькам ставілі сена ў копы: збіраецца на дождж. На пагоду ўсё ніяк не стане.

Травы, і праўда, высокія кругом. Як жыта — сцяною. Але ці заспееш ты іх? Мне хацелася б, каб ты пахадзіла сярод гэтае зялёнае раскошы. Проста за брамаю — твае любімыя васількі ў высокай белаpужовай канюшыне. А ў нізінцы, там во, бліжай да Бакштаў, цэлае мора незабудак».

Цэлае мора незабудак...

Андрэй выехаў са Старога Двара якраз за дзень да яе прыезду туды. Як збег!

Але чаму, чаму вось цяпер яна не можа адысці ад нейкага помарачнага стану? Вочы заслаyы туманам. У

галаве снуюцца бязладныя думкі. Рук падняць — і то сілы няма.

Нешта здарылася. Нешта, значыць, здарылася, кінула яе ў гэтую прорву амаль непрытомнага сну. Вось толькі што? Што, скажыце вы мне?!

А зглянí на нашу вёску:
Ўвесь палетак аж гарыцы!
Так, як пчолы ў жоўтым воску,
Як алтар, так зіхаціцы!..

Шар з ружоваю, тоненькай, але цвёрдай абалонкаю пачаў надзімацца і на вачах павялічвацца. Адчула, як тонкае гудзенне ў вушах пераходзіць у едкі звон. Са страхам дакранулася рукамі да скроняў. Ведала, што вось-вось — і гэты ружовы шар у галаве лопне на самай высокай балючай ноце, пырсне перад вачамі вогненным веерам іскрынак. І тады з глыбіні памяці пачнуць падымацца наверх пражытыя і адпакутаваныя дні і ночы, убачацца твары і клубкі смярдзючага тытунёвага дыму, ярка засінеюць вясеннія незабудкі ў лузе пад Бакштамі, пачуецца тое шамканне, тое сіпенне, што падобна да цяжкага дыхання смерці, і яшчэ — тое ўчарашняе, гучнае, як нябесны гром: «Пагрузіць трупы ў ваду!» ад якога ёй ужо нікуды не дзецца.

Усе мы — вечныя вандроўнікі...

А ці не заўважалі вы, зрэшты, і таго, што два рады дрэў абапал гасцінца зусім і не збліжаюцца, а, наадварот, як бы адхіляюцца адзін ад аднаго, адкідваюцца назад усімі сваімі галінамі. Тады адкрытая небу дарожная стужка, лёгка адбіваючы сонечнае святло, весела блішчыць сярод пагоднага дня і нават шырэе і цвярдзее. У непагадзь жа мокрая ад дажджу кара на дрэвах, ды і сама дарога, таксама блішчыць, але ўжо зусім цьмяна, непрыветна.

Іншае — зімою. Наўсцяж такога, заціснутага ў суцэльныя драбіны замярзаючых дрэў, адразу ж павузелага шляху намятаюцца круглыя снегавыя шапкі, і над імі пры кожным руху паветра калышацца густая белая пацяруха. Глыбока ўверсе завывае і свішча пранізлівы вецер, потым апускаецца і гоніць па дарожных каляінах тонкія шараватыя змейкі, хлёстка здзімае з ніжняга голля іней і атрасае яго, быццам пыл, на плечы фурманаў і рэдкіх падарожных людзей.

Калі непагадзь сыходзіць, гэтыя пухавікі на бліскучых наледных ствалах здзіўляюць нас і сваёй ве-

лічнасцю, і казачнымі ўзорамі пакручастых заінелых галін і галінак, і тым крыштальна-хрусткім спакоем у прыродзе, ад якога цела сціскаецца, а ўзрушаную душу перапаўняе лёгкасць. Халадзеюць вусны, мыляеш імі, пачынаеш таропка хукаць на закачанелыя пальцы і затым сунеш рукі пад кажух, у важкае ўстойлівае цяпло.

Ні рыпенне палазоў, ні груканне колаў, ні моцнае, да ёкання ўнутры, калыванне ў бакі, — а толькі прытоенае захапленне ўсім, што бачаць вочы, і разам з тым амаль фізічнае адчуванне руху ўласных крылаў, якія раптам вырастаюць з твайго цела, нават балюча ўпіраюцца костачкамі ў спіну, пад лапаткі...

Але ні на што не падобна дарога праз лес. Толькі ў лесе, калі дрэвы і па баках, і ззаду, ужо за спінаю, і нават наперадзе ўтвараюць высокія белыя сцены, пад вопратку халоднай яшчаркаю раптам слізгане страх, і ты імгненна адчуеш на сабе непрыемнае казытанне яго быстрых шчуплых лапак.

Усё вакол бухматае, натапыранае ў бакі тоўстым голлем, з якога за шыю нечакана падае снег альбо цярушыцца шурпацінне інею. Пад вечар чырвонай плямаю ўспыхвае над самымі вяршалінамі елак маленькая поўня, коні пачынаюць фыркаць залішне гучна, і ты адразу ж трывожна ўзіраешся ў цёмныя цені навокал, жадаючы толькі аднаго: як хутчэй праскочыць праз гэты зачараваны мёртвы гушчар аснежаных дрэў, кустоў і розных тонкіх былінак і пруточкаў. А там ужо — апусцелае голае поле, на ўскраіне якога здалёк мігціць выратавальны агеньчык акна.

Яна ўспомніла! Дакладна ўспомніла ўчарашнюю зімовую дарогу па лесе. Але спачатку (чамусьці памяць выхоплівае нейкія асобныя дэталі) была паездка на аленях праз Няву і бальніца. Пасля — шумны вагончык суботняга прыгараднага.

— Возьмем ландо — і ў гатэль «Дэзіль»! Гэ?! Што?! Не?! (Пералівісты жаночы смех.) Ах ты! — Мужчына ажно асіп. — ...Зусім не такая, як тыя «чугункі» з тоўстай скурай... Як закручаныя ў фартух жывадзёра! (Непрыемны вераслівы жаночы смех.)

— А можа, у «Царскую славянку»? Шампаня з ружамі! (Зноў смех, але ўжо мужчынскі, густы і нізкі.) Ты піла шампанскае з ружамі? Я кідаю табе пялё-

стачкі ў бакал... Гэ-э-э? — зашаптаў яшчэ нешта, але ўжо нячутна.

— Толькі ў соусе «пікан»! (Піскліва-капрызная і зусім маладзенькая дзеўка.)

— Не! У Лівадзію! Толькі ў Лівадзію. Французская аперрэ... Не? — здзіўлена хмыкнуў, перайшоў на шэпт: — Тады паводзім вала.

— Я не люблю быць п'янаю!

— А што ты любіш? — агідна расцягнуў гэтае апошняе — «ш-ш-ш».

— Хутка Старая Вёска. — Сцяпонас нахіляецца да самай шчакі і ледзь не кратае яе вуснамі.

Зусім блізка ад іх у вагоне размясцілася цыганская сям'я, і малады цыган з вялікай завушніцаю ў мочцы правага вуха ўпяўся чорнымі гарачымі вачамі ў дзвюх цыганачак-падлеткаў, што паселі проста на падлозе вагончыка, скурчыўшы цыбы пад шырокімі спадніцамі. Выскаліўся, задаволены, падняў і прыціснуў да шчакі скрыпку. Заплюшчыў вочы.

«Старая Вёска... Старая Вёска... Старая Вёска...»

Дзеўка з доўгімі, разлітымі па старым паліто на лісім футры ярка-рыжымі валасамі шалёна рагоча пад надрыўны стогн цыганскай скрыпкі, груба штурхае ў грудзі свайго п'янага, немаладога ўжо кавалера з абвіслымі чорнымі вусамі.

— У Лівадзію! Хочаш?

Калі б вось цяпер не было прыпынку, калі б давялося трэсціся і далей у гэтым смярдзючым пракураным вагоне, яна б ужо зусім асела.

Нарэшце дзверы адчыніліся. У твар ударыла халоднае паветра, але тут жа зацвярдзела ўнутры грудзей.

Адно толькі дрогнула куточкамі спаленых вуснаў.

Недалёка ад маленькай драўлянай станцыйкі было раскладзена вогнішча, каля якога важка тупалі двое жандараў, — абвязаныя па шапках тоўстымі баваўнянкамі, у кажухах паверх шынялькоў, у вялізных качаных валёнках. Цягнік адыходзіў, перад вачамі ўсё яшчэ зіхацелі пульсуючыя жарынкі, і Алаіза нават не пачула, з якога боку да іх падляцеў аднаконны вазок на палазах з п'яным (гэта было адразу ж бачна) маладым фурманам.

Помніць, што селі на звалянную, нават не засланую посцілкаю цвёрдую салому, прыціснуўшыся адно да аднаго плячамі, — вазок быў зусім вузкі. Ззаду да

драбінавых поручаў быў прымацаваны шырокі лазовы палукашак, які ўтварыў над імі надзейны навес. І хоць пасля цягніка яшчэ не паспелі змерзнуць, прыкрылі ногі старым ватнім паліто, што валялася ў кутку. Нарэшце крануліся з месца па ледзь прыцярушанай снегам кадаўбаватай дарозе. Мінулі вуліцу з нізкіх драўляных дамкоў, звярнулі ў парк, які даволі хутка перайшоў у лес. Сінія цені ад блізкіх дрэў спачатку падоўжыліся, потым пацíху абмяклі і сышліся са змрокам. Лес, то хвойны, то часты асіннік і бярэзнік, быў прыгожа абсыпаны блакітным інеем.

Дарога павузела, і навіслыя над ёю галіны шоргалі па задубелым палукашку, атрасаючы спераду на Алаізу і Сцяпонаса снежны пыл. Бясконца бразгала прывязанае ззаду вядро («Ваўкоў ганяць!»). Потым і бразганне сціхла. Яны са Сцяпонасам яшчэ мацней прыціснуліся плячамі, слухаючы толькі глухое завыванне ветру над сабою.

Першым азваўся Сцяпонас:

— Яшчэ хвілін дзесяць! Не думайце, Алаіза, Русакоўскую дачу, таказаць, адразу ж пазнаю.

І толькі пасля, калі вазок ледзь не перакуліўся, ён саскочыў на зямлю, падбег і тузануў за рукаво п'янага фурмана. «Заблудзіліся!»

Яна ўспомніла яшчэ!..

Нехта («Ды хто ж яшчэ, як не Сцяпонас?!») цягне яе за паліто ад таго тоўстага дрэва, за якім яна столькі прастаяла без руху, не адчуваючы больш страху ці холаду.

Зорнае цёмнае неба стала яшчэ вышэйшым, вялікая мігатлівая поўня асвяціла ўсю паляну, раскідала па ёй блакітныя тоны і рэзкія цені ад чалавечых постацяў. І тут жа вялікімі макраватымі камячкамі паляцеў на твар і сухія вусны рэдкі начны снег. Падаў, праўда, нядоўга.

Зноў з хмары вырвалася поўня, цэдзячы на паляну шэрае мутнае святло. Пасярэдзіне яе, насупраць трох ці чатырох (здалёку цяжка было палічыць) скурчаных чалавечых постацей выстраіліся ў шарэнгу салдаты (магчыма, гэта былі і жандары, усё ж цяжка разгледзець!). Асобна стаялі афіцэры. Адзін з іх падышоў да канваіраў, падняў руку і тут жа рэзка апусціў яе.

Прагучаў стрэл.

Тыя трое (іх было ўсё ж трое, а не чацвёра) адзін за адным павольна аваліліся на асветленую поўняю снежную паляну.

— Падрыхтаваць!

Салдаты (ці жандары) пабеглі да забітых, і было добра відна, як яны няўмела, таропка закручваюць доўгія мёртвыя целы ў посцілкі, заціскаюць і замацоўваюць страшныя коканы вяроўкамі.

— Падняць!

Неслі на плячах. Двое — спераду і ззаду, адзін — пасярэдзіне. Наперадзе чырвонымі кропкамі ўспыхвалі агеньчыкі ад цыгарак: афіцэры хоць і нервова, як прымушаючы сябе, але даволі гучна перасмейваліся.

Лясок нечакана закончыўся, і салдаты выйшлі на вузкую прыбярэжную паласу. Далей ісці ўжо не было куды.

Ці не два гады назад у вячэрняй віленскай газетцы Алаіза бачыла малюнак: стары год, у доўгім палапленым кажусе, махае рукою маладзенькаму новаму і жадае: «А пагэтаму дай вам Бог — жыцця, перш за ўсё і найважней за ўсё, жыцця — поўнага, кіпучага, якое захапіла б цалкам і без астатку, якое б ні на міг не адпусціла б ні душы вашай, ні думак... Глядзіце наперад, не адступаючы, глядзіце ў будучыню! Ні адной аглядкі назад. Працаваць на ўсе бакі так, каб захапіла дух. Так па самыя вушы ўлезці ў справу, каб не чуць ні кіпення жыццёвага бруду навокал, ні стагнання далёкага і недалёкага мінулага, ні злосных пратэстаў ўласнай душы... Далей ад сябе, бліжэй да справы, глыбей у жыццё!»

«Я ваш, акіяны зямных паўшар'яў...»

Калі едзеш сярод зімы ў вазку, седзячы на пругкай саломе, ведаеш спачатку толькі адну насалоду: ад навізны ўражанняў. Потым пачынаеш адчуваць сябе нібыта па-за рэальнасцю, перастаеш разумець, навошта і калі ты сюды трапіла і ці ты гэта была ў тлумным горадзе яшчэ ўчора ці гэта быў там нехта зусім іншы?..

Кацечка Іванова пра гаданне на Каляды расказвала: «У пазалочаную шкарлупку ад грэцкага арэха — ось! — уставіць агарак замест мачты, запаліць... І пусціць са свечкай запаленаю-ось! — у блакітную талерку з вадою, па краях якой ляжаць запісачкі... Што будзе?!»

Што — будзе?!

Афіцэр нешта незадаволена буркнуў, і салдаты падступіліся да самага краю берагавой кручы (яна была чорная, гладкая, нават без адзінага дубчыка, блішчала пад яркаю цяпер поўняю).

Потым рэзка прагучаў загад:

— Апусціць трупы ў ваду!

Напэўна, гэта было падзенне тых мёртвых коканаў. Спачатку пачуўся гуд — глухавата-працяглы, самлелы крык нечых гвалтоўна загубленых, няшчасных душ. Пасля — удары целаў аб ваду: гучны плёскат, шаргаценне мёртвай ледзяной шугі, булькание раўнадушнага мора.

Ён, Сцяпонас, моцна схапіў яе за рукаво, пацягнуў назад, і цяпер ужо яна паслухалася. Калі падышлі да вазка, Сцяпонас ахнуў, схапіў з дарогі жменю снегу і кінуўся да закляклага, усё яшчэ п'янага вазака. Аднекуль, ці не з кішэні кажуха, выслізнула пустая пляшка і гучна бразнулася аб цвёрдую зямлю.

Сцяпонас ледзь не сілком заштурхнуў п'янага пад навес, закрыў яго халодным паліто. Сам сеў на фурманскае месца і падняў лейцы.

Алаіза прымасцілася каля вазака, які ўжо хроп, закрыла сабе толькі ногі крысом, скрыжавала рукі на грудзях.

Сцяпонас азірнуўся на яе, стомлена шапнуў: «Трымайся» — і рэзка тузануў лейцы.

Разняла пальцы, што ўсё яшчэ сціскалі маленькія ледзяныя яблычкі, якія яна несла ў бальніцу...

Чутна, як Вацак спыніўся каля стала, крутнуўся на месцы, зноў затупаў да канапкі.

— Усё, панове! Усё, усё...

(«Ці не «Кацярына трэцяя»?»)

— І так, знаеш, абышлося. (Пакрыўджаны голас Сцяпонаса.) Яна ж проста не слухала мяне.

— Няўжо ты не разумееш? Чым гэта магло кончыцца?! Ды я дзіву даюся, проста не даўмею, як яны вас не ўбачылі?

— Не чакалі, што там можа быць хто староннi. Ды яшчэ ноччу. Псіхалагічны момант.

— Момант... Быў бы такі «псіхалагічны момант»!

— Я паеду. (Яе шэпт, адно толькі вусны варухнуліся, пачулі тут жа.) Фурман?..

— Куды паедзеш? — Вацак стаяў каля самай канапы.

— Фурман — дзе?

— Нічога! (Зноў Вацак.) Што яму, твайму фурману? Працвярозеў.

— Усё, панове! (Гэта ўжо «Кацярына трэцяя».) Ёй цяпер трэба толькі спаць. Бачыце, нават вачэй не растуляе.

І тут жа зноў — шаргаценне далёкай ледзяной шугі, плёскат хваляў і гэтае гучнае тупанне ў пакоі. Ад стала да канапкі, ад канапкі — да стала.

Кайрыс нарэшце развітаўся з Вацакам і «Кацярынай трэцяй», да яе, Алаізы, не падышоў. Відно, не насмеліўся будзіць. Пайшоў.

Калі знікла і «Кацярына трэцяя», Алаіза не вытрымала і адплюшчыла вочы.

— Ну, што? — Вацак падсеў да яе на ложак.

— Чаго вы ўсхадзіліся ўсе? От перамерзла крыху...

— Крыху...

— Не шкляная! Заўтра буду на нагах. Паедзем.

Вацак адразу ж зразумеў, што яна гаворыць пра паездку ў Вільню, дзе яны збіраліся друкаваць «Свабоду». Зірнуў на яе нейкімі суровымі, нават адчужанымі вачамі, здзівілася гэтаму і насцярожылася.

— У Вільню ты не паедзеш, цётка. Не паедзеш, я сказаў. — Адчуўшы, што яна ўнутрана заўпарцілася, адвярнуўся.

Алаіза і сапраўды не разумела яго нязгоды ехаць разам, нават пакрыўдзілася, але ўрэшце рашыла, што трэба разабрацца да канца. Таму і запытала:

— Не давяраеш?

— Давяраю, цётка. Але ты — жанчына. Так-так... І ты паэтка. Пішы вершы! Усё астатняе зробім самі.

— А ты не думаў, што я магу пакрыўдзіцца?

— Усё значна складаней. У Вільні друкаваць не будзем. — Вацак падняўся, зноў затупаў па пакойчыку. — Усё трэба рабіць у Галавічполі. Я табе сказаў... Шапірограф ужо ёсць. Сам купіў. Так-так.

Ёй хацелася падняцца з ложка і апрануцца, але не хацела выганяць Вацака з пакоя, слухала. І ўсё ж не згаджалася з тым, што не паедзе адбіваць «Свабоду». Як пачуўшы яе думкі, Вацак спыніўся, зірнуў на яе тымі ж насцярожанымі, суровымі вачамі, паясніў:

— Нас і так чацвёра будзе. Я, Валэйкі і яшчэ адзін сябрук, з Вільні. А можа, і Юрка, брат, прыедзе. Управімся.

— Хто?
— Што — хто?
— Ну, хто сябрук?
— А-а... Былы студэнт з юрыдычнага. Уліп некалі, быў арыштаваны за ўдзел у дэманстрацыі. Харошы хлопец.
Алаіза адчула, як нешта трывожнае пакацілася ўнутры і захвалявала прадчуваннем, перапытала:
— То ён у Вільні?
— Так-так... Харошы хлопец, — паўтарыўшы гэта, Вацак задумаўся, пасля ўстрапянуўся. — Будзе каму ў Вільні распаўсюджваць. Слухай! Слухай, цётка. Ты ж павінна яго ведаць. Ці не са Старога Двара ён?! Так-так! Андрэй Гмырак...
Нават пасля, калі Вацак развітаўся, яна доўга не магла супакоіцца.
Самае галоўнае, што не дало ёй выгаварыцца перад Вацакам, гэта ўпэўненасць у тым, што іхняе пакутлівае каханне з Андрэем, якое яшчэ моцна трымціць на дне душы, даўняя крыўда на лёс павінны застацца яе — і толькі яе! — болем.
І ўсё ж нешта ў ёй павярнулася на добрае. Ужо гатова была вінаваціць ва ўсім толькі сябе, успаміпала тыя, далёкія, дні да драбніц, у нейкае імгненне папракнула сябе ў слабасці. І ўсё ж застаялая туга зрушылася з месца і пачала кроплямі выцякаць з сэрца, даючы месца дзіўнай, даўно чаканай надзеі.
Андрэй...

## 4

Была субота.
Генісарэцкі зайшоў да Андрэя Гмырака з самай раніцы. Але нават не папрасіў, як звычайна, наліць кілішак. Быў надзіва стрыманы і строга сказаў, амаль загадаў Андрэю апранацца і ехаць разам з ім.
Спускаючыся следам за Генісарэцкім па лесвіцы і свідруючы вачамі яго даволі падцягнутую плячыстую постаць, Андрэй дапякаў сябе, што змаладушнічаў і дасюль не распаўсюдзіў «Свабоду», — нават па тых адрасах, якія яму даў Вацак. Баяўся «правалу». Газета ляжала на самай ніжняй паліцы буфета ў ягоным пакоі, закручаная ў звычайны абрус.

Усе дваццаць пяць экземпляраў. Аднак не, толькі дваццаць чатыры. Той, дваццаць пяты, застаўся каля станцыі Мінойты, выкінуты ім тыдзень назад праз пабітае акно ў тамбуры. Калі два чыгуначныя жандары, якіх ён заўважыў у другім канцы вагона, спакойна прашнуравалі міма яго далей, пашкадаваў аб зробленым, але было позна.

Аднак нечага перабольшваць! Не можа быць, каб папера, выкінутая на хаду з цягніка, ды яшчэ пры такім надвор'і (якраз ляпіў мокры снег), уцалела.

Усе дваццаць чатыры экземпляры газеты ляжалі пад абрусам на ніжняй паліцы буфета зверху. Дзверцы былі зашклёныя, праз тоўстае жоўтае шкло на правай палавіне прасвечваліся толькі кілішкі і пляшка.

Селі ў пралётку, што ўжо стаяла перад пад'ездам (Генісарэцкі пастараўся!), і возчык адразу ж павярнуў да Лукішскай плошчы. Андрэй здзівіўся, але страху не адчуў. Толькі ногі заныді і пахаладзелі.

Для пачатку няблага спакойна агледзецца. Ужо даўно ён прывык ацэньваць адну і тую ж небяспечную для сябе падзею з розных бакоў, нават спрабаваў паставіць сябе на месца ўяўнага ворага, каб разгадаць яго намеры.

Стаіўшыся ў пралётцы, ён не мог даўмецца, дзеля чаго ўсё ж Генісарэцкі павалок яго ў самыя Лукішкі (у тым, што возчык папрэ напраcткі да турэмных варот, сумненняў не было). Магчыма, пачалася нейкая чарговая псіхалагічная гульня. Але Андрэй ведаў яшчэ адно: ротмістр Генісарэцкі любіў гульні вытанчаныя, часам садысцкія, прадуманыя да самых драбніц. Ён пацяшаўся над слабейшымі за сябе з асалодаю і натхненнем, часам забываючы, што «грахі» апошніх ім жа самім прыдуманыя.

Усё ішло без асаблівага знешняга націску на ахвяру, але заўсёды пры ўмелай падтасоўцы фактаў і аргументаў, што сеяла ў разгубленых душах сумненні і роспачныя думкі аб ненадзейнасці жыццёвых удач і, адпаведна, аб непамерным значэнні выпадковасцей і дробязей. Усё рабілася Генісарэцкім дзеля аднаго: нястомнай шліфоўкі псіхалагічнага «майстэрства» падаўлення асобы.

Андрэй не разумеў, што магло выхаваць у гэтым чалавеку такі непамерны эгаізм. Але апошнім часам пачаў здагадвацца. Толькі адным! — любою цаною вы-

біваючыся ў людзі, яшчэ з самага бязвусага перыяду сваёй службы гэты разумны, але падточаны ўжо чарвяком хворага самалюбства сын вясковага дзячка, Генісарэцкі выбраў сабе ролю ўслужлівага мужчынымхлопчыка і мог сцярпець любы здзек з боку старэйшых па чыне і гадах. Але толькі да пары. Да той пары, пакуль з самазадаволенай ухмылкаю (аднак зноў жа прыхаванаю ўнутры) прыме ад уласных крыўдзіцеляў хоць якую, няхай дробязную на думку грамадства, канкрэтную ўладу над людзьмі. Пакуль сам не здолее помсціць свету за ўласнае падзенне.

(«А калі ўсё ж вынюхаў пра «Свабоду»?»)

Гэта быў другі бок сітуацыі. Але Андрэй прымусіў сябе супакоіцца.

Вядома, не. Не можа быць. Зрэшты, круціцца на пяце ўжо не было як! Усё — позна. Позна, бо проста немагчыма вось цяпер перахаваць «Свабоду». Аднак жа не можа быць! Калі б гэты гад што-небудзь ведаў, то запусціў бы ў яго зубкі адразу ж! Наскочыў бы з вобыскам. І ўсё! Лагічна? Лагічна.

* * *

Андрэй Гмырак ніколі не забудзе тае восені, калі ўсе універсітэцкія і тэхнолагі выйшлі да Казанскага сабора, каб адслужыць паніхіду па Ветравай.

Пасля арышту прабыў у «прэдварылаўцы» амаль тыдзень разам з трыма універсітэцкімі, адзін з якіх маўкліва пакутаваў ад страшнага ўдару дубінкаю па левым плячы.

Першае, чым яго тады здзівіла турма — масіўнасць металічных высокіх дзвярэй. Яны зачыняліся за спіною з нязвыкла рэзкім скрыгатаннем, якое яшчэ доўга аддавалася ў вушах, каціласся па ўсіх калідорах, закутках, доўгіх жалезных лесвіцах і камерах.

Час у «прэдварылаўцы» цягнуўся, як на валах, але Андрэй ніяк не мог зладзіць з трывожнымі думкамі. Успаміны кідаліся найчасцей на плошчу перад Казанскім саборам, праносячы перад вачамі разгарачаныя твары сяброў і зацугляныя, пачварна доўгія, як бачылася цяпер, конскія храпы. Недзе на трэці дзень успомніў дамоўку. І то ў сне. Прахапіўся, як ашпараны: «Гаўра!» Не можа быць, каб следчы не дакапаўся да

гэтага небяспечнага для Андрэя факта аб удзеле старога «гінжала» ў шэсцьдзесят трэцім!

Мільганула думка пра Магдалену. Але гэта было б яшчэ горш. Лепей, калі ніхто нічога не ўведае.

У пятніцу, сярэдначы, Андрэя раптам паднялі і ў суправаджэнні двух канваіраў этапіравалі цераз Няву ў Петрапаўлаўку.

Ноч выдалася цёмная і даволі ветраная. Па няроўным бруку за варотамі мітусілася бляклае ліхтаровае святло. Павярнулі направа, міма царквы. Андрэй падняў галаву, і на імгненне яму здалося, што ён убачыў уверсе руку тонкага жоўтага крыжа. З-за высокіх сцен крэпасці ў твар дыхнула сцюдзёнасцю блізкай вады.

Нарэшце ўвайшоў услед за канваірам у вузкі калідор аднапавярховага драўлянага будынка, здзівіўся толькі, што не пачуў за сабою прывычнага скрыгатання дзвярэй. Праз якую хвіліну яго ўштурхнулі ў прасторную камеру без вокнаў, якая хутчэй нагадвала кабінет. Над сталом каля самых дзвярэй свяцілася лямпачка, устаўленая ў кабельны ліхтар з тоўстым круглым шклом і рэфлектарам.

(«Навошта яшчэ і рэфлектар?»)

Азірнуўся і зразумеў, што менавіта ад рэфлектара святло ў камеры было такое едкае.

На нізкай табурэтцы пад ліхтаром, бокам да святла, сядзеў немалады лысаваты чалавек у цывільным. Насуплены і засяроджаны на нейкіх сваіх, відно, непрыемных думках, ён нават не зірнуў на Андрэя, унурыўшыся позіркам у паперку, уручаную яму канваірам.

Доўга чытаў, паднёсшы яе амаль да самых вачэй. Правая рука чалавека неяк вяла і нерухома, як мёртвая, ляжала на стале.

Пра гэты кароткатэрміновы перавод студэнта юрыдычнага факультэта Андрэя Гмырака, арыштаванага за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях і падазраванага ў замаху на ротмістра Гуляева, чалавек у цывільным, ён жа камендант Петрапаўлаўскай крэпасці, Эліс, далажыў самому дырэктару дэпартамента паліцыі назаўтра раніцою.

Абдумваючы магчымасць адпаведных даносаў падначаленых на сябе ў яшчэ вышэйшыя інстанцыі, Эліс не мог прыдумаць нічога лепшага за тое, што згодна шаснаццатага параграфа Інструкцыі ў даверaную яму

крэпасць могуць быць зняволены не толькі асуджаныя, але і тыя, хто знаходзіўся яшчэ пад следствам.

Аднак падазрэнні Эліса не пацвердзіліся: даносаў на гэты раз не было. Магчыма, яны ўсё ж паступалі, але самому Элісу пра гэта чамусьці ніхто не паведамляў.

Камендант Петрапаўлаўкі ніколі не глядзеў у вочы асуджаным, даводзячы апошніх амаль да істэрык сваім асаблівым уменнем раўнадушна і манатонна цадзіць праз зубы кожнае слова, звяртаючыся як бы зусім і не да чалавека, а да сцен, стала, электрычнай лямпачкі ў карабельным ліхтары. І толькі самыя вопытныя з наглядчыкаў ведалі аб незвычайнай здольнасці Эліса ўпотайкі схопліваць вачамі аблічча няшчаснага, беспамылкова ацэньваць яго псіхічны стан, адгадваць патаемныя жаданні і намеры.

У Гмыраку быў асабіста зацікаўлены падпалкоўнік Ніканаў, з якім да гэтага Эліс амаль не быў знаёмы. Ведаў толькі, што за год да прызначэння ў Кранштадт Ніканаў праслужыў дванаццаць гадоў у Пскоўскім цэнтрале.

Дырэктар дэпартамента паліцыі (відно, па просьбе таго ж Ніканава) сустрэўся з Элісам на трэці дзень пасля разгону студэнтаў і папрасіў яго выслухаць падпалкоўніка з усёй павагай і пайсці насустрач любой ягонай просьбе. Усё гэта паяснялася тым, што якраз тады быў акалечаны сваяк Ніканава, ротмістр Гуляеў.

Вядома, падпалкоўніку Ніканаву трэба пайсці насустрач. Эліс не пярэчыў гэтаму. Але яго здзівіў крыху грэблівы тон дырэктара дэпартамента паліцыі, калі той расказаў:

— Знаеце, даражэнькі, ёсць анекдот, быццам Ніканаў, яшчэ будучы ў Пскове інспектарам, уласнаручна захвастаў двух былых студэнтаў амаль што да смерці. Аднаго за тое, што не прыняў ад яго вялікоднага яечка, а другога за няправільна вымаўленае слова «капуста». Небарака шапялявіў. Дарэчы, даражэнькі, у яго ёсць любімая лічба: дзевяноста дзевяць. Дзевяноста дзевяць удараў!

Магчыма, усё гэта было расказана ім проста дзеля жарту. Але калі Эліс, ацэньваючы непрыемную сітуацыю, адкрыта запытаў, чаго будзе патрабаваць Ніканаў і што канкрэтна ён, Эліс, павінен зрабіць, адказ быў даволі расплывісты. І ўсё ж з некаторымі падрабязнасцямі, якія стасаваліся арыштаванага:

— Ніканаву я спачуваю і прашу вас падтрымаць... (Эліс гэта ўжо чуў.) Аднак студэнцік, здаецца, мае... (Эліс насцярожыўся.) Мякка кажучы, у яго ёсць уплывовыя родзічы. Праўда, вельмі далёкія, так што... Зрэшты, рашайце самі.

(«Рашайце самі... Ведаем мы гэтыя «рашайце самі»!»)

Сцены следчай камеры, дзе цяпер знаходзіўся Андрэй Гмырак, былі фарбаваныя ў цёмна-зялёны колер, атынкоўка ў многіх месцах адсырэла і выступіла наверх бруднымі шэрымі плямамі, нагадваючы пярэстую шкуру фантастычнага звера.

Заўважыўшы раўнадушша чалавека ў цывільным (вядома, Андрэй і не дапускаў думкі, што гэта можа быць сам камендант крэпасці), ён зноў азірнуўся і здзівіўся. Чамусьці не каля сцяны камеры, а пасярэдзіне стаяла даволі доўгая і шырокая лава, на якой ляжала раскручаная вяроўчына. Адзін яе канец звесіўся ўніз, але да падлогі не даставаў, а толькі ледзь прыкметна пагойдваўся.

Андрэю зрабілася гідка, і ён, адвёўшы позірк ад той жывой вяроўчыны, заўважыў у кутку два напоўненыя вадой драўляныя цэбры. У адным з іх мокнуў цэлы пук тонкіх дубцоў з жоўтымі круглымі плямкамі зрэзаў.

Упершыню гучна бразнулі дзверы, але Андрэй не павярнуўся, не пацікавіўся, ці гэта выйшлі ягоныя канваіры, ці ў камеру ўвайшоў яшчэ нехта.

— Галаву закрыць!

Толькі цяпер ён памкнуўся азірнуцца на ўладальніка даволі раздражнёнага голасу, але не паспеў.

Адразу некалькі дзесяткаў — не меней! — як здалося Андрэю, дужых рук учапіліся ў яго ззаду, тузанулі пад пахі, падняўшы над падлогаю, і груба кінулі на лаву, тут жа абматаўшы галаву тоўстай смярдзючай дзяружкаю. Андрэй адчуў, што з яго зрываюць вопратку, але сціснуўся не толькі ад сораму, колькі ад жахлівага ўсведамлення, што яшчэ хвіліна і ён задыхнецца без паветра. Роспачна заматаў галавою і пачаў хутка жаваць, грызці кіславатую тканіну, якая забіла ўвесь рот, выклікаючы спазмы. Па голым жываце нешта балюча шарганула. Пэўна, выцягнулі вяроўку, каб прывязаць яго да лавы. Спакойна ці раўнадушна, ужо не ведаў і сам, апусціў галаву і крыху павярнуў яе

набок, нечакана вызваліўшы такім чынам свой рот ад размяклай ад сліны анучы. Зразумеў нарэшце, што тут адбываецца і што яго чакае. Але ўсё роўна яно, тое, пачалося нечакана балюча і гідка. Нясцерпна гідка. Спачатку здалося, што ўпоперак спіны пракаціўся маленькі, распалены ў агні металічны шарык. Пракаціўся, расцяўшы, як лязом, скуру. За першым адразу ж — другі, трэці, чацвёрты. Цэлая сотня металічных шарыкаў. Яны ўжо нават не скочваліся, а ляжалі на голым целе, прапальваючы яго да самых касцей.

Камендант крэпасці Эліс вырашыў прысутнічаць пры экзекуцыі хоць бы напачатку, трымаючы ў памяці тую агаворачку дырэктара дэпартамента паліцыі аб уплывовых сваяках арыштаванага. Было яшчэ адно. Пры першай жа сустрэчы з Ніканавым Эліс зразумеў, што справа патрабуе кантролю. У вачах падпалкоўніка былі разліты толькі кроў нянавісці і жаданне любою цаною дабрацца да падазраванага ў замаху на ротмістра Гуляева. Зрэшты, яшчэ ішло следства, і ніхто не мог даказаць віны гэтага Андрэя Гмырака. Падобныя студэнцкія бунты даволі хаатычныя, імпульсіўныя. Усё робіцца калектыўным гвалтам. Да таго ж прасачылася чутка, што ротмістр перастараўся і сам упаў з каня, ударыўшыся аб жалезную рашотку, выбіўшы такім чынам вока і зламаўшы плячо.

Пасля шаснаццатага ўдару Ніканаў палез чырвонаю рукою ў адтапыраную кішэню мундзіра. Эліс насцярожыўся.

Калі Ніканаў, перасмыкнуўшы тоўстымі вуснамі, выцягнуў з кішэні скураны мяшэчак, расшнураваў яго і пачаў высыпаць у жменю нешта белае, ён спачатку нават не зразумеў, што гэта соль. Аднак добра, што не зразумеў гэтага адразу ж. Іначай умяшаўся б. Калі ж праляцела некалькі імгненняў замяшання, Эліс паспеў адумацца і адвярнуўся.

...Шаснаццаць удараў, пасля якіх студэнт варухнуўся і застагнаў, занялі чатыры хвіліны. Ніканаў перасыпаў соллю кожны шрам на целе студэнта, і Эліс, збіраючыся выйсці з прасмярдзелай ад поту і размоклых дубцоў камеры, падумаў, што гэты пскоўскі дзікун перастараецца.

Падняўся з-за стала і яшчэ раз азірнуўся, наволька адчыніў дзверы.

Ён вярнуўся ў камеру экзекуцыі роўна праз пятнаццаць хвілін. Пры яго з'яўленні падпалкоўнік Ніканаў адразу ж закончыў і цяпер аддыхваўся. Каля дзвярэй стаяў толькі адзін маладзенькі дзяжурны з жоўтым ад электрычнага святла тварам.

Ніканаў ужо быў у белай сарочцы, запырсканай на жываце бруднымі ружаватымі плямкамі. Каля лавы ляжалі паламаныя дубцы, і Ніканаў, пераступіўшы іх, стомлена схіліўся над крайнім цэбрам, апусціў у яго далоні. Элісу здалося, што гэта якраз той цэбар, дзе да гэтага Ніканаў паласкаў розгі, каб не запэцкацца.

Калі ён нарэшце выпраставўся і пачаў млява, здаволена выціраць рукі вялікай белай насоўкаю — кожны палец паасобку.

На лаве перад ім ляжаў бязвольны, ссечаны да фіялетавага колеру чалавек, аб жыцці якога сведчыў толькі ледзь бачны рух лапатак, што падымаліся і ападалі пры дыханні. Часам, праўда, чуўся глухі стогн.

Эліс, вядома, сумняваўся, а ці сапраўды да гэтага маладога чалавека адносіўся той пункт інструкцыі, паводле якога розгі як адзіны сродак пакарання даюцца ў выпадку страты асобаю чуйнасці да маральных ушчуванняў. Але ён прадчуваў, што праз тыдзень гэты чалавек, якога прывядуць да яго на допыт, будзе амаль васковаю бязвольнаю лялькай, згоднаю пайсці на ўсе прапановы і ўступкі.

Эліс вызначыў гэта з самага пачатку, па той лёгкасці, з якой трое наглядчыкаў кінулі студэнта, такога высокага і на першы погляд фізічна дужага, на лаву. Па тым, што ён нават інстынктыўна не памкнуўся супраціўляцца, а толькі матаў галавою, як сляпы конь, і ціхенька стагнаў ад болю. І яшчэ, вядома, па тым, што ў самыя цяжкія моманты ён не лаяўся, як гэта рабілі многія, а толькі выкрыкваў нейкае дзіўнае жаночае імя.

Роўна праз тыдзень пасля экзекуцыі, калі студэнт выкачаўся ў лазарэце, — крыху пахудзеў, але па-ранейшаму быў на выгляд моцным і дужым, — Эліс сказаў яму:

— Я ведаў, што вы пажадаеце падаць прашэнне на імя вялікага князя Уладзіміра. Дакладней, скаргу.

Выкліканы на першы допыт, Андрэй Гмырак не адказваў ні на адно пытанне, а толькі запатрабаваў паперу. Эліс адразу ж зразумеў, што цяпер студэнтам

кіруе азлобленасць і адзінае жаданне — адпомсціць за ўчынены здзек.

— Паўтараю, я не сумняваўся, што вы пачняце менавіта з гэтага. Усе пачынаюць так... Ваша папера, вядома ж, будзе адпраўлена наверх. Толькі знаеце...

На наступны дзень пасля экзекуцыі, раніцаю, з паліцэйскага ўпраўлення яму было перасланa пасланне намесніка віленскага паліцмайстра Платона Кліменцьевіча Смольскага, на якім зверху рукою самога дырэктара дэпартамента было напісана: «З-за немагчымасці пацвердзіць факт замаху... просьбу яго правасхадзіцельства задаволіць і перавесці... у Віленскую гарадскую турму 23 кастрычніка г. г. у суправаджэнні...»

Эліс тут жа зразумеў, што за студэнтам сапраўды нехта стаіць. І ў гэтай надзіва дурной сітуацыі нікога з тых, хто прасіў яго дазволіць экзекуцыю, нельга было адкрыта назваць. Тым болей абвінаваціць. Вінаватым застаўся толькі ён, камендант крэпасці. Эліс не мог дапусціць агалоскі і абдумваў свой першы допыт два вечары. Нарэшце прыйшоў да высновы, што самае важнае цяпер не столькі палохаць арыштаванага новымі пакараннямі, а, наадварот, кінуць яму выратавальны круг, надзьмуты псіхалагічнаю помпаю. Няхай сабе коціцца ў сваю правінцыяльную дзіру! Чым хутчэй, тым лепей. Не лішняй будзе і лжывая даведка аб якой-небудзь хваробе, набытай за час вучобы. Лячыся! А калі ўсё ж падыме капыт і заўпарціцца? Аднак жа нічога! Не можа быць!

— Пішыце! Але ведайце, што з вашым прашэннем паступяць усе дакументы. Па-першае, медыцынскае заключэнне аб удары ротмістра Гуляева па галаве цяжкім прадметам... Гэта вы яго забілі... Так-так, забілі!

Эліс хлусіў, але раздумваць не было часу. Арыштаваны толькі хітнуў галавою.

— Вы можаце фабрыкаваць любую фікцыю...

Эліс рэзка падняўся з-за стала, ледзь не зачапіўшы галавою карабельны ліхтар з рэфлектарам. Допыт ён наўмысна праводзіў у той самай камеры, якая нагадвала б арыштаванаму нядаўнія фізічныя пакуты.

Упершыню за апошнія гады Эліс не адвярнуўся, а глянуў арыштаванаму проста ў вочы. І зноў гнеўна, амаль што пакрыўджана крыкнуў:

— Пішыце! Мы далі вам паперу. І абяцаем накіраваць усё па неабходных каналах.

— Вы можаце весці любое следства...

(Эліс узрадавана насцярожыўся, адзначыўшы для сябе патрэбны пералом у голасе, а значыць, і ў настроі студэнта. Цяпер той быў не столькі раззлаваны, колькі глыбока, пакутліва пакрыўджаны.)

— Вы можаце мяне нават расстраляць...

(Гэта было нават смешна.)

— ...прыпісаўшы самазабойства.

(Студэнт не мог ведаць, што за факты самазабойства належала сурова караць наглядчыкаў...)

— ...але хто даў права...

— Цялесныя пакаранні, малады чалавек, прымяняюцца вельмі рэдка. Толькі тады, калі арыштаваны не ўспрымае іншых мер... У нас ёсць свае парадкі! І мы ніколі не змірымся з буйствам самазакаханага нарцыса, які апускаецца ад забойства да бруднай лаянкі...

— Пра якую брудную...

— ...пляванні...

— Хто пля...

— ...абмазванні сцен камеры калам. Некаторыя, — Эліс наўмысна вытрымаў паўзу, — нават са звязанымі рукамі, нават апранутыя ва ўціхамірвальныя сарочкі ўмудраюцца размазваць свой кал нагамі і галавою! Калі [redacted] не сваякі...

Прызнацца, Эліс нават не чакаў, што выпадковы напамін аб сваяках так моцна выстраліць. Студэнт як апрытомнеў. Стараўся ўзяць сябе ў рукі, але ў шырока расплюшчаных вачах быў адчайны, незразумелы Элісу страх.

— Не ведаю, малады чалавек, хто яны. Зрэшты, мне гэта і не цікава... Але калі б не іхні ўплыў і націск... — Эліс зноў вытрымаў паўзу, уздыхнуў і панізіў тон, — ...то мы наўрад ці далі б вам магчымасць падаць прашэнне на імя рэктара аб адтэрміноўцы экзаменаў... Ну, хоць бы на год!

Прыпыніўся каля стала і ўпёрся прамымі тоўстымі пальцамі ў чыстую паперку на стале.

— У сувязі з хваробай... І так далей! Вось гэтая медыцынская даведка... — ён паспешліва выцягнуў з унутранай кішэні пінжака вузенькую шэрую паперку.

І раптам адчуў, што студэнт залішне напружана думае аб нечым, заспяшаўся:

— Пішыце, малады чалавек! Даведку доктара Стоселя, — ён паклаў яе на стол, — аб абвастрэнні ў вас язвы страўніка... Гэта, здаецца, самая папулярная хвароба ў вашага брата?! Зрэшты, даведку мы адашлём самі. Разам з вашым прашэннем аб пераносе экзаменаў. Але спачатку хоць пазнаёмцеся...

Эліс важка адваліўся ад стала, павольна патупаў у дальшы куток, як бы стаміўшыся ад допыту і ўжо не цікавячыся паводзінамі Андрэя. Нават пацягнуўся, раскінуўшы ў бакі рукі, нагадаў:

— Адрас не забудзьце ўказаць. Што ў вас там? Лідскі павет, здаецца?

Раззлавана надумаў, што залішне яркае святло ад рэфлектара ў ліхтары ўсё ж болей слепіць, а не свеціць. Але калі студэнт нарэшце паклаў даведку на стол і падсунуў бліжэй да сябе паперу, Эліс упершыню за ўвесь час ухмыльнуўся і з палёгкаю ўздыхнуў. Ужо ведаў, што ён, гэты Андрэй Гмырак, ніколі нікому і ні пры якіх абставінах не прагаворыцца аб тым, што адбылося тут роўна тыдзень назад.

## 5

Генісарэцкі лёгка ішоў доўгім калідорам. Стараючыся не збаўляць кроку і не адставаць ад яго, Андрэй жадаў цяпер аднаго: заставацца абыякавым да ўсяго, што ўбачыць.

Але калі за спінаю з бразгатам зачыніліся дзверы (у Лукішках яны былі надзвычай цяжкія), па целе нечакана слізганулі дробныя прыкрыя дрыжыкі.

Нарэшце Генісарэцкі ўвайшоў у невялікі кабінет для допытаў, які Андрэй пазнаў з першага позірку. Як і тры гады назад, пасярэдзіне стаяў цёмны дубовы стол і дзве табурэткі. Збоку каля сцяны быў яшчэ адзін маленькі столік з загадзя падрыхтаванаю чыстаю паперАЮ.

Тады, тры гады назад, пасля Петрапаўлаўкі, ён менавіта тут упершыню сустрэўся з Платонам Кліменцьевічам Смольскім. А ўжо недзе праз тыдзень быў адпушчаны і даведаўся пра месца сваёй работы: канцылярыя акругова суда.

Цяпер за сталом сядзеў немалады следчы ў даволі пацёртым цесным мундзіры з кароткімі рукавамі.

Следчы толькі кіўнуў Генісарэцкаму, як даўняму знаёмаму, і зноў убіў вочы ў расшнураваную папку з паперамі. Перад сталом чамусьці не сядзеў, а стаяў каля самай табурэткі худы і доўгі, што смык, маладзенькі рабочы ў зашмараваным пінжачку. Андрэй міжволі ўсміхнуўся, — гузікі ў пінжачку былі яшчэ цэлыя, доўгія русыя валасы арыштаванага акуратна падалі на чысты лоб.

Яны выйшлі з кабінета праз хвілін пяць-сем, шоргаючы аб каменную падлогу жалезнымі абцасамі. Генісарэцкі па дарозе толькі ўхмыляўся і ўспамінаў старыя анекдоцікі. Андрэй расцягваў вусны ў прыкрай цынічнай усмешцы. Яна так моцна прыляпілася да ягонага твару, што не сышла і тады, калі яны з Генісарэцкім нарэшце апынуліся за варотамі і селі ў тую ж самую пралётку.

— Як кажуць, «отцы сего не приемлют суть...» (пралётка ўжо спынілася каля пад'езда, і яны саскочылі на брук). А ці знаеш, у чым іх віна? — Генісарэцкі, пэўна, меў на ўвазе арыштаванага рабочага і яго сяброў. Андрэй толькі адмахнуўся. Нарэшце падняліся па лесвіцы, і ён адчыніў дзверы ў свой пакой, не азірнуўшыся, зайшоў у яго першым.

— Гэтыя наіўнякі, — зноў пра арыштаваных у Лукішках, — узяліся змагацца са складанейшым механізмам манархічнай імперыі... А самі, мон шэр, не ўмеюць нават схаваць свае рэвалюцыйна-сентыментальныя лістоўкі. Ну, я разумею, калі б гэта быў мех фальшывых «ружовенькіх». Выклікае спачуванне! Ці хоць бы некалькі вінтовак. І то... А знаеш, адзін з ярых сацыялістаў, з тых, што гуляюць у бомбы, уцёрся ў турэмны персанал, у Табольскім цэнтрале, і зрабіў там цэлы арсенал! Э? Толькі недарэчнасць... А ў гэтых — ніякай канспірацыі!

Андрэй стомлена пацёр далонню лоб, і Генісарэцкі таксама паўтарыў ягоны рух, засмяяўся. Ён ужо сядзеў на канапе, адкінуўшы назад кучаравую галаву з прыліплымі да ўспацелага лоба русымі пасмачкамі валасоў. Упёрся патыліцаю ў мяккі валік спінкі (прыгожае бледнае аблічча), цыркулем расставіў пад сталом выпрастаныя ногі, ледзь не дастаючы ботамі да крэсла насупраць, па той бок стала. Заплюшчыў вочы.

— А змог бы ты аб'ехаць на маторы ўвесь наш зямны шарык? — нецярпліва заёрзаў, рыпнуўшы спру-

жынамі, але Андрэй зноў прамаўчаў. Узяў з буфета два кілішкі і пачатую пляшку.

— Як пляткарыць (з глыбокім прыдыханнем) «Петербургская жизнь», Левіс і Курдзель на сваім маторы ўжо ў Расіі. Французы!

(«Ну і што, калі французы?»)

Генісарэцкі адплюшчыў вочы (заўсёды бліскучыя і круглыя, як выдзьмутыя з блакітна-зялёнага шкла), упёрся рукамі ў канапу і рэзка выпрастаўся. Спыніў скептычны позірк на талерцы з тоўстымі скрылямі сала.

Нарэшце ўзяў відэлец і лена пацягнуўся да другой талеркі, якраз пасярэдзіне стала, таксама і няўмела нарэзанаю, але даволі апетытнаю на выгляд хатняю кілбасою.

Андрэя заўсёды непрыемна дзівіла, што Віктор Генісарэцкі, выжлукціўшы цэлы штоф гарэлкі і ўмёўшы за вечар па талерцы сала і кілбасы, з'ядае толькі адзін маленькі акрайчык хлеба.

— Слухай, мон шэр... — Генісарэцкі зноў лена пацягнуўся, быццам у яго цяпер занылі ўсе косці. — Кажуць, наш новы Святаполк-Мірскі ў дастатковай ступені ліберальны і адразу ж заплюшчыў вочы на банкірскія выбрыкі Плятара. А свой свецкі паход у людзі прадэманстраваў візітам у Чырвоны Двор да Парчэўскага.

Пасля другога кілішка ён павольна пражоўваў кілбасу.

Засмяяўся:

— Цэлую гадзіну знаёміўся з бровfestарам і псарняю. І з вестфальскімі свінкамі, мон шэр, якія ваш дарагі «вядомы грамадскі дзеяч» Парчэўскі завёў яшчэ пры Грузінскім!

Падняў на Андрэя вочы, але той засяроджана разліваў гарэлку.

Адзінае месца, куды Андрэй мог пайсці са «Свабодаю», — гэта дом Умястоўскіх. Але туды ён не наведваўся ўжо месяцы два.

— Я ўсё ж скіну мундзір. Хоць ты акно выбівай! Чаму ў цябе так горача, мон шэр?

— Ты як змяя ў спёку. Мяняеш скуру, калі пачынае свярбець.

— О! Гэта ўжо ранейшы Гмырак! Мон шэр. Пі, мон шэр. А знаеш, Тэйфель...

— Хто гэта?

— Упраўляючы Парчэўскага.

— Зноў Парчэўскі!

Генісарэцкі хмыкнуў, але настойліва працягваў:

— Тэйфель данёс, што бачыў у яго паперкі сумніцельнага зместу. Сацыял...

— Ды бровар!

— Э-э?

— Калі ў Парчэўскага харошы бровар і вестфальская парода, то так і скажы! А не пары мне тут лухту пра «сумніцельны змест». Знайшоў прытулак сацыялістаў!

— А чаго цябе гэта ўзвінціла?!

Генісарэцкі задаволена рагатаў:

— Чуеш, дай падушку. Ну, дай мне падушку! — Раздражнёна расшпіліў мундзір. Здаецца, ён ужо канчаткова здаўся і выкрыкваў асобныя словы амаль без памяці: — У «Аркадзіі», мон шэр... Чуеш?.. Кітай... акрабаты «чынг-чонг»... Такое...

Кінуўшы на канапу падушку, Андрэй вярнуўся на сваю табурэтку і задумаўся. Генісарэцкі, відно, успомніў пра паездку ў Лукішкі, бо ўжо ў сне крыкнуў: «Канспіратары!» — і тут жа гучна засоп.

Нават сляпы ці глухі, нават самы апошні ёлуп ужо зразумеў бы, што Генісарэцкі пра «Свабоду» ведае ўсё! Зноў, як на раніцы ў пралётцы, забалелі і набраклі свінцовым холадам ногі. Андрэй падняўся. Перамагаючы боль, падышоў да буфета і адчыніў яго, чакаючы, што здарыцца цуд і «Свабоды» не будзе на месцы. Але дзе там. Навучка, як для пана Мручка! Андрэй падсунуў левую руку пад пакунак, падняў яго. Потым, памагаючы сабе правай рукою, асцярожна перанёс яго на стол. Цяпер трэба было пераклаcці гэта ў драўляны, такі ж, як і ў Алаізы, чамаданчык, што стаяў якраз паміж канапаю і буфетам. Чамаданчык гучна стукнуўся аб стол. Андрэй наструніўся, баючыся глянуць на канапу, але Генісарэцкі нават не варухнуўся.

З ротмістрам Генісарэцкім Андрэй пазнаёміўся пасля турэмнай адысеі, на другі ж дзень пасля паступлення на службу ў канцылярыю акружнога суда, калі той прынёс вуснае віншаванне ад Платона Кліменцьевіча Смольскага. Помніцца, тады Генісарэцкі прыйшоў у цывільным, даволі востра жартаваў, падкінуўшы Андрэю колькі смешных свецкіх навін. Даволі хутка, з

разумна-ветлівай усмешкай развітаўся. У мундзіры Андрэй убачыў яго праз тыдні два... Зрэшты, хто ж яшчэ мог прыйсці ад Смольскага?!

Да Варшаўскага завулка, дзе жылі Умястоўскія, было пятнаццаць хвілін пешай хады. Але ўсё марна. Умястоўскіх дома не было.

Так і не распакаваўшы чамаданчык, Андрэй павярнуў назад, не ў змозе суцешыць адчайныя думкі, скіраваныя толькі на адно: знайсці схову для «Свабоды». Але пакуль што нічога талковага ў галаву не прыходзіла. Кружыў, як сляпы, каля свайго дома з паўгадзіны, перабраўшы ўсе варыянты і ўвесь магчымы час адсутнасці. Баяўся, што Генісарэцкі ўжо ацверазеў і чакае яго ў пакоі за непрыбраным сталом. Гэты не стапнее нікуды, пакуль не закончыць усю пляшку.

Чаму б не вярнуцца дахаты з чамаданчыкам? І зусім не...

Але ён канчаткова перастаў вагацца толькі тады, калі нечакана заўважыў за сабою хвост — маларослага і сагнутага ў пытальнік ад холаду, дрэнна апранутага шпічка. Гэта быў ягоны хвост. Андрэй тут жа ўспомніў, што яшчэ каля дома Умястоўскіх, перад абшарпанаю, замеценаю снегам тэатральнаю тумбаю ўжо бачыў гэтую згорбленую постаць. Але не насцярожыўся. І яшчэ... Ужо ў другі раз. Ледзь не збіў шпіка з ног якраз тады, калі той спакойна стаяў у пад'ездзе і, відно, не чакаў, што ён, Андрэй, вернецца... Так, Андрэй падымаўся ўжо, збіраючыся рызыкнуць, але толькі пастаяў перад дзвярамі і кінуўся назад, яшчэ мацней сціскаючы пальцамі ручку чамаданчыка.

Аднак толькі цяпер, з трэцяга заходу, прашнураваўшы вуліцу ўздоўж і ўпоперак і не прыдумаўшы ніякага выйсця, ён раптам уцяміў, што гэты чалавек прычэплены да ягонага пакоя самім Генісарэцкім.

Ліхаманкава падумаў, што ўрэшце можа выкінуць чамаданчык у любую скрынку для смецця. Спыніўся пасярэдзіне вуліцы, не заўважаючы прахожых. Усе былі цяпер для яго на адзін твар. Крутнуўся да скрынкі, што стаяла на самым рагу суседняга дома, але тут жа азірнуўся на шпічка, які не адставаў. Уявіў, з якой скептычнай ухмылкаю Генісарэцкі ўру-

чыць яму, Андрэю Гмыраку, гэты самы чамаданчык не пазней чым праз пяць хвілін.

Здзівіўся сам сабе: на душы было спакойна. Нават залішне спакойна.

Ён падняўся па лесвіцы і стаў насупраць сваёй кватэры, мітусліва шнуруючы кішэню паліто ў пошуках ключа. Забыў, што не зачыняўся ж. Ён ужо нават трымаўся рукою за ручку дзвярэй, калі ўнізе гучна, з усяго маху ляснулі дзверы пад'езда. З тым жа рэзкім рэхам, што і ў турме...

Божа літасцівы...

Чаму на наша сумленне і на наш унутраны дух так моцна дзейнічае фізічнае адчуванне свету — усё, што спазнала, адпакутавала і перажыло цела? Чаму звычайны стук дзвярэй у пад'ездзе можа раздрабніць на друз усю тваю рашучасць і гатоўнасць да самаахвяравання? Як шкляную ляльку.

Чаму вышэйшыя нябесныя сілы выбралі для гэтай ролі яго, Андрэя Гмырака?

Калі б хто-небудзь, хто-небудзь сказаў.

...Іхняя гаворка з Генісарэцкім доўжылася не болей пятнаццаці хвілін, але Андрэю яны здаліся нясцерпна бясконцымі. Зрэшты, Андрэй толькі слухаў, стоячы ў паліто перад акном, спінаю да пакоя. Маўчаў, хаця ледзь стрымліваў накіпелую ўнутры злосць і роспачнае пачуццё непапраўнай віны. Не толькі перад Вацакам, але найперш — і гэта асабліва пякуча працінала душу — перад Алаізаю.

Ва ўсім, што адбылося, Андрэю цяпер бачылася нешта фатальнае. Чаму той, выкінуты ім з вагона ў Мінойтах, экземпляр «Свабоды» ўцалеў нават у хлюпотнае надвор'е?! Чаму дзяжурны на станцыі аказаўся сваяком Генісарэцкага і адаслаў газету менавіта гэтаму мярзотніку? Лёс няўмольна сутыкаў Андрэя з Генісарэцкім на самых небяспечных жыццёвых паваротах, і ён пачаў ужо нават мірыцца з гэтым неадчэпным насланнём. Спроба вырвацца з заклятага кола не ўдалася і на гэты раз, усё складвалася нават горш, чым некалі ў Пецярбургу. Але цяпер на лаве пад бізунамі ляжала яго душа.

Урэшце, чаму здарылася так, што ён сам бяздумна прагаварыўся Генісарэцкаму, што паедзе дахаты на Каляды не адзін, а з даўнімі сябрамі?

Як ні дзіўна, цяпер яго калаціла не толькі ад перажытага за дзень сораму і з'едлівага голасу Генісарэцкага, але найбольш ад успамінаў пра паездку на хутар. Згадваў, як наіўна і па-дзіцячы адкрыта радаваўся даверу Вацака і Валэйкаў, ехаў у цягніку і бясконца распытваў пра пецярбургскія навіны і Алаізу, потым усю ноч памагаў адбіваць на шапірографе «Свабоду». Хапіўшы раніцаю ад хвалявання поўную шклянку гарэлкі, зваліўся на канапу і праспаў да самага абеду. У Стары Двор не паехаў...

Чакай! Чакай!.. Трэба сабрацца. Сабрацца і падумаць. Ён жа нікога не выдаў. Зрэшты, Генісарэцкі ні аб чым і не распытваў, але яшчэ раз настойліва паўтарыў, што газеты трэба завезці і пакінуць на кватэры толькі аднаго чалавека — Алаізіі Пашкевіч.

— Яе з намі не было, — гэта першае, што ён нарэшце выціснуў з сябе. Хутчэй — прахрыпеў.

— Я не дзіўлюся, калі панначка рыфмуе любоўныя пасланні, мон шэр... Але тут...

— Што табе трэба? Што ты ад яе хочаш? — Андрэй ужо крычаў, хаця ўвесь час помніў, што пад тым, ужо знаёмым вершам стаяў толькі смешны мужчынскі псеўданім: «Банадысь Асака». І нічога болей.

— Мон шэр! З табой гаварыць, што па каменнях барану цягаць. Я ж пазнаў! І знаеш, лепей цяпер яе супакоіць. А то закруціцца, мон шэр, такіх дроў наламае... От тады будзе позна!

Усё пераблыталася, але Андрэй ужо ведаў, што возьме, як таго патрабуе гэты «благадзецель», возьме ненавісны чамаданчык з газетамі і сёння ж паедзе ў Пецярбург. Потым выйдзе з вагона і выкіне яго на вакзале. А там бог бацька. Мяркуючы па ўсім, у паліцэйскім упраўленні ўжо ляжыць данос Генісарэцкага аб знаходжанні ў ягоным пакоі рэвалюцыйнай літаратуры, і пры вяртанні ў Вільню, калі стане вядома, што пры вобыску ў Алаізы знайшлі толькі кукіш з макам і распяцце над сталом, яго арыштуюць. Спярша ўсыплюць па «сухім пратаколе» і адаб'юць пячонку, потым зваляць віну толькі на яго аднаго.

Генісарэцкі пайшоў. Андрэй вяла, як у сне, адвярнуўся ад акна, узяў са стала кілішкі і, нават не апаласнуўшы іх, паставіў у буфет.

Аднак жа не! Ён не выкіне гэты пракляты чамаданчык. Глупства, васпане. Іначай ні Вацак, ні Алаіза

не паверацъ. Чаго добрага, падумаюць, што ён сам, як дурны цюцька, завалок газету ў паліцэйскі ўчастак і цяпер вось пакутуе, шукае паратунку ад уласнай здрады.

Ён занясе чамаданчык на Васільеўскі востраў і парэдзіць. І толькі тады, назаўсёды адрэзаны ад усяго і ўсіх, апаскуджаны па самыя вушы, паедзе назад.

...Пецярбург сустрэў Андрэя надзіва сонечным ветраным днём. Няроўны, але чысты снег перад вакзалам бліпчаў, адбіваючы яркае праменне, плыткая сумяціца натоўпу захапіла, закруціла і Андрэя, — таксама заспяшаўся да вялізнага гмаху гасцініцы насупраць, каля якога тоўпілася цэлая хмара вазакоў. Але тут жа адумаўся і рашыў ісці пеша да самай Нявы. Помніў, што каля Тучкова раней быў санны пераезд на Васільеўскі. Ішоў па каменным тратуары без дрэў, задзіраючы, як некалі ў студэнцтве, схмялелую галаву, — над дзвярамі і вокнамі грозна выпіналіся навесы-брылі. Аднак вочы шукалі на фасадах камяніц пекныя лепкі саболяў і соў, сімвалаў багацця і мудрасці, дзюбатых пеліканаў і грацыёзных яшчарак, таямніча-адчужаных сфінксаў і нільскіх берагоў.

«С подъятой лапой, как живые, стоят два льва сторожевые...»

Марозік, што напачатку здаўся яму слабаватым, даволі хутка стаў забіраць ногі. Сеў у паравую конку і праехаў некалькі кварталаў. Пайшоў па набярэжнай уздоўж бела-блакітнай замёрзлай Нявы, пастаяў, узіраючыся ў чорную аграмадзіну Мікалаеўскага моста.

Андрэй расхваляваўся, нібыта праз шмат гадоў вярнуўся ў рамантычную чыстую маладосць.

Самае важнае — ён нечакана вызваліўся ад устаялага віленскага страху, снег пад нагамі пазвоньваў так весела, што на імгненне здалося, быццам з душы вось цяпер ападаюць і назаўсёды застаюцца ззаду нябачныя пакутлівыя ланцугі. Усё, што яму ўчора гаварыў Генісарэцкі, сёння здавалася несур'ёзным і нават смешным.

Рухаўся ўздоўж Нявы і вёў у думках новую перапалку з Генісарэцкім — лоўка парыраваў кожны ягоны выпад супроць сябе і Алаізы.

Сліпучы снег на парэнчах моста ажно гарэў пад сонцам. Нават чамаданчык з газетай не выклікаў ранейшага раздражнення.

Божа мой, трэба было проста з'ехаць з той дрымучай правінцыяльнай Вільні, дзе ад яго ні на крок не адступаў пракляты цень у сінім мундзіры, трэба было проста глянуць на сябе збоку — і ўсё мярзотнае зрабілася далёкім і нерэальным, як прыснёнае ў страшным сне. Абудзіўшыся ад яго, Андрэй зразумеў, што самае галоўнае цяпер — яна, сустрэча з ёю, першы позірк і першыя словы, па якіх ён адразу ж усё адчуе і зразумее.

Нарэшце дастаўся на Васільеўскі і знайшоў той драўляны вялікі дом, дзе кватаравала Алаіза, яшчэ доўга кружыў паблізу, здалёк з жахам пазнаваў у сустрэчных паненках яе зграбную постаць, але, упэўніўшыся ў памылцы, з палёгкаю ўздыхаў.

У дзверы ўсё ж пазваніў. Але тут жа адчуў расчараванне — перад ім у калідорчыку стаяла маленькая, бляклая, зусім чужая кабета ва ўсім чорным. На запытанне, ці жыве тут Алаіза Пашкевіч, згодна кіўнула і запрасіла ўваходзіць. У калідорчыку нахіліўся, паставіў пад вешаком чамаданчык, павольна расшпіліў і зняў паліто. Гаспадыня ўвяла яго ў залу, паказала рукою на дзверы з правага боку. Націснуў на гэтыя дзверы, але, пэўна, слаба, больш рашуча штурхнуў іх, чуючы, як па твары шуганулі дробныя і калючыя мурашкі. Ступіў наперад.

Яна, Алаіза, нібыта адчувала, што ён прыедзе. Моўчкі апусціла рукі, і ён прыплюшчыў вочы, абхапіў яе за плечы і раптам зліўся з гэтай нечаканай падатлівасцю, прытуліўся шчакою да яе гарачай скроні.

Дрогнула, нешта зашаптала, як пратэстуючы, але ён ужо нічога не чуў, губляючы адчуванне рэальнага свету.

Божа мой...

Трэба было вось так раптоўна, толькі на імгненне прытуліцца да гэтай жанчыны, каб зноў, але ўжо незваротна, адчуць, што кахае, кахае яе да бясцямнасці. Мяккія вусны, гарачыя і крыху баязлівыя, давяраліся яму з такім адчаем, што ён ужо не мог звязаць у адно блытаных думак, нарэшце без сіл апусціўся на калені і прыпаў да яе далоняў доўгім шчаслівым пацалункам.

Пасля абеду яны пайшлі да незнаёмага Андрэю Лявона Малецкага. Ісці было нядоўга. Лявон кватараваў у такім жа, як і Алаіза, драўляным невялікім дамку, які

быў па-вясковаму абгароджаны невысокім плотчыкам і акружаны старым яблыневым садам. На пакручастых нерухомых галінах змярцвеў пухнаты снег. Алаіза напоўніцу ўдыхала колкае паветра з імглістым марозным пылком, і Андрэй заўсміхаўся, на хаду моцна прыцягнуў яе да сябе.

У невялікай зале на тапчане за грубкаю ляжала высахлая ў шчэпку старая, падняўшы сагнутымі ў каленях нагамі ватнюю коўдру, скімліла, як дзіця, бездапаможна торгала нітачкай ніжняй губы.

Лявон адразу ж павёў іх у сваю, як сам сказаў, «келійку». І праўда — адно маленькае акно, жалезны ложак упрытык да стала, табурэтка і голыя, укрытыя бляклымі шпалерамі сцены. Пад ложкам ляжалі кнігі. На стале — некалькі экземпляраў «Свабоды». Убачыўшы іх, Андрэй упершыню за ўвесь дзень адчуў, як у грудзі моцна ўдарыў непрыемны халадок.

Лявон, шчуплы блакітнавокі хлопец, меў надзіва нізкі прыгожы бас. Пацiснуўшы руку Андрэю — моцна і ўпэўнена, — усміхнуўся:

— Ці гэта ты ім памагаў у Галавічполі?

— Было!

...Пілі гарбату.

Паружавелыя вусны Алаізы крыху баязліва краналіся гарачай шклянкі — Андрэй бачыў палоску бліскучых зубоў. Цяпер ён заняў табурэтку, прыгнуўся, калі Лявон падышоў да стала і ўзяў нумар «Свабоды».

— Віншую, Асака. Першае дзіця! Навародак. Усіхняе — па слоўцу. Слухайце, панове... Такім парадкам! А давайце яго ахрысцім! Андрэй?

— Ці не ты хросным быць хочаш?

Андрэй спінаю адчуў, што Лявон пазірае на яго. Пэўна, свае жаўтаватыя бровы рукою пацёр! Усміхаецца.

— То як вершанё, Цётка?

— Харошае! — Засмяялася. — «Мужык не змяніўся»... — Назваўшы выдрукаваны верш, на імгненне задумалася. І без папярэджання, затуліўшы твар рукою, ціха пачала чытаць:

Дзевяноста сотняў,
Як Езус радзіўся,
І за гэту пору
Мужык не змяніўся...
Пайшлі горы долам,

А далы гарамі,
Перасохлі моры
І сталі палямі...

Моцна трымала шклянку, быццам грэла пальцы.

— Такім парадкам, Цётка... Дзевяцьсот гадоў мінула... А мы — такія ж сляпыя перад Езусам! Вось у чым самая вялікая таямніца гэтага верша, Цётка. Ты яшчэ і сама пра гэта, пэўна, не ведаеш, так?

— Філосаф ты мой мілы! Ціха...

— Што значыць — ціха? Слухай, а ў цябе крыжык ёсць?

— Жартачкі!

Пераход да крыжыка быў даволі нечаканым, і Андрэй адразу ж адчуў падвох, імгненна адсек:

— Памаліцца хочаш, хросны?

— Ну табе! Укруціў. Жучка хачу падпусціць.

Яшчэ ў студэнцтве, як помнілася, «жучкамі» называліся анекдоты. Алаіза здзіўлена падняла на Лявона вочы.

— Мне яшчэ адзін маскоўскі універсант расказваў... — Блакітны Лявонаў позірк успыхнуў ад затоенай усмешкі. — Такім парадкам, у маладых дзяўчат, гады тры назад, мода была, каб крыжыкі насіць наверсе. Каб відно ўсім. Ішла адна такая панначка з крыжыкам на белай шыі па Цвярской, — Лявон рэзка крутануў па бровах пальцам, — а насустрач, такім парадкам, цэлая хмара студэнтаў. Падпітыя! Двое — да яе, пад ручкі. Дзяўчына — гвалт, хуліганы. «Нічога, — кажуць, — выбачайце, не бойцеся». От з гурту, адзін за адным, сталі да яе падыходзіць. Падыдзе каторы, скіне шапку, пакloніцца, такім парадкам, перажагнаецца — і цмок у крыжык. І зноў перажагнаецца. Так далікатненька пакloніцца: «Выбачайце!» А другі таксама: «Выбачайце!» — пакloніцца, крыжык цмокне, перажагнаецца...

— Ціха, Лявон!

Алаіза сціснула рукою рот, Лявон абхапіў яе за плечы і загрымеў шчодрым раскацістым басам.

Андрэй прымусіў сябе толькі стрымана ўхмыльнуцца.

Нават пасля, па дарозе дахаты, сустрэча з Лявонам ніяк не выходзіла ў яго з галавы. Ідучы поруч з Алаізаю па вузкай, расслізганай да лёду вуліцы, Ан-

дрэй нечакана для сябе пачаў расказваць пра тую ноч у Галавічполі, — як адразу ж пазнаў яе верш, здзівіўся таму псеўданіму: «Банадысь Асака».

Алаіза слухала, крыху схіліўшы галаву набок, пуховыя муфтачкі снегу на галінах дрэў уздоўж тратуара таямніча сінелі ў вячаровай імжы. Андрэй яшчэ мацней прыціснуў да сябе яе тонкі локаць. Расказваючы, не ўтаіў нават таго, што схапіў раніцаю цэлую шклянку гарэлкі і зваліўся на канапу да самага абеду.

— Часта так?

— Што? — Андрэй спачатку не зразумеў яе, але тут жа ўспыхнуў.

— Не, не часта. Не п'ю.

Унутраным слыхам ён злавіў у сабе нейкае абнаўленне і раскаванасць, быў цяпер упэўнены, што ўсё будзе добра. Прыкрая сустрэча з Генісарэцкім зноў здалася дзіцячай гульнёй, глухім туманам, сном...

Міма прашаргацелі маленькія, як цацачныя, саначкі, белы конь тонка заржаў, як засвістаў, здалёку.

Андрэй азірнуўся, убачыў на вуліцы толькі некалькі заснежаных постацей, але не супакоіўся:

— Адступімся з дарогі, Алаіза. Давай на тратуар.

Яшчэ шчыльней абхапіў пальцамі яе локаць.

Падзьмуў лёгкі вецер, і з блізкага дрэва на шчокі паляцеў халодны калючы сняжок.

...У пакоі было сіне.

Яшчэ не разумеючы яе амаль роспачнага, балюча адкрытага цяпер, спешанага позірку, Андрэй наблізіўся і ўвабраў у руку распушчаныя валасы, прыціснуўся да іх тварам. Баяўся, што зноў бяссіла апусціцца на калені, пачне вар'яцець. Валасы нарэшце лінуліся, як бліскучая хваля, на яе маленькія грудзі. Ужо не мог стрымаць дрыжачую далонь.

Напэўна, ён абняў яе за плечы залішне балюча, здзівіўся іх нечаканай упартасці, але праз імгненне яна сама, Алаіза, ужо вяла гарачымі пальцамі па яго шчоках, гладзіла па галаве. Замерла, прагнучы пацалунка, падалася наперад...

Андрэй прачнуўся сярэдначы, пачуўшы ўнутры грубы штуршок у сэрца. Але тут жа выпрастаўся ад ціхай шчымлівай радасці, якая разлівалася па ўсім целе.

Але ж... Ціха! Што гэта ён?.. Вар'яцтва. Тонкі звон у вушах. Агідная незразумелая хлусня самому сабе. Бо

ёсць тая праўда, што Генісарэцкі ніколі не быў туманам ці сном. І што ўсё — фатальная ява, якая вось-вось можа пачаць свой новы круг. Калі прыйдуць жандары і пачнуць вобыск. Ён ужо ні аб чым не разважаў і ні ў чым не сумняваўся. Апрануўшыся, шчыльна прычыніў за сабою дзверы.

Чамусьці яшчэ ўчора, звечара, ён прыкмеціў у зале каля грубкі бярэмца дроў, цяпер зразумеў — чаму. Паціху, каб не бразгаць, адчыніў дзверцы, умела склаў у чэраве грубкі некалькі цурбанчыкаў. Знайшоў вачамі на падлозе загадзя пакладзеныя сернікі, кінуў іх у кішэню пінжака. Падняўся на ногі і выйшаў у калідор, адразу ж намацаў рукамі свой чамаданчык пад вешаком. Укленчыўшы перад грубкай, адчыніў яго, выняў газету і запаліў сярнічыну. Дровы ў грубцы заняліся адразу ж, затрашчалі і загудзелі. Рашыў пачакаць, пакуль разгарацца добра. Потым пачаў вымаць [illegible] чамаданчыка па некалькі газет адразу і кідаць іх у агонь. Нарэшце запхнуў у грубку апошнія, прычыніў дзверцы. Асцярожна шчоўкнуў замком пустога чамаданчыка.

Толькі ў калідоры ён гарачкава замітусіўся, ловячы слыхам кожны шолах, але чуў толькі тонкае гудзенне ў грубцы, нацягнуў на сябе важкае паліто, абмацаў зашчапкі. Дзверы падаліся нечакана лёгка, але напаследак, ужо калі іх зачыняў, так рэзка скрыгатнулі, што ён ажно прысеў. Кінуўся ад дзвярэй на вуліцу, бег па ёй у расхрыстаным паліто, баючыся, што вось-вось наткнецца на тых самых жандараў, што ўжо ідуць, пэўна ж, ідуць да Алаізы...

«Алаіза... Алаіза...»

Андрэй спатыкнуўся. Што гэта? Навошта?..

«Алаіза...»

Няўжо ён любіць яе яшчэ мацней? Так, як ніколі і не мог уявіць...

Шпурнуў лёгкі чамаданчык убок, крутнуўся і пабег назад па яшчэ пустой вуліцы. Бег, як шалёны, але праз колькі метраў рэзка спыніўся і застыў. Прывідны белы конь тоненька засвістаў да яго з учарашняга вечаровага туману. Тады як апрытомнеў.

«Алаіза...»

Пад'язджаючы да Вільні, упэўнены ў тым, што яго хутка арыштуюць, Андрэй яшчэ не ведаў, што Ге-

нісарэцкі па незразумелай, аднаму яму вядомай прычыне не даносіў ні на яго, ні на Алаізу. Ніхто ні да кога не прыходзіў з вобыскам, ніхто нічога не шукаў.

## 6

Алаіза перагарнула старую «Ниву». Пасярэдзіне шырокага, усеянага дробненькімі літарамі газетнага аркуша быў змешчаны штрыхавы малюнак навагодняга карнавала ў Юсупаўскім садзе. Раўнадушна разглядвала Дзедаў Марозаў у доўгіх кажухах і на каньках. Каля рашоткі паблізу катка стаялі прыгожанькія дамы ў футрах, какетліва ўсміхаліся вусатым высокім афіцэрам.

Падняла галаву, зірнула ў акно, да палавіны зацемненае кляноваю галінаю з частымі салатавымі лісточкамі.

Чаму Вацак тады змог адгаварыць яе ад той паездкі на хутар? Аднак ці не залішне многа ён бярэ на сябе?! Загінаў пальцы і даводзіў. Па-першае, работа на шапірографе мужчынская. («Нічога мне не сталася б! Ці бісерныя кашалькі вышываць?») («Не едзь! Бачыш, якія цікаўскія!») Па-другое, калі што якое здарыцца, то яна павінна быць убаку. Чаму? Менавіта тое ягонае «Трэба аберагчыся!» павінна было ўзбурыць яе. Але прамаўчала. Бо было яшчэ трэцяе, аб якім ведала толькі яна адна. Нават цяпер не хацела сабе прызнавацца, што ў Галавічполе не паехала найперш таму, што меўся быць Андрэй. Яна баялася гэтай сустрэчы. Баялася, бо даўно яе чакала. Дачакалася...

Яна ні аб чым не шкадавала, яна проста амярцвела, баючыся ўспамінаць. У душы была пустата. Але тое нечаканае начное рыпенне дзвярэй стала настолькі прывідна-недарэчным, што апошнім часам яна пачала блытаць уяўнае з рэальным. Дзверы рыпелі і бухалі нават тады, калі яна ехала ў конпы або сядзела ў лабараторыі ці на лекцыі. Яны даганялі і білі яе ў плечы сваім невыносным скрыгатаннем ноччу і ўдзень, амаль даводзячы да вар'яцтва. Бо нічога ў тым, што здарылася, яна цяпер не разумела.

Алаіза перагарнула яшчэ адну старонку «Нивы» і ўбачыла на фотакартцы дзяўчатак у доўгіх цёмных суконках з белымі фартухамі. Пецярбургская старана,

Вялікая Спаская, 9. Дзіцячы прытулак ад жорсткіх адносін... Дзяўчаткі стаялі ў два рады, апусціўшы рукі, усе як адна брытыя, і Алаіза міжволі пакратала далонню свае валасы.

Кніжны магазін «Навіны» на Марской прапаноўваў новую кнігу Мантэганца «Грахі кахання і іх вытокі». Усяго за трыццаць капеек. Чаму не за трыццаць тры?

Рыпнулі дзверы...

Яна ні аб чым не шкадавала і нікога не вінаваціла. От бяда, што п'ецца так вада! Але яе страшыла цяпер тое, што пустата ў душы паціху пераплаўлялася ў глухую даўкую азлобленасць.

* * *

Пасля той сустрэчы з Андрэем мінула амаль два месяцы. Начны Пецярбург плаваў у тумане белых начэй. Дворнікі так актыўна і дружна «рабілі вясну», што ўжо ў канцы сакавіка на Няве пачаў цямнець ледзяны панцыр. Лінулі моцныя халодныя дажджы, было, упаў буйны — з галубінае яйка — град, які ляжаў на тратуарах амаль паўгадзіны.

Неяк у нядзелю, пасля абеду, Алаіза вырашыла прагуляцца і хадзіла па левым сонечным баку вуліц гадзіны дзве. Нарэшце села ў конку. На Думскай каланчы прыкмеціла сцяг — масты, значыць, былі разведзены.

Яна паднялася на верх конкі, села побач з дзяўчынай у капелюшы мужчынскага крою. Разгарнула свежую газету, што ляжала на сядзенні. «Божай міласцю... Мы, Мікалай Другі, імператар і самадзержац... Да глыбокага суму нашага, смута, пасеяная часткова намерамі, варожымі дзяржаўнаму парадку, часткова захапленнем пачаткамі, чужароднымі рускаму жыццю, перашкаджаюць рабоце па паляпшэнні народнага дабрабыту. Смута гэтая, хвалюючы розумы, адводзіць іх ад вытворчай працы і нярэдка прыводзіць да пагібелі маладыя сілы, дарагія нашаму сэрцу і неабходныя іхнім сем'ям і бацькам...»

На адным з прыпынкаў двое гарадавых прапусцілі наверх маладога рабочага на падпітку ў брудным пінжаку і нізкіх ботах. Усе трое селі насупраць Алаізы, рабочы ўсё ківаў галавою і выкрыкваў:

— За што? Што «свабоду» пракрычаў? Няхай. Вязіце! За свабоду пакутую!

Кандуктар, даючы Алаізе білет, прабурчаў:

— Двое — аднаго!

— Хіба мы сабе ў ахвотку? — насцярожыўся гарадавы.

Рабочы блымаў чырвонымі слязлівымі вачмі, скрыгатаў зубамі:

— Збягу ад вас, «фараонаў», мне што? Я ўсё роўна хачу свабоду! Вязіце куды хочаце, а я вось буду крычаць: «Свабода!» І нічога не паробіце.

Твар яго быў прыпухлы, вусны дрыжалі. Ён глянуў спачатку на дзяўчыну ў мужчынскім капелюшы, потым перавёў позірк на Алаізу. Папрасіў:

— Зайдзіце на Шостую лінію, дом шэсць. Скажыце, сын вам кланяецца. А сядзіць ён у Раждзественскай часці па палітычнай справе. Свабоды хацеў. Фараоны! — Зірнуў на гарадавога, але той адвярнуўся, зноў спыніў чырвоныя вочы на Алаізе: — Так і скажыце.

Дзяўчына побач з Алаізай загаварэлася:

— У нас цяпер адно становішча: ляжы смірна і сапі, [redacted] хто галаву падыме, зараз жа па патыліцы.

Але рабочы глядзеў толькі на Алаізу.

Яна адкрыла сумачку — абодва гарадавыя як па камандзе апусцілі галовы, — выняла апошні рубель і падала рабочаму. Той згодна, амаль радасна, кіўнуў і ўзяў рубель, засунуў яго за халяву. Пасмялеў:

— Калі [redacted] на Шостай лініі зналі таварышы, яны б выручылі. У нас там сацыялізм! Зайдзіце і скажыце ёй: ваш сын... Мацеры цяпер толькі адно: ці ў пасадскія ісці, ці сястронкіну машынку прадаць, ці сябе парашыць! Дом шэсць, у першым падвале...

Нарэшце Алаіза выйшла з конкі, змяшалася са шчыльным стракатым натоўпам. Менавіта цяпер, вясною, у вясёлай грамадзе сустракаліся найбольш людзі без усялякай канкрэтнай прафесіі, якія самі ніколі б не вызначылі свайго жыццёвага занятку.

Каля захудалых крамак на распрадажы залежалых тавараў тоўпіўся бедны народ. На маставой і тратуарах Шостай лініі стаялі непраходныя лужыны бруднай вады. Падабраўшы падолы, жанчыны старанна абыходзілі іх, гучна лаяліся.

Алаіза прайшла некалькі метраў за двума мужчынамі ў чыноўніцкіх мундзірах. Міжволі падслухала іхнюю гаворку:

— Я так хачу ўбачыць, як лёд пойдзе.

— Пастойце з народам на набярэжнай. Так многія робяць. І дачакаецеся.

— Дзякую, я і з-за італьянскай оперы не стаяў.

— Нічога. Яшчэ ладажскі пойдзе. Набрыдне.

Шосты дом быў двухпавярховы. Кватэра ў падвале размяшчалася пад самай лесвіцай. Алаіза нізка схіліла галаву, ступіла ў сырую вузкую каморку, нават здзівілася, як тут маглі размясціцца два ложкі і столік, на якім стаяла бліскучая швейная машынка. Забранае меднымі кратамі акно напалавіну схавалася ў зямлю, і праз яго верхнюю частку ў кватэру лілося непрыемна шэрае халоднае святло.

Маці арыштаванага стаяла каля стала. Выглядала маладжава, пэўна, ад асаблівай бледнасці тонкага хударлявага аблічча. Апусціла сівую, акуратна прычасаную галаву і за ўвесь час, пакуль Алаіза расказвала ёй пра сына, не прамовіла ні слова. Ва ўсёй паставе гэтай незнаёмай жанчыны было столькі годнасці і спакою, што Алаіза насмелілася суцяшаць яе. Вочы маці гарэлі сухім хваравітым бляскам, тонкія вусны шчыльна сціснуліся, і яна растуліла іх толькі для таго, каб на развітанне сказаць кароткае: «Удзячна вам».

«Нам звезды кроткие сияли...»

Наставала ноч. Белая ноч Пецярбурга. Усё набірала шэрую хваравітую афарбоўку. Самыя рэальныя прадметы ўжо гублялі абрысы...

Каля маленькай царквы тоўпіліся набожныя людзі, у рэдкім тумане бліскалі агеньчыкі васковых свечак, мільгалі рукі. Па белых сценах цэркаўкі мітусіліся няяркія цені. Прабомкаў глухі звон, растрывожаныя галубы выпырхнулі з пралётаў званіцы і расхвалявана хадзілі па карнізах. Рэзка пахла маладым кляновым і бярозавым лісцем.

Нява сустрэла Алаізу халодным дыханнем. Сырасць выцякала праз мноства чорных шчылін у ледзяным панцыры, які нібыта ўгнуўся пад уласным цяжарам. Наляцеў сцюдзёны вецер, пачаў ірваць і шкамутаць блізкія дрэвы. Алаіза міжволі сціснула ў кішэнях пінжачка задубелыя пальцы. Дыханне ракі збівалася над цёмнай гладдзю панцыра ў белыя тумановыя клубкі, і цяпер стала добра відна, што лёд зусім не ўгінаецца, а, наадварот, рэзка выпінаецца пасярэдзіне.

Ён трэснуў сапраўды пасяродку, і Алаіза ўжо не разумела, што яе аглушыла. Ці вясёлае ўзбуджанае людское «ўра», ці гром і трэск з ракі. Вялізныя крыгі ўздыбіліся і ў тое ж імгненне заруxаліся, як жывыя, упіраючыся адна ў адну вострымі рэбрамі, — рака ўжо несла іх чорнай грознай плынню.

* * *

Даймала бяссонне. Ад самай поўначы Алаіза слухала тупанне «Кацярыны трэцяй» за сцяною, нарэшце паднялася і выйшла ў залу. Моўчкі глянула на змарнелую за ноч гаспадыню, якая ўжо села ў крэсла, на ліст з Ямбургскага павета ў яе дрыготкіх руках, і зноў амаль абыякава падумала, што гэта — сам лёс і што інакш з ёю, цяперашняй, і не магло быць. Паедзе...

Не сунімаючыся, «Кацярына трэцяя» ўсё бедавала, што ліст прыйшоў так позна, каторы ўжо раз пачала расказваць пра сваю так рана памерлую пляменніцу, якая гадоў семнаццаць назад разам з дзіцем і мужам-фанатыкам выправілася «по бездне стопами» — працаваць у калонію для пракажоных. Страшнае месца... Але навошта, навошта ўсё гэта, людзі?

Дачакаўшыся гадзін дзевяці, Алаіза выпіла гарбаты, прыкусваючы цукеркамі, сабралася. Выйшла на вуліцу і пеша папраставала ў артапедычную майстэрню Якаўлева на Трэцяй лініі, дзе па суботах практыкаваў Лесгафт.

Вясна зелянела і распуквалася квеценню на яшчэ нядаўна чэзлых бульварыках, вокны камяніц адбівалі сляпучае, аж чорнае сонца, з блізкай ракі павяваў сыры вецер.

У калідоры дваццаць шостай кватэры заняла чаргу, прапусціла перад сабою яшчэ адну маладзічку з верасклівым дзіцем на руках, аднак чакала нядоўга. Нарэшце нерашуча адчыніла дзверы.

Пётр Францавіч, заўважыла, здзівіўся, таропка прапанаваў сесці, і яна села на белую табурэтку збоку, паклала на стол заяву з просьбаю перанесці экзамены на восень. У крыху падвышаным тоне выклала і прычыну такога рашэння. Пётр Францавіч не перабіваў, але слухаў яе адначасна і здзіўлена, і з адчувальным страхам, і нават з цікавасцю. Не запытаў, чаму такая спешка, чаму Алаіза не дачакалася для

гэтай гаворкі паслязаўтрашняга дня, тады паясніла сама: у панядзелак з раніцы пойдзе ў Вучэбную акругу.

І ўсё ж пры развітанні ўспыліў:

— Вы лічыце, следавацельна, што выпрабоўваць сябе шляхам... месіі... адзіна прымальна?

Відно, хацеў выказацца неяк іначай, нават з міжвольнаю надзеяю адгаварыць ад рызыкоўнай паездкі. Але, адчуўшы па яе зацятым маўчанні, што гэта яму не ўдалося, цяжка, незадаволена абхапіў рукамі галаву.

Алаізіна самалюбства добра-такі кальнула тое, што на твары Лесгафта не адбілася ні ценю захаплення. Чаго добрага, палічыў яе дурной «марцовай княжною», якая любой, нават такою цаной прагне вылучыцца са свайго звычнага асяродку. Але ж не... Не можа ён так падумаць... Не пра тое ідзе.

— Так складваецца, Пётр Францавіч.

Яна сказала гэта рашуча, нават пакрыўджана, і ён прамаўчаў.

Выязджала цягніком у аўторак. Узяла з сабою вялізную капялюшную каробку, напакаваную самым неабходным — бялізнай, некалькімі падручнікамі, не ўтрымаўшыся, уціснула і кулёчак цукерак. Хлопцам чыркнула запіску, што едзе зарабляць у прыгарад. Куды, вядома, не прызналася. Усцягнула паверх сукенкі шыракаплечы, мужчынскага крою пінжак. На нясмелае запытанне «Кацярыны трэцяй» толькі ўсміхнулася, зірнула ў яе шэры, што палатно, з пакутлівымі ценямі пад вачамі твар, пацалавала ў лоб.

Дарога выпала цяжкая. Доўга, да самай раніцы, трэслася ў смярдзючым вагоне, потым гадзіны дзве дабіралася ў маленькую рыбацкую вёсачку з дзіўнай эстонскай назваю, якая адразу ж выслізнула з памяці. Гадзіны дзве пагушкалася на старым рыпучым баркасе, стомлена ўсміхаючыся сівабародаму чырванашчокаму волату-рыбаку і ўдыхаючы едкі пах свежай рыбы. Суровыя скалістыя берагі вузенькага заліўчыка нагняталі неспакой, але хутка паказаліся невысокія каменныя дамы Ямбургскай прыстані. Разлічыўшыся з рыбаком, знайшла чорную ад сырасці лавачку, прысела, сунімаючы ў душы першы, яшчэ няясны і нясмелы, голас адчаю. Але тут жа ўзяла сябе ў рукі, выйшла на невялікую, амаль бязлюдную плошчу мястэчка і з

цяжкасцю наняла вазака. За ўсю дарогу не магла ні аб чым думаць. Калі прамінулі першую вёсачку з высокіх драўляных хацін, на душы раз'яснелася. Усё часцей пачалі сустракацца купкі зялёных бярозак і елак, дарога была ўжо не такая выбоістая, колы мякка шурхацелі ў жоўтым пяску.

Прыпякала сонца, з поля несла пыльным ветрыкам. Пацішу задрамала, збіраючы сілы. Сніла маці і Юзіка, сніла раннюю касавіцу, цешыў густы прыемны пах скошанага лужка.

Прачнулася толькі тады, калі маўклівы вазак сярдзіта нокнуў, напяў лейцы і спыніў каня перад крутым пагоркам.

Размякчаная цёплым сном, неахвотна злезла з падводы, але вазак нават не скрануўся з сядзення, паказаў толькі, як даставацца далей. Яшчэ раз нокнуў на каня, паехаў, крута забіраючы ў правы бок.

Алаіза як апрытомнела, глянула яму ўслед, і ваамярцвелая душа раптам быццам варухнулася. Але вазак хутка аддаляўся, яна нарэшце крыху супакоілася, агледзелася ўжо відушчымі вачамі. Прайшла наперад крокаў дзесяць — дванаццаць, змеціла вузенькую сцежку, што прадзіралася ад нешырокага гасцінца ўверх праз густы завал маладога сіняватага палыну. Палын быў каляны, калюча абхлёстваў знізу сукенку, пакідаючы на ёй зольныя пісягі, але збіваць іх цяпер было б справай марнай. Алаіза зняла і перакінула цераз левую руку пінжак. Узбіралася на пагорак, грэзнучы прунелевымі чаравікамі ў папялістым пяску. Галаву ўжо вяло ад палыновай даўкасці, але яна ішла, як нічога не чуючы, нават тое, што важкая каробка нацерла нагу вышай калена.

На лабаціне пагорка рэзка падуў свежы салодкі вецер, да яе, здаецца, з гэтым ветрам вярнулася само жыццё. І тут жа перад вачамі раскінулася шырокая, акружаная з двух бакоў лесам, нізіна, што ўпіралася ў агароджу з тоўстых цёмных жэрдак. Нізіна зіхцела грывамі нізкага кашлатага ялаўцу, паўсюль ружавеў чабаровы подсціл. Перад самаю агароджаю доўжылася пясчаная каса. Пераараная і прабаранаваная, ачышчаная ад смецця і травы. Агароджа была такой высокай, што Алаіза ўбачыла за ёй толькі некалькі саламяных стрэх з левага боку і палову драўлянай цэркаўкі — з правага.

Усё яшчэ не краталася з пагорка, як спадзеючыся, што гэта ўсё толькі сон, але вецер зноў ударыў у спіну. І тут жа разлёгся даўкі царкоўны звон, пацягнуўся да яе з-за агароджы, як нябачная рука. Гэты царкоўны звон утварыў цуд — вярнуў ёй слых. Толькі цяпер зразумела, што за ўсю дарогу на пагорак яна нічога не чула. Звон аціхаў, яго тут жа замяніла лёгкае дзумканне — над імхом клапаціліся тоўстыя паласатыя чмялі. То важка падымаліся, то зноў апускаліся да верасу ў марудлівым сонным лёце. Міма затрапятала некалькі белых матылёў.

Перасіліўшы жаданне пасядзець тут якую гадзіну, хоць бы папалуднаваць сітнім хлебам, яйкамі і цыбульнымі шчыперамі, выцягнула з каробкі толькі бутэльку збраснелага ўжо малака, асмягла выпіла яе.

Пачала спускацца («по бездне стопами», як сказала б «Кацярына трэцяя»), і ход са схілу здаўся значна лягчэйшы, чым пад'ём паміж палыну. Сцежка прыкметна расшырылася, выбітая да цвёрдага парэпанага чарназёму. Відно, у дождж патокі вады несліся з пагорка менавіта па гэтай акруглай, як жолаб, сцежцы да самай пясчанай касы. І ўжо там знікалі.

Вароты, перад якімі яна цяпер стаяла, былі шырокія, з такіх жа шчыльна падагнаных, як і ўся агароджа, падраўняных зверху жэрдак. Паставіла на зямлю кардонку і падняла руку, каб пастукаць. Але вароты раптам зарыпелі, прачыніліся. Міжволі хітнулася назад, баючыся ўбачыць перад сабою якога-небудзь бедалагу, пабітага шызымі пачварнымі плямамі. Але не, перад ёю стаяла дзяўчына гадоў семнаццаці — высокая, тонкая, з дзівосна прыгожымі карымі вачамі на доўгенькім твары, з крыху блюзнерскай ад няўтоенай радасці ўсмешкаю пульхных вуснаў. Алаіза сумелася, бо заўсёды баялася ў людзях такіх вачэй, яны былі мацнейшыя за яе і выдавалі злымі, нядобрымі. Аднак вялікія вочы гэтай дзяўчыны тоілі нейкі сталы непрыхаваны боль, прыцягвалі адкрытай прыязнасцю, змешанай з недаверам і разам — чаканнем дабраты.

Дзяўчына спрытна падняла з зямлі каробку, кіўнула Алаізе, запрашаючы ісці следам. Ступіўшы некалькі крокаў, вярнулася і моўчкі прымкнула рыпучыя вароты. Толькі цяпер Алаіза змеціла, што дзяўчына ў кароткім сінім халаце, з загарэлымі, аж чорнымі, босымі нагамі. Пайшла следам, пачала сціху

азірацца. Злева ад роўнага ўтаптанага шляху вуліцы, калі гэта можна было назваць вуліцаю, стаяла некалькі драўляных хат пад саломаю, якія яна ўбачыла яшчэ на пагорку. Каля самай агароджы цягнуліся два нізкія баракі.

— Гэты на пятнаццаць ложкаў, — дзяўчына паказала на першы з іх, карацейшы, — а той во на трыццаць.

Азірнуўшыся, кальнула Алаізу бліскучымі вільгатнаватымі вачамі. Здзівіў голас — па-сталаму нізкі, глухаваты.

— Як кажа бацька: «у веры і надзеі жывата».

Крыху злосна хіхікнула. Зрэшты, можа, Алаізе так толькі здалося. Недзе пад ніжнім рабром злева варухнуўся прыкры тоўсты чарвяк страху. Крыху адстала ад праважатай, хоць тая ўжо вярнула з галоўнага роўнага шляху ўправа, да вялікага хлява з паточаных бярвенняў пад амаль пляскатай дашчанай страхою. Як аказалася, царква была ў самай глыбіні калоніі, і, узіраючыся туды, Алаіза прыкмеціла каля яе крыжы невялікага могільніка без адзінага дрэва. Прыспешыла хаду.

— Тут у нас лазенка. «Вазрадуюцца косці смірэнныя!» Перавязачная. А вы будзеце займаць дакторскі...

Дзяўчына паказвала на даволі новыя будынкі за хлявом і, мінаючы барак, які назвала перавязачнай, ішла цяпер да карычневага фарбаванага дома пад гонтамі.

— Ух-ха! У месце спакойне, ідзежэ ліцы святых веселяцца! А мы не тут жывём. Ву-унь! — Па яе кіўку Алаіза глянула ўлева і ўбачыла прылеплены амаль да самай царквы будынак. Адсюль да яго, як і да царквы, было недзе паўмілі голай, як выдзьмутай, пусткі.

— Ён і за доктара ў нас, бацька. Хрыстова ўрачэўства відзя...

Алаіза ўслухвалася ў голас дзяўчыны, імкнучыся ўлавіць у ім нейкія асаблівыя ноткі. Але часцей чула толькі раздражненне і іронію.

Дакторскі карычневы дом быў акружаны густым кветнікам, да правай сцяны шчыльна падступаўся малады яблыневы сад, і калі яны падышлі зусім блізка, кветкавая хваля раптам рэзка счырванела і калыхнулася некуды ўверх. Трацячы апошнія сілы, Алаіза

прыцішыла хаду, але дзяўчына ўжо ступіла на ганак. Азірнулася... Глыбокія, блізкія, сумныя вочы. Толькі цяпер здагадалася, што яе бацька тут разам і доктар, і бацюшка.

Дзверы вялі ў невялікую кухню з печаю, адгароджаную ад пакоя пабеленай дашчанай сценкаю. Дзвярны праход быў завешаны квяцістаю тонкаю шторкай.

— Тут усё гатова. Яшчэ даўно прыбралі.

Алаіза ўцяміла сэнс сказанага, толькі ўступіўшы ў пакой. Амаль увесь ён быў заняты трыма доўгімі нізкімі лавамі, перад якімі высіўся стол. Крэсла было адсунута да акна. У левым куце стаяў жалезны ложак, засланы паласатаю коўдраю. Атынкаваныя сцены бяліліся, відно, даўнавата, шарэлі бруднымі няроўнымі пісягамі. Патыхала хлоркай.

Лёгка пераступаючы цераз лаўкі, прыгожая папоўна паставіла на стол каробку, прымоўкла, думаючы аб нечым, праз вочы мільгануў прытоены неспакой, але так нічога і не сказала. Вярнулася да дзвярэй і толькі тады гарэзліва ссунула бровы.

— Сэрца смірэнна Бог не прынізіць. А вы паспіце, пані. Зойдзем вечарам.

«Хто — зойдзем?» Хацела запытаць гэта, але тут жа здагадалася. Вядома хто. Яна, папоўна, і яе бацька. Чула, як стукнулі дзверы кухні, паклала на стол побач з каробкай збрыдлы пінжак, задаволена выпрастала занямелую руку. Амаль не чула разбухлых ног, але спярша падышла да адчыненага акна, адхінула фіранку. Акно выходзіла ў бела-ружовы сад, і яго водар адразу ж перабіў едкі смурод хлоркі. Дзіўна, што ўсю дарогу папоўна ні аб чым не распытвала. Аднак жа, падумаўшы, што тут разумець. Калі памерла настаўніца, то сюды можа прыехаць толькі настаўніца.

...Прылегла, нацягнула коўдру да плячэй, паспрабавала адразу ж заснуць. Здаецца, спала толькі гадзіну. Дрымота была цяжкая, але да канца прачнуцца не магла. Ад падлогі пачаў падымацца туман. У паўсне адчула, як нехта водзіць пальцамі па яе валасах, мацае лоб. І адразу ж прачнулася.

На блізкай ад ложка лаве сядзела папоўна. Глянула на Алаізу ўстрывожаным кароткім позіркам і паднялася.

Папоўна зноў была босая, але ўжо не ў сінім халаце, а ў белым каптаніку і спадніцы. Лёгка пашлэпала да акна, зірнула паверх фіранкі і весела рассмяялася:

— А дождж! А раз-зак! Гляньце! Уліў дык уліў.

Пакойчык і сапраўды тут жа запоўніўся булькатаннем дажджу, Алаіза борздка падхапілася з ложка, нацягнула сукню. Міжволі скасілася на босыя ногі папоўны («Такое дзіце — і ў «нетрах Аўраама»! Трэба ж!»), тая перахапіла гэты позірк, і ў яе смешна дрыгнулі ноздры. Аднак затрывожылася:

— А вас паліць! Лекі мо...

— Ай, са сну! У мяне бывае.

Калі збеглі з ганка, Алаізіны чаравікі імгненна намоклі. Крыкнула папоўне хавацца да яе пад пінжак, але тая адмоўна хіхікнула, папярэдзіла:

— Не збочце тут! А то не знайду!

Алаіза глядзела на бліскучыя ў дажджы, распушчаныя валасы дзяўчыны, адчувала тварам калючыя кроплі і раптам падумала, што калі б на самым пачатку прыходу ў калонію побач з ёю не было б вось гэтага дарослага дзіцяці, то яна б звар'яцела. Звар'яцела. Адразу ж за варотамі. І што яна ўжо не зможа думаць пра гэтую сваю адысею так, як думала яшчэ ў Пецярбургу і ў цягніку да Ямбурга, яшчэ й падумае аб усім сёння ж ноччу, глыбей і мудрэй, адкрытая цяпер перад сабою на ўсе застаўкі...

— І ваду прашэд, яка сушу?!

У дзвярах стаяў яшчэ малады мужчына.

Шчуплаваты, у чорнай сацінавай сарочцы і вузкіх суконных штанах... Насцярожана-важкі позірк, які ніяк не адпавядаў усяму жывому рухаваму абліччу. Зачасаныя ўверх гладкія валасы падалі з бакоў амаль да плячэй, адцяняючы бледныя шчокі; акуратная барадка ўжо серабрылася і зусім не была падобнаю да папоўскай.

— О бралі нагамі? Э-э? Пераапраніцеся, дзеці мае.

— Згінь, бацюшка! Ідзі-ідзі!

Папоўна раўняла на вешаку Алаізін пінжак, потым сама перамяніла мокрую вопратку. Задаволена выцерла ногі ручніком: «Уой!» Крутнулася да печы і спрытна выграбла чапялою буйное вуголле. Хапала яго рукамі і кідала ў чараваты самавар. Пасмейваючыся з яе, Алаіза зняла намоклыя чаравікі, з палёгкаю ўступіла ў

мяккія тапкі. Сукня, дзякуй Богу, толькі крыху намокла ў рукавах і знізу.

Кухня аддзялялася ад залы пабеленай перагародкаю. Такі ж вузкі, як і ў яе дакторскім, дзвярны праём, толькі што без шторы.

— Алена, дзе вы там?

Папоўна раптам счырванела і роспачна-вінавата глянула на Алаізу: пазнаёміліся ўрэшце.

— Дай памагу, дзеці мае.

— Паможаш!

Горбячыся, Алена ўжо несла самавар у залу, за ёю ступіла і Алаіза. Гаспадар нахіліўся, пацалаваў ёй руку, прыўзняў цёмныя бровы:

— Свяшчэннік тутэйшы. Айцец Павел.

— Алаізія Пашкевіч.

— Родам?

— Не відаць адсюль. З Лідскага павета.

— Амаль землякі, дзеці мае. Я з Віцебшчыны.

Прыгожым ён не быў, бачылася нешта іншае. Шукала, як бы вызначыць, назваць тое іншае — ці не ўпэўненым мужчынскім годным спакоем, які робіць чалавека прыцягальным і міжволі ўзвышае сярод іншых прыкметамі моцнага характару. І ўсё ж нешта ў ім насцярожвала. Сумелася, адчула, што айцец Павел сочыць за ёй неадрыўна, з абыякавым выглядам пачала азірацца. Зала была невялічкая. Пасярэдзіне стала гарэла лямпа з высокім шклом. У кутку пакоя, перад абразамі, капціла лампадка, з другога боку, блізка самых дзвярэй, што, пэўна, вялі ў Аленін пакойчык, стаяў высокі драўляны тапчан, — на сенніку акуратна складзеная тонкая коўдра і падушка ў прыгожай блакітнай навалечцы.

Алена весела расстаўляла на стале талеркі, перацірала сурвэткай кілішкі. Мармытала нейкую песеньку.

І ўсё ж яна, Алена, зусім не была падобнаю да бацькі. І гэтымі дзіўнымі цёмнымі вачамі, і тым адкрытым, а ад таго крыху насцярожаным выразам дабраты на твары, што нечым вельмі пярэчыла ўсяму, што Алаіза прыкмеціла ў бацьку.

Айцец Павел («Судзі, Божа, спажыць у карысці») запрасіў павячэраць, і Алаіза цікаўна глянула на стол, як толькі цяпер пачуўшы голад. У вялікай гліняной місе дыхала белаю параю разварaная бульба, стаялі

кіслыя гуркі і квашаная капуста з чырвонымі вочкамі журавін, аблітая алеем, сподачак з варэннем і яшчэ, у алавяным паўміску, сухія, загадзя звараныя і падсмажаныя з цыбуляю баравікі.

Селі. Айцец Павел вынес з кухні невялікі графінчык з цёмнай настойкай, глянуў на Алаізу і наліў ёй поўны кілішак.

— Яна іх, як вавёрка, сочыць, — гэта пра грыбы, задаволена кіўнуўшы на Алену. Нізкі густы бас. — Наламае кашалу белых — ледзь давалачэ.

Падміргнуў Алаізе.

— Як у нас на Віцебшчыне казалі, — крыху блазнаваў, — у добрых гасцях лавы смаляныя, сядзеш і прыкіпіш. Яшчэ па адной, дзеці мае?

Толькі прыгубіўшы кілішак, Алаіза рашуча адмовілася, але ён усё роўна даліў. Прыпадняўся і з падкрэсленай увагаю паставіў бліжай да яе сподачак з варэннем.

У акно, якраз за спінаю, секла дажджом.

— ...а гэта ж як грэць шылам ваду! Горкія асінавыя дровы, а не паэзія!

(Калі б хто сказаў ёй, што тут давядзецца слухаць цэлыя маналогі пра паэзію. Няўжо здагадаўся, што і яна грэшная ў тым?..)

— А скажыце «генію», што ён не геній? На нажы палезе. Шэра і сумна, як «Падарожжа па Азіі верхам» князя Вяземскага. Э-э, дзеці мае. А той, — айцец Павел ткнуў пальцам уверх, заяўляе: — «Не знешнія ворагі страшныя, а ўнутраныя: хлусня. Хлусня, з якой нас запэўніваюць, што ўсё ўсюды складваецца добранька...» Ось, дзеці мае. Але гэта таксама хлусня. Усё хлуслівa там, дзе на хлебных рынках страшныя пошліны. «Пераацэнка каштоўнасцей». Ніцшэ сказаў правільна.

Алена гучна кашлянула, але айцец Павел не спыніўся.

— Рымскія салдаты казалі: «Добра там, дзе Айчына». Гэта, калі Рым быў здаровы. А калі ён захварэў... Э-э? «Айчына там, дзе добра». Усе шалеюць ад свербу падзвіжніцтва. І ўсе праклінаюць ганебнае мінулае. А між іншым, гімнам усякага грамадства можа стаць песня спартанцаў: «Мы — тое, чым вы былі, мы будзем тым, што вы ёсць».

Айцец Павел падняўся, пайшоў у пакойчык Алены і вынес адтуль некалькі часопісаў. Шпурнуў іх на тапчан.

— Ось яно, дзеці мае! Як сказаў Талстой, літаратура «для маладых лёкаяў».

І ўсё ж па чым ён, гэты айцец Павел, здагадаўся, што яна таксама піша? Гаварыў тут, за сталом, рэзкую праўду, але ёй чамусьці хацелася пярэчыць, нават бараніць тое, што сама ненавідзіць.

— «Навозну кучу разрывая...» — недавольна ссунула бровы.

— «Навозну кучу разрывая»? Ось! — кіўнуў на тапчан з часопісамі:

Где-то что-то воет, млеет...
Нос сопит, язык немеет...
Стих свербит вокруг пупка,
Музе хочется кака.

Не я — Тургенеў!

Болей Алаізе спрачацца не хацелася.

— У нашых нябесных пасяленнях, дзеці мае, Сатурн трымае гадзіннік кожнага чалавечага жыцця. З такім шэрым пясочкам — жвіркам! А мы яго, жвірок, за вароты высыпаем. Бачылі тую пясчаную касу? Думаеце, што нанесена адкуль? Не, дзеці мае, насыпана з гадзіннікаў Сатурна! Пачэ снега ўбялімся!

Алена ўжо разлівала гарбату.Значыць, пара дамоў.

...Не запальваючы лямпы, зрэшты, не было сілы шукаць яе ўпоцемку, Алаіза зняла і расцягнула ўздоўж лавы важкую сукенку. Кінулася на ложак, і падушка ад яе мокрых валасоў тут жа намокла. Ледзь сабралася, каб перавярнуць яе. Міг — заснула, як упала ў неадчэпны глыбокі позірк роспачных чорных вачэй. Яна, Алена, так і не сказала за вечар ні слова. Толькі каля самага дактарскага, правёўшы Алаізу пасля вячэры, як папрасіла прабачэння: «...адхадзяшчыя ад зямлі».

Аднак жа не, моцны сон усё не ішоў. У акно драбніў ціхі дождж, ноч за ім была халоднаю і чужою. Адчайна спрабавала сагрэцца пад тонкаю коўдраю, мокрыя валасы марудна саграваліся. Гучна зацікалі ходзікі, ніяк не магла ўспомніць, дзе гэта яны тут вісяць. Так гучна цікаюць...

Здаецца, прычулася, што за акном нехта крыкнуў: «Колькі чакаць?!» Нават, здаецца, пазнала голас айца Паўла.

І зноў дождж, падобны на глухаваты голас Алены. «Асцерагчы трэба... Злыя яны... Прыйдуць... Асцерагчы...» Дождж памацнеў і ўдарыў з новай сілай,

заглушаючы галасы прывіднай ночы, і Алаіза больш не прыслухоўвалася.

Раніцаю ходзікі сціхлі. Прачнуўшыся ад нейкага халоднага забыцця, толькі падобнага на сон, абвяла вачамі яшчэ шэрыя сцены, але ходзікаў нідзе не было. Ускочыла і адкрыла вокны — у сад і на вуліцу. Зноў лягла. Чула, як за вокнамі шэпчацца раніца, фіранку часам падхоплівае і тузае нізавы вецер. Заценькала першая птушка, як задрабніла дзюбкаю аб яе напятую, сцягнутую нябачнай абалонкаю душу. Дацягнулася рукою да лавы, на якой ляжаў падручнік Пуцакевіча, палажыла яго перад сабою на коўдру і пачала гартаць. Трывожыла, што ж стане гаварыць сёння сваім вучням. Зрэшты, колькі іх у яе? Што трэба з імі прахадзіць? Увогуле, ці трэба... Яны абое, і Алена, і айцец Павел, за цэлы вечар нават не ўспомнілі, дзеля чаго яна сюды прыехала. Нібыта ўсё было і без таго вядома.

Разгарнуўшы Пуцакевіча, нечакана ўбачыла некалькі шэрых пакрэмзаных паперчын. Напружыла зрок. Гэта быў якраз «Міхаська», якога яна пісала некалі Барысу, ходзячы на Звярынец. Паднесла да вачэй адну са старонак, але чытаць не змагла, павярнула галаву, адчуўшы шчакою гладкі прыемны халадок наўлечкі.

У пакоі дрыжала сінеча. Нехаця паднялася, зябка скаланулася і падняла з лавы падсохлую за ноч сукню. Усцягнула яе. Крыху вільготнымі былі толькі рукавы. Добра, што прыхапіла з сабою і пантофлі.

Дзверы ў кухні нечакана адчыніліся, і яна ад засіву прысела на ложак. Чула, як нехта ўвайшоў у кухню, паставіў на зэдлік вядро з вадою — бразнула ручка. Зашамацела папера.

Амаль не дыхала, баючыся паруханца і зарыпець ложкам, але дзверы зноў грукнулі — той «нехта» выйшаў.

Счакаўшы хвіліну, кінулася да акна, убачыла на сцежцы Алену ў сінім халаце. Тая на хаду азірнулася, але не спынілася, а яшчэ хутчэй пакрочыла да баракаперавязачнай, каля якога ўжо стаяла грамадка людзей. Мужчыны, у доўгіх шэрых кашулях, у лямцавых шапках-стаўбунах.

Заслаўшы дрыготкімі рукамі ложак, Алаіза нарэшце зірнула на кухню. Вядро з вадой стаяла каля печы. На невысокай шафцы ўбачыла акраец хлеба ў раз-

горнутай шэрай паперы, місачку грыбоў і бутэльку малака. Памыўшыся, зняла з цвіка чыстую анучку і выцерлася. Есці не магла.

Вярнуўшыся ў пакой, зноў зірнула ў акно. Аднак перад перавязачнай ужо нікога не было. Падышла да другога акна, у сад, нечакана злавіла слыхам ціхі шолах і прыглушаны дзіцячы смех. Цяпер ужо не спалохалася, глядзела, як за ноч на разворанай зямлі паслалася ружавата-шэрая, выбітая дажджом пена апалых пялёсткаў. Знізу ў акне раптам выбулькнула стрыжаная вушастая галоўка — раздзёрты ўсмешкаю рот з крывымі зубамі, быстрыя вясёлыя вочы, рабацінне, нават на лобе.

Яна нікога не паклікала. Узяла Пуцакевіча і села за стол. Усё добра.

Хлопчыкі і сапраўды зайшлі праз хвілін дзесяць, нязграбна тузаючы шырму, адзін за адным. Спачатку той вушасты, гадоў адзінаццаці, з разяўленым ротам і з рабаціннем па ўсім твары. Потым яшчэ двое, аднолькава стрыжаныя пад баранчыка, басаногія, у чыстых, падперазаных вяровачкамі кашулях. Ручка самага меншага, кірпаносага і вельмі ж губатага, была шчыльна абматана тонкаю палоскаю грубага бінту.

Па тым, як яны важка селі і намерыліся слухаць, зразумела: тут не пішуць. Глядзелі на яе з непрыхаваным здзіўленнем, як чакаючы нейкі цуд, схапілася гартаць Пуцакевіча, механічна выняла з падручніка тыя свае скрэмзаныя паперчыны. Маўчала. Дзеці сядзелі кожны на асобнай лаўцы, малодшы на самай пярэдняй, паклаўшы рукі на калені.

Тады яна загарнула падручнік, узяла паперы і склала іх па парадку. З вуліцы данеслася мужчынскае: «Тпру, падла!», завішчалі колы. Усе глянулі ў акно. Зусім блізка праязджала павозка, з якой тырчалі ручкі драўлянай сахі, побач з канём вяла сунуўся сухарэбры голены мужчына ў высокай кучомцы.

— А садзіць трэба. Пара, — гэта меншы, з забінтаванаю рукою.

— З пары выйшла! — па-даросламу цыкнуў на яго вушасты. — У вас усё не як у людзей.

— Памагаць трэба. Тату...

Здагадалася, што яны толькі й чакаюць яе згоднага кіўка. Але не, чакайце ўжо, маладзёж! Паклала рукі на стол. Пачала чытаць. Марудліва і глуха. Недзе праз

хвілін дзесяць пераняла дыханне, але падняць вочы не ставала сілы.

«—А мой ты такі, а мой ты сякі, — кінулася да Міхася цалаваць, абдымаць...

Калі распаліць пасля хлопца, мурашкі па скуры гіжаць і ў падошвы смаляць.

— Гвалт! — крычыць мачыха. — Гэта ж у Міхася воспа, ён і мае дзеткі заразіць...»

Цішыня ў гэтым дзіўным класе насцярожвала, але спыняцца не было ўжо як.

«— Нудна табе, сірата ты мой: радня вылецела далёка, пакінула цябе аднаго. Не плач! Бо і я таксама адзін, як той калочак у плоце; матулька ў пясочку ляжыць, не прыйдзе сынка хворанькага адведаць... Як выздаравееш, — узнімешся на скрыллі і паляціш далёка-далёка... аж пад сонейка яснае...»

Грукнулі дзверы ў кухні. Пачуўся мужчынскі кашаль. Але гэта не адцягнула ўвагі — якраз усхвалявала іншае. Успомніла, што яны ж, гэтыя дзеці, нічога не разумеюць, бо ўсё чытанае ёю — па-беларуску. Падняла вочы. Тройка сядзела па-ранейшаму спакойна, кожны на сваёй лаве, склаўшы рукі на вострых каленях. Слухалі. Тым жа глухім спакойным голасам чытала далей. Пасля яшчэ раз потайкам кінула позірк на слухачоў, — унурыўшыся, пазіралі ў падлогу.

«— Вечны пакой яго душачцы! — загула ўся хата.

Прыкрылі станом дамавіну і пачалі выносіць на могілкі. Жораў зварухнуўся, азірнуўся па ўсіх кутах і выйшаў за дамавінай. Людзі дзівам задзівіліся і далі дарогу птушцы. Сумна, важна, як сплаканая маці, жораў першы пайшоў за Міхасём...

— В-е-е-чны па-а-акой... — застагнала песня над свежай магілай; жораў задрыжаў, колькі разоў пахіснуўся на нагах і лоп-лоп... узмахнуў крыллямі і ўзняўся да палёту».

Дзве жанчыны ў доўгіх шэрых сукнях пазвоньвалі пустымі вёдрамі, з акна іх ужо не было відна. Чуўся толькі смех адной, надзіва дзяркаты.

— ...гэта ж зачэрыў дзеўку. Маня казала.

— А хутка апростаецца?

Бразнула вядро. І зноў усё сціхла. Хлопчыкі маўчалі.

«Паволі, цяжка птушка падымалася ў воблакі, бо несла з сабою вялікі жаль зоркам ясным, хмаркам белым...

— Кр-р, кр-р!.. — скардзілася гарачаму сонейку, — кр-р, кр-р! — расказвала напатканым брацейкам-жоравам...

Цяпер магілкі параслі ўжо дзёрнам, і там зялёна кругом».

Айцец Павел увайшоў у доўгай чорнай расе, рудыя валасы абцягвалі з бакоў бледны твар, і хлопчыкі, як спалохаўшыся яго, паўсхопліваліся з месцаў, перажагналіся. Ён маўчаў, таксама перажагнаўся. Пераступаючы цераз лавы, малыя прыгорблена слізганулі міма яго ў кухню, бязгучна зніклі.

Тонкія ноздры айца Паўла ўздрыгвалі, але Алаіза не паднялася з-за стала, і ён таксама знерухомеў у дзвярах. Аднак урэшце ступіў наперад, паднёс над галавою руку з выпрастанаю далонню, здаецца, ледзь растуліў вусны.

— Больш сея любві жэ імат, ды хто душу сваю пакладзе за другі свая... Ось, дзеці мае! О-ось...

Ледзяны тон айца Паўла трымаў яе на месцы, зняла рукі са стала.

— У каго агонь унутры, не можа баяцца порчы зямной. Такіх не чэпіцца! Але мыслю, мыслю з учарашняга аб тым паслабленні духу, які ўторгся в вашым прыбыццём сюды.

Ён глядзеў на Алаізу з адкрытым гневам, нават пагрозаю, ступіў яшчэ крок наперад і крыкнуў:

— Не дапушчу! Слабыя ў духу трацяць розум... I цела, якое трымаю ім з апошніх сіл смірэнных. Яна ведала, яна гаварыла мне. Яна ўсё ведала... А ты, прыехаўшы...

— Тата, ідзі! — Алена ўляцела задыханаю ад хады, у расхрыстаным халаціку паверх сукні. — Ідзі, тата! Я перавязкі зрабіла. Усім! — гэта ўжо ў кухню, куды ён сапраўды адразу ж, толькі ўбачыўшы дачку, выйшаў.

Каторы ўжо раз зарыпелі дзверы.

— Ён думае, мама нічога не разумела.

— Алена, ціха.

— Ён думае... Недзе там, значыць, геена, а тут у розум ісцінны прыходзіш. У месце злачне, у месце спакойне. Думаеце, баюся? А мне ўжо ўсё ядына. Тут страху няма. Пажывеш — усё прытупіцца. Адбаліць, адга-рыць. Мама, бачце, яму гаварыла. Ведаў бы, што яна гаварыла! Мамачка, куды ж ты пайшла ад мяне?! Што ж ты нарабіла?

— Аленачка! Ціха...

Чорныя, як увабраўшыя ў сябе ўсю глухату і самоту начэй, гэтыя незямныя вочы дзяўчыны глядзелі цяпер на Алаізу з адзіным запытаннем: «Навошта?»

Яны змовіліся пайсці ў лес. Алена прагаварылася, што пойдзе валіць сухастой, заставацца ж адной Алаізе не маглося. Хутка знайшлі і другую сякеру.

Не падымаючы галавы, Алаіза ішла праз усю вуліцу побач з Аленай, лавіла позіркам спадылба мітуслівыя цені хворых каля хат і баракаў.

Пакуль адолелі пясчаную касу, набрала ў чаравікі жвіру, але спынілася толькі блізу першых дрэў. Высыпала пясок, памяла, размякчыла на нагах пальцы. Алена павольна ішла далей, часам азіралася і чакала яе.

Маўчалі.

Утравелая дарога чарнела наперадзе глыбокімі каляінамі ад колаў, дугою адсякала ад кашлатага сасняку бярозавы гай, за якім далей ужо ішло поле. Вузкую бялявіну злева, перад самымі першымі бярозамі, абсыпалі белыя і сінія зорачкі пралесак, растрывожаную душу, здаецца, абгарнуў іх знаёмы, радасны пах. Весела шчабятала птаства, паўсюль густа гайдаўся лясны пылок.

Яны пастаялі з Аленаю колькі часу на бялявіне, нарэшце вырашылі шукаць сухастой бліжэй да шляху, разышліся ў розныя бакі. Алаіза высака задзірала галаву, сачыла чорныя ўсохлыя вяршаліны, пакуль не намеціла сабе тры тоўстыя бярэзіны. Секанула па першай з іх ледзь не каля самай зямлі. Карычневая кара, відно, яшчэ добра цягнула з зямлі вільгаць і была вязка-сырая. Дрэва ўсохла зусім нядаўна. Белаваты, скамянелы асяродак даваўся цяжка, і сякера няўмела слізгала па камлі. Тады зазлавала на сябе і пачала меціцца спрытней. Добрыя дровы, думала, не трухло якое. Добрыя...

Намахаўшыся, расшпіліла зверху гузікі сукні і начула грудзьмі прыемную свежасць. Падсекла дрэва з другога боку, вярнулася на старое месца і з усяе сілы штурхнула ствол рукою. Бяроза гайданулася, драпнула вяршалінай аб зялёную раскошу суседніх дрэў, нахілілася крыху не ў той бок, куды хацела яе пакласці, і тут жа важка пачала валіцца, толькі на імгненне замёршы недзе на пачатку лёту. З трэскам гупнула на

мяккую зялёную зямлю пасярод фіялетавых таўкачыкаў, дрогнула, як жывая, сціхла. Алаіза злавіла рэзкі пах свежай драўніны, нехаця перасекла яе апошнія напятыя жылы. Неадрыўна глядзела на паваленую бярэзіну, з жалем заўважыўшы дзе-нідзе рэдкія дробныя лісцікі.

Пайшла далей, чапляла спадніцаю таўставатыя пруткі папараці, азіралася. Папараць яшчэ не паспела развінуцца і цяпер пругка тыркалася ў бакі сваімі сціснутымі шэра-салатнымі кулачкамі.

Другая бярэзінка была зламанаю пасярэдзіне, але зусім нядаўна, можа быць, нават гэтай зімою, пад цяжарам пухнатай снегавой шапкі; вяршаліна яе адлядела ўбок і пераплялася з травою белым бліскучым веццем. Блізка было яшчэ некалькі сагнутых дугамі дрэў — зялёныя букеты вярхоў даставалі амаль да самай зямлі. Зіма і сапраўды была тут снежная.

— Пані настаўніцо-о...

— У-га!

— Прытаміліся?

— Калі гэта?

Алена стаяла адсюль метраў за дваццаць, упершыся рукою ў старую бярозу, але тут жа адвярнулася, пайшла яшчэ глыбей у гушчар. Праз хвілю адтуль ужо чуўся часты стук сякеры.

Спачатку лёгка, як гуляючы, Алаіза абцерабіла вяршаліну, вярнулася да ствала, які ашчэрыўся ўверх парванымі краямі. Быў тонкі, але дужа цвёрды, з пашэрхлай карою. Перасякала яго якраз пасярэдзіне, і рэзкім рыпам вымаючы з драўніны сякеру, акруглыя трэскі ледзьве не на вачах абсыхалі і рудзелі. Трэба было пускаць глыбей, на далоні зашчымеў першы мазоль.

...Ён так нічога і не сказаў за цэлы ўчарашні вечар, гэты айцец Павел. Усё сыпаў і сыпаў вычытаным у часопісах, глушыў, як гарохам, адцягваў яе ўвагу ад нечага вельмі важнага, быццам хацеў прытаіцца за нябачным, але непрыступным шчытом. Не схаваў толькі аднаго — страху. Перад ёю, Алаізаю, і тым светам, які прынесла з сабою, перад яе міжвольным умяшаннем у кола вялікага пакутніцтва, якое сам сабе стварыў, вымураваў з чужой і сваёй бяды і ў якім жыве цяпер з маскаю святога і з адчуваннем сябе, як адзінага бога ў гэтым закінутым кутку. Са сваёй, але быц-

цам бы неабходнай усім iсцiнаю. Усім. І памерлай жонцы, і гэтай незвычайна даверлівай самаахвярнай дачцэ.

Алаіза ўдыхнула свежасць і раптам амаль фізічна адчула, як яе знямелая душа скідвае з сябе мёртвую пятлю ілюзіі, напаўняецца новым пякучым болем і трапятаннем жывога вакольнага свету. Гэты зялёны лес і вясеннія птушкі, гэты гаманлівы каляровы свет бачыўся мацнейшым за той сэнс, які айцец Павел укладаў у сваё няшчырае падзвіжніцтва і якім, пэўна, адвяргае сваю віну перад Аленаю. Уцягнуў сумленне ў пакутніцкую маску, гадамі песціў самалюбства, і яно вырасла ў пухліну пачварных памераў. Сёння гэтае самалюбства, ускормленае гульнёю са смерцю, зірнула на Алаізу вачамі нянавісці. Не шкадавання і спагады, а менавіта — нянавісці. Бо яна, чужая, так хутка разгледзела грэх...

І ўсё ж трэба быць справядлівою. Ён жа быў і застаецца тут, у зямным пекле, няхай сабе і засланяючыся маскаю ад уласнай слабасці. Напэўна, гэтыя яе думкі жорсткія і ў нечым нават несправядлівыя. Прыдатныя болей да таго, каб зразумець не столькі айца Паўла, а саму сябе.

У нейкае імгненне, намогшыся, быццам глянула на сябе, яшчэ ўчора таксама слабую, збоку, ягонымі скептычнымі вачамі, здаецца, нават зразумела галоўную сваю памылку, нарэшце ўсвядоміўшы марнасць гэтага прыезду ў краіну ценяў, марнасць і немагчымасць пазбегнуць сапраўднага, наканаванага ёй лёсу. Не тут жа ўсё будзе. Яно ўсё роўна будзе там, адкуль прыехала, — у агромністым лепразорыі мільёнаў людзей, якія гінуць ад яшчэ горшай за праказу хворай рэальнасці. Ад цемені і галечы, ганебнага падаўлення ўласнага гістарычнага «мы», рабскай пакорлівасці насіллю і духоўнай смерці.

Ёй паможа сама прырода, яе вечныя законы, побач з ёю будуць ісці здаровыя мужныя людзі-лекары, якім трэба адкрываць у іншых, аслеплых, гнойныя вочы.

Якія рэкі гною, якое нерухомае, мёртвае мора мярзотнага бруду... І ўсё гэта таксама рэальнасць...

Буры! Буры!

Адно толькі буры з перунамі. Каб скаланула і зрушыла смурод! І ачысціла... І вывернула з вантробамі ўсё і ўсіх!

...Сякера выслізнула з рук і балюча выцяла абушком па назе. Калі ўжо яно прыйдзе да яе, тое святое празрэнне? Выйме, вылушчыць душу з глыбокага сну, падыме крылле і панясе над прывідамі, закружыць, разапне...

Спачатку не ўцяміла, хто перад ёю. Спалохана агледзелася. Міма сунулася вялізная старая, узваліўшы на спіну пераціснуты ляйчынаю сушняк. Брудныя валасы выбіліся з-пад тоўстай хусткі, шызыя, амаль фіялетавыя шчокі. Ляйчына так моцна ўелася праз парваную кофту ў голае плячо старой, што скура з бакоў набракла і пачырванела.

Можа, упершыню за гэтыя два дні Алаіза адчула ў сабе такую агіду, што ледзь стрымлівала сябе: «Панюсечка!», але ўсё ж імкліва схапіла з зямлі сякеру і пабегла далей адсюль, у той бок, дзе была Алена. Убілася ў калючы ажыннік, доўгія драты нехаця адрываліся ад спадніцы, абдзіралі голыя ногі. Спатыкнулася на купіне з дробнымі бела-ружовымі кветачкамі брусьнічніку.

Сонца залівала прагал. Убачыўшы яе, але нічога не пытаючы, Алена кіўнула: «Памагай!»

Спачатку абцерабіла новую паваленую бярэзінку, чуючы, як гулка-спалохана, недзе пад ключыцаю, ціўкае сэрца. Пілкі не ўзялі, Алена сама перасякала ствол на тры часткі, па-мужчынску моцна, з нізкага маху апускаючы сякеру. Цёмныя валасы аблыталі ёй твар, падняла галаву:

— Чакай, пані настаўніца. Адымі.

Алаіза асцярожна згрэбла левай рукой з яе ўспацелага, амаль празрыстага ў сонцы аблічча цёмныя пасмачкі і раптам бяссіла адкінулася назад — перад вачамі прывідна ўспыхнулі шыза-фіялетавыя грубыя шчокі старой, той самай, з сушняком, якую толькі што бачыла ў гэтым лесе.

Алена сашчыкнула некалькі лісцікаў заечай капусты, пажавала яе і кісла скрывілася. Неяк нечакана пасумнела.

— Бацька праўду казаў. У каго ўнутры агонь, порчы зямной хай не баіцца. Ага?

— Не таго баюся, Алена. Не таго. Сябе...

— Бацька заўтра забярэ, — Алена кіўнула на дровы. — Толькі, можа, знясём на дарогу?

— Знясём.

— Але ж і трава! Мядзведзь мядзведзем!

Як і Алена, ішла крыху бокам, прыціскаючы бервяно да жывата. Работа была намнога лягчэйшая, управіліся за паўгадзіны.

Ужо на дарозе Алаіза нагнулася над утравелай па краяхямінай з дажджавою вадой, у бакі тут жа сыпанулі рудыя даўганожкі. Падкасала рукавы і з асалодаю апаласнула рукі да самых локцяў. Сонца было цёплае і мяккае, па твары смігануў пахучы вецер, абцёршы з яго апошнія кропелькі стомы.

Алена ўжо кінула на бярвенцы вялікую зялёную галіну, пашкадавала:

— Трэба было соку бярозавага ўзяць. Сушыць. Казаў жа бацька...

— Слухай, Алена...

— Чакай, пані настаўніца, — Алена адразу ж насцярожылася.

— Не-не, што там? Што ўжо чакаць, Аленачка?

— Ды ціха, — дзяўчына рэзка павярнулася да яе, па-даросламу нядобра, насцярожана звузіла вочы ў чорныя рысачкі. — Ведаю, што хочаце сказаць. А на каго я яго пакіну? Уой? Думаеце... Пані настаўніца. Ён жа як дзіця тое. Ды што там, слабейшы за дзіця. Яшчэ як... Усё яно разам. Спачуваць трэба, пані настаўніца. І яму, і ім...

Перачакаць гэты дзень не было сілы. Вярнуўшыся з лесу, тут жа пачала збірацца. Думала, што [redacted] пакінуць Алене, — хіба што вось гэтую капялюшную каробку з падручнікамі, нечапаным мяшэчкам цукерак і новай сукняй. Ад яе ж узяла толькі загорнутую ў паперу яду і бутэльку малака. Развіталіся ў дактарскім.

Ішла да варот сама, бачыла, як перад баракам-перавязачнай Алену абступілі хворыя ў высокіх шапках-стаўбунах. У чаравікі на пясчанай касе зноў набралася вільготнага жвіру, але яна ледзь не пабегла ўверх па чорнай, гразкай пасля дажджу сцежцы між кашлатага ялаўцу. Вочы секла густая ружовасць чабору.

У вушах прагучаў басавіты голас айца Паўла: «І не ўвядзі нас ва іскушэніе», азірнулася, нібыта і сапраўды магла яго тут убачыць.

Вусны асмяглі, на самым узлобку выпіла малако.

Павярнулася тварам да зыбкага ў яркім святле, далёкага ўжо штыкетніка агароджы. Заўважыла на пяс-

чанай касе тоненькую постаць Алены, дрогнула, хітнулася наперад і стала чакаць. Але тая каля самага ялаўцу раптам спынілася, высока падняла руку і стала махаць Алаізе. Нешта закрычала на развітанне. Тады Алаіза ўжо адвярнулася і пачала няспешна спускацца з пагорка, не шукаючы сцежкі, між тоўстага смярдзючага палыну. Ён тут жа зашоргаў па спадніцы, пакідаючы ўнізе доўгія шэрыя пісягі. Плакала без слёз. Ведала, што гэта горка шкадуе аб нечым страчаным назаўсёды яе душа, хоча памагчы і цягнецца да другой маладой і прыгожай, пакутлівай душы, але ніколі ўжо не зможа вярнуцца, каб адолець высокую агароджу з тых чорных, шчыльна падагнаных жэрдак.

7

Да Пецярбурга Алаіза пад'язджала ноччу. Спала седзячы, уткнуўшыся плячом у мулкі вагонны кут, халодны вецярок з аконных шчылін прыемна абвяваў шчокі, кратаў валасы. Мігатлівае святло вагона пералівалася ў яе нямоцны сон, і ў гэтым прывідным бляклым сяйве з памяці раз-пораз выплывалі аблічча — то «Кацярыны трэцяй» і Алены, то айца Паўла. Нарэшце прысніўся Андрэй. Яны нядобра спрачаліся аб нечым — прахапіўшыся, ужо не помніла, аб чым, але ў душы яшчэ доўга трымалася прыкрае пачуццё раздражнення.

Дзівілася, чаму ўсё, што так моцна трымала яе каля Андрэя некалькі гадоў, абарвалася вось цяпер адразу ж, ці не за гэтыя два апошнія дні. І пакутліва пранікала розумам. Яна глядзела на іх абаіх — тую, ранейшую, Алаізу і таго Андрэя — памудрэлымі і пасумнелымі вачамі жанчыны, ужо гатовай глыбей разумець людзей і дараваць ім слабасці, пакутаваць і цярпець. Гэта было жахлівае, горкае-горкае і балючае да роспачы, але ўсё ж устойлівае разуменне незваротнасці першай любові. Нават не кахання, а менавіта — любові. Быццам пераступіла свой першы жыццёвы круг, аддзялілася ад яго рамантычных сноў душою і целам, зразумела, што патрабуе ад людзей болей, чым яны могуць ёй даць і што ў іхніх сілах. Ці, можа, гэтыя яе патрабаванні лішне катэгарычныя, часам нават неразумныя, і што сама яна дае сабе пас-

лабку там, дзе іншым, асабліва людзям блізкім, нічога не дарує. Патрабуючы жыць па законах ідэальнага сумлення. А ці сама яна жыве так? І ці не настала часіна павярнуцца тварам да ісціны, перайначыцца і вырваць з душы калючае зелле максімалізму, нават эгаізму, засадзіць пусткі ўласнай душы жывым садам спагады і дабрыні.

Калі нарэшце вылезла з абрыдлага вагона і ступіла на перон, раніца гарэла яркім сонцам. Народ рухаўся да цэнтра. Побач з барадачамі ў кацялках і шапакляках і панямі ў аксамітавых капелюшах тоўкся пасвяточнаму падфранчаны рабочы люд, бліскаючы скуранымі кепкамі і квяцістымі хусткамі.

Гарадавыя разганялі гэтую стракатую публіку перад спыненай конкаю, суцэльным патокам хлынулі карэты і верхавыя.

Адчыняліся крамы — стужкавыя, палатняныя, галантарэйныя, футравыя, посудныя, ювелірныя, невялікія латкі і гандлёвыя крамкі, каля адной з якіх Алаіза нарэшце выпіла шклянку гарбаты, прыкусваючы пляскатым чэрствым пернікам.

Бралася на дзень, аднак пасярод Неўскага гарэлі ліхтары, неяк адразу зрабілася горача, над гаманкім людскім натоўпам падымаліся клубкі распаленага пылу. Усё было пранізана радасным узрушэннем. Нават пасыльныя і прадаўцы газет, нават фурманы паблізу Паліцэйскага моста, выстраіўшыся суцэльнаю лініяй, нават сціплыя «ванькі» ўсцягнулі на сябе самыя шыкоўныя адзежыны.

Гмахі банкаў, газетных рэдакцый, страхавых і акцыянерных кампаній, аптэкі і швейныя майстэрні — усё было падфарбавана, да самых спічакоў абвіта пачварна-вялізнымі кветкавымі гірляндамі і абвешана сцягамі. На прыступках балконаў і тэрасках прымасцілася моладзь, вуліцы запаўняліся траскатнёй — Алаіза чула, як у вушы ўліваецца густое свінцова-важкае гудзенне. І раптам з боку Казанскага сабора грымнула велічнае бомканне, яго тут жа падхапіў самы вялікі звон у Ісакіеўскім, загудзеў на ўвесь Пецярбург, забаўляючыся бязладным енкам навакольных цэркавак. Пыльнае паветра ўверсе, над натоўпам, зачэркалі падкінутыя шапкі, Алаіза чулася, як у жалезных абцугах, мноства галасоў пракрычала ёй на самае вуха: «Анэлька-а-а» — і гэта было ўжо шаленствам ці тры-

зненнем, ажно заплюшчыла вочы. Але тут жа зноў пачула: «Анэля!» — так яе часта называлі на курсах, — вымаўленае ўжо знаёмым дзявочым галаском, зразумела, што не трызніць, узрадавана закруціла галавою, шукаючы сваіх. Засмяяліся, і тады здагадалася глянуць уверх. На балконе трэцяга паверха высознай камяніцы, проста над ёю, стаялі дзве лесгафтычкі — Валя Някрасава і Люба Казанкіна, знакамі паказвалі на пад'езд. Паслухалася, праціснулася, дзе толькі сіла ўзялася, на тратуар і праз некалькі хвілін, хістаючыся, ужо стаяла пасярод высокай чыстай залы, абвешанай мноствам вялікіх і маленькіх, нават вельмі дробненькіх, малюнкаў у рамках. Казанкіна адразу ж пацягнула яе на балкон.

Пецярбург святкаваў сваё двухсотгоддзе.

Вечарам, ледзь жывая, не даслухаўшы здзіўлена-нервовага кудахтання і ўсхліпаў «Кацярыны трэцяй» — тая адразу ж пакрыўджана зашылася ў свой пакой, Алаіза доўга стаяла пад душам, потым гэтак жа доўга расчэсвала амаль склееныя ад халаднаватай вады валасы. Абвязала галаву чыстым палатняным ручніком і нарэшце звалілася пад ватовую коўдру.

«Кацярына трэцяя» прынесла ёй проста ў ложак гарбату ў шклянцы на сподачку. Не запаліўшы святла, падсунула бліжай табурэтку і села — уся ў чорным, з тонкаю бліскучаю фольгаю прыгладжаных сівых валасоў на маленькай галаве. Два шэрыя кулачкі на каленях.

Цяпер яна была тут адзінаю істотаю, якая звязвала Алаізу з усім мінулым, нават і ўчарашнім. Сённяшняе здавалася вялізнай тэатральнай сцэнай, па якой бясконца рухаліся хмары народу: пажаскі корпус з вінтоўкамі на плячах, артылерысты каля невялікіх гармат, конныя жандары, фрэйліны ў залочаных карэтах і генералы на белых конях, цэлыя шпалеры афіцэраў і радавых у мундзірах пятроўскага часу, шарэнга маладзенькіх папоў у рызах, рускія і іншаземныя карэспандэнты ў высокіх бліскучых цыліндрах. Нява клалася на гэтую сцэну бляклым халодным шоўкам, па якім ледзь соваліся старадаўнія галеры і ялікі з амаль што цацачнымі грабцамі. А на Сенацкай, над Пятром, над усімі бліжэйшымі гмахамі, над новенькім Троіцкім мостам у патоках паветра апантана трапяталіся тысячы нанізаных на драты сцяжкоў.

Трымцела, гайдалася, трэслася ўсё — нават высокія зялёныя слупы пад настаўбучанымі беднымі трохвуголкамі, упрыгожаныя стральцоўскімі даспехамі, нават бясконцыя рады мачтаў з марскімі сігнальнымі сцяжкамі і гербамі, на якіх былі накрэслены ініцыялы «ў Бозе пачыўшага імператара Пятра Вялікага і таго, хто цяпер «благополучно...».

«Греми, привет, играйте, флаги...»

Перад Алаізінымі вачамі рухаліся і дэкаратыўныя абеліскі з арламі — іх чырвоныя вострыя язычкі тырчалі з дзюбатых галоў, як джалы. Халадзела ад жаху, і толькі прысутнасць «Кацярыны трэцяй» з ненатуральна бліскучаю ў цемры сіваю галоўкаю яшчэ трымала ў рэальнасці.

— Як некалі казалі: «преизрядный фестейн». Разумееце, Мілюцін з Чарапаўца прывёз у падарунак двару жывую сперлядзь рэдкай велічыні.

Не дачакаўшыся ад Алаізы ахаў здзіўлення, уздыхнула:

— Ad majorem autocrati ae gloriam![1]

— Усё ж свята не абы-якое!

— Калі б яшчэ болей асабістых, а не афіцыйна зацверджаных фізіяномій. Сёння ледзь не зацерлі мяне!

Алаіза ўявіла, як гэтую бляклую старую нясе і круціць у сабе магутны чалавечы вір, пашкадавала:

— Не хадзілі б. Вунь яшчэ колькі дзён будзе...

Алаіза сілком выціскала з сябе словы, але гаспадыня нібыта не хацела заўважаць яе стомленасці.

— Гэта няшчасце! Поўнае няшчасце для рускай жанчыны. Вы яшчэ не можаце ўявіць нават, чым усё кончыцца. І ведаеце, Лізанька, я думаю, праўда-праўда, я ўпэўнена, што жаночае пытанне абвострана яшчэ хрысціянствам. Калі ў аднаго мужа было некалькі жонак, то гэта выключала наяўнасць у грамадстве жанчын незамужніх. А значыць, жанчын без канкрэтных абавязкаў, азлобленых і чэрствых. «Сініх панчох».

Алаіза падцягнула коўдру вышай, ледзь стрымліваючы смех.

— ...гэтыя апошнія, ужо без ланцугоў рабства, падняліся ў правах маральных і юрыдычных амаль да мужчын і цяпер сталі баяцца, як бы не зляцець з гэтай

---

[1] Для вяшчай славы самадзяржаўя! *(лац.)*

вышыні і не быць раздушанымі калясніцаю прагрэсу. Праўда-праўда. Лопні мае вочы!

Алаіза раптам зразумела, што гаспадыня сядзіць тут зусім не дзеля таго, каб выгаварыцца. Наадварот, яна чакала гэтага ад Алаізы. Здагадвалася, што тая ўсё ж ездзіла ў Ямбург, бачылася з айцом Паўлам і Аленаю, гаварыла з імі...

— Жанчына стала адлюстраваннем грубай рэальнасці, усёй знешняй бязлітаснай барацьбы і переваі матэрыяльных клопатаў над духоўнасцю...

Калі і як у сівой галоўцы былой выкладчыцы жаночай гімназіі выспелі гэтыя цяжкія складаныя думкі? Але нешта праўдзівае ў іх усё ж было, і Алаіза ўявіла, колькі несправядлівасці і жыццёвага камення сыпалася на слабыя плечыкі «Кацярыны трэцяй» пасля смерці мужа. І ўсё ж сказаць праўду ёй не пасмела. Блытана задрабніла аб тым, што да калоніі не даехала. Аднак усё ж распыталася ў людзей пра айца Паўла і Алену, і што яны жывыя і здаровыя, і што ўсё ў іх...

«Кацярына трэцяя» як скамянела. І нечакана суха, ледзь даслухаўшы яе, сказала:

— Лізанька, вам трэба замуж. Я разумею, тыя маладыя людзі, якія так часта прыходзяць у мой дом і забіваюць вашу бедную галоўку рознымі палітычнымі глупствамі, ненадзейныя...

(«Вось табе маеш! Расклала пасьянс!»)

— ...але ўрэшце ўсе нашы сцежкі ўсё роўна збягаюцца да адзінай для ўсяго жаночага роду дарогі. Праўда! Здаецца, вы гэта і самі нядаўна зразумелі?!

Добра, што ў пакоі было так цёмна і ніхто, ніхто на свеце не мог убачыць Алаізінага, чырвонага ад сораму і прыкрасці, аблічча.

«Кацярына трэцяя» паднялася, падсунула табурэтку да стала і, узяўшы з Алаізіных рук сподачак са шклянкаю, выйшла.

Прачнуўшыся апоўначы, Алаіза яшчэ доўга ляжала ў мяккім цяпле. Нарэшце паднялася, затупала па халоднай падлозе да стала, уключыла настольную лямпу. Ручнік на галаве развязаўся і апоўз на плечы, доўгія падсохлыя валасы зашыліся пад сарочку і мякка закасталі грудзі. Яна кінула ручнік на ложак, села за стол і пачала асцярожна расчэсвацца перад авальным

люстэркам на касцяной падстаўцы. У шыбку барабаніў бясконцы начны дождж, яго шалясценне наганяла трывожную самоту, рука з грэбенем бяссіла апусцілася на стол.

Алаіза доўга ўзіралася ў тую незнаёмую, яшчэ маладую, але такую змучаную бяссоннем і жыццём жанчыну, якая таксама пільна і старожка пазірала цяпер на яе з глыбіні гладкага серабрыстага шкла. У той, другой Алаізы, была крыху апушчаная ад задумлівасці галава. Бровы насупіліся, шэра-зялёныя вочы сурова расшырыліся і дрыжалі павекамі, прыпухлыя вусны пашорхлі і таксама ўздрыгвалі. Скулы абвастрыліся, лоб здаваўся яшчэ вышэйшым.

Алаіза адсунула люстэрка і прымкнула павекі, слыхам памяці злавіла тонкі пяшчотны голас спявачкі, якую месяц назад чула ў Народным доме, — Марыі Занькавецкай.

Яна, Алаіза, заўсёды зайздросціла спявачкам, на канцэртах ціхенька, каб ніхто не пачуў, падпявала ім, па-дзіцячы наіўна ўяўляючы, быццам спявае сама. Цяпер таксама ўспомніла чароўнае сапрана Занькавецкай, мелодыя перапаўняла душу, — перад вачамі блішчалі смычкі скрыпак, прыцемненая зала сачыла за спявачкаю тысячамі здзіўлена захопленых вачэй, і ўсё гэта плыло і кружылася навокал датуль, пакуль не заглухлі апошнія тоны. Засталася толькі мелодыя, дакладней, адчуванне яе рытму, і міжвольная гаркота, што нясцерпна шчымела ў душы...

Птушкі мілы, не кляніце,
А малітвы гаварыце,
Каб вас хваля не забіла,
Каб акула не ўкусіла,
Каб вярнуцца, клекатаці,
Пастушочкаў забаўляці...

Выхапіла з шуфлядкі паперу і алоўак. Пісала. Яшчэ і яшчэ. Крэсліла. І зноў запісвала. На малюнку ўявы, недзе, здаецца, над самаю галавою ўзляцелі белыя бацяновыя крылы, з-пад іх тут жа пасыпаліся ўніз дробныя шэрыя баразны і рудыя вясковыя стрэхі...

Задыхаўшыся ад хвалявання, як пасля цяжкай фізічнай працы, змусіла сябе адпачыць.

Агледзела стол. Каля самай лямпы ляжала паперка, складзеная напал, разгарнула яе. Адразу ж пазнала дробны, акуратны почырк.

«Здароў будзь, цётка! То як прыплывеш — зайдзі. Маю што-кольвек расказаць і паказаць.

І з тым — улюбёны ў таленты Вацак».

Кацечка Іванова неяк сказала, што кожны таленавіты чалавек прыходзіць на зямлю невыпадкова. Ён працягвае ўжо дагэтуль пражытае некім жыццё і павінен выканаць нечую важную, але яшчэ не споўненую да канца задачу. Не-не, задача тая ўжо быццам і не чужая, а твая, дадзеная лёсам.

І ўсё ж скажы, таленавіты чалавек, якая сіла спараджае ў тваёй галаве такія магутныя, часам нечаканыя думкі, такія фантастычныя вобразы? Чаму ты сніш мора, ні разу яго не бачыўшы, сніш незнаёмыя дзіўныя горы?

Глядзіш на людзей свайго стагоддзя і раптам адчуваеш, што позірк твой шырэе і мудрэе, і ўжо не адзіна твае, а яшчэ, яшчэ і яшчэ нечыя, незнаёмыя і знаёмыя, позіркі зліваюцца ў магутны промень, працінаючы бясконцасць прасторы.

Кім ты быў, мой папярэднік? Што ты патрабуеш ад мяне? Чаму ты стаіш нават цяпер у мяне за спінаю — я ж адчуваю гэта ўсёю істотаю — і глядзіш на маю апушчаную галаву моцна і неадчэпна? Што задуманае табою я павінна выканаць?

Містыка?! Не! Нешта іншае. І чаму я так пакутліва адчуваю, што звычайнае жаночае шчасце раптам стала мне... ну, чужым, ці што?! — а цела маё, а ўся мая душа кіпяць прагаю... працаваць!

І ўсё ж Кацечка крыху памылілася. Не ў тым, што кожны чалавек доўжыць пачатае некім раней. Праўда іншая. Праўда тая, што ўсё задуманае і наканаванае ты робіш сам, напаўняеш крывёю ўласнага сэрца, трапятаннем сваіх нерваў і жарам свайго жыцця. Ні боль, ні роспач, ні радасць не падслухаеш з-за чужой спіны.

* * *

Здаецца, з жанчын яна зноў была тут, у сталоўцы на Забалканскім праспекце, адна. Але першая прыкрая няёмкасць адпусціла, калі ўбачыла многа знаёмых. Радасна, узрушана віталіся. Расчырванелы Вацак усё лётаў на кухню, нейкі нязвыкла па-гаспадарску заклапочаны, быццам усе гэтыя тэхнолагі і універсітэцкія

сышліся не на апошнюю перад летнімі вакацыямі вечарыну, а ў госці да яго асабіста. Быў у новым светлым касцюме, акуратна паголены, напамажаныя пацямнелыя валасы гладка прычасаны. Як толькі што выпырхнуў з фотамайстэрні.

Пацягнула густым апетытным пахам («Як пэндзлікам па носе казыча!»).

Узялася памагаць Ромаку Мілеру і Лявону Малецкаму, — на ссунутых сталах, засланых звычайнаю светлаю цыратаю, расстаўляла шклянкі пад гарбату.

Узрадавалася новаму знаёмаму — віленчуку Франаку Умястоўскаму, чытала яго размашысты вершык... Адна назва чаго варта: «Вецер» ...Вецер! Значыць, бура!

А сустрэлася толькі цяпер, — высакаваты, са светлаю, коратка падстрыжанаю і зачасанаю ўверх чупрынаю, пад вусікамі. Увесь вельмі зграбны, з тонкім аблiччам. І бровы неширокія, і адкрыты позірк шырока расстаўленых вачэй.

— Ёсць першыя экземпляры маленькай часопісі, уладкаванай нашым «Кругам»...

— Той самай, куды мужыцкія грошы ідуць?

— Так-так!

Гэтае Вацакава «так-так» прымусіла яе ўсміхнуцца. Поўныя вусны Франака таксама ўздрыгнулі.

— Чыталі, Алаіза? То прынясу! Праўда, гэта яшчэ мала. Так мала, што неяк сорамна за саміх сябе!

— Дай часу, дзядзька!

«Дзядзьку» было яшчэ толькі гадоў дваццаць.

— А можа, гарбаты?! Што там усіх чакаць?!

— Так-так! Ой, ды не! Не ўжо! З усімі няхай...

— А мне хоць бы чым-колечы падмацавацца, — уступіў у іхнюю гаворку Ромак, засвяціў белазубай усмешкаю. — Нека воўча натура, без мяса не магу.

— Ці хоць тую зобку маслякоў, што некалі дома збіраў! Гля, Ромак, мёд які! — кіўнуў на два кадаўбцы ляснога мёду.

— Досі! Разахвоцілася публіка!

Алаіза ўжо выбірала з палатнянага мяшэчка і раскладвала па талерках шурпатыя аўсяныя пернікі, аднак на сталы пакуль што ніхто не зважаў.

Падышоў і стрымана павітаўся Антось, брат арыштаванага «археолага» Янука. Таго пасля доўгай галадоўкі спачатку перавялі з «прэдварылаўкі» на Шпа-

лернай у турэмную бальніцу «Крыжоў», цяпер этапіравалі ў Мінск.

Аднак жа не! Яна была тут не адна. З кухні выйшла Сабіна — з горда паднятаю галавою, бліскучыя цёмныя вочы свяціліся непрытоенай радасцю. Здаецца, усе прысутныя адразу ж зразумелі, што гэтая вечарына павернецца на нешта цікавае.

Ах ты... Ад групкі літоўцаў-тэхнолагаў, што стаялі каля самага кутавога стала, аддзяліўся высокі, светлавалосы, усмешлівы... Сцяпонас! Сцяпонас Кайрыс...

Літоўцы, аднак, таксама адразу ж зрушылі з месца, і цяпер усе, чалавек дзесяць, ішлі да Алаізы. Падфранчаныя, са стаячымі каўнярамі і гальштукамі, у клятчатых камізэльках. Кожны цісну ёй руку, кожны ўсміхаўся, як старой знаёмай. Зрэшты, многіх яна і сапраўды ўжо сустракала на сходках і вечарынах.

Вось з гэтым, Данатасам, тэхнолагам-хімікам, яны заўсёды пачыналі спрачацца ледзь не з першых слоў.

Што ліцвіны, што літоўцы... Па ягоным выходзіла, быццам гэтыя два народы маюць адну аснову. Зразумела, літоўскую.

— Я беларуска! Ліцвінка! Ліцвінка, а не літоўка.

— Ды ты нават звонку падобна да нашых дзяўчат!

— Сур'ёзны аргумент! Нічога не скажаш!

— Ранейшыя палітычныя выступленні нашых ліцвінаў, — Данатас крыху скептычна прыжмурыўся, — не мелі цягласці. Ды і паддаваліся цалкам уплывам. Расейскім ці польскім...

— Час памяняўся, Данатас...

— Эх, Сцяпонас, Сцяпонас...

— Што Сцяпонас? Сам не бачыш? Час не той. Людзі не тыя!

Яна яшчэ пры першай іхняй сустрэчы змеціла, што Сцяпонас заводзіцца ў адно імгненне, нават нечакана, і тады стае ўпартым і нават крыху злосным.

— Ды што гэта мы, нанове студэнты? — Вацак паклаў рукі на плечы Данатасу і Алаізе, такі нязвыкла спакойны, засяроджана сталы. — На цэлае ж лета развітваемся, людзі! Раз'едземся! Дык няхай кожны панясе людзям словы праўды і свабоды!

— Панясём! Хоць на плячы, хоць на горбе, а панясём! — навярнулася да яго тварам, зблізку глянула ў вочы. — Толькі вы з Сабінаю, здэцца, не думаеце развітвацца?!

— Асака, аднак жа!

Сабіна старалася. На стале ўжо стаяла некалькі талерак з кілбасою, у шклянкі была наліта гарбата.

Студэнты маўчалі. Нехта пашкадаваў, што тут няма «археолага» Янука.

...Спачатку селі ў конку каля Дварцовага, спяшаючыся, каб яго не развялі на ноч. Сцяпонас быў у адным тонкім габардзінавым плашчыку і, пэўна, азябнуў, але ўсё роўна зняў яго і накінуў Алаізе на плечы.

Потым пайшлі пеша — праз бляклае святло рэдкіх ліхтароў. Перад дамамі ў пачатку Чацвёртай лініі адцвіталі кветнікі, брудны тратуарчык аплываў у бакі ржаваю пенаю яшчэ леташняй травы. Пачаліся біржавыя лаўкі і пачварна доўгія драўляныя балаганы. Тады павярнулі назад, прыпыніліся перад двухпавярховаю абшэрпанаю камяніцаю, — за адным з цёмных вокнаў разбівалася ■ плачу дзіця.

Здалёк, гойдаючыся, набліжаліся блакітныя хвалі электрычнага праспекта. Ішлі доўга, слухаючы крокі адно аднаго, чуючы дыханне... Маўчалі, і гэтае маўчанне зусім не гняло, але Сцяпонас раптам пачаў расказваць. Спярша аб тым, дзе зарабляе грошы, — кожны год даводзіцца ездзіць у Нова-Вілейку...

Паўсюль урадзіла жыта, а ў іхніх Занавесцах толькі куколь ды мятліца...

Маці мілая, Уршула з Пузынаў, бачыць яго хіба на прымапрыля...

Яны былі каля самай Нявы. Упершыся ў халодныя парэнчы выпрастанымі рукамі, Алаіза пазірала на чорную таямнічую ваду. Сцяпонас абняў яе за плечы і асцярожна падзьмуў на скронь. Як саграваючы дыханнем.

Побач спыніўся высокі хударлявы пан у светлым мяккім пінжаку. Быў п'янаваты і, пэўна, згубіў недзе капялюш. Буйныя хвалі светлых валасоў ажно свяціліся ў зыбка-рухомым ліхтаровым святле. Прадаўгаватае аблічча было зусім маладое, але бледнае, як у мерцвяка.

Сцяпонас ціха ўздыхнуў.

— Хутка ў ад'езд, Алаіза?

— Пацярплю ўжо тутака. У бальніцу адну ўкруцілася, так што...

— А ў мяне, таказаць, сваё надзейнае месца ў Нова-Вілейцы.

— На мікалаеўскі плашч збіраеш?

Засмяяўся:

— А што?! Можа, і спадабаюся каму? Га?

Незнаёмец, які стаяў даволі блізка, здаецца, нічога не чуў, адступіўся на некалькі крокаў, і яго постаць прывідна закалыхалася ў тумане набярэжнай. Зашаптаў: «И что ей молвить — нежной? Что сердце расцвело?»

Над Нявою плылі перарывістыя акорды дзіўнай сумотнай музыкі. Здалося, што яны са Сцяпонасам усё яшчэ сядзяць на канапцы ў шыкоўнай гасцініцы, куды зайшлі пасля вечарыны з Вацакам і Сабінаю. Пасярэдзіне пакоя — чырвонае бліскучае піяніна. І сваячка Сабіны, прыгожая і маладая жанчына, адкінуўшы назад галаву з важкім скруткам чорных валасоў, іграе ім Шапэна.

Музыка, пэўна, усё яшчэ не адпускала і Сцяпонаса. Ён таксама маўчаў, праводзячы вачамі высокую постаць паэта, потым гэтак жа, як і Алаіза, доўга глядзеў на чорны аксаміт цяжкай ракі.

Нарэшце мякка, але надзіва рашуча павярнуў Алаізу да сябе.

## 8

Новы навучальны год пачаўся трывожна.

Быў першы панядзелак кастрычніка. Пётр Францавіч Лесгафт доўга сядзеў у сваім невялікім кабінеце на другім паверсе. Даводзіў да ладу праграму толькі сёлета пачатых ім заняткаў па сістэме Фрэбеля: сямейнае выхаванне, падрыхтоўка дзяцей да самастойнай дзейнасці, першы дзіцячы сад і яго галоўная задача, пазнавальнае значэнне гульні, знаёмства з колерам і формай, практыкаванні на апаратах (шведская мачта, лесвіца, бервяно, гарызантальны шост) і ўсё, што пашырае ўяўленне аб прасторавых адносінах, вучыць разумнаму размеркаванню часу...

Пётр Францавіч ссунуў і падбіў у акуратны стосік спісаныя паперы, падняўся з пацёртага скуранога крэсла і задумліва застыў перад акном. Лістападаўскі вечар, наскрозь прасвечаны нізкім сонцам і атулены

ўздоўж вуліцы жоўта-пунсовымі дрэвамі, здаваўся цяпер амаль фантастычным.

Праз мост на Гандлёвую грукатала і калывалася ў бакі вузкая, высокая конка. Спынілася. Бліснула чырванню свежафарбаванага верху.

У грамадзе моладзі, што высыпала на тратуар і заспяшалася праз вуліцу да будынка курсаў, Пётр Францавіч пазнаў сваіх — слухачак старэйшага курса Любу Казанкіну, Лідзію Егунову, Таццяну Някрасаву і Алаізію Пашкевіч.

Яшчэ ў сакавіку, пасля сходкі слухачак Жаночага медыцынскага інстытута, апошні быў часова закрыты. Праз некалькі дзён выкладчык фехтавання, італьянец Наталь Кіяверы, прынёс яму пракламацыю з універсітэта: «Так як ■ закрыццём Жаночага медыцынскага інстытута і іншымі падзеямі гэтага года ўзбуджаны пытанні, якія патрабуюць тэрміновага абмеркавання і водгукаў, мы прапануем таварышам студэнтам універсітэта сабрацца на сходку ў аўторак 18 сакавіка ў 12 гадзін дня на пляцоўцы перад актавую залаю». Сходка адбылася. У яе рэзалюцыі суд над медычкамі названы ганебнай пародыяй. Да таго ж маладыя гарачыя розумы заклікалі да агульнанароднага мітынгу.

Яшчэ два гады назад Лесгафт успрыняў бы гэты студэнцкі заклік з сумнаю ўсмешкаю. Цяпер жа ва ўсім, што адбывалася, бачыўся іншы сэнс. Агульнанародны мітынг, следавацельна, вавілонскую таўкатню, уявіць цяжка. Аднак агульнае грамадскае асуджэнне паводзін паноў рэктараў рашуча і глыбока падрывала самую сістэму ўсталяванага ў імперыі навучання — чыноўніцка-адміністратыўнага, падаткнутага з усіх бакоў паліцэйскімі нагаечкамі.

Толькі ў верасні Лесгафт даведаўся аб тым, што шаноўны калега, рэктар універсітэта, яшчэ паўгода назад афіцыйна наківаў Вучэбнай акрузе пра ненадзейнасць яго курсаў. Дадаўшы, што ва універсітэце таксама пануюць поўны разброд і антыўрадавы разгул студэнцтва.

У тым жа сакавіку ўжо другі калега — рэктар Вышэйшых жаночых курсаў даносіў Міністэрству асветы пра «неспакойны настрой слухачак, які выявіўся ў намеры склікаць на курсах сходку для абмеркавання

падзей у імператарскім С.-Пецярбургскім універсітэце і ў Жаночым медыцынскім...».

Трэба абавязкова пабыць на сённяшняй сходцы слухачак. Хаця б для таго, каб быць гатовым да наскокаў паліцэйскага дзяржымορды пры партфелі.

— У мяне моцны «дасмарк»...

— Ціха ты!

— А што?

Слухачкі ўжо збіраліся ў калідоры.

— Кацечка! Ты што пахудзела так?! (Здаецца, Казанкіна.)

— Ага, аж вушэй з-за шчок не відно! (Гэта ўжо Алаізія Пашкевіч.)

Пачуўся смех. Яны, вядома, бачылі, што дзверы ў яго кабінеце адчынены, але не таіліся.

— А старшыня прыгаворваў: «А я яго па вусах! А я яго па вусах!» (Някрасава.)

Пачынала брадзіць і іншае. Зноў — разкаваты голас Пашкевіч:

— ...даць гістарычнаму шкілету плоць і кроў, удыхнуць у яго жывую душу!

Галасы ў калідоры ўсё ж прыглухлі.

...Так ужо вялося, што два разы ў месяц ён, па праву загадчыка курсаў, наведваў заняткі розных выкладчыкаў. Пабыўшы на гістарычнай педагогіцы, схапіўся за галаву. Малады «вучоны» мамант у мундзіры «выпякаў» нешта клёўкае і даўкае, як катлеты ў тых студэнцкіх «сініх вывесках», сталовых фон Дэрвіза і грэчаскіх кухмісцерскіх, ад якіх суткамі было горка ў роце. Сам каштаваў.

Адтаяў душою толькі праз тыдзень, на гісторыі літаратуры. Ці не гэтая Алаізія Пашкевіч, якая закончыла за год два першыя курсы, — асоба даволі неардынарная, фанатычна адданая пошукам ісціны і справядлівасці і надзіва працавітая, — ці не яна гэта выказала тады вось што: «Калі мы гаворым пра пісьменніка, неабходна даць яму ацэнку, параўнаўшы з папярэднікамі і тымі, хто прыйшоў у літаратуру пасля. Праверыць, што ён развіў і што выпрацаваў у літаратуры і як сам адлюстраваўся ў творчасці пераемнікаў». Якраз яна, Пашкевіч, падала ідэю правесці ў Народных дамах бясплатныя лекцыі па літаратуры і мастацтву.

Вечар цямнеў. Было чутна, як слухачкі пераходзяць у суседні з кабінетам, самы вялікі тут вучэбны клас.

Пачакаўшы хвіліну, Лесгафт выйшаў з кабінета і настаяў у калідоры. Дзверы вучэбнага класа былі адчынены — чуў усё выдатна. Да апошняга слова. Разумеў, што аб ягонай прысутнасці на сходцы могуць даведацца ў Вучэбнай акрузе, але ўсё роўна рашуча ўвайшоў у клас. Стаяў, прыткнуўшыся плячом да сцяны.

Люба Казанкіна, высокая і бледная, з крыху спалоханымі шэрымі вачамі на круглым скуластым твары, разгарнула жоўты аркуш паперы і паведаміла, што гэта прынесена ёй з медыцынскага інстытута.

Клас маўчаў. Казанкіна падняла галаву і глянула перад сабою насцярожана прыжмуранымі вачамі, як чакаючы дазволу.

Пачала рэзка, адразу ж з чытання пракламацыі:

— «Нядаўна зарэзалася адна з нашых слухачак першага курса. Штуршком да гэтага стала расчараванне ў сэнсе жыцця, у асабістай непрыгоднасці для жыцця. Яна раіць сваёй сястры «не ўдумвацца» ў праявы свету, каб стаць шчаслівай жывёлінай...»

Нехта гучна пратупаў па калідоры, якраз міма класа. Лесгафт злавіў на сабе здзіўлена-трывожныя позіркі слухачак, з цяжкасцю парухӑў занямелымі нагамі. Выходзячы, прымкнуў дзверы. Азірнуўся. Каля акна ў канцы калідора стаяў невысокі, амаль мініяцюрны Наталь Кіяверы. Нічога не аставалася, як падысці да яго.

На смуглым твары Кіяверы адбівалася спакойная цікавасць і адабрэнне. Прыгожы надлом чорных броваў, па-жаночы таямнічая, крыху непрыемная ўсмешка.

— Учора, пан прафесар, было чаепіццё на Баравой, — італьянец рэзка выдзяляў зычныя гукі. — У зале мужчынскай школы Брэнка. Ма-мма міа! Колькі было народу! Болей за тысячу асоб. Музыканты, вучоныя, паэты... А ўсе размовы — пра няхватку ў грамадстве ідэалаў! Высокіх ідэй!..

Цяпер усе, нават гэты маленькі італьянец-фехтавальшчык, гавораць пра блізкую рэвалюцыю і няхватку ідэалаў...

Сходка, відно, падыходаіла да канца. Пастараўся, каб дзверы не рыпелі. Алаізія Пашкевіч, якая стаяла цяпер перад слухачкамі, убачыўшы яго, пачырванела, але тут жа крыху скептычна (зразумеў, што гэта ад хвалявання) звузіла вочы.

— На анатоміі нам неаднойчы гаварылі... («Прабачце, хто гаварыў? Калі мяне не падводзіць памяць, то анатомію ў іх чытаю я сам! Цікава!») «Анатомія — сумная навука, калі не разумець, што кожная баразёнка на целе трупа — след барацьбы, след жыцця, і мы павінны чытаць, якім было гэтае жыццё, працоўным ці леным, кіпучым ці вялым. Па касцях, па іх звілінах і зломах мы павінны чытаць больш аб'ёмнае, чым жыццё адной асобы. Мы павінны вучыцца больш важнаму, усяму, чаму вучыць не толькі анатомія, але і палітычная эканомія, сацыялогія, гісторыя — жыццё знутры і зне, выпрацоўваць у сабе чалавека-грамадзяніна, які кіруецца ў сваіх паводзінах праўдаю, ненавідзіць насілле і здзек».

Усталяваўся напружаны спакой, Лесгафт непрыкметна прысеў на край бліжэйшай лавы. Алаізія, здаецца, нікога з прысутных цяпер не бачыла, пагляд, здаецца, выхопліваў з патаемнай глыбіні постаць будучыні. Якой яна бачылася цяпер? У белай легкакрылай апратцы ці зрэбных лахманах? Мяркуючы па настроях апошніх гадоў, у гэтых дзяўчат не павінна быць феерычна-легкадумных ці істэрычных спадзяванняў на фарфоравае шчасце. Цяпер многія, нават вельмі шаноўныя людзі, лічаць, што адукацыя для маладой жанчыны своеасаблівы «блудящий огонь» і што ён, прафесар Лесгафт, дае на курсах веды, якія нельга прыкласці да жыцця, дае аспірацыі без рэалізацыі. Якое ўсё ж дамастроеўскае балота!

Лесгафт слухаў, апусціўшы галаву. Думаў. Радаваўся чутаму. Значыць, заняткі яго не ўпалі на камень і далі багатыя ўсходы. Ён вучыў сваіх слухачак — і гэтым цяпер ганарыцца — грэбаваць чуткамі, якія задавольваюць злабадзённую цікавасць тым, што Апухцін назваў бы «нялоўкасцю канца і сумам эпілога». Ён высмейваў снабізм хадзячай маралі і ўхваляў сапраўднае высакароднае месіянства. «Забірайце з сабою, забірайце з сабою з юных гадоў вашых свежасць пачуц-

цяў і гарачнасць сэрцаў — пасля не падымецца: грозна наступае старасць, і нічога не аддасць яна з хцівых рук сваіх». Ён паўтарае гэтыя словы Гогаля перад кожным новым курсам.

Чыімі жонкамі яны стануць і якія думкі будуць выхоўваць у сваіх дзецях?

Помніцца, некалькі гадоў назад на кватэры свайго старога сябра адваката ён пачуў расказ доктара з Сахаліна. Быццам не толькі ссыльных жанчын, але і тых, хто прыязджае ўслед за мужам, там ператвараюць у тавар, — сілком раздаюць пасяленцам. І калі жанчына пратэстуе, яе ў пакаранне пасылаюць у такія далёкія пасёлкі, дзе на восемдзесят пасяленцаў «палагаецца» чатыры «бабы». Праз год, безнадзейна хворая, няшчасная, кладзецца ў шпіталь. І Мураўёў, галоўны начальнік турэмнай часткі, ведаючы ўсё, спаў і спіць спакойна! Якую ж паскудную анархію выпеставаў у сваім чэраве манархізм...

— Смерць вучыць многаму, — слухачкі, здаецца, зусім забылі пра яго прысутнасць, гледзячы толькі на Пашкевіч, — але найперш таму, як глыбей трэба бачыць і разумець жыццё. Я ненавіджу гэты бруд і хлусню, узведзеныя на высокі дзяржаўны п'едэстал. Я ненавіджу газеты!

У класе крыху здзіўлена загулі.

— Так, я ненавіджу ўсе прадажныя газеты, дзе царызм і вялікая частка яго прадажнай інтэлігенцыі з уласцівым ёй псіхалагічным нахабствам абблытвае грамадскую свядомасць сеткаю ўяўных рэформ. «Точу, полирую, тащу и ворую». Ва ўрадавым весніку апублікавана важная — ого! — заканадаўчая мера ў адносінах да фабрык і рабочых. Дазваляецца выбіраць для кожнага разрада са свайго асяроддзя кандыдатаў у старасты. Той мае права хадайнічаць, адказвае за парадак, усё ўзгадняе з начальствам. А не ўмосціцца на гэтай вузкай лаве — губернатар можа ўзяць яго за шкірку і выпшпурнуць, як кацяня. Якая іезуіцкая форма дэмакратыі!

...Праз два тыдні Пётр Францавіч атрымаў дэпешу ад папячыцеля Вучэбнай акругі генерал-лейтэнанта Галавіна: «Дзеля выканання сакрэтнай прапановы таварыша міністра Народнай асветы прашу Вас прад-

ставіць мне спіс слухачак даверaных Вам курсаў, якія ўдзельнічалі ў сходцы і якіх Вы лічыце вінаватымі, і адначасна данесці, якія Вы са свайго боку хацелі б прыняць меры дзеля папярэджання паўтору падобных сходак у будучым».

Пётр Францавіч не памарудзіў:

«Калі 5 лістапада адбылася сходка, то яна была выклікана ўмовамі пазакурсавога жыцця, тымі цяжкімі момантамі, якія перажывае цяпер рускае грамадства. Малады чалавек сталага ўзросту (сярэднім лікам 20—23 гады) не можа быць па сваёй натуры глухім да навакольнага жыцця, тым болей што каля дзвюх трэціх усіх паступіўшых за апошнія гады слухачак былі ўжо раней настаўніцамі ў народных і гарадскіх школах і ўжо звыклі сачыць за ўмовамі знешняга жыцця. Адміністрацыя курсаў не можа адказваць за знешнія ўплывы на маладых людзей, яна не можа зняць альбо змяніць гэтыя ўплывы».

Папячыцель, несумненна, адразу ж убачыць спробу зваліць з хворай галавы на здаровую.

«Разам з тым маральны абавязак нам падказвае, што мы не павінны прымяняць да маладых людзей меры віжавання і рэпрэсій, не павінны баяцца ўплыву болей жывых і эмацыянальных людзей, а садзейнічаць іх развіццю і рыхтаваць добрых, дысцыплінаваных і пісьменных дзеячаў для рускай школы.

На падставе ўсяго сказанага відна, што няма магчымасці ўказаць на якіх-небудзь слухачак шкоднага накірунку («Наце-с!») і перапыніць усялякія знешнія ўплывы на апошніх. Педагагічны савет можа паручыцца за захаванне ўнутранага парадку ва ўстанове, але не можа прыняць на сябе ніякай адказнасці ў сэнсе ліквідацыі ўплыву знешняга жыцця на навучэнцаў і не можа ніякім чынам гвалтоўна націскаць на сумленне слухачак.

Усялякія карныя меры ці праследаванні толькі б парушылі існуючую цяпер маральную сувязь са слухачкамі («Несумненная ісціна!») і ўсё ж не дасягнулі мэты, як гэта відна з гісторыі ўсіх вышэйшых вучэбных устаноў Пецярбурга за апошнія гады...»

Гэта было прамое дзёрзкае абвінавачанне найперш самога Галавіна, і Лесгафт добра разумеў: нарэшце яго

ці пакінуць у спакоі, ці раздуюць з усяго такога слана, што таго давядзецца цягнуць ажно ў суд.

* * *

Па ініцыятыве гарадскога галавы генерал-ад'ютанта Клейгельса на Георгіеўскім праспекце быў адкрыты прытулак для інвалідаў сталічнай паліцыі. У старой, але падрамантаванай і падфарбаванай камяніцы размясціліся майстэрні, дзесяць асобных пакояў для «інтэлігентных сем'яў» і інтэрнат для пятнаццаці «інтэлігентных мужчын». Яе вялікасць гасударыня імператрыца Марыя Фёдараўна выказала жаданне адпускаць штогод па семсот пяцьдзесят рублёў на ўтрыманне трох пенсіянераў. З кабінета яго вялікасці паступіла адразу ж дваццаць пяць тысяч — нават на працэнты ад гэтага можна было даць прытулак дзесяці апекаваным.

Умова на двухмесячнае лячэнне масажам трох інвалідаў была падпісана паміж Алаізаю і таварыствам прытулку ў канторы на першым паверсе. Двое з інвалідаў былі ўжо настолькі высушаныя старасцю, што Алаіза ажно пляснула ў далоні. Ці не ў труне рабіць ім той масаж.

Трэці зацікавіў яе больш. Былы ротмістр коннай жандармерыі Гуляеў выглядаў яшчэ даволі маладжава, але быў увесь нейкі скукожаны, як сціснуты, моцна перавязаны ўздоўж і ўпоперак нябачнымі рамянямі.

Ён сустрэў Алаізу шматслоўным інтэлігенцкім чадам. Лежачы на тапчане ў медыцынскім пакойчыку, нават, здаецца, і не адчуваў нічога, захоплены толькі ўласным красамоўствам. Спіна былога ротмістра напялася і адзервянела, працаваць было так цяжка, што рукі праз хвілін дзесяць ажно гарэлі.

— У друку распаўсюдзіліся чуткі, быццам з Марса нам пасылаюць нейкія сігналы?! Вы чулі?! І як вы думаеце, — людзі ёсць? Тшчацельна! Калі прыняць пад увагу... ой-ой! (здаецца, пачынае нешта адчуваць) — калі ўлічыць, што Марс ад Сонца на такой жа адлегласці, што і наша Зямля, то... ой-ой-ой! Але, з іншага боку, чалавек можа існаваць толькі там, дзе ёсць фауна і флора...

— Апранайцеся.
— Ваша сіяцельства...
— Што — «ваша сіяцельства»?
— Дзевачка мілая, я прашу вас тшчацельна звяртацца да мяне толькі «ваша сіяцельства».
— А-а...
Можна было б паўшчуваць «сіяцельства» за адно гэтае гадкае «дзевачка», і яшчэ паўгода назад яна, вядома, не вытрымала б. Цяпер жа глянула на яго з грубавата-насмешлівай пагардай. Праз увесь твар — выцеклае і забранае наўскасяк чорнаю стужкаю правае вока, усю правую шчаку — ішоў пачварна-глыбокі ружовы шрам. Зламанае плячо былога ротмістра, знявечанага пры разгоне студэнцкай дэманстрацыі, зраслося так няўдала, што рэзка, амаль вуглом, выпірала ўверх. Ніякія лекі не маглі зняць нясцерпнага болю, асабліва ў непагадзь. Заставалася толькі адна надзея — на цудадзейнае ўмельства масажыстак «ад Лесгафта».
На просьбу Пятра Францавіча, які павінен быў паслаць у новы прыют дзвюх сваіх выхаванак, Алаіза адклікнулася першая. Не раздумваючы (а дарма, што не падумала тады як след!), зажадала зблізку глянуць на тое, што зрабілі старасць, убоства і калецтва з яе самымі ненавіснымі, самымі галоўнымі ворагамі.
— І я там тшчацельна паклаў цэлую «радужную»?!
(«Дзе гэта ты, сіяцельства, узяў тую сторублёўку?!»)
Адстаўны жандарскі ротмістр хлусіў натхнёна, падзіцячы безаглядна верачы ва ўласныя байкі. Цяпер ён плёў кошык пра наведванне нядаўна адкрытага віннага духана на Малой Канюшаннай. («Адразу ж трапляеш у чароўны свет усходу... Дзевачка! Вам хто-небудзь калі-небудзь дарыў ратонду з саболяў? Не? Я куплю! Ой-ой-ой...»)
Перасіліўшы боль, ён нават падміргнуў Алаізе адзіным вокам, дрогнуў левым куточкам скрыўленых вусаў.
(«Сабачы хлеб да смерці не выходзіць! Кавалер...»)
Было прыкра. Прыкра і гідка ад таго, што праз два дні яна зноў прыйдзе ў гэты смуродны змрочны гадавальнік пачварных калек, душы якіх нібыта зрабіліся асязальнымі і цяпер тырчалі перад яе вачамі зламанымі косткамі, вызіралі з-пад павязак пустымі вач-

ніцамі, торгалі па-змяінаму бліскучымі вуснамі. Ніколі раней яна не адчувала такой агіды, нават гідлівасці да знявечанага чалавека. Ды дзе там... Хутчэй наадварот! Шкадавала і нават любіла на курсе Таечку Някрасаву — мудрую, вясёлую, маўклівую, пакорлівую...

Гэты былы жандар выклікаў у ёй зласлівую помслівую радасць. І гэта было нядобра. Калі ён умошчваўся на цвёрдым тапчане, марна шукаючы мякчэйшай дошчачкі для свайго знявечанага пляча, рыпеў зубамі і торгаўся, як пакладзены на цвікі, яна заклікала сябе да міласэрнасці і спагады, рукі рабілі сваю справу з зайздросным умельствам і спрытам, хаця ведала, што праз якія паўгадзіны будзе ненавідзець сябе за гэтую самую міласэрнасць і слабасць да ворага. За яго плячамі, праўда, чарнелі толькі цені мінулага, але гэта былі цені смерцяў і чужых пакут.

Ад бравага ваякі застаўся адзін пшык, на тапчане ляжала толькі змардаванае цела, боль якога замуціў нават розум чалавека. І ад усведамлення ўласнага бяссілля ён помсціў свету, у якім жыў, з асалодаю, выдаючы яго таямніцы і слабыя месцы, захоплена аналізаваў формы і метады работы паліцэйскага ўпраўлення, успамінаў самыя неверагодныя прыклады ўзлётаў і падзенняў людскіх душ... («Стары пёс, бывае, нарабуе, а маладыя гэтымі грашамі вочкі пратрэ. Сотні ў карты прадуе — і тшчацельна так!»)

Быў апошні дзень яе дзяжурства ў прытулку. Адзінаццатае лістапада. Апошні раз перад ёю, на высокім доўгім тапчане, ляжаў былы жандарскі ротмістр.

Увайшла прыбіральшчыца, засовала мокрай анучкаю па падваконніку.

— Вэ-эн! Леб-бяда сівая! Вэ-э-э-н!

Прыбіральшчыцу як здула ветрам.

— Я з ёй ар-рш, дзевачка! Я яе наскрозь віжу! Тшчацельна!

Нават тут, у прытулку, ротмістру бачыліся шпікі, якія віжуюць за кожным ягоным крокам. Асабліва люта ён ненавідзеў маладую тоўстую прыбіральшчыцу — вечна п'яную, у заўсёды расшпіленай чорнай ватоўцы, абшытай понізу замызганым футрам.

— Я яе выведу на чыстую ваду! Я ёй ар-рш!

— Лягчэй, лягчэй... Апусціце левае плячо. Та-ак. От так...

— Усіх! Усе яны... адтуль! Тшчацельна!

— Адкуль, ваша сіяцельства? — запытала механічна, бо якраз знайшла каля самай шыі тоўсты цвёрды цяж. Пачала разбіваць яго, шыпушачкі пальцаў колка зашчымелі, пакалвала ажно ў самыя пазногці.

— Не падымайце руку. Не падымайце... Добра. Дык адкуль, ваша сіяцельства?

— Згнаю! Усіх іх згнаю. Адкуль... Адтуль! З Лідчыны, паўночна-заходняй! Знаеце такую?

— З Лідчыны?

— Знаеце такую?

Каб здзівіцца, трэба было ўсвядоміць, што гэты былы жандар гаворыць менавіта пра яе родную Лідчыну. Але як гэта можна было ўсвядоміць?

— Расслабцеся, ваша сіяцельства.

— Яны мяне дзяржалі за ёлупа! А я на ўласныя вочы бачыў, як той чарнявы ўдарыў мяне прэнтам спярша па плячы. А калі я тшчацельна бухнуўся пад ногі свайму вернаму каню — р-рэз! па воку! Па воку! Ах ты, зноў... В-э-эн!

Гэта, пэўна, на прыбіральшчыцу, пэўна, зноў уляцела ў кабінет.

— Таксама, падлюк, быў з Лідчыны! Гэты смярдзючы каталік! Палячок! Андрэй Гмырак! Запомніў тшчацельна! Тшчацельна! На ўвесь век.

— Адзявайцеся, ваша сіяцельства.

Гарэла, як пабітае, усё цела. Быццам не яна была тут масажысткаю, а яе балюча краталі, расцягвалі на часткі нечыя драпежныя, распаленыя на вуголлі жалезныя рукі.

Ротмістр апранаўся. Лысы, з кучаравымі вусамі і вялікім носам, уся левая частка твару, адсечаная ад правай чорнаю стужкаю, была ўкрыта веерам маршчын.

— Яны лічылі мяне ёлупам. А падпалкоўнік — царствіе яму нябеснае! — не паверыў нікому. А толькі мне. Тшчацельна! Перапраравіў заразу ў Петрапаўлаўку і выдаў — тшчацельна! — усю здаровую «паліўку». Усе дзевяноста дзевяць удараў! Дзевяноста дзевяць! Усе...

— Накіньце коўдру. Пасядзіце яшчэ тут хвілін пяць.

— Усе дзевяноста дзевяць! Запомніць ён маю бедную распракрасную душу, дзевачка. І пад зямлёю перакруціцца. Дзевяноста дзе...

Яна рэзка зачыніла за сабою дзверы. І калі праз паўгадзіны апынулася на набярэжнай, падышла да самага Троіцкага. Стала ўзірацца ў далёкі залаты шпіль Петрапаўлаўкі.

Яна ніколі не чула ад Андрэя пра тую страшную экзекуцыю. Яна ніколі і нічым не выдасць яму, што ведае...

* * *

Алаіза прачнулася ад моцнага стуку ў дзверы. У верхнія шчыліны з залы прабіваліся язычкі электрычнага святла, але ў пакоі было цёмна, за акном сама што чарнела ноч. Нечакана пачуўся грозны гул, нібыта навальніца недзе паблізу крышыла цэлае лясное ўрочышча, — з трэскам ламала і выдзірала з каранямі дрэвы. Ці не сніцца, як на тое ліха?!

«Кацярына трэцяя» зноў забарабаніла кулачкамі ў дзверы, і цяпер ужо Алаіза адкінула коўдру і саскочыла з ложка. Святло раптам патухла, стала так цёмна, што хоць ты выкалі вока. Рыпнулі масніцы, напэўна, «Кацярына трэцяя» затупала з залы ў свой пакой.

Намацаўшы на табурэтцы вопратку, Алаіза хутка апранулася. З-пад дзвярэй зноў выплыла святло, але ўжо зусім бляклае і сумятлівае.

Калі ўвайшла ў залу, убачыла спярша высокі падсвечнік на стале — гарэлі ўсе тры свечкі. Шторы на вокнах напіналіся і калыхаліся ад ветру, што дзьмуў праз шчыліны яшчэ не заклееных на зіму шыбак, тры вогненныя хвосцікі свечак таксама раз-пораз кідаліся ў розныя бакі, па сценах бязладна мітусіліся жоўтыя плямы.

«Кацярына трэцяя», здаецца, звар'яцела — з усяе сілы цягнула ад сцяны важкую дубовую скрынку з калекцыяй матылёў. Тая і праўда зрушылася з месца, аднак левая ножка трэснула і падагнулася. Скрынка скасабочылася, пагражаючы грымнуцца на ногі «Кацярыны трэцяй», Алаіза падхапіла яе знізу, за апушчаны вугал.

(«Аднак жа цяжкая, халерышча! Як каменнем набіта...»)

— Наверх, Лізанька!

«Кацярына трэцяя» ад высілку ажно захаўкала ротам, выпучаныя вочы глядзелі на адчыненыя ў калідор дзверы.

Абедзве, яны ўсё ж адолелі скрынку. Дробна тупаючы, панеслі яе ў калідор, паднялі і бокам узвалілі на высокую шафку, прыткнутую да лесвіцы на гарышча. Зламаная ножка нарэшце адляцела і пакацілася па масніцы.

— Вы не чулі стрэлаў?

— Спала.

— А я чула. Такі вецер, што ніхто не спіць. І гэтыя стрэлы... Гэтыя стрэлы... Навадненне! Толькі на... Бож-жа мой, бож-жа! Лопні мае вочы...

Яна заплакала, але тут жа спуджана падняла павекі.

— Лезьце, Лізанька, — кіўнула на лесвіцу з шырокімі прыступкамі і парэнчамі. — Чакайце там.

Алаіза адразу ж паслухалася і палезла, павольна пераступаючы з адной прыступкі на другую. Уверсе было цёмна, і яна баялася стукнуцца галавою аб дошкі, што перакрылі выхад на гарышча. Сэрца закалацілася, быццам яна прабегла без перадыху ад Старога Двара да самых Бакштаў, лоб і шчокі засеяў халодны пот — нарэшце пачула ў грудзях дзікі, аж нудотны, страх, ледзь пракаўтнула кіславатую сліну.

Гудзенне, што даносілася звонку, памацнела, вецер яшчэ адчайней заскуголіў і завыў.

Упёршыся каленямі ў прыступку, Алаіза падняла рукі і адразу ж намацала над самаю галавою дошку. Пасілілася і осунула яе з месца. Затым другую, трэцюю... Пакуль не вызваліла ўвесь праём.

Унізе стаяла «Кацярына трэцяя» з запаленым ліхтаром; калі работа была скончана, падала гэты ліхтар Алаізе, зашморгала носам:

— Лезьце вышай! Хутчэй! О, бож-жа... Зноў стрэлы! Чуеце? Гэта ж з Петрапаўлаўкі...

Адолеўшы яшчэ дзве прыступкі, Алаіза паставіла ліхтар на дошкі з правага боку, павярнулася да лесвіцы спінаю і зірнула ўніз. «Кацярына трэцяя» ўжо

прыціскала да жывата скрыначку з соллю, таксама паднялася па лесвіцы і падала Алаізе гэтую скрыначку, як аказалася, даволі цяжкую. Потым пайшлі падушкі, коўдры, паліто і пінжакі, абутак, цэлая сям'я кітайскіх фарфоравых лялек, нават сталовы сервіз. («Ну, для чаго гэта? Што яна мне ўчэ падсуча?») Дзве талеркі ўсё ж саслізнулі ўніз і са звонам разляцеліся на белыя вострыя друзкі.

Гул нарастаў. Нешта моцна ўдарыла звонку ў дзверы, і «Кацярына трэцяя» заенчыла, забегала па сенцах, тыцкаючыся ў куткі, нарэшце пачала хутка і спрытна, як чорная яшчарачка, падымацца па лесвіцы наверх. Задыханая, кінулася на гарышча.

Недзе ўдалечыні, на начной вуліцы, роспачна закрычалі, і ад гэтага крыку Алаіза нібыта апрытомнела. І жахнулася: «Рукапісы! Што ж гэта такое? Як жа я?.. Бадай цябе мяцеліца!»

Амаль скацілася ўніз — у зале па-ранейшаму гарэлі тры свечкі, штурхнула дзверы ў свой пакой. Рукапісы былі сабраны ў невялікім чамаданчыку пад сталом. Нахілілася і схапіла чамаданчык за ручку, пачула, як вельмі блізка плюскоча вада. Здзіўленая, выпрасталася і зірнула ў акно. Было цемнавата, але ўбачыла: з падаконніка сапраўды лілася вада.

Яна была ўжо на лесвіцы, калі вада паявілася і ў сенцах, пырснула тонкімі фантанчыкамі з-пад дзвярэй. Ажно засіпела.

Уражаная, Алаіза ў мірг вока ўзляцела на гарышча. Кінула чамаданчык у яго шэрую глыбіню і, ледзь адолеўшы нервовыя дрыжыкі, апусцілася на калені побач з «Кацярынай трэцяй». Тая ўжо знайшла вяроўчыну, зрабіла вялікую пятлю і цяпер старалася злавіць у яе ножку дубовай скрынкі на шафцы. Нават дурань улёт зразумеў бы, што гэтую зашклёную матылёвую дамавіну нельга рухаць, інакш яна скінецца на падлогу. Але «Кацярына трэцяя» і сапраўды як звар'яцела і нічога не хацела слухаць.

Налаўчыўшыся нарэшце, ухапіла пятлёю тую грацыёзна выгнутую ножку скрынкі і пераможна адкінулася спінаю назад. З усяе сілы пацягнула вяроўчыну да сябе.

— Я падыму, Лізанька. Ён павінен ведаць, што я... (заплакала), што я зберагла!

Алаіза бачыла: дубовая аграмадзіна паволі ссоўвалася на край шафкі. («Каб цябе гаручка!») І раптам, калі вяроўка крыху аслабла, загойдалася, на імгненне замерла і вось ужо грымнулася ўніз, рубам у дзверы, сыпанула вакол каляровыя асколкі шкла і адляцела ў дальшы куток. Дзверы адразу ж адчыніліся і рэзка, з усяго маху, ляснулі аб сцяну, як выстралілі. Пенная шэрая вада рванулася ў сенцы, падняла і закруціла ў сваім дзікім коле шафку, тут жа раструшчыла яе, як цацку, аб вушак. І хлынула ў залу.

Алаіза як амярцвела каля праёму і пазірала на ўсё гэта зверху, зачараваная злою стыхійнаю сілаю, — яе цягнула, проста цягнула кінуцца ўніз, у той каламутны вір. Пад самым горлам нудотна сціснула дыханне, перад вачамі пырснулі жоўта-чорныя мушкі. Прытомнасць згасала. На кручанай хвалі як праз туман убачыла намоклага, нейкага шыза-ружовага пеўня без галавы. Праўдзівей, тое, што ад яго засталося, — спіну і шырокія распасцёртыя крылы...

Адсунулася ад краю, заплюшчыла вочы, бокам лягла на нешта вельмі мяккае, але ж і вельмі халоднае.

...Нават не змеціла, калі настала шарая раніца. Яшчэ толькі ў асаблівым зябка-нервовым прадчуванні.

Увесь гэты час «Кацярына трэцяя» расказвала розныя баечкі са свайго жыцця. Нарэшце супакоілася:

— ...а я з кожным годам звужаюся і ўкрываюся цвіллю!

Расплюшчыўшы вочы, Алаіза з холадам у душы прыпомніла, дзе яны.

Але нечакана адчула сябе сапраўды бадзёрай і крэпкай, лёгка паднялася на ногі. Зашпіліла пінжак. «Кацярына трэцяя» таксама тут жа ўсхапілася і манатонна, без канца пазяхаючы, завяла сваё нуднае: «А-а-а...» Успляснула далонямі:

— Чаму вы ў тапках, Ліза?

Сапраўды — у тапках. Як уступіла ў іх тады, збуджаная сярэдначы, так і не памяняла на чаравікі. Забыла, закруцілася. Зрэшты, дзе цяпер яны, тыя чаравікі? «Кацярына трэцяя» падавала на гарышча толькі сваё. Цяпер, здаецца, яна сама адчула сябе вінаватай, зноў заакала і забегала навокал, шукаючы Алаізе хоць што-небудзь на ногі.

Гарышча добра здзівіла: высокае і прасторнае, абсталяванае, як сапраўдны пакой, пэўна, былы кабінет мужа-заолага «Кацярыны трэцяй». Цяпер усё было запушчана і ўкрыта рудым пылам. Каля цаглянага тоўстага коміна — стол, на якім гарэў ліхтар, блізка яго канапка, дзве вялікія скрынкі з бязладна зваленымі кнігамі, у дашчаным тарцы гарышча — дзверы з дзвюх палавінак, амаль цалкам зашклёныя, якія Алаіза бачыла раней, з вуліцы, толькі пасяліўшыся ў гэтым доме, і якія, помніцца, выходзяць на нізкі блакітны балкончык.

«Кацярына трэцяя» ўсё ж выпарала аднекуль стаптаныя, высахлыя на дрэва чаравікі з загнутымі наскамі і патрэсканымі халяўкамі. Папрасіла Алаізу сесці на табурэтку. Сама, бясконца-плаксіва акаючы, зняла з яе ног тапкі і наматала тоўстыя анучы — толькі цяпер Алаіза адчула, як ногі закляклі ад холаду. Падзякаваўшы гаспадыні, абулася і зашнуравала халяўкі. Асцярожна паднялася, але з цяжкасцю, як у жалезных абцугах, паруxала пальцамі: «Бадай цябе мяцеліца, ч-чаравікі!» Нарэшце ступіла колькі крокаў, у пяты казытліва ўпяліся нервовыя голачкі. І яшчэ — ці не самы звычайны цвічок, але дужа маленькі.

Ціха рассмяялася: цярпець можна!

Дастаўшыся да канапкі, падхапіла чамадан з рукапісамі, пашукала вачамі больш надзейную схову. І раптам спуджана ўздрыгнула — за дзвярыма данесліся моцныя ўдары. Білі дошкаю ці вяслом па балконе.

«Кацярына трэцяя», струхлеўшы ад жаху, адразу ж шуснула за комін.

Па зашклёных дзвярах чыркнуў тонкі жоўценькі промень, і Алаіза таропка адсунула чамаданчык у самы куток, падняўшы на канапе пыл. Пайшла да балкона, пераступаючы кітайскія лялькі, посуд і раскіданую паўсюль вопратку. З-за дзвярэй, звонку, выразна пачуліся мужчынскія галасы, нехта яшчэ раз моцна стукнуў па парэнчах балкона. Тыя ажно затрашчалі і, відно, паляцелі ўніз, бо Алаіза пачула глухі ўсплёск вады. Скроні яе сталі гарачыя, перад вачамі пырснулі ўжо даўно знаёмыя чорна-жоўтыя мушкі.

Яна нават не ўяўляла, не магла ўявіць, што вада, гэтая грозная дзікая сіла, так блізка!

Праз шкляныя запыленыя дзверы ўбачыла некалькі бляклых зорачак-агнёў. І далёка, і поблізу. Ажно хітнулася наперад, здагадаўшыся: там, уздоўж усёй вуліцы, на барках і чаўнах з ліхтарамі плавалі выратавальныя каманды. І тады зразумела, хто біў па балконе, тузанула ручку дзвярэй, спрабуючы адчыніць іх. Знізу, наўскасяк, зноў паласнуў калючы промень ліхтарыка, — міжволі напружыла зрок. Нехта вялікі і грубы, у даўжэзным чорным плашчы і шыракаполым капелюшы караскаўся на балкон. Наблізіўся да дзвярэй (дзіва дзіўнае, але гэтыя тоўстыя вусны і квадратныя акуляры здаліся Алаізе знаёмымі), крыкнуў:

— Углыб! А-дыдзіце!

Яна паслухалася і адышлася да самага стала, абняла вераб'іныя плечыкі «Кацярыны трэцяй», адчула, як тая ўся дрыжыць.

Незнаёмы на балконе спачатку націснуў на палавінкі дзвярэй рукамі, затым, крыху адхіснуўшыся, павярнуўся бокам і ткнуў па іх плячом. Дзверы тут жа расхінуліся, хаця ўдар быў нямоцны, нават шкло ацалела. Цяпер стала відно, што той, на балконе, даволі шчуплы і невысокі, яшчэ зусім малады чалавек. Ступіўшы наперад, ён зняў капялюш і смешна затузаў галавою, як атрасаючыся. Потым падняў з меднага самавара каля сваіх ног палатняны ручнік і стаў таропка, нават не здымаючы акуляраў, аціраць ім мокры пасінелы твар і распатланыя валасы.

— Коля!

Ён здзіўлена прыжмурыўся на яе блізарукімі вачамі, прыадкрыў таўстагубы рот.

— Вы ж Апалонаў? Апалонаў жа? — не магла стрымаць радасці. — Помніце? На нашым вечары... Прафесар Лесгафт...

Яна назвала некалькі прозвішчаў знаёмых тэхнолагаў, Апалонаў адразу ж паяснеў тварам і сарамліва ўсміхнуўся.

Першай апамяталася «Кацярына трэцяя», забегала па гарышчы, кідаючы ў нейкі мех усё, што трапляла пад руку. Апалонаў тут жа спыніў яе:

— Толькі на сябе! І цяплейшае, мадам! — Рукою згарнуў з бакоў доўгія валасы і амаль на самыя акуляры насунуў капялюш. Але тут жа памкнуўся памагчы, павярнуўся да Алаізы:

— Калі што скуранoe ёсць, вазьміце.

Заўважыўшы, што ён чуецца крыху ніякавата, яна назвала сваё імя, — ветла і ўдзячна схіліў галаву.

— Знаеце, — гэта ўжо да «Кацярыны трэцяй», — захапіце коўдру, мадам. І ліхтар. Абавязкова. Нічога лішняга...

Ліхтар давялося адразу ж прыкрыць тонкім кухонным ручніком, — на дварэ ляпіў мокры снег. Ён імгненна асеў Алаізе на валасы мокраю ватаю, і яна адступілася ад балкона, знайшла на гарышчы вялізную кураўку.

Апалонаў ужо стаяў у яліку, памагаючы злезці «Кацярыне трэцяй». Вада паднялася так, што ён даставаў да балкона грудзьмі. Двое мужчын у аднолькавых чорных скуранках таксама стаялі, трымаючыся за балкон з двух бакоў. Цячэнне, відно, было моцнае.

Парэнчы адляцелі толькі спераду, і Алаіза села на самы край балкона. Пасунуўшыся крыху, звесіла ўніз ногі. У грудзі закалоў ледзяны страх.

Апалонаў тут жа ўпэўнена падхапіў яе пад пахі і лёгка, як дзіця, перанёс у ялік з дзвюма парамі вёсел.

Мужчыны ў скуранках усё яшчэ трымаліся за балкон, чакаючы, калі Алаіза з «Кацярынаю трэцяю» ўмосціцца зручней. Апалонаў з ліхтаром ступіў да самага носа і апусціўся на калені, спінаю да яліка, узіраючыся ў гулкую таямнічую далеч.

Алаіза не вытрывала і падсунулася да яго бліжай. Святло ліхтара выхоплівала каля самых бартоў дошкі, вялікія, як ільдзіны, гурбы зліплага снегу, маладыя садавыя і паркавыя дрэўцы, — іх чорныя, сашчэпленыя між сабою галіны фантастычна вытыркаліся ўверх і па-змяінаму гнутка раскачваліся над высокаю вадою.

Мужчыны ўзяліся за вёслы. Спачатку адзін — адразу ж моцна налёг на правае вясло, кіруючы ялік на сярэдзіну затопленай вуліцы. Потым сеў і другі.

Ялік праплыў наперад некалькі метраў і задрыжаў, як падцяты знізу нябачнымі віламі.

— Вярніце да трох павярхаў! — асіпла пракрычаў Апалонаў.

Алаіза і сапраўды ўбачыла агеньчык у акне не такой і блізкай ад іх высокай камяніцы. Зрэшты, гэта мог быць звычайны ацалелы вулічны ліхтар.

Вёслы зарыпелі, вецер упарта зносіў ялік у другі бок, і весляры папрасілі ўсіх прыгнуцца як мага ніжэй. Нарэшце з глухім шоргатам прыпёрся бортам да сцяны і заціх. Апалонаў перадаў «Кацярыне трэцяй» ліхтар і стаў на ногі, якраз пад цьмяна асветленым акном другога паверха. Паласнуў па ім тонкім праменьчыкам кішэннага ліхтарыка. Акно тут жа адчынілася...

Алаіза памагла Апалонаву ўзяць хлопчыка гадоў пяці, якога ўжо апускалі з акна, трымаючы за выцягнутыя рукі, мужчына і жанчына, відно, бацькі. Хлопчык па-шчанячы жаласна скавытаў, «Кацярына трэцяя» мітусліва захутала яго ў коўдру. Прыціснула да сябе. Толькі цяпер Алаіза зразумела, чаму Апалонаў папрасіў узяць гэтую коўдру.

Было шэсць гадзін раніцы дванаццатага лістапада 1903 года.

...На рагу Шаснаццатай лініі, блізка Мікалаеўскай набярэжнай, павольна рухаліся чатыры падводы. Апалонаў падхапіўся і стаў на поўны рост, закрычаў. Падводы былі перапоўнены, але спыніліся і сталі чакаць. Весляры замахалі вёсламі яшчэ спарней, дзеці ў яліку, іх было сямёра, прыціхлі, як мышаняты.

Алаіза не верыла вачам: тоўстая пані ў футры з першай падводы, відно, недавольная прыпынкам, тут жа перасела на плечы даўгалыгаму і худому, як шкілет, басяку. З-пад яго парванай камізэлькі і расхрыстанага пінжака свяціліся брудныя, адглянцаваныя да чорнага бляску рэбры. Вада даставала да самых каленяў.

— Іх-х! На «саракоўку», мілы, зарабляе! — сумна абазваўся першы, бліжэйшы да Алаізы, вясляр.

— А яна... Г-гэтая... Бож-жа! Якія людзі!.. — «Кацярына трэцяя» не хавала ў вачах пакуты і нянавісці.

Дзяцей Апалонаў перадаваў на павозкі сам, скочыўшы з яліка ў ваду. На чацвёртую перасела і «Кацярына трэцяя» — ліхтар даўно патух, але яна моцна прыціскала яго да грудзей. Як памяць аб нечым родным і назаўсёды страчаным...

У гадзін восем прырода звар'яцела дарэшты. Вецер сыпануў такім шротам дажджу і снегу, што не памагала і коўдра. Весляры ледзь варушылі парэпанымі вус-

намі, насоўвалі шапкі на самыя вочы. І ўжо не маглі разняць сашчэпленых на ручках вёслаў пальцаў.

[redacted] дахаў высокіх камяніц глыбамі зрываўся зляжалы снег — кіраваліся на сярэдзіну вуліцы. Жыхары падвалаў не паспелі перанесці наверх нажытага дабра, і цяпер усё гэта гойдалася на хвалях.

Алаізе далі доўгую жэрдку — адпіхвала ад яліка сустрэчныя бярвенні, карыты, колы, дзіцячыя калясачкі, крэслы.

Недзе блізка, відно, размыла дравяны склад, і на рагу Афіцэрскай басякі, зладзіўшы невялікія плыты, лавілі бусакамі і вяроўкамі дровы. Ох, як гэта прыдасца ім заўтра ж! На рынках Мікалаеўскай плошчы.

Праз паўгадзіны вада стала пеніцца. Паркавыя лавачкі, шуфляды і тумбачкі, нават струхлелыя крыжы са Смаленскага могільніка несліся паміж дамамі, круціліся ў шэрых варонках, сутыкаліся і тут жа разляталіся на дробныя трэскі.

Каля слупа з непагаслым ліхтаром, зусім блізка ад яліка, бураю гарою выпнулася шырокая мядзведжая спіна. Алаіза ткнула ў той бок жэрдкаю, але ад штуршка наверх вынырнула вялізная рабая птушка, укрытая грубым пер'ем. Птушка закруцілася ў шалёнай варонцы, знікла ў яе глыбіні. І тут жа зноў вытыркнула над вадою даўжэзныя ногі з кіпцямі на круглых, як капыты, і, пэўна, цвёрдых пальцах. Страус! Навадненне паглынула заасад...

Але апошняе, што яе памяць і свядомасць утрымалі наймацней, — гэта бальніца... Святога Мікалая-цудатворцы — у вусці Мойкі... Для душэўнахворых...

Яны паспелі на сваім яліку якраз тады, калі раз'юшаная вада падгрызла каменную сцяну, вынесла з прабояў глухія жалезныя вароты. Крутым рабрыстым валам ударыла па драўляных флігелях з «ціхімі», лінулася праз пакрышаныя дзверы і вокны.

...Яна ўжо недзе бачыла такі ж пукаты, з акуратных акруглых палавінак, лоб, счэрканы сінімі пруточкамі-жылкамі! (Успомніла! Вось гэтак жа халодна свяцілася тая гіпсавая фігурка дзіцяці на занятках па пластычнай анатоміі, якія вёў сам «Вас-Вас», прафесар Акадэміі мастацтваў Васіль Васільевіч Матэ!)

...Яна ўжо недзе бачыла і такія вочы, як у гэтай маладзенькай, высахлай да самых касцей яўрэечкі. Бедалага ляжала на яе руках нерухома, як нежывая лялька, шчэрылася бясцямна-таямнічаю ўсмешкаю, ад якой стала жудка. (І ўсё ж яна бачыла такія вочы! Без вар'яцкай пустаты, а толькі спакутаваныя, чарней самой ночы, цяжка пранізлівыя, ажно хочацца крыкнуць ад болю... Такія ж, як у Алены! Вядома, як у Алены, калі яны, абедзве без слёз, развітваліся на парозе дакторскага дома...)

...Апалонаў злосна завойкаў — вар'ят гадоў сарака, седзячы ў яго за спінаю, трымаўся не за плечы, а за доўгія валасы і, відно, тузаў іх, як лейцы.

Да галоўнага фасада было метраў пяцьдзесят, вада паднялася вышэй каленяў. У флігелі заставалася яшчэ чалавек пятнаццаць.

Роўна праз гадзіну, калі ўсе хворыя былі перанесены, Алаіза ўжо не магла рухацца. Вада крыху апала, але ногі ў мокрых чаравіках, якія цяпер здаваліся жалезнымі, змерзлі так, што не чула нават пальцаў. Трэба было перамяніць на сабе ўсё дачыста, — хоць бы з таго гардэроба «Кацярыны трэцяй», што ляжыць недзе на іхнім гарышчы. Але самае галоўнае, што цвіком засела ў памяці, — чамаданчык з рукапісамі, у кутку на канапе.

Стомлены Апалонаў ажно згінаў у каленях ногі, але паслухаўся яе просьбы і ўжо невядома як сам упрасіў весляроў павярнуць назад.

Яны знайшлі дом «Кацярыны трэцяй» не адразу. Камяніцы былі падобныя адна на адну — і сваімі аднолькава шэрымі, мокрымі сценамі, і пустымі вачніцамі вокнаў.

Каля аднапавярховага драўлянага дамка, зачапіўшыся за нейкі жалезны прут, калыхаўся труп чорнай каровы, на круглай гары жывата шарэла гурбачка снегу. За выпрастаную нагу зачапіліся блакітныя дзверы.

Убачыўшы іх, Алаіза ажно прыўзнялася, вочы тут жа самі пачалі шукаць блакітныя парэнчы балкона. Сапраўды, хутка знайшла іх — рэзка вытыркаліся над цёмнаю пасля ночы сцяною, хаця самога балкона ўжо не было.

Не было і страхі. Пасярэдзіне гарышча, гладка падмеценага шалёным навадненнем, тырчаў толькі чырвоны комін. Ні стала, ні канапы, ні чамаданчыка з ўсімі яе рукапісамі.

Адзін з грабцоў, рыжавусы і вельмі ж маршчыністы, дзіўна падобны на Сымона са Старога Двара, сцягнуў са сваіх ног чобаты, паставіў іх перад Алаізаю і мякка прагудзеў:

— Ступі ў мае, паненка, а то ногі адбярэ. Гэта ж вада.

... Вада запоўніла ўсе вуліцы і дамы Васільеўскага вострава. Вада несла ў сабе многа тых, хто яшчэ ўчора жыў на белым свеце, радаваўся ці бедаваў, але жыў! — вада размыла сады, брукаванкі і магілы, несучы ў мора ўсё, што так моцна чаплялася за зямлю, было самою зямлёю. Але ж яна, вада, зносіла ў далёкае мора і трухло, і рыззё старых гарышчаў, і пустыя мроі-ілюзіі, вылізваючы з сэрцаў апошнія сумненні ў тым, што гэтае новае, дваццатае стагоддзе яшчэ пакажа сябе, яшчэ прынясе людзям не адно нечаканае вянасце і не адну грозную буру...

Вецер біў у твар снегам і гнаў перад ялікам густую пену. Ад промняў блізкага сонца вада навокал зрабілася барвоваю, і Алаізе раптам здалося, што ўся гэтая паводка налілася крывёю...



# РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

## 1

За акном бушавала першая, яшчэ зімовая навальніца, моцнымі парывамі ветру і дажджом біла ў сцены новага асабняка на пятай лініі Васільеўскага вострава, дзе Алаіза здымала невялічкі ніжні пакой. І раптам — загрымела. Камяні грому важка перакочваліся па калдобінах начной нябеснай дарогі. Потым так моцна гахнула, што здалося: яшчэ імгненне і ўсё навокал расколецца і распадзецца на вялізныя цёмныя глыбы. І адразу ж яшчэ раз бліснула... Але хутка, пасля некалькіх крыху слабейшых грамавых раскатаў, неба падабрэла і супакоілася. Толькі часам бліскала.

...Алаіза стаяла перад акном у сваім цёмным халодным пакойчыку, накінуўшы на плечы шырокі вязаны шаль, глядзела, як у фіялетавых прагалах кляновай алеі раз-пораз усплёсквае і разліваецца навокал серабрыстае сяйво бліскавак. Успышка, другая, трэцяя...

Стаяла доўга, скаланалася ўсім целам ад прамозглай сырасці, слухала ўдары расхваляванага сэрца. Урэшце начная навальніца ціха, неўпрыкмет сышла, неба зрабілася чыстым, нават заззяла некалькі вялікіх самотных зорак. Раніца надыходзіла светлая. І гэта ўсцешыла. Перад ад'ездам дахаты ёй трэба яшчэ многае давесці да ладу, шмат што зрабіць. І галоўнае — развітацца з мілым Пецярбургам.

...Яна чакала Андрэя, як і дамаўляліся, яшчэ з пачатку зімы. Але яго не было.

Урэшце нахлынула такая роспач, што хоць ты плач. Не магла саўладаць з трывожнымі, незразумелымі прадчуваннямі, чакала хоць бы кароценькі ліст ад Андрэя з Вільні, але Вільня не абзывалася. «Былого кубок, полный яда...» Тады пачала часцей хадзіць да людзей на сходкі, уцягнулася ў іх шалёнае кола, нават колькі разоў выступала, здзіўляючыся нечакана рэзкай у сабе змене. Бо хто раней мог проста так выцягнуць яе на аратарскі эшафот. Цяпер ішла сама. Куды толькі падзелася хранічная маўклівасць. Быццам жывы агонь раптам шугануў з магрудзей. Яна так змянілася за кароткі час, што не магла і сама звыкнуцца з дзівоснымі праявамі і нечаканасцю свайго новага жыццёвага круга. Задумвалася, што ж штурхае яе вось так слепа кідацца ў незнаёмы людскі вір, але на ўсе пытанні знаходзіла толькі адзін адказ. І адказ гэты — жаласць. І да сябе таксама... Але найболей — да іх, спрацаваных, так рана змарнелых работных кабет, чый акалечаны лёс будзіў у сэрцы такую пякучую жаласць, што яна — ішла... Ішла сама ў вогненную раку, не шукаючы кладак, не пытаючы броду. Гэта была вялікая, высокая жаласць. І Алаіза не саромелася. І нічога ўжо не баялася. Можа, таму і «лятучыя лісткі» атрымліваліся ў яе нават лепей, чым у Вацюка-«тройцы». Але Алаіза ведала, што гэта толькі набліжэнне да галоўнага, ведала і цярпліва чакала моманту, калі сіла нябесная штурхне яе да пісьмовага стала, пакліча дзеля аднаго — пісаць... апавяданні... вершы. Трэба толькі назапасіць вялікае цярпенне і дачакацца тае шчаслівай хвіліны натхнёнасці. Бо пісаць ёй было пра што.

Запаліла лямпу і ўзяла з палічкі любімы томік Жорж Санд, адкрыла наўгад: «Пралікі ў жыцці нічога не значаць...» Вось так. «Трэба спадзявацца». Чагочага, а спадзявання ў яе ажно залішне. «Трэба любіць, трэба падняцца...» — адчула пашчыпванне ў куточках вачэй, — «...трэба падняцца, сабраць параскіданыя па дарозе абломкі свайго сэрца і з гэтым трафеем ісці проста да Бога...» Укруціла кнот у лямпе і, ухутаўшыся ў шырокі ўтульны шаль, легла на вузкі ложак, жадаючы толькі аднаго — цяпер ні аб чым не думаць, нічога і нікога не ўспамінаць, а толькі — заснуць.

* * *

Рускія вайсковыя манеўры пад Рэвелем завяршыліся, і Вілі, германскі імператар Вільгельм Другі, сігналізаваў з яхты свайму стрыечнаму брату Мікі — самадзержцу Мікалаю Другому — наступнае: «Адмірал Атлантычнага акіяна вітае адмірала Ціхага акіяна!» А праз паўгода па Зімнім палацы праляцела новая свецкая чутка: Вільгельм пачаў настройваць Мікалая супраць грамадскага руху ў Расіі выключна дзеля таго, каб адцягнуць увагу «бурага мядзведзя» ад еўрапейскіх спраў і такім чынам пазбавіцца самага моцнага суперніка на балканскай арэне.

У адначассе сталічныя астролагі з трывогаю назіралі пагрозлівыя нябесныя з'явы: вячэрні квадрат Месяца і Марса пры стаянні Месяца ў знаку Авен, а затым двайное зацьменне Месяца і Венеры. Такім жа «двайным зацьменнем» палітыкі назвалі дыпламатычны адзюльтэр: Мікалай Другі і кароль «шматковай» Аўстра-Венгерскай імперыі Франц-Іосіф падпісалі ўзаемнае пагадненне пра захаванне статуса-кво на Балканах.

У выніку рукі расійскай знешняй палітыкі на Далёкім Усходзе былі развязаны. Еўропа, аднак, маўчала, здагадваючыся, што моцныя рукі гэтыя былі развязаны невыпадкова і што з-за плячэй Франца-Іосіфа вось-вось прагляне валявы абрыс імператара Вільгельма. Затое ў люстэрку ўзыходзячага над Японскімі астравамі жоўтага сонца рэзка акрэсліўся профіль арла двухгаловага. Руска-японская вайна стала непазбежнасцю. І з яе пачаткам ціск у паравым катле пецярбургскага манархічнага фрэгата фатальна ўзрос, але двор не хацеў гэтага заўважаць, і ўжо праз некалькі месяцаў магутным ударам сталічнага масонства пад ватэрлініяй трона Раманавых быў зроблены самы моцны па часе, самы крывавы прабой — паражэнне пад Порт-Артурам. Стрэлкі імперскага гадзінніка ўздрыгнулі і тут жа імкліва паскорылі свой бег, але ўжо... у адваротным кірунку. Адна тысяча дзевяцьсот пяты год набіраў шалёную хуткасць. І вось ужо праз бясконцае дзяржаўнае бязмежжа «от хладных скал до волн Амура» пранізліва і грозна зазвінела сваімі яраснымі бомбамі сляпая тройка першай рускай рэвалюцыі.

* * *

У нядзелю дзевятага снежня Андрэй Гмырак пад'язджаў да Пецярбурга, каб сустрэцца з Алаізаю і потым пайсці да Вацака Іваноўскага.

Пра сустрэчу гэтую яны дамовіліся яшчэ восенню ў Старым Двары. Таму папярэдняга ліста Алаізе ён не напісаў.

Але а пятнаццатай перад Зімнім была расстраляна дэманстрацыя пад вадзіцельствам Георгія Гапона, і, як часта здараецца пры падобным збегу абставін, у камеру для арыштаваных «по подозрению» трапіў, нечакана для самога сябе, і Андрэй Гмырак. Гнюсная алхімія допытаў была яму добра вядомая, і ён цярпліва паўтараў дзяжурным афіцэрам адно і тое ж: адмаўляў сваю прычыненасць да падзей перад Зімнім. Казаў, вядома, праўду, таму так цяжка было яе давесці, але Андрэй Гмырак не шкадаваў высілкаў, запэўніваючы следчых у сваёй абсалютнай палітычнай лаяльнасці. Адказвалі Андрэю таксама ветліва і цярпліва. Арыштаў, маўляў, выпадковых не здараецца. Хіба мала было ў гісторыі звычайных гвардзейскіх шалікаў, што сталі ўдаўкамі для магутных самадзержцаў. Андрэй нерваваўся. Махавік новага дваццатага стагоддзя даўно зрушыўся з месца і набіраў разгон, аднак правілы паліцэйскіх гульняў не мяняліся. Адно добра, што Андрэя ў хуткім часе этапіравалі ў віленскія Лукішкі, дзе можна было неяк знайсці Генісарэцкага і з яго дапамогаю выбівацца нарэшце з закратаванай смуроднай пасткі. Бліснула надзея. Аднак удар быў настолькі моцны, што Андрэя апанавалі нечаканыя турэмныя «сантыменты» і ён, папрасіўшы прынесці ў камеру пачак паперы, пачаў пісаць. Ён пісаў... лісты Алаізе, нанова перажываючы кожны дзень іх апошняй сустрэчы ў Старым Двары. Усё тады здавалася неверагодным. Раней не ўзнікала нават думкі, што можна вярнуць колішнія пачуцці. Так здавалася абаім да таго дня, калі, пасля двух гадоў развітання, яны выпадкова сустрэліся ў Васілішкаўскім касцёле позіркамі... Адно толькі позіркамі.

Цяпер, у турэмнай камеры, Андрэй пісаў свае лісты са шчымлівым адчаем, ужо амаль не верачы, што можна калі-небудзь назаўсёды сустрэцца са сваёй нарачонай, бо каторы ўжо раз перад імі паўставалі не-

дарэчныя перашкоды. Аднак Андрэй Гмырак пісаў, хоць апошнім часам ні на што людскае не спадзяваўся. Звязацца з Генісарэцкім таксама пакуль што не ўдавалася. Міналі Каляды.

* * *

Наступіла празрыстая раніца. Алаіза выйшла з конкі недалёка ад дома нумар дванаццаць на Мойцы, добра вядомага кожнаму пецярбуржцу. Гэта быў дом, у якім калісьці жыў Пушкін.

Цяпер Алаіза ішла сюды, каб развітацца перад ад'ездам дахаты з даўнімі сябрамі — фінам Карлам Косам і яго пятнаццацігадовым унукам Алексантэры Ахола-Вало, з якім цэлы год штудзіравала расейскую граматыку. З бліжняга рэстаранчыка ўжо даносіліся рытмічна зазыўныя гукі моднага негрыцянскага танца керы, які пераможна наступаў на Пецярбург з парыжскіх салонаў Мільса. Алаіза мінула рэстаран і хуценька ўзбегла на другі паверх высокай аблупленай камяніцы. Пазваніла. Убачыўшы ў дзвярах госцю, гаспадар ажно пасвятлеў вачамі. Гэта быў высокі сутулаваты стары фін з хударлявым тварам і хвалістымі бакенбардамі жоўтай сівізны.

Праз хвіліну, даведаўшыся аб прычыне Алаізінага прыходу, Кос кінуўся гатаваць гарбату, але яна спыніла: «Я толькі на хвіліну!»

— Тады сядайце сюды! — гаспадар засмяяўся і паказаў на адзінае ў пакоі вальтэраўскае крэсла каля галандскай печы, засланае клятчастым пледам. — А я — перад вамі вось тут на ўслончыку, як стары паж. І не глядзіце так сурова і неміласціва на мае маршчыны, фрэкен Алаіза.

— Пан Кос, маршчыны не заўсёды сляды пакут і бяссоннай работы, але хутчэй страсцей, — засмяялася.

Усе сцены гэтай кватэры былі завешаны малюнкамі Алексантэры: юны талент яшчэ ў Атэнеўме заўважыў сам Ілля Рэпін. Алексантэры нават хадзіў на занняткі ў майстэрню знакамітага мастака, але толькі да таго часу, пакуль не загінулі пры шторме яго бацькі. Цяпер юнак жыў разам з дзедам, успадчыўшы і яго прафесію камінара.

— Значыцца, Пецярбург вас болей не натхняе, фрэкен? Ну, што ж...

Стары фін падняўся, пануры і згорблены, зашаркаў да стракатай шырмы, што аддзяляла ўвесь левы куток пакоя. Асцярожна абмінуў пісьмовы стол пасярэдзіне, над якім застыла вісячая лямпа з агромністай меднаю талеркаю. Крыху пастаяў перад шырмаю, даволі смешны ў старых, невядома чыіх форменных штанах і вастрадзюбых скураных шлэпах, імпульсіўна, як малады, крутнуўся назад і зноў сеў, япічэ ніжэй угнуўшы плечы, на свой зэдлік перад Алаізай, амаль падпіраючы грудзіну вострымі каленьмі. Праціяў яе з-пад навіслых броваў насмешлівымі вачыма:

— Значыць, едзеце. А Цютчава вы ведаеце?

— Чытала крыху.

— Асмелюся нагадаць, фрэкен, што гэты знакаміцейшы рускі паэт большую частку свайго жыцця пражыў далёка ад радзімы і нават быў жанаты з баварскай арыстакраткай Ботмар. Там жа напісаў свае лепшыя рускія вершы. «Умом Россию не понять». Помніце? Вось вам урок. А вы кажаце... — Зноў падняўся і захадзіў, зашоргаў шлэпамі. — Можа, якраз далёка ад родных «пенатаў» і нараджаюцца шэдэўры? Вы не задумваліся? Вот такія «казкі егіпецкія»!

Стары фін стаяў перад Алаізаю, высокі і худы, як высушаны да касцей моцным марскім ветрам. Толькі вочы сінія-сінія, як неба.

— Але, пан Кос, я ж і не ведала, што пан так улюбёны ў літаратуру.

— А вы, канешне, думалі, што я толькі коміны ўмею чысціць?

— Чаму ж... Вы і мазгі каму трэба прачысціць зможаце! Так?

— Знайце, фрэкен Алаіза, знайце, што цяпер вы смяецеся над безнадзейна закаханым у вас старым няўдачнікам! — Кос адчайна жартаваў, але Алаіза надта добра ведала гэтага чалавека і ўжо зразумела: здарылася нейкая бяда.

— А дзе мой любімы вучань? Я прыйшла дзеля такой важнай справы, а яго няма!

— Казарэз саплівы, зусім адбіўся ад рук.

— Так я і паверыла, — яна нарэшце паднялася з крэсла і падышла да сцяны насупраць. — Паслухайце... Вось гэты марскі пейзажык з камянямі на беразе... Яго тут не было. Новая работа Александэры?

— На такую работу, фрэкен, яму хапае толькі пяць унцый энтузіязму. — Кос махнуў рукою.

— Жахлівыя рэчы вы мне гаворыце! — Як ні дзіўна, але побач з Косам Алаізу заўсёды ахоплівау асабліва прыўзняты настрой.

— А! Усё ж бажэсцвенай маёй калінавай настойкі, фрэкен, не-не, і не адмаўляйцеся, але настойкі вы ў мяне сёння вып'еце, — не чакаючы Алаізінай згоды, Кос імгненна знік за дзвярыма, што вялі ў калідорчык. А яна крыху пастаяла перад новым пейзажам з валунамі на марскім беразе, увесь час косячыся на стракатую шырму з правага боку. І раптам, сама ад сябе не чакаючы такой дзёрзкасці, працягнула руку да шырмы і міжволі адхінула яе. І тут жа сустрэлася позіркам з крыху спалоханымі, але вострымі вачамі яшчэ маладога светлавалосага, вельмі бледнага чалавека, які ляжаў за шырмаю на дзіцячай канапцы ў самым кутку. Рука адразу ж тарганулася назад, шырма плаўна вярнулася на ранейшае месца. А яна не магла ўсвядоміць, што ўсё ж здарылася. Ясна было толькі адно, што гэтыя вочы яна недзе ўжо бачыла! Без сумнення — бачыла. Але цяпер, трывожна чакаючы Коса, пакуль што не магла ўспомніць. Бакавыя дзверы адчыніліся. Увайшоў Кос з графінчыкам. Нацягнуўшы на пераноссе скошаныя акуляры ў срэбранай аправе, пачаў наліваць яркую чырвоную вадкасць у маленечкія, з напарстак, кілішкі. Паднёс адзін з іх Алаізе. Рука яго заўважна трымцела.

— Ну, хоць на язык вазьміце, фрэкен Алаіза.

— О-о... Як вы самі кажаце — «казкі егіпецкія»!

— Аціанілі? І ўсё роўна ад'язджаеце?

Адказала на гэты раз стрымана і сур'ёзна:

— Трэба ж і даўгі свайму народу сплочваць, пан Кос.

Кос з разуменнем уздыхнуў, але праз хвілю густыя сівыя бровы яго над блакітнымі вачамі іранічна ссунуліся.

— Але як жа вас адпускае ваш вікінг?

— Пан Кос! Які вікінг? Я даўно ўжо засела на амэн.

— А вот гэта ўжо сапраўды «казкі егіпецкія», фрэкен. — Кос раптам глянуў на яе з нейкай асаблівай, незразумелай пакуль хітрынкай. — А хочаце, раскажу вам адзін рэцэпт?

— Ну, якая з мяне кулінарка, пан Кос? Хіба гаршчэчак паранага бобу згатую... А на большае не здатна... Вот так!

— Нічога, у вас яшчэ ўсё наперадзе.

— Божа магутны, пан Кос, апошнім часам усе толькі тое й кажуць, што ўсё яшчэ ў мяне наперадзе.

— Ах, фрэкен Алаіза, людзі гавораць праўду. Значыць — рэцэпт. Як падарунак будучай гаспадыні. Называецца «Агітатар біты». Значыць, так. Узяць агітатара звычайнага, ачысціць ад пракламацый і верхняга адзення...

— Пан Кос, вы што?

— ...ачысціць ад верхняга адзення, ад споднягa таксама і, склаўшы напал, біць да мяккасці.

— Ну, знаеце.

— Гэта я ў свецкай прэсе прачытаў. — Кос пасумнеў, але працягваў: — Потым, абмазаўшы злёгку смалою альбо дзёгцем, пасыпаць пер'ем і пусціць на ўсе чатыры бакі! — Стары фін, відно, хацеў засмяяцца, але замест гэтага праз шкельцы акуляраў у яго вачах бліснулі слёзы.

— Пан Кос, дзе ўсё ж Александэры? Ну, скажыце мне...

— Ах, фрэкен. Мы ўсе цяпер перажываем, як пішуць газеты, «жорсткі момант» і бяздумна падымаемся за свабоду, як салдаты на севастопальскай пазіцыі. Помніце ў Біблії: «Лянівы скажа — «Леў на дарозе!» — стары фін плакаў. — А леў, фрэкен, даўно ўжо на плошчах.

— Александэры арыштавалі?

Кіўнуў згодна:

— Колькі разоў я яму казаў: «Хіба можна хадзіць па гарачых вуголлях і не абпаліць ног сваіх?»

— Калі яго арыштавалі?

— Ужо тыдзень. І паверце, усе абвінавачванні — хлусня. Але адзін мярзотнік, чуеце? — Кос расхваляваўся і цяпер ужо не звяртаў увагі на ціхенькае пакашліванне за шырмаю. — Ён лічыць, што мой Александэры дапамог... Недзе на Шпалернай, з прэдварылаўкі, уцяклі тры рэвалюцыянеры...

— Але як?

— Праз комін... І толькі таму, што Александэры камінар і займаецца тым жа, чым усё жыццё займаўся

і я, майго ўнука проста так узялі і арыштавалі! Я ім казаў, бярыце мяне!

— Але ж ён амаль дзіця...

Апусціўшы плечы, Кос церабіў свае бакенбарды доўгімі і чорнымі ад пастаяннай работы з вугалем і сажаю пальцамі, потым заблымаў вачамі, але тут жа, зняўшы акуляры, выцер слёзы.

І раптам Алаізе нясцерпна захацелася падысці да шырмы і яшчэ раз глянуць на таго, хто ўвесь час цярпліва слухаў іх гаворку з Косам. Яна нават ступіла пару крокаў у той бок, але гаспадар тут жа дакрануўся сваімі доўгімі чорнымі пальцамі да яе пляча: не трэба! Адвярнулася.

Пазней, ідучы па вуліцы, Алаіза зноў успомніла той позірк незнаёмага за шырмаю, і раптам у глыбіні памяці, як прычакаўшы зручнага моманту, імгненна ажылі прымары маленства. І яе здагадкаю пранізала: «Костусь!» Яна яшчэ не была пэўная, што ў доме на Мойцы сапраўды бачыла Костуся Каранца, але стрэмка засела. Толькі аднойчы, яшчэ два гады назад у Старым Двары дзед Гаўра таямніча шапнуў ёй, што Костусь жывы-здаровы, толькі вось «паехаў у Рыму». Але пра тое, адкуль гэта ўведаў, не прызнаўся. Андрэй таксама маўчаў. Трэці год Костусь Каранец у Старым Двары не аб'яўляўся. Але цяпер Алаіза ўжо ведала, што Костуся Каранца яна абавязкова і нават хутка сустрэне.

* * *

Каля Егіпецкага моста, зусім блізка ад ротмістра Генісарэцкага, стаялі два пецярбургскія арыгіналы, адзін з якіх, шчуплы нервозны калека з мылічкамі, увесь час нецярпліва пастукваў адной з іх перад сабою. Невераемна высокі лоб яго пад смушкавым брыльком адліваў хваравітай жаўцізною.

— А ўсё, прафесар, наша расейскае «рукавапусціе», — шчуплы задзірыста пазіраў знізу ўверх на свайго мажнога, з пасярэбранай барадою субяседніка. Той невядома з-за чаго апраўдваўся:

— On k'entre pas! Kompe Palen at hovrhe au sucre![1]

— Згодны, прафесар. Няхай Пален, як кажуць там

[1] Ваш Пален засахарыўся! *(фр.)*

у вас у Дзяржаўным Савеце, засахарыўся... А вы самі? Вы?!

— Паверце, Анатолій Фёдаравіч, я даўно пераконваю гасудара вырваць гэты хворы зуб, іначай пачнецца кастаед.

— Ужо, як бачыце, пачаўся.

— Гасудар слухае толькі сваю камарыллю.

— Ад іх невыноснай балбатні, прафесар, у мяне нараслі такія душэўныя мазалі, што...

Генісарэцкі прыбыў у Пецярбург, каб назаўтра ж адправіцца ў Фінляндыю, папярэдне сустрэўшыся з Альфам. У сваім лісце з Жэневы ягоны агент паведамляў пра намер прыснапамятнага Гапона склікаць тайную канферэнцыю прадстаўнікоў розных палітычных груп, у тым ліку і ад Беларускай грамады. Хто меўся ехаць у Фінляндыю ад віленскіх беларусаў, пакуль заставалася таямніцаю. Ротмістр міжволі вяртаўся ў думках да жанчыны, чые сляды былі ім згублены, але якая апошнім часам яму даволі часта ўспаміналася: Алаіза Пашкевіч. Азяблы Пецярбург здаўся Генісарэцкаму асабліва хмурым і трывожным. Але, нягледзячы на балотна-шэрую абстаноўку, вуліцы былі досыць людныя. Ротмістр скептычна назіраў за «кавалерственнымі» дамамі пад парасонамі, якія важна плылі з моста на тратуар. Ён трымаўся за тоўстыя звёны ўнушальнага ланцуга, і металічны халадок пакольваў руку нават праз пальчатку. Да сустрэчы з агентам заставалася хвілін дзесяць.

— І паверце мне, Анатолій Фёдаравіч, пры ўсім — такое абуральнае бессаромнае маўчанне ў Савеце, што Еўропа здзіўляецца толькі!

— Як сказана ў Ісуса, сына Сірахава, адзін не гаворыць, бо няма чаго сказаць, а другі таму, што час для яго яшчэ не настаў, — шчуплы яшчэ нешта ціха прашаптаў ледзь не ў бараду свайму субяседніку, і той згодна кіўнуў вялікаю галавою.

Перайшлі на французскую. Да Генісарэцкага даляталі толькі асобныя словы. Даводзілася цярпліва чакаць, і гэта раздражняла. Аднак з Альфам важна было сустрэцца менавіта сёння. А суседзі ўжо гаварылі пра Шведскую акадэмію і Нобелеўскую прэмію.

— Здаецца, прысудзілі тром дастойнейшым, Анатолій Фёдаравіч, а вы...

Генісарэцкі раптам адчуў, што яму зрабілася горача, бо зразумеў: гэты шчуплы чалавек у старамодным чорным макінтошы на мылічках не хто іншы, як знакаміты Анатолій Фёдаравіч Коні. Той самы адвакат, які быў старшынёю ў судзе над тэрарысткай Вераю Засуліч. Неверагодна геніяльны аратар, ён настолькі рассіропіў сваёю прамоваю сэрцы «дванаццаці сфінксаў», прысяжных паверэных, што яны вынеслі, насуперак імператарскай волі, апраўдальны вердыкт.

— Нобель на «сей раз» у Бенкерэля — за адкрыццё радыевых промняў — і ў абаіх Кюры, якім удалося выдзеліць з руды радыевую соль...

— Адчуваю, што за гэтым адкрыццём вялікая будучыня! Верце маёй інтуіцыі. Рэвалюцыя ў навуцы і ў філасофіі.

— «И обе говорят мне мертвым языком ■ тайнах счастия и гроба».

— Вы такі ж непапраўны песіміст і глухі да ісціны.

— Памілуйце, прафесар, vivos voco[1]!

Прыцішылі тон. Толькі недавольны прафесарскі басок:

— Цяпер не час, Анатолій Фёдаравіч. Не настойвайце.

— Я не...

— У двары траур пасля смерці прынцэсы Гесенскай.

— Восем гадоў было дзіцяці.

— Як бачыце, і там тыфус.

— Прафесар, перад смерцю, вы ж ведаеце, усе роўныя: дзеці і сівыя старцы, прынцэсы і жабракі. А жыццё ідзе. Так што...

— Ах, Анатолій Фёдаравіч, пры трауры ў пакоі імператрыцы — уваход забаронены. On k'entre pas!

Крыху памаўчалі. Дзьмуў моцны вецер. Зносіў наўскасяк пад мост сівы рой снегу з дажджом. Нават у новым шынялі Генісарэцкаму было зябка. Унізе цямнеў і нядобра блішчаў фіялетавы, гатовы вось-вось узарвацца над Фантанкаю ўжо тонкі ледзяны панцыр. Альф пазніўся, і гэта раздражняла ротмістра нават больш, чым балбатня двух пецярбургскіх саноўных шлункаў. Падкаціла пралётка, з яе выскачылі яшчэ двое: бойкія, відно, на падпітку, у модных светлых

---

[1] Клічу жывых у сведкі (*лац.*).

плашчах на баваўнянай падкладцы. Смяяліся. Генісарэцкі раздражнёна назіраў, як на мост узлазіць старая зялёная карэта. Але ў ёй сядзелі, здаецца, толькі дзве жанчыны.

Пачуўся нецярплівы голас Коні:

— ...Мілы прафесар, я зусім не перабольшваю. Помніце пісьмо любімскай памешчыцы: «Пішу вам, цётачка, што я прасіла папеньку настаўніка прадаць. А ён яшчэ двух купіць збіраецца!»

...Карэта на Егіпецкім мосце набліжалася. Генісарэцкі не зводзіў з яе вачэй, але Альфа там не было. Затое... Генісарэцкі не хацеў верыць уласным вачам. Каля самых дзверцаў у карэце сядзела... Алаізія Пашкевіч! Аднак — вельмі бледная і да таго схуднелая, што яе цяжка было пазнаць. Адно што вочы, і на адлегласці відно, па-ранейшаму дзёрзкія і насмешлівыя. І тут ён змеціў, што гэтыя вочы нечакана змяніліся — шырока расплюшчаныя, напоўніліся такім жахам, што ён міжволі азірнуўся і ў тое ж імгненне ўбачыў, як з завулка з гіканнем, пад шалёны грукат капытаў па маставой поўным алюрам на мост вылятае атрад п'яных драгунаў... Генісарэцкі інстынктыўна павярнуўся да іх спінаю, адступіў некалькі крокаў і тут жа пачуў страшны трэск, азірнуўся. Невялікі мост, нібыта прымітыўная дэкарацыя ў правінцыяльным тэатры, раптам тарганууся і, ламаючыся ў хрыбце напалам, разам з драгунамі на конях і зялёнаю карэтаю, што ўжо амаль з'ехала на тратуар, рухнуў уніз у прорву, на цёмны лёд Фантанкі. І адтуль адразу ж данесліся жудасныя крыкі, пранізлівае конскае ржанне і яшчэ такі жахлівы хруст костак і ледзяных аскалабкаў, што Генісарэцкі пачаў страчваць рэальнае адчуванне свету. Адчуў толькі, што нечыя моцныя рукі адцягваюць яго ўбок. Але ён, узбуджаны, моцна трымаўся за высокі слупок агароджы каля самага краю прорвы, невераемнымі намаганнямі суцішваючы нечаканы самаахвярны парыў, жаданне дапамагчы і кінуцца ўніз, туды, дзе ў страшных пакутах гінулі людзі і дзе была яна — Алаіза Пашкевіч. Вочы засціў туман, сэрца калацілася. Аднак яшчэ праз імгненне Генісарэцкі апрытомнеў, затрос галавою, як бы адганяючы бязглуздае насланнё. Зноў, здзіўлена, адчуў у сэрцы гарачую голку. І адразу ж зразумеў, што прычына таму — яна. Тая дзіўная жанчына, пра якую

ён так доўга думаў у Вільні і з якой ужо ніколі не сустрэнецца. Генісарэцкі яшчэ раз глянуў уніз. Па вачах ударыла чорным і крывавым, вецер нёс да берага той самы светлы капялюшык, што быў на Алаізе Пашкевіч. Зрабілася зусім млосна. Аднак, прысаромлены гэтай дзіўнай слабасцю, ён глыбока ўдыхнуў і нарэшце гнеўна падняў вочы на таго, хто ўсё яшчэ адцягваў рамяні партупеі. І адразу ж пазнаў Альфа. Вось пра каго ён зусім забыў. Разгублена прамямліў: «Природа знакомым покойником кажется мне...»

Альф быў спакойны.

— У завулку — мой фаэтон, ваша благародзіе.

— Вы як заўсёды ўчасна, Альф.

— Ваша благародзіе?

— Усё... Фу!

...— Памажыце ж мне! Але...

— Я не хачу гэтага бачыць!..

— Але, Анатоль Фёдаравіч...

— Знайдзіце. Знайдзіце любую калымагу! Богам прашу.

— Вы толькі не хвалюйцеся...

— Прафесар...

* * *

— Мерсі. — Высокая, з вельмі бледным, амаль празрыстым абліччам жанчына ў цёмнай сукенцы прыклала руку да сэрца і злёгку пакланілася. — Аднак, сударыні і панове, мы павінны цалкам давяраць адно аднаму. Да кожнага з вас я зараз падыду і, гледзячы ў вочы, скажу магічнае: «Я належу вам». Калі гэта не шакіруе і не здаецца смешным, зрабіце тое ж самае. «...Я належу вам...»

У прыцемненай зале са свечкаю на круглым, чорнага дрэва стале сабралася чалавек дваццаць даволі маладых людзей. Некалькі гвардзейскіх афіцэраў і злёткі пецярбургскай залатой моладзі, якія прыйшлі да Анатолія Фёдаравіча Коні, дакладней, да яго Ануушкі, у гонар прыезду з Адэсы мадам Жаліхоўскай.

— А вам, мадэмуазель Алаіза, усё ж лепей перачакаць у іншым пакоі. А дзе Ануушка? Добра, я сама вас правяду. Пасля такога стрэсу вам, я бачу, яшчэ і цяпер нялёгка. Але нічога. Для вас гэта драма ўжо завяршылася. Абышлося, як бачыце, толькі

лёгкім перапалохам. Я не кажу, вядома, пра псіхалагічныя, м-м... Ну, вы мяне разумееце... Але ўсё пройдзе! — На Алаізу пазіралі надзвычай вялікія вочы, у глыбіні іх іскрыўся цэлы феерверк яркіх блакітных жарынак. Дзівоснае ўражанне. Толькі цяпер, за дзень добра адляжаўшыся і адагрэўшыся спагадлівай дабратою гаспадароў гэтага дома, Алаіза пачынала пасапраўднаму разумець, што ж адбылося ў гэтую жахлівую раніцу. Цікава толькі, ці засталася жывою дзяўчына, якая сядзела побач з ёю ў зялёнай карэце. Алаізіна памяць вяртала цяпер толькі рэзкі ўдар у плячо і яшчэ тое, што дзверцы карэты адарваліся і яна, як паднятая нечымі дужымі рукамі, была выкінута з сядзення на тратуар, пераляцела цераз даволі высокі парапет. Потым — моцны ўдар спінаю аб зямлю. І, здаецца, бяспамяцтва.

Мадам Жаліхоўская лёгка кранула Алаізу за локаць — тады паслухмяна падалася ў суседні бакавы пакой. Праз хвіліну туды ўвайшла і Аннушка — невысокая жанчына, як кажуць, без узросту, з сівымі хвалістымі валасамі і шэрымі, шырока расплюшчанымі і надзвычай добрымі і разумнымі вачамі. Успомніўшы, як сустрэлі яе ў гэтым доме, Алаіза падумала, што Аннушка, Анна Віктараўна, нездарма абагаўляе свайго ляршыстага Анатолія Фёдаравіча Коні, з чые добрай ласкі Алаізу і прывезлі сюды ад Егіпецкага моста і адразу ж запакавалі ў гарачы кокан з розных прымочак і грэлак. Адно блага — з таго моманту яна не магла хоць на хвілінку спакойна задрамаць. Толькі западала ў глыбокі помарак і трызненне.

Аннушка заклапацілася:

— А знаеце што — ляжце тут. Так-так. На канапу. Чаму б і не?! Тут спакойна. А я вас прыкрыю пледам.

— Унікальны выпадак. — Жаліхоўская паклала Алаізе на лоб гарачую, як прас, далонь. — Заплюшчыла вочы! Тое, што вы засталіся жывою пасля ўсяго, — не проста цуд, Алаіза, гэта, прабачце, ужо нешта... Аднак мы з Аннай Віктараўнай падумаем пра вас, добра?

Запанавала цішыня, абедзве жанчыны, відно, выйшлі. Але праз хвіліну, калі Алаіза і сапраўды пачынала драмаць, дзверы даволі моцна стукнулі. Уздрыгнула, аднак адплюшчыць вочы не змагла. Пазнала глухаваты бас прафесара:

— Анатолій Фёдаравіч, верце мне! Рэвалюцыя і містыка, як бачыце, два бакі аднаго медаля і аднолькава моцна ўплываюць на мяшчанства. Выдзеліўся нават асобны тып людзей, схільных да грубага містыцызму.

— Мне здаецца, ім проста прыелася жыццё на нашай прэснай планеце, прафесар, — гэта ўжо задзірыстыя інтанацыі Коні. — Гляньце, а наша пададпечная, пасля такога стрэсу, але яна, здаецца, спіць! Давайце выйдзем.

— Толькі не да мадам Жаліхоўскай. Збаўце мяне... Абяцаю вельмі ціха... Ах, нашы дамарошчаныя містыкі... Анатолій Фёдаравіч, яны проста не могуць узвысіцца да ісціннага разумення будучага замагільнага жыцця...

— Таму і займаюцца яго фальсіфікацыяй?

— Шарлатанства!

Мужчыны гаварылі сапраўды вельмі ціха, але Алаіза ўсё чула. Трэба было неяк паказаць ім, што яна не спіць, але не магла нават падняць павекі. Галаву абвалiла важкая цемра, пякуча ціснула на скроні.

— Паверце, прафесар, я вельмі незадаволены, што Аннушка занялася такім глупствам. Але ж — мода, разумееце. Проста — мода. — Коні ціха, але даволі прыязна рассмяяўся. — Мода...

— Як сказаць. Можаце лічыць простым супадзеннем, але ў пару сваіх «младых ногтей» у адной з паездак у Кіеў... Там якраз жыў і Вітэ. Гімназіст... І ён пазнаёміў мяне са сваёй стрыечнай сястрою. Мадам Блавацкай. Ваша Жаліхоўская, дарэчы, яе пляменніца.

— Пляменніца Блавацкай? Выбачайце, але калі я вас зразумеў, то Вітэ — брат Блавацкай?

— «Преизряднейшая» тэафістка была, скажу вам!

— Аднак цікава.

— Паверыце, у вашай мілай Марыі Георгіеўны Жаліхоўскай, як і ў яе унікальнай цёткі, такія ж незвычайныя, проста незямнога харaства вочы. Атарапець можна. Я тады настолькі моцна захапіўся мадам Блавацкай, што пасля не змог болей нікога сур'ёзна пакахаць.

Фальцэтны смяшок Коні.

Чутно было, як мужчыны адышліся да акна.

— Зноў дождж, — прафесар цяжка ўздыхнуў. — Так баляць суставы... Асабліва ногі. Дарэчы, граф

Сяргей Юльевіч адносіцца да сваёй сястрыцы-тэафісткі даволі скептычна. Праўда, на словах. А як ён думае на самой справе... Вы ж ведаеце яго натуру.

— Калі верыць усяму, што мне расказвалі, то ваша колішняя дама сэрца была сапраўдным медыумам.

— Хочаце сказаць, што яна выклікала істот з таго свету?

— Вы ж ведаеце, як я стаўлюся да ўсяго падобнага. Аднак мадам Блавацкая — рэбус і эпіграма!.. Ніколі ўсур'ёз не займалася музыкай, але давала канцэрты ў Парыжы! І нават была капельмайстрам у сербскага караля Мілана. Капельмайстрам аркестра і хору!..

Чутно было, як абодва перамоўцы асцярожна адсунулі ад стала крэслы і селі. Нехта лёгка барабаніў пальцамі па стале. Ах, як жа цяжка вось гэтак «спаць».

— Анатолій Фёдаравіч, калі раскласці замагільнае жыццё на пекла і рай, то ўсё пытанне ў тым, з якой жа часткі выйшаў дух, які пасяліўся ў Блавацкай на час яе зямнога існавання.

— Можна толькі здагадвацца. Але скажу: «Няма сілы не ад Бога».

Стукнулі дзверы. І адразу ж — перастук абцасікаў.

— Гэта проста немагчыма! Я так і ведала.

— Ціха-ціха, Аннушка. Ну, пашкадуйце нас.

— Але, прафесар, як можна? Мы ж чакалі вас.

— Анна Віктараўна, гэта не для маіх ног!

Рыпенне дзвярэй.

— Але ж мы нікога не ганялі вакол стала, — цяпер ужо нізкі, крыху насмешлівы голас Жаліхоўскай.

— Ах, мадам, вашы сеансы ўсё ж не для мяне. — Прафесар не здаваўся.

— І не для мяне, мілая! Цалую ручкі! Просім прабачыць, але ў нас з прафесарам неадкладныя справы. Ах, мілыя дамы...

Смех Аннушкі і стук дзвярэй. Пачуўся глыбокі парывісты ўздых Жаліхоўскай, Алаіза адчула на сваім лобе яе гарачую важкую далонь і нарэшце з цяжкасцю змагла расплюшчыць вочы, па якіх тут жа ўдарыла яркае святло.

Агледзелася. За сталом, насупраць канапы, сядзелі мадам Жаліхоўская і Аннушка, паклаўшы перад сабой і гартаючы даволі тоўстыя кніжкі. Усміхаліся.

— І што вы бачылі ў сне? Раскажаце? — пыталася Жаліхоўская.

— Я сапраўды сніла. Сон быў імгненны, перад самым вашым прыходам. Але я яго запомніла.

— Ну і?..

— Магу толькі сказаць... Спачатку нецікава. Нейкая бойка белых і чорных сабак, пэўна, дабро і зло... Але потым я ўбачыла высокага, зусім незнаёмага мужчыну ў светла-карычневых апратках з такім чыстым, такім прасветленым абліччам. І мы ішлі разам з ім і з іншымі людзьмі па такіх страшных пячорах, што я думала — не выйдзем. І раптам адчула: наперадзе дзверы. Адбыўся ўзрыў, выбух, разумееце...

Жаліхоўская засмяялася:

— І вы ўбачылі?

— І я ўбачыла перад сабою агромністае серабрыстае поле, як засыпанае снегам, але рассечанае яркай маланкай. Зігзаг імкнуў некуды ўверх, далей. І тут я змеціла на гэтай бліскавічнай дарозе чорную кропку, я ўбачыла там — сябе. І яшчэ далёка наперадзе засвяціўся вялікі крыж! Мне здалося, як на Галгофе.

Жаліхоўская і Аннушка моўчкі пераглянуліся, Аннушка тут жа пачала таропка гартаць свой фаліянт.

— Алаіза, вы бачылі, — Аннушка прыплюшчыла вочы, і гэта надало яе абліччу асаблівую задумлівасць і таямнічасць, — спачатку вы бачылі сябе ў мінулым жыцці, мая мілая. І тое, што з тых страшных пячор вас вывеў наверх ваш анёл... ...О так, вы бачылі свайго анёла... Гэта — добра. А серабрыстае поле, — Аннушка скасілася на Жаліхоўскую, як просячы падказкі, але тая маўчала. — Гэта ваша цяперашняе жыццё, і яно ў вас, мяркуючы па зігзагах бліскавіцы, няпростае.

Жаліхоўская згодна кіўнула галавою, павярнулася да Алаізы:

— Вы, Алаіза, калі нарадзіліся?

Адказала, ледзь стрымліваючы жаданне рассмяяцца. Жаліхоўская, відаць, гэта заўважыла, недавольна ўскінула бровы, але тут жа ўзяла сябе ў рукі, адгарнула некалькі старонак, засяродзілася.

— Ваш Плутон, та-ак... Можаце радавацца, пэўна скажу, што вы ўжо многа адпакутавалі і многа перажылі ў мінулых увасабленнях.

— Не разумею.

Жаліхоўская нават не звярнула ўвагі на гэтае нясмелае Алаізіна «не разумею», спакойна працягвала:

— О так, многа перажылі і, паверце мне, напрацавалі такую сілу і такую вышыню, што можаце толькі ўдзячна славіць Госпада, — Жаліхоўская падняла тонкія рукі, задумалася, і тут на яе бледным лобе блiснулі кропелькі поту, як пасля цяжкай работы. — Але бойцеся, бойцеся раздваення. Па ўсіх вашых планетах праходзіць гэты страшны знак. Не пускайце ў сябе чужую сілу, Алаіза!

— Я не разумею.

— Вы толькі вельмі ўважліва слухайце і запамінайце. А зразумееце потым. Нават калі ў памяці застануцца асобныя словы... Але пройдзе час, і вы абавязкова іх зразумееце. — Жаліхоўская стомлена прыкрыла тонкай рукою вочы. — І запомніце маю шчырую параду, Алаіза, — адносцеся да ўсяго пафіласофску. Навучыцеся радавацца. Вы прыйшлі ў жыццё, каб радавацца, але самі ж знішчылі ў сабе гэтае шчаслівае пачуццё. Ну, вось бачыце, зноў насупілі бровы.

Засмяяліся. Аннушка нарэшце падняла галаву. Шэрыя вочы яе пазіралі на Алаізу з цеплынёю.

— Ах, калі б вы толькі ўявілі. — Жаліхоўская ў роздуме правяла па лобе сваімі трымтлівымі пальцамі. — Ах, калі б вы толькі зразумелі, як многа дадзена вам планетамі! У мяне нават галава кружыцца. Паверце, я ўжо столькі гадоў гавару з зоркамі пра людзей. Я расчытала гараскопы Івана Грознага і вялікага Пятра... — цяпер Жаліхоўская пазірала толькі на Алаізу. І ад пільнага позірку яе вялікіх, з тым жа ненатуральным глыбінным бляскам, вачэй у Алаізы закружылася галава.

— О так, мадам, — Аннушка, пэўна, змеціла Алаізін стан, павярнулася да Жаліхоўскай. — Аднак яе Сатурн у дзевятнаццатым градусе Рака. Магічная фраза: «Святар, які выконвае шлюбную цырымонію». Самае высокае Боскае наканаванне.

— Вось бачыце! З такімі планетамі, дарагая, і сапраўды нельга было загінуць. Зразумейце, вы прыйшлі на зямлю з высокай задачай, з высокай місіяй і калі дойдзеце да нядобрых думак і тым болей да нявартых вашай годнасці ўчынкаў, то знайце: вышэйшыя сілы не прабачаць і ўдараць за падобнае кашчунства.

Гэтыя дзіўныя жанчыны за сталом ужо і не глядзелі на яе, а толькі ціха перамаўляліся між сабою, але іх нязвыклую мову нельга было зразумець. Алаіза таксама прыплюшчыла вочы, адчуўшы, як павекі працінае знутры гарачая моцная сіла.

— Мадам, але мяне трывожыць яе Меркурый у Рыбах. Разумееце?

— Меркурый у выгнанні? Гм. Мілая Алаіза, — той жа моцны, ва ўпор, позірк шалёнага блакіту. — Ваша вядучая планета Венера. Каханне і творчасць! Касмічная невераемная сіла, якая ў вас заключана, нараджае магнітныя буры. Вы прыцягваеце людзей да сябе, Алаіза, вы можаце моцна ўплываць на іх, разумееце? Венера вядзе ваш дух, але падштурхоўвае яго Меркурый, розум ясны і цвярозы. Давярайце сваёй інтуіцыі, яна ў вас магутная. Вось так, дарагая.

Жаліхоўская нарэшце выпрасталася, разгладзіла сукенку на грудзях, адкінулася назад, да высокай спінкі крэсла, заціхла.

— Мадам, але яе Плутон...

Пачуўшы надзіва рэзкі голас Аннушкі, Алаіза нават уздрыгнула, бо зусім забыла пра яе прысутнасць тут. Існавала толькі Жаліхоўская. Памарачэнне нейкае. А Аннушка яшчэ раз ціха, але настойліва паўтарыла:

— Яе Плутон!

— О, так. — Жаліхоўская ўважліва глянула на Алаізу. — Ведайце: ваша здароўе цяпер у вашых руках, а пра ўсё, што было раней, лепей забыць. Адкіньце непатрэбнае. Паслухайце старую мудрасць: знішчыце вынік, знішчыцца і прычына. Шукайце сябе сапраўдную, збаўцеся ад дробязных думак. І помніце: каму многа дадзена, з таго і многа спытаюць. Альбо высокі шлях самаўдасканалення, альбо... — рэзкі рух тонкай рукі ўніз. — Так, дарагая, альбо ў Аід! І рассыплецеся друзам, ператворыцеся ў мярзотнага слімака ці проста заляжаце на вякі каменем... Помніце аб гэтым...

Алаіза адчувала, як уедлівы камарыны звон запаўняе галаву, і яшчэ чамусьці пачала балець і налівацца калючай гарачынёю ўся левая палавіна цела, асабліва рука ад самага пляча. А звон усё мацнеў і нават закладаў вушы. Ці не Аннушка зноў:

— Толькі беражыце сваё я, Алаіза.

— Не разумею.

З-за дзвярэй данесліся мужчынскія галасы. У нейкае імгненне здалося, што яна пачула голас Андрэя, але зноў моцна заплюшчыла вочы, як адганяючы слухавую прымару.

— Аднак, Алаіза, бачу, што мы стамілі вас. Вам што, няможацца? — Жаліхоўская мякка пагладзіла яе па галаве. — Аннушка, пара нам, а мадэмуазель Алаіза няхай крыху падумае. Адзью, мілая.

Алаіза села на канапку, прыціснулася патыліцаю да халоднай сцяны, адчула ў целе прыемную палёгку. Так працягвалася, здаецца, некалькі секунд. Але калі яна адплюшчыла вочы, мадам Жаліхоўскай і Аннушкі ў пакоі ўжо не было.

## 2

Пасля трагедыі на Епіпецкім мосце і паездкі Генісарэцкага ў Фінляндыю мінуў тыдзень. Па вяртанні ў Вільню, дазнаўшыся пра становішча Андрэя Гмырака, ротмістр забегаў і сапраўды зрабіў амаль немагчымае — выбавіў старога сябра з камеры.

...А ў Вільні пачыналася вясна.

Вакзальны перон пасля кароткага дажджу са снегам цёмна блішчаў.

— Мон шэр, дазволь пазнаёміць... Баранеса Кацярына Гольштамт. — Побач з Генісарэцкім, які прыйшоў на вакзал, каб правесці Андрэя ў Маскву, стаяла незнаёмая маладая жанчына.

Андрэй пацалаваў пяшчотную, але халодную прадаўгаватую руку і, падняўшы галаву, змеціў, як на яго з-пад чорных броваў з высакамерным спакоем пазіраюць вялікія блакітна-зялёныя вочы. Жанчына была яшчэ ў зімовай вавёрчынай шапачцы і моднай доўгай накідцы з шырокімі рукавамі.

— Баранеса таксама ў Маскву і, здаецца, едзе ў тым жа вагоне, што і ты.

Андрэй з ветлівай абыякавасцю схіліў галаву, маладая баранеса Гольштамт успыхнула, падфарбаваныя вусны яе незадавольна тарганулiся.

— Прашу ўлічыць, мон шэр, наша мілая Кэтрын, баранеса так дазволіла сябе называць, заканчвае медінстытут і нават збіраецца стаць хірургам.

Андрэй адвёў позірк убок. Аднак. Такімі пяшчотны-

мі ручкамі — рэзаць чалавечае цела? Ім, пэўна, усё ж наканавана нешта іншае.

— Я чуў, у медыцыне цяпер такія рэформы?..

Кэтрын скептычна звяла тонкія бровы:

— Нашы хвалёныя рэфарматары зрабілі старушэнцыі-медыцыне ампутацыю абедзвюх рук, панове. А самі закрылі на ўсё вочы і імкнуцца толькі ўверх!

Смех Генісарэцкага. Аднак гэтая маладая баранеса з медычнага інстытута далёкая ад салоннага крыўляння. А першае ўражанне зусім іншае. Андрэй азірнуўся. Воддаль ад іх, акружаныя вайскоўцамі, збілася ў купку некалькі вязняў у шэрых турэмных куртках і такіх жа халодных котах на нагах.

— Ахвяры ідэй сацыялізму, — недарэчна кіўнуў у іхні бок Генісарэцкі.

Андрэй раптам успыхнуў:

— Твая хвалёная куртызанка-паліцыя таксама завагітнела сацыялізмам, не чуў?

Генісарэцкі стрымана ўсміхнуўся:

— У мяне асабіста вельмі строгая дыета, мон шэр, і есентукі нумар сёмнаццаць.

Кэтрын гарэзліва перавяла позірк з Андрэя на Генісарэцкага:

— Вы даўно з Пецярбурга, Віктар?

Генісарэцкі толькі схіліў галаву.

— Ах, а мне Пецярбург заўсёды нагадваў паруру са штучных камянёў.

— Як сказаць, мілая Кэтрын. Але населены ён такімі ж, як і ваша Масква, двухногімі нашчадкамі знакамітай малпы.

Андрэя чамусьці зноў узвінціла:

— Знаеш, дарагі, я гатовы пакланіцца нават шымпанзе, калі даведаюся, што яна, хоць і выпадкова, выйшла ў людзі!

— Брава! — баранеса зааплядзіравала і глянула на Андрэя з падкрэсленай адкрытай цікаўнасцю, паўтарыла: — Брава...

Генісарэцкі крыху здзіўлена ціха сказаў:

— Аднак ці не зачаста тады прыйдзецца табе кланяцца, мон шэр?

Андрэй і сам быў здзіўлены ўласнай рэзкасцю ў адносінах да свайго выратавальніка. Прынамсі, калі б не Генісарэцкі, то турэмная эпапея магла б зацягнуцца для яго на доўгія месяцы.

— Мушу адысціся, з вашага дазволу...

— Прагуляйся, мон шэр.

Андрэю сапраўды захацелася цяпер пабыць аднаму. Напэўна, так сябе адчувае кожны, хто ад'язджае ў іншы горад, не ведаючы яшчэ, навошта ён едзе туды і ўвогуле ці зможа наладзіць там новае жыццё. Каля супрацьлеглага выхаду з вакзала чакаў сваіх пасажыраў стары татарын з коньмі — яшчэ ў зімовым жоўтым кажушку ■ башлыком і ў штанах з вярблюджага сукна. Прыветліва кіўнуў Андрэю, але да брычкі ўжо каціўся таўстун з баулам у старым, але з добрым бабровым каўняром паліто. Як цені, праходзілі міма Андрэя, таўкліся бедныя мяшчане, найболей у шэрым і карычневым, ■ невераемна вялікімі дарожнымі кашолкамі і чамаданамі. Іншыя, даволі рэдкая публіка, былі апрануты ўжо болей па-веснавому: у светлых палітонах і капелюшах, з тростачкамі і парасонамі.

...Тое, аб чым расказаў Андрэю пасля вызвалення з турмы Генісарэцкі, ён успрыняў, як здалося спачатку, амаль спакойна. Праўда, нейкі час адчуваў сябе нязвыкла — хадзіў з пастаяннай звонкай пустатой у галаве. Усё цела таксама чулася чужым. Нібыта толькі што яго размарозілі пасля моцнай зацяжной зімы і ён павінен быў вучыцца жыць нанова. І — вучыўся. Паціху пачала вяртацца здольнасць звычайна, як і раней, адчуваць смак стравы, радавацца сонцу альбо дажджу, спаць і — бачыць сны. І кожны раз у гэтых снах была Алаіза. Раніцаю ён думаў: напэўна, гэта да яго зноў прылятала са свае недасяжнае вышыні Алаізіна душа, каб хоць крыху пабыць разам. Генісарэцкі расказаў пра зялёную карэту ў Фантанцы з такімі жахлівымі падрабязнасцямі, што ён тут жа на злом галавы кінуўся на вакзал, каб паехаць у Стары Двор. Але на вячэрні цягнік спазніўся. А назаўтра раніцаю думкі прынялі іншы накірунак, і Андрэй зразумеў, што нікуды яму ехаць не трэба. Андрэй пакутаваў, адчуваючы, што нават Вільня, і асабліва Вільня без Алаізы, раптам страшна абрыдла. І тады прыняў рашэнне адклікнуцца на даўняе запрашэнне свайго маскоўскага сябра. Колькі прабудзе ў Маскве — аб гэтым нават не думаў. Збіраючыся ў дарогу, наткнуўся на лісты, якія пісаў у турме, каб аддаць пры сустрэчы самой Алаізе. Хацеў знішчыць іх, нават распаліў грубку, але не змог,

быццам меўся кінуць у агонь нешта жывое. Ідучы на пошту, каб адбіць тэлеграму ў Маскву, нечакана для самога сябе прыхапіў і гэты пачак лістоў. Адаслаў іх Алаізе. Проста ад роспачы.

— Аднак мы гаварылі якраз, што ты перадумаў ехаць, — Генісарэцкі насмешліва закінуў галаву. — Ваш сусед па купэ, баранеса, скажу адкрыта, сентыментальны алігатар.

Пачуўся рэзкі званок дзяжурнага па станцыі. Цягнік набліжаўся. Навокал шумна затузаліся, і, здаецца, толькі цяпер Андрэй заўважыў, што перон перапоўнены даволі грубым мітуслівым людам.

Генісарэцкі на развітанне пацалаваў ручку даме, потым стрымана пакланіўся Андрэю.

— Я пакідаю вас з адчуваннем поўнага душэўнага спакою, так? Думаю, мой друг, мілая Кэтрын, зробіць усё магчымае, каб доўгая дарога стала вам удвая карацейшаю.

Андрэя груба штурхалі, але ён стараўся хоць як аберагчы ад нецярплівай чыгуначнай публікі прыцíхлую Кэтрын, якая па-ранейшаму не зводзіла з яго зацікаўленага позірку.

— Я чула, калі гэта праўда, што ў вас загінула нарачоная? Вельмі вас разумею, таму што сама нядаўна засталася адна.

Ён стаяў перад гэтай амаль незнаёмай жанчынай, абураны недарэчнай балбатлівасцю Генісарэцкага, і нават не ведаў, што трэба адказваць у падобных выпадках. Адчуў накат гарачай злосці, узяў, схамянуўшыся, з рук Кэтрын невялікую капялюшную каробку.

— У вас які вагон? Ах, прабачце, я і забыў...

У вагоне, размясціўшыся, ён зноў ніяк не мог знайсці тэму для гаворкі і таму зрабіў самае простае — запрасіў сваю нечаканую спадарожніцу ў рэстаран.

А ўвечары таго ж дня з Пецярбурга ў Вільню выязджала Алаіза Пашкевіч.

* * *

— А такімі мондрымі, як мы, веш, увесь Антокаль абгарадзіць можна!

— Толькі не грубіяніць, панства! — Алаіза нязлосна засмяялася, і ўслед за ёю прымірэнча рассмяяліся і

абодва грамадаўскія пеўні — Ян Луцкевіч і Карусь Каганец.

Карусь — шчуплы, з нервова-бледным, ажно зеленаватым, як ад недаядання, тварам і з тонка падстрыжанымі рудымі валасамі, увесь час задзірыста паўтараў сваё «веш!», кідаў на Яна крыху недаверлівыя позіркі. Выйшла на кухню паглядзець, як даварваецца бігус. Дадаўшы ў амаль гатовы боршч крыху солі, прачыніла дзверы ў залу. Ян і Карусь зноў спрачаліся. Назірала цяпер за імі збоку. «Вось прыйшлі і два ліцвіны, прынязлі гаршчок бацвіны...» Абмяркоўвалі, як лепей выдаць дзіцячы лемантарык, як, урэшце, узбіцца на сваю газетку. З Кракава меўся прыехаць Баршчэўскі, каб забраць гатовую для друкавання кніжку. Чакалі астатніх грамадцаў. Пазірала сціху на Яна — худы, з нездаровым жарам на ўпалых шчоках і з хваравітым бляскам у цёмных вачах — з тых падзвіжнікаў, пра каго адзін злаславец так спакойненька сказаў ёй нядаўна: «Вось і гарыце сабе на алтары ідэй і запушчаных сухотаў».

Яна пасялілася пакуль што ў цесным бакавым пакойчыку братавай афіцэрскай кватэры на Хівінскай. Па прыездзе на станцыю, адразу ж, выходзячы з вакзала, сустрэлася з Каценькай Івановай, і тая хоць і на хаду, але паведаміла пра спешны ад'езд Андрэя Гмырака. Куды? Здаецца, у Маскву. І надоўга? Пацiснула плячамі. Але чаму? Прабач, але — бягу! бягу... Хто ж яго ведае. Гэтыя мужчыны, Ліз! Ды кінь ты...

Алаіза нічога не зразумела, але ад'езду Андрэя чамусьці не здзівілася. Адчула, праўда, пад'ём абурэння, але прыкрыкнула на сябе: «Ціха, даражэнькая! Паехаў — значыць, так трэба. Разбярыся спярша».

...Ян загарэўся спрэчкаю, і яго бледныя вусны трымцелі. Спачувальна зірнула і на Каганца: нядаўна перакачаўся ў гішпанцы, але гэта, здаецца, яшчэ болей падняло яго ваярскі дух. Трэці, Уладак Пазняк, археолаг, сябра Антося Луцкевіча, — высокі і хударлявы, з гарачым позіркам невялікіх цёмных вачэй, моўчкі стаяў каля акна. Крыху адкінуў гордую галаву, і Алаіза сціху залюбавалася ім. Яны пазнаёміліся толькі ўчора, але хапіла, каб зразумець відавочнае. Уладак — з тых, да ліку каго многія адносілі і яе самую, называючы амаль грэбліва: фанатычка! Але ж з

такімі, як ён, Уладак Пазняк, і можна рабіць цяпер беларускую справу.

Ян і Карусь Каганец спрачаліся пра выгоды новай зямельнай рэформы, і збоку магло здацца, што яны сварацца. Але ведала, што сваркі тут не будзе.

Пастукалі ў дзверы. Пайшла праз залу. Пачула Карусёва: «У каго няма народа — у таго і Бога няма!»

Пастукалі грамчэй, але яна ўжо адчыняла дзверы.

— Ці не тут збіраюцца на бігус?!

Незнаёмы, падняўшы над акуратным вожыкам светлых валасоў модны чорны капялюш, усміхнуўся і, не чакаючы запрашэння, пераступіў парожак, стаў перад Алаізаю, чакаючы.

— Казкі егіпецкія, Сцяпонас!

А ён ужо кінуў шыкоўны капялюш на вяшак, нахіліўся да яе, светлы ўпарты вожык свяціўся.

— Адкуль, як?

Выпрастаўся, усмешлівы, белазубы, глыбока, радасна ўдыхнуў паветра.

— Ты што, яшчэ падрос?!

Засмяяўся, прымружыў шэрыя, глыбока пасаджаныя вочы. Гарэзліва пакратаў сябе за кончык носа:

— Толькі ўчора з Лондана, Цётка. Дачуўся выпадкова, што і ты тут. А не змянілася. Хоць... папрыгажэла!.. — Паглядзеў на яе такім глыбокім уважлівым позіркам, што, здаецца, працяў сэрца.

(«А вось так нельга».) Адвяла вочы.

— І — памаладзела!

— Ну, ведаеш, у маім узросце толькі й застаецца што маладзець і прыгажэць!

— Ох, і ўзрост жа!

— З мяне досыць. Што маю — усё сваё, непазычанае.

Ян ужо выходзіў з-за стала:

— Ідзі сюды, князёк шаўляйскі!

— Аднак і ты, Саванарола, ад цюльпанаў хаваешся?

Падышоў Карусь.

— Яно ведама...

Абняліся.

— Ну, калі такая публіка, то, бачу, доўга пасядзім.

— Мне — на кухню! Галодныя нябось.

Падышлі яшчэ, але нямнога. Якраз пад абед. Антось Лявіцкі асабліва здзівіў і падвысіў настрой. Уда-

лечыні ад Вільні нават не здагадвалася, якія моцныя таленты падгадаваліся. І гэты самаахвярнік беларускі — Антось. Абедаючы, нахвальваў бігус, смешна прыгортваў леваю рукою даўгаватую бараду. Нядаўна прыехаў з Харкаўшчыны і цярпліва пацеў у шэрым бурнусе з фестонамі па борціку.

«Жыву якось, Цётка... Богу грэшны, а цару маскоўскаму — вінаваты! І ненавіджу крывапіўцаў. Ох, і смачны ж твой бігус! Толькі от уехаў са сваім мужыцкім дышлам у афіцэрскі жолаб». Адмахнулася: «Будзеш са мной так — сліжакоў з макам не дачакаешся». — «А ты, Цётка, ужо нігды не зменішся. Я ўсё бачу». — «А навошта мне мяняцца, не скажаш?»

Чыталі Вацакаў ліст. Усё-такі давёў да ладу сваю частку дзіцячага лемантарыка, амаль цэлае лета седзячы ў Баровічках. Цяпер слова за Карусём і, ведама ж, за ёю, Алаізаю.

...Разыходзіліся неахвотна. Сцяпонас адразу ж адвёў яе ад усіх убок. Потым яны яшчэ доўга блукалі па старых утульных дворыках Антокаля.

— Я прызнаю толькі адну рэвалюцыю, Сцяпонас. І толькі аднае яе чакаю.

— Адну?

— О так. Для — беларусаў! Абуджэнне прыроды — гэта, скажы мне, што? Дрэва вясною — нараджаецца нанова, зацвітае, потым даспявае новымі пладамі. Але мы — таксама прырода! Частка вялікай Сілы. Ну і што, калі сад майго народа крыху зазімаваў... Але ж вясна непазбежная, разумееш?

Сцяпонас маўчаў, ды гэта яе не бянтэжыла.

— Абуджэнне — закон зямной прыроды, і калі гэта завуць рэвалюцыяй — то няхай! Якая розніца. Толькі б усё змянілася. Толькі б — на лепшае.

Ён трымаў яе азяблыя рукі ў сваіх гарачых і грэў, хукаў на кончыкі пальцаў, потым пачаў іх цалаваць. Сапраўды сагрэліся. Ішлі, не разбіраючы дарогі, толькі чула, здзіўленая, нават праз сагнутую ў локці Сцяпонасаву руку, за якую трымалася, чула, як моцна, як пругка б'ецца яго сэрца.

— А ты не баішся, Алаіза, не баішся, што... як толькі настане гэтая самая вясна, то знойдзецца які-небудзь чужы садоўнік і прышчэпіць вашай беларускай яблыньцы дзікую галіну, прыўе нешта зусім іншае, чужое?

— Баюся, а як жа. Таму так і баліць сэрца.

Чула, як Сцяпонас усё мацней прыціскае яе руку да сябе.

— Барані нас Божа ад такіх садоўнікаў. Царскі шавінізм... Вось дзе зло.

— О, гэты будзе здыхаць, курчыцца, як скарпіён, а ўсё роўна хоць хвастом, а ўджаліць! О вы, «неаглядныя нашы кладзьбішчы»! Алаіза, мілая, ты думаеш, я не веру, што рэвалюцыя вызваліць і нас таксама?! Ад гэтага кашчуннага расейскага горбу. За такое... За такое можна і жыццё... Хаця жыцця тут мала. Дарэчы, ты хоць ведаеш, што я рыхтую літоўскі з'езд?..

— Адкуль жа мне ведаць? І ні разу за ўвесь вечар не прагаварыўся.

— Я і цяпер не павінен быў бы...

— Як кажа наш Ян: нацыянальная палітыка — справа ювелірная.

— Яшчэ б! А колькі даводзіцца ісці на кампрамісы з тымі, каго, здаецца... Але майму народу, мілая мая, як і твайму, патрэбна толькі адно...

— Свабода?!

— Свабода. Свабода, Алаіза.

Прайшлі крыху моўчкі, і Алаіза ўжо хацела павярнуць назад. Сцяпонас быццам адчуў гэта, яшчэ раз задумліва паўтарыў: «Свабода...» І тут жа мякка засмяяўся:

— Але сёння... сёння асабіста ты нават і не думай пра свабоду! Вось так! — Прыпынілася, не разумеючы. — Толькі не адмаўляйся, добра?

— Сцяпонас?!

— Сёння, чуеш, сёння мы ідзём з табою...

— Толькі не ў госці.

— Але гэта не просценькія госці...

— Злітуйся!

Але Сцяпонас ужо рашуча павярнуў у незнаёмы глухі завулак.

...Тут гаварылі і па-літоўску, і па-руску. Як толькі яны са Сцяпонасам увайшлі ў прасторную пярэднюю, Алаіза адразу ж пазнала невысокую, ужо немаладую, але, як дзяўчынка, тоненькую гаспадыню. Пазнала, хоць столькі часу мінула з тае жахлівай начы, калі яны з Андрэем ехалі ад Броэль-Плятара пасля знаёмст-

ва з Радзівіліхай. Запомніўся і страшны пажар, які прывёў яе ў чужы, незнаёмы пад'езд, у кватэру да прыветлівых Білюнасаў. Ёнас, помніцца, вельмі доўга чытаў ёй свае вершы. [redacted] тае пары і пачалі перапісвацца. Пісалі адно аднаму рэдка, але пастаянна.

Сустрэліся толькі цяпер. Юлія, аднак, покуль што яе не пазнавала. Ёнас стаяў каля акна вялікай прасторнай залы, цалкам захоплены гаворкай з доўгавалосым маладым чалавекам.

— Цяжка паверыць, але чарнасоценныя пракламацыі ў Маскве друкавалі ў вуглавой вежы перасыльнай турмы! Карацей, паліцыя спачатку ўзяла некалькі тэрарыстаў з Чыстапруднага. А потым «арыштавала» і даставіла гектограф! Ідэальна! — Доўгавалосы засмяяўся. — Такія паліцэйскія штучкі!

Юлія ветліва ўсміхнулася Алаізе.

— Пачувайцеся як дома, — павярнулася да Сцяпонаса: — Сцяпонас, пазнаём жа нас...

Алаіза яшчэ раз крыху скептычна і шматзначна глянула на Юлію — і тая раптам успляснула далонямі, пачырванела:

— Божа міласэрны, адзіны ў Святой Тройцы? Алаіза? Ёнас, ідзі хутчэй сюды. Пашкевічанка аб'явілася!

А праз хвілін пяць гаспадары ўжо знаёмілі яе з тым самым доўгавалосым, з мяккімі задумлівымі шэрымі вачамі:

— Барыс Вігілёў.

Але пагаварыць яны не паспелі. Ёнас, папрасіўшы прабачэння, адразу ж адвёў Барыса да акна, толькі кінуў Алаізе:

— Сёння мы з Юляй вас нікуды не адпусцім!

Каля Алаізы ўжо стаяў апрануты ў клятчастую тройку мужчына з задумліва-сумнымі прыплюшчанымі вачамі. Над ружаватымі вуснамі — акуратна падстрыжаныя кароткія вусы.

Юлія пры знаёмстве лёгка кранула Алаізу за плячо:

— Беларуская паэтка! Так, Алаіза? А наш Чурлёніс — таксама ў свіце Мельпамены. Музыкант і мастак. Я ўпэўнена, вам будзе цікава.

Падышоў Сцяпонас, усміхнуўся Алаізе, але праз хвіліну зноў — да Ёнаса з Вігілёвым.

Чурлёніс глянуў на Алаізу, але тут жа насупіўся, адвёў позірк убок. Зразумела, што гэтаму чалавеку даспадобы хутчэй не кампаніі, а толькі адзінота.

— Вы ўжо скацілі са свае дарогі камень зла?

— Адной мне з ім цяжка справіцца.

— Для такой работы трэба пытаць дапамогі ў высокага неба, ва ўсіх зямных і нябесных сіл. Але ж, — зірнуў на яе нечакана цвёрда, — трэба спяшацца. Каб не застала ў дарозе завіруха. Крывавая і небяспечная для жыцця.

— І для розуму?

— О, так! — задаволена ўсміхнуўся. Паўтарыў: — Небяспечная для жыцця і розуму.

— Але найперш, пэўна, для таленту?

— Найперш — для таленту!

— Хапіла б толькі часу, пан Чурлёніс.

— Я не ведаю, што такое час. Кажуць, час — тое, што разбурае наша цела.

— Для мяне, пан Чурлёніс, не крыўдуйце за такую прастату, але для мяне час умяшчаецца, скажам, у тым, што чалавек паспеў зрабіць на зямлі, што паспеў выканаць з наканаванага.

— А вы, паэтка, вы не баіцеся, што не паспееце, бо можаце памерці раней часу?

— Раней? Хто ведае свой тэрмін на зямлі? Вы?

— Я — ведаю. Ведаю.

— Што ж...

— А хіба вы, паэтка, не ведаеце?

Што было адказаць?

— Смерць, Алаіза, гэта ж зусім не тое, аб чым гавораць людзі. Бо гэта... Калі перастаеш бачыць фарбы, калі не чуеш музыкі, не разумееш слова. Вось што — сапраўдная смерць! Памірае душа.

— Але што тады рабіць з целам? Калі душа мёртвая?

— Сам думаў аб гэтым. Калі цела — проста непатрэбны пусты сасуд... Насуперак нашым застылым рэфлексіям і пагасламу сэрцу цела не знікне па першым жаданні чалавека. І гэта трагедыя.

— Пан Чурлёніс, але ці варта так спяшацца ў неба? Калі і на зямлі няма ніводнай сапраўднай радасці, то падумайце, ці знойдзеце вы іх на небе. Падумайце. Небу бракуе нават гэтай фантастычнай панурасці, якая часта апускаецца на зямлю, асабліва ночаю. Няма на небе і тых віхураў, каторыя дзьмуць на зямныя далоні...

Ціха падышоў Сцяпонас, запытальна глянуў на Алаізу: не сумна?

— Лепей бы ты сыграў, маэстра!

— Дарагі, апошнім часам наша грамадства, і я разам з ім... Мы толькі вегетуем.

— Апатыя генія!

Сцяпонас зноў адышоўся да Вігілёва.

— Знаеце, паэтка... Таленавітая жанчына — як ільвіца. Ходзіць па брыльянтах, як па звычайным пяску на беразе акіяна.

Чурлёніс рэзка павярнуўся і накіраваўся да фартэпіяна, што стаяла каля акна злева. Аднак на паўдарозе спыніўся, павольна павярнуўся да Алаізы і даволі гучна сказаў:

— Мой знаёмы мастак нядаўна зарабіў многа грошай. І як усё проста, аказваецца. Проста... Нейкі там банкір з Ліверпуля захацеў падараваць сваёй дачцэ ці пляменніцы, не помню... Але капшук з Ліверпуля папрасіў майго знаёмага мастака за вялікі ганарар упрыгожыць алегарычным малюнкам адну рэч, думаеце, што? Пару жаночых панчох! А ў панчохі былі ўшыты банкаўскія білеты. І моду на такое, з вашага дазволу, мастацтва ўвяла звычайная кафэшантанная зорка! Вось ён — шлях будучага мастацтва! Але, прабачце, мушу развітацца.

* * *

...Было ўжо блізка да поўначы. Яны засталіся са Сцяпонасам адны. Білюнасы толькі што выйшлі правесці да вакзала Барыса Вігілёва, якому праз гадзіну трэба было зноў выязджаць у Маскву. Цішыня... І раптам у дзверы ўдарылі нечым важкім. Тут жа пачулася гучнае тупаценне. Алаіза прыслухалася, але за дзвярыма, падобна, нікога не было. Яны сядзелі на канапцы ў зале. Сцяпонас трымаў яе рукі ў сваіх. Потым прыціснўў яе далоні да свайго гарачага аблічча і замёр. Маўчала і Алаіза. Вось толькі рукі не слухаліся. Праз хвіліну яна ўжо адчувала, якія шоўкавыя, якія ўсё ж мяккія Сцяпонасавы падстрыжаныя вожыкам валасы. У дзверы зноў стукнулі. Сцяпонас маўчаў. Не магла варухнуцца і яна. Цела гарэла, трымцлівыя пальцы нецярпліва лашчылі шоўкавы вожык ягоных валасоў. Вусны палалі. І не магла расплюшчыць вачэй.

Не магла на яго глянуць. У дзверы раптам грукнулі кулакамі.

Тады лёгка адштурхнула Сцяпонаса ад сябе і пайшла адчыняць. І тут з вуліцы данеслася хрыплае, злое:

— Жыды царскі партрэт загадзілі!

Жаночы пранізлівы віск.

— І пасмелі, падлы смярдзючыя!

Зноў гучнае тупаценне.

— Страляй, вашбродзь!

Застыла каля дзвярэй і тут жа адчула на плячах важкія Сцяпонасавы рукі. Павярнуў, мякка, але ўпэўнена, да сябе:

— Пагром.

— Адчыні.

— А што Білюнасы скажуць?

— Дзверы ж могуць выбіць.

— Не выб'юць.

— Здаецца, плача нехта.

Сцяпонас моўчкі пачаў адчыняць дзверы, выглянуў на вуліцу, потым прапусціў у пакой маладую яшчэ яўрэечку і дзвюх перапалоханых дзяўчынак гадоў дзесяці і дванаццаці.

— Пане Ёнас, Божа, што там... А дзе пан Ёнас? А пані Юля? Дзе яны?!

— ...Страляйце, вашбродзь!

Дзяўчынкі захныкалі, але маці тут жа на іх цыкнула і раптам кінулася перад Алаізай на калені, схапіла яе за руку, імкнучыся пацалаваць. Алаіза ўспыхнула, адбегла да фартэпіяна. Бяссільна апусцілася на пуфік каля яго. Склала рукі на каленях, чуючы, як пад самым акном зноў важка тупаюць і брыдка лаюцца:

— Недзе сцерва дзелася.

— У каналізацыю правалілася! Заўтра каля Святой брамы выплыве!

Калі прыйшлі Білюнасы, было далёка за поўнач. Перапалоханую суседку з дзяўчынкамі расхваляваная Юля адразу ж вывела з залы ў адзін з пакояў. Алаіза са Сцяпонасам вырашылі дачакацца раніцы, седзячы ў зале на канапе. Запалілі свечку. Юля прынесла лёгкую коўдрачку і падушку. Потым доўга разам з Юляй і Ёнасам пілі гарбату. Зноў засталіся адны. Да самай раніцы. Здаецца, гаварылі пра вельмі сур'ёзнае, самае важнае. Сцяпонас умеў быць надзіва пяшчотным і стрыманым. Толькі адзін раз абняў яе за плечы

гарачай важкай рукою. Але як толькі адчуў, што яна ўся сціснулася, падняўся і пачаў хадзіць па зале.

А яна палала. Пасмяялася сама над сабою, скептычна ўздыхнула. Знясіленая вымушаным бяссоннем, урэшце прылегла на канапку, нацягнула на ногі коўдру. Спатрэбілася і падушка.

Сцяпонас падышоў, апусціўся перад ёю на калені, паклаў галаву на валік канапы, заціх. Але не спаў. Не спала і яна. Ахопленая агнём, здзіўлялася нечаканаму шалу, прыціхла, падціснуўшы калені да самага падбародка, моцна заплюшчыла вочы, упрошваючы сябе ўсё-ткі заснуць. Але сон не прылятаў. Такое было з ёю ўпершыню. Але ж... Андрэй... Ён успомніўся так нечакана. Як жа ён там, у Маскве, Андрэй? У горле загарчэла. Чула, як з душы выцякаюць гарачыя слёзы, рассыпаюцца вугалькамі ў перацiснутым роспаччу горле. Яшчэ мацней заплюшчыла вочы. Сцяпонас нават не варухнуўся. Толькі цяжка, перарывіста ўздыхнуў.

...Калі яна прачнулася, Сцяпонаса ўжо не было. Раніца біла ў акно сонечным золатам блакітнага яснага неба. У сне вымыліся з душы начныя палыновыя слёзы. Нават успаміны пра Андрэя здаліся цяпер не такімі горкімі.

Вось толькі цела... Па-ранейшаму налітае гарачай нецярплівай млосцю. З такім станам змагацца яна яшчэ не ўмела.

З кухні выглянула Юлія:

— Ах, які страшны і дзікі ўчора быў пагром.

— А дзе яны?..

Алаіза пытала ў Юліі пра суседку-яўрэечку з дзяўчынкамі, але тая зразумела іначай:

— Ёнас хутка будзе. Я яго ў краму паслала. Хоць бы купіў што вартае. Ох, паэты вы, паэты... Ну, няхай ужо Чурлёніс такі...

— А чаму ён так рана пайшоў?

— Яму ж яшчэ столькі ехаць дахаты! А Сцяпонас, — Юлія паглядзела на Алаізу з прыхільнай цікавасцю. — Вельмі люблю яго. Вот бы вам...

Алаіза засмяялася.

— Няма калі. Вот з'езджу дахаты, вярнуся. А там, — зноў засмяялася, — а там відна будзе.

— Ой, глядзі. Такімі панамі кавалерамі, як кажа наша суседка, коміны не затыкаюць!

## 3

— Алелюя-а...

Тонкі жаночы спеў у касцёле сягаў усё вышай і ўжо здаваўся Алаізе працяглым стогнам. Захацелася раптам падняцца, як у сне, на ўяўных крылах, узляцець над касцёлам, над усёю зямлёю і там, у светлай вышыні, прыпасці асмяглымі вуснамі да ран Пана Езуса і плакаць, плакаць... «Злітуйся над намі, Пане наш, Божа міласэрны, збаў мяне ад думак пажадлівых — усё пра цела, грэшнае цела сваё, і дай, Божа, волі моцнай, каб узвысіўся дух мой... Памажы і ты мне, Матка Боска, злітуйся нада мною, вазьмі пад сваю апеку».

Па шчоках цяклі слёзы, але выціраць іх Алаізе не маглося. Ад сырога холаду адымаліся ногі, стаяла нерухома, апершыся спіною аб сцяну. Адчула такі моцны прыліў жаласці да сябе самой і да ўсіх гэтых незнаёмых людзей, якія стаялі побач і, молячыся, лёгка ўдаралі сябе ў грудзі ледзь стуленымі кулачкамі, што зашчымела сэрца. Плечы, усю спіну працінаў ледзяны холад муру, але не магла нават крануцца з месца. Нехта лёгенька тузануў яе за рукаво паліточыка, як паклікаў. Нечакана для самой сябе паслухалася, ступіла колькі крокаў да лавы і села, ледзь сагнуўшы задубелыя ў каленях ногі, паставіла іх на драўляную падстаўку ўнізе. Суседка, інтэлігентнага выгляду старая з маленькім худым тварыкам, усё мыляла тонкімі беднымі вуснамі. І Алаіза таксама пачала маліцца, шаптала пацеры доўга і ўтрапёна, ужо нават не чуючы казання ахрыплага старога ксяндза. Людзі ў касцёле пачалі адступаць да сцен, і тады па доўгім, да самых дзвярэй, праходзе спачатку пайшлі служкі ў белым, падносячы над сабою перавітыя папяровымі кветкамі і стужкамі каваныя крыжы, потым, за імі, ксёндз.

Тады паспешліва паднялася, каб далучыцца да натоўпу, які ўжо хваляю выцякаў праз дзверы на падворак. А там, на падворку, працiснулася бліжэй да вогнішча, удыхнула прыемны гаркаваты дымок. Слухала, як ксёндз свенціць агонь. Вогнішча ачахвала. Дзеці грэблі з попельнага краю чорнае вуголле ў гліняныя гаршчэчкі, беглі да вазоў, што радамі стаялі адразу ж за касцельнаю агароджаю.

Сонца было прыцемнена рэдкімі аблокамі.

Алаіза вярнулася на хвіліну ў касцёл, стала на калені і падняла вочы на абраз Маткі Боскай, праз які час супакоена перажагналася, затым пацііху выйшла за дзверы. Не азіраючыся, адразу ж за касцельным цвінтарыкам павярнула да чыгуначнага пераезда. Душу ўсё яшчэ поўнілі спакой і святло. Ішла хутка. Захацелася піць. Здзівілася, калі ўбачыла, што лазовае вечка яе невялікай дарожнай кашолкі прачынена, хацела выняць прыпасеную бутэльку малака. Пальцы нечакана слізганулі па гладкіх халаднаватых кругляшах. Зазірнула ў кашолку і засмяялася. Наверсе, у шматку тонкага палатна, ляжалі два велікодныя фарбаваныя яйкі і акраец пірага з цёмнаю бліскучаю скарынкай. Пэўна, тая ж добрая душа, спагадлівая старэнькая суседка ў касцёле. З памяці зноў паплыло ўзнёслае: «Алелюя-а...»

Ужо амаль бегла па вузенькай сцежцы ўздоўж чыгуначнага палатна. Але хутка задыхалася і прыцішыла хаду. Неба апускалася ўсё ніжай. Наперадзе трывожна мігцелі далёкія чыгуначныя агеньчыкі. Густая важкая ноч ціснула на плечы. Дыхалася цяжка. Кашолка шоргала днішчам па высокіх цэўках сухога выпетранага палыну. Абцасы боцікаў падчэплівалі і таргалі з зямлі старую траву. У халяўкі залятаЛі калючыя каменьчыкі. Прыпынялася і таропка высыпала іх. Ноч падганяла...

Злева зеўрала крутая чорная бездань адхону. Вочы ўжо добра звыкліся з цемраю, але ішла асцерагаючыся, увесь час помніла, што глыбока ўнізе да насыпу падступаюцца густыя дзікія карчы і там цяпер здаўлена каўкалі птушкі, шамацела дробнае звяр'ё. Спіну казытліва перабіралі халодныя лапкі страху. Аднак — нічога, бо колькі ўжо разоў вось так ехала яна дахаты са свае Вільні. А стрэлы рэек ужо ляцелі па мосце між парэнчамі. І сцежка тут рэзка крутнулася ад палатна і зазмяілася з насыпу ўніз.

Пільна ўзіраючыся сабе пад ногі, Алаіза пачала асцярожна спускацца. Цяпер трэба будзе цэлую гадзіну ісці блізу абрывістай безыменнай рачулкі, што яшчэ і не бачная добра, але клякоча зусім ужо блізка і даволі пагрозліва.

Пайшла павольней, сачыла за таямнічым бляскам рачной стужкі, баялася праміну ць кладку. Пасля напрасткі, праз балацявіну і малады алешнік, яна дойдзе

да бальшака наўкруг Ваўкаўшчыны. А там паўкіламетра цераз начны чорны лес. Спяшалася, не чуючы ні страху, ні холаду. І раптам з вязкай цемры даляцеў залівісты сабачы брэх: «е-ех-е...е». Але не спалохалася, а ўзрадавалася. Значыць, двор Каладзішкаў застаўся ўбаку. Пачыналася Ваўкаўшчына. Цемра крыху парадзела, дыхалася лягчэй. Цяпер — напрасткі — да самага Старога Двара. Яшчэ прыспешыла хаду. І тут ледзь не ўскрыкнула ад жаху: проста перад ёю стаяў высокі шыракаплечы волат. Хацела крутнуцца назад. Але апамяталася і раззлавалася на сябе: «Ададбрала памяць!» Колькі разоў, мінаючы Каладзішкаву сядзібу, яна падыходзіла да гэтага адзінокага, амаль напал зламанага навальніцаю дрэва і ўсё роўна забыла. З палёгкаю выдыхнула паветра: праз метраў сто пачынаўся доўгачаканы бальшак. Кашолка, здаецца, пацяжэла, адрывала руку. Пачула голад. Паставіла кашолку на зямлю пад акалечаным дрэвам, выняла пірог і малако. Пірог быў пахучы і салодкі. Даўно, здаецца, не ела так смачна...

Але калі маці, ужо расцёршы ёй ногі змочаным у гарэлцы ручніком, паставіла на стол гліняную місачку з яшчэ цёплаю капустаю, не вытрывала і ўзяла лыжку. У ахвоту ела ўпадабанае з маленства варыва, што смачна пахла добра соленым, крыху прыстарэлым мясам кумпяка.

— А маё сэрцайка так і чула! — маці гаварыла ціха, амаль шэптам, хаця дзверы ў вялікі пакой, дзе спаў бацька, былі наглуха зачынены.

Яны сядзелі ў кухні з вялікай свежапабеленаю печаю за доўгім і шырокім, вышараваным да жаўцізны сталом.

— І надоўга, Лізанька?

— Цяпер — надоўга, думаю. Толькі на пару дзён якіх у Гародню трэба, мамачка.

— От і да Стэфкі зойдзеш, — маці нечакана заплакала.

— Зайду, мамачка. Не плач, ну, чаго ты так!

— Завязеш ёй чаго, наладкуем трохі. Квашаніны, можа.

Зарыпелі дзверы, і ў цёмным дзвярным квадраце забялела высокая худая постаць.

— Ну што? Пшыехалі? — Бацька задаволена засмяяўся. — То чакайце, хоць пінжак на плечы кіну.

...Шпакі веснавалі. З лёту сядалі на разворанае поле, не зважаючы на тоўстых кавак, з раніцы шукалі спажывы. Як пярэстыя чаўночкі, снавалі між частага танюткага бярозавага голля, абсыпанага бліскучай драбнатой першых лісцікаў.

Ад нясцыннага пічоўкання і хрыплаватых пераліваў закладала вушы. Пахла, кружыла галаву чаромха — млосна і зваблівa-горка. Дзяркатa хрыпянула каўка. Пашукала яе вачамі ў бярозавай раскошы. Не каўка, аднак, а шпак-перасмешнік.

Каля адрыны ў глыбіні двара разлівалася белае малако ігрушыны. Яблыні ў садзе смешна вытыркалі ружаватыя пыскі пупышак. Праз сад пайшла да поля і там, па разоры, быстрымі шырокімі крокамі зашахала далей, у малады алешнік на ўскрай Ваўкаўшчыны. Паўсюль праз мёртвую рудую траву ўжо добра дзерлася пругкая зялёная шчотачка. Прабіліся сінія капыцікі.

Пайшла хутчэй. Нізавы вецер падымаў нетрывольны пылок і адносіў убок яго жаўтаватыя воблачкі. Нібыта ўпершыню ўбачыла, як трывожна трапечацца маладое лісце асін — кожны лісцік паасобку. Уваччу мільгацела. Падымалася ленае сонца, залівала ўсё густым залацістым алеем. Ад Алаізіных ног, пры хадзе, торгаліся ў бакі пругкія язычкі лопуху і малачаю. Абмінула невялікую забалаць, залітую чорнаю жыжкаю. Спынілася каля высокага арэшніку, абсыпанага жменямі тонкіх завушніц. Арэшнік цвіў. Пяшчотныя малінавыя шчотачкі вытырквaліся з доўгенькіх акуратных коканаў-пупышак.

Любіла арэшнік, любіла, як ён цвіў. Пайшла далей, і адразу ж у нос ударыла перапрэлым лістам — якраз мінала глухі імшанік, у якім улетку пасвілі быдла. Зямлю заляпіла гнілаватая клейкая ржаўчына. І раптам спынілася — проста перад ёю, за тонкімі стваламі, стаяў, высока задраўшы галаву з выскаленымі зубамі, белы, з рудаватымі плямамі на спіне, сабака. Хацела адразу ж крутнуцца назад. Але сабака нават не павярнуў да яе галавы, не гаўкнуў. Застыў у дзіўнай, ненатуральнай стойцы. Падступілася бліжэй, прыгледзелася: сабака быў павешаны! Імгненна ўявіла, як усё адбывалася. Нехта, ці не гаспадар, нагнуў да самай зямлі асінку, з прывязанай да яе ствала вяроўкаю, другі канец якой пятлёю схапіў цюцькаву шыю. Потым чалавек адпусціў дрэўца, і яно рэзка махнулася

ўверх, цягнучы за сабою, на вяроўцы, і сваю ахвяру. Ствол яшчэ доўга выпростваўся, сабака сутарга драпаў пругкімі лапамі зямлю, здаўлена вішчаў і хроп, прогся мордаю за напятай вісельняй, стоячы на задніх лапах. Хапаў перацiснутым горлам апошнія глыткі паветра, але пятля не адпускала. Так і закарчанеў, выскаліўшы шызы рот з бліскучымі вострымі клыкамі. Якімі ж звярамі бываюць людзі.

Пад тоўстай барадатай сасною горбіўся вялікі мурашнік з рудога шыгалля. І па версе яго роем шнуравала мноства карычневых з тоўстымі брушкамі лясных мурашоў. Паднесла руку да самага верху пірамiды з адтулінкаю ўвахода. Даланю ўмомант апекла. Ягася заўсёды смяялася: «Ну што, доця, пасікалі мурашачкі?!»

Алаіза адышла ад мурашніку — і войкнула: уся паляна была засланая суцэльным блакітна-аксамітавым дыванам пралесак. І тут, нечакана, яна пачула прытарны пах дыму. Спалохана азірнулася, упершыню змеціла, як многа вакол зламаных сухадрэвін, паміж амшэлых пнёў паўсюль тырчала чорнае ламачча. Паляну збоку перарэзала нешырокая дарога, абшытая па краях брусьнічнікам з васкова-бліпчастымі круглымі лісточкамі і белымі бубкамі першацвету. Усё ж далекавата адышлася: да самай Цімкавай сядзібы. Каваль Цімка памёр яшчэ такрок. Яго адзіны сын Стась даўно з'ехаў у Вільню і не аб'яўляўся нават на бацькавых хаўтурах. Сядзіба без гаспадароў здзічала. Зусім нізка, шарготка рассякаючы паветра крыламі, праляцела вялікая прыгажуня-жаўна.

Дым цягнуўся якраз ад Цімкавай сядзібы. І Алаіза пайшла ў той бок. Ледзь прадзерлася праз калючы дзікі маліннік, па якім, наводдаль адна ад адной, высіліся белагрудыя старыя бярэзіны. Хацелася піць. Заспяшалася далей, мнучы пухнаты мох і ярказялёную дзеразу. Зрабілася трывожна.

Спачатку яна ўбачыла саму чорную Цімкаву кузню, пасля ўжо і хату-крывулю. Маленечкія вокны і дзверы хаты былі накрыж забіты пачарнелымі дошкамі, але на ганку, як ні дзіўна, стаяла набранае вядро вады. Вадою, да самага верху, была напоўнена і чараватая дубовая бочка перад кузняю. Дзверы кузні, з прыбітай амаль па ўсёй іхняй шырыні воўчай шкураю, былі прачынены. Над комінам цадзіўся дымок. Сэрца на-

сцярожана сціснулася. Ціхенька стала каля дзвярэй, у плячо і шчаку ўдарыла гарачая хваля. Рыпелі ўключыны. І тут яна ўбачыла: злева, проста на глiністую зямлю былі звалены ў стракатую горку тканыя посцілкі. Прыгледзелася, успыхнула. Гэта былі зусім не посцілкі, а цэлая горба шырокіх слуцкіх паясоў — ці не тых самых, якія ўжо каторы год збіраў па ўсім краі Ян Луцкевіч. Але месяц назад Яна нахабна, сярод белага дня, абрабавалі, забраўшы крыж семнаццатага стагоддзя і шытыя золатам слуцкія паясы. Цяпер пад сцяною кузні ляжала не хараство і не багацце, а бруднае рыззё. На месцы залатых узораў шарэлі брудныя плямы. Залатыя ніці былі выдраны. Дрыжачымі рукамі, гнеўная, Алаіза рванула да сябе дзверы кузні, ступіла ў яе чырвоны прыцемак, спынілася. У кузні былі двое, а на вуголлях каля самага краю горна стаяў шырокі таўсценны кубак з жоўтай трымтлівай вадою. Але не, у кубку была зусім не вада. Так таямніча і цёмна-ільніста, так прыцягальна магло блішчаць толькі золата. І Алаіза імгненна зразумела — у кубку на вуголлі плавіліся слуцкія паясы.

Той з двух, што стаяў злева, трымаючыся за ручку меха, у доўгай, падпяразанай салдацкім рэменем шарачковай світцы, пазіраў проста ёй у вочы. Крывіў тоўстыя пашэрхлыя вусны і часта міргаў. Бялкі яго вачэй здаваліся зусім чырвонымі. Маўчаў. Усю ягоную галаву, да самых броваў, апаясалі пабурэлыя бінты, і амаль па ўсім гэтым турбане паўзла зверху данізу цёмная ад закарэлай крыві тоўстая п'яўка. Адразу было відаць, што тут была не такая даўняя, яшчэ, відно, незагоеная рана.

Другі ў кузні стаяў да Алаізы бокам, ні на імгненне не адводзячы позірку ад кубка. Быў у пацёртым чыноўніцкім мундзірчыку і яшчэ новых фарсістых ботах. Да смешнага танканогі і шчуплы. Доўгія цёмныя валасы яго ліліся па стаячым каўнерыку на вузкія плечы. Ён нават не павярнуўся на рэзкае:

— Стась, до ўжо!

Толькі раззлаваўся:

— Адчапіся ты! — Цяжка выдыхнуў паветра.

Моцна трымаючыся за ручкі доўгіх жалезных шчыпцоў, акруглыя клешні якіх ляжалі на вуголлях, Стась асцярожна падсунуў гэтыя клешні да кубка з расплаўленым золатам — уверх шуснуў сноп зыркіх

жарынак, — незадаволена крэкнуў і раптам, хоць і запознена, спінаю адчуў прысутнасць чужога чалавека. Імкліва, спалохана азірнуўся, убачыў Алаізу, але шчыпцоў з рук не выпусціў. Наадварот, пачаў павольна і асцярожна падымаць іх над вуголлем. Маленькімі крокамі адступаў у кут, падымаючы шчыпцы ўсё вышай.

Алаіза нават не варухнулася. Бачыла, стаіўшы дыханне, як чорныя клешні падняліся ўжо амаль да ўзроўню яе плячэй, потым — аблічча.

І раптам высокі, у бінтовым турбане, рыўком падскочыў да Алаізы, схапіў яе, амярцвелую, за плечы і моцна прыціснуў да сябе. Ажно заплюшчыла вочы. А ён адступіўся, абедзвюма рукамі падштурхнуў Алаізу да выхаду. І тады ўжо, каля самых дзвярэй, нахіліў сваю вялікую галаву ў турбане, узяў яе руку ў свае лапішчы і нечакана пацалаваў. Весела, гучна рассмяяўся:

— Ну, то як вашы ціятры, паненка?

Чалавека было цяжка пазнаць, але гэта быў...

— Міхайла?! З Пінску!

— Пазнала?! Вот так, паненка. Го-го... А ты не змянілася.

Алаіза хацела абняць яго за магутныя плечы, але ўбачыла: Міхайла насцярожана слізгануў позіркам па сваім прыціхлым натапыраным напарніку Стасю, насупіўся, апусціў перад Алаізаю галаву і тут жа нейкім жудаслівым глухім голасам пацягнуў:

— І-і... Ты не думай, я тут ні-ні... Мае віны тут, — кіўнуў на кубак з золатам, — няма. Эх, бяда. Усё мяне, паненка, да нейкага берага гнілога прыбівае.

Алаіза бачыла: Стась апусціў шчыпцы, цікаваў за імі косым позіркам, нарэшце коратка і адрывіста скамандаваў Міхайле:

— Пара! Давай ужо, мілаша.

Міхайла нават не глянуў на яго, толькі даланёю ціскануў Алаізе на плячо:

— Пачакай на двары, паненка, — адчыніў дзверы, — толькі каб нікуды адсюль. Чуеш?

Кіўнула галавою.

Ледзь перастаўляючы самлелыя ногі, падышла да вядра на ганку, набрала прыгаршчы вады, абмыла ёю, ужо цеплаватаю, твар. Потым прыпала спінаю да сця-

ны Цімкавай развалюхі, чула, як з прыемнай казытлівасцю абсыхаюць на сонцы шчокі і лоб.

З кузні выскачыў распараны Міхайла, зачэрпнуў мядзянаю конаўкаю з бочкі і зноў папярэдзіў:

— Адна без мяне нікуды, чуеш?

— Чую.

— От так! — і пабег у кузню.

...Па гэтай лясной дарозе яны дойдуць якраз да алешніку, адтуль ужо добра бачны іхні Стары Двор. Алаіза ішла паперадзе, побач — Міхайла, у салдацкім шыняльку і высокай казацкай папасе, з-пад якой шырэла палоска закарэлага бінту. Следам за ім, бясконца балбочучы, Стась. У лёгкім плашчы і сінім брыльку.

Цяпер Алаіза прыгледзелася да яго пільней — яшчэ зусім малады чалавек, выпетраны да жаўцізны. Стась увесь час папраўляў карычневае кашнэ і гаварыў без перасціху. Адкуль гэты чалавек набраўся такога крама-моўства, Алаіза зразумела, толькі пачуўшы нечаканае:

— Мы сацыялісты-рэвалюцыянеры... — яна не азіралася, але ведала, што Стась звяртаецца толькі да яе. — Мы ніколі не перастанем паўтараць...

— Слухай, — Міхайла памкнуўся ўмяшацца, але Стась загаварыў яшчэ грамчэй:

— Чыя б кроў ні цякла, дзе-небудзь праліваюцца і слёзы. І мы зможам пераступіць праз усё гэта. О так, мілаша! Пераступіць з трапяткім пачуццём страшнага абавязку і трагічнай неабходнасці.

— А што, — рашуча павярнула галаву да Стася, — гвалтаваць, ніштчыць хараство — таксама трагічная неабходнасць?!

— Ах, вы пра паясы? — Здзекліва: — Хлапаманскія штучкі — вось дзе наша бяда!

— Ян Луцкевіч, — прыглушыла голас, раздумваючы, ці варта ўвогуле працягваць. — Дык вось Ян, у якога вы ўкралі... і паясы, і крыж...

Крокі за яе спінаю адразу ж прыціхлі.

— Так, укралі, мілаша! А ён збіраў іх не адзін месяц.

— Знайшоў сабе дзела!

Стась раптам выбег перад ёю на дарогу, але не спыніўся, а крутнуўся бліжэй да Міхайлы, пайшоў з ім побач. Падняўшы руку, выгукнуў:

— О людзі!

Алаіза ледзь не рассмяялася, але ён працягваў:

— О людзі, людзі! Вы прайшлі шлях ад чарвяка да чалавека. Але цяпер, — голас яго танчэў, — цяпер, як малочныя зубы, вы павінны!.. дзеля саміх сябе, дзеля сваёй будучыні, вы павінны вырваць з сябе веру! І ў Бога, і ў сваю дзіцячую свабоду, і ў гэтую вашу гнюсную бессмяротнасць недзе там... — махнуў рукою ці не на высокія кусты алешніку ўздоўж дарогі.

Зноў усміхнулася, змеціўшы пагардлівую Міхайлаву грымасу.

— І што ж нам, бяззубым хадзіць?

— І тады, — Стась як не ўчуў яе насмешкі, — тады ў вас ва ўсіх вырастуць сапраўдныя зубы!

— Бязбожнік ты, мілаша, — уздыхнуў Міхайла.

— Ты мне пра дух? Так? А дух твой, мілаша — гэта ўсё, ведаеш, прадукты нашай плоці! Нашага магутнага цела... Выдзяляецца, як пот!

Міжволі скасілася на гэтае «магутнае чалавечае цела», усміхнулася вачамі да Міхайлы і зноў здзівілася ягонай незразумелай насцярожанасці.

— Значыць, па-вашаму, і рэвалюцыя — толькі вынік жаданняў нашага цела?

— А, падумаўшы, не выключана, мілаша. І калі наша рэвалюцыя ўзарвецца, ведайце! Гэта ўзарвецца не толькі розум! Не толькі розум нашых стагоддзяў, але і дзікае наша вар'яцтва, наша агульнае вар'яцтва. А яно яшчэ кіруе чалавецтвам. І ўсе рэвалюцыі ад таго, што мы доўга таптал і сваю прыроду. І яна бунтуе! Ірвецца наверх.

— А мы, значыць, мусім ёй патураць?

— Абавязкова, мілаша. Чалавечай прыродзе ўласціва толькі адна, толькі адна праўда!

Кашлянула, хацела запытаць пра гэтую праўду, але энергічны Стась апярэдзіў:

— І ў гэтай праўды адно імя: «Я — хачу!», «Я так — хачу!» І іншай праўды ніколі не будзе. Вы толькі ідзіце за сваім «хачу» і станеце вышэй за ўсіх. Ды напляваць на вашы хвалёныя аўтарытэты, ідэалы... Вера... Хрысціянская мараль... Усё — пустата!

— Гэта ж трэба, — хмыкнула. — Гэта ж трэба так сур'ёзна пасягаць на хрысціянскую мараль! Ну, проста страшна мне, — рассмяялася. Яна смяялася і ў той жа час дзівілася не толькі таму, што гаварыў ёй гэты ма-

ленькі доўгавалосы чалавек, але і таму, як паводзіў сябе Міхайла. Раз-пораз нервова праводзіў рукою па лобе, падціскаў вусны. Было відаць, што ён сочыць за кожным Стасевым рухам.

А Стась ужо адстаў і цяпер ішоў за Алаізаю, нават адчула спінаю яго нядобры позірк.

— Перадайце свайму Яну, мілаша...

Хацела азірнуцца, але стрымалася. Ішла, спакойна падняўшы галаву.

— Перадайце яму, што гэтае золата пойдзе на народную справу. На рэвалюцыю. Разумееце, мілаша? А вы... Вы хоць гэтым сплоціце свой доўг. А што да вашага мужыка, то сялянства фармальна — не пралетарыят, — Стась гаварыў, гучна і выразна вымаўляючы кожнае слова. — Так, не пралетарыят. Але яно іграе тую ж сацыяльную ролю. Пацее на той жа нацыянальны фонд, за кошт якога жыруюць эксплуататарскія класы.

— Гэта яго Фрума навучыла, — Міхайла хмыкнуў і скептычна дадаў: — Адна павівальная бабка з мінскіх задворкаў.

Цяпер зразумела, што Міхайла казаў пра Фруму Фрумкіну. Яшчэ раней, у Мінску, чула пра яе ад Антося Луцкевіча. Дабіўшыся сустрэчы з генералам Навіцкім, Фрумкіна ўсадзіла ў генеральскую шыю нож, але, як паведамілі газеты, «причинила только легкую рану».

Алаіза павярнулася да Міхайлы, які ўжо зняў папаху, паказала рукою на перавязаную рану:

— Гэта на вайне, Міхайла? — Не адказаў, толькі ўздыхнуў. — Але ж ты быў на вайне?

— Я тады казаў яму, — Стась зноў ішоў збоку, паміж Міхайлам і ёю, — я казаў: «Якога чорта ты хочаш стаць дурным Ілюшкам Мурамцам, якога пасылаюць на край свету, каб выціскаць з японскага мікады чырвоны морс?! Газеткам ён паверыў! Ды я тых штабспатрыётаў, мілаша, на жалезных круках вешаў бы». — Стась крутнуўся назад і зноў затупаў за Алаізінай спінаю. І яна міжволі азірнулася. Жаўтаватыя вочы гэтага чалавека гарэлі цяпер такім дзікім агнём, што яе пранізаў страх.

— А скажыце, Стась, вы хоць на магілу бацькаву схадзілі?..

Дарога вяла праз часты малады бярэзнік. І гэтыя гонкія і высокія белыя свечкі ў свежавымытым расою

лясным храме адбіралі вочы сваім яркім хараством. Ступіла да таўсцейшай бярэзіны, прыпала шчакою да бліскучай, крыху шурпатай кары. І, здаецца, пачула, як унутры пругка бруіцца, ажно стогне, імкнучы ўверх, зямны сок. Адразу палягчэла.

Мужчыны стаялі на дарозе і пазіралі на яе. Востра пахла сырой зямлёю. Паколвала ў сэрца. Вярнулася на дарогу. Ішла і думала пра Міхайлу. Чаму пасля такога доўгага развітання ён нічога не расказвае пра сябе! І гэтая страшная рана на галаве...

Уздрыгнула ад рэзкага Стасевага голасу:

— Я хацеў бы сказаць... Усё, што вы бачылі, мілаша, трэба забыць, — хрыпла кашлянуў, — і крый Божа вам расказаць каму.

Маўчала.

— Мову адняло? Ну-ну... А вы хацелі, каб гэтае золата папы пераплавілі на свае крыжы? Ды я сам ад аднаго такога святошы ўсяму і навучыўся, можаце мне паверыць. А на бацькавай магіле я быў. І яму там, мілаша, лепей, чым мне тут. І супакойце, супакойце вы свайго Яна. У нас — свае крыжы і свае паясы. А вось ад такіх мамзэлек, якія толькі балбочуць... Ах, тэатры, ах, музеі, яшчэ якая там храновіна. А ўсё гэта, мілаша, згодна з уладамі. Калі трэба праліваць за народ кроў, вы паясочкі збіраеце. А тут у жывот, у нутро трэба! І мы для народа ўсё самі возьмем. Самі. Без такога смуроду! Ах, як гэта ў вас брава! Ездзі, рызманы ператрасай. Ну, там брашурку якую накрэмзай. Змагары! Вялікае дзела яны падымаюць! За народ! А манарх толькі выгляд робіць, што злуе... Ні храна... Іуды!

Алаіза ішла моўчкі. Слухала.

— За народ крывёю плоцяць! Чуеш, мілашка? (Маўчала.) І гэта вы — за беларусаў?

Чула, як да твару прылівае полымя, нават прыпынілася.

— Ды, вы...

— Я вас папярэджваю, мілаша? Паўтараю: усё, што вы бачылі ў кузні... Я папярэджваю!

— Божа літасцівы. І кожны злодзей, і кожны ўрвіска стараецца, бачыце, не для свайго чэрава, а ўсё — для рэвалюцыі. Для народа, аказваецца. Усё ў вас для народа, — крыху павярнула галаву, — красці, забіваць, нішчыць. Усё для рэвалюцыі!

— Я мушу, — Стасеў голас за яе спінаю ўжо сіпеў, — я мушу яшчэ раз... папярэдзіць!

— Ды адчапіцеся вы ад мяне, — нават не захацела на яго глянуць. — Я ніколі, чуеце, ніколі не баялася! Асабліва такіх! І не думайце, што вы мяне запалохалі. Мяне не спалохаеш!

Яна нічога не зразумела, убачыла толькі, як Міхайла, які ўвесь час ішоў побач з ёю, неяк смешна падскочыў і рвануўся ўбок да Стася. Тут жа пачула за спінаю глухі Стасеў ускрык і рэзка павярнулася. На дарозе, каля ног Міхайлы, курчыўся збялелы Стась, сутаргава хапаў перакошаным ротам паветра. Потым прыўзняўся на локці, глянуў на Алаізу жоўтымі ад болю вачамі, з нянавісцю прашаптаў:

— Ідзі ты, ідзі адсюль. Ідзі... А мы... — са стогнам удыхнуў паветра. — А мы, мы яшчэ за вамі вернемся, прыйдзем! Мы яшчэ спытаем у вас, як вы за нашу рэвалюцыю змагаліся. Запытаем! І — праз аднаго... Праз аднаго!..

— І праўда, паненка, ідзі. Я тут сам разбяруся.

— Але ж, Міхайла...

— Не бойся. Ён хоць і вар'ят, але не бяры да галавы. І памаліся за маю душу. А Бог усё ведае. І не азірайся, — Міхайла ціха, глуха засмяяўся.

Яна ішла і ледзь стрымлівала сябе, каб не азірнуцца. І ўсё ж не вытрымала.

Але на дарозе ўжо нікога не было. Тады спынілася, прыціснула халаднаватыя далоні да разгарачанага твару. Здаецца, толькі цяпер пачала аб усім здагадвацца.

Божа літасцівы, колькі разоў ужо яна трапляла ў такія сітуацыі, што здавалася, не выберацца жывою-здароваю. А Бог усё ж бярог.

Стаяла на дарозе. Глядзела, як высокае сліпучае сонца плыве праз рэдкія воблачкі і пускае да высокіх бярозавых вяршалін тугое праменне. Паўсюль панавала велічнае і спакойнае хараство. Як быццам Святы Дух распасцёр над гэтым лесам свае крылы і апусціў іх на галіны дрэў, ахінуў усё жывое. І агарнуў тут, на зямлі, і яе, Алаізу...

Дома, відно, зачакаліся. Яшчэ раз азірнулася. У неба ад цёмна-зялёных лясных вяршалін падымалася трымтлівае лёгкае марыва.

І раптам, сама таго не чакаючы, яна хутка зашаптала: «Высокі лес, шумі, скрыпі, расу хавай... —

Перадыхнула, але словы ўжо не слухаліся і самі імкнулі знутры: — Расу хавай, у раку ўлівай, грыбы расці, не дай цвісці... — Чула, як пагусцела дыханне, паўтарыла: — Не дай цвісці жалобным кветкам... Нясі палеткам свой доўгі дзень...» І тут, перабіраючы рыфмы, што, здаецца, склаліся яшчэ раней, у думках запульсавала нечаканае: яна, Алаіза Пашкевічанка са Старога Двара, яна — верыць, моцна верыць, што ёй, менавіта ёй, наканавана зрабіць для свайго спакутаванага краю болей, чым іншым кабетам беларускім. І гэта яна — адчула. Гэта дакладна ведае. І таму нельга раней часу памерці, не зрабіўшы.

Нельга!.. Яе не заб'юць. Ні куляю, ні словам. Хоць словам — могуць... Але — жыць! Ёй трэба яшчэ доўга жыць. Чула, як у глыбіні ўзрушанай свядомасці пачынаюць віраваць словы. І зноў, зноў данеслася грымотнае: «Высокі лес, ці чуеш гром, як ён злуе са ўсіх старон? Як па дуплах дрыжаць зязюлі, як хмара з хмарай...» Паўтарала і старалася запомніць кожнае слова, каб потым, у хаце, запісаць радкі, што так нечакана, але так уладна хлынулі з душы.

Алаіза ішла па лясной дарозе, падносіла позірк увышыню, сачыла няспынны палёт беспрытульных воблакаў і гаварыла думкамі тое, што ўжо не было для яе нечаканасцю альбо вялікай навіною і што так часта трывожыла і займала: «Анёл мой, бедны мой анёл, беражы хоць ты мяне». Ведаю добра, як табе са мною цяжка. Бо і самой часам не саўладаць з уласным дзікунскім норавам і хворым, непрымірымым, максімалісцкім праўдалюбствам... І ці не ты, анёле мой, на сваіх лёгкіх, а моцных крылах так часта нясеш мяне ў цяжкія хвіліны над прорваю, нясеш і ратуеш, калі сэрца, здаецца, ужо спыняецца, а душа камянее ад чужой нянавісці, ад здрады і подласці тых, каго нядаўна яшчэ гэтак невымерна, гэтак моцна я любіла.

...Ты ўзносіш мяне над гіблаю безданню, калі ўжо канчаецца цярпенне і вера ў жыццё».

Алаіза ішла па лясной дарозе між разложыстага птушынага шчогату і адчувала, як у душы б'е пругкі камень. «Высокі лес, шумі, скрыпі...»

Вось, вось калі яшчэ раз яна па-сапраўднаму адчула, што непапраўна доўга не была дома і што гэта, урэшце, збедніла і спустошыла душу.

Не, цяпер-то пабудзе даўжэй, каб нагаварыцца з маці, пахадзіць па сваім мілым бярэзніку і дачакацца тых малочных туманаў, калі з моху пачнуць выскокваць маладыя баравічкі. Яна марыла пра сваё доўгае гасцяванне ў дамоўцы, нібыта сама сябе ўгаворвала анічым болей не прымацца, адрэзаць хоць на які час усё, што звязвала з Пецярбургам і Вільняю. Цяпер у яе быў толькі Стары Двор. І — праца, праца... Вось толькі каб не гэты боль, непазбыўны пякучы боль успамінаў, што бывае такім неміласэрным і горкім толькі дома. Гэтае пачуццё безвыходнасці і безабароннасці перад уласнай памяццю ўзнікла і не перасціхала з таго самага моманту, калі яна села на Віленскім пероне ў вагон. Шчымлівае пачуццё фатальнай асуджанасці ўсё разрасталася, ажно нарэшце сціснула абцугамі горла, як бывае пры моцнай прастудзе. Даўкая хваля падымалася ад грудзей і ад анямелага горла да шчок, біла агнём па вачах, сляпіла, нарэшце захраствала ўнутры толькі адной невыноснай думкай, яна ехала дахаты — развітвацца. Так, яна ехала развітвацца з доўгімі гадамі свайго жыцця, поўнага кахання і вернасці. Вернасці толькі аднаму чалавеку. Якога, можа быць, трэба было ненавідзець. Але яна не магла, не магла ўзненавідзець Андрэя. Хоць бы за іх апошні восеньскі тыдзень у Старым Двары, калі абое былі шчаслівыя і дамовіліся сустрэцца ў Пецярбургу, каб вырашыць усё канчаткова.

Але Андрэй — не прыехаў.

Ішоў час, і білі, білі, білі ў гарачае неба чорныя молаты яе чакання, а пачуцці, здавалася, аглухлі і анямелі. Здавалася...

Але толькі цяпер яна зразумела, што ехала дахаты развітвацца са сваім болем — канчаткова. Алаіза ступіла пару крокаў па дарозе, ізноў пачула, як таргануўся камячок у горле, у самай ямачцы, так што забалела нёба ў роце. Пагладзіла халоднай рукою гарачыя шчокі і лоб, але роспач не адпускала. І цяжка было нават праглынуць сліну.

Яна ішла па дарозе праз музыку халоднага лесу, з любасцю гледзячы на белыя клавішы маладых бярозак, і адгукалася на іх цягучую спакойную мелодыю толькі ледзь чутным шэптам перашэрхлых вуснаў...

Цяпер яна ішла толькі дахаты.

## З АГЕНТУРНАГА ДАНЯСЕННЯ РОТМІСТРУ ГЕНІСАРЭЦКАМУ

*«Гродна. 25.IV.*

Згодна Вашаму прадпісанню тайная слежка за дзейнасцю членаў так званай Беларускай Грамады Алаізіяй Пашкевіч і былым адвакатам Аляксандрам Барановічам устаноўлена 21 красавіка. Паведамляю, што пасля наведвання названымі асобамі гродзенскай мяшчанкі Яніны Міхнеўскай на кватэры апошняй прыставам Казлоўскім праведзены начны вобыск, пры якім знойдзена пячатка з выразаным надпісам «Ваенна-рэвалюцыйная арганізацыя РСДРП»; каробачка з мастычнаю падушачкаю, а таксама сто экземпляраў першамайскай пракламацыі наступнага зместу: «Як мала пражыта, як многа пераражыта! Нібыта заблудзіўшыся, рускае жыццё ў гэтыя дваццаць чатыры гады блукала без дарогі і, вярнуўшыся да свайго зыходнага пункту, свайго пачатку, зноў ударылася ў глухую сцяну самадзяржаўя, якую ў любым выпадку трэба зруйнаваць альбо зноў пачынаць блуканне сярод мораку ночы і бязжаласнай рэакцыі. Барацьба за пазбаўленне 150 мільёнаў людзей ад ланцугоў самадзяржаўна-памешчыцкага рабства працягваецца! Ці нам, рэвалюцыянерам, спрачацца з-за першынства таго ці іншага руху? Ці ж не нам яднацца для дружнага націску на агульнага ворага, магутнасць якога настолькі вялікая, наколькі і жорсткасць яго не ведае мяжы?! Няхай у гэты дзень гучыць заклік да аб'яднання, што набліжыць нас да перамогі і горача жаданага імгнення краху самадзяржаўя! Вечная памяць барацьбітам за народнае шчасце! Далоў самадзяржаўе!»

Знойдзены таксама тры экземпляры гектаграфічнай пракламацыі: «Ці справядлівая пад царом служба?» злачыннага зместу: «Гаспадары! Даеце вы рэкрута штогод цару. Ці думалі вы пра тое, нашто цару той рэкрут? Чыноўнікі ўчаць нас, што рэкрут цару патрэбен, каб бараніць край ад непрыяцеля. А ў нас войска не для абароны краю дзержыцца, а для помачы царскаму правіцельству, каб магла гэтая шайка кравапіўцаў свабодна кроў з народа цягнуць. Гляньце хаця на паследнія дзесяткі лет. Войска па гарадах работнікаў, па вёсках мужыкоў страляе. А за што? Вот за то, што голад іх задушыў, што яны забастоўку зрабілі і большае цаны патрабавалі за работу. Верны царскі салдат — гэта братазабойца. Разбойнікам ты, салдат, братазабойцам стаў — служыш шайцы зладзеяў, што кроўю брацця́ў тваіх жа жыве! Дзе няма п'явак — няма і арміі...»

Паведамляю: Алаізія Пашкевіч пасля кароткага наведвання сястры Стафаніі ў той жа дзень выехала з Гродна ў

Лідскі павет. Аляксандр Барановіч, па звестках, накіраваўся ў Ашмяны.

Яніна Міхнеўская арыштавана. На папярэднім допыце ўстаноўлена: Міхнеўская — перакладчыца з польскай мовы брашур «Гуторка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць», «Як зрабіць, каб людзям стала добрэ на свеці», «Хто праўдзівы прыяцель беднага народу», якія перадаваліся для друкавання ў Львоў Вітольду Ёдка-Наркевічу, ад яго брашуры паступалі ў Лондан Балеславу Антонію Анджэеўскаму. Акрамя гэтага — Міхнеўская аўтар адозвы «Да браці-мужыкоў». Паведамляю таксама, што названы агітацыйны матэрыял перапраўляецца акольным шляхам з Кракава ў Варшаву, адтуль — у Гродна і Вільню.

*Альф».*

## 4

*Стары Двор. 3 ліпца 1905 г.*

Андрэй! Учора маці аддала мне гэты пачак лістоў. Той самы пачак, што быў адасланы табою з Вільні яшчэ ранняй вясною.

Пасля я доўга сядзела ў сваім пакойчыку, агледзела кожны ліст паасобку, і мне ўсё здавалася, што гэта сон і што я плыву праз нейкую шырачэзную раку і ніяк не магу дастацца берага, намацаць дно, урэшце выйсці з густой і важкай, як волава, вады. Сядзела, успаміла і, прызнаюся, плакала. Затое калі пасля ўжо насмелілася прачытаць першы ліст, стала адразу лёгка і проста. Адно толькі незразумела: чаму ты так доўга іх не адсылаў і навошта чакаў ад тае нашай восені? І чаму лісты паслаў не кожны паасобку, а сабраў у адзін пачак. Гэта трывожыць, як трывожыла і хвалявала ўвесь час адно: ты так і не аб'явіўся ў Пецярбургу. Зрэшты, пэўная, што на тое ў цябе былі важныя прычыны. Пройдзе час, і я ўсё даведаюся. А пакуль...

А пакуль я каторы ўжо раз перачытваю твой першы ліст і думаю, што далей буду чытаць іх па адным праз два-тры дні, каб хоць крыху здоўжыць гэтую нечаканую, гэтую дзіўную і цяпер мне так патрэбную сустрэчу з табою. І ў маёй душы расце зусім новае, але моцнае пачуццё. Я саджуся за стол і пачынаю адказваць табе, бо ўсё, што было з намі, бачыцца мне цяпер зусім іначай, чым раней. Можа, так прыходзіць мудрасць. Пастылая мудрасць... А можа, ад немагчы-

масці ўбачыцца так балюча і безвыходна плача мая душа.

Час нібыта зняў з маіх вачэй бельмы, а з майго сэрца важкі панцыр. Зрэшты, прызнаюся, што, можа, і ўспрымаю цябе ўжо зусім іначай. І ці толькі табе будуць пісацца гэтыя лісты. А можа — таму ўжо, якім бы хацела цябе бачыць, пра якога марыла, у каго так верыла...

*Стары Двор. Серада*

...Усё думаю пра нас, і на душы чамусьці, як ніколі, трывожна і шчымліва. Усё ясней бачу, якія мы слабыя і безабаронныя перад гэтым светам. Таму і ліюцца часам няўцешна і горка мае слёзы. Бачу праз акно — мама нясе поўнае вядро яблыкаў, а наперадзе яе бяжыць шчаслівы Мурзік і цягне ў зубах вялізную сухую галіну. Маўчанне валодае светам і цісне мае грудзі, радуе толькі спадзяванне, што ўсё ж будзе наша сустрэча, спадзяванне на глыточак любові і разумення. Без іх нельга. Бачу твае вочы, зялёны іх сум і пяшчота грэюць сэрца. Хочацца гэтулькі ўсяго сказаць табе, гэтулькі напісаць. Усё вяртаецца «на кругі свая». Душа мая таксама. Пасталелай, паглыбелай (так-так! Ведаю, адчуваю гэта) і ўсё ж знаёмай, маёй. Хваляванне. Высокае і светлае. І зноў жаданне і чаканне нечага недасяжнага, высокага, незямнога. Дзіўнае і пакутнае пачуццё. Нікому, нават сабе, не магу вытлумачыць яго.

Люблю. Даўно. Нягледзячы ні на што. Іншы раз ненавідзячы — люблю. Так даўка. Да спазмы. І хочацца вызваліцца ад гэтага камяка, што падкаціўся пад самы дых. Але як добра, што ёсць такая пакута. Высокая і страшная. Толькі ці не падман усё? Даўка. Цяжка і незразумела.

*Стары Двор. 6 ліпеня*

Мілы Андрэй!

Як добра і светла, што было, бо было ж між намі нешта большае і лепшае, чым ты і я можам прыдумаць і ўспрыняць розумам. І я не хачу гэта ўсё асэнсоўваць, тым больш — аналізаваць. Не трэба! Свет такі рацыянальны, да брыдкасці. А чалавечай душы ўсё ж патрэбна святло і цяпло другой душы чалавечай... Ня-

хай яно будзе. Няхай яно будзе заўсёды. Сёння нядзеля, і работы асаблівай няма. Адаспалася за ўсе бясконцыя бяссонныя ночы. [redacted] раніцы хадзіла па лесе. Набрала суніц, чарніцаў, крыху грыбоў. Харошыя такія, маладзенькія. Трава ў бярэзніку такая высокая, што, калі ідзеш, лашчыць па твары. І ў гэтай траве бы хто незнарок жар рассыпаў — суніцы. Буйныя, ужо крыху пераспелыя, цёмныя такія і салодкія-салодкія, духмяныя-духмяныя. Увесь час лавіла сябе на тым, што на ўсё гляджу тваімі вачамі. А ціха тут, як у Бога ў вуху, спакойна. Ведаеш, проста хочацца з табою пагаварыць. Хоць пра што. Ну, напрыклад, пра тое, як здорава адчуць у сабе маладую сілу і здароўе, махаць нараніцы касою. Я ж так люблю касіць, хоць, праўда, і не магу многа. А ўсё ж добра скасіць такі сабе невялічкі лясны лужок. Самае прывабнае ў гэтай рабоце тое, што пры поўнай фізічнай напружанасці галава застаецца абсалютна свабоднаю і ў яе залятаюць самыя незвычайныя думкі. Учора дык вельмі хацела збудаваць які-небудзь сюжэт. Але, на жаль, усё марна. Замест сюжэта ўяўлялася чамусьці наша будучая сустрэча. А навокал такое хараство! І ніякіх адзнак цывілізацыі. Хіба што па бальшаку прасунецца паштарская карэта, і я гляджу на яе з нейкім дзіўным пачуццём. Яна — сувязь са светам. Няўлоўная сувязь з табою. І так хораша цвітуць травы! Шкода, хутка пакосяць іх. Я іду праз сенажаць і, перш чым залажыць касою, нагляджуся на ўсё, надыхаюся і тады ўжо гадзінкі дзве папрацую... Дзевяцяранка цвіце, зуброўка сама красуе, рамонкі, божыя слёзкі... Ты, напэўна, усміхаўся б... І ў тваіх зялёных вачах адаб'ецца... Зрэшты, не ведаю, што там у іх адбівалася б. Ведаю толькі, што я вельмі сумую па гэтых вачах! Так выяўна бачу і адчуваю тут — цябе. Да болю.

*Панядзелак. Стары Двор*

...Ужо вечар, і я села пісаць гэты ліст, бо не магу болей саўладаць з пачуццямі. Андрэй, ты ведаеш, вядома, ведаеш трапяткое хваляванне, тую асалоду і амаль дзікунскую радасць ад адчування пругкасці і свежасці сустрэчнага ветру, калі быццам на крылах праляташ да хутара Каладзішкаў. А потым праз бальшак... Учора зноў засмуціла бацькоў, якія ўжо

былі пэўныя ў маім кончым прыняцці знакамітага, прыдуманага галоўным немцам Вільгельмам закону для кабет: Кіндэр, Кюхэ, Кляйдэр, Кірхэ — дзеці, кухня, апратка, царква. Але наш Буланчык з мінулай вясны так «вылюднеў», што не вытрымала і ўсклала на яго сядло. І так моцна захацелася пабачыцца хоць з кім з пецярбургскіх, што ўмомант даляцела на сваім Буланчыку да Галавічполя. І не меней, чым сваіх, агаломшыла сваім амазонскім выглядам яшчэ і старых Валэйкаў. Затое бачыў бы ты, як узрадаваўся Ігнась. Памятаеш таго студэнта з Горнага інстытута, якога да нас прывёў Вацюк-«тройца»? Цяпер ён на цэлае лета ў бацькоў. Такі харошы хлопец, толькі, здаецца, быў у перажыванні, «калі баліць галава і патрабуецца сялёдка з яблыкамі». Прызнаўся, што па дарозе з Пецярбурга асушыў з братам бутэлечку «папутнага». Зноў гаварылі пра неабходнасць для нашага беларускага руху друкаванай часопісі ці газэты. Так хораша спяваў багушэвічаўскую «Калыханку». А потым... потым прыйшоў яго старэйшы брат Антось, мастак, той самы... Андрэй, я, напэўна, усё ж прызнаюся, што цэлы месяц, ажно месяц у мінулым годзе была закахана ў Антося Валэйку! Але калі б ты бачыў тыя малюнкі! Пад яго дзівосным пэндзалем усё ажывала. І такія родныя нашы краявіды, і такія выразныя беларускія тыпы, што сэрца не магло не адклікнуцца на праявы вышэйшага хараства. «І калі ў песнях ёсць хоць гук нябеснай мовы, мне ён быў дадзены ў прадбачанні цябе», — пісала некалі Каценька Іванова з нашых курсаў.

І мы тады ў Пецярбургу марылі, марылі, што ўрэшце выпусцім беларускія кнігі з цудоўнымі малюнкамі-ілюстрацыямі, будзем рабіць выставы. Але як мала, аказваецца, патрэбна, каб чалавек вырваў з свае душы святы корань бацькаўшчыны. Цяпер гэта зусім не той наіўны і ўзвышаны рамантык Антось, а ўжо — не смейся! — Антоні Валэйко. Не беларус, якім заўсёды называўся ў грамадзе, а катэгарычна — толькі паляк. Болей таго, свядома перахрысціўся, з'ездзіўшы ў Львоў. Здавалася б, я павінна ўхваляць апошняе, але нешта ўва мне пярэчыць і засцерагае. І не толькі таму, што ў народзе «пярэхрыст» лічаць грахом. У кожнага чалавека — сваё сумленне і свая дарога. Але вось глядзела я на новага Антоні Валэйко,

шукала сапраўднае прычыны такой рэзкай змены і з сумам прызнавалася, што ніколі не разбіралася ў людзях. А дастаткова ж было толькі зняць ружовыя акуляры. Як усё проста, аказваецца. А проста таму, што нашага мастака запрасілі ў Вену пісаць партрэты сямейнікаў, можа, якіх стрыечных, графа Патоцкага. І вот стрэлкі жыццёвага компаса імгненна крутнуліся да новых ідэалаў. Запытала: «Добра заплоцяць?» Усміхнуўся, як да малой. «Таму і стаў палякам? А хіба Патоцкія не запрасілі б мастака-беларуса? Галоўнае ж — талент». Наіўнае пытанне, праўда? І не меней наіўным яму здалося яшчэ адно: а ці не баіцца, што талент ягоны, у нашай беларускай баразёнцы гадаваны, рассыплецца на попел у залатой печы? Ухмыльнуўся, што не баіцца. А як жа здрада? Здрада сябрам, мроям, каханню, можа быць? Але ж ці былі яны сапраўднымі — сяброўства, каханне, мроі-ідэалы? І дадаў — параіў мне таксама як хутчэй пазбавіцца ад «заалагічнага патрыятызму»! От як адукаваўся, калі залатоўкі зазвінелі. Значыць, будзем служыць «патрыятызму» Мамоны? І ці не толькі таму ты пайшоў у наш каталіцкі храм, што там кленчаць і Патоцкія? Зноў паблажліва ўсміхнуўся.

Скажы, Андрэй, гэты чалавек — сапраўды здольны верыць? Маю на ўвазе не тое, як доўга ён прастаіць на каленях перад абразамі. Бо заўсёды меркавала, што малітва можа быць пачута, толькі калі ідзе ад чыстага сэрца. Але, Андрэй, скажы мне, як можа чалавек, асабліва таленавіты, узносіць вочы ў неба толькі дзеля таго, каб нешта выгандляваць у Бога?! «Нельга спакусе не прыйсці ў свет, але гора таму, праз каго яна прыходзіць». Развітвалася з Валэйкамі цяжкавата. І сонца ўжо здавалася не такім ласкавым, і сустрэчны вецер не лагодзіў і не лашчыў. Да таго ж насунуліся хмары, і ў сваю хату я заходзіла мокрая да нітачкі. Пекная прыгода. У апошне гэты Антоні Валэйко, як бы апраўдваючыся — невядома перад кім! — сказаў, што праваслаўе цягне наш край да Масковіі, а гэта яму не падабаецца. Лепей ужо да Польшчы. Ах, бедная наша Беларусь! Колькі ж цябе будуць рэзаць па жывым?! Андрэй, я многа хачу зразумець, каб не здавацца такой катэгарычнай, якой бываю часам з сёстрамі. Бо, як ты ведаеш, толькі мужчынская палова нашай сям'і цярпліва ўспрымае маю беларускасць. Затое сёстры...

Што ўжо яны кажуць адна адной, калі я саджуся за стол і пачынаю пісаць... О, мне [redacted] тую абыякавасць Валэйко! Аднак упэўнена я, Андрэй: калі хто з таленавітых людзей хлусіць народу свайму — то ўжо здрадзіў ці абавязкова здрадзіць і Хрыстусу. «Нічога! — цынічна, але спакойна адказаў свежаспечаны Валэйко. — Нічога. Мая вера (цікава, якую ён меў на ўвазе?) — мая вера вельмі ўхваляе капітал асабістага ўжытку». І пры гэтым прыняў выгляд, быццам звычайны «тутэйшы» няварты нават развязваць шнуроўкі на яго ботах.

Так балюча ў сэрцы. Бо зноў адышоў ад нас чалавек. Адна надзея, што міне час і гэты Антоні заробіць столькі... Аднак колькі яму тых залатовак трэба? Хто ведае... Але, можа, Боскае ўсё ж пераможа, і чалавек перастане разменьваць сваю душу. І тады — вернецца да бацькаўшчыны. Вось толькі ці не страціць ён у доўгім тым выраі непаўторны водар таленту? Не ведаю нават, што болей забірае людзей у маёй радзімы — сухоты ці здрада?!

Аднак жа не хачу завяршаць такой сумотай, бо ёсць жа і радасць! Раніцаю атрымала кароценькі ліст ад Вацюка. Піша, што хутка будзем мець лемантарык. Вось справа, да якой і мая душа цягнецца. Бо разумею, што будзіць беларуса патрэбна найперш у школцы, з першага ж слоўца ў лемантарыку. Вось толькі дзе знайсці такіх свядомых, якія б пагадзіліся выдаваць кніжачкі па-нашаму. Вацюк піша, што будзе прасіць помачы ў Эдварда Вайніловіча, кіроўцы Сялянскага саюза ў Мінску. Але ж не веру я, калі шчыра, у такую ўдачу. Усё, Андрэй, да таго ідзе, што трэба самім закасваць рукавы ды нейк супольна брацца за ўласную выдавецкую справу. А клопату ўсім хопіць, бо трэба ж даць народу нашаму лепшыя ўзоры сусветнай літаратуры. І няхай сабе пачынаем мы з малога, то што з таго. І рака вялікая выцякае з крыніцы. Такі цяперашні мой інтарэс.

А ў свеце робіцца нешта дзікае з людзьмі. Трапіла мне на вочы залеташняя судовая газэтка. У Мінскім тэатры на «Цыганцы Азе» нейкі прысяжны паверан, Папоў, здаецца, зачапіў локцем капялюш, які ляжаў на рампе. І ўладальнік капелюша, таксама з прысяжных паверэных, закруціў дуэль. Адным словам, дыстанцыя дваццаць крокаў, па камандзе «раз» узвялі

куркі... Вось так. І гэтыя людзі, Андрэй, судзілі іншых... З-за капелюша страчана чалавечае жыццё. Зрэшты, колькі, думаеш, атрымаў забойца? І не адгадаеш... Толькі два гады крэпасці...

Неяк заходзіў паштар. Нібыта проста з бацькам перамовіцца пра новую малатарню. А ў самога вочы бегаюць. Так і карцела сказаць: «Ішоў кот ля варот, наставіўшы вушкі».

...А паштар ужо заходзіць у хату, як свой, толькі ўсміхаецца, кавалер. Учора жменю ляндрынак прынёс. Ох, не шумі, муха, каля вуха! Аднак жа ваўка ногі кормяць. Вось і ходзіць. Учора, калі пайшоў, я, не наверыш, пад лавай паперчыну знайшла. І ад рукі напісана такое вось: «І не нам шкадаваць сваіх ворагаў, якія раяць усім заставацца галоднымі ў дні барацьбы. Так яны загадзя аслабляюць нас. Прэч гэтых ілжывых сяброў. Усё належыць працоўным! І хлеб, і мяса, і нават зброю забірайце і дзяліце між сабою. Сытыя і ўзброеныя вы будзеце непераможныя...»

Прачытала гэтую падкінутую агітацыю анархістаў і моцна задумалася, дзеля чаго ўсё ж гэты кот ля варот вушкі настаўляе. Найбольшая прыкрасць у тым, што паштар — наш сваяк. Праўда, дзесятая вада... Аднак за што ж гэтаму шляхціцу гербаваму, да якіх сябе залічвае, спатрэбілася «од хамув», якімі, ведама, лічыць нас... Помніш, на універсітэцкім пляцы стаяў чыгунны Мураўёў, апёршыся на кій? Знешне вельмі ж падобныя з паштмайстрам? Аднак... сумую па Вільні. Так і свеціцца ў памяці касцёл Станіслава са святымі пад Замкаваю гарою. А над франтонам — згадваеш? — расхінуўшы крылы — тры анёлы. Вацюк-«тройца», дарэчы, яшчэ перад маім ад'ездам з Пецярбурга прызнаваўся, што пасабляе свайму брату Юрку, арыштаванаму яшчэ два гады назад у студзені, уцячы з Наўгародскай губерні. Думаю, калі Вацюк бярэцца за справу, то ўсё будзе належна. Такі ўжо ён. Як кажуць старыя «законныя» яўрэі: «Слушайце, — у етава бакі хоць і аблупленыя, а красць не кідае!»

*Аўторак. Стары Двор*

...Зноў нічога не змянілася. Ні ў маім настроі, ні ў гэтым свеце вакол мяне. Адно што прачытала яшчэ адзін з тваіх лістоў. На момант — пасвятлела. І тут жа

зноў насунулася хмара розных сумненняў. А людзям так патрэбны прастата і яснасць адносін і пачуццяў, каб сілы свае аддаваць справе, а не сумненням.

Кожнай клеткаю, кожным нервам адчуваю, як ты патрэбны мне. Учора схадзіла да магілак. Пахадзіла там. Такая жудасная цішыня. Усе нашы мірскія страсці здаліся дробнымі і недарэчнымі побач з іх спакоем і гэтай сцішанасцю. Пасядзела крыху каля рэчкі. Луг вакол пакошаны — водар галаву кружыць. І над усім, па блізкіх пагорках, старыя сосны. На душы сумна і светла! Светла... Нягледзячы ні на што — светла. Дзякуючы твайму лісту — светла. Светла... Ад бяроз у маім двары, ад таго, што пачалі складвацца сюжэты апавяданняў, бачацца характары і ўсё гэта просіцца на паперу. Глянула на твой ліст, і раптам здалося: вось зарыпяць дзверы і ты — увойдзеш! І настолькі гэтая ілюзія была моцнай, што калі я вярнулася да рэальнасці (куды ад яе дзенешся), то захацелася проста завыць. Вось так.

Проста — сумую па табе! А цябе няма. Ні ў садзе, ні ў бярэзніку, ні дома. І гэта невыносна сумна. Я сёння ўвесь дзень шукаю цябе. Усюды. І не знаходжу. І ўжо нават перастаю верыць, што ты ў мяне быў. Здаецца — усё проста прымроілася, прыснілася. Заўчора цэлы дзень цяжка працавала. Вазілі сена. Не раўнуючы як валы. Каралінка ўвесь час бурчэла, што шмат накасілі. і ўсё ж добра, што была магчымасць так папрацаваць і так стаміцца. Інакш было б горш...

*Пятніца. Стары Двор*

...Сёння прачнулася з прадчуваннем нейкай непапраўнай віны і незваротнай страты. І цэлы дзень гняце неспакой. Не знаходжу сабе месца. Ты, канешне, сказаў бы пра непатрэбныя сантыменты. Можа, і так. І ўсё ж я рада, што ёсць гэткая «сентыментальнасць» і што былі ўчарашнія слёзы на бязлюднай дарозе, і розныя думкі, і сённяшні неспакой. Навошта пішу табе пра ўсё? Не ведаю. Патроху спрабую брацца за апавяданні. Хачу пісаць глыбей, а галоўнае, праўдзівей. Найцяжэй даецца праўда. Найцяжэй — да канца быць шчырай. Пісаць пра ўсё так, як яно ёсць.

Страшэнна загружаная і закручаная дробязямі. Зрабіла невялікую хатнюю школку. Насуперак цемна-

це тутэйшых бацькоў збіраю ў сябе дзетак. Аддаю заняткам гадзіны дзве-тры.

Неяк адна сяброўка сказала, што ўсё ў жыцці ўспрымаю залішне ўскладнёна. Можа, і так. Адчуваю, што ў душы прысутнічаюць як бы два ўспрынцці аднаго і таго чалавека: розумам і сэрцам. І часта яны бываюць супярэчлівыя і нават абсалютна розныя. У выпадку з табою, Андрэй, першае, прызнаюся, як бы не існуе, ёсць толькі — сэрца! І гэта, напэўна, добра. Я нічога не спрабую аналізаваць, а толькі слухаю сваю душу, якая вельмі сумуе...

*Панядзелак. Стары Двор*

Мілы мой, ужо столькі часу прайшло, як маці аддала мне гэтыя твае лісты — цэлыя стагоддзі амаль штодзённых з табою сустрэч. Тыдні падсвядомай, глыбока захаванай (і ад сябе самой) пакуты. Спачатку спрабавала колькі разоў хаваць напісанае ці рвала ў надзеі, што ўсё пройдзе, міне, аціхне. Не праходзіць. І не аціхае. Нарэшце зразумела, што не пройдзе, пакуль не выкажу, не напішу ўсё чыста. Не, я не патрабую ад лёсу разумення. Зрэшты, гэта ўжо не так і важна. Прашу Бога толькі ад адным... Памагчы мне забыць усё няважнае, лішняе. А жыццё ідзе. І ў ім так мала светлага ўзрушэння, а ўсё аднастайнасць турбот і клопату. І столькі ўсяго прыгнятае і так мала што ўздымае. А як без гэтага і навошта тады ўсё ўвогуле?

Што ж, прабач за блытанасць і непаслядоўнасць.

*3 жніўня. Стары Двор*

Мілы Андрэй.

Апошнім часам штоночы мне снішся ты. Раней і блізка не было такога. Нават калі свядома хацела ўбачыць цябе ў сне. Заўтра ў Васілішках кірмашовы дзень, паедзем з бацькам і Юзікам. Хочацца пахадзіць, паглядзець на сваіх людзей, паслухаць, пра што і як гавораць... Зрэшты, сумоту нейкую пішу табе, будзённшчыну. Але што зробіш. Ды і ў гэтым простым жыцці, калі на тое пайшло, душа знаходзіць нешта большае, глыбейшае, чым проста праца...

А помніш, калі мы з табою неяк хадзілі па бярэзніку?! Я паказала табе тады свае любімыя незабудкі.

Праўда, ты не дазволіў мне іх сарваць: «Няхай растуць!»

Учора яны чамусьці цэлы дзень не давалі мне спакою. Аж да самага вечара. Ужо ў прыцемку і тумане, не могучы болей трываць, пайшла ў бярэзнік пашукаць тыя кветкі і знайшла. Яны былі такія пяшчотныя, росныя, свежыя, што я не ўтрымалася і некалькі сарвала, каб паставіць букецік.

Ужо раніца. Толькі-толькі развіднела. А мне горка: сёння ты прысніўся мне такім чужым і незразумелым, што я ўсю ноч пакутавала ад гэтай тваёй адчужанасці. Таму і прахапілася рана і слухаю, як жыве і б'ецца ў душы трывога. Адразу падумала, што такім цябе магу сустрэць і наяве, і тады, зразумела, будзе бясконца балюча.

Мама таксама ўстала. У нас сёння будзе цяжкі дзень. Жніво сама. Нават старая Ягася аднекуль выдзерла свой стары шчарбаты сярпок. Няхай хоць пасядзіць. На зажынках папрасіла: «Доця, падзяржы мяне, я хоць трохі ў сярпок вазьму! Хоць снопік...» Такі ў нас ранішні клопат. А перад гэтым былі дзён колькі такія шчодрыя і грыбныя дажджы, а вечарамі і ранкам густыя белыя туманы. Знаходжу прыгожыя крамяныя баравічкі. Адчуваю амаль першабытную радасць, убачыўшы ў траве цёмна-карычневую бліскучую грыбную галаву. Ну, вось, здаецца, і ўсё напісала.

Да сустрэчы! Зрэшты, не ведаю, калі яшчэ насмелюся прачытаць наступны твой ліст. Іх асталося так нямнога. І ў кожным новым — столькі горычы... Што з табою здарылася?

*Субота. Стары Двор*

У нас дождж. І мая адзінота гарчыць, як увосень каліна, наламаная на сцежцы за бярэзнікам. Так не хапае цяпла і яшчэ нечага вельмі важнага, неабходнага тут, побач, штохвілінна. Але ведаю, што трэба перамагчы ў сабе і гэты сум, і гэтае шчымлівае адчуванне адзіноты — дзеля працы. Інакш... Дапамагае адно — вера, што любая ростань таіць у сабе сустрэчу.

*18 жніўня. Стары Двор*

Такая цёмная за акном блізіцца ноч. Аднак жа цяпер у мяне шпітальны перыяд, ляжу ціхенька ў лож-

ку, глытаю горкія напоі і пігулкі. А паліць мяне, як на печы ў гарачым просе. Прыслухваюся да свайго сэрца. Чытаю нейкую экзальтаваную кніжку без вокладак. Партрэты, фарфор, кушэткі... Ах, колькі ж гэта тамоў трэба, каб апісаць хоць бы наш бярэзнік?!

Усё думаю пра цябе, Андрэй. І гэтыя думкі сярэдначы адзіна і звязваюць мяне з рэальным светам. І трохі засмучаюць. Не хапае цяпла чалавечнасці зне. І гэты адказ на твой апошні ліст — ад немагчымасці не гаварыць з табою, ад неабходнасці гаварыць — пастаянна. Хочацца зноў туды, дзе мы былі разам. Каб зноў было пастаяннае адчуванне твае прысутнасці недзе побач, зусім блізка. Так блізка, што можна дакрануцца рукою, пачуць голас. Гэта адчуванне ўсемагутнае. Яно апраўдвае ўсё. І самае галоўнае — нашу існасць на гэтым свеце. Без гэтага адчування жыццё траціць сэнс. Бягуць хвіліны і складваюцца ў доўгія, як бясконцыя вёрсты чакання, гадзіны... А ты думаеш: навошта ўсё, калі таго чалавека, самага неабходнага і любімага, няма побач... Табе бязмежна шкада гэтых пустых і нудных гадзін. Яны маглі [redacted] стаць, можа, самымі шчаслівымі для цябе. І гэтае святло ад свечкі ў маім пакоі — таксама сум. Бо ён нагадвае мне другія вечары. Вечары, калі мы былі разам з табою. Сум палоніць усю істоту. І мне хочацца куды-небудзь схавацца, каб быць хоць бы адной, каб нікога. Урэшце, быць сам-насам з гэтым сумам, бо ён сатканы з тонкіх і напятых, як струны, нітачак-успамінаў пра цябе! Я не хачу, каб што-небудзь груба і мітусліва абарвала хаця б адну з іх... Яны, менавіта яны цяпер лучаць мяне з табою.

Я кратаю іх, ледзь-ледзь кратаю, і яны — гучаць, і гучанне іх — светлая і журлівая музыка майго суму. Вялікага, як свет, суму па Табе...

* * *

У дзве гадзіны ночы на станцыю Жупраны прыбыў віленскі хуткі. Дзяжурны па станцыі ўбачыў, як з апошняга вагона на зямлю пругка саскочыў высокі стройны юнак, моцна трымаючы за ручку невялікі пашарпаны чамаданчык. Як толькі састаў грамыхнуў буферамі і зрушыўся з месца, юнак энергічна пакрочыў да ўвахода ў станцыйку. Вялікія медныя гузікі на ягоным пінжаку ў начным ліхтарным святле

бліпчалі, як новыя залатоўкі. Пасажыр нечаму задаволена ўсміхаўся і бесклапотна размахваў чамаданчыкам. Дзяжурны, уздыхнуўшы, адвярнуўся. Час быў такі, што ад падобных начных пасажыраў можна было чакаць усялякіх непрыемнасцей.

Вітольд Чыж адчыніў дзверы і ледзь не хітнуўся на парозе ад сустрэчнага ўдару важкага кіславатага паветра. Паўзмрочная зала здавалася яшчэ цяснейшай з-за нізкай столі, на валасы і на твар з яе адразу пацерушылася густая і ліпкая, што разапрэлая мука, крэйда. Вітольд міжволі слізгануў вачамі па сонных пасажырах. На лаўцы, прысланіўшыся да рудой, добра адглянцаванай спінамі сцяны, сядзела некалькі чалавек. Трое распараных, размякчаных духатою чыноўнікаў і дзве гандляркі. Старэйшая, з вялікімі і круглымі, што бонды, грудзьмі, была ў бруднай кофце-катанцы. Адкрыўшы рот, яна спакойна драмала. Другая была нашмат маладзейшая, з высока ўзбітымі кучаравымі валасамі, з шоўкавым бліскучым шалікам на плячах. Даволі прывабная. Прыплюшчыла вочы, нахабна і чэпка агледзела Вітольда. Млявым рухам папраўіла далоньмі на каленях спадніцу ў сінія кветы, зняла з лавы і паставіла збоку на падлогу сваю вялікую, абвязаную суконнаю хусткаю кашолку. Нібыта запрасіла прысесці побач.

Вітак раздражнёна выпраставўся і павольна пакрочыў цераз залу да выхаду насупраць.

Яшчэ раней ён перадаў з Алесем Барановічам ліст у Антонішкі, свайму старэйшаму брату Олеку. Прасіў прыслаць у гэтую ноч на жупранскую станцыю брычку. Олека з брычкай, аднак, яшчэ не было. Знаёмых у Вітольда ў мястэчку хапала, але нікога калаціць сярэдначы не хацелася.

Ён стаяў на ганку і з асалодаю ўдыхаў густы водар спелай летняй ночы. Над ганкам у мутным святле ліхтара танцавала вялікая начніца з празрыста-слюдзянымі кароткімі крыламі. У нябеснай глыбіні перамігваліся белыя маленькія зоркі. Месяц таксама здаваўся далёкім і чужым. Яшчэ тоненькі, працінаў меднымі рожкамі пер'е лятучых лёгкіх воблакаў. Сярод гэтай свежай і адначасна парнай ночы Вітаку было спакойна і добра. І раптам чамаданчык адчыніўся, металічная акантоўка так гохнула сваім рубам па самай костачцы нагі, што цела, здаецца, прашыла элек-

трычным токам. Перад вачамі веерам сыпанулі залатыя блошкі. Вітак падняў з ганка дзве белыя кашулі і ручнік, злосна запіхнуў іх назад у чамаданчык, шчоўкнуў замком. Ступіў на выбітую перад ганкам зямлю, гучна вылаяў Олека, але тут жа прыкусіў губу. Успомніў, што і сам такрок увосень пакрыўдзіў брата — не прыехаў у Антонішкі на яго вяселле. Ніхто з родзічаў не ведаў, што якраз у тыя дні Вітака зваліла моцнае запаленне лёгкіх, «гніенне грудзіны», як казаў той белабрысы пацук у акулярах. Кожны дзень ён абыходзіў палаты і, перад тым як паслухаць хворага, мезеным пальцам гідліва падымаў брудную зваляную сарочку. Вітаку, лічы, пашанцавала. Найперш таму, што Франак Умястоўскі з дапамогаю фельчаркі Еўкі Храбановіч паклаў яго ў вайсковы шпіталь, а не ў сумна вядомую больніцу доктара Савіча. Рызыкаваў, вырабляючы патрэбныя дакументы, падпаручнік Маладзечанскага палка Война Пашкевіч.

Болей месяца Вітак пракачаўся на чорнай ад банек спіне, стаў худы і ценькі, як дубец, але не жаліўся. Грошай не меў, кланяцца, аднак, не стаў — ні Олеку, ні тым болей бацьку, з якім пасварыўся яшчэ пад час вучобы ў гімназіі.

Да палітычнага руху Вітольд Чыж далучыўся яшчэ ў Варшаве, пад уздзеяннем папулярнага тады сярод студэнцтва пісьменніка Андрэя Немаеўскага.

Высокага, смуглатварага і чарнабровага Чыжыка бачылі амаль на кожнай сходцы. Прамоўца ён быў смелы, запальчывы і адразу ж браў «пад рабро». Першым да трыбуны, аднак, не лез, вычэкваў момант, калі ў разгарачаны папярэднікамі натоўп было дастаткова кінуць, як запалку, толькі адну агністую рэпліку, і ўсё адразу ўзрывалася. А Чыжык імгненна знікаў. З усяго свайго варшаўскага жыцця, акрамя, вядома, знаёмства з Немаеўскім, ён запомніў яшчэ дзве важныя падзеі. Першая — сварка з бацькам. У адным з лістоў стары нечакана гнеўна і абразліва звінаваціў Вітака ў сыноўняй няўдзячнасці, у адступленні ад веры і гнюсным хаўрусе з шатанамі сацыялістамі і рэвалюцыянерамі. Адкуль ашмянскі фальварковец уведаў тое, да чаго ў той час не дапяла нават варшаўская ахранка, заставалася таямніцаю. Надоўга замаўчаў і старэйшы брат Олек. Праўда, зрэдзь часу, употайкі ад

бацькі, праз Франака Умястоўскага перадаваў яму грошы.

...Вітольд Чыж не ведаў, ды, зрэшты, і не мог ведаць, што яшчэ ў красавіку ў Віленскую ахранку прыбыла дэпеша з Варшавы. Ротмістр Петэрсон пісаў: «Адпаведна вашага запросу ад дваццаць восьмага мінулага сакавіка за нумарам дзвесце дзесяць паведамляю, што памешчык, па прафесіі літаратар Андрэй Ян Немаеўскі прыцягваўся на дазнанне пры Варшаўскім губернскім жандарскім упраўленні як член «Лігі нарадовай». Апошнім часам Немаеўскі актыўна ўдзельнічае ў сходах партыі польскай інтэлігенцыі «канстытуцыяналістаў», а таксама ўваходзіць у Цэнтральны камітэт нядаўна ўтворанай рэвалюцыйнай групы «Кузня», што выпусціла пяць нумароў перыядычнага выдання з такою ж назваю.

Васемнаццатага красавіка Андрэй Немаеўскі выехаў з Варшавы ў Вільню».

Праз некалькі дзён пасля атрымання гэтай дэпешы прыстаў другога ўчастка Вільні разам з паліцэйскімі зрабіў вобыск на кватэры ў зубнога ўрача Георгія Бурбо. Акрамя гаспадара, у кватэры засталі двараніна Аршанскага павета Вітольда Чыжа. Дапрошаны Чыж наведаў доктара Бурбо толькі як яго даўні пацыент і знаёмства з Немаеўскім адмаўляў. У той вечар на кватэру Бурбо Немаеўскі не з'явіўся.

Яшчэ праз тыдзень на ўсю Вільню прагрымела сходка навучэнцаў Першай мужчынскай гімназіі, якую, па словах дырэктара, наладзілі двое невядомых яму «мерзавцев». Адзін з падбухторшчыкаў, немалады, прыстойна апрануты інтэлігентны мужчына, выступаў на незразумелым для большасці выкладчыкаў і моладзі «белорусском наречии». Другі — высокі смуглатвары юнак гадоў дваццаці — гаварыў па-польску. Устаноўлена, што малодшы з агітатараў — карэспандэнт «Кур'ера літэўскега» Вітольд Чыж прыехаў у Вільню з Варшавы, але пастаяннага месца жыхарства не мае. Праз тыдзень, пасля чарговай сходкі гімназістаў, на кватэры таго ж Бурбо, быў зноў затрыманы падазроны малады чалавек. Аднак дакладна ўстанавіць асобу затрыманага не ўдалося — у той жа вечар ён быў адбіты ад паліцэйскага канвою групай узброеных людзей на перакрыжаванні Георгіеўскага праспекта і Казанскай вуліцы. У перастрэлцы паранены прыстаў другога

ўчастка. Да пратакола следства прыкладзена знойдзеная на месцы здарэння рэзалюцыя нелегальнага з'езда журналістаў у Пецярбургу.

...Другая важная падзея, якая запомнілася Вітаку Чыжу з яго варшаўскага жыцця, таксама закончылася блага. Гэта было яго першае каханне. Абранніцаю маладога рэвалюцыянера стала адна з варшаўскіх дочак «бедных, але высакародных бацькоў», дваццацігадовая красуня Марыся, як потым выявілася — «белая нявольніца» ротмістра Петэрсона, ненавіснага ўсяму варшаўскаму студэнцтву.

Амаль штодня Чыжык узлятаў да яе на трэці паверх. Пакуль аднойчы, калі прыйшоў да сваёй каханкі без папярэджання, не ўбачыў перад яе дзвярамі знаёмую мядзведжую постаць у мундзіры... Вобыск? Нават у асляпленага каханнем гімназіста не ўзнікла такой узвышанай надзеі на падобны рамантычны паварот. Тым часам дзверы за Петэрсонам зачыніліся. Усю ноч Вітак прасядзеў, не самкнуўшы вачэй, на лесвічных прыступках. Чакаў, калі ротмістр закончыць свой «вобыск». Сэрца гарэла. Нарэшце ён усё зразумеў, грымнуў абцасам у глухія Марысіны дзверы і на злом галавы кінуўся ўніз па хісткай і жахліва рыпучай вінтавой жалезнай лесвіцы.

Шыракаплечы чорнавалосы Вітольд Чыж выглядаў нашмат сталейшым, жанчынам падабаўся і ведаў пра гэта. Але першае здраджанае каханне атруціла душу цынізмам.

...Той шпітальны белабрысы пацук у акулярах нават не хаваў здзіўлення, калі ўбачыў, што пасля такой моцнай гарачкі Вітак усё ж выкачаўся. У шпіталь заходзілі Умястоўскія з гасцінцамі, Вітак быў рады, здаецца, нават чэрстваму акрайцу. Хлеб не нявеста, які спёкся, такі з'есца — так некалі казаў яму бацька. Незадоўга да выпіскі Еўка Храбаловіч пазнаёміла яго з сястрою таго самага паручніка, які памог Вітаку з паперамі, Алаізаю Пашкевіч. Новая знаёмая яму не спадабалася. Не па-жаночы катэгарычная, лішне гаварыстая. Праглядвалася ў ёй і нешта аскетычнае, зацятае. Вітак нават спачуваў: такія нігілісткі нічога не разумеюць у сапраўдным каханні і звычайна застаюцца дзеўкамі-векавухамі. Алаіза прыходзіла ў палату толькі з Еўкай Храбаловіч. Неяк неўпрыкмет клала на тумбачку пакуначак з яблыкамі і яйкамі. Слухала

больш гаваркую Еўку, сама ажыўлялася толькі, калі тая пачынала лезці ў «палітыку». Зноў раздражняла сваёй наіўнай катэгарычнасцю, таму амаль ніколі з ёю не згаджаўся. Цёмны народ, калі вы хочаце ведаць, трэба падымаць хоць бы да сярэднявечнай культуры, а не самім апускацца ў яго беспрасветны калодзеж... Ах, нельга падняць, не ўзяўшы яго моцна за рукі? Хама трэба прымушаць вучыцца, пся крэў! Каб рабіць дабро, патрэбна немалая сіла! З гэтай тутэйшай гліны злепіць жбан толькі той, за кім сіла! Тады жбан будзе насіць ваду з чыстай шляхецкай крыніцы. Паглядзіце, як хітра і цярпліва і як жорстка расейскі чыноўнік мне вашу беларускую гліну... Хто цяпер скажа, што жбан гэты — беларускі? Ён ужо сам хоча насіць толькі расейскую ваду. А чаму ж тады — не польскую?! Палова Гродзеншчыны па сутнасці — каталіцкая. Ах, дык і вы, Алаіза, каталічка? Вось бы не падумаў. Ах, мой Езус, ну, пагаварыце, пагаварыце пра нацыянальную свядомасць. Беларуская інтэлігенцыя? Гэта калі сляпы бязногаму дарогу паказвае?

Развітваючыся, Алаіза крыху скептычна і сумна глядзела то на яго, то на Еўку Храбаловіч, паказвала ўсмешкаю, што ад свае веры, гэта значыць, ад веры ў народ беларускі ніколі не адступіцца. Вітак пачынаў злавацца. Выпростваўся на мулкім ложку, усё ўспамінаў і папракаў сябе за марудлівасць. У думках нешта даказваў Алаізе, знаходзіў новыя, больш трапныя адказы на яе пытанні і тады здаваўся сабе больш сталым і кемлівым. Нарэшце супакойваўся і засынаў.

Нараніцы, калі прачынаўся, у першае ж імгненне згадваў пра гэтую дзікаватую дзяўчыну. Зрэшты, яна не была красуня. Але абаяльная — надзвычай. Асабліва калі спрачаецца. Шчокі крыху ружавеюць, акуратныя бровы ўзнімаюцца. Тады нібыта нейкая глыбокая таямніца кладзецца на яе тонкае беднае аблічча і цёмны агонь б'ецца ў вялікіх вачах. Ці прыйдзе яна сёння? Наўрад... Вітак чакаў яе цэлы дзень, злаваўся, але ўсё роўна чакаў. Нават калі надыходзіў вечар.

А ўначы пачыналася...

Ужо колькі разоў Вітаку снілася, што ён ляжыць на сваім вузкім шпітальным ложку не адзін, а разам з Алаізаю, адчувае, як блізка палае яе худзенькае цела і

як яно прыцягвае яго... Бясцямна доўга, пакутліва цалуе Вітак тонкія вусны, ажно адчувае за імі роўныя цвёрдыя зубы, цалуе вочы з густымі казытлівымі веямі. Вар'яцее ад жадання, цягнецца да яе, стогне і раптам — прачынаецца, халадзее ад жаху, зразумеўшы, што яе, Алаізы, тут няма! І быць не можа. Але ж чакайце... Вось... Вось яно... Жаночае, Алаізіна, цела сапраўды апякае яго ўсяго, асабліва руку, якую ён паклаў ёй на грудзі. Вітак зноў стогне. Потым адчувае яе вусны, якія ўжо самі цалуюць... Яна нават жартаўліва пакусвае Вітака за верхнюю губу, нібы загадвае, заклікае быць смялейшым. Ён таропка, рыўком удыхае ў сябе паболей паветра, прыўзнімаецца і ўжо хоча схіліцца над ёю і раптам пакрываецца халодным потам і сіліцца зразумець. Яна — вось, вось! Ляжыць так блізка, што варта толькі... Але ж яе — няма. І гэтае прывіднае жаночае цела побач з ім — толькі д'ябальская спакуса, плоць без плоці, дыханне і страсць і шал прывіду, прымара, якую ён сам прыдумаў і надзяліў сваімі ўласнымі жаданнямі, сваёй страсцю. Яна, Алаіза, цяпер ляжыць побач, горача прыцiснуўшыся да яго, толькі таму, што ён да бясцямнасці хоча, каб такое было наяве.

Раніцаю Вітак саромеўся нават успамінаць сваё трызненне, крыху злосна, усхвалявана чакаў сустрэчы з Алаізаю. І яна нарэшце ўваходзіла ўслед за Еўкаю Храбаловіч. Вітак адчуваў, як адразу пры ёй дурнее і хвалюецца, успыхваў і пачынаў бязглузда прыдзірацца нават да яе асобных слоў. І Алаіза хутка развітвалася.

Вітак пакутаваў. Бо ведаў, што гэтае вар'яцтва, гэтая нечаканая сумяціца ў душы — безвыходныя і што яго грэшныя салодкія сны і мроі — пустата, зусім не патрэбная яму пустата. Пасля выпіскі Вітак нават узрадаваўся, што не будзе болей бачыцца з ёю. Потым пачаў кожны тыдзень забягаць да Умястоўскіх, але час ляцеў, а сустрэцца там з Алаізаю яму так і не пашэнціла.

На згоне зімы Вітак атрымаў доўгачаканы ліст ад Олека. І ліст гэты, як ні дзіўна, аказаўся цудадзейным. Думкі пра Антонішкі і пра бацьку, пра гаспадарку, якую Олек цяпер моцна трымаў у руках, — усё гэта разам надзіва хутка выцесніла з Вітакавай душы і спакуслівыя мроі, і нават успаміны пра тыя кароткія шпітальныя сустрэчы з Алаізаю. Усё аказалася

прасцей. Недзе на донцы, праўда, ускіпалі шкадаванне і сум, але...

Але ў Вільні пачаўся такі рэзрух, які адразу ж ухапіў яго ў свой шалёны калаўрот, асабліва пасля знаёмства з былым выгнаннікам, адвакатам Алесем Барановічам. І Вітак яшчэ раз успомніў пра Пашкевічанку: Алесь быў такі ж шчыры беларускі фанатык, што нарэшце заразіў сваёй апантанасцю і яго.

У тым лісце з Антонішак Олек пісаў яшчэ пра адну важную сямейную абставіну — хваравітасць сваёй маладой няўдаліцы-жонкі. Жупранская паненка Марысь скончыла ў Пецярбургу курсы Лесгафта, асабліва пекна спявала. І ці не з-за яе анёльскага голасу Олек закахаўся так моцна, што нават махнуў на бацькаву перасцярогу — Маніна маці памерла зусім маладая ад хуткацечных сухотаў. Пасля вяселля Маня перанесла цяжкую анемію: доктар Дэуль праслухаў і знайшоў у яе раннюю стадыю сухотаў. Так што наўрад ці, — пісаў Олек, — ён дачакаецца ад яе дзяцей.

...Аднак нешта змянілася, так-так, нешта ў наваколлі змянілася. Увачавідкі неба паяснела. Дзьмуў пругкі начны ветрык, прыемна абвяваў разгарачаны твар. Блізілася раніца. Вітак прайшоўся перад станцыяй, ледзь рухаючы занямелымі нагамі, нечакана пачуў глухое конскае ржанне. Злева ад станцыі ў цемры бліснула вочка ліхтара. Агеньчык зігзагамі скакаў у розныя бакі, але хутка на вялізнай цёмнай шыбіне начной местачковай вуліцы ўзнікла тонкая чырвоная дуга. Ліхтар, прывязаны да аглоблі, відно, мерна разгайдала. Праз яго няяснае святло праступіў цёмны абрыс вялізнай карэты. Гэта была няўклюдная дзедава калымага з Антонішак.

Вітак узрадаваўся, пабег насустрач. Маладзенькі фурман на прывітанне белазуба выскаліўся, чаранком пугі падняў яшчэ вышэй над лобам магерку. Паліхвацку прысвіснуў і нацягнуў лейцы.

— Ст-э-эй, вужава кроў!

Ашалелы конь асадзіў назад, брычка па інерцыі ўдарыла яму ў заднія ногі, спынілася акурат насупраць Вітака, але правае пярэдняе кола ўскочыла ў нейкую, у цемры і не змеціш, яміну, і брычка рэзка нахілілася. Ліхтар адарваўся ад аглоблі, з бразгатам пакаціўся пад каня. Той яшчэ раз, спуджаны, тарганууўся назад...

— Ды стой ты, скурвы сын!

...і ўдарыў, асеў на перадок брычкі.

Вітак ледзь паспеў падхапіць жанчыну, якая выскачыла з брычкі, пачуў неслабы ўдар у грудзі локцем і сам ледзь утрымаўся на нагах. Але жанчына тут жа спрытна вызвалілася з ягоных рук і весела зарагатала.

Вітак зразумеў, што гэта якраз і ёсць Олекава жонка. Невысокая зграбненькая братавая стаяла так блізка, што Вітак пачуў, як моцна пахнуць аерам яе валасы — блiскучыя, што цёмнае золата. Каса мякка лілася па тонкай шыі на грудзі. Братавая была даўгавідая, з тонкім даўгаваценькім носам. Прывабная гнуткая лінія вуснаў. На прыўзнятых плячах паверх блузкі ■ сіняга паркалю трапятала ад ветрыку кароткая пелярына.

У станцыі братавая назвалася: «Маня», дадала: «Можна Марысь, так Олек заве». Вітольд яшчэ раз прыгледзеўся да яе і ўздыхнуў. Олек, выбіраючы жонку, і сапраўды пазычыў у сляпога вочы. Валасы, праўда... Але ж дробненькая, як парцалянавая лялька.

На Марысь у станцыі напала дрымота. Сонна, незадаволена мямліла, што Олек паехаў у Ашмянь да лясніча́га, таму і паслаў яе. Брычка па дарозе ўвесь час ламалася. Яны сядзелі побач з тою самаю какетлівaю маладзіцаю, якая зноў пасунула на лаве сваю вялізную кашолку і грэбліва шматзначна хмыкнула. Гаварыла адна Марысь.

...Сенаванне ўжо. Олек быў расцягнуўшы жылы на правай назе. Хто прыязджаў? Ціха пазяхнула. Нема-лады такі, сталы... Барано... Пазяхнула. І з ім — паненка адна. Алаізія. Здаецца, Паш... Вітак міжволі моцна сціснуў у братавай руку, загадваючы змоўкнуць. Марысь паглядзела на яго здзіўлена. А вочы — прадаўгаватыя, ведзьміны, з карымі крапінкамі вакол вялікіх зрэнак. Як у Алаізы. А думаў, ужо зусім забыў пра яе. Вітаку зрабілася сумна. Павярнуўся да суседкі: куды гэта паненка так сабралася, што цераз цэлую ноч мусіць тырчаць на гэтай станцыі? Тая прызыўна хіхікала, распраўляла на каленях спадніцу.

Вітак таксама засмяяўся. І раптам пачуў моцны штуршок у бок, здзіўлена, нічога не разумеючы, павярнуўся да братавай. У яе раўнівым позірку было столькі крыўды і гневу, што Вітака імгненна акаціў халодны агонь: гэта якая ж яе справа?!

Бледныя вусны ў братавай пакрыўджана трымцелі. Тады Вітак падняўся з лавы і пайшоў пасабляць фурману.

Ужо ў брычцы, па дарозе дахаты, калі на хвіліну задрамаў, Вітак раптам прысніў той дзіўны дакорлівы Марысін позірк. Па целе пабег агонь, але ўжо не халодны, а вугальна калючы. Вочы Марысь былі зусім цёмныя, таямнічыя. Вітак убачыў яшчэ доўгія густыя веі. І ўжо слаба цяміў, што гэта — сон ціява. І раптам — паляцеў. Паляцеў на злом галавы. Але не ў прорву, а ўверх. І ляцеў вельмі хутка, ажно вецер аблізваў шурпатым языком яго разгарачаны твар. Ён імкліва аддаляўся ад зямлі, задыхаўся ў клубках сустрэчнага вільготнага туману. Цела яго нібыта расцягвалася ў палёце, потым невераемна балюча ўкручвалася ў нябачны д'ябальскі калаўротак. Вітак чуў, як ледзь не лопаюцца ад напругі жылы. З жахам памкнуўся вырвацца з гэтага жалезнага кола, застагнаў... і сапраўды прахапіўся.

Ад нязручнага сядзення ногі занямелі, і ён ледзь выпрастаўся. Марысь драмала, схіліўшы набок галаву, па доўгай залацістай касе на грудзях ласкава гуляў промень раніцы. Вітак адвярнуўся. Пелярына з яе плячэй саслізнула, як жывая, і ляжала цяпер паміж імі на сядзенні. Ах, Езус, нарэшце Антонішкі!

Харомы Чыжоў патаналі ў ліповым цвеце. Стары пан Станіслаў жыў цяпер у Ашмяні, Олек, яшчэ да жаніцьбы, падняў бацькаву хату, збудаваўшы мансарду другога паверха на два пакоі пад гонтаю.

Старыя ліпы, хвала Езусу, не спілавалі, і яны разгаліналіся так вольна, што даставалі да вокнаў мансарды. Марысь пасля сняданка завяла Вітака ў адзін з пакойчыкаў на мансардзе, і ён праспаў пад ліпавае шапаценне амаль да абеду. Вельмі доўга цягаўся па ваколіцы. Потым зноў падняўся на сваю прыцемненую галлём мансарду. Олек яшчэ не вярнуўся, вячэраць без яго не хацелася. Выпіў з глечыка, што стаяў на стале, бярозавага квасу, прагнаў смагу і голад. Задаволены, прылёг — і зноў задрамаў. Калі расплюшчыў вочы — у пакойчыку па-сапраўднаму сцямнела. Ён запаліў лямпу. Падышоў да акна, развёў паркалёвыя фіранкі. Перад акном, як рукою дастаць, жаўцела круглая пляма нядаўна спілаванай галіны. З другога боку дугою навісала цэлая — тоўстая, цягнула-

ся ажно да акна суседняга пакойчыка мансарды. Вітаку здалося, што за сцяною нехта ёсць, нават ціхенька пакашлівае. Вярнуўся да стала, задзьмуў святло ў лямпе. Стала глуха, як у пограбе. Ён адчыніў дзверы — у цёмным калідорчыку таксама цішыня. Як вымерла ўсё. Тады зачыніў дзверы і вярнуўся да акна. Асцярожна расчыніў яго, прыслухаўся да звонкага маладзенькага цвыркуна і таямнічага ліповага шэпту. Спаць болей не хацелася. Вітак гарэзліва хмыкнуў, узабраўся невядома для чаго на падваконнік каленьмі. Намацаў леваю рукою тоўстую надзейную галіну, праваю схапіўся за спілаваны каля ствала адростак. Той казаўся шурпатым і дастаткова доўгенькім.

Асцярожна прыўзняў спачатку адну, потым другую нагу, стаў на падваконніку ў поўны рост, міжволі схіліўся ў левы бок, упёрся ў галіну грудзьмі — тая нават не калыхнулася, тады палез з акна, смела ступіў на сук. Злаўчыўся, падцягнуўся і сеў на галіну злева. Пашукаў нагою апірышча, крыху ніжай, каля самага ствала. Там таксама была тоўстая галіна, асцярожна апусціўся і сеў на яе, прыпаў бокам да ствала, абхапіў яго рукою. Сядзець было нязручна, але Вітак не варушыўся. Проста перад ім праз густое ліСцвянае сіта прабівалася святло з суседняга акна. Вольнаю рукою Вітак адвёў убок тонкае навіслае голлечка, усё стала відна як на далоні. Пасярод такога ж невялічкага, як і ў яго, мансарднага пакоя стаяла жанчына. Ён нават не паверыў спачатку, што гэта Марысь. Марысь стаяла спінаю да акна і, падняўшы рукі, ніяк не магла справіцца з заколкаю ў валасах.

Нарэшце выцягнула яе і, крыху адкінуўшы назад галаву, пачала расплятаць доўгую, амаль да пояса, касу. Рабіла яна гэта прыгожымі плаўнымі рухамі. Тры расплеценыя пасмачкі хвалі́ста леглі на худзенькія плечы. Вось Марысь павярнулася да акна, яе прадаўгаватыя вочы здаліся надзвычай вялікімі і чорнымі.

Яна падышла да дзвярэй і праверыла засаўку. Потым вярнулася да стала, на якім стаяла авальнае люстэрка. Паволі, як любуючыся сабою, зняла сукню, развязала матузкі і сцягнула зверху ўніз, праз спёгны, белую споднюю сарочку. Вешала ўсё па парадку на высокую спінку крэсла пры стале.

Вітак не адрываў ад яе вачэй, чыста забыў, што гэта не проста жанчына, а жонка яго старэйшага брата. Не

бачыў цяпер яе аблічча, яе залатых валасоў, а толькі круглыя і вострыя, па-дзявочы крыху расхінутыя ў бакі, з цёмнымі саскамі, грудзі.

Марысь падняла рукі і нечакана рэзкім рухам адкінула з плячэй доўгія валасы. Ад гэтага руху грудзі пругка калыхнуліся і яшчэ болей разышліся ў бакі.

Вітак праглынуў сліну, каб саўладаць з моцным прыступам кашлю, у горле рассыпаўся вугаль.

Ён зноў глядзеў на Марысь — тонкі, як у дзяўчынкі, стан, вузкія сцёгны, вакол якіх, здаецца, віўся залацісты пылок. Цела ў Марысь было не малочна-белае, як аблічча, а смуглявае, з вільгатнаватым бляскам. Жывот гладкі, доўгенькі, але позірк апускаўся яшчэ ніжэй.

Марысь падняла галаву і, сашчапіўшы на патыліцы рукі, замерла перад самым акном. Бачыў, як па яе бледных шчоках раптам пакаціліся слёзы. Яна плакала. І гэта найбольш уразіла — Вітак міжволі варухнуў нагамі і, ледзь не страціўшы раўнавагу, тарганууўся назад. Галіна, на якой ён сядзеў, рэзка шарганула па шыбіне і падваконніку.

Марысь ускрыкнула і з жахам кінулася ад акна. Агонь у пакоі адразу ж патух. Вітак прыпаў да цёплага ствала, упоцемку пачаў таропка злазіць уніз, ледзь трымаючыся за галіны аслабелымі трымтлівымі рукамі. Нарэшце скочыў на зямлю. Палатняныя пантофлі адразу намоклі ад расы. Зрабілася зябка. Прыгнуўшыся, ён завярнуў за вугал і на злом галавы кінуўся ў сад, які рос адразу ж за домам. Зусім блізка заенчыў, як рэзаны, сабака, Вітак пабег яшчэ шпарчэй, змеціўшы перад сабою рады невысокіх дрэў. Гэта былі яблыні. Нехта хрыпла крыкнуў: «Стой!» Вітак злосна расшмаргнуў апаяску — яшчэ ў сваім пакойчыку падперазаўся тонкім бізуном з кароткім арэхавым чаранком, — на бягу з усяго маху хвастануў бізуном па галінах. Нехта ўпарта гупаў ззаду чобатамі, даганяў. Вітак ляснуў бізуном па дрэўцы яшчэ раз, па зямлі весела і часта зашпокалі зялёныя яблычкі. Вітак вылаяўся, гучна і брыдка: якая халера яго сюды прыгнала?! Спыніўся і раптам здзіўлена адчуў, што правую нагу прашыў пякучы, як укус вялізнае асы, боль. І толькі праз імгненне да слыху даляцеў гучны стрэл. «Уліп! Ва ўласным садзе!» Здалося, што баліць не толькі нага, што коле ажно пад самым сэрцам,

нібыта вялікімі віламі прабіла грудзі. Стала так млосна, што ён званітаваў, ірвануўся ўбок, на сабачы брэх, і, ужо беспрытомны, паваліўся на зямлю.

Ачуціўся Вітак у вялікай зале, на канапе, пад мяккім пледам. На стале пасярэдзіне залы гарэла вялікая лямпа. Над канапаю схіляўся немалады, з рудою акладзістаю барадою мужчына, і Вітак зразумеў, што гэта доктар Дэуль.

— Лепей усё ж у бальніцу.

Дэуль прысеў на крэсла. Вітак убачыў каля самых дзвярэй Марысь, якая напружана сціскала пальцы ў маленькія кулачкі.

— Так-так, пані Марыся, пару драбін, баюся, зачапілі костку, а гэта ўжо непрыемненька. У бальніцу ўсё ж надзейней.

— Няхай Олек рашае, — сказала Марысь.

— Пры чым тут Олек? — Вітольд у ярасці рвануўся з ложка, але зноў адкінуўся на падушку, нагу, здаецца, разрывала вострымі шчыпцамі.

— Такая недарэчнасць... Я даўно казала Олеку прагнаць таго прыдурка! Езус Марыя, што яшчэ Олек скажа...

Яна здавалася Вітаку такой непрыгожай, такой гадкай з гэтым сваім піскпявым «як жа будзе?», што цярпенне лопнула:

— Няхай выйдзе прэч!

— Хто? — здзівіўся доктар.

Марысь зразумела адразу і, не сказаўшы ні слова, пайшла да дзвярэй. Адчыніла іх, азірнулася: бледныя пашэрхлыя вусны трымцелі, вочы напаўняліся слязьмі. Вітак раптам ясна ўспомніў тыя, іншыя слёзы на яе бледным, павернутым да акна твары, успомніў, як рэзка адкідвала яна з голых плячэй важкія валасы, успомніў яе ўсю і зноў ледзь не страціў прытомнасць. Марысь ціха прычыніла за сабою дзверы.

— У яе што, доктар, сапраўды сухоты?

Дэуль спакойна, надзіва раўнадушна кіўнуў галавою:

— У пані даволі няўстойлівая нервовая сістэма, а гэта спрыяе... Але калі хоць адна шраціна, — Дэуль нечакана перайшоў да яго раны, — зачапіла костку, то ў бальніцу — давядзецца! Не разумею, чаго тут пану ўпарціцца. Можа кончыцца гэтая філямандрыя не-

прыемненька. Так што заўтра зазірну. Пані Марысі я ўсё паясніў, прашу пані слухацца.

Дэуль узяў са стала свой сакваяж, падышоў да дзвярэй і схіліў галаву:

— До відзэння!

### З ДАНЯСЕННЯ АЛЬФА РОТМІСТРУ ГЕНІСАРЭЦКАМУ

*«Гродна. 30.VIII*

Сярод папер, вынесеных з дамоў Элізы Ажэшка пасля наведвання яе маларосkім этнографам Іларыёнам Свянціцкім і мінскім мешчанінам Іванам Луцкевічам, звяртаю вашу ўвагу на наступную, знойдзеную намі рукапісную даведку пра галіцкага мітрапаліта Шаптыцкага: «У Шаптыцкага магутная фігура — не меней [redacted] арш. 14 вяршкоў. Блакітныя вочы, невялікая русая бародка, чысты славянскі тып аблічча. Хутка гаворыць па-галічанску, разумее рускую мову. Сын польскага граф Яна Шаптыцкага, свецкае імя Андрэй. Род — ад князя Льва, заснавальніка Львова. Называліся раней Шаптюхамі, продкі былі праваслаўныя. Трое ў 18 стагоддзі займалі епіскапскія кафедры ў Львове. Параўнаўча нядаўна род апалячыўся дзякуючы шлюбам. Адзін з братоў мітрапаліта граф Аляксандр-Марыя-Дамінік пражывае ў цяперашняй Холмскай губерні, дзе мае немалое памесце. Рускі падданы. Адукацыю мітрапаліт Андрэй атрымаў у Ягелонскім універсітэце. Доктар права. Пасля курса паступіў на ваенную службу. У 26 гадоў цяжка захварэў, даў Госпаду абет, што пасля выздараўлення вернецца да веры продкаў і прыме манаства. Пострыг адбыўся ў 1892 годзе, пасля чаго граф Андрэй Шаптыцкі заняў кафедру епіскапа Станіслаўскай епархіі і зацверджаны папаю галіцка-рускім мітрапалітам з тытулам: «Яго экселенцыя высокапрэасвяшчэнны Кір Андрэй Аляксандр Раман граф на Шаптыцах». З Боскае літасці і благаславення Святога Апостальскага прастола Шаптыцкі — галіцкі мітрапаліт, львоўскі архіепіскап, епіскап Камянца-Падольскага, яго цэсарска-каралеўскай вялікасці дзейсны і тайны саветнік, член Аўстрыйскага Сойма.

Нагадваю: знаёмы нам Іларыён Свянціцкі ў фаворы Шаптыцкага, надзелены пасрэдніцкай місіяй. Па апошніх звестках Свянціцкі і Ян Луцкевіч ужо два тыдні праводзяць сумесныя этнаграфічныя паездкі па краі. Прасачыць маршрут дакладна магчымасці не маю. Дапускаю, аднак, што сумесныя вяжы абодвух этнографаў звязаны з наладжваннем новых «вокнаў; у «зялёнай граніцы» для сувязі з Галіцыяй і

Кракавам. Месца знаходжання Свянціцкага і Яна Луцкевіча пасля выезду з Гродна невядома.

Алаізія Пашкевіч, па звестках лідскага паштмайстра Цвікевіча, са Старога Двара выехала ў Вільню.

Былы адвакат Аляксандр Барановіч выбыў з Ашмян у Дзісенскі павет. Месца знаходжання названага вашым правасхадзіцельствам журналіста Вітольда Чыжа высняецца.

*Альф».*

* * *

— Стары распуснік! У яго зноў новы пратэжэ... І ён мяне раздражняе невыносна, гэты Засядка. — Нядаўна прызначаны на пост дырэктара дэпартамента паліцыі Вуіч ішоў побач з Сяргеем Юльевічам Вітэ па шырокім калідоры Зімняга з такім незадаволеным выразам на твары, што сустрэчныя, коратка кіўнуўшы на прывітанне, міжволі здзіўлена азіраліся. — Засядка, вядома, чалавек не без здольнасцяў. Але цяпер ён ужо незадаволены нават крэслам упраўляючага Самарскай губерні.

Заходзячы ў свой кабінет, Вітэ паказаў Вуічу на крэсла і сам, сеўшы за стол, стомлена апусціў плечы.

— Вы ж ведаеце, што такіх, як Засядка, я не падтрымліваю. Мяшчэрскі дарэмна...

— Але, Сяргей Юльевіч, я добра памятаю, як у пачатку года, калі міністрам унутраных спраў быў яшчэ князь Святаполк-Мірскі, наш міласцівы князь Мяшчэрскі не даваў яму праходу са сваімі гнюснымі просьбамі прыняць у канцылярыю нейкага маладога афіцэра. Князь Мірскі заўсёды быў чалавекам высакародным і чыстым.

Вітэ ўсміхнуўся і, схамянуўшыся, з непрыступным выглядам выпрастаўся за сталом:

— Імператар пры мне неяк гаварыў з Мірскім пра Мяшчэрскага. І бачылі б вы, як Мірскі рэагаваў! Заявіў, што адносіць Мяшчэрскага да ліку тых асоб, пра якіх гасудару не толькі не варта ведаць, але нават вымаўленне імені Мяшчэрскага нібыта «оскверняет царственные уста».

Вуіч даволі гучна рассмяяўся, але нельга было зразумець, што ж пры гэтым тоіцца ў глыбіні яго невялікіх зеленаватых вачэй за шкельцамі пенснэ.

Вітэ пацёр даланёю прыгожы высокі лоб, яшчэ вышай падняў галаву:

— Але мушу сказаць, калі быць справядлівым, што якраз Мяшчэрскі выступіў супраць банды Абазы, якая, калі памятаеце, і ўцягнула нас у гнюсную японскую вайну. Князь меў смеласць адкрыта пісаць пра гэта гасудару. І такую смеласць я цаню.

— Сяргей Юльевіч, але цяпер ён зрабіў ад вас рэзкі паварот.

Вітэ не здзівіўся, але насцярожана і запытальна звёў бровы.

— Пан Мяшчэрскі дазволіў сабе з'явіцца да мяне на тайную кватэру з заявай аб тым, што канстытуцыйныя акты, якія вы рыхтуеце для гасудара, справа рук не толькі палітычнага вар'ята, але чалавека без цара ў галаве.

Вітэ пагардліва скрывіўся:

— Калі б гэтае варанне не баялася, то, запэўніваю, яно не пакінула [redacted] арганізм імперыі жывым! Іхнія дзюбы разарвалі б яе, як падліну, што ў прывычках дварцовай чэлядзі! На жаль, гэта разбэшчвае і самога памазанніка Божага. — Вітэ пабялеў. — Іх графскае і княжаскае высакародства паказное настолькі, што...

— Вінаватыя заўсёды знойдуцца.

— Вы думаеце, што я так ужо настойваю на «Маніфесце»? — Вітэ быў раздражнёны. — Але згадзіцеся, што нельга пілаваць жывое цела народа тупой пілою. Ды яшчэ калі піла ў руках няўмелага доктара... Дарэчы, у вашым дэпартаменце таксама ёсць паклоннікі Мяшчэрскага.

— Я ведаю.

— І ваш Мануйлаў ужо прыходзіў да мяне ад яго. — Змеціўшы, што Вуіч незадаволена падціснуў і без таго тонкія вусны і раздзьмуў ноздры, Вітэ крыху прыглушыў голас. — І ад імені Мяшчэрскага прасіў мяне прыняць свяшчэнніка Гапона.

— Я таксама здзіўлены, што Гапон яшчэ ў Расіі, і праз некалькі дзён выправаджу памянёную асобу з Расіі. Хаця Мяшчэрскі пераконвае, што поп раскаяўся і хоча прапанаваць сябе для сыскной справы.

Вітэ засмяяўся:

— Дастаткова, што гэты свяшчэннік даволі вытанчана падмануў не толькі Мірскага і Плеве, але, як разумееце, самога гасудара.

— «Русское слово», як мне далажылі, заказала Гапону нешта накшталт мемуараў.

— Мемуары яму яшчэ ранавата... Па нашых звестках, Гапон дамагаўся сустрэчы са мною, аказваецца, з адзінай мэтай... З мэтай — забіць мяне! Так-так. Гапон павінен быў прыйсці да мяне з браўнінгам.

— Я сумняваюся, каб Мяшчэрскі ведаў што-небудзь пра такія штучкі.

— Я таксама. Наўрад ці такое магло нарадзіцца ў галаве чалавека, які з палітыкі зрабіў гандлёвую краму і гандлюе толькі на карысць сваіх гнюсных фаварытаў.

— У расійскага грамадства ўсё-ткі пераважае здаровы сэнс і палітычны такт. Гапонаўшчына — форма анархіі. Значыць — гэта не для нас. Анархія адразу ж расколе грамадства.

— З маёй і вашай волі, упэўнены, Расія будзе прывыкаць да разумення сапраўднай свабоды.

— На словах мы ўсе за свабоду. Але калі голас яе прагрыміць, то яго цяжка будзе заглушыць.

— У гэтай справе правыя флангі такія ж нахабныя, як і левыя партыі. І ўся справа ў тым, як не дапусціць патокаў крыві.

— Каб ачысціць крываносныя сасуды, граф, патрэбна не адна аперацыя.

— Справа, аб якой я хацеў бы пагаварыць з вамі, граф... — Вітэ глядзеў на Вуіча з насцярожананедаверлівым прыжмурам. — Лапухін паведаміў нам, што пры вашым дэпартаменце існуе асобы аддзел, які фабрыкуе навейшыя пракламацыі... правакатарскія... І што на днях цэлы цюк пасланы ў Курск і Вільню. Хацеў бы адразу ж цяпер паехаць з вамі ў дэпартамент, каб задаць некалькі пытанняў ротмістру Камісараву.

— Але, магчыма, лепей будзе, калі ваш пасыльны, граф Сяргей Юльевіч, сам паедзе ў дэпартамент і прывязе Камісарава неадкладна. Але паверце, граф, я яшчэ не паспеў... І нічога пра Камісарава не ведаю.

— У такім выпадку дайце мне слова, што вы тут жа правядзеце следства і знішчыце ўвесь запас пракламацый. Друкарскія станкі можаце выкінуць хоць бы ў Фантанку. Але я лічу недапушчальным падобныя маніпуляцыі. Загадайце Камісараву выканаць усё без ваганняў, іначай буду вымушаны паступіць па закону.

— Я хачу толькі нагадаць, што Камісараў праявіў сябе, як вы ведаеце, пры таемным дабыванні дакументаў у час японскай вайны.

— Мне вядомы адносіны імператара да вашага падапечнага. Аднак загад мой прашу выканаць да раніцы.

* * *

Перад самым абедам Сяргея Юльевіча Вітэ наведала немаладая, але грацыёзная дама ў шыракаполым капелюшы з папяровымі кветкамі.

Пасля таго як дама загадкава і крыху какетліва ўсміхнулася, Вітэ пазнаў жонку былога міравога суддзі з Масквы Гольштамта. Яшчэ ў маладосці Вітэ быў закаханы ў гэтую жанчыну дзівоснага хараства і цяпер, пасля першых слоў ветлівасці, баяўся толькі аднаго — каб вочы не выдалі яго здзіўленага расчаравання. Баранеса ўжо гадоў каля пятнаццаці была ўдавою і, пэўна, ледзь зводзіла канцы з канцамі. Ад яе колішняга хараства амаль нічога не засталося.

— І як наша мілая Кэтрын?!

— Дачка не захацела пераняць у сваіх бацькоў лепшае. Ах, граф Сяргей Юльевіч!

Вітэ засмяяўся і падрыхтаваўся да працяглай гаворкі.

Але не больш чым праз пятнаццаць хвілін ён ужо ўсё зразумеў і пасля развітання з баранесай папрасіў аўдыенцыі ў Пецяргофе. Перад тым заехаў да Вуіча.

Баранесу Гольштамт у Пецярбург прывёў адзіна страх. Страх за дачку, якая, разам са сваім жаніхом, нечакана занялася рэвалюцыйнай дзейнасцю. Жаніх юнай лэдзі, больш таго, быў у цэнтры падрыхтоўкі ў Маскве магутнага антыманаршага выступлення. Калі верыць баранесе, выступленне рыхтавалася на канец верасня.

У абмен на інфармацыю баранеса Гольштамт папрасіла зрабіць усё магчымае для таго, каб арыштаваць жаніха-рэвалюцыянера хоць бы на пару тыдняў, каб потым, не маючы аніякіх доказаў яго рэвалюцыйнай дзейнасці, адпусціць. За час расследавання малады рэвалюцыянер у турме паспее добра падумаць над будучым жыццём і, акрамя ўсяго, будзе ізаляваны ад барыкадных кровапраліццяў. Арыштаваць маладога

Рабесп'ера найлепей у Вільні, куды ён разам з Кэтрын збіраецца выехаць для сустрэчы са сваёй вяльможнай родзічкай — Магдаленай Радзівіл.

Увечары таго ж дня, выконваючы просьбу баранесы, Вітэ вырашыў адправіць ліст графу Палену ў Вільню. Сяргей Юльевіч у сваім пасланні пісаў і такое: «...асабліва балюча ведаць мне, колькі маладых людзей апошнім часам аддало нізашто самы каштоўны дар Божы — сваё жыццё. Увогуле, мушу сказаць вам — уся руская моладзь ускіпела так, што кіпенне часам даходзіць да бурлення, і гэта паказвае, што яна, моладзь наша, асабліва універсітэцкая, даведзена да таго стану, калі ўжо здольна на любыя палітычныя эксцэсы. І ў гэты гістарычны прамежак, успомніце, мілы граф, мы пайшлі на невераемнае хлапчуковае вар'яцтва — японскую вайну. Моладзь, як тое люстэрка, у якім добра люструюцца дакладныя праявы духоўнага стану грамадства. І цяпер для яе галоўнае — сацыялістычныя ідэі ў разнастайных формах, што адмаўляюць і расхістваюць асновы ўласнасці па прынцыпах рымскага права. Пайшлі ў ход думкі Талстога, хоць маладыя іх амаль не разумеюць, як і думкі Маркса. І гэтыя сацыялістычныя ідэі знайшлі ў нас сацыяльную глебу толькі з-за непавагі да правоў увогуле, у асаблівасці да права ўласнасці, урэшце, з-за невысокай культуры насельніцтва. Калі рабочым абяцаюць аддаць фабрыкі, калі даводзяць, што гэта ім належыць, то рабочыя дзічэюць ад бясконцых забастовак, а сяляне — ад чырвонага пеўня ці, як сказаў нядаўна ў Думе аратар Герштэйн, ад «ілюмінацый»!

Разумею. Набліжаецца пераломны момант, што, магчыма, выкліча «Маніфест», які я рыхтую для гасудара. А гэта пералом і ў нашай моладзі, якая блукае ў палітычным недаўменні: то кідаецца да «Божа, Цара беражы», то крычыць на вуліцах «Марсельезу»... А ўсё — бляклы плагіят з французскай рэвалюцыі... А са мной цяпер паўтараецца тое ж, што было нядаўна перад Портсмутам, калі гасудар быў вымушаны звярнуцца да мяне прыняць горкую місію пасла па ліквідацыі бессаромнай вайны, бо Нямідаў, пасол у Парыжы, Мураўёў, пасол у Рыме, Абаленскі, таварыш міністра замежных спраў, ад гэтага гонару адмовіліся. Адзін па старасці, другі па сумленнасці... Гарамыкін ухіліўся, граф Ігнацьеў спалохаўся, Трэпаў заблы-

таўся, не ведаючы, як уцячы з гэтага хаосу. Вось так і цяпер атрымліваецца з маім прызначэннем на пост прэм'ера «дзяржаўнага непаразумення».

Як бачыш, мілы граф, нават у такіх умовах я не губляю асанкі і паставы старога, але яшчэ моцнага свецкага льва. Аднак, акрамя таго, што я напісаў і аб чым прасіў, мушу звярнуцца яшчэ па адным пытанні. Рыхтуецца запіска прафесара Мігуліна аб прымусовым адчужэнні дзяржаўных і ўласных земляў на карысць сялян, што, спадзяюся, прыглушыць агонію чырвонага пеўня... Каб уласнікі не пазбыліся ўсяго, прычым самым грабежніцкім чынам!

Чакаю ад Вас у гэтым плане прапаноў.

Ваш *С. Ю. Вітэ*».

...На наступны дзень Вітэ наведаў Вуіча. Гаварылі пра адно: трэпаўскія эксперыменты з паліцэйскім сацыялізмам у асяроддзі рабочых — тая ж самая зубатаўшчына і асаблівай карысці не прынясе.

Не забыў Вітэ пра візіт і просьбу баранесы Гольштамт. Справе часовага арышту жаніха Каценькі Гольштамт быў дадзены ход.

## 5

Яны прагаварылі са Стэфаю Залускай амаль паўтары гадзіны. Трэба было збірацца на Хівінскую, але Стэфа, адкінуўшы з невысокага смуглага лоба пасму чорных бліскучых валасоў, мякка папрасіла застацца. Прыжмурыўшы вялікія цёмныя вочы, паведаміла, што да яе вось-вось павінны прыйсці два вельмі цікавыя кавалеры, узрушана дадала: «Страх якія таленавітыя!», ад чаго Алаіза адразу ж звяла і ахвярна апусціла галаву. Стэфа весела засакатала і тут жа какетліва захныкала: «Ну, Лізанька, ну хоць глянь ты... А Ромак, чуеш? Ромак увогуле... Любімы вучань прафесара Петражыцкага. Яго будучы асістэнт. Астанься».

Асталася і, калі ў дзверы пастукалі, пайшла ўслед за Стэфаю.

Пачакала, пакуль тая прыме гасцей, і праз хвіліну ўбачыла перад сабою высокага прыгожага юнака ў арэхавага колеру модным паліто.

Распрануўшыся, «камільфо» пакланіўся і з годнасцю назваў сябе:

— Іосіф Вінклер.

Карыя, бліскучыя вочы глядзелі на Алаізу з упэўненым і спакойным нахабствам. Цёмныя таўставатыя вусны, абведзеныя акуратнаю русаю бародкаю, ледзь прыкметна кранула ўсмешка. Пацалаваў Стэфу ў шчаку, папярэдзіў: «Ромак хутка будзе». Зноў нахіліўся. І Алаіза зразумела, што нарэшце сустрэлася з тым таямнічым Стэфчыным жаніхом, пра існаванне якога яна здагадвалася яшчэ ў Пецярбургу.

Пасля заканчэння чацвёртага курса Стэфа Залуская прыехала ў Вільню да свае цёткі і цяпер цэлымі днямі шукала работу.

Пані Лізавета Залуская прыняла іх у невялічкай зале — высокая, сівая, у доўгай сіняй суконцы, непрыступная дама. Вінклеру, аднак, усміхнулася, як даўняму знаёмаму. Алаіза хітравата скасілася на Стэфу, але тая нечакана адказала сумным адсутным позіркам, і ў Алаізіну душу адразу ж заляцела ліпкая павуцінка трывогі. І сапраўды. З прыходам Вінклера Стэфа імгненна змянілася: патухла і прыблякла, хоць карыя, нібыта засланыя восеньскай лістотаю, вочы ліхаманкава блішчалі. Такой Стэфу Алаіза яшчэ ніколі не бачыла. Упарта імкнулася злавіць у сяброўчыных вачах адказы на сваю нечаканую трывогу, але Стэфа тут жа апускала галаву. Было, праўда, імгненне, калі Алаіза ўсё ж перахапіла яе позірк. І тады здалося, быццам ступіла яна ў золата восеньскага лесу, пайшла праз цёмную медзь густога лісця і вось убачыла, як насустрач ёй выступіў такі выяўны, амаль рэальны прывід. І гэта быў жывы боль. Жаночы боль.

...У Пецярбург Стэфа Залуская прыехала з далёкай Смаргоні і паступіла на курсы Лесгафта ўжо на другі курс. З іх страката шумнага гурту яна, як самая маладзенькая, адразу ж выдзелілася: была яшчэ да смешнага сентыментальная і вельмі набожная. Да таго ж моцна саромелася гэтага, можа, самага лепшага ў сабе. Увесь першы год пачувалася сярод сваіх старэйшых каляжанак зусім чужою, дзічылася пецярбургскіх модніц і ад таго прыніжана пакутавала.

Нехта нават пасмяяўся: «Няўдаліца смаргонская!» Стэфа, аднак, сталела і хутка навучылася даволі паспяхова супрацiўляцца ўсеагульнаму скепсісу і пагардзе. Да таго ж побач ужо была Алаіза.

Яны пасябравалі адразу ж, нягледзячы на досыць вялікую розніцу ва ўзросце. Найперш таму, што — зямлячкі. А яшчэ, відно, Стэфцы так патрэбны былі тады Алаізіны спагада і абарона. Затое найлепшымі лекамі ад Алаізінай імпульсіўнасці сталі сяброўчыны, не па гадах, памяркоўнасць і практычнасць.

Але мінуў год, і пасля віленскіх летніх вакацый са Стэфаю Залускаю нешта адбылося. Яна нібыта ў адначассе пасталела, рашуча скінула з сябе сетку правінцыйнай сарамлівасці. Да таго ж дзівосна папрыгажэла. Сапраўдная красуня з вялікімі бліскучымі вачамі колеру золата і каштану. Алаізу ў Стэфе, аднак, трывожыла незразумелая пагардлівая абыякавасць да людзей. Хоць знешне ўсё было, як кажуць, прыстойна і годна. Стэфа па-ранейшаму прыцягвала да сябе і знешняй абаяльнасцю і ўменнем прыязна весці гаворку. І хіба толькі адна Алаіза ведала, што ў сапраўднасці за ўсім гэтым хавалася. І ўсё ж, нягледзячы ні на што, Стэфу яна любіла, таму прабачала многае. А значыць, было ў Стэфе тое, сапраўды вартае і горнае, што яшчэ чакала свае пары і што яшчэ мусіла спраўдзіцца ў будучым. Пажывём, пабачым...

Завяршаўся адна тысяча дзевяцьсот чацвёрты год. Пецярбургскае студэнцтва шалела ад бясконцай мітынговай балбатні пра народнае шчасце. Алаіза, назіраючы за Стэфаю ў той час, не магла зразумець, чаго ў гэтай натуры болей — прыроднай жаночай пяшчоты ці стыхійнай надломленасці, якую нараджаў сам час — такі няпэўны і непрадказальны. А Стэфа хадзіла ўжо ў завадатарках. І гэта выклікала ў Алаізы не столькі здзіўленне і трывогу, колькі незразумелую шчымлівую жаласць. Інтуітыўна здагадвалася, што ў сяброўчыным лёсе адбываецца нешта нядобрае. Алаіза назірала за раптоўнай хуткацечнай метамарфозай мілай правінцыяльнай натуры з разуменнем. Напэўна, у перыяды рэвалюцыйных эпідэмій гарачкай бунтарства трэба перахварэць кожнай жанчыне, якой да смерці абрыдла пякельная будзённая клетка і якая ўвесь час ірвецца са свайго склепа вонкі, збіваючы душу ў кроў. Ведала Алаіза, што і яе човен у любы момант можа

ўзляцець на высокай хвалі агульнага вар'яцтва і апынуцца пад згубным шалёным ветрам...

Было таксама і прадчуванне, таемная здагадка аб тым, што сапраўдную прычыну змен у Стэфчыным характары трэба пашукаць усё ж не ў мітынговай феерыі і не ў дэманстрацыях, а ў нечым асабістым, больш глыбокім і жыццёва непазбежным. Але Стэфа аддалілася ад Алаізы настолькі, што толькі апускала пры сустрэчах галаву. Алаізе было балюча, хацелася проста падысці да сяброўкі і крыкнуць: «Ды пагавары ты са мною!»

Але час ішоў...

І вось цяпер яна з цікавасцю ўзіралася ў прыгожае аблічча Ёсіпа Вінклера, сумна спасцігаючы простую ісціну: уся палітыка, уся «рэвалюцыя» Стэфы Залускай пачалася менавіта з гэтага русабародага дэманічнага жаніха. І цяпер ён — і яе Бог, і яе «сацыялізм».

Прыйшоў Ромак Малецкі. Усміхнуўся Алаізе шырока, прыязна, як даўняй знаёмай, прынёс з сабою, хоць і ненадоўга, спакой і раўнавагу. Ладна скроены, сімпатычны бландзін, імпазантны ў сваёй клятчастай тройцы з брыльянтавай заколкаю ў вішнёвым гальштуку, залішне шыкоўнай для студэнта. Відаць, саромеўся свайго няўдалага росту — нават ніжэйшы за Стэфу — такіх дзяўчаты на іхніх курсах нязлосна называлі «напалеончыкамі». Усё распраствоў плечы, каб здавацца дужэйшым, і гэта Алаізу крыху рассмяшыла. Па тым, як ліхаманкава блішчалі яго пад тонкімі бровамі шэра-зялёныя вочы, зразумела, што характар тут выбуховы.

Яны сядзелі ў невялікай зале за сталом, засланым блакітным абрусам, і пілі гарбату з крэндлікамі. Малецкі стараўся быць мілым, дасціпным, і гэта яму ўдавалася. Вінклер, старэйшы і сталейшы за Малецкага, трымаўся стрымана-маўкліва, хоць адчувалася: не прывык саступаць нікому і ні ў чым.

Тут жа, за сталом, паглыбленая ў свае шляхотныя думкі, моўчкі сядзела пані Лізавета Залуская. Была з тых паважаных свецкіх кабет, да якіх Алаіза адносілася з лёгкім гумарам. У доўгай светлай сукенцы, з высокаю старамоднаю прычоскаю, яна ветліва вытрпела паўгадзіны маналогаў Малецкага, выпіла гарбату і ўстала. Стэфа правяла цётку да дзвярэй

спальні. Вярнуўшыся, падсунула бліжэй да Алаізы сподачак з мёдам. Вінклер імгненна ажыў, падліў усім вару, здоўжыў на Алаізе ўважлівы позірк цёмных, сапраўды прыгожых вачэй. Крыху раззлаваная, успыхнула. Ці не ўпершыню за ўвесь апошні час захацелася проста спакою і адпачынку. І каб ніякай палітыкі, ні слова пра злашчасную перапіску Вітэ з Гарамыкіным.

Але палітычныя спрэчкі для Малецкага з Вінклерам, відно, былі самым хмельным ваярскім заняткам.

Верх браў зноў жа Малецкі. Пачаў — і трэба ж! — пераконваць Алаізу... у неабходнасці нацыянальнага адраджэння краю. Здзіўлена, але спакойна слухала. Стэфа, стоячы каля акна супроць Алаізы, прыплюшчвала павекі, сумна ўсміхалася і толькі ў паўзах устаўляла слова-другое. Вінклер таксама паблажліва пакашліваў.

А Малецкі гарачыўся, сам сябе ўвесь час папраўляў, вяртаўся да сказанага, шукаў больш трапныя выразы, нерваваўся.

Але вось рэзка, уладна ў гаворку ўступіў і Вінклер:

— Вы хочаце, панове, каб гэты край — без хамута? Ідэалізм!

— А калі ўсё ж без хамута?

— Ілюзія, панове беларусы. І як сабе хочаце, але скажу вам, што хамутом для нашага краю лепей няхай будуць палякі. Тады, можа, выжывем. Чакай, — Вінклер перапыніў даланёю натапыранага Малецкага, — чакай! Масква — вось дзе пагібель! Поўная асіміляцыя.

— А з палякамі? Не асіміляцыя? — Алаіза паглядзела Вінклеру проста ў вочы, і той, о дзіва, апусціў павекі. Аднак праз хвіліну ўстрапянуўся, падняў галаву. Алаіза зноў адчула цяжар яго позірку на сваёй шыі, на грудзях, у каторы ўжо раз раззлавалася. Вінклер імгненна адчуў гэта і ўтаропіўся ў свой кубачак.

— Скажу вам, — голас Вінклера быў глухім, незадаволеным. — Я вам скажу, што палякі ўсё ж больш культурная нацыя, якая паважае і сябе, і іншых. А вось там, я думаю, — Вінклер махнуў рукою ў адзін з куткоў залы, — скажыце мне, хто яшчэ так аплёўвае сваіх святароў, як расіяне сваіх барадатых папоў? І вы

хочаце, каб яны невялічкую нацыю на ўскраіне імперыі паважалі?! Гэтыя дзікуны?

— Калі так, — Малецкі рэзка секануў перад сабой даланёю, бліснуў шалёнымі вачамі, — калі нельга ўвогуле без седака на спіне, то няхай лепей будзе немец.

— Не блазнуй, — скрывіўся Вінклер, але зірнуў на Малецкага з непрыхаванай цікавасцю. Адсунуў пусты кубачак. Стэфа схамянулася, пачала прыбіраць са стала. Пакінула толькі вазачку з шакаладам. Тут жа прынесла новы прыбор.

— Я, шаноўныя мае, далёка не блазен! — пакрыўдзіўся Малецкі. — Нямецкую мову наш народ ніколі не прыме, асіміляцыя тут немагчыма. Немец хутчэй штурхне тутэйшы люд да нацыянальнага ядняння.

— Значыць, будзе якая-нібудзь іншая халера. — Алаіза ўздыхнула.

— А што страшней за асіміляцыю? — Ромак Малецкі злосна падціснуў вусны. — Калі нацыя ператвараецца ў амёбу, то лепей пагібель.

— Асіміляцыя, зрэшты, — ціха згадзілася Алаіза, — сапраўды пагібель для нацыі. Але ж гісторыя...

— Гісторыя? Вечна галодная ваўчыца. Гоніцца за ахвярамі і — даганяе. Але даганяе, ведама ж, слабейшы народ. Яна насцігае, яна...

Вінклер скептычна рассмяяўся. Запала маўклівая паўза...

— Калі б вы толькі ведалі. — У Ромакавых вачах раптам блiснулі слёзы, і Алаіза сумелася, узіраючыся ў гэтае ўзрушанае пацямнелае аблічча. Слухала.

— Я часам бачу, я мару... Вось яна, наша Беларусь! Незалежная, вольная, са сваім свабодным народам, сваім урадам...

— Павяло, — Вінклер насмешліва скрывіўся, але Малецкага гэта не спыніла.

— І ўявіце, уявіце, Алаіза, ніхто, ніхто не стаіць над намі з бізуном. Ах, Божа высокі! Ніхто... Але ж каб такое было, мне трэба ўзяць у рукі зброю і расстраляць цэлую гайню пецярбургскіх міністраўпярэваратняў. І я страляў бы ў гэтую зграю! Так! Карфаген павінен быць знішчаны! — паўтарыў: — Charthaginen esse delandem!

— Але ж, Ромак. Гэта ўжо...

— А ты, можа, хочаш здабыць свабоду, страляючы з дамскага веера?

Папрок прагучаў абразліва, але яна адказала спакойна, годна:

— У кожнага свая зброя.

— Ах, ты пра тое, што слова мацнейшае за ўсё? Але ж настаў час, калі трэба дзейнічаць. І не толькі словам, разумееш? І калі ўжо мне спатрэбіцца, дзеля свае радзімы, забіваць, то я буду — забіваць!

— Зноў нешта наблытаў!

— Нічога я не наблытаў.

— Мы хрысціяне, разумееш? І наш народ не прыме ніякага, ніякага пасягання на чалавечае жыццё. І калі ты пра ўсё... пра гэтыя забойствы, усур'ёз, то... Павер мне... Народ вас проста ўзненавідзіць. Нават за кропельку бязвінна пралітай крыві.

— Гэта каго ж ён узненавідзіць? Мяне? — Ромак густа пачырванеў. — Ды я... Я на крыж пайду. І няхай бы мяне распялі. Але няхай аддадуць мне маю радзіму і няхай пакінуць мой народ у спакоі.

— Ну, тут ужо зусім іншае. Мы ўсе ідзём да гэтага крыжа, Ромак, — сумелася, саступіла яго хваравітай ярасці.

— Але ніхто мяне, мілая, не разапне. — Ромак, змеціла, неяк раптоўна астыў. — Я не прарок, — скептычна хмыкнуў. — Але... Але мяне распінаюць іначай. І распінаюць штодня, але не цела, а маю душу...

— Ды супакойся ты, — гэта ўпершыню за ўвесь вечар строга адазвалася і Стэфа.

Вінклер уважліва глянуў на яе, насупіўся, але Стэфа толькі ўздыхнула.

— Ох, Ромак.

— І я вырашыў. Я рашыў стаць мацнейшым за сваіх ворагаў! Я павінен стаць моцным, каб мяне не звярнула з абранай дарогі ні лжывая мараль, ні іншая якая прывязка да жыцця. Мараль... «Храм, пабудаваны на пясцэ...» Ланцугі, ад якіх трэба вызваліцца! І не нам баяцца крыві!

— Што ты гаворыш, Ромак?

— Ды глянь ты навокал, Алаіза! Гэтая ўсюдная дзікая расправа з забастоўкамі... А што робяць сацыял-дэмакраты? Толькі мітынгуюць. Гарлапаны! Каму гэта цікава? Не! Ужо ж — не! Толькі — тэрор!

— Тэрор! — Вінклер цвёрдым рашучым голасам паўтарыў гэтае злавеснае «тэрор», нават падхапіўся з-за стала і ўзрушана захадзіў па зале.

— Я доўга і наіўна верыў, — Ромак спыніў позірк на Стэфе, якая сядзела за сталом па-ранейшаму сумная і насцярожаная, склаўшы перад сабою далоні стрэшкаю, потым глянуў на Алаізу. — Я думаў, што дзяржаўныя дзеячы ў сталіцы адстойваюць свае ідэі гэтак жа сумленна, як і мы свае. Я не вінавацію іх у двурушніцтве...

Вінклер скептычна хмыкнуў, і Ромак паспешліва дадаў:

— Але ж яны — ілгуць. І самі сабе, і свайму цару, і нават Богу!

— Вось! — Вінклер, стоячы каля акна, зноў спыніў трывожны позірк на Алаізе, усхвалявана загаварыў: — Нам трэба было знайсці таемны лозунг рэакцыі.

— І знайшлі?

— Ха! Вядома.

(«Як лёгка, аказваецца, знайсці гэты лозунг...»)

— Праўда, знайшлі?

— Ну, добра, — Вінклер усё яшчэ стаяў каля акна, сашчапіўшы на грудзях тоўстыя, пакрытыя рудымі валаскамі пальцы вялізных рук. — Ну, вось уявіце сябе міністрам фінансаў...

— Уявіла.

— Я не жартую. Уявіце. Значыць, на прыкладзе Заходняй Еўропы можна лёгка зразумець, у чым жа сэнс развіцця народнага дабрабыту. Так? А калі паставіць задачу дыяметральна супрацьлеглую народнаму шчасцю, задачу, калі хочаце, знішчэння ці аслаблення народа ды і ўсёй імперыі ўвогуле. Ах, хто такую задачу ставіць? А вось гэта ўжо іншае пытанне. — Вінклер, крыху паспакайнелы, зноў сеў за стол. — Вы пыталі пра лозунг рэакцыі? А яго дакладны адбітак — у дзяржаўным бюджэце. Мэта ясная — знішчыць «общественность», як кажа Вітэ, асканіць народ, ператварыць яго ў дойную карову.

— Між іншым, гэта не перашкаджае беднай карове галадаць, — Алаіза абвяла позіркам усю кампанію. — А мілая бюракратыя па-ранейшаму прэтэндуе на ролю «благадзецеля».

— Так, Алаіза, так! — Ромак, імпульсіўны і разгарачаны, узрадаваўся, як дзіця. — Вось гэты

разлад паміж словам і справаю, разумееце, вось што дапамагло мне ўбачыць у нашай бюракратыі, асабліва калі яна распраўляецца з безабароннымі забастоўшчыкамі, зусім не законных ахоўнікаў парадку, але... Гэта ж проста забойцы!

— І самае страшнае (Вінклер). Самае смешнае, што народныя грошы бюракратыя ўлады накіроўвае на змаганне з тым жа самым народам, на барацьбу з намі. І народ абіраюць, разбэшчваюць, топчуць. І ўсё дзеля аднаго — бясконцага ўмацавання сваёй магутнасці і безадказнасці.

Стэфа ўжо стаяла каля акна:

— Ёсць і свае фанатыкі. Пабеданосцаў, Плеве.

— Фанатыкі трона (Вінклер).

— Ну, добра, — Малецкі распаляўся, хоць Алаіза проста маўчала. — Плеве пачаў тады белы тэрор, так? Але ж дасюль яшчэ не было такой нянавісці ў людзей. Не было! І наш чырвоны тэрор, наш тэрор у адказ так ударыць, што яны нас надоўга запомняць! На кожны пагром — кулю ў губернатарскі карак! Кулю! — Малецкі ажно скрыпнуў зубамі. — За апошнія сорак гадоў край поўнасцю спустошаны! Жабрацтва і дзікасць! І галоўнае — разарвана пераемнасць у векавой культурнай рабоце. Вырываецца мова, гвалтуецца вера...

— Фанатыкі трона, — Вінклер стаяў перад Алаізаю, упіраючыся ў стол тоўстымі растапыранымі пальцамі. Нават прыплюшчыла вочы, каб болей не сустракацца з ім позіркам. — Гэта яны падаграваюць нацыянальную нянавісць. Наўмысна дапускаюць масавае збіенне невінаватых. І ведаюць жа, што церпяць невінаватыя. А ўсё ж свядома — падбухторваюць!.. Злачынцы! Дзеля ўлады... Дзеля самой манархічнай ідэі, няважна, але яны гатовы на ўсё.

— І вось я стаўлю пытанне, — голас Малецкага, які ўжо расхаджваў па зале, зазвінеў. — Я пытаюся: а ці гатовы я сам дзеля сваёй ідэі пайсці на тое, на што без сумнення ідуць мае ворагі? Не, не... Жыццё я аддаць гатовы даўно. Я гатовы парваць з сям'ёй, з усім на свеце. У мяне застаецца толькі адно, толькі адно — мая чалавечая годнасць. І я аддам і яе, аддам на апляванне! Я — знайду ў сабе сілу, мне трэба знайсці гэтую сілу! На любое злачынства! Але ж — дзеля народа і яго будучыні, разумееце? — Малецкі гаварыў цяпер з такой цёмнай, амаль вар'яцкай рашучасцю, што Алаіза

унутрана сціснулася. — Я доўга верыў у нарастаючую магутнасць пралетарыяту, у яго хуткую перамогу. Але яшчэ вельмі моцныя турэмныя сцены!

Здзіўленая, раптам адчула, як на яе павеяла холадам. Але ж акно было закрыта.

— Здаецца мне, — у горле зашчымела. І цяжка было зразумець, адкуль сыходзіць гэтае жахлівае, вострае прадчуванне бяды. Закашлялася. — Ды вы проста не верыце ў народ, Ромак. Хоць раз вы пыталі ў самога народа, а ці патрэбны яму бязвінныя ахвяры? Так ганьбіць саму нацыянальную ідэю! Любою, значыць, цаною, любой крывёю? Не, гэтак свабоды не будзе. Будзе злачынства, а гэта, панове, яшчэ адзін удар па тым жа народзе. Як сабе хочаце, але я...

— Народ сляпы! — цёмныя вусны Вінклера затрымцелі ад пагарды. — І не пойдзе ваш хвалёны народ змагацца за сваю свабоду. Ні для сябе, ні для сваіх унукаў — не пойдзе! Ён жа проста лянівы і гнюсны ў сваім страху, ваш народ. Яго можна толькі прымусіць! Разумееш?! Прымусіць пастаяць за сябе.

— Гэта вы лянівыя. А чаму б не ісці да народа, каб даць яму адукацыю, культуру. О, гэта значна цяжэй. А вы... Вы хочаце прывучыць яго да крыві! Да паху крыві, да смаку... Ды зразумейце!

— А мы зразумелі! Мы-то зразумелі! Калі-небудзь ты таксама зразумееш. Толькі на крыві, толькі на трупах, і няважна чыіх... Манархаў ці пагромшчыкаў... Але толькі так расцвітаюць самыя яркія кветкі свабоды ў садзе рэвалюцыі!

Алаіза маўчала, з трывогаю адчуваючы, як па плячах зноў пабеглі халодныя дрыжыкі. Ужо добра ведала, што азначаюць гэтыя жахлівыя прадчуванні, і баялася іх. Але старалася заглушыць жах, спакойна запытала:

— І якіх жа дзяцей народзіць тая рэвалюцыя?

— Якіх? Дзяцей будучыні, так скажам. Задавальняе?

Паціснула плячамі. Вінклер дапіваў новы кубачак кавы. Малецкі сядзеў за сталом чырвоны і яршысты.

* * *

— Суньсярусь далей ад акна, заінька, а то прастудзішся.

Алаіза сама выбрала не ложак, а невялікую канап-

ку каля акна. Думала, адразу ж засне. Але ніяк не магла адысці ад гарачкавага запалу гэтага, ачмуранага ідэяй тэрору, Рамуальда Малецкага.

Стэфа таксама варочалася.

— Не спіш, Лізанька?

— Пасля такога вечара?

— Я ведаю, што раблю глупства, але я хачу сказаць табе. Ёсіп нядаўна прынёс мне адзін пакунак, каб я схавала. І знаеш, там ёсць пісталет. — Стэфа сядзела на ложку ў начной сарочцы, спусціўшы да падлогі голыя ногі, і пры месячным святле здавалася, што яны абліты серабрыстаю фарбаю.

— А я, Стэфа, усё думаю пра Малецкага. Проста шалёны нейкі. І тым слабы.

— Затое Ёсіп моцны. Гэты ўсіх падаўляе.

— Але ж. Я меркавала, ты яго кахаеш.

— Нават вельмі моцна. І даўно. Але я адчуваю, Ліза, адчуваю, што мы ніколі не будзем разам. Ніколі...

— Ці ты яго не раўнуеш?

— Падмеціла? А як жа, раўную. Але ж не да жанчыны, о не! Я цяпер маю ўсё, што ён можа аддаць жанчыне. Але твая праўда — я раўную. І зусім не да дзяўчат з кафэшантанаў. Гэта было б нізасцю — паверыць у розныя плёткі. Я раўную яго... да нечага іншага, мацнейшага. Што гэта такое, Ліза?

— Можа, ідэя? Аднак раўнаваць да ідэі...

Стэфа плакала. Плакала наўзрыд, і Алаіза адчувала, што ёй цяпер не патрэбны ні спачуванне, ні жаласць. Толькі б выплакалася, толькі б вымыла з душы гэтую сваю горкую адчайную атруту. Іначай будзе вельмі блага.

Сядзела на канапе і моўчкі слухала, як шчымліва і балюча трапечацца ад чужой бяды і яе сэрца.

— Не плач, Стэфа! Чуеш?

— Няўжо, няўжо ты не бачыш? Што я... Я ж цяжарная!



Алаіза чакала свайго начнога дзяжурства з незразумелаю трывогаю. Ці не таму, што нядаўна адкрытая Нова-Вілейская лячэбніца — самая вялікая ў краі. Сапраўдны цуд медыцыны. Аднак і ўладкавацца

сюды было няпроста. Дзякавала Білюнасам і Вігілёву. Зрэшты, памагалі цяпер ёй усе знаёмыя: час ускладваўся на плечы суровы і цяжкі, што ланцуг. І так добра якраз цяпер займець свой куток, хоць і ў халодным бальнічным флігелі, і гэты чэрствы, але ж свой акраец надзённага.

Пад самую раніцу, калі дзяжурства ўжо заканчвалася, на яе раптам напала такая важкая глухая дрымота, што ледзь не сілком расплюшчвала вочы.

Аднак памарачэнне доўжылася, можа, якую хвіліну, не болей...

Гэты лысы хворы з карычнева-плямістым шыраччэзным чэрапам, нядаўна пераведзены знізу ў палату нумар чатырнаццаць, быў вельмі падобны на мангола. «Мангол», — як папярэдзіла Алаізу Жэнечка Малкус, — хоць і нямко, але чыста ўсё чуе і разумее. Так што будзь гатовая да ўсяго і асцерагайся...»

Усмешка хворага таксама ўразіла — паўзучая, быццам чалавек, прыплюшчыўшы вочы, сіліўся як мага шырэй расцягнуць бяскроўныя тонкія вусны, і праз шчылінку паміж імі вільготна паблісквалі дробныя зубы.

Гадзіну назад Алаіза ціхенька зазірала ў чатырнаццатую, але ўсё было ціха, вар'ят спаў у ложку.

Чатырнаццатая адносілася да ліку тых палат, куды начальства пасяляла толькі ціхіх, але з заможных ці вельмі ўплывовых сем'яў. І не толькі з Вільні. Нядаўна тут лячыўся нейкі родзіч таварыша старшыні земскага суда, але выпісаўся. Звычайны алкаголік.

Сёстры пазбягалі палат з такімі ганаровымі насельнікамі-пацыентамі, баючыся страціць работу з-за іх невераемных капрызаў і невытлумачальнай жорсткасці.

І таму, што Алаіза была новенькая, такое «шчаслівае» выпрабаванне чатырнаццатай выпала на яе долю ў першае ж начное дзяжурства. Дзякуй Богу, пакуль было ўсё ціха. Толькі неміласэрна хацелася спаць.

...І вось цяпер, у самым канцы дзяжурства, гэты ціхі з чатырнаццатай, гэты бяскрыўдны «мангол», які толькі што спаў... гэты хворы стаяў, як прывід, перад ёю пасярэдзіне шырокага калідора і, хоць гарэла некалькі яркіх электрычных лямпачак, трымаў у правай руцэ запаленую тоўстую свечку («Значыць, мае і за-

палкі!»). Другой, вольнаю рукою «мангол» адчайна махаў перад сабою, быццам некуды клікаў Алаізу. Потым, выскаліўшы гнілыя зубы, павярнуўся да яе спінаю і кінуўся наперад па калідоры, але праз два-тры метры юркнуў у вузенькі бакавы праходзік, асветлены толькі адной цьмянай лямпачкай. Алаіза не ведала, куды гэты калідорчык вядзе, але змушана была спяшацца. Вар'ят нават прыпыніўся і азірнуўся, правяраючы, ці сапраўды яна за ім ідзе, потым зноў спяшаўся, засланяючы даланёю левай рукі агеньчык свечкі.

Нарэшце спыніўся перад вузкімі, абабітымі бляхаю бліскучымі дзвярамі ў тарцы, з вісячым, ужо адамкнёным замком.

Спынілася і Алаіза, праклінаючы ўсё на свеце і з жахам чакаючы, што ж ён будзе вытвараць далей. А «мангол» надзіва лёгка, быццам рабіў гэта не ўпершыню, прачыніў дзверы і тут жа, толькі азірнуўшыся і падміргнуўшы Алаізе, схаваўся за імі. Рабіць было нечага, і Алаіза, змахнуўшы з лоба дробныя кропелькі поту, таксама праціснулася ўнутр і адразу ж зразумела, што трапіла ў падвальнае памяшканне лячэбніцы.

«Мангол» стаяў на ніжняй прыступцы шырокай лесвіцы, падняўшы свечку, і пазіраў на яе цяжкімі неміргаючымі вачамі.

Пачала спускацца ўніз, здзіўлена азіраючыся. Падвал быў даволі прасторны. Шкада, што свечка не магла ўсё ж цалкам асвятліць гэтае памяшканне. Дасюль яшчэ тут смярдзела вапнаю і сырой глінаю, на зямлі ўдоўж абы-як пабеленых сценак валяліся абломкі цэглы, грувасціліся цэлыя груды зацвярдзелага цэменту, з якога тырчэлі жалезныя прэнты і абломкі дошак. Паўсюль валялася трушчанае шкло і бруднае рыззё.

І раптам Алаіза змеціла, але крыху наводдалі, вялізную плеценую кашолку, прыпёртую да самай сцяны. «Мангол» ужо зняў з кашолкі вялікае акантованае драўлянае вечка, згроб зверху сена і вось ужо расцярушваў яго, з нядобрым смехам, навокал сябе. Потым падняў свечку вышэй і з глухім пакутлівым мычаннем замахаў вольнаю рукою, просячы Алаізу падысці бліжэй. Сапраўды ступіла да яго некалькі крокаў, адчуўшы нечаканы прыліў дзёрзкай рашучасці («Табе толькі гэтага не хапала! Ну, дарагая...»). Але,

наперакор унутраным перасцерагальным думкам, не спынілася. І тут здзіўлена ўлавіла даўкі прытарны і крыху саладкаваты смурод. Замерла і ў паўзмроку нахілілася да кашолкі, заўважыла нешта бліскучае. І ў гэты момант «мангол» апусціў свечку ніжэй, да самага краю кашолкі. І вось тады Алаіза з жахам адкінулася назад. Бо — убачыла.

Яна ўбачыла ў кашолцы вялікую чалавечую галаву, крута павернутую набок, і ў яе сінюю, што чарніла, шчаку было ўваткнута нешта доўгае і бліскучае.

Анямеўшы ад дзікага відовішча і схапіўшыся за твар, Алаіза кінулася, спатыкаючыся, да лесвіцы, потым ірванула на сябе дзверы. Нават не чакала «мангола». На злом галавы паляцела прэч адсюль па калідоры. Завярнула яшчэ ў нейкі бакавы праходзік-рукаў. Ляцела, бы на чорных крылах, і чула, як шалёна тахкае сэрца.

Дзякуй Богу, не заблудзілася ў гэтых незнаёмых бальнічных сутарэннях агромністага будынка. І праз некалькі хвілін ужо стаяла перад сваім дзяжурным столікам з адкрытай па-ранейшаму рэгістрацыйнай кнігай. Села і стомлена ўздыхнула і толькі пасля кароткага перадыху падняла вочы і ўбачыла, што не адна. Яна ўбачыла, што якраз насупраць століка стаіць невысокі кучаравы жандарскі чын з шырока расплюшчанымі атарапелымі вачамі. Нешта ў гэтых здзіўленых вачах было ёй вельмі знаёмае, але адмахнула ад сябе здагадкі, адчувала толькі жах, пад грудзі падкаціла горкае даўкае ванітаванне, але яна тут жа сумелася і перасіліла сябе. Толькі наўзрыд, апусціўшы галаву на столік, заплакала. Але гэта доўжылася не болей хвіліны.

Пазней, калі Алаіза даведалася, што хворы «мангол» з чатырнаццатай палаты — бацька ротмістра Генісарэцкага, яна не надта здзіўлялася яго таемным начным візітам у лячэбніцу. Але цяпер паяўленне паліцэйскага на яе начным дзяжурстве было настолькі нечаканым, што Алаіза адразу ж звязала гэта з жахлівою кашолкаю ў падвале.

Нарэшце, калі слёзы істэрыкі высахлі, яна падняла галаву. Афіцэр павольна расхаджваў па калідоры, хоць каля століка стаяла яшчэ адно крэсла.

Ледзьве растуліла ад раздражнення вусны:

— Будзьце так ласкавы, прысядзьце.

Паслухаўся. Ветліва ўсміхнуўся і яшчэ раз уважліва на яе глянуў. І вось тады яна — пазнала. Праўда, ранейшага здзіўлення ў блакітных нахабных вачах ротмістра Генісарэцкага ўжо не было. Толькі невераемная, непрыхаваная цікаўнасць. Памкнуўся ў яе нешта запытаць, нават адкрыў рот, але яна рэзка перабіла:

— Прашу вас!

Здзіўлена, крыху высакамерна падняў галаву.

— Прашу вас, пан афіцэр, ідзіце ў падвал! Вельмі вас прашу.

З непаразуменнем у вачах яшчэ раз глянуў на яе, быццам пытаючыся, што здарылася, нават пагардліва хмыкнуў, але, відно, было ў Алаізіным твары нешта такое, што адразу ж прыглушыла яго скептычны настрой.

Праглынула важкі камяк у горле і здаўлена прашаптала:

— Там... Там забіты ў капшолцы... Чалавек...

Не кажучы нічога, Генісарэцкі рэзка падняўся і, таропка казырнуўшы, вельмі хутка пайшоў ад стала. Але тут жа спыніўся і ціха запытаў:

— Адкуль вы ведаеце сіе, шаноўная?

— «Мангол» паказаў.

— Які «мангол»?

— З чатырнаццатай.

— Значыць, з чатырнаццатай?

Ротмістр пабялеў і пабег.

А яна толькі цяпер успомніла, што «мангол» астаўся ў падвале.

Паднялася з-за стала з намерам пайсці ў падвал таксама за сваім хворым, але на ўсялякі выпадак зазірнула ў чатырнаццатую. З палёгкаю ўздыхнула.

Палата была ярка асветлена вялікай электрычнай лямпачкаю. Але на стале дагарала тоўстая жоўтая свечка. Прытарна пацягнула дымам.

«Мангол» сядзеў за сталом над раскрытаю кнігаю. Азірнуўся на Алаізу, узмахам рукі паклікаў да стала.

Падышла і адразу ж патушыла свечку, кінула агарак у кішэньку халата. Недавольна замычэў, але зноў схіліўся над кніжкаю. Паглядзела на вокладку. Гэта быў «Закон Божы». «Мангол», падняўшы на яе слязлівыя вочы, з'едліва, ці, можа, так толькі здавалася, усміхнуўся і пачаў тыркаць пальцам у старонку, як

просячы аб нечым. Нахілілася і пачала чытаць: «Дзеля Хрыста юродзівыя ставілі перад сабою задачу пабароць, перамагчы ў сабе корань усіх грахоў — гордасць. Дзеля гэтага яны вялі незвычайны лад жыцця, часам выстаўляліся як бы звар'яцелыя, выклікаючы тым самым над сабою насмешкі людзей. Разам з тым яны ў іншасказальнай сімвалічнай форме развенчвалі зло ў свеце як словамі, так і дзеяннямі. Такі подзвіг бралі на сябе юродзівыя для таго, каб усмірыць сябе і разам з тым мацней уздзейнічаць на людзей, так як да звычайнага, простага казання-пропаведзі людзі адносяцца раўнадушна.

Подзвіг юродства дзеля Хрыста...»

Спінаю адчула прысутнасць яшчэ некага і зразумела, хто гэта.

Генісарэцкі стаяў з белым, як у мерцвяка, тварам і цяжка дыхаў. Казырнуў.

— Ён калі вам паказаў?

— Толькі што, на дзяжурстве.

— Добра. Слухайце мяне ўважліва. Вы мне, — чуеце? — вы мне нічога не гаварылі. Так?! Ні-чога!

Згодна кіўнула галавою, хаця пакуль што нічога не зразумела.

— І нічога пра труп не ведаеце. — Генісарэцкі, відно, змеціў у яе вачах пробліск нязгоды, таму болей строга паясніў: — Іначай не выберацеся! Ясна?

— Але ж я толькі...

— Вы мяне зразумелі?

— Зразумела.

— Вось і добра. Пакуль што забудзем.

«Мангол» увесь гэты час сядзеў над раскрытым «Законам Божым» і толькі раздражнёна мычаў.

Генісарэцкі ўздыхнуў і нечакана, ужо каля самых дзвярэй, запытаў:

— Скажыце... Вы... праязджалі не так даўно... па Егіпецкім мосце?

Здзівілася, але толькі моўчкі кіўнула галавою.

* * *

Камера-адзіночка, куды Рамуальда Малецкага заключылі пасля каранціну, была вузкаю, з бруднымі падцёкамі на сценах і з квадратным, наўскос вы-

разаным у тоўстай турэмнай сцяне акном, забраным у кручаныя краты. Высока, пад самаю столлю.

Рамуальда спачатку доўга, як не ведаючы, што з ім увогуле рабіць, трымалі ў турэмным шпіталі. Потым прытарочылі рамянямі да ложка ў ізаляванай палаце Нова-Вілейскай псіхіятрычкі... Тады, разам з санітарам, наведаўся следчы, але нічога важнага пакуль не пытаў.

І вось цяпер Ромак сядзеў у гэтай смярдзючай сырой адзіночцы.

Пасля абследавання і медыцынскага заключэння, што псіхічны стан былога студэнта Пецярбургскага універсітэта Рамуальда Малецкага прызнаны нармальным, яго ўвогуле доўгі час не трывожылі. Потым паўмесяца амаль штодня выклікалі на допыты. Пасля зноў пакінулі ў спакоі.

Але якраз спакою ў Ромакавай душы не было. Той вечар урэзаўся ў памяць кожнаю драбніцаю, асабліва гукамі — усхліпамі і хрыпеннем, грукатам, нервовым смехам Вінклера, гэта ўжо калі прыйшоў Лісіцкі.

Ромак падоўгу глядзеў на краты ў акне, ужо даўно яму хацелася зачапіць за іх раменьчык з пятлёю, але ўсё прыдатнае для самагубства забралі ў яго яшчэ ў каранціне.

...Газоўка на стале надакучліва блымала. Ромак станавіўся на табурэтку, упіраўся плячом у сцяну, задзіраў галаву і глядзеў праз крыжыкі кратаў у неба, на яркія вострыя зоркі. Шыя нямела, ён злазіў і садзіўся на ложак. Потым клаўся на бок, падціскаў скурчаныя ногі да рэбраў, упіраўся каленьмі ў падбародак.

Было зябка, але ён засынаў.

Сама лепей Ромак адчуваў надыход раніцы. Прахопліваўся яшчэ апоўначы, калі ў камеру пранікала праз сцены — праз усе нябачныя шчылінкі — цёмная начная сырасць. Яна была такой адчувальнай, што Ромак, здавалася, намацваў яе, мясіў, як гліну, вязкую і халаднаватую, ажно паколвала ў пальцы. Зверху, з акенца, патыхала зляжалым пылам і смуродам старых галубіных гнёздаў.

Пад раніцу камеру запаўняла рэдкае сіваватае святло, па кутах ужо не шарудзілі прывідныя мярзотныя стварэнні, падобныя на пацукоў. Знікала прыкрае

прадчуванне блізкай небяспекі, і ўжо не здавалася, што вялізнае страшыдла, абраслае доўгай злямчанаю поўсцю, падкрадваецца ззаду, цягнецца да шыі, каб пераціснуць яму горла, расчавіць у смяротных абдымках таўсматых лапаў.

...Вяроўка ў камеры, аднак, была — звісала з аконага квадрата ў зыбкім струменьчыку ранішняга туману, гойдалася, як доўгая бліскучая гадзюка, зачапіўшыся хвастом за краты, вадзіла ў бакі маленькаю галоўкаю з вострым, як шпрыц, джалам. Ромак адчуваў, як яго пачынае калаціць. Ныла пад лыжачкаю. Разумеў, што гэта ягоная акалечаная душа шукае выйсця з жахлівага тупіка. І ўсё ж, калі асабліва ліхаманіла і скура пакрывалася ліпкім і тлустым, што алей, потам, нехта нябачны праводзіў па гарачых латках і шыі асвяжальным, бы змочаным у эфіры ці ў спірце, квачом, Ромак уздрыгваў, грубая арыштанцкая роба пры гэтым прыемна церлася і шоргалася па спіне. Зуд аціхаў, і было чутна, як за дзвярыма ў калідоры гучна тупае турэмшчык. Ромак таксама пачынаў маршыраваць з кута ў кут, пакуль не налічваў спачатку дзве тысячы, потым набіраў усе восем тысяч...

З першага дня заключэння ў гэтую адзіночку Ромак настаяў на тым, каб яму штовечар прыносілі запалкі, і следчы дазволіў.

— Ты што там вылічаеш?! — Турэмшчык выглядвае з-за прачыненых дзвярэй, кідае на стол новы бразгатлівы карабок, рагоча. Дзверы адразу ж зачыняюцца.

Ромак садзіцца за стол і запальвае адну за адной адразу некалькі сярнічын, потым, счакаўшы крыху, падымаецца і абгарэлымі вострымі дзюбкамі крэсліць на чыстым лапіку сцяны новы крыжык. Яшчэ адны суткі яго зямнога жыцця пайшлі з дымам.

...Няўжо яны з Вінклерам і Даўкшам і напраўду хацелі тады толькі забраць Мартынавы грошы? Не! Не... Не! Нават сама гэтая думка — ужо здрада! Не ў грашах справа... Як выйшаў голы чалавек з матчынага ўлоння, такім і адыдзе ў небыццё. Ніякага скарбу з сабою ў ямку не забярэ. І ён таксама адыдзе — такім, якім нарадзіўся. Можа, пашанцуе, і яго не павесяць, а расстраляюць. Калі павесяць — гэта жахліва, страшна.

Жахліва — павіснуць усім целам на вяроўцы, выпрастаўшы да зямлі акасцянелыя ногі жоўтымі пальцамі ўніз. Ён будзе такі ж худы і доўгі, як і Мартын.

У смяротным прысудзе прысяжных Ромак амаль не сумняваўся. Надзеі — адганяў. Але да суда трэба было яшчэ дажыць, даваладчы гэты свой дзікі нечалавечы адчай. Вось калі сапраўдны жах падкаціў пад самыя грудзі і звёў ледзянымі сутаргамі жывот. Таропка зашаптаў: «Бо зніклі, як дым, дні мае, косці мае абпалены, як галавешка, сэрца маё знішчана і высахла, як трава, так што я забываю есці хлеб мой... Няма цэлага месца ў плоці маёй ад гневу свайго, Госпадзі, няма міру ў костках маіх... — перадыхнуў, — ад грахоў маіх...» Ён шаптаў гэтую мясціну з Бібліі, каб хоць крыху суняць свой амаль бясцямны, панічны жах. Хіба можна яго цяперашні стан параўнаць з тым нервовым узрушэннем увечары семнаццатага, калі... І ў каранцціннай камеры ён ніяк не мог успомніць дакладна, калі ўсё ж пачуў хрыплы слабы Мартынаў крык: «Што я табе зрабіў, Рамуальд?» Можа, яшчэ да таго, як Сцяпан Даўкша па-мядзведжы абшчаперыў сваімі ланцугамі Мартына ззаду, за горла, спрабуючы зваліць з ног. Мартын быў дужы і амаль што вырваўся, але падскочыў Ёсіп Вінклер, і вось тады, разам з Даўкшам, яны ўжо справіліся, звалілі Мартына на падлогу, заламалі яму рукі за спіну, звязалі яго раменьчыкамі. Вось, вось калі Мартын і прахрыпеў сваё: «Што я табе зрабіў, Рамуальд?» Як прасіў літасці. Ромак стаяў збоку, але Мартын звяртаўся толькі да яго. І вінаваціў толькі яго.

Даўкша, шырокімі крокамі, гучна тупаючы, зайшоў з другога боку і рашуча; хутка пачаў намотваць на Мартынаву шыю пяньковую вяроўку таўшчынёю з палец. І тут жа, упёршыся левым каленам Мартыну ў плячо, з усяе сілы захліснуў вяроўку на гэтай далікатнай і надзіва тонкай шыі. Вінклер стаяў побач, адставіўшы нагу, і раз-пораз вымаў з кішэні камізэлькі круглы пляскаты гадзіннік. Насвістваў свайго любімага «Цыганскага барона». Мартын хапаў шырока разяўленым ротам паветра, потым захрыпеў, але неяк па-дзіцячы ціха і жаласліва, забіўся ў сутаргах. Не зводзячы вачэй са спакойнага Мартынавага твару,

Ромак думаў пра тое, што яго цётка, Ядвіга Тамашэўская, Мартынава маці, казала праўду: яны з Мартынам былі сапраўды вельмі падобныя знешне. Стрыечныя браты ўсё ж... У Мартына, як і ў яго, Ромака, валасы на скронях крыху кучаравіліся, былі густыя, пушыстыя. Тонкія дугападобныя бровы, да прыкрасці жаночыя бровы.

Даўкша ўсё мацней зацягваў вяроўку, і Вінклер дапамагаў яму, трымаючы Мартынаву галаву. У нейкі момант азірнуўся на Ромака і брыдка вылаяўся, крыкнуў: «Давай!» І тады Ромак кінуўся да тумбачкі за тым самым, загадзя падрыхтаваным шпрыцам з курарэ. Падняў яго і адным махам усадзіў тоўстую голку ў бледную мяккую шчаку Мартына.

Пасля, ужо выціснуўшы атруту, крыху апрытомнеў, адбегся да дзвярэй спальні і пачаў глушыць ліхаманкавае трымценне цела. Назіраў за тым, як Даўкша, сеўшы Мартыну на плячо, усё яшчэ накручвае на шыю вяроўку. Іголка, відно, уся не ўвайшла, і шпрыц пагойдваўся над шчакою.

Мартын раптам гучна, з усхліпам, ікнуў, па барадзе пабегла ружаватая змейка. Запузырылася пена, цёмная і густая. Мартын тарганууся, але тут жа абмяк, заціх і неяк лянíва, паслухмяна выпрастаўся. І адразу стала відно, што ён ужо мёртвы, ніякі і нічый, ужо зусім далёкі і ад жывых, тут прысутных, і ад усяго, што яны тут з ім зрабілі.

— Трэба перанесці яго ў спальню, — сказаў Есіп Вінклер.

Мартын ляжаў на баку, перацiснутая вяроўкаю шыя пайшла вішнёва-сінімі плямамі. Сцяпан Даўкша таропка наматаў на правую руку даўжэйшы канец вяроўкі і моўчкі пацягнуў Мартына да дзвярэй спальні. Ромак бачыў, як важкае цела павольна пераваліваецца на спіну. Мартынавы валасы зачапіліся за адгорнуты ражок тоўстага дывана, і напалову поўны шпрыц у шчацэ гайдануўся. Вінклер нагнуўся над Мартынам, вышмаргнуў шпрыц, прымерыўся і яшчэ раз моцным ударам усадзіў голку амаль у тую ж самую вішнёвую плямку, спакойна ўвёў у шчаку мёртвага ўсю астатнюю атруту. Сцяпан крэкнуў і зноў пацягнуў цела праз адчыненыя Ромакам дзверы ў спальню.

Ромак здзівіўся. Шчуплы Мартын Тамашэўскі аказаўся надзіва доўгім. Ногі ў светлых чаравіках падскоквалі, як драўляныя, і глуха грукалі абцасамі аб падлогу. Ромака абваліла такая нямогласць, такая апатыя, што ён нават не дапамог Даўкшу і Ёсіпу запіхваць труп у вялізную, загадзя купленую карзіну з сенам. Толькі падбіраў з падлогі расцярушанае сена і кідаў у грубку. Хацеў сказаць Ёсіпу, каб выцягнулі з Мартынавай шчакі шпрыц, але голас прапаў.

Карзіну запакавалі і накрылі раменным вечкам. Ромак адвярнуўся. Падумаў, што ўсё ж трэба было ім выцягнуць шпрыц.

Даўкша апрануў паліто, узяў Мартынаў капялюш і пабег наймаць фурманку. І толькі тады, калі Даўкша вярнуўся і сказаў Ёсіпу, чамусьці менавіта Ёсіпу, а не яму, Ромаку, што ўсё ў парадку, да Ромака нарэшце вярнуўся голас. Адазваўся кароткім, бяздушным: «Таак?»

Ёсіп нізка нахіліўся над карзінаю, насвістваючы свайго «Цыганскага барона», потым рэзка разагнуўся і пачаў уважліва пералічваць грошы, яшчэ раней выцягнутыя з Мартынавага пінжака.

— Усяго дзве тысячы. Казалі, восем. Пся крэў, дома пакінуў. Пералічы, — перадаў грошы Ромаку, дадаў: — Сцяпан давязе карзіну ў Нова-Вілейку, там надзейна схавае.

Ромак без ахвоты і нават гідліва пералічыў грошы, вярнуў іх Ёсіпу.

Даўкша, усё яшчэ ў Мартынавым паліто, прыўзняў карзіну над падлогаю, пажаліўся:

— Пудоў шэсць!

Вінклер пайшоў у сенцы, каб дапамагчы яму вынесці карзіну з трупам на двор і паставіць на фурманку. Вярнуўся, ціха прычыніўшы за сабою дзверы.

— Трэба паслаць за Лісіцкім. Пагуляем у карты.

Ромак згодна кіўнуў галавою:

— Я пагавару, каб ты ў яго пажыў пару тыдняў.

— Не, заўтра паеду дахаты!

— Едзь. З паліцыяй, калі што, сам разбяруся.

— Не давядзецца. Практычна, у іх няма ніякай зачэпкі.

— Між іншым, Ёсіп, чаму Мартын павінен быў з намі падзяліцца гэтымі тысячамі? Толькі таму, што выйграў іх за зялёным сукном?

— Ты для высвнення, знаеш, харошанькі момант выбраў! — Ёсіп, відно, раззлаваўся, але тут жа змякчыў тон. — Здаецца, мы з табою гаварылі, што гэтыя грошы патрэбны для зусім іншых гульняў.

— Паслухай, я думаю, табе ўсё ж лепей у Швейцарыю.

— Я выбраў Кракаў, — не згадзіўся Вінклер. — У мяне там ёсць адна маленькая пара. А там разбяруся. А!

Ромак прамаўчаў.

— А, пся крэў, — Вінклер хрыпла кашлянуў, — забыў аддаць Даўкшу пантофлі, каб спаліў.

— Я сам спалю. А дзе партсігар?

— Сцяпан выкіне, — Вінклер зноў кашлянуў.

— Сцяпану грошай хопіць? Колькі ты даў яму?

Вінклер не адказаў.

...Калі а дзевятай дзверы ў сенцах пачалі адчыняцца і рыпець, Ромак упершыню за ўвесь вечар абліўся жахам. Здалося, што пачуў голас Мартына Тамашэўскага. («Вар'яцею!»)

— Кухарка, — узрадаваўся Вінклер, — пашлі яе хутчэй да Французевіча, у мяне папяросы кончыліся. Страх як курыць хачу! Лікёру з кавай няблага, — і ўжо калі Ромак вярнуўся з сенцаў, нечакана запытаў: — А ты ведаеш, што мой брат быў сасланы ў Сібір за забойства сіняга мундзіра? Яшчэ ў восемдзесят дзевятым!

Ромак згодна кіўнуў галавою, хаця чуў пра гэта ўпершыню.

Лісіцкі прыйшоў праз гадзіну. Да самай раніцы дуліся ў карты. Ёсіп хутка захмялеў і ўвесь час без прычыны рагатаў. Выпілі тры бутэлькі лікёру. Але Ромак не п'янеў. Прайграў Лісіцкаму паўтары сотні.

Назаўтра Вінклер паехаў.

* * *

Недзе праз месяц пасля заключэння ў гэтую адзіночку Ромак у адным са сваіх кароткіх сноў, нечакана для самога сябе, знайшоў выхад. Прысніў, што ў

той вечар Вінклеру і Даўкшу дапамагаў не ён, а зусім іншы чалавек, незнаёмы яму. І адразу ж стала лёгка. Не, на судзе ён будзе гаварыць зусім не тое, пра што ўжо расказаў следчаму.

Але трэба спярша разабрацца, да чаго так упарта падводзіць яго адвакат Урублеўскі. І што ён ад яго хоча...

— Мы, адвакаты жыцця, павінны пайсці далей формы і пранікнуць у глыбіню справы, — апошнім часам пан Урублеўскі выглядаў зусім блага і аддыхваўся амаль пасля кожнай фразы. — І я ўвесь час думаю, чаму менавіта вы, лепшыя з лепшых, такія выключна таленавітыя студэнты, якія так моцна ўплывалі на перадавую частку нашай моладзі, чаму вы, мілыя «браты-апосталы» — ці не так вас называлі яшчэ на першым курсе? — чаму вы дайшлі да такога?! Малады чалавек, вы будзеце раскайвацца на судзе. Усе каюцца... Часта — каб хоць што выклянчыць, выгандляваць у правасуддзя! Паслухайце. У вас было дзесяць дзён, вы маглі выехаць за мяжу, так? Чаму ж вы не паехалі? Вось што мяне, прызнаюся, найбольш дзівіць. Чаму? Дарэчы, пры маёй апошняй сустрэчы з Залускай...

Ромак ад нечаканасці ажно адкінуўся назад і спалохана зірнуў на свайго «адваката жыцця». Значыць, ведае, ведае пра тое, што пані Залуская, Стэфчына цётка, яшчэ раней здала свой віленскі пляц, каб пазычыць ім з Вінклерам пяць тысяч. Потым, калі Стэфка, пасля паспешлівага ад'езду Вінклера, узяла ў рукі той праклятты пісталет, яны з Даўкшам збіліся з ног, але не нагрэблі нават паўтысячы, каб даць пані Залускай на аперацыю.

— Стафанія Залуская, не выключана, хутка заявіць следчаму, што Вінклер пакінуў у яе на захаванне бланкі замежных пашпартоў, — Урублеўскі задыхаўся. — Пра ўсе магчымыя нечаканасці, якія вас напаткаюць на судзе, малады чалавек, я гаварыць не буду. Але, мяркую, прагучыць найперш тое, што ваша злачынства прадумана, каб замацаваць гурток, як у нас кажуць, «шляхам цэменту крыві». Аднак жа гэтым «цэментам» мог стаць любы тэрарыстычны акт. Чаму,

скажыце, ну, чаму вы пайшлі на забойства менавіта Мартына Тамашэўскага?! Вы паказалі следчаму, што яго смерць стала неабходнасцю. Але ж сур'ёзных прычын такой неабходнасці не прад'явілі! А суд, вядома, зверне ўвагу на тое, што Тамашэўскі якраз перад забойствам выйграў у карты вялікую суму грошай! І збіраўся з маці за мяжу на лячэнне. Так? Ну, і як гэта ўсё ацэніць і выкарыстае пракурор?! Але я, ваш адвакат, мог бы яму запярэчыць, што матывам забойства былі зусім не грошы, а палітычныя мэты. Скажыце, а ці не даведаўся Тамашэўскі перад ад'ездам за мяжу нешта такое, што магло б пашкодзіць вашаму гуртку і сур'ёзна пагражала арыштам многіх яго членаў? — Ромак маўчаў. — І ці не таму, — Урублеўскі падняў уверх руку, — і ці не таму Тамашэўскі павінен быў загінуць? — Ромак усё яшчэ маўчаў, але Урублеўскі, здавалася, нават і не чакаў ад яго адказу. Яго мэтаю было адно — каб ён, Ромак, уважліва слухаў і думаў над кожнаю выказанаю думкаю, што хутчэй нагадвалі парады, над кожным яго словам... — Ах, малады чалавек, Сцяпан Даўкша, гэты сімпатычны прастадушны рабочы з вашага гуртка, які марыць пра новую аб'яднаную Польшчу, на следстве ўжо прызнаў сябе вінаватым у забойстве Тамашэўскага менавіта з-за грошай. Паспяшаўся!

Ромак, здаецца, пачынаў разумець.

— Малады чалавек, дарэчы, дзе і калі вы з ім пазнаёміліся?

— [illegible] кім? Даўкшам? — Ромак вагаўся, але Урублеўскі цярпліва чакаў.

— Гады два назад. На сходках аднаго рабочага гуртка.

— Сацыялістычнага? — Урублеўскі запытаў так зацікаўлена, што Ромак міжволі насцярожыўся.

Але Урублеўскі раздражнёна кашлянуў і зноў падняў далонь, як бы загадваючы Ромаку засяродзіцца:

— Вы павінны зразумець: часта тое, што падсуднаму здаецца важкаю цаглінаю на ягонай шыі, на самай справе аказваецца яго выратавальным кругам. Дзіўлюся, чаму вы ўтойваеце ад следства сапраўдную мэту вашага нелегальнага гуртка. Зразумейце, калі з-за ва-

шай упартасці суд прыйдзе да высновы, што гурток быў створаны толькі са злачыннымі, прымітыўнымі мэтамі, напрыклад, дзеля ўласнага ўзбагачэння, — а такое праглядваецца, то тады, прабачце, вашы «браты-апосталы» звычайныя варвары. І адносіны да вас будуць іншыя. Паверце, ніхто не збіраецца штурхаць вас на здраду і не стане выпытваць прозвішчы іншых членаў гуртка. Вы самі здаліся ў рукі правасуддзя, а значыць, прыкрылі сабою сапраўдных арганізатараў і віноўнікаў забойства. Ужо сам гэты факт скажа суду вельмі многа пра ваш характар і пра вашы маральныя прынцыпы... Дарэчы, вы хоць ведаеце, што сваім прызнаннем пазбавілі ад судовага следства сапраўды зусім невінаватага чалавека... Ах, не ведаеце... Хто? Фельчарка з Нова-Вілейкі. Нейкая Алаізія Сцяпанаўна Пашкевіч. Гэта мне вядома з надзейнай крыніцы. Таму прашу вас... Дарэчы, яна вядомая яшчэ як «сочинительница зловредных стихов». Так што не мінаваць было паненцы... Дык вось! З гэтага дня мы з вамі, малады чалавек, нічога болей замоўчваць і хаваць не будзем. Асабліва палітычныя погляды і палітычныя мэты. Плашч рамантычнага героя, нават злачынцы, часам ператвараецца ў важкія даспехі рыцара. А рыцараў у нас, нягледзячы ні на што, любяць і шкадуюць. Рыцарам у нас спачуваюць.

— А Каінам? Спачуваюць?

Урублеўскі, аднак, нібыта і не чуў нічога, спакойна працягваў:

— Значыць, гурток быў сацыялістычны... Ці, можа, нацыяналістычны? Зрэшты, гэта ўжо не важна. Важна, каб ён быў вамі канкрэтна вызначаны!

— У нас былі агульныя сацыялістычныя ідэі. А яшчэ ўзнаўленне рускай, аўстрыйскай... прускай Польшчы ў яе этнаграфічных межах.

— Ад мора і да канцоў зямлі?

— Так! Але гэта ўсё ж бліжэй Даўкшу і Вінклеру.

— Знаеце, папа Леў трынаццаты назваў палякаў сапраўды вернымі сынамі каталіцкай царквы. Але ён катэгарычна аддзяляе царкву ад палітыкі. Зрэшты, а што вам бліжэй, малады чалавек?

— Мне? А мне бліжэй «сонца праўды і вызвараўленне ў промнях яго».

— Добра. Не будзем пра Польшчу, пра Расію... Але скажыце, Даўкша аддаваў вам грошы, сабраныя сярод рабочых для палітвязняў? І хто гэтыя грошы потым перадаваў у турму? Вінклер? Я не памыліўся? Можаце маўчаць. Але цяпер, цяпер вы ўпэўнены, што грошы тыя траплялі менавіта ў турмы? Ваш Вінклер збег за мяжу. Здаецца, у Кракаў.

— Не ведаю. Мы прадаставілі яму поўную свабоду дзеянняў! Яго жыццё патрэбна нашай агульнай справе! — Ромак з жахам адчуў, што ў гэтай сырой і глухой, як каменная дамавіна, камеры ягоныя ўзнёслыя словы прагучалі фальшыва і кашчунна.

— Пахвальна, малады чалавек. А ведаеце, чаму не збег Даўкша? У яго ж таксама была ваша «свабода дзеяння». Але ў Даўкшы не было грошай на дарогу. Вінклер яму нічога не даў. Як і вам, дарэчы. А пазычаць грошы, ведаючы, што вярнуць іх ён не зможа, Даўкша, як бачыце, не здолеў. Сумленне не дазволіла. Парадокс! — Урублеўскі ўжо дыхаў раўней, астматычны прыступ скончыўся. Не дадаўшы болей ні слова, ён кіўнуў і хутка выйшаў з камеры.

...Памятаецца, першая сустрэча Ромака з адвакатам Урублеўскім прайшла нядобра, нават непрыязна. І ці не таму, што першае пытанне адваката проста агаломшыла:

— Ці даўно перачытвалі вы, малады чалавек, лісты з Францыі?

Ромак раздражнёна пацінуў плячамі — гаварыць пра «французскага» інсургента і выгнанніка, дзядзьку Гаспара, нават з адвакатам, яму не хацелася. Урублеўскі гэта адчуў і не настойваў. Перад адыходам пацёр вялікім пальцам правай рукі акуратную, з блакітнаю сівізною пасярэдзіне, бародку. І раптам Ромак успомніў! Так, ён ужо бачыў гэтага чалавека, хоць, праўда, даўно. Яшчэ калі быў жывы бацька. І не толькі бачыў, але нават і гаварыў з ім. Калі ў шостым класе ледзь не вылецеў з гімназіі. За тое, што на Казіміра пайшоў у касцёл памаліцца святому апекуну Літвы. Нехта ўбачыў і данёс пра гэта дырэктару гімназіі. Бацька, напалоханы намерам дырэктара выключыць Ромака за падобныя «провинности» з «вверенной российскому мундиру» навучальнай уста-

новы, папрасіў дапамогі ў свайго даўняга сябра. Ім і быў Фадзей Урублеўскі.

Урублеўскі прыйшоў. Вось тады, упершыню, ад Урублеўскага Ромак і пачуў пра тое, як і за што загінуў дзядзька Дамінік. Аказалася — камандзір інсургенцкага атрада ў шэсцьдзесят трэцім годзе. Паўстанцамі былі ўсе тры браты Малецкія. Самы малодшы з іх, Гаспар, ледзь не з эшафота збег у Францыю. Старэйшага, дзядзьку Даміника, павесілі ў Вількаміры. Ромакавага бацьку, Юзіка Малецкага, сярэдняга з братоў, саслалі ў Якуцію.

Яшчэ ў студэнцкія гады Ромак, назіраючы ўпотайкі за згорбленым над бюркам сівым схуднелым чалавекам, сваім бацькам, які гартаў толькі адну — гандлёвую кнігу, перажываў даўкае пачуццё сораму і крыўды. Бо цяжка было верыць у тое, пра што расказаў яму некалі Фадзей Урублеўскі.

Бацька памёр ціха. Перад смерцю ўсё клікаў Дамчыка — таго самага, павешанага ў Вількаміры, дзядзьку Даміника.

Пасля саракавін, калі Ромак ператрасаў стары куфар, маці рашуча не дазволіла яму выкінуць старое, высыпанае ўжо, мядзведжае футра, у якім Ромака, аказваецца, тады яшчэ немаўлёнка, вывезлі ■ якуцкай тайгі. І Ромак адчуў, упершыню зразумеў, якімі ўсё-такі страшнымі, якімі мёртвымі былі для яго бацькоў тыя якуцкія гады выгнання.

...Апошнім часам, калі заходзіў Урублеўскі, Ромак сядаў на табурэтку, упіраўся локцем у стол і засяроджана слухаў. Сёння Урублеўскі гаварыў асабліва рэзка.

— Нашымі законамі дапускаецца беспакараная страта чужога жыцця... Але ж у рэдкіх выпадках. Пры самаабароне і калі страляюць ва ўцекачоў з каранціну.

Урублеўскі змоўк, і Ромак адразу ж гэта скарыстаў:

— Калі няма іншай свабоды, акрамя свабоды наведваць толькі царкву і шынок, патрэбна актыўная барацьба.

Урублеўскі звыклым рухам правёў вялікім пальцам па светлай пасмачцы пасярод бародкі. Усміхнуўся Ромаку.

— Для служэння вялікай справе, — Ромак спяшаўся, — для рэвалюцыі патрэбны моцныя людзі, ачышчаныя ад усялякіх чалавечых слабасцей, гатовыя адмовіцца ад усяго таго, што звычайнаму чалавеку вельмі дорага. Каб раскаленым жалезам выпаліць са свайго сэрца ўсе фібры, акрамя вернасці агульнай мэце!

Урублеўскі рэзка павярнуўся да Ромака, запытаў:

— Але якой мэце? Вось у чым загвоздка, — зрабіў некалькі крокаў па камеры і падняў далоні. Ад бляклага камернага святла яго чорны сурдут здаваўся карычнева-шэрым, каўнерык блішчаў, як парцалянавы. — Калі прысяжныя павераныя пачнуць вырашаць ступень вашай віны, то яны натыркнуцца на некалькі падводных рыфаў. І адзін з іх той, што на сёння грошы Тамашэўскага апынуліся ў руках Есіпа Вінклера.

— Шлях жа беззаконных — цемра, — не вытрываў Ромак, — яны не ведаюць, аб што спатыкнуцца.

— Мы ўсе па-свойму фанатыкі, малады чалавек.

— «І ўблажыў я мёртвых, якія даўно памерлі, болей, чым жывых, якія жывуць дасюль...» Ах, пане адвакат. «Аддай міласць падаяння ўсякаму, хто жыве, але і памерлага не пазбаўляй міласці». Я ўгадаў? Вы нешта падобнае ад мяне хацелі пачуць?

Урублеўскі неяк разгублена, сумна ўсміхнуўся. І Ромак пахаладзеў. Тая кволенькая вера ва ўласную невінаватасць, якая нядаўна, у сне, улілася ў ягоную душу, яшчэ поўніла яго мяккім спакоем. Але ўсяму прыйдзе канец. І гэта Ромак зразумеў.

— Запэўніваю, малады чалавек, я буду пярэчыць на судзе адносна вашай асаблівай жорсткасці. Ды не выпіць вам віно ярасці Боскай, налітае ў чашу гневу яго. — Ромак маўчаў. — Уяўляю, што робіцца ў вашай душы, малады чалавек. Але бачу, што там, на сумненні вашым, крывёю напісана цяжкая віна таго, каму вы паверылі. І глыбокімі літарамі на ім выпалена яшчэ і сляпое падначаленне партыйнаму абавязку, вера ў высокі грамадскі ідэал. Аднак сказана, што жывому псу лепей, чым мёртваму льву. Прыйдзе час, і многія з тых, хто ўжо спіць у зямлі, прабудзяцца, я сказаў бы, ва ўнуках і праўнуках — адны для вечнага шчасця, другія — на вечнае ганьбаванне і асмяянне.

— Тады няхай кожны, пане адвакат, і я таксама, няхай кожны памірае за ўласнае беззаконне. І адказвае толькі за сябе, чуеце? Але, пане адвакат, ці не атрымліваецца так, што бацькі елі кіслы вінаград, а аскоміна — на зубах у дзяцей!

Урублеўскі раптам нядобра пацямнеў тварам і стаў каля дзвярэй, худы і высокі, як Дон-Кіхот.

— У шостым стагоддзі да нашай эры, малады чалавек, існавала таемная арганізацыя сікарыяў, якія рабілі стаўку на індывідуальны тэрор. І якраз у той перыяд, як піша Іосіф Флавій, напладзілася столькі прарокаў, што яны зводзілі народ у пустыні, абяцаючы сустрэчу з месіяй. Аднаму такому лжэпрароку ўрэшце адсеклі галаву. Але тыя, што паверылі яму і пайшлі ў пустыню, так і на змаглі вярнуцца, і загінулі ад голаду і смагі. Калі б вы ведалі, малады чалавек, якая шалёная хваля тэрору гуляе цяпер па нашай імперыі! І якія псеўдарэвалюцыйныя пракокі нарадзіліся ў гэтай крывавай плазме, прарокі, якія сваімі хлуслівымі атрутнымі вуснамі абяцаюць народу «исполнение времен». І народ, як сляпы статак, гатовы ісці ў пустыню, рынуцца ў тую ілюзорную утопію так званай вечнай волі. Але ж...

— Вы хочаце сказаць — але ж па дарозе ён, гэты народ, будзе блудадзейнічаць: і з каменем, і з дрэвам, і з касцьмі сотняў і тысяч бязвінных ахвяр...

— Вы добра ведаеце вечную кнігу, малады чалавек...

— Бо галоўнае для іх, пане адвакат, вера ў прыход новага месіі, але зусім не ў тое, што наступяць дні, калі хлеб стане дастаткам усіх, хто яго пасеяў...

— А віно вып'юць тыя, хто дагледзеў вінаграднік...

— І немаўля будзе гуляць над нарою аспіда, і дзіця працягне руку на гняздо змяі, — Ромак бачыў, як хваравіта заблішчалі вочы Урублеўскага, — і тады, пан адвакат, тады перакуюць мячы на аралы і дзіды свае — на сярпы, так?

Ён ужо зразумеў Урублеўскага, зразумеў, бо ў гэтым страшным каменным склепе смерці адкрыў у сабе яшчэ адзін зрок, той, што спасцігаў не толькі знешняе. І гэтым абвостраным ад жаху і смяротнага холаду зрокам ён бачыў цяпер: стары рамантык, такі, здавала-

ся б, бескампрамісны чалавек, адвакат Фадзей Урублеўскі ўсё яшчэ блукаў у ілюзорным рамантычным тумане і ўжо не мог вырвацца з кола святога абавязку перад сябрамі па духу, якімі для яго, аказваецца, заўсёды былі браты Малецкія, і яго, Ромакаў, бацька таксама.

Пасля таго як Урублеўскі развітаўся, Ромак яшчэ доўга ляжаў на нарах і думаў. Упершыню здзівіўся свайму цяжкаму празарэнню. І спалохаўся. Няўжо праўда, пад таямнічаю маскаю яго палітычнай дзёрзкасці і эрудыцыі — пра гэта яму шмат гаварылі, — пад маскаю, ды не, зусім жа не пад маскаю! шчырай гатоўнасці пайсці на крыж і быць распятым за кожнага беларуса, за ўвесь беларускі народ, няўжо за ўсім гэтым святым ён таіў і хаваў, нават ад самога сябе, уласную недабранасць і страх. Як любіў казаць Вацак Іваноўскі: «Альбо ты патрыёт, альбо не!» Але сама болей гняло пачуццё безвыходнасці. І пякла думка, што нічога ўжо нельга вярнуць і нічога нельга змяніць. Як нельга ўжо, нават цаною ўласнага жыцця, падняць з мёртвых беднага Мартына «Урзуса». Так Ромак заўсёды называў Мартына за яго вернасць мінеральнай вадзе урзус. Мартына «Урзуса» нічым ужо не вернеш. Вось чаму так страшна!

* * *

Віктóр Генісарэцкі зразумеў, што ў яго кабінет графа дэ Броэль-Плятара дробязь не прывяла б. Перад Віктарам на стале ляжалі дзве старонкі машынапіснага тэксту — рэзалюцыя журналісцкага з'езда. Тое, што ўжо было ім падкрэслена чырвонаю рыскаю, ён рашыў прачытаць свайму госцю. Паясніўшы, што да чаго, пачаў з другога пункта: «Папярэднімі ўмовамі для склікання народных прадстаўнікоў з'яўляецца тэрмінова забеспячэнне свабоды слова, сходаў і друку, без розніцы нацыянальнасці і мовы, недатыкальнасць асобы і жылля і — паслухайце толькі! — амністыя для ўсіх абвінавачаных у так званых палітычных і рэлігійных злачынствах...» — Генісарэцкі ўважліва зірнуў на Броэль-Плятара, але той толькі ветліва, крыху скептычна ўсміхаўся. — Журналістаў, аказва-

еццa, цікавяць рэлігійныя злачынствы. «Прадстаўнікі друку лічаць неабходным праводзіць прынцып поўнага грамадзянскага раўнапраўя ўсіх народнасцей і прынцып прызнання за кожнаю з іх права на культурнае і палітычнае самавызначэнне...» — Генісарэцкі ўздыхнуў. — І такое, граф, амаль кожны дзень. Зрэшты, вы і самі... Ну, добра, уявім, што мы з вамі толькі вінцікі манархічнай машыны... Але, граф, скажыце, што яны маюць на ўвазе пад... — Генісарэцкі яшчэ раз схіліўся над лістком паперы. — Вось! Пра чыё самавызначэнне нашы слаўныя журналісты так клапоцяцца? Ай-ай! І тут падумаем, а хто ў нашай слаўнай імперыі самыя таленавітыя пісакі? — Броэль-Плятар не перабіваў, але раптам усміхнуўся і выпаліў:

— Папуасы!

Генісарэцкі ад нечаканасці ажно адкінуўся ў крэсле назад і адразу ж ацаніў госцеў гумар:

— А?! Канешне ж — папуасы! Папуасы, граф! А самыя таленавітыя вучоныя? Ну, вядома, яны... І вось, аказваецца, гэтыя самыя папуасы найболей і хварэюць за правы і свабоды маларосаў там, жмудзінаў! От гэткія, граф, у нас папуасы.

Броэль-Плятар шматзначна ўсміхаўся, але пра свой клопат пакуль што не казаў. Генісарэцкі хруснуў пальцамі, кальнуў госця халаднаватым позіркам, але тут жа схамянуўся. — Самавызначэнне, граф, як вы разумееце, патрабуе найперш тэрытарыяльнай агульнасці нацыі. А якое, прабачце, можа быць самавызначэнне ў гэтай самай папуаскай дыяспары? На якой, прабачце, тэрыторыі і пры якой моўнай і культурнай еднасці?

— Значыць, палітычнае какецтва?

— Не думаю, граф... А калі ўявіць, што тэрыторыю можна заняць толькі ў тым выпадку, калі выцесніш з яе карэнную нацыю, то задача звышцяжкая. Ёсць і іншы сродак... Поўнасцю разбурыць асновы расійскай манархіі і такім чынам аслабіць, а то і цалкам дэнацыяналізаваць, асіміляваць, пераплавіць карэнных на свой капыл. А там, глядзіш, дзесяць гадоў пройдзе, дваццаць, трыццаць... І атрымаецца які-небудзь расейска-папуаскі кентаўр!

— Ну, вы ўжо...

— Цяжка паверыць, граф?

— Я веру толькі ў Бога.

— Мы ўсе верым у Бога. Але па волі сваіх службовых абавязкаў мне часам даводзіцца сутыкацца з тымі, хто ў яго зусім не верыць і паралізуе край д'ябальскім чырвоным тэрорам... Як жа хутка наш народ можна загітаваць... І пры гэтым вытравіць з душы гэтае самае хрысціянскае: «не забі!», і тады ён, народ наш, пачне знішчаць самога сябе. Яго святасць факт — вось цяпер мой Бог! А Біблія і Закон Божы ў мяне, адпаведна, складзены з пратаколаў і следчых папер. І з іх вынікае, граф, што рэвалюцыю не так складана арганізаваць. Аднак, прабачце, я вас слухаю.

...Віктор ажно сціснуўся, калі пачуў ад Броэль-Плятара прозвішча Тамашэўскага. Але праз хвіліну ад сэрца адлегла, хаця справа сапраўды адыёзная. Але банкіра цікавіла толькі адно: ці абавязкова следчаму паведамляць на судзе, што сведка Стафанія Залуская — яго пляменніца. Стала ясна, што Броэль-Плятар просіць Віктора зрабіць усё магчымае, каб ягонае прозвішча, нават у самым бяскрыўдным кантэксце, не называлася. Броэль-Плятара, вядома, праінфармавалі, што следчы па справе Тамашэўскага Вікенці Чарнавус — лепшы сябра Віктора. Увага віленскага мяшчанства па-ранейшаму круцілася вакол падрабязнасцей братазабойства. Затое прыглухлі, хоць на нейкі час, рэвалюцыйныя ўсплёскі. Нават цікавасць да такой маштабнай правакацыі, як забастоўка тэлеграфістаў, паціху падала. Генісарэцкі зрабіў з усяго гэтага свае высновы, якія, па звычцы, занатаваў у дзённіку. Значыць, панове і месье, у экстрэмальных палітычных сітуацыях дапушчальныя не выпадковыя, а загадзя арганізаваныя катастрофы ці буйныя злачынствы. Генісарэцкі тэарэтызаваў з асалодаю. Але, не дай Бог, хто-небудзь з палітыкаў дадумаецца калі-небудзь перавесці стрэлку грамадскай увагі на спецыяльна запланаванае злачынства, якое настолькі ўразіць людзей, што адразу ж, хоць на кароткі час, разрэдзіць палітычныя прэтэнзіі да ўрада.

Праз два дні Генісарэцкі зайшоў да Чарнавуса.

— О-ля-ля! Нешта не падобны на папуаса!

Чарнавус не зразумеў Віктора, але ўсміхнуўся. Перад ім сядзеў каранасты светлавалосы юнак з кучараваю барадою. Простае, але не грубае, а хутчэй інтэлігентнае аблічча.

— Даўкша, — кіўнуў на яго Чарнавус і падагнаў: — Слухаем!

— Я гаварыў ужо... Да васемнаццаці гадоў я жыў у вёсцы. А калі прыехаў у Вільню, то паступіў у слясарную майстэрню. Я трапіў у новы свет, да гарадскіх рабочых. Вы разумееце, што яны былі вышэй за мяне па развіцці... на цэлую галаву.

Даўкшу нарэшце вывелі, і Віктор адразу ж расказаў Чарнавусу пра візіт Броэль-Плятара.

— Затое мне, мон шэр, цяпер даводзіцца мець справу не з такою элітаю, а са звычайнымі фурманамі чырвонай калымажкі. Так, ведаеш, спакойна, шэльмы, робяць сваю справу, што дзіву даюся. І такім чынам няспынна падрываюць фізічныя сілы трона. І што мяне найбольш дзівіць — гэта агрэсіўнасць цудоўнай паловы чалавецтва. Эмансіпацыя пачынаецца з таго, што ўкладвае ў жаночую ручку не толькі кніжку, але і бомбу. А мешчанін? Ах, як яму, мордзе купецкай, хочацца адчуваць сябе дэманічнаю асобаю. Ах, як яму, ізгою дурному, хочацца абматацца чырвонай анучкай вяршыцеля гісторыі! Вось дзе д'яблы.

— Не трэба было вам з Фёдарам Міхайлавічам выпускаць іх з клеткі. — Генісарэцкі задаволена хруснуў пальцамі, ведаючы слабасць Чарнавуса — амаль фанатычнае пакланенне перад Дастаеўскім.

— А я сапраўды спецыяльна перачытаў «Д'яблаў». Ты не памыліўся. Перачытаў і нават дзе-што выпісаў. Хачу ўсё ж зразумець...

— Такі страх? — Віктор ледзь перасіліў у сабе накат смеху, і Чарнавус гэта заўважыў, але не пакрыўдзіўся і, замест адказу, таропка выцягнуў шуфлядку стала, выняў з яе і паклаў перад сабою некалькі паперак. Потым выбраў з іх патрэбную, схіліўся і пачаў чытаць: — «Як свет ні лячы, усё роўна не вылечыш, а калі зрэжаш — чуеш? — калі зрэжаш радыкальна сто мільёнаў галоў і тым самым...»

— Падлічылі, аднак, — скептычна ўставіў Віктор, але Чарнавус нахіліўся над новай паперчынай.

— Не ведаю, як яны будуць рэзаць гэтыя мільёны, але цяпер, каналлі, страляюць, і рука не дрогне!

— Паслухай...

Чарнавус, здаецца, і не чуў Віктора, зноў пачаў чытаць: — «Кожны член грамадства...» Значыць, — «кожны член грамадства», — гэта ўсё пра іхняе грамадства! — «кожны сочыць адзін за адным і павінен даносіць. Усе рабы і ў рабстве роўныя...» А для гэтага, ці бачыш, трэба «найперш панізіць узровень адукацыі, навукі, талентаў. І не патрэбны вышэйшыя здольнасці». Надзейная логіка! «Вышэйшыя здольнасці заўсёды адбіралі ўладу і былі дэспатамі». Вось так, дарагі! «...іх выганяюць альбо караюць. Цыцэрону адразаецца язык, Каперніку выколваюць вочы, Шэкспіра забіваюць каменнямі. Рабы павінны быць роўнымі. Без дэспатызму яшчэ не было ні свабоды, ні роўнасці...»

Віктор нецярпліва пракашляўся.

— Калі б ты ўчора быў на прэм'еры новай кракаўскай (паўза) Альхоўскай, то настрой твой...

— І ўсё ж паслухай!

— Ды я ўвесь — суцэльная ўвага.

— «Мы пусцім п'янства, плёткі, данос...» Улавілі, каналлі! І яны, Віктор, не адступяцца. — Генісарэцкі з'едліва засмяяўся. — І гэта ўсё сур'ёзна, Віктор. «...і пачнецца смута... Затуманіцца Русь, заплача зямля па старых багах». Вось так! А ўся бяда ў тым, што твой Фёдар Міхайлавіч сваёй празарлівасцю...

— Сваім геніем!

— Але ён, згадзіся, прыцягнуў увагу сусветнай пагані менавіта да нашай вялікай праваслаўнай Русі. Вось яно — поле! Рассявайце пажары! Гуляйце са Сценькам Разіным. Вось і дагуляліся.

— І джала яны выкідваюць з самай высокай ідэі! Вось, Віктор! — «нашы не толькі тыя, што рэжуць, паляць...» А Віта размазвае соплі! А вось дастаць да дна...

— Бачу, мы сёння да дна дастанем. — Віктор падняўся з крэсла, прайшоўся па кабінеце, падвысіў голас: — «Графы и графини, счастья Вам во всем, мне ж — в одном графине, но, пардон, — в большом!»

Чарнавус засмяяўся, змёў рукою са стала ў шуфлядку паперы.

Віктор, зноў сеўшы, задаволена выпрастаў перад сабою ногі.

— Настойваю! Табе трэба на спектакль з Альхоўскай. Праўда, там ужо...

— Кракаўская шэльма!

— Але цела — багіні!

— У нас розныя густы!

— Значыць, быў?

— Лепш скажы, — Чарнавус кіўнуў чамусьці на дзверы кабінета, — скажы, чым усё гэта для нас усіх закончыцца?

— А нічым новым. — Віктор патушыў у вачах насмешлівыя іскрынкі. — Урэшце ўсе мы згубім, як Навухаданасор, розум, уявім сябе... уявім, што мы валы, і пачнём есці траву!

Чарнавус рашуча падняўся з-за стала і, адчыніўшы дзверы, аддаў кароткі загад прывесці Малецкага. Вярнуўшыся, стомлена сеў.

— Яшчэ адзін хворы!

— Усе яны...

І сапраўды. Шчуплы і бледны, з халерычным бляскам шэра-зялёных вачэй Малецкі адразу ж нервова закруціўся на табурэтцы і не пераставаў міргаць чырвонымі ад бяссоння павекамі. Віктор неаднойчы назіраў за тым, як падобныя халерыкі выклікаюць паталагічны інтарэс благанадзейных грамадзян імперыі гэтак жа, як прыцягвае да сябе сам смяротны грэх. У суд паваліць палова Вільні. Стомлены Чарнавус ужо нацягнуў прэсную і крыху пагардлівую маску.

— На папярэднім допыце вы ўпамянулі пра вашу з Вінклерам падпольную друкарню і склад нелегальнай літаратуры.

— Я не магу ўзяць на сябе ўвесь гонар справы. Але мне даводзілася памагаць Вінклеру.

Віктор гучна, насмешліва хмыкнуў, Малецкі, аднак, нават не павярнуў да яго галавы.

— Падпалкоўнік Меер не ведае такой партыі, да якой можна было б аднесці вашых «братоў-апосталаў».

— Калі б ваша жандармерыя ведала пра ўсе палітычныя партыі і гурткі, то хіба былі б магчымыя

тыя тэракты, якімі так багата палітычная хроніка апошніх гадоў?

Віктору падабалася, што Малецкі не выкручваецца.

— Якімі былі вашы асабістыя адносіны да забітага?

— Ніякімі. Я проста ігнараваў яго. Калі б тут асабістае іграла нейкую ролю, то... Галоўнае — гэта мая ўпэўненасць: для сапраўднага рэвалюцыянера сямейныя пачуцці не маюць значэння!

— Для рэвалюцыянера ці тэрарыста?

— Тэрор, па сутнасці, самая важная сіла рэвалюцыі, яе ідэйны патэнцыял... Патэнцыял помсты за сябе і за ўсіх скрыўджаных. О, такі рэвалюцыйны тэрор апраўдваецца самай гуманнай і высокай ідэяй. Бо змаганне за свабоду, — Малецкі павярнуўся да Віктора, глянуў на яго шалёнымі вачамі, але тут жа перавёў позірк на Чарнавуса, — змаганне за свабоду заўсёды, здаўна ўзрастала на крыві! Нават на трупах... на трупах цэлых эпох, нацый, культур! Свабода вышэй культуры!

— Вы маеце на ўвазе нацыянальную культуру? — Віктор змеціў, як Малецкі імгненна насцярожыўся, але Чарнавус не адступаў: — Даўкша прызнае, што самым важным пытаннем у вашым гуртку было пытанне нацыянальнае.

Малецкі маўчаў, і Віктор запытаў спакойным, абыякавым голасам:

— Вы спрачаліся пра шляхі нацыянальнага адраджэння?

Малецкі зноў прамаўчаў.

— Што ж, ясна. А верш такога паэта, як Банадысь Асака, вы, спадзяюся, чыталі?

— Не.

— Добра. А ці знаёміліся вы ў Пецярбургу ці ўжо тут з курсісткаю Алаізіяй Пашкевіч? Скажаце, што не? Дарэчы, яна знаёмая Залускай. Ну, дык вы бачыліся з Пашкевіч? І пра што гаварылі?

— З Пашкевіч я — не знаёмы. Не сустракаўся і не гаварыў.

— Ясна. Дзякую. Дарэчы, цяпер Алаізія Пашкевіч працуе ў Нова-Вілейскай лячэбніцы. Так-так... Той самай.

Малецкі толькі паціснуў плячамі і сонна прыплюшчыў вочы, як паказваючы, што не разумее.

Нарэшце яго вывелі.

— Вось табе, мон шэр, асобная каста фанатыкаў. А дурань ён таму, — працягваў Чарнавус, — што аказаўся зброяю ў чужых руках. Вазьмі, глянь, — Чарнавус паказаў Віктору спісаную па-польску паперу. І сам пачаў уголас чытаць дзіўны тэкст:

— «Wolność kownose one przenayświętsze dary Boga Natury, nasze istotne przedmioty, Despotyczna Bellona skazuje na mary. Pierwsza juz nieistotnie, druga dla hołoty. Ziemcy Bogowe, prawe Minosa potomki...»

Генісарэцкі, не вытрымаўшы, гучна рассмяяўся. Але Чарнавус яго не падтрымаў. Паясніў:

— Гэта знойдзена пры вобыску ў пецярбургскай кватэры Вінклера. У тайніку. У адным пакунку з іншымі цікавейшымі паперкамі. Напрыклад, быў там і поўны спіс людзей, якія акружаюць Вітэ. Для такой дасведчанасці патрэбны інфарматары на ўзроўні губернатарскай канцылярыі. Нават нашых філёраў, прыстаўленых да графа Сяргея Юльевіча, знаюць.

— Што яшчэ?

— Адрасы. У Вене, Варшаве, Лейпцыгу.

— Ну і?

— Канторкі аднаго амерыканскага банка.

— Людзі гінуць за метал?

— Вітэ збіраўся ў Маскву. І ў Вінклера памечаны ўсе станцыі, дзе ён збіраўся спыняцца. Разумееш?

— Тэрарысты?

— Ну, калі амерыканскі банкір — тэрарыст, то... Проста наша патрыярхальная Расеюшка на шляху да моцных дзяржаў... І вядуць яе да велічы такія, як Вітэ. Барацьба кантынентаў толькі пачынаецца. І да яе будзе падключана ўсё: войны, рэвалюцыі...

— Ідэі, — згадзіўся Генісарэцкі.

— Можа, у першую чаргу ідэі.

— А што ты мне за лухту падсунуў?

— Не лухта, мон шэр, а старыя масонскія спевы. Неабходны атрыбут цырымоніі прыёму ў ложу.

— Вінклера?

— Ну, не Малецкага ж!

— А! За гэтымі бутафорнымі гульнямі ў кельмы і спевы, думаю, цяпер стаіць больш сур'ёзная арганізацыя. Якое там масонства! Маразматыкі... А Вітэ ведае? — Віктор кіўнуў на паперку, што ўсё яшчэ ляжала перад Чарнавусам. — Здаецца, пахне пакушэннем.

Чарнавус ухмыльнуўся.

— Яшчэ [redacted] не ведаць.

— Аднак Малецкі...

— У тым і трагедыя ўсіх гэтых адэптаў сацыялізму, што яны ніколі не даведаюцца, хто ж быў з імі побач.

— І ўсё ж чаму Вінклер не прыхапіў яго з сабою?

— Думаю, правіла павука: адразу ж забываць пра таго, [redacted] каго кроў ужо — высмактана. А адносна Залускай, — успомніў Чарнавус, — не варта хваляваццa. Так што кланяйся Броэль-Плятару.

7

— Ах, маё мілае дзецко, хто ведае, ці спатрэбяцца хоць каму-небудзь на гэтым свеце гром і бляск нашых талентаў?!

Алаіза толькі пацiснула плячамі. «Але ж гэта вы, мілая пані Ажэшка, так даўно ўжо адчулі пякучую славу свайго таленту! І так бліскавічна».

Яны сустрэліся з Элізай Ажэшка ўчора ўвечары ў прасторным гасцінічным нумары актрысы Нуны Альхоўскай. З Пецярбурга якраз прыехала і Сабіна Ячыноўская з сястрою — піяністкай Кацярынай. Гасцей сабралася шмат. Быў і Вітольд Чыж. Цалуючы ёй руку, смешна пачырванеў. Дзіўны Чыжык. Ажэшка таксама адразу ж пазнала: «Алаіза?! Ну, то як там наша Франка? Успамінаеце? — І адразу ж папрасіла: — Пачытайце нам, мілая. Вельмі хачу паслухаць ваша. А пані Ячыноўская, не-не, яна не адмаўляецца, яна сыграе для вас. Вядома, вядома, для нас усіх. Бачыце, ужо ідзе...»

Узрушана-бледная Ячыноўская, дрогнуўшы высока ўзнятымі чорнымі бровамі, абвяла ўсіх быстрым позіркам шэрых вачэй, села за раяль. І калі грымнулі і

забушавалі першыя акорды Бетховена, Алаіза, нечакана для самой сябе, дзёрзка рашылася. Яна будзе, будзе чытаць сваё «Мора» пад такую музыку. Чытаць для ўсіх і асабліва — для Яе.

Развіталіся даволі позна. Але і пасля Алаіза яшчэ да поўначы не магла заснуць, да драбніц успамінаючы тое, што зноў уразіла ў «гродзенскай самотніцы». Ажэшка гаварыла мала, адно ледзь паспявала адказваць на бясконцыя пытанні. Нават цяпер у Алаізіных вушах усё не аціхаў яе прыглушаны голас...

— Вы чыталі Красінскага, Алаіза?

— Так, але...

— О, ягонае «выпрабаванне дамавінай». Памятаеце?

— У Красінскага гэта, здаецца, барацьба са злом, якую вядзе народ на дарозе да сваёй незалежнасці.

— Ах, Алаіза, гэтае народнае выпрабаванне, каб выйсці з дамавіны і паўстаць роўным сярод мацнейшых і большых народаў?!

— Але ж, пані Эліза, ці знойдзе мой народ столькі сілы і здольнасці для такога Боскага прызначэння?..

Раніцаю ледзь прымусіла сябе падняцца з ложка і пачулася хвораю, але, абліўшыся халоднаю вадою, падбадзёраная, толькі прыгубіла кубачак з халоднай гарбатаю. Уздыхнула: ах, якое яно ўсё ж сцяганае, гэтае яе вечнае палітэчка. Упершыню зрабілася сорамна. Сорамна ўсцягваць на сябе яшчэ пецярбургскае рыззё. Аднак махнула рукою, схапіла ўжо на хаду сумачку. Ці ж яна, Ажэшка, не зразумее? Ішла і зноў чула толькі яе голас: «А я, як адбіты ад статка жораў, Алаіза... І лятаю сярод птаства, зусім чужога мне. І не магу ад яго атрэсці крылле. І хоць мы ляцім разам, толькі ж — па розных лініях і на розных вятрах. Цяжка прызнацца, але мой лёт іншы, Алаіза. І песні іншыя. Таму так часта цаляюць у мяне іх вострыя жалезныя дзюбы. Бывае так балюча. І самае страшнае, калі не адчуваеш побач праўдзівага мяккага крыла. Ратуй вас Божа ад такога. Але я не магу жыць і не магу працаваць, калі не чую блізка моцнае сардэчнае біццё. Такі ўжо я чалавек. Ніколі, ні разу не сядала за стол без любові...»

Сёння, як і дамовіліся, яны сустрэліся каля касцёла святой Ганны. У касцёле якраз вянчаліся, і яны пастаялі моўчкі, гледзячы на маладых, пакуль з хораў не палілося ўрачыста-ўзнёслае «Авэ...».

Пасля няспешна ішлі па вузкіх віленскіх завулках. Настылая позняя раніца звінела між чорнага, тонкага, горда ўзнесенага голля адзінокіх дрэў, жаўтлявае сонечнае праменне люстравалася на абалонках высокіх вокнаў, і тут, унізе, у гэтай сцюдзёнай празрыстасці людзі здаваліся маленькімі мітуслівымі істотамі ў вялізнай клетцы, нябачныя пруты якой дрогка цягнуліся ад зямлі да неба і ад сцяны да сцяны паміж старымі аблупленымі камяніцамі.

— Гэта цяжка, Алаіза, цяжка не ведаць будучыні ўсяго створанага табою — тваім сэрцам і тваім розумам. Увесь час ад гэтага пакутую. — Ажэшка спынілася каля сцяны базыльянскага гмаху, правяла абедзвюма далонямі па шурпатым муры. Пальцы яе чуйна ўздрыгвалі, нібыта адчувалі холад, што ішоў знутры каменнай глыбы. Надвор'е мянялася. Узняўся вецер і ў імгненне нагнаў на неба цёмнага застылага свінцу.

З-пад чорнага капялюшыка Ажэшкі, абвітага дробнаю смушкаю, выбілася і легла на бровы сівая пасмачка валасоў, і Алаіза ледзь стрымалася, каб не дакрануцца да яе. Ажэшка, відно, адчула гэта, усміхнулася і тут жа адвяла валасы вышэй, на чысты выпуклы лоб. І раптам — з хітрынкаю ў голасе:

— А! Усё ж запытаю, Алаіза. Толькі не думайце, гэта не проста цікаўнасць... Толькі скажыце мне — вы любіце? — запытала, але, відно, змяціла ў Алаізіных вачах нешта такое, ад чаго адразу ж засмуцілася. — Ну, то чаму? Можа, вінаваты той прыгожы пан, які тады... Памятаеце, калі вы ігралі маю Франку? — зноў бліскавічна слізганула пільным позіркам па Алаізіным твары. — Паверце мне, мілае дзіцятка. Я ўжо столькі перажыла і пражыла, што ведаю: нікога, нікога з нас не міне на гэтым свеце людское паскудства. Асабліва цяжка такім, як мы з вамі. Бо ўся наша душа, мілая Алаіза, прагне толькі высакародства... Вось і шукаем мы, і бачым у жыцці праявы не зла, а толькі высокага чалавечага духу, і нават там, дзе гэтага зусім няма.

— Таму мы так часта памыляемся?

— Бо мы хворыя, Алаіза. Мы хворыя людзі. І ў нашай хваробы ёсць толькі адна назва — гэта вера. Вера ў таго, каго мы любім! Мы не ўмеем, мы не можам не верыць! Ах, гэтая святая наіўная вера...

— Але ж, пані Эліза, прыходзіць празрэнне, так? І даведваешся праўду. І бывае так цяжка, быццам жывою трапляеш у пекла! Зайздросціш нават дрэву. Нават каменю!

Ажэшка зірнула на Алаізу з адкрытым болем у вачах.

— Усё гэта добра знаёма мне. Пасмяяўшыся, можна было б сказаць — «клін клінам». Але ж гэта мізэрная слабасць альбо проста распуста, праўда?

— І ўсё ж?..

— І ўсё ж, — падхапіла Ажэшка і яшчэ вышай панесла гордую галаву, — і ўсё ж — здрада, хлусня, нікчэмнасць людзей... Напэўна, Алаіза, усё гэта нам таксама наканавана перажыць! Мы праходзім праз гэты чорны агонь, каб хоць крышачку стаць мацнейшымі!

— Але чаму, чаму тады мы зноў паўтараем старыя памылкі?! — Алаіза ціха, сумна засмяялася, дадала: — І ніякія гузакі нічому не вучаць!

— Ах, Алаіза, і ўсё ж, колькі я буду жыць, а жыць мне засталося не так і многа, але колькі я буду жыць — я ведаю, што буду — любіць! І зноў верыць. А хіба вы, скажыце, вы зможаце жыць, не верачы ў шчырасць каханага чалавека? Я — не магу. Хоць часта і прадчуваю канец.

— Але ж наша вера сляпая, пані Эліза.

— О, так! Сляпая. Таму так часта мы верым хлусні. І не ўмеем разгледзець нізасці і подласці там, дзе іншыя людзі іх адгадваюць адразу ж.

— А я яшчэ і апраўданне гэтай нізасці знайду.

— Так, Алаіза, мы гатовы назваць чорнае белым, гатовы падмануць саміх сябе толькі таму, што шкадуем сваё мілае каханне.

— І ўсё ж гэта эгаізм.

— Можа, і так, дзіця маё, толькі болю ў сэрцы ад гэтага не меней. І нішто: ні хваробы, ні бяссонныя ночы — нішто не падкарачае наша жыццё так моцна, як вось гэты боль і гэтая пакута — ведаць, што твой ка-

ханы чалавек зусім не той, якім ты яго ўяўляла яшчэ зусім нядаўна.

Яны павольна ішлі ўздоўж базыльянскай сцяны і гаварылі, не заўважаючы, як цямнее і яшчэ болей суровее нізкае неба. Прыпыніліся.

— Мне вельмі дапамагае праца, пані Эліза. Патанаю ў ёй [redacted] галавою. Ляцяць дні, ляціць жыццё. Але ж і ад працы робіцца лягчэй ненадоўга.

— Так, ненадоўга. Толькі сядзеш за стол — і яны — прыходзяць! — Ажэшка, відно, змеціла ў Алаізіных вачах здзіўленне. — Яны адразу ж прыходзяць, нашы інквізітары, неміласэрныя і непадкупныя: сумленне і расчараванне. — Поўныя, цёмныя яшчэ, але пашэрхлыя вусны Ажэшкі кранула крыўдлівая ўсмешка. Ці не ад цёмнага капялюшыка яе твар здаваўся бледным, нават нездаровым. У вачах біўся цёмны глыбокі сум. — Ах, гэтыя інквізітары, Алаіза... Да канца жыцця яны будуць весці нас на Галгофу. Бо хто, хто, скажыце мне, зможа калі-небудзь спаўна спасцігнуць ідэал? Ну, хоць бы ідэал маёй творчасці... Творчасць... Яна паўставала ўва мне найчасцей ад прадчування сардэчнага цяпла, без якога нават маленькая польная кветка не дае насення. І гэтае сардэчнае цяпло, Алаіза, яно мацней за сілу розуму, за ўсё...

— Я разумею. Той нябачны агонь. Ён успыхвае толькі з кахання. Гэта праўда. Але ж, пані Эліза. Гэта — агонь пякельны.

— І нават горш. Бо спальвае не траву, не сушняк, не зямлю, а — нас. Нашу душу, наша цела. Усё наша жыццё. — Ажэшка парывіста зняла пальчаткі, засунула іх у смушкавую муфтачку, што вісела перад грудзьмі на чорных шаўковых тасёмках. Замаўчала. Складкі прасторнай, падбітай футрам накідкі злёгку закалыхаліся ўнізе. Падбародак Ажэшкі напалову хаваўся ў высока паднятым каўнерыку, што дадавала поўнаму абліччу крыху маладжавасці і нават какетлівасці.

(«Аднак чаму яна такая бледная? Значыць, праўда, што ледзь выжыла пасля тых летніх сардэчных прыступаў».)

— А ведаеце, дзіця маё, ідэалы нашай творчасці — жывыя. Вы думалі пра гэта?

— Бо словы жывыя...

Ажэшка выпрасталася.

— Такая ідылія, калі паслухаць, праўда? Але ўсё маё жыццё, мілая Алаіза, складвалася з кантрастаў. З пустаты і важкасці, з падзення і ўзлётаў. А цяпер я такая адзінокая, што мне нават няма да каго прыйсці са сваім шчасцем. Бо гэта шчасце асаблівае, Алаіза! Шчасце завяршэння жыццёвага круга... Але ж верце, што творчасць — гэта цуд, большы за ўсе скарбы свету.

— І за любоў?

— За любоў... — глуха прашаптала Ажэшка, зноў шарганула далонямі ўверх па сцяне, задумалася, механічна паправіла рукою сівую пасмачку на лобе, забрала яе пад капялюшык.

— Я моцна веру... Тое, што ў нас, Алаіза, мысліць і кахае...

— І пакутуе...

— Так, і пакутуе. Яно мусіць мець сваё іншае жыццё, Алаіза. Але гэта ўжо за сценамі магілы. Мы не здольны адгадаць яго формы. Але яно працірaецца ад пачатку да канца часу... Сумная ў нас, аднак, гаворка, праўда? Бо я — такая старая...

Трэба было сказаць ёй нешта суцяшальнае...

Але Ажэшка раптам хрыпла ўздыхнула, рыўком расшпіліла гаплік смушкавага каўнерыка і тут жа ўстрывожана глянула ўверх на цёмны, разлíты па ўсім нізкім небе свінец.

— Так-так. Я даўно такая старая... Толькі ведаю, Алаіза, што люблю я, люблю я, — толькі на зямлі. І шкада, што гэта так. Мне шкада нават польных кветак, якія болей не буду збіраць. Я думаю пра нашы палеткі і пра лясныя паляны. І бачу на іх дробны дождж пралесак, якія некалі зрывала ў раскошы.

— А я болей люблю незабудкі.

— І я іх вельмі люблю, дзіця маё. Здаўна, з-за розных, няхай сабе і важных — то што з таго? — прычын мне нявольна было злавіць матыля шчасця. Хоць часам, — у вачах Ажэшкі ўспыхнулі жарынкі, — так-так, часам мой матыль сам сядаў на мае далоні, але я была змушана зганяць яго.

— І зганялі?

— А хіба вы так не робіце, Алаіза? Хіба ж не? — задаволена засмяялася, але тут жа ўздыхнула.

І раптам яны абедзве ўздрыгнулі — зусім блізка, і калі толькі падышла? — стаяла яшчэ маладая жабрачка ў замызганым, амаль без гузікаў, салдацкім шынялі. Праз увесь твар гаротніцы ішла чорная палоска вузкай абвязкі. Сіфілітычка цягнула да іх доўгую, худую, у шызых плямах руку і гнюсавіла штосьці без слоў. Алаіза таропка адчыніла сумачку, шарганула пальцамі па дне і ўспыхнула — грошай не было. Ажэшка, не чакаючы, выцягнула з муфтачкі скураныя пальчаткі і без вагання працягнула іх папрашайцы. Тая перажагналася, пастаяла, быццам раздумвала, ці прымаць шляхотны падарунак, але ўзяла і нехаця, павольна пашоргала прэч.

І тут жа Алаіза з прыкрасцю адчула пад пальцамі калючы халадок металу. Выняла медзякі з сумачкі і расшчапіла жменю, паказваючы іх Ажэшцы. Зноў кінула назад у сумачку. Абедзве, пераглянуўшыся, рассмяяліся.

Падзьмуў вецер, і жухлая трава з брукаванкі наліпла на прыгорнутую ветрам да нагі спадніцу. Здаецца, над самай галавою бомкнуў глухі звон. Ажэшка лёгенька кранула Алаізу за локаць, і яны пайшлі ўздоўж шурпатай шэрай сцяны да люднай папярочнай вулачкі. Вецер нямоцна падштурхоўваў у плечы. Наперадзе плыў натоўп. Клятчастыя і шэрыя накідкі, курткі, хусткі і кепі, модныя капелюшы з «анегінскімі» палямі, студэнцкія шапкі. Чуўся прыглушаны шоргат падэшваў. Зрэдку — перастук па брукаванцы колаў імклівых пралётак і брычак.

Данесліся стрэлы. Адзін, другі... Але глуха, здалёку. Людзі, здаецца, нічога не чулі. Толькі змяіліся скрозь натоўп сінія стужкі-ручайкі паліцэйскіх мундзіраў — «цюльпанаў». Пранеслася некалькі конных з ускінутымі ўверх і ў бакі шашкамі.

Натоўп цёк.

— Я гляджу на гэтыя Дантавы сцэны рэвалюцыі, дзіця маё, і думаю, як жа хутка гінуць і нішчацца «белыя двары». Гіне дух высакароднасці, шляхотнасці. Баль у чортавай кузні!

Алаіза адчула: нешта мяняецца ўнутры, у яе адчуваннях. Але што? І што таіла гэтае прадчуванне? Так, мянялася... Быццам яе ўнутраны зрок раптам сягнуў у святло Храма. І гэты Храм — душа незвычайнай жанчыны, якую лёс вядзе цяпер побач. Ажэшка таксама глядзела на Алаізу, нічога не пытаючы, глядзела сумна і строга, нібыта хацела разгледзець у ёй самае важнае. І гэты позірк, здаецца, пра нешта папярэджваў ці прадракаў... Сціснулася сэрца.

— А мы гінем, Алаіза. Гінем у такую рэдкую хвіліну, калі развязаліся рукі і калі мы маглі б пачаць справу і спраўдзіць вялікія намеры.

— А гінем, пані Эліза, бо не маем праўдзівых нашчадкаў. І калі не гэтая завіруха, то нас паглыне абязлюдзенне зямлі.

— Усё навокал парушылася і закіпела. Пратэсты, мемарыялы, дэлегацыі, маніфесты... І ўсё аб праве жыць! Дзіця маё, мы стаім перад явою ўзняцця вялікага народа з пракруставага ложа няволі!

— Вы пра рускіх?

Ажэшка прыспешыла хаду, пэўна, успомніла, што ўчора паабяцала Урублеўскаму не пазніцца («Шаноўная пані, я перад цяжкімі судовымі працэсамі люблю, як прыняць перад сном кроплю брому, адвесці душу і пагаварыць. Які працэс? Пэўна ж, чулі. Справа Малецкага... Ну, вядома, чулі!»).

Нанялі брычку, і, ужо сеўшы, прыцiснуўшыся да пляча Ажэшкі, Алаіза пачула, як ныюць ногі ў лёгкіх шнураваных боцiках.

— Гэта абудзіўся таямнічы скіф, Алаіза, і зазвінеў ланцугамі, і выпроствае плечы. Тулава, праўда, яшчэ ляжыць, бо надта моцна прымацавана да ложа вузламі, якія зашморгвалі і зацiскалі вякі!

— А мы?

Блізка празвінела доўгім званком конка.

— І мы таксама прыкутыя, дзіця маё. Прыкутыя да гэтага волата.

— Так! І ўсё праклятце ў тым, што мы — залежым, залежым ад кожнага руху гэтай магутнай істоты...

— Наша маленькая радзіма, як лятучая Псіхея, якую схапіў і зацiснуў у кулак Геркулес. Аднак жа ён многа сілы патраціў на японскія армады.

Алаіза маўчала. Ажэшка таксама не абзывалася, быццам слухала, слухала нават гэтае іхняе маўчанне пад часты стук колаў па бруканванцы.

— Кулак Геркулеса яшчэ не расшчапіўся, Алаіза, але пальцы дрогнулі.

— Толькі ці разамкнуцца яны і ці выпусцяць нас?

— А гэта ўжо таямніца. Бо ўсё, што дзеецца, было ўжо ў гісторыі. Наверсе — ваганні, слабасць, паўсродкі. А ўнізе — рака гвалту і жывёльны напор сілы. Рака ўзрывае лёд. Усе гэтыя змены міністраў, рэформы. Гэта цяпер толькі моманты!

— Але каб вырвацца наверх, пані Эліза, вырвацца без канвульсій, патрэбны геніяльны ўдар з вяршыні дрэва!

— І вы на гэта спадзяецеся? Мілая рамантычка. Зрэшты... Ёсць тры галоўныя дзеі народнага жыцця, — Ажэшка задумалася і, здавалася, ужо забыла, пра што хацела сказаць. Але не, глянула на гладкае, адпрасаванае ветрам да цёмна-серыбрыстага бляску неба, уздыхнула: — Гэтыя тры дзеі, Алаіза, — вера, мова і праца. Але ж — не з прымусу! А з волі людской.

Брычка спынілася.

Яны стаялі цяпер перад самымі дзвярамі дома Урублеўскага.

— Толькі ж крый Божа, калі гэтыя народныя жаданні будуць згвалчаны.

* * *

Урублеўскі, сустрэўшы іх, ажно пасвятлеў. Распрануліся і ўслед за ім прайшлі праз вялікую залу, завешаную мноствам вялікіх і маленькіх карцін. Урублеўскі адчыніў перад сабою яшчэ адны вузкія зашклёныя дзверы. Прапусціў іх наперад, у невялікі пакой з высокаю столлю, абклееных цёмнымі шпалерамі. Гэта быў, напэўна, кабінет. Калі спыніліся, Урублеўскі павярнуўся да іх тварам, правёў пальцам па сівой пасмачцы ў барадзе, высокі, крыху сутулаваты, хударлявы. Пільна зірнуў на Алаізу, падміргнуў, нібыта падзякаваў за прыход.

Ужо седзячы ў вялікім скураным крэсле каля сцяны, Ажэшка засмяялася, і не зразумець было, ці гэтак

запознена павіталася з гаспадаром, ці запрасіла на бяседу. Урублеўскі сапраўды памкнуўся быў нешта сказаць, але перадумаў. Спачатку сеў за шырокі, чорнага дрэва стол, завалены складзенымі ў пірамíды папкамі. За спінаю яго высіліся стэлажы, таксама чорныя, заcтаўленыя кнігамі і мноствам папак. Нават белыя аксамітавыя шторы на вокнах не весялілі, не прарэджвалі таго дзіўнага, амаль аскетычнага духу, што панаваў у гэтым строгім адвакацкім кутку. Урублеўскі імкліва выхапіў з глінянай вазачкі на стале аловак, пакруціў яго ў пальцах, нібыта ўпершыню ўбачыў, але кінуў на стол. Падняўся, павольна пайшоў да акна ў сцяне насупраць Ажэшкі, стаў да шыбак спінаю. Скрыжаваў на грудзях рукі. Быў у акуратнай цёмна-шэрай тройцы, строгі, як у «присутствии». Відно, не ведаў, з чаго пачаць. Алаіза стаяла каля кафлянкі, задаволена слухала, як прыемнае цяпло ўліваецца ў цела.

— Учора, шаноўныя пані, — Урублеўскі схіліў галаву перад Ажэшкаю, і тая ўстрапянулася, як вяртаючыся з хвілін глыбокага адпачынку, усё ж, відно, перамёрзла, але праз імгненне ўжо наструнілася, пастукала пальцамі па круглых падлакотніках. — Учора вы запыталі пра Малецкага... Люстра нашай геены вогненнай...

— Ну-ну, пан адвакат, выцягвайце з кішэнькі штонебудзь такое... Наша высакароднае грамадства абляпіла гэтае злачынства такімі неймавернымі плёткамі, што змушаюць мяне сумнявацца, а ці людзі яны, вашы «браты-апосталы»?! Ці з крыві яны і мяса?

— З крыві, пані! — Урублеўскі змяніўся імгненна, пашарэў, у яго калючых невялікіх вачах блíснула непрыхаваная агіда. І раптам прызнаўся: — Ах, як я рады бачыць вас у сябе, пані Эліза! — Скасіўся на Алаізу. — Вы ж разумееце, што і вас таксама, але ж мы тут свае, віленчукі.

Ажэшка задаволена засмяялася. («Аднак нават какецтва ёй да твару...»)

— Не, пан адвакат, з намі не хітруйце. Раззлуюся!

— Ну, добра. У гэтай справе, шаноўная пані Эліза, значна прасцей з Даўкшам. Для гэтага рабочага вышэй за ўсё была яго партыйная дысцыпліна. Мне скажуць, які жорсткі і грубы гэты чалавек! Даўкша цягае па

кватэры за вяровачную пятлю толькі што задушанага ім чалавека, ён раз'язджае з гэтым трупам па горадзе, з вакзала на вакзал. Потым хавае яго ў падвале Нова-Вілейскай псіхіятрычкі.

Алаіза міжволі сціснулася: значыць, тая багажная кашолка... Гэта — Ромакава? Урублеўскі, вядома ж, змеціў яе стан, але толькі апусціў вочы і працягваў:

— Так, мілыя пані, гэта грубая работа. Але хіба рабочы, пакрыты потам і фабрычнаю сажаю, які б'е малатком па жалезе, толькі з-за гэтага аднаго грубейшы за свайго элегантнага ўпраўляючага? — Урублеўскі разважліва правёў вялікім пальцам па серабрыстай пасмачцы ў барадзе, перадыхнуў. — Я думаю над гэтым злачынствам болей, чым над іншымі, — і асабліва ж іх паказаў рукою на піраміды папак на стале, — і асабліва пра псіхалогію сваіх падапечных, пра тое, што ж яны ўкладваюць у само паняцце рэвалюцыйнасці. Поўная рабская пакора ідэі і партыйнай справе?!

— Значыць, па-вашаму, яны патрыёты сваёй справы? — не вытрымала Алаіза.

— Хутчэй фанатыкі.

— І ўсё ж згадзіцеся, — умяшалася Ажэшка, — яны слугі! Болей таго — рабы ўласнага фанатызму. Бо не разумеюць, што твораць. А калі разумеюць, то я не хачу...

Урублеўскі цяпер пазіраў у акно насупраць, над самаю галавою Ажэшкі, і Алаізе здалося, што ён узіраецца зусім не ў тое, што за акном, а можа быць, у мінулае ці будучае, і бачыць тыя нямыя цені, якія таксама прысутнічалі ў гэтым кабінеце, цені сотняў ахвяр, асуджаных на смерць ці на маруднае пякельнае гібенне ў рудніках. Нарэшце загаварыў:

— Над усёю гэтай гісторыяй расхінаюцца два крылы. Гэта крылы блізкай рэвалюцыі. І не толькі самой рэвалюцыі, але таго, што яна прынясе, чым будзе моцнаю і чым — слабою, чым пагражае нашай маралі. Бо абодва забойцы растапталі дзве галоўныя хрысціянскія запаведзі: «не забі» і «палюбі бліжняга»...

— Але ў імя чаго яны так зрабілі, пан Урублеўскі, скажыце мне, — Ажэшка не адрывала позірку ад па-

сумнелага твару Урублеўскага, лёгенька пахітала галавою.

— Аказваецца, у імя вялікай рэвалюцыйнай ідэі, пані Эліза, ідэі, як яны кажуць, «народнай». Вось яны, крылы нашага будучага. Адно — гэта крылы інтэлігентнага Малецкага, таленавітага і гатовага пайсці за народ на Галгофу. Тут жа — і Вінклер, які тэарэтычна абгрунтаваў прычыну і магчымасць братазабойства. І другое крыло, пані, — сентыментальны рабочы Сцяпан Даўкша, асеплены прыгожай гаварыльняй пра вечную волю і высокую місію рэвалюцыянера. І вось рабочы бярэ ў рукі, дарэчы, па загаду таго ж Вінклера, бярэ свой важкі молат, каб апусціць яго на галаву бязвіннага чалавека.

— І ўсё ж, — Алаіза хацела запытаць, што ж яшчэ ён ведае пра тое, як усё-такі знайшлі труп у падвале, але зразумела, што пытаць не трэба.

— Вы хочаце ведаць, пані, чаму я ўзяўся за гэтую справу? — Урублеўскі перавёў позірк ■ Алаізы на Ажэшку, і тая кіўнула галавою. — Прычына адна. Важнейшая, прынамсі, за іншыя. І прычына тая, што бацька Рамуальда Малецкага, Юзік, быў маім сябрам, хоць сустракаліся мы рэдка. Але гэта мой сябра ■ маладосці. І я ніколі не хаваў гэтага свайго сяброўства.

— Кажаце, Юзік Малецкі? Але ж я... — Ажэшка пачырванела, — я, здаецца, таксама яго ведала. Толькі не ўспомню цяпер. Нешта блытаецца ў думках... Помню толькі, што чула гэтае імя, праўда, яшчэ вельмі даўно, у маладосці... Так, так, быў у нас Малецкі! Быў!

— Юзік? А можа, Дамінік? — Урублеўскі здзіўлена ступіў крок наперад.

— Не, Юзік. Быў у суседнім атрадзе. Пра Дамініка, прызнаюся, я таксама ўспомніла. Але ж Юзіка, здаецца, нават бачыла.

— Дзіўна, ён пра вас мне ніколі не гаварыў.

— Забыў.

— Забыў?! Пра вас? О, не! Дай Бог нам усім такую памяць на старасці гадоў. Ды ён раскладваў усё сваё жыццё не тое што па гадах, але нават па месяцах, а часам нават па днях. Не забыў! Зрэшты, ён увогуле мала расказваў мне пра тую пару.

— Вы хочаце запытаць, хто ж такі Юзік Малецкі? — Урублеўскі глядзеў цяпер толькі на Алаізу. Ажэшка нібыта адасобілася і аддалілася ад іх, паглыбілася ў сваё даўняе, парушанае ўспамінамі, маладое мінулае. Сядзела ў вялізным скураным крэсле, стомлена апусціўшы плечы. Цяпер і сапраўды вельмі старая і хворая жанчына.

Урублеўскі сумнавата ўсміхнуўся:

— Калі ў старым лесе падымаецца навальніца, ураган зрывае і разносіць у розныя бакі не толькі сухія, але і здаровыя галіны і лісцікі. Такім лістком, адарваным у тым грозным шэсцьдзесят трэцім годзе ад айчыннага краю, і быў Юзік Малецкі. — Урублеўскі ўздыхнуў, пацёр далонямі высокі лоб. — А калі пасля Якуціі ён вярнуўся дадому, то, скажу вам, гэта быў ужо іншы чалавек, далёкі ад арлінага палёту «з Богам для Айчыны...». Але ж нешта захавалася ў ім такое, што заўсёды збліжала нас!

Ажэшка, здаецца, і не чула яго, аднак Алаіза заменіла, што прыплюшчаныя павекі яе ўздрыгвалі. Значыць, слухае.

— Надломлены стары чалавек, Юзік Малецкі моцна прыціскаўся да зямлі, думаючы толькі пра тое, каб новы ўраган зноў не ўдарыў па яго сям'і. Баяўся, але гадаваў у дзецях веру і прывязанасць да каранёў...

— І што ж сын?! — Голас Ажэшкі быў хрыплаваты ад хвалявання. Урублеўскі, відно, гэта адчуў і прамаўчаў, але яна нецярпліва стукнула далонню па скураным падлакотніку.

— А сын, бачыце, — Алаіза пачала так упэўнена і рашуча, што Ажэшка зірнула на яе з цікавасцю. — А сын заўсёды стаяў на тым, што для актыўнай барацьбы за ідэю патрэбны звышмоцныя людзі. Каменныя!

— Так-так, — асцярожна згадзіўся Урублеўскі. — Не ведаю, адкуль вы, але... Гэта якраз тая жалезная клетка, у якой білася душа маладога чалавека. Цяпер малодшы з Малецкіх прагне кары. Падобна індыйскаму факіру, ён хоча нават атрымаць асалоду ад пакут, хоць і без надзеі на збаўленне ад віны.

— Ды пашле яму Бог мужнасць!

— Я буду прасіць у суддзяў аднаго. Зусім не апраўдання і не паблажлівасці. Адвакаты — вялікія рэалісты. Але скажу на судзе: «Адрыньце, адкіньце ў гэтай справе прымітыўную мэту забойства. Палітычная аснова відавочная! І калі вы прызнаеце гэта, вы споўніце абавязак сумлення і справядлівасці. Ні на грам не змяншайце ўвесь цяжар пакарання. Але збаўце ад незаслужанай пакуты і сораму ні ў чым не вінаватую, паважаную сям'ю Малецкіх. — Урублеўскі апусціў галаву і ледзь чутна прашаптаў: — «І пасячэ меч ільвянятаў тваіх!»

— Бедны наш народ! — Алаіза, гледзячы на Ажэшку, выдыхнула гэта нечакана для самой сябе, але Ажэшка адразу ж падхапіла:

— Будучыня наша можа быць велічнай!

Урублеўскі, здавалася, не згаджаўся:

— Але гэта калі яе, будучыню, будзе тварыць вялікая палітыка, шаноўная пані.

— Так, вялікая і міласэрная, але не палітыка Макіявелаў і Неронаў, а толькі ісціна Хрыста, Бога нашага. Ах, як нам патрэбна цяпер любоў да Бога, паслушэнства Боскім законам.

— Бо гэта законы чалавечай маралі, — пачала Алаіза, — для таго, хто ўмее мысліць, і бачыць, і любіць, сучасны свет здаецца вар'яцкім домам, а ўсё, што робіцца цяпер, — хворымі канвульсіямі.

— Гэта праўда, дзіця маё. Разумею. І ўсё ж хачу абнадзеіць вас, як і самую сябе, хоць і разумею гэты няпэўны момант. Мы назіраем завяршэнне вялікага гістарычнага вітка. Але ці варта нам глядзець на свет толькі праз закратаваныя вокны?..

Урублеўскі мякка дакрануўся пальцам да сівой пасмачкі ў барадзе.

І раптам у дзверы гучна пастукалі, і ў пакой адразу ж зайшла немаладая жанчына ў доўгім вясковым капоце, з вялікаю тонкаю хусткаю на плячах. Жанчына штурхала перад сабою столік на калёсіках. На падносе — вялікі парцалянавы чайнік, драбковы цукар у блакітнай, тонкага шкла, цукарніцы. Паставіўшы столік перад Ажэшкаю, жанчына выйшла. Урублеўскі глянуў спачатку на Алаізу, як запытаў, ці хоча гарбаты, потым — на Ажэшку.

— Прабачце ўжо нам, пан Урублеўскі, можа, пазней.

Алаіза глянула на Ажэшку, змеціла, як лёгка дрогнулі ва ўсмешцы яе поўныя вусны, загаварыла:

— І штодня кола жыццёвай машыны спыняецца. Сёння фабрыка, чыгунка, а затым тэлеграф, банк... І ўсё ж згадзіцеся — гэты рабочы рух спакойны і памяркоўны, а ў патрабаваннях столькі чалавечай годнасці!

— Няшчасце ў тым, маё дзіця, што пад самым сподам точыцца зусім іншая, балотная жыжка самага апошняга пласту — і гэта найцямнейшыя жывёліны! Звер заразны і заразаносны. Цэрберы ўлады ўзялі іх у рукі, як дубінку, каб драбіць іншыя слаі.

— Між іншым, і рабочых таксама, што я ў сваёй адвакацкай практыцы назіраю вельмі ж часта. Калі рабочыя змагаюцца з голадам беспрацоўя, на горад падаюць орды панажоўшчыкаў, злодзеяў. Учора рабочыя павесілі на ліхтарах трох пагромшчыкаў. Але нікога гэта не спыняе!

— Такія цынічныя танцы пад вайсковы духавы аркестр. Нешта плача ў маёй галаве, рассякае маё сэрца.

Алаіза змеціла цёмны бляск у шырока расплюшчаных вачах Ажэшкі, заспяшалася:

— Знаеце, нядаўна адзін з маіх знаёмых сказаў, што рэвалюцыя прывядзе да новага ладу. І ён будзе называцца не іначай як сацыялізм. Па назве ідэі.

— Ці важна, як ён будзе называцца, Алаіза, але баюся, што я ўжо да гэтага не дажыву. Толькі ж няўжо вы думаеце, што нешта зменіцца?! Хіба ад таго, як той новы лад ахрысцяць, ён сапраўды стане дзіцем Боскай дасканаласці? О-о-о... Не цешце сябе такімі надзеямі. Чалавечую натуру змяніць не так проста. І ў тым новым грамадстве, Алаіза, таксама з'явіцца той, хто захоча змяніць жыццё. І зноў, зноў пачнуцца родавыя схваткі. Але ці зразумеюць яны, ці будуць разумець тыя новыя людзі ўсю дыялектыку? — Ажэшка раптам рэзка павярнулася да Урублеўскага, які моўчкі сядзеў за сталом. — Дарэчы, пан Урублеўскі, што яму пагражае? Сыну Юзіка Малецкага.

Урублеўскі, відно, не чакаў такога пытання, нервова правёў пальцамі па барадзе, ціха адказаў:

— У нас кажуць: «Хто адно толькі справядлівы — той жорсткі». Судовы вердыкт... Цяжка прадказаць.

— Мне трэба яго ўбачыць, пан Урублеўскі.

Урублеўскі, як ні дзіўна, адразу ж яе зразумеў. Зразумела і Алаіза: Ажэшка хацела ўбачыць Ромака Малецкага.

— Але ж гэта амаль немагчыма, паверце мне.

— Кажаце, амаль. Значыць, нейкая зачэпка ўсё ж знойдзецца? Мне трэба ўбачыць Юзікавага сына, пан Урублеўскі, я вас прашу.

— Паверце, гм... я пастараюся, але, пані Эліза... Добра, я паспрабую. Толькі — з адной умоваю.

Ажэшка ажно паднялася з крэсла.

— Так-так, з умоваю! Калі мы цяпер пойдзем, — Урублеўскі паказаў рукою на дзверы, — і разам паабедаем!

Засмяяліся.

— Не ведаю, як Алаіза, але ў мяне такое адчуванне, што я паўдня малаціла на таку жыта.

Задаволены, Урублеўскі стаяў каля дзвярэй.

* * *

Ужо каторы дзень Рамуальда няшчадна паліла і гняло бяссонне і даводзіла амаль да вар'яцтва. Аблізваў патрэсканыя вусны, і яны тут жа зліпаліся. Нават балелі. Зазіраў турэмшчык, нічога не кажучы, ставіў на стол медную конаўку з вадою. Ромак не падымаўся з тапчана, нават не меў сілы выпрастаць знямелую спіну.

Зноў рэзка павярнулі ключом у замку. Той жа стары турэмшчык паставіў на стол медны падсвечнік з высокаю, белаю, як костка, свечкаю, сам яе запаліў. Пацягнула едка-саладкаватым васковым дымком. Як на пахаванні. Турэмшчык кашлянуў, ужо ў калідоры, і Ромак падняў галаву, здзівіўся, што дзверы ўсё яшчэ адчынены.

— Ладна, — турэмшчык уздыхнуў і строга глянуў на Ромака, — не балуй у мяне, — і адразу ж затупаў далей. І тут Ромак убачыў. У камеру спачатку ўвайшоў

Урублеўскі, за ім — незнаёмая высокая немаладая жанчына. Ромак пачуў, як моцны штуршок знутры грудзей схапіў болем увесь левы бок. Кіўнуў галавою на прывітанне. Хто яна, гэтая жанчына? І навошта тут?

— Вось ён, наш сацыяліст, пані Ажэшка. Але, прабачце, я выйду. Толькі... Прашу вас, як дамовіліся... Добра? — Урублеўскі тут жа заспяшаўся да выхаду, і жанчына павярнула галаву на рэзкае рыпенне дзвярэй. Зачыніліся.

Глянула на Ромака бліскучымі павільгатнелымі вачамі. Ромак падхапіўся з тапчана, быццам толькі цяпер зразумеў, хто перад ім. Падсунуў да госці свой невысокі ўслончык. Але яна стаяла — у серабрыстай высокай кароне сівых валасоў, замацаваных уверсе белаю бліскучаю заколкаю. У доўгай аксамітавай сукенцы з чорнымі карункамі па стаячым каўнерыку.

Стаяла пасярод камеры, склаўшы рукі на грудзях. Запытала глухім, крыху вялым голасам:

— Вы сын Юзіка Малецкага?

Адчуў, што чырванее, кіўнуў. Нарэшце канча паверыў, што ўсё гэта — рэальнасць, сапраўды не сон і не трызненне.

— Сацыяліст?

Зноў кіўнуў:

— Сацыяліст! І перакананы, што... Цвёрда веру...

— Што ж, Рамуальд. Векавыя карані чалавечага духу, закладзеныя ў гэтай ідэі, прыцягнулі да сябе мноства высакародных, хаця, праўда, і не заўсёды мудрых людзей. Але ўсіх тых, хто мысліць, думае, хто крытыкуе язвы нашага грамадства і шукае сродкі яго замены. Яны крычаць вуснамі болю.

Ромак міжволі правёў гарачым языком па сваіх спаленых пашэрхлых вуснах. Падняў дрыжачаю рукою конаўку. Таропка, прагна хапаючы ваду, выпіў яе да дна.

Гэта ўсё ж сон... сон... Але яна так спакойна гаворыць, быццам працягвае яшчэ раней пачатую з ім гаворку. І ўсё ж не можа быць... Толькі чаму ён зусім не баіцца яе, гэтай сівой жанчыны, хоць яна стаіць поблізу ў рэдкім жоўтым святле. І ўсё падступаецца да яго, як прывід. Сон... І гаворыць.

— У мяне так мала часу, Рамуальд! Але ж я мушу запытаць у вас... Бо я не разумею, не разумею вашай тактыкі, і я супраць вашых заклікаў і лозунгаў. Чуеце?

— Чую, — Ромак ледзь растуліў вусны. — Чую. Але ж яны, нашы заклікі, пра будучую людскую роўнасць.

— Тады чаму, скажыце чаму... («Зараз яна запытае пра Мартына!») Чаму самым першым лозунгам вашай рэвалюцыі, вашай сацыялістычнай прапаганды стала — сытасць?! І чаму — нянавісць да іншых, чаму прага іхняй смерці, смерці тых жа сытых, якімі самі ж хочаце стаць? Чаму непрыняццё ідэалаў і сродкаў, якія павялі б людзей да патрэб духу, а не цела? Які ўжо там дух, няма ў вас духоўнага. А толькі... толькі сытасць! Яна паглынула і захапіла ўсю вашу прапаганду. Вусную, пісьмовую, усялякую... Я не чую заклікаў: «Будзь справядлівы!», «Будзь міласэрны!», «Будзь літасцівы!» Але паўсюль я чую толькі адно: «Будзь сыты, сыты, сыты!» О, я зусім не пра тое патрабаванне хлеба для людзей... Зусім не пра тое я. Гіне паэзія, нішчацца прадметы найчуллейшых замілаванняў. Плывуць рэкі крыві... («Мартынавай!») З цемры гэтых пажадлівых намераў, Рамуальд, вылуне новая будучыня, але ўжо не мая. («І не мая».) Ніколі яшчэ наша маленькая радзіма не была так блізка да дна прорвы! Баюся... Бо ў сваім племені так мала бачу я здольнасцяў да жыцця. І так многа паказвае на тое, што мы сталі марнымі ахвярнікамі ў святыні Бога. — У яе вачах блішчалі слёзы. І яны пераварочвалі ўсю душу.

Але яму, Ромаку, так хацелася, каб яна ўсё роўна гаварыла.

— І там, дзе нам чуліся нябесныя галасы, часта разлягалася толькі выццё гіен і мышыны піск.

Ромак растуліў вусны:

— Вы пра нас? А ці гэта народ, які бароніць толькі сваё існаванне? Я не ўбачыў яго мудрасці, я не ўбачыў у ім любові.

Ажэшка замерла. Слухала.

— Дзе, скажыце, пані, мудрасць і любоў? Дзе яны? Я не бачыў. А чысціня жаданняў? Дзе ўзлёты і крылы, якія прабіваюць хмары? Дзе яны? Я думаў, што ўсё

гэта ў свеце ёсць. Хоць ён і замкнёны на тысячы турэмных замкоў.

— Мы ўсе верылі, Рамуальд. Цяпер вароты расчынены, можна дасягнуць усяго. А высокіх парыванняў няма. Можа, згінулі, разлажыліся на атруту ў цемнаце і вільгаці турмаў? Я прыйшла да вас, бо яшчэ не зусім зняверылася. Толькі баюся я, што той, хто падхапіў паходню...

Ромак ледзь праглынуў даўкі камяк у прагорклым горле, амаль прымушаючы сябе дыхаць.

— Усё, па чым я сумую, Рамуальд, пра што казала, — усё гэта ведалі вялікія вешчуны рамантызму. Ведалі гэта і мы з тваім бацькам у далёкай маладосці. Усё тое, чаго дабіваліся невядомыя і вядомыя стаpацьбіты за народнае шчасце і волю на вяршыні стагоддзя! Але цяпер дух народа купаецца ў атруце нянавісці і збродні, хоць многія і называюць гэта гераізмам. Але баюся, баюся я, каб з гэтай купелі на выйшаў ён, наш народ, здрабнелым і глухім да дабра.

І раптам нечакана лагодным голасам:

— Вы ўспамінаеце пра бацьку, Рамуальд?

— Тут — часта.

— Успамінайце пра яго яшчэ часцей, Рамуальд. Бо тады, у пякучую і горкую хвіліну шэсцьдзесят трэцяга, у хвіліну таго паўстання мы ішлі з любоўю... — яна плакала, — не дзеля жалеза і сілы золата, не дзеля пыхі і раскошы. І не дзеля таго, каб на ўвесь свет крыкнуць: «Я! Я! Я!» у той час, калі іншыя галеюць і гібеюць.

Ажэшка стаяла зусім блізка, павольна падняла руку і раптам пагладзіла яго па галаве сваёй гарачай, як запаленай знутры, даланёю. І тут жа адняла яе.

— О, гэта была іншая, невядомая сёння любоў! Яе вочы глядзяць на родную зямлю, як на мілае аблічча маці. Яе вочы замілавана ўзіраюцца ў неба, на дзве вялікія зоркі, якія маюць імёны: Справядлівасць і Свабода! Яе мудры позірк папярэджвае, што без святла гэтых зорак зямля будзе цёмнай, а народ — няшчасны! У людзей, з якімі я была ў шэсцьдзесят трэцім, у тых людзей, Рамуальд, вочы свяціліся вось гэткай любоўю, і таму яны былі сарцавінай айчыннага дрэва. Таму, можа, і згарэлі на ахвярным шчыце. Глорыя віктіс!

Слава пераможаным! Яны гінулі, калі на бязмежных абшарах ніхто не называў іхнія імёны з любасцю. Не ўмеў і не хацеў!

— Значыць, усё ж — Глорыя вікцібус! Слава пераможцам!

— О не, Рамуальд! Слава — пераможаным! І таму, хто аспрэчвае існаванне ў сваім народзе той любові і прагу справядлівасці, я крыкну, нават з-за цяжкіх сцен і кратаў, я крыкну: «Не хлусі!» — Яна плакала, хоць слёз зусім не было. Але яна — плакала. Гэта Ромак ведаў. Але чаму, чаму гэтыя патаемныя яе слёзы прыносілі яму збаўленне і веру? — Я скажу: «Не хлусі!» Бо яны, сотні змагароў, прынялі гэтую любоў разам з крывёю папярэднікаў. І разам са сваёй аддалі і яшчэ будуць аддаваць нашчадкам!

— Але не такім, як я!

— ...бо заўсёды былі і будуць у народзе жрацы тых зорак. Чуеце, Рамуальд? Дай жа вам Бог цярпення. І хай не пакіне вас Боская літасць.

Рыпнулі і тут жа важка грукнулі за яе спінаю жалезныя дзверы.

І ўсё ж... Ці была яна тут, тая жанчына? Сон. Зноў сон... Рамуальд стаяў на каленях, адчуваючы, як з душы выцякае нешта цёмнае і бруднае, сочыцца праз каменную падлогу некуды глыбока ўніз і рыне ў прорву.

Ён павінен выжыць! Калені здранцвелі, і Ромак ужо не мог падняцца. Здаецца, ён ужо нават плакаў, але слёз не адчуваў.

— Бацька... Ты чуеш, бацька? Прабач мне... Прабач мне, бацька...

## ДАНЯСЕННЕ АЛЬФА
## РОТМІСТРУ ГЕНІСАРЭЦКАМУ

*Ашмяны. 21.X*

«Сім даношу аб з'яўленні вядомага Вашаму правасхадзіцельству Вітольда Чыжа пасля лячэння ў Антонішках параненай (?) нагі і сустрэчы з былым адвакатам Аляксандрам Барановічам. Правялі сумесна актыўныя агітацыйныя мітынгі. Вітольд Чыж быў арыштаваны, але пасля заключэння ў ашмянскую турму, праз тры дні вызвалены групай

узброенай моладзі. Таго ж дня перахоплены ліст з Антанішак, высланы напярэдадні нападу на турму. Ліст быў напісаны на польскай мове. Прыкладаю пераклад. «Вітак мой дарагі, нават не ўяўляеш, як мне смутна без цябе. Выццам з тваім ад'ездам свет стаў пустым і абыякавым. Олек ні словам мне табою не папракае, толькі палітыкуе. Але ўсе і ўсё разумеюць і, як хто можа, тое пра нас і гавораць. Божа, за што мне такая кара? Усе шэпчуцца па завуголлях, не называючы нашых іменаў і нашы сем'і.

Вітусь, кахай мяне, бо ў гэтым — цэлае маё жыццё! Што робіш ты ў гэтую хвіліну? І дзе знаходзішся? — нічога ж не ведаю. Цалую цябе многа разоў і штодня. Вітусь! Што азначае тваё маўчанне? Няўжо ты гневаешся на мяне? А можа, так заняты сваімі справамі, што не маеш часу і падумаць пра нейкую бабу, якая так мала можа цікавіць людзей...

Аднак пашкадуеш з часам аб гэтым. Хіба не мучае цябе сумленне? Пераношу людское цкаванне! Ах, ты не ведаеш, як мяне крыўдзяць... Усё навалілася адразу... Як толькі зможаш, прашу, вяртайся дахаты. Цяпер адчуваю, што сілы пакідаюць мяне штодня. Усе крычаць, каб я лячылася, але гэта я лічу лішняю раскошаю. Нават Олек апошнім часам палагоднеў, так як бачыць, што ўжо няма чаго грызці. Не сярдуй, што паслала табе такі сумны ліст. Каб ты ведаў, што я тут пра цябе чула, то адразу ж прыляцеў бы. І яшчэ кажуць пра нейкага Барановіча і нейкую паню Алаізу! Але ж памятай, што ніхто цябе так не любіць, як я. Хутка буду прымаць опій, бо ўжо два тыдні не магу спаць ноччу. Калі будзе магчымасць — прышлі мне яго. А яшчэ прышлі фотаздымак. Цалую цябе сардэчна.

Заўсёды твая Маня».

Да ліста быў прыкладзены спіс выдаткаў Вітольда Чыжа з паметкай Альфа (знойдзена сярод папер, пісаных у Антанішках):

«Гігіена жанчыны доктара Хайніцкага» — 2 руб. Даўгі: Олеку — 3 руб., шаўцу — 25 кап., Хінку — 1 руб. 51 кап., Горыду — 50 кап.

Мані за каханне — вернасць да гроба.

*P. S.* Паведамляю дадаткова. Смерць Марыі Чыж ад хуткацечных сухотаў наступіла раніцаю 20.X у Антанішках.

Сувязь з успомненай у лісце Алаізай (П.) высняецца.

*Альф».*



# РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

## 1

Была пустая і халодная шарая раніца. Старожка ляпілася адным бокам да слупа цвінтарнай агароджы — недалёка ад белай гонкай царквы святой Еўфрасінні Полацкай. Пры кожным парыве пругкага ветру агароджа нудна рыпела.

Стары з вузкім пергаментным абліччам і з сівымі, амаль да самых плячэй валасамі, у шэрай хламідзе, сядзеў на тапчане, закрыўшыся па пояс дзяружкаю і кажухом. Слухаў вецер.

Тонкія пальцы холаду з-пад вышчарбленых знізу дзвярэй цягнуліся па таку да тапчана. Стары зябка скалануўся. Лёг, пацягнуў на сябе дзяружку, прыкрыў ёю худыя грудзі. Пакінуты яму п'янымі далакопамі кажух і сапраўды ратаваў ад холаду, але быў такі закарэлы і паношаны, што нарэшце ўся старожка набралася прытарна-даўкага духу. Старога багамаза нудзіла. У куце каля самых дзвярэй бліпчэлі заступы далакопавых рыдлёвак, на таку скруцілася вяроўка, паверх яе ляжала некалькі сухіх пэндзляў.

...Багамаз выкашляў сваё жыццё з фарбамі і з крывёю, спасцігаючы цярпенне і веру святых. Калі ж застаўся самы цяжкі, апошні шлях, ён раптам зразумеў, убачыў уласны канец. Вось конь белы і на ім вершнік, імя якому «смерць», так блізка, што чуецца

глухое цоканне капытоў па цвінтарных плітах. А яны яго — пакінулі. Яго, які столькі трызніў іхнімі пакутамі, гарбеў і разам з фарбамі плавіў душу, дзеля іх, на габляваныя і цынкавыя дошкі.

Ужо нікога не засталося. І нічога не чуваць навокал апроч трывожнага шуму высокіх і моцных надмагільных соснаў на гэтай Касабуцкай гары, дзе ён цяпер ляжыць у старожцы на цвёрдым тапчане.

Заступы пастаўленых радком рыдлёвак блішчэлі ў цёмным кутку, як шырокія зубныя пратэзы. Да скручанай вяроўкі і пэндзляў прыліпла бруднае восеньскае лісце. Багамаз убачыў у паўзмроку яго жаўтаватыя плямы.

Вецер парывіста шоргаў па дашчанай страсе сухімі галінамі, стукаў у маленькае акно. Урэшце адарваўся ад старожкі і паляцеў вышай, у кашлатыя сасновыя лапы. Затузаў іх, кінуў у шыбку жменю ігліцы і сухой кары.

Багамаз тарганууся ўсім сваім вялікім кашчавым целам, ажно кажух упаў на ток, затуліў вушы далонямі. Але гэта не дапамагло. Адтуль, з самых густых і расшатраных сасновых вяршалін, далятаді і кранаді яго збалелыя нервы глухое мармытанне, ціўканне, каўканне нечых душ, якія зачапіліся за густое голле і ніяк не маглі вырвацца ў сваё далёкае свінцовае неба. Але праз дзіўныя гукі і праз трывожнае гудзенне ветру багамаза і сёння зноў паклікалі. Тонкім, амаль дзіцячым галаском. Паклікалі выразна: «Гразноў... Гразно-оў... Гразно-о-о-оў...»

Рукі ў Гразнова ліхаманкава трэсліся, ён нацягнуў дзяружку да самага падбародка, застыў. На імгненне здалося, што ён чуе дзіцячы піск за дзвярыма, што на двары нават шэпчуцца, але не здзівіўся гэтай новай праяве сваёй хваробы.

І раптам у дзверы сапраўды пастукалі. Спачатку нясмела, а потым нецярпліва, настойліва.

Гразноў не варухнуўся, як не верачы. Дзверы ў старожцы заўсёды адамкнёныя, айцец Сергій і дзяк ведаюць пра гэта і ўваходзяць без стуку.

...Менавіта сёння, семнаццатага верасня, вядомаму віленскаму багамазу, а цяпер цвінтарнаму вартаўніку Васілю Гразнову нікога з чужых не хацелася бачыць. Ён моўчкі выпрастаўся на сваім вузкім тапчане і замёр. За дзвярыма даволі гучна перашэптваліся.

Гразнову здалося, што ён зноў пачуў дзіцячы плач, але адмахнуўся ад наслання, — хто пацягне цяпер, амаль сярэднячы, немаўля, ды яшчэ на магілкі?!

Дзякуй Богу, болей не стукалі, і Гразноў пачуў глухія крокі. Няэваныя госці адыходзілі.

Нехта, аднак, зноў вярнуўся назад. Гразноў сціснуўся на сваім тапчане, затаіўся. Дзверы таямніча зарыпелі, наводзячы на Гразнова ліпучы жах, прапусцілі ў старожку крыху ахрыплае частае дыханне і пакашліванне, але хутка гучна зачыніліся.

Ах-х... Якая яна жорсткая, гэтая зорка мастакоўскай славы, што спакуслівa ўспыхнула перад ім пятнаццаць гадоў назад. Менавіта тады па ініцыятыве былога віленскага губернатара барона Грэвеніца ў правым куце кафедральнага сабора святога Мікалая ўстанавілі вялікі абраз — на цынкавай дошцы, у прыгожым кіёце, з тоўстым люстраным шклом. Абраз быў намаляваны Васілём Гразновым з нагоды цудоўнага выратавання царскай сям'і пры крушэнні цягніка на станцыі Боркі семнаццатага кастрычніка адна тысяча восемсот восемдзесят восьмага года. Уверсе абраза — Выратавальнік, які ўздымае перад сабою рукі. Побач з ім святыя семнаццатага кастрычніка. Ніжэй — святыя князі Аляксандр Неўскі і Міхаіл Цвярскі, святая Марыя Магдалена, святы Мікалай Цудатворац, святы пакутнік Георгі, святая княгіна Вольга, найпадобная Ксеня... Усе, чые імёны носіць аўгусцейшая сям'я.

Абраз адразу ж скапіравалі і разаслалі ў гарадскія цэрквы шасці паветаў губерні.

Гразнову было тады сорак сем гадоў, і пасля шалёнай, без сну і адпачынку працы над абразом ён пачаў па начах задыхацца і кашляць крывёю...

Але хто ж па такім холадзе і цемры даплёўся сюды і чаго? Навошта пастукалі ў ягоныя дзверы? І адкуль яны?.. Прыблуды з Ашмянскага тракта? Забойцы і злодзеі, якіх цяпер болей, чымся людзей сумленных? Ці мо старцы?

Гадзіны дзве назад, праўда, праз чыгуначны мост праляцеў пасажырскі цягнік з Пецярбурга, — Гразноў заўсёды жахнаўся на далёкі трывожны гудок, які варочаў у душы распаленымі шчыпцамі. Але ўжо роўна год яго нічога не звязвае з Пецярбургам. Руска-японская вайна сышла на спад, асабліва калі пасля

трагічнай смерці адмірала Макарава пачаў гінуць увесь рускі флот. Семнаццатае верасня, кажуць, было ціхае. Але менавіта семнаццатага верасня ў адну з кананерак порт-артурскай эскадры трапіў снарад, пасланы маракамі адмірала Тогі. З усёю камандаю загінулі сын і ўнук Гразнова — капітан другога рангу і малады гардэмарын-добраахвотнік. У той дзень, незаўважна для чужых вачэй, загінуў і ён сам, багамаз Васіль Гразноў. Пачуўшы страшную вестку, страціў мову і памяць. Яму спачувалі, але ён, здавалася, нікога не чуў; за душы ягонага сына і ўнука-гардэмарына прасіў перад Богам сам патрыярх у кафедральным саборы на цэнтральнай Вялікай вуліцы, насупраць гарадскога тэатра. Але Гразноў быў нямы, што камень.

Праз тыдзень, праўда, ён пачаў адзывацца да людзей. Памяць таксама адляцела яшчэ не ўся. Здарылася іншае. Да Гразнова ўсё часцей вярталася далёкае маленства, якога ён гадоў дваццаць не сніў. Прыходзіла маладая вясёлая маці, уяўлялася жонка, якая памерла, калі іхняму сыну было чатыры гадкі.

І толькі тое, што было з ім зусім нядаўна, вылецела з памяці, як дым.

Праз месяц пасля гібелі сына і ўнука Гразноў адпісаў свой дом на Астраханскай вуліцы Свята-Духаваму брацтву. Злосна адмахнуўся ад доктара Савіча, які ўпрошваў яго легчы ў бальніцу. І калі адчуў на сабе спачувальныя і насмешлівыя позіркі знаёмых віленцаў, адвярнуўся ад усіх і пайшоў у старожку на Касабуцкай гары. Айцец Сергій болей з сумам, чым з радасцю паказваў і хваліў яму царкву Еўфрасінні Полацкай, дзяк, яшчэ малады мужчына, праз дзень-два прыносіў хлеб і малако. Летам прывёў козачку.

Па суботах і нядзелях у царкве хрысцілі немаўлят з суседніх вёсак, навокал старожкі было людна, і Гразноў амаль не выходзіў на чужыя вочы. Калі ж хавалі — ішоў памагаць далакопам. Нябожчыкаў, часцей безымянных і бязродных, прывозілі з Лукішскай турмы альбо з бальніцы доктара Савіча. Апошнім часам — ажно з Віленскай псіхіятрычнай лячэбніцы. Нават у самыя сонечныя дні на цвінтары, пад старымі соснамі, было цяніста і таямніча-спакойна. Лабатыя шэра-зялёныя драўляныя крыжы ў няроўным страі абдымалі белы свет раскінутымі ў бакі рукамі; Гразноў добра разгледзеў іх. Некаторыя паправіў, падраўняў.

Каля самай царквы ўзвышаліся каменныя надмагільнікі святароў, і Гразноў саскроб з іх зялёныя бароды моху і дзікага гарошку.

...Ён любіў, калі прыходзіла маці. Высокая, прыгожая, яна вяла за сабою расквечаны сонечны луг альбо духмяную вялікую паляну. Ішла імкліва, нагіналася і лёгка зрывала зёлкі, давала яму нюхаць. Называла: «Арніка. Цынцылея... А гэта — расічка!» Падкідвала зёлкі ўверх, падымала галаву, абвітую вянком тоўстай залатой касы, і смяялася. Паперадзе яе заўсёды бегла дзяўчынка ў папялястай, як сухая зямля, доўгай сукенцы.

— Уляна! — ласкава аклікала яе маці. — Не ляці так.

Дзяўчынка смяялася і сапраўды крыху прыпынялася. Нават у сваім сне Васіль вельмі шкадаваў, што гэтая ягоная стрыечная сястра-сірата зусім непісьменная і не ведае ніводнай літаркі. Адно толькі ў малалеткі ўсё працуе, ірве жылы ў полі, як дарослая. Так казала Васілю маці. Сам ён ужо чатыры гады вучыўся ў школцы багамаза Крывіцкага пры Свята-Духавым брацтве, быў горды, бо самастойна распісваў цэркаўку на Бельмонце.

З Уляnaю яны сустрэліся ажно праз дванаццаць гадоў, калі памерла жонка Гразнова, пакінуўшы маленькага сына. Уляна прыехала сама і стала нянькаю. А калі яшчэ праз дваццаць гадоў застаўся без маці і пецярбургскі ўнук Васіля Гразнова, Уляна зноў сабралася ў дарогу...

Гразноў закахаўся ў сваю тоненькую і цемнавокую стрыечную сястру ледзь не ў першы ж год яе прыезду. Закаханасць паціху пераплавілася ў горка-салодкі нясцерпны боль, у пошуках збавення ад гэтай пакуты Гразноў узяўся маляваць той самы абраз, які адабраў ягоныя сілы і здароўе. Урэшце намаляваў яго, даўшы найпадобнай Ксені Уляніны вочы. Гразноў пражыў з Уляnaю пад адным дахам амаль усё сваё маладое жыццё, але ні разу да яе не дакрануўся. І ніколі за ўсе дваццаць гадоў не чуў, каб да яе, Уляны, стукаліся па начах.

Сёння яму шэсцьдзесят два гады. У яго вялікае гора. Але як сталася, што ён толькі цяпер успомніў і падумаў: а як жа Уляна пасля ўсяго, што нарабілася ў сям'і? Дзе яна цяпер і з кім? Няма з кім ёй быць у

асірацелым Пецярбургу, значыць, хутка будзе тут. Можа, была ўжо, а ён не азваўся.

Грызноў хуценька злез са свайго рыпучага тапчана, ступіў у цёплыя бахілы, падперазаўся чорным раменьчыкам. Потым выйшаў са старожкі і доўга ўзіраўся ў туман над сцежкаю. Цяпер там нікога не было. Ён вярнуўся ў старожку і запаліў газоўку. Потым падагрэў на прымусе ў вялікім кубку казінае малако. Есці не хацелася, але ён звыкла сеў за вузкі, у дзве дубовыя дошкі, стол і адламаў хлеба. Забыў, куды засунуў нож.

І ў гэты момант дзверы ў старожцы адчыніліся, Грызноў спінаю адчуў, што ўвайшоў нехта свой. Пачуў насмешлівы ўздых.

— Нашто ж так хлеб крышыць, гэта ж не цэгла якая, Васіль?..

— Уляна!

— Некі дух у цябе тут гостры. Як пад зямлёю.

Грызноў схапіў смярдзючы кажух і кінуўся прэч. Туман амаль развеяўся, недалёка ад старожкі, адвярнуўшыся, стаяла незнаёмая высокая жанчына ў шыракаполым капелюшы і ў вішнёвай прасторнай накідцы. Трымала перад сабою на руках вялікі скрутак. Відно, дзіця. Грызноў кінуў кажух на калкі агароджы. Паспакайнеў, але жанчыну не аклікнуў. Вярнуўся ў старожку.

— Адну цябе, Уляна, і хачу бачыць. Ты ў мяне на абразе Ксеня найпадобная. То давай пацалуемся на сустрэчу.

— Ну, вось, і вочы мне адразу пячэш.

Уляна засмяялася і сапраўды пачырванела. Грызноў зухавата накінуў на плечы свой даўгаполы, некалі модны пінжак:

— Здымі хустку. Малака папі, Уляна.

Яму чамусьці не хацелася пытаць пра жанчыну на двары.

— Пап'ю.

Уляна паставіла свой кашэль каля тапчана, зняла з плячэй вялізную хустку-кураўку, засталася ў цёплай кофце. Грызнова здзівіў яе доўгі сумны позірк. Адвярнуўся.

— Нічога, Васіль, — сказала яна. — Стары воўк і ад хваробы ўцячэ. А малако няхай малая вып'е.

Уляна выйшла і праз кароткую хвілю ўвяла за сабою ў старожку тую самую высокую жанчыну ў капе-

люшы, адразу ж узяла з яе рук дзіця, захутанае ў клятчастую тоўстую коўдру, села за стол.

— Пі, маленькая. Пі ў дзеда малачко!

Дзяўчынка ахвотна снедала, і Уляна зацмокала ад прыемнасці языком. Потым асцярожна паднялася з услона і выйшла з-за стала, пацíху, бачком паклала дзяўчынку на тапчан. Дастала з кашаля чыстыя пялюшкі. Гразноў адступіўся да самых рыдлёвак, прысланіўся спінаю да сцяны.

Незнаёмая жанчына знерухомела каля дзвярэй, твар яе схавала доўгая густая вуалька.

— Ціха, ціха, маленькая! — шапнула Уляна і пачала распавіваць дзіця.

Жанчына каля дзвярэй раптам глуха застагнала. Здзіўлены Гразноў міжволі скасіўся на яе.

Уляна ўжо спрытна падхапіла голенькае дзіця на рукі, каб перанесці яго на сухую пялюшку. Гразноў замёр: дзяўчынка, месяцаў пяці, была гарбаценькая.

Маці яе каля дзвярэй ціха плакала, падняўшы цёмную вуаль. І Гразноў ужо не мог адвесці вачэй ад яе маладога, мармурова-чыстага аблічча і вуснамі асаблівага цёмнага колеру — таямніча-зваблівага, як на палотнах Рафаэля.

Пасля сваёй бяды Гразноў, нечакана для самога сябе, стаў раўнадушным і халодным да ўсяго на свеце. Чужыя слёзы не кранал, не выклікалі ў ім ні спачування, ні жаласці. Толькі раздражнялі. Але сёння Гразноў нібыта ачуняў, вярнуў колішнюю міласэрную душу. Застаялая ўнутры пакута падкацíла пад самае горла і душыла.

Ён пайшоў да стала. Уляна паднесла бліжэй да яго дзяўчынку, зноў запакаваную ў клятчастую цёплую коўдру:

— Глядзі!

Гразноў глядзеў на светлы тварык малой, доўга ўзіраўся ў яе васкова-жоўты, як охра, лобік, у шчыльна сціснутыя маленькія вусны. І раптам адчуў, што Уляна хоча яму нешта сказаць. Чамусьці ўзяў з падаконніка касцяны грэбень, пацягнуў ім па сваіх зблытаных валасах:

— Не бойся. Апостал Павел сказаў: «Даў нам Бог духу не боязі, але сілы і любові!» Так што гавары, Уляна.

...Айцец Сергій хрысціў маленькую дзяўчынку, ні аб чым не пытаючы ў Гразнова. Нібыта ведаў сам, што гэтае дзіця народжана ад таемнага, не асвечанага шлюбам кахання. І што бацька яго — малады гардэмарын Гразноў — ніколі не вернецца з марскога дна, каб зняць са сваёй душы грэх і ажаніцца з маладзенькай каханкай знатнага роду з мармурова-бледным абліччам.

...Нібыта ведаў, пырснуўшы на раток дзяўчынкі пэндзлем, што гэтае апошняе дзіця Гразновых вельмі хворае, вельмі хутка памрэ і тым аблегчыць пакуты: гардэмарына — на тым свеце, старой Уляны і няшчаснай маці-красуні — на гэтым.

...Тры дні мінула. Гразноў усё ніяк не мог зразумець, чаму абранніца ягонага ўнука не назвалася. Пацалавала яго ў няголеную шчаку — і дзякуй! Перад ад'ездам на хвіліну прыпала да ягоных грудзей. І Уляна маўчала. Як з чужым. Але знайсці Уляну няцяжка. Гразноў добра памятае той пецярбургскі дом на Адміралцейскай, у якім яшчэ два гады назад ён наведваў сына. Праз Уляну, дасць Бог, знойдзе, убачыць і праўнучку.

...Дзяжурны па вакзале вызверыўся на Гразнова: «Якія табе касы? Забастоўка на ўсёй чыгунцы, мяса ты дзікае!»

Гразноў не паверыў яму, сеў на лаву каля пабітага акна, з якога патыхала холадам і цвілай вільгаццю. Да шыі адразу прыліплі мокрыя валасы. Унурыўся, не глядзеў на суседзяў. Зрэшты, людзі побач з ім хутка змяняліся. Вакзал быў перапоўнены, змучаныя пасажыры ўвесь час высочвалі, ці не вызваліцца якое месца. Блізіўся надвячорак. Гразноў адчуў голад, але не падняўся з лавы, каб хоць выпіць вады. Ён паклаў на калені свой пашарпаны мальберт са старымі фарбамі і пэндзлямі. Падарунак праўнучцы. Адчыніў яго.

Чужая рука раптам выхапіла з правага кутка мальберта цюбік кадмію. Сусед, яшчэ зусім малады чалавек, быў без шапкі, з кароткімі, бялёсымі, як сівавятымі валасамі. Бледныя, упарта сціснутыя вусны. Вочы — сінія і глыбокія.

— Даўно ўжо не нюхаў іх! Страшэнна люблю гэты пах! — Малады чалавек спрытна адкруціў белую галоўку цюбіка, ціскануў яго бліскучыя бакі, з круглай

адтуліны паказаўся тонкі чарвяк фарбы. Гразноў усміхнуўся, убачыўшы, як сусед пацягнуўся языком да фарбы і ледзь не лізнуў яе. Але засаромеўся, павярнуўся да Гразнова:

— Гляджу, «золата» ў вас многа.

— Купляў ажно ў Гесэне.

— На абразы, я так мяркую?

Гразноў зачыніў мальберт і склаў на ім вялікія, з'едзеныя цынкам да глыбокіх трэшчын рукі. Важна і задаволена кіўнуў галавою.

Міма павольна пратупаў дзяжурны жандар. Малады чалавек імгненна наструніўся, не зводзячы з Гразнова вачэй. Але цяпер позірк у яго быў амаль шалёны — сіні і пякучы:

— А я, пан?..

— ...Гразноў.

— ...пан Гразноў, два гады прасадзіў у акадэміі. Разумееце? Два гады! Цяпер вольны, як арол.

— Так ужо і арол? — засмяяўся Гразноў.

— Аднак жа прабачце. Каранец. Костусь Каранец. Выгнаны з акадэміі за...

Гразноў схіліў галаву, але Каранец змоўк.

— Такой бяды, малады калега. Нічога вы не згубілі. Нашы акадэмікі настолькі далёкія ад жывога мастацтва, што ой-ё-ёй!

На Гразнове была яго старая, сцяганая да рудых плямін хламіда і зашырокі для высахлага цела пінжак. Суконныя мяккія штаны, запраўленыя ў боты, добра грэлі. Іх яму прывезла Уляна.

Каранец хмыкнуў:

— А я, папраўдзе, нават рады. Што ім усім да народа?

Гразнову спадабалася, што гэты Костусь Каранец вось так проста загаварыў пра народ. Яму самому раптам захацелася сказаць нешта вельмі важнае, выліць з душы свой пякучы боль. Упершыню за ўвесь бясконцы год Гразноў пачаў гаварыць — расказваў ціхім голасам, гледзячы толькі на свае вялікія, абвітыя чорнымі шнарочкамі рукі. Пра сына і ўнука-гардэмарына, пра Ксеню найпадобную з Уляніными вачамі на абразе ў саборы святога Мікалая.

Костусь раптам моўчкі палез ва ўнутраную кішэню сваёй пацёртай скуранкі, выняў адтуль некалькі пэндзляў, адзін з якіх аддаў Гразнову. Той ажывіўся, за-

ёрзаў на лаве, пачаў з цікавасцю разглядваць шчотачку, падняўшы яе на святло да акна.

— А ведаеце, пан Гразноў, я прывёз іх з Рыма.

— Ты быў у Рыме? Цудоўныя пэндзлі! Самае важнае — тонкія... Ах! А я там ніколі не быў.

— Горад багоў і вечных студэнтаў. З усяго свету, калі хочаце. А пэндзаль вазьміце сабе. — Костусь засмяяўся, змеціўшы недаверлівую ўсмешку старога мастака.

— Царскі падарунак, малады чалавек!

— Для вашай праўнучкі. Адзін рымлянін казаў мне, што навучыцца сапраўднаму мастацтву можна толькі з добрымі пэндзлямі. А гэтыя я нават у «Крыжах» збярог.

Згадка пра «Крыжы» зусім не здзівіла Гразнова. Быццам гаворка ішла не пра вядомую ўсім турму, а пра модны санаторый «Reichenhal».

— Мне тут сказалі, што чыгунка не працуе.

— Правільна сказалі. Толькі адзін таварняк з Пецярбурга і прабіўся. Я на вугальнай платформе даехаў! Праўда, яшчэ з двума басякамі.

— Доўга ехаў?

— Трое сутак.

— Я ж і бачу, што ты выпетраны і вельмі бледны. Памятаеш рафаэлеўскага Ісуса, якога вучні нясуць у труну?

Костусь хацеў нешта адказаць, але папярхнуўся. На іх пачалі азірацца суседзі. Мала таго, падлетак-цыганчук, прабягаючы міма, нечакана капытнуў босаю нагою драўляны чамадан, што стаяў перад Костусем. Чамадан гучна ляснуўся аб падлогу. Цяпер у іхні бок падазрона касіўся дзяжурны жандарскі унтэр у пажмяканым шынялі, з чырвоным злосным тварам. Гразноў нахіліўся і схапіў чамадан за ручку. Таргануў да сябе. Але зрушыць з месца не змог. Костусеў чамадан, здаецца, быў напакаваны каменнем. Унтэр зрабіў да іх пару крокаў, але ў гэты момант залямантавала нейкая madame пры выхадзе з вакзала, каля якой круціўся той самы цыганчук, і унтэр зазвінеў шпорамі ў той бок.

— Вучні Ісуса, кажаце? — Костусь нарэшце рыўком падсунуў да сябе чамадан. — Тут іншыя «вучні», д'яблавы. А бледны я пасля камеры з тыфознымі басякамі. — Костусь задрыжаў усім целам, і Гразноў не рашыўся яго перапытваць, хоць не зразумеў, пры чым тут тыфозныя басякі. — Так, быцька. Усю партыю з

камеры — вон! Разам са мною, вядома, толькі не ў бальнічны барак, а на вуліцу. Каб тыфозная эпідэмія не заглухла. Няхай лепей качаюцца ў гарачцы, а не бастуюць! Праўда?

— Табе трэба дахаты, сынок.

— Трэба. Ды вось зачакаўся тут аднаго... сябрука.

Хваля раздражнення ў Костуся, відно, апала, ён толькі задумліва паўтарыў:

— Трэба, бацька, ехаць, трэба. Хоць бы ў Ашмянь. Гэта праўда.

Грозноў адчуў у ягоным голасе нерашучасць, зразумеў, што ехаць Костусю Каранцу няма куды, пачаў няўпэўнена:

— Я таксама хачу табе што-небудзь падараваць. Але ўсё маё засталося каля магіл. Цягнікі не ходзяць. А як усё наладзіцца, тады я і паеду ў Пецярбург.

— Паедзеце, паедзеце.

— Трэба вяртацца.

— Куды, пан Грозноў?

— На Касабуцкую, сынок, да Еўфрасінні...

Наняты Костусем Каранцом фурман павярнуў каня з Ашмянскага гасцінца на вузкую камяністую дарогу — уздоўж цвінтарнай агароджы. Грозноў азірнуўся. Нахабны цыганчук, які сунуўся за імі ад прывакзальнай плошчы, не адставаў. Костусь саскочыў з фурманкі на дарогу, і цыганчук спыніўся, завіхляў, прысядаючы, азадкам, пісклява заляманатаваў:

— Аддавай брыльянты! Брыльянцікі-і-і...

Костусь нагнуўся, нібыта хацеў падняць з зямлі камень, цыганчук весела заўлюлюкаў і стралою кінуўся ў густыя кусты пры дарозе.

...Сябруком, якому пецярбуржац Вацак Іваноўскі праз Костуся перадаваў пасылку са шрыфтамі, быў адвакат Барановіч. Але, выехаўшы з Ашмяні ў Вільню, Барановіч адразу ж змеціў слежку. Планы памяняліся, на вакзал ён змог зазірнуць толькі ўвечары.

Але Костуся Каранца там ужо не было. Цяпер заставалася толькі чакаць.

## 2

Сустрэча з пасланцам Маскоўскага камітэта дэмакратаў А., які меўся прыехаць раніцаю, была намечана ў касцёле святога Станіслава а дванаццатай. Мужчына,

як сказаў Алаізе Барановіч, яшчэ малады, у шэрым паліто, з чырвоным шалікам. Пры ім — чорны чамаданчык з літаратурай. А магчыма, і шрыфтамі.

Яна пагадзілася пайсці на гэтую сустрэчу неахвотна, але, на жаль, пасланец ад Вацюка-«тройцы» з Пецярбурга знік, а разам з ім знікла і іх надзея на стварэнне сваёй тыпаграфіі.

Барановіч папярэдзіў таксама, што мужчына будзе з нарачонаю — красуняю ў вавёрчыным футры.

Збіраючыся ў касцёл, Алаіза нацягнула на вочы шыракаполы, упрыгожаны штучнымі кветкамі светлы капялюш. Капялюш, прынесены ад Барановіча, быў замалы і балюча сціскаў лоб.

Але, Божа літасцівы, калі б яна ведала... Калі б яна толькі ведала, што А. — Андрэй Гмырак! І гэта яна зразумела адразу ж, нават не ўбачыўшы чырвонага шаліка, а толькі ягоную такую знаёмую постаць злева. Як у сне, кіравалася праз шчыльны натоўп вернікаў каля касцельных дзвярэй бліжэй да А. і тут убачыла: побач з Андрэем сапраўды стаяла прыгожая маладая жанчына ў вавёрчыным футры.

Менавіта яна першай выхапіла вачамі Алаізу сярод іншых прысутных, зашаптала нешта Андрэю на вуха. І той пачаў павольна паварочвацца. Нарэшце позіркі іх — сустрэліся.

Але... Нават на такой адлегласці Алаіза змеціла, як ён ітнуўся і страшна пабялеў. Быццам убачыў прывід. Потым схапіўся рукою за горла, пачаў тузаць за чырвоны шалік.

Задыхаўся...

У касцёле Алаіза прыслanілася да сцяны. А тыя двое асцярожна падаліся да выхаду — у Андрэевых руках быў невялікі чорны чамаданчык.

Заплюшчыла вочы і з цяжкасцю суцішыла слёзы. Але перажытае выклікала прыступ амаль забытага горкага пачуцця фатальнай асуджанасці і бездапаможнасці перад лёсам.

Выходзіла няспешна, змяшалася з натоўпам вернікаў, сціху — азірнулася па баках.

Андрэй і яго нарачоная ўжо стаялі каля брычкі і аб нечым дамаўляліся з вазаком, чакалі яе. Толькі ступіўшы з касцёла, краем вока змеціла яшчэ адну знаёмую, але пакуль што непазнаную постаць. Мужчына, спінаю да ўсіх, стаяў каля тэатральнай тумбы

блізу касцёла, чытаў газету. Нарэшце азірнуўся — і Алаізіна здагадка пацвердзілася. У такі момант тут мог быць толькі адзін усюдыісны ротмістр... Праўда, у цывільным. З жахам бачыла, як да Андрэя беглі жандары. «Масквічы», аднак, спакойна перамаўляліся, быццам не мелі ні да чога аніякіх адносін. Ці, можа, не заўважалі. Жанчына ў лёгенькім футры нават засмяялася, праўда, залішне гучна. Алаіза імпульсіўна памкнулася ў той бок, але нечая моцная рука ў той жа момант уладна прытрымала яе за локаць. Падняла вочы — побач упрытул стаяў тып, у якім адразу ж пазнала шпіка. Цяпер і яна зразумела ўсю безвыходнасць становішча. Шпік скасіўся на брычку, у якую ў акружэнні канваіраў ужо сядалі Андрэй і яго нарачоная.

Перад Алаізаю ўзнік Генісарэцкі, сціскаючы ў руцэ газету, ціха шапнуў:

— Прашу.

На месцы ад'ехаўшай брычкі стаяў фаэтончык на «гуме».

...Праз пятнаццаць хвілін яны ўжо былі ў паліцэйскім упраўленні, і Генісарэцкі запрашаў Алаізу ў свой кабінет. На стале ляжаў той самы чорны чамаданчык. Але самога Андрэя не было. Генісарэцкі, узяўшы чамаданчык, нават не адкрыў яго, паставіў у кут каля акна. Запрасіў Алаізу сесці за стол, сеў сам. Відно, націснуў пад сталом кнопку — дзверы адразу ж прачыніліся, і ў кабінет зазірнуў дзяжурны.

— Затрыманых адпраўце для першага допыту Чарнавусу.

— Слухаю.

— [redacted] дамай — паакуратней.

— Слухаю, вашбродзь!

Алаіза маўчала, але Генісарэцкі спакойна глядзеў на яе і ўсміхаўся.

— Та-ак. Зноў — старыя знаёмыя. Ах, мадэмуазель. Вы будзеце пераконваць, што выпадкова зайшлі ў касцёл якраз тады, калі там былі «донжуаны»[1] з Масквы? Маўчала. І, вядома, не збіраліся забіраць вунь той (кіўнуў у куток) чамаданчык. Там, пэўна, гнюсная літаратура ці нават шрыфты? Ах, не ведаеце?

---

[1] «Донжуанамі» сацыял-рэвалюцыянеры называлі сваіх агентаў.

Зрэшты, справа не ў тым. Мы вядзём гаворку, як бачыце, без пратакола.

— А я што, арыштавана?

— Ніякім чынам. Іначай усё было б іначай. Вы што, не зразумелі гэтага? Дарэчы, вам знаёма імя Александэры Ахола-Вало?

На гэты раз яна згодна кіўнула галавою.

— Малады чалавек згадваў пра вас на допытах.

— Дзе ён цяпер?

— Як перадалі мае пецярбургскія знаёмыя — ваш юны друг у турэмным шпіталі. Юны геній, — Генісарэцкі падняўся з-за стала і пачаў хадзіць па кабінеце. Падняў рукі, паказваючы на неба, — ...быў вельмі блізка да... Нават у турме ўмудрыўся знайсці брытву. Але ў нас такое не праходзіць. Толькі лёгкі парэз! І шуму на ўсю турму! Зрэшты, вам не здаецца, мадэмуазель, што хваля самагубства — гэта вынік хваляванняў нашага палітычнага акіяна? Цяпер на самагубствы мода.

— Люстэрка рэвалюцыйнай сітуацыі, як сказаў адзін мой знаёмы...

— Вацлаў Іваноўскі?!

Прамаўчала.

Генісарэцкі сеў. Задумаўся. Алаіза таксама маўчала. Думала пра Андрэя. І пра яго маскоўскую нарачоную. Нават прыплюшчыла вочы.

Генісарэцкі кашлянуў.

— Я цяпер, пэўна, здзіўлю вас. І ўсё ж скажыце, мадэмуазель, а ці не праследуе вас... — змеціўшы насмешлівыя іскаркі ў Алаізіных вачах, хітравата ўсміхнуўся. — О не, я не маю на ўвазе сваіх агентаў. Але, мадэмуазель, вас... не праследуе прадчуванне... хуткай смерці?

Пытанне ротмістра настолькі было нечаканым, што яна нават адкінулася назад у сваім крэсле:

— Я ж не прынцэса Гесенская, каб баяцца атручанай кавы ў філіжанцы!

— І не генерал-губернатар, так?.. каб баяцца кулі ў спіну з браўнінга брата-тэрарыста?!

— Жартачкі, аднак.

— О, мадэмуазель, я даўно не жартую. Але падумайце самі. Вас проста перапаўняе высакародная гатоўнасць да самаахвяравання. Такая прага любові да бліжняга! І такая жыццёвая энергія, што...

— А яшчэ і вершы. Забылі?

— ...яшчэ і вершы, мадэмуазель. Адным словам, вы так выдзяляецеся з нашага бязлікага натоўпу, што яе вялікасць смерць (!) проста не можа не заўважыць вас, такую асобу, сярод іншых грэшных.

Алаіза толькі здзіўлена маўчала.

— А яе вялікасць смерць я, мадэмуазель, паважаю — за вернасць сваім прынцыпам.

— Якая высокая філасофія!..

— О-о, — Генісарэцкі не пакрыўдзіўся, толькі пацёр кулаком у белай пальчатцы гладкі падбародак. І зноў:

— Ці не з-за страху перад блізкай смерцю чалавек можа рэзка памяняць курс свайго жыццёвага фрэгата?! Бо спяшаецца здзейсніць лепшыя намеры. Болей таго, сама думка пра смерць падганяе таго, хто ўмее мысліць...

— Але тады жыццё...

Генісарэцкі ўспыхнуў. Халодныя вочы звузіліся:

— А жыццё прыносіць нам толькі ілюзіі, мадэмуазель, толькі вострыя пачуцці. Любоў, нянавісць, задавальненне плоці, прасычанасць! — Ротмістр прамаўляў свой маналог настолькі нязвыклым гарачкавым тонам, што Алаіза нават не пасмела яго перапыняць. — Смерць толькі насміхаецца над нашымі чалавечымі слабасцямі. І калі чалавек думае пра немінучае завяршэнне свайго жыцця, то адразу ж адкідвае хімерныя ўцехі. Дзеля чаго, пытаеце?..

— Я нічога не...

— Дзеля чаго, вы пытаеце, жыццё ўсё ж закоўвае нас у ланцугі страсцей? І я адкажу вам! — Перабіваць ротмістра не мела сэнсу, маўчала. — Над гэтым пытаннем, мадэмуазель, б'юцца лепшыя розумы стагоддзяў!.. Дзеля чаго?.. А ўсё дзеля самога жыцця! Як дару Божага.

— Алексантэры... — папярхнулася. — Вы кажаце, Алексантэры хацеў памерці?.. Альбо, можа, яго проста білі? Людзі нецярпімыя да талентаў. Асабліва тыя, што займелі хоць якую ўладу!

— Вы ўсе, такія, як ваш рамантык-мастак, вы ўсе спасцігаеце сэнс жыцця як дару Божага хутчэй за іншых. Бо вам, мілая, дадзены яшчэ адзін дар — талент нябесны. («Няўжо яго словы неяк звязаны з Андрэем?») Вось так, мадэмуазель. Прагавіты да

дзейнасці талент вас усё гоніць і гоніць! Таму вы спяшаецеся, таму і трапляеце раней за іншых пад колы. Вы прыходзіце ў гэты свет з адмецінай. І гэта не толькі талент, але і гонар. Гонар быць абраннікамі самай магутнай, самай вялікай сілы, імя якой — Смерць!

— Ну, дзякую.

— А значыць, ідзіце, ідзіце, ідзіце, мадэмуазель, за свечкай сваёй магутнай гаспадыні! Вы ж спяшаецеся, праўда? І яна — не дрэмле.

— Гэта вы, ротмістр, назвалі яе гаспадыняй, а я...

— Ідзіце! Няхай яркая свечка яе вялікасці рассякае і рассоўвае перад вамі жыццёвы змрок і няхай высвеціць перад вашым таленавітым зрокам усе патаемныя закуткі душы чалавечай і рассейвае туман, якім ахутана наша будучыня. Трэба паспець! Вось, вось чаму вы так апантана і безаглядна спяшаецеся па дарозе пазнання страсцей чалавечых! І не наракайце, наткнуўшыся на вастрыё брытвы раней часу!

Яна з цяжкасцю верыла, што гэты чалавек у мундзіры ротмістра, які разводзіць перад ёй дзіўную філасофію, і ёсць той самы Віктар Генісарэцкі, якога яна ўжо дастаткова даўно ведае.

— А вы падумалі, мадэмуазель, пра тысячы і сотні тысяч тых сляпцоў, якія ніколі, чуеце, ніколі не зразумеюць, для чаго Гасподзь дараваў ім самае высокае — Жыццё! Жывёлы неразумныя. Падумайце, колькі агіднага, колькі слабасцей, народжаных неразумнымі ў магме жыцця, смерць абясцэньвае! Хіба не праўда, што вы жывяце ў той перыяд свайго зямнога існавання, калі ранейшыя каштоўнасці мяняюць сваю вартасць? Так?

— Дазвольце прамаўчаць.

— Бо вы, мадэмуазель, упэўнены, што не баіцеся смерці і ўжо гатовы да яе. Ясна? Вы ж ужо столькі зрабілі для свае ідэі, што цяпер застаецца толькі на плаху! Так?

— Не чапайце, калі ласка, маю ідэю. Не хапала яшчэ...

— Але ж!

— Я стамілася гаварыць пра гэта нават са сваімі сябрамі!

Відно, гэтае балючае шчырае яе прызнанне здзівіла і нават так моцна тузанула за нейкую патаемную

струнку ў душы Генісарэцкага, што той рэзка падняўся з-за стала, абышоў яго і спыніўся каля Алаізы, павольна схіліўся і пацалаваў ёй руку.

Пабялеўшы і крыху прымружыўшы вочы, кіўнуў на дзверы:

— Вы можаце ісці, мадэмуазель. А пра нашага агульнага сябра не хвалюйцеся. Думаю, праз месяц ён будзе весці на вянчанне сваю баранесу Гольштамт. Падумайце лепей пра сябе. На гэты раз абставіны складваюцца для вас паблажліва. Але толькі на гэты раз. Падумайце ўсё ж, для чаго Гоcпадзь даў вам высокае права — на жыццё! Вас правесці?

— Навошта?

— Я ўсё ж правяду. І яшчэ... — Яны ўжо спускаліся па лесвіцы. — Я хачу зрабіць тое, што ніколі не зрабіў бы для іншай жанчыны... (?) Я хачу папрасіць прабачэння. — Прыпынілася. — Гэта я сказаў Андрэю Гмыраку, што вы загінулі тады ў Пецярбургу. Калі абваліўся Егіпецкі. Але я быў упэўнены... Было столькі ахвяр! Вось так.

Схіліла галаву. Выйшла.

Праз гадзіну, расказаўшы Барановічу пра няўдачу і філасофскія маналогі Генісарэцкага, Алаіза зазірнула ў баракі абутковай фабрыкі, ахопленыя тыфусам. Фабрыка зачынялася, і людзей, асабліва хворых, выганялі на вуліцу.

Трэба было вяртацца ў сваю Нова-Вілейку. Толькі заверне яшчэ да Умястоўскіх. Ідучы па Варшаўскім завулку, не магла адбіцца ад горкіх думак пра сябе і Андрэя. Нарэшце канчаткова зразумела, што, мабыць, бачыла Андрэя ў апошні раз.

Нарэшце, вяртаючыся на вакзал ад Умястоўскіх — да прыгараднага заставалася зусім мала часу, — Алаіза на рагу Варшаўскага завулка сустрэла ўчарнелую, як пасля хваробы, заплаканую пані Залускую.

І пачула страшную вестку: Стэфа, нечакана для ўсіх, спрабавала пакончыць жыццё самагубствам і стрэліла ў сябе з пісталета («Святы Езу... дзе толькі ўзяла тую зброю?!»). Але, на шчасце, куля закранула толькі левае плячо.

Пані Залуская бегла якраз у бальніцу адведаць пляменніцу, але Алаіза з ёй не пайшла — спяшалася на дзяжурства.

Да хворай сяброўкі яна трапіла толькі праз два дні. Навіны, папраўдзе, агаломшылі! Не, рана на плячы не трывожыла. Пару перавязак — і ўсё будзе ў парадку. Але ж... Але ж менавіта за гэтыя апошнія дні Стэфа Залуская стала — маці.

Неданошаная, але жывенькая Стэфчына дачушка важыла меней звычайнага, увесь час жаласна пішчала, але маладая маці была шчаслівая.

— Так хацела дзяўчынку! Каб ты толькі ведала! Каб ты толькі ведала, Лізанька... А што байстручка, то няхай!

— Ты што ж так кажаш?!. Каб ніякіх мне «байстручак»! Чуеш? Дарэчы, ты... вы — да цёці? Бо куды іначай з гэтай крупелькай?

— Толькі не да цёткі! Ды тая парцалянавая нас і не пусціць.

— Не мудруй. Пагавары лепей. Кабета яна, здаецца, добрая...

— Ага. На адлегласці. Ведала б ты ўсё — не казала б! Мне цяпер трэба рады сярод чужых людзей шукаць.

— Калі ты пра мяне — то я табе не чужая. І ніколі... ніколі чужой не буду.

Старая цагляная камяніца, дзе Алаіза знайшла для Стэфы з малою катушок, была ажно на Звярынцы. За першыя два месяцы Алаіза заплаціла сама, пазычыўшы грошы ў брата. Пасля — Бог бацька.

Стэфа Залуская пасля родаў зусім спала з твару. Адно што вочы ў цёмных ад недасыпання кругах свяціліся фанатычнай мацярынскай любоўю. Пры сустрэчы распытвала Алаізу пра віленскі калаўрот, аднак імя Волечкінага бацькі пры гэтым ані разу не згадвала. Быццам Вінклера на свеце ніколі не існавала.

Толькі пасля хрэсьбін дачкі прызналася: Ёсіп Вінклер назаўсёды з'ехаў за мяжу. Гэта перадалі ёй зусім незнаёмыя людзі. Пакінуў Стэфу без грошай і без надзеі. Стэфа, як ні дзіўна, менавіта цяпер здавалася Алаізе вельмі спакойнай. Быццам перажытае і адпакутаванае ёю за гэты кароткі час пераплавілася ў нябачны, але надзейны ахоўны панцыр. А можа, маладая маці яшчэ не выйшла з шокавага стану, бо рана ў плячы балела нясцерпна. Аднак усё заглушала хваравітая, амаль надрыўная любоў да малой Волечкі.

Цяпер у пакойчык на Звярынцы Алаіза прыходзіла не проста як сяброўка, а хутчэй як міласэрная сястра. І ўсё ж, перш чым прасіць Стэфу аб адной паслузе, доўга вагалася: на дзён дзесяць патрабавалася схаваць цэлы пакунак свежанькіх лістовак з яе вершам. Выдрукаваць памаглі Сцяпонас і Барыс Вігілёў. Гэта была яе першая, няхай сабе толькі з аднае старонкі, — але ж першая кніжка. Больш надзейнай сховы, чымся ў невялікім пакойчыку з немаўляткам, цяжка было прыдумаць.

Стэфа, толькі пачуўшы просьбу, адразу ж згадзілася, нават узрадавалася нагодзе аддзячыць.

Нарэшце развіталіся, і Алаіза абяцала прыехаць у адведзіны праз тыдзень.

* * *

Неба было глухое. Восеньская ноч на Касабуцкай гары наступіла вельмі рана, і ўсё навокал затапіла даўкая цемра. Зеленаваты шар у левым кутку цвінтара большаў, набухаў і, здаецца, блізіўся да самай царквы, але Гразноў не баяўся. Ужо ведаў, што гэта каля трох старых магіл свецяцца струхлелыя асінавыя пні. Але, напэўна, свяціўся там яшчэ і таемны цвінтарны дух, бо якраз у левым баку дрэвы стаялі настолькі шчыльна, што да зямлі не прабіваўся ні свежы вецер, ні хоць адзін які востры сонечны промень. Толькі даўкая духата.

Дзве безыменныя магілы былі прывалены доўгімі, груба абчасанымі каменнымі плітамі, над трэцяю горбам выпінаўся валун, пабіты ржава-чырвоным, кучаравым і пругкім, як дрот, мохам. Пліта над крайняю магілаю адным бокам абрушылася ўніз, пясок у тым месцы пачаў абсыпацца, ажно зазеўрала чорная круглая дзіра. Гразноў назваў яе ўваходам у «пекла». Два тыдні назад Гразноў пырнуў туды доўгім кіем, які адразу ж упёрся ў цвёрдую, відно, цагляную, сцяну. Крыху падзяўбаў яе, потым дастаў да глыбокага, амаль што на метры два ўніз, дна каменнага мяшка. Злева тырчаў шурпаты бок той самай абваленай магільнай пліты...

З хмары вылецеў месячык, ноч паяснела, і зеленавата-фасфарычны шар адразу пабляк, дрогка аддаліўся за цвінтарныя сосны.

...Апошні тыдзень быў спакойны. І вось сёння, як толькі на Касабуцкую насунулася ноч, Гразноў пачуў чужыя асцярожныя крокі. Нехта хадзіў каля старожкі крадучыся, нібыта баяўся. Але баяўся не мёртвых, а жывых, бо на вокліч Гразнова не адазваўся і затаіўся.

Гразноў пачакаў крыху, прыслухаўся, але было ціха. Толькі сосны шумелі ды нудна рыпелі цвінтарныя вароцечкі.

Гразноў вярнуўся ў старожку. Нахіліўся над Костусем, паправіў на ягоных грудзях кажух, паслухаў роўнае дыханне. І добра... Няхай спіць. З таго самага дня, калі яны разам прыехалі з вакзала да старожкі, Костусь гарыць у сыпняку. Прывезены айцом Сергіем доктар сказаў, што баяцца не трэба, што гэта ўжо не сапраўдны тыф, а толькі «кончыкі». Колькі дзён паляжыць і падымецца. Прынесеную доктарам смярдзючую мікстуру Гразноў тройчы на дзень уліваў Костусю ў пашэрхлыя вусны. Потым карміў яго кашаю на казіным малацэ. Учора схадзіў у горад па кілбасу, хлеб і мёд. Купіў яшчэ газы. На грошы, якія даў айцец Сергій. Гразноў асцярожна падкруціў кнот, пасунуўся на лаве да краю стала, каб засланіць ад святла Костуся. Разгарнуў кніжку на сёмай старонцы. Чытаў ён уголас, але ціха, як бы правяраючы пісанае на слых: «Гасудар, хіба гэта адпавядае Боскім законам, па літасці якіх ты царуеш? Ці не лепей памерці...» Зарыпеў тапчан, Гразноў зноў зірнуў на Костуся, з-пад кажуха тырчала яго па-юначы тонкая шыя. Схіліўся над кніжкаю, знайшоў патрэбнае: «Ці не лепей усім нам памерці, усім працоўным...» Гразноў перавёў позірк на жоўты агеньчык лямпы, што стаяла перад ім на стале. «Аднак жа, — здзівіўся, — «памерці ўсім нам...». Але як можна? Хіба не ўсё ў волі Боскай? І смерць наша таксама? І смерць, і жыццё...»

Гразноў сказаў гэта ўжо даволі гучна і раптам адчуў, што сумняваецца ў сказаным, сумняваецца ў такой простай вечнай ісціне. І жахнуўся, бо заўсёды лічыў, што сумненні ў чалавечай душы ўзнікаюць толькі з д'ябальскага насланння.

Тыя людзі, што самахоць зажадалі смерці, а значыць, адверглі вялікі дар Боскі — жыццё... Хіба тых людзей не напаткала ўжо смерць перад Зімнім? У

кніжцы пішацца чорным па белым. І ён прачытаў: «Але просьба Гапона была адхілена. Тады святар вярнуўся да натоўпу і даў каманду: «Наперад!»

Афіцэр таксама загадаў салдатам падрыхтавацца да стральбы...»

Вось яно, братазабойства! І хто здолее знайсці ключы ад гэтай страшнай таямніцы, што тварылася з людзьмі? Але Грозноў абдумаў усё і здагадаўся, зразумеў, што сіла, якая ўводзіла цяпер людзей у вялікі зман і грэх, — д'ябла ва. Бо настае ўрэшце час, калі нябесных пасланцоў перамагаюць служкі д'ябла. Тады разліваецца смута і найперш адбірае ў людзей розум і вымае з іхніх душаў веру.

— А, значыць, смуту робяць — яны! Слугі д'ябла.

Забароненыя кніжкі і «лятучыя лісткі» пра «крывавую нядзелю» выняў з чамадана і даў пачытаць Грознову Костусь Каранец. Цяпер усё гэта, акрамя адной кніжачкі, загорнута ў цырату і схавана пад важкімі сасновымі лапамі, скіданымі на падлогу каля сцяны. Гэты новы, засланы зверху дамотканаю дзяружкай, «ложак» Грознова крыху аддае касабуцкім цвінтаром: сасноваю жывіцаю і тлустаю магільнаю зямлёю.

Трэба было схаваць Костусеў чамадан. Спачатку Грозноў занёс яго ў царкву. Але тут жа адумаўся. Айцец Сергій такога не пацерпіць. Дачакаўшыся цёмнага вечара, Грозноў завалок чамадан у «пекла». Дзірку заткнуў саломаю, зверху накідаў сушняку. Левая палова цвінтара была настолькі запушчана, што гэтая магіла мала чым адрознівалася ад іншых.

Грознову здалося, што ён зноў пачуў крокі, зусім блізка ад старожкі, але толькі злосна пракашляўся.

— «...а для гэтага вялі, каб выбары... адбываліся пры ўмове ўсеагульнай, таемнай і роўнай падачы галасоў... Неабходна... Першае...» — Грозноў чытаў толькі асобныя радкі, выбіраючы самыя важныя словы: — «...свабода і недатыкальнасць асобы, свабода слова... Агульная і абавязковая народная асвета за дзяржаўны кошт...» — Задумаўся. Вось гэта блазны!

— Ты думаеш, ніколі нічога не спраўдзіцца?!

— Прачнуўся?

— Дасі паспаць, ага! Людзі кроў праліваюць, а табе... Табе — як вадзічка! — Сінія вочы Костуся ў

чорных кругах ліхаманкава блішчалі. — Пачытай, пачытай яшчэ!

Гразноў цярпліва маўчаў, ведаючы, што цяпер з Костусем спрачацца марна. Перагарнуў старонку.

— «...удзел рабочых у выпрацоўцы законапраекта...» — Чуеш, сынок, я хачу верыць, што ўсё добрае спраўдзіцца. Бо я не магу не верыць. Але як можна патрабаваць, каб рабочыя выпрацоўвалі законы? Няма горшай бяды... Калі законы будуць пісацца неадукаванымі, то...

— Можа быць...

Костусь паслухмяна выпіў лекі, якія яму паднёс Гразноў у доўгай драўлянай лыжцы, адкінуўся на падушку.

— Ведаеш, пан Гразноў, як я намалюю рэвалюцыю? Ціха-ціха! Думаеш, не разумею, пра што ты гаворыш? Хо! Мяне адзін італьянец даймаў: «Вы там у Расеі выканаеце чарнавую работу сусветнага масонства!» Так можа думаць толькі той, хто не разумее славян!

Гразноў насупіўся, але Костусь папярэдаіў яго:

— Маўчы... Хто не разумее наш народ, той, значыць, і не разумее рэвалюцыі. А я намалюю доўгую дарогу з чалавечых касцей, і па іх ідзе чалавек у генеральскім мундзіры. Чалавек без аблічча. А з мундзіра, нават з гузікаў, нават з рукавоў, уніз капаюць кроплі крыві. Уся дарога — у крыві. Затое наперадзе, Гразноў, наперадзе... Ты разумееш, Гразноў?!

— Ах! Нагледзеўся ж ты крыві, аднак. Вось цяпер і трызніш крывёю, сынок... Мікеланджэла паўтары тысячы дзён распісваў Сіксцінскую капэлу. Стаяў на рыштаваннях і маляваў, гледзячы ўверх. А потым нават лісты не мог чытаць іначай, як толькі падняўшы іх над сабою і задраўшы галаву... Я заўсёды баяўся толькі аднаго.

— Аднаго?

— Так. Хоць я і не стаў сапраўдным мастаком, але я ведаю, што такое мастацтва. І я заўсёды баяўся бачыць свет вачамі таго, хто ўмее толькі знішчаць, а не ствараць... Бо іначай ад нас адвернуцца анёлы, сынок. — Гразноў падняўся, высокі і кашчавы, амаль дастаючы галавою да столі: — Ты зразумей, дарагі мой... Мікеланджэла, Дантэ, Бах... Геніі! Яны дасягнулі ў жыцці самага галоўнага. Бо яны былі яшчэ

блізка да Бога. І гэтым мастакам былі патрэбны толькі нябесныя ўзнагароды. А нам?

Костусь маўчаў. Цёмныя вочы паўпадалі, цень мільгануў па лобе.

І раптам Грозноў зноў пачуў крокі, пачуў іх вельмі выразна. Затаіўся. У тое ж імгненне рыпнулі дзверы і нехта балюча, як абцэнькамі, схапіў Грознова за плечы, адштурхнуў убок. Грозноў паляцеў спінаю на сасновы «ложак», моцна выцяўся патыліцай аб сцяну і страціў прытомнасць. Перад вачамі ўспыхнуў едкі вішнёвы колер — мноства зменлівых кругоў, і ў глыбіні гэтага дзіўнага малюнка чорнаю кропкаю балюча торгалася толькі адно слова — «Костусь».

Грозноў ачуўся, расплюшчыў вочы. Падцягнуў важкае здранцвелае цела на руках, сеў, прысланіўся да халоднай сцяны спінаю. Святло ад лямпы было цьмянае, але цяпер нават сляпіла. Костусь таксама сядзеў на тапчане, у расхлістанай на грудзях, пацямнелай ад поту сарочцы.

А вось і яны, «госці»! Да смешнага аднолькавыя клятчастыя пінжакі, кашнэ: брудныя нагавіцы запраўлены ў дзіравыя крывыя боты. Абодвум басякам было па гадоў сорак, у абодвух пракураныя рэдкія зубы, слінявыя вусны. Грозноў зажмурыўся. Трэба было пачакаць, пазбыцца насланння. Але тут у старожцы здзекліва зарагаталі, і Грозноў зразумеў, што не трызніць. Зноў убачыў тых самых агідных, падобных адзін на аднаго, як блізняты, басякоў. Вось толькі паводзілі яны сябе па-рознаму. Адзін — з кучаравaю вялікаю галавою — усё тыцкаў рыдлёўкай пад тапчан, зазіраў туды, нечага шукаў. Другі басяк, у цёплай, нахлабучанай на самыя вушы, смушкавай шапцы, спакойна сядзеў на лаве, упёршыся спінаю ў стол. Скептычна ўсміхаўся, гледзячы на Грознова.

— Вашы халодныя целы, дзядзя, ніхто шукаць тут не будзе. Разумееш? І ніякія адвакаты народа вам не дапамогуць. Мы сумленныя грамадзяне рэвалюцыі, разумееш, і маем права вяршыць свой суд!

— Паслухай, Макс...

Грозноў здзівіўся, што Костусь ведае імя гэтага злодзея, пачаў павольна падымацца на ногі.

Костусь абціраў далонёю бледны потны лоб.

— Макс, што табе трэба?

— Мы цябе з чамаданам на платформу пасадзілі?

— Пасадзілі, гэта праўда. Ну і што?

— Без білета! І самі з табою селі. Каб не здзьмула на стрэлках.

— Хіба я вам не заплацію?

Галавасты раптам злосна дзеўбануў рыдлёўкаю ток, у бакі пырснулі чорныя аскалабачкі.

— Заплаціў? Макс, што гэта ён з табою, як з паслом гішпанскім? Як марцовая брухатая дзеўка!

Той, каго звалі Максам, зняў шапку, і Грazноў сінежахнуўся. Усю верхнюю частку лоба распаласаваў сінефіялетавы шнар. Галавасты ўтаропіўся ў Костуся, свіснуў:

— Толькі таму, дзядзя, што мы хадзілі з табою ў адну парашу, я добры. Так што давай на тры кускі. Яму, мне і табе. Ты, дзядзя, падзелішся сваім «унутраным святлом», а табе мы вернем «недатыкальнасць асобы».

— Макс, я не разумею, пра што вы кажаце?

Галавасты ажно падскочыў да тапчана.

— Ды пра чамадан. Ён быў вельмі цяжкі і, вядома, не твой. Не дзядзькаў! Праўда? Ты думаў, адкалоўся на вакзале? Ад нас не адколешся!

— Ну і што?

— Макс! Ты — як хочаш! Я яго болей слухаць не магу! — Галавасты дзіка ашчэрыўся і падняў рыдлёўку, Макс таксама раз'юшана вырачыў амаль белыя ад злосці вочы.

— Ад такіх, як мы, пацерамі не адкупішся! Я хачу мірна...

— Ах, мірна... І што ж ты хочаш?

— Размажджу! Я зараз размажджу яму чэрап, Макс! — Галавасты засіпеў, пальцы яго на чаранку рыдлёкі ад напружання ажно пабялелі.

Грazноў павярнуўся да яго, сказаў ціха, але цвёрда:

— Ідзём, я пакажу.

Костусь памкнуўся злезці з тапчана, але Макс раптам падскочыў да яго, ткнуў доўгімі пальцамі ў грудзі. Костусь ахнуў, адкінуўся на падушку, ледзь чутна прашаптаў:

— Грazноў, не смей! Не рабі...

...Калі Грazноў пайшоў на зеленаватае святло ў глыбіні цвінтара, галавасты толькі спалохана засоп:

— Ты куды, псіна?

— У «пекла».

— Я цябе падсмалю! Я цябе... і без пекла! Псіна смярдзючая.

— Пачакай тут. Я прынясу.

— Т-толькі ўцячы! Уцячы толькі! Я і табе, і яму... размажджу!

Грозноў адсунуў ламачча з магілы, намацаў пук саломы, якім заткнуў дзірку ў «пекла», кінуў яго ўбок. Стаўшы на калені, намацаў у глыбіні ручку чамадана. З «пекла» патыхала сырою цэглаю і мышамі. Гразнову нават здалося, што ён чуе, як унутры яміны нешта стукае. Моцна, роўна. Як вялікае чалавечае сэрца.

Добра, што ён не кінуў чамадан на дно «пекла», а прыткнуў каля самага краю скошанай пліты. Нарэшце ён адцягнуў цяжкі чамадан ад магілы. Тады адсопся і паклікаў басяка.

...Агеньчык у лямпе трапятаў, як на скразняку.

— Ма-акс! Можа, прадаць? Анархістам?! — Галавасты з жалем і адначасна са страхам глядзеў на шрыфты, ссыпаныя з чамадана у куток старожкі. — Ма-акс... Можа...

— Што табе Макс? Лупы цяпер размажджы. Чэснага рэвалюцыянера ледзь не прышылі. Бяжы, падла, прадавай. Пяць буланых, можа, й палучыш, дзядзя. На Сахаліне.

Макс правёў рукою па сваім распаласаваным лобе, галавасты пакрыўджана шморгаў носам:

— Ты сам казаў, што ў чамадане рымза!

— Са-ам... Трашчыш, як стары ядловец у печы. Брыльянты! У чамаданах, падла, брыльянты не возяць!

Костусь, цярэбячы пальцамі жоўты зваляны чуб і звесіўшы ногі з тапчана, бязгучна рагатаў, ажно падцягваўся пад рэбры худы жывот, да якога прыліпла потная сарочка.

Макс і галавасты адсунулі стол амаль на сярэдзіну старожкі і цяпер сядзелі на лаве спінамі да акна — бачылі і Костуся, і Гразнова. Пілі сваю гарэлку. Гразноў толькі накроіў хлеба і паклаў на сподачак некалькі кавалкаў кілбасы.

Костусь таксама прыгубіў «чарку» — звычайны парцалянавы кубак, з'еў кілбасы.

— Во! Скажы, Макс, цяпер ён адразу стане на ногі. А то кісне тут. Аслаб, што й калка ў зямлю не ўгоніць.

Га? Я сам за рэвалюцыю! — Галавасты басяк весела пазіраў на Костуся. — Наш Макс таксама «сацыяліст». У яго ротмістр адзін ёсць...

— Цыць!

— «Шаноўны мон шэр», — галавасты панізіў голас, відно, перадражніваючы ротмістра. — «Тады і тады-та, там-та трэба наладзіць жыдоўскі пагром. Збірай сваіх і ўключайся ў рэвалюцыю». Макс і ўключаецца.

Костусь насцярожыўся:

— Ты што, Макс, і мяне «ўключыш» у данос ротмістру?

— Не трашчы. Мы з табою на адну парашу хадзілі. А я такое — не забываю, дзядзя!

Макс асалавела прыплюшчыў вочы, зноў правёў далонёю па сваім фіялетавым шнары на ўспацелым лобе і раптам павёў высокім, пісклявым голасам:

Всех, которых пришел искупить
Ты своею пречистою кровью, —
Бескорыстной, глубокой любовью
Научи меня, Боже, люби-и-и-ить!

Закончыўшы, Макс павярнуўся да Грязнова, падняў палец і важна сказаў:

— З турэмнага рэпертуару, дзядзя!

## ■ ДАНЯСЕННЕ РОТМІСТРУ ГЕНІСАРЭЦКАМУ

*Коўна. 21—22 кастрычніка.*

«Адбыўся з'езд выбарных прадстаўнікоў літоўскіх сялян: «Праз паўстанне да аўтаноміі Літвы! Выгнаць з краю ўсіх рускіх чыноўнікаў». Пажар, аб якім я папярэджваў Ваша Правасхадзіцельства яшчэ тры месяцы назад, разгарэўся. Прынята пастанова з'езда адпаведнага зместу.

Пастанова распаўсюджана ў Жыгорскай вол., асабліва ў Шавельскім павеце. І, як вынік, шматтысячная дэманстрацыя ў Жыгорах. Латышы, курляндцы, яўрэі. Раззброены унтэр Цыглер. («Калі Раманаў праз трыста гадоў не разбагацеў, выпіваючы нашу кроў, яму ўжо цяпер не разбагацець!»)

Ваенная дружына. Каравулы. У этапнай стражы знятыя фірменныя кіцелі і штаны. Але для чаго «гіргунам» (мясцовая адзнака суседзяў) плечавыя знакі і аксельбанты, какарды і іншае?

Літоўскі Монтэ-Крыста ў вобліку нейкага Крыжаноўскага павёў перапітых сялян у маёнтак Нарышкіна. Насустрач натоўп з іконамі. Ксёндз Тамашэўскі: «Божа, цара беражы!»

Прыкладваю выпіску з данясення пісара Восіпа Курая:

«Арганізатар з'езда — Сцяпонас Кайрыс. Заўважаны ў групе тых, хто ў Вільне рыхтаваў забастоўку тэлеграфістаў і «Позорный столб» для «штрэйкбрэхераў».

Паступіла інфармацыя пра падрыхтоўку і правядзенне 19 лістапада сходу Сялянскага саюза ў Маскве.

Ці не пара згадаць «акрываўленую Францыю, што ўпілася крывёю ўласных манархаў»?!

...Варшава «на коню». На Маршалкоўскай да касцёла Святога Крыжа — натоўп палякаў да двухсот тысяч. Авацыі Сянкевічу пасля прамовы з балкона.

Бесцэнзурны выхад газет.

У Вільні — пагром: «Вон сацыялістаў-скубентаў і палякаў!»

Як кажуць у Вене — пытанні павінны вырашацца ў рэйхстагу, а не на вуліцы! У нас жа...

Берлінская «Tageblatt» услед за французамі раіць Вітэ тэрмінова праводзіць палітычныя свабоды. Па настаянні апошняга намячаецца адстаўка кіеўскага генерал-губернатара Клейгельса.

...Вобыск у тыпаграфіі «Сына отечества».

*...Фінляндыя. Гельсінгферс.*

Павальная стачка. Без электрычнасці, без газы. Па начах — з ліхтарыкамі. Цудоўна ўзброеная народная міліцыя. Патрабаванне поўнай аўтаноміі. І ўсё гэта — вынікі ідыёцкай русіфікатарскай палітыкі Плеве і Мілюціна!

Распаўсюджаны чуткі, што апазіцыя Вітэ ўзмацняецца: граф Ігнацьеў (староннік рэпрэсій), клерыкальная партыя, мітрапаліт Уладзімір і «маўчальнікі» з гарадской Думы.

*Трокі. Ашмяны.*

Вакханалія ў турмах і ваенным медыцынскім упраўленні. Урачы не дапускаюцца ў палаты. Адзінае патрабаванне — паляпшэнне матэрыяльнага становішча фельчараў.

...Вам дрэнна, панове фельчары? Але ж будзе яшчэ горш, калі вернецеся дахаты і станеце ў лепшым выпадку сярмяжнымі мужыкамі. Вам жа, аднак, сняцца этапы!

Строгі загад аптэкам: «Не працаваць!» Ніхто не слухае.

Аптэкі разгромлены!

Беларуская Грамада пастаянна выязджае на вёскі Гродзенскага пав. Агітацыя супраць прызыву ў армію... І. Луцкевіч, В. Зелезей.

Рыхтуем арышты.

*Альф».*

## 3

Судовы працэс над «братамі-апосталамі» ў зале Віленскага акруговага суда завяршаўся. І амаль кожную ноч яна пакутавала ад бяссоння. Ставіла сябе на месца адвакатаў, суддзяў, прагаворвала ў думках цэлыя прамовы ў абарону ці ў асуджэнне падсудных, спісвала горы паперы і ўрэшце ўпэўнівалася, што ў яе зноў нічога не выходзіла. Яна ўспамінала нават галасы — Малецкага і Вінклера, іх позіркі, у што былі апрануты, і ўсё ж... Цяпер, седзячы за сталом над папераю і думаючы пра ўсё імі зробленае, Алаіза нават уяўляла, як усё т о е магло адбывацца, хапала аловак і парывалася пісаць. Але словы чамусьці не слухаліся. Проста зрываліся з вострага алоўка, як высахлыя. Чула іх мёртвае шапаценне — і плакала. Сядзела да самай раніцы. І ці не страшны цень забітага Мартына Тамашэўскага пралятаў цяпер праз яе маленькі пакой, падняты з магілы гэтымі яе начнымі думкамі і пакутамі... Амаль рэальны цень, здаецца, апускаўся над самым сталом і не прабачаў ёй нават хвіліннай спагады Малецкаму, ціснуў на плечы, так што немагчыма было нават дыхнуць.

Засынала на пару гадзін. Але наступала раніца, за акном выратавальна яснела. Яна зноў бралася за судовую хроніку, уяўляла, як раніцаю залу суда запаўняе віленскае мяшчанства, аднолькава абыякавае і да новага ўзрыву забастовак на чыгунцы, і да лёсу няшчасных на лаве падсудных. «Спектакль» пачынаўся. Уяўляла: схуднелы да жаўцізны Ромак, седзячы каля цалкам разгубленага Даўкшы, кідае спадылба ў залу быстрыя позіркі. Але нікога не бачыць, паглыблены ў свае цёмныя думкі. Уяўляла гэта вельмі ясна, але чамусьці не толькі асуджэнне, але і моцная, шчымлівая, як малітва, жаласць да людзей, да ўсіх жывых і мёртвых, сціскала збалелую душу.

Учытвалася ў бліскучую прамову Урублеўскага.

Яна, пэўна, ніколі не зможа напісаць пра злачынцу нават звычайны судовы рэпартаж. Бо мусіць дзеля гэтага ўліцца, перамясціцца ў чужую душу і глянуць на свет і на людзей вачамі таго ж Малецкага, нават у той момант, калі рука... са шпрыцам ужо была ўзнесена над жыццём брата.

Усё цела пачынала гарэць, быццам ёй і сапраўды мусова было т о е самой зрабіць і толькі пасля — апісаць... У душы не было ладу, патрэбных і самых дакладных словаў таксама не знаходзілася. І тады, дарэшты стомленая, яна зразумела і супакоілася — бо сапраўды зразумела: той, хто ўзяўся пісаць чалавечую трагедыю... калі ён не ўзвысіцца і па-хрысціянску не пашкадуе свайго героя, няхай сабе нават мізэрнае і жорсткае стварэнне ў вобліку чалавечым, — той ніколі не адолее жаданай вяршыні творчасці.

...Але ж як густа лепіцца пена вяргіняў на вокны і як непрыемна пацягнула са шчылін сырасцю гнілой лістоты і начной цеменню.

...Урэшце, скажыце: хіба літаратура ўвогуле — не вялікая таямніца чалавечага пераўвасаблення і — жаласці?! Арганны плач па мінулым і рэквіем па тым, што з намі яшчэ будзе, з намі ўсімі. І ты — адзіны адвакат сваіх герояў і сябе самога на судзе вечным. І ты ўжо прымаеш на сябе і чужы грэх, і чужыя пакуты, а сваё — аддаеш ім!

Можа, болей за іншых яна шкадуе гэтага сляпога фанатыка Малецкага, якога д'ябал ужо навекі аддаў сваім страшным ганчакам.

Але пісаць пра яго яна — не будзе. Бо яшчэ нічога па-сапраўднаму не ведае пра ўсю справу. І яшчэ таму, што вочы засцілаюцца слязьмі.

Але ж трэба, трэба напісаць пра тых, хто ўклаў у ягоныя рукі шпрыц з курарэ. Зрэшты, зусім не атрута там была, а нешта іншае, іншае...

За акном шарэла раніца. Патухла свечка. І так трывожыў яшчэ зусім нядаўна прыемны, а цяпер прытарны пах воску. Алаіза сядзела за сталом і перачытвала тыя некалькі старонак, якія ўсё-ткі адолела. І раптам — уздрыгнула... У акно гучна і патрабавальна пастукалі!

Паднялася і, перамагаючы страх, ступіла да акна, расхінула фіранкі. З жоўта-вяргіневага прыцемку проста на яе пазіралі вочы незнаёмага старога чалавека. Таропка адступіла ўбок, прыціхла і зашморгнула фіранкі.

Але ў шыбку зноў пастукалі... Тады — зноў прытаілася.

...Аднак жа гэтыя вочы яна бачыла раней! Так-так! Вочы Мацея са Старога Двара. Міжволі зноў рыўком

расхінула фіранкі, узіралася ў жоўтую шэрань, аднак нічога не ўбачыла. Зрэшты, і не магла яна там нікога ўбачыць. Бо небарака Мацей памёр яшчэ такрок за сошкаю ў полі.

Затрымцелі рукі. Каб неяк супакоіцца, села за стол, схапіла аловак, пачала пісаць, нават не ведаючы яшчэ, пра што. Быццам пад дыктоўку: «...Зярняты замільгацелі на раллі. А Мацей стаяў з пасалавеўшымі вачыма і шаптаў: «Не магу... Надта ж галава баліць і сон морыць...» Спаў, як пласт, упоперак загона з раскінутымі рукамі. Твар быў бледны, губы чорныя ад смагі... Здалёк выглядаў на чалавека, каторага вот-вот раскрыжавалі і прыбілі да зямлі і так ён паволі канае...»

— Мацей! Мацей!..

Яна ўжо не магла напоўніцу ўдыхнуць чырвоны туман, што клубіўся над крывавымі разорамі і падымаўся да самых яе грудзей, забіваючы дыханне. І праз гэты туман выразна ўбачыла раскрыжаванага ў баразне чалавека. Але зноў прымружыла павекі...

І тут змеціла... Яна ўбачыла, як чорны анёл ці, можа, сам д'ябал, трымаючы ў сашчэпленых крывых зубах доўгія цвікі, бярэ іх па адным і прыбівае вялізным малатком Мацеевы рукі да чырвонай разоры. Усё б'е, гахае бесперапынна па цвіках, а Мацей, бы тая рыбіна на гарачым беразе, хапае асмяглым ротам паветра і кліча:

— Алаіза!..

Д'ябал не адступаецца, бліскае бялкамі вялікіх вачэй, зноў падымае малаток над Мацеевымі рукамі.

— Вузка! Цесна... Мала!..

Яна бачыла, вядома, бачыла ўсё гэта зусім нядаўна. Бачыла — і цяпер толькі ўспамінае: «Аж, здаецца, выбягае сам сусед Астап, заціснуўшы кулакі, і крычыць яшчэ мацней за Мацея:

— Вузка! Цесна!..»

— Алаіза-а... Не бойцеся!

Божа літасцівы, але ж яе і сапраўды нехта кліча.

Хоць да відна было далекавата і на дварэ стаяла ноч, але яна ўжо не баялася. Падступіла да акна, зноў асцярожна расхінула фіранкі. І адразу ж сустрэлася вачамі з тым жа пранізлівым позіркам старога Мацея.

Незнаёмы за акном крыва ўсміхаўся і паказваў рукою на дзверы.

* * *

Сонца над ледзь бачнай далёкай смугою лесу было ўжо цёмна-цаглянае, і ўверх за ім, як з вогненнай прорвы, з-за лясістых пагоркаў падымалася тугое барвовае святло восеньскай раніцы.

Уздоўж дарогі гарэлі арабінавыя свечкі, па вачах біла яркая кляновая медзь, на якой тонка чарнелі асінавыя галінкі.

Дарога з Нова-Вілейкі была добра наезджана. То збягала ў бледны, апошні ўжо туманок нізіны, то мокрай жоўтаю стужкай блішчала наперадзе, на лабатай круцізне, каб потым з вяршыні таго пакатага гарба зноў спусціцца і юркнуць у рэдзенькае малако ўпадзіны.

Яны спяшаліся, каб паспець на Касабуцкую да прыходу айца Сергія. Алаіза была ў прасторнай клятчастай накідцы і доўгай чорнай спадніцы. Ішла збоку, каля самай бальнічнай фуры, але на ўгаворы фурмана прысесці і хоць крыху пад'ехаць адмахнулася. Можа, таму, што на павозцы, пад нацягнутым на металічныя абады брызентам, стаялі ўпрытул дзве сасновыя дамавіны з бязроднымі нябожчыкамі, якіх трэба было пахаваць на Касабуцкай. Нябожчыкі былі закрыты з галавою доўгімі паласатымі прасцінамі.

Пры боку фурмана на вывернуты кажух сеў Гразноў, звесіўшы з фуры доўгія ногі ў добра надзяггяраных ботах.

— Ты ж казала, вершык пачытаеш. — Гразноў насмешліва глянуў на Алаізу, але яна нібыта не заўважыла гэтай насмешкі і без вагання гучна пачала:

— «Не плач, матуля, — тут перадыхнула, — не сярдуй, татуль, што забілі Вінцуля, што не прыйдзе адтуль...» — Гразноў змеціў, што фельчарка ад хвалявання крыху пачырванела і з асалодаю падстаўляла сваё худзенькае тонкае абліччa асвяжальнаму ветрыку. — «А чырвоны штандар прад народам ён нёс, ён крычаў (панізіла тон): «Гасудар! Ці наеўся ты слёз, ці наскардзіўся нас?!»

Даволі малады яшчэ, але мажны фурман з прыгожым серабрыстым крылцам сівізны ў курчавай чорнай хмары валасоў прыцмокнуў на каня, кашлянуў. Гразноў, як, відно, і фурман, з цяжкасцю ўспрымаў жанчыну-паэтку, але слухаў моўчкі.

Алаіза павярнулася і запытальна глянула на Гразнова, спрытнымі рукамі забрала пад капялюшык распушчаныя валасы і, ціха пакашліваючы, пачала расказваць пра хворых у лячэбніцы. Потым — пра дэманстрацыю ў Нова-Вілейцы. Усё мястэчка як загарэлася. Баявыя атрады Кайлюнаса.

— Страшны народ, калі яго разбудзіць!

— Вам што з таго, паненка?

— Мне? А мне адно толькі...

— Ці толькі?

— ...каб выйшла ў белы свет з гэтай страшнай дамавіны мая радзіма... І не «Северо-Западный...», а — свабодная!

(«І чым толькі ні займаюцца нашы паненкі, калі сямейнага дзела не маюць...»)

Фельчарка і далей вяла сваё.

Гразноў слухаў не перабіваючы. Сёння нараніцы ў яе белым, да хрусткасці свежым пакойчыку ён ніяк не мог зразумець, узрадавалася гэтая жанчына, пачуўшы ад яго Костусева прозвішча, ці толькі здзівілася? Парывіста закрыла рукамі твар і так пастаяла некалькі хвілін. Ён расказваў пра Костуся толькі самае важнае, і яна не перабівала, не перапытвала. Даслухаўшы, парывіста накінула на плечы баваўнянку, кінулася да дзвярэй, на хаду паясніўшы, што трэба дамовіцца пра паездку на Касабуцкую. Падказаў спярша хоць крыху адпачыць перад дарогаю, але яна была ўжо за дзвярыма. Вярнулася таксама даволі хутка, паслала яму ложак («Не-не, кладзіцеся!») і зноў — на дзяжурства.

Уздыхнуў: «Благадаць сну вам, паненка, бачу, не дакучае... І частыя такія дзяжурствы?»

Пацiснула плячамі: як калі!

Цяпер гэтая жанчына чытала яму вершык пра смерць Вінцуля. Чытала так, быццам бачыла ўсё тое на свае вочы і цяпер толькі ўспамінала. І Гразноў сказаў ёй:

— Усялякая пагроза для нашага жыцця, мілая, — гэта стук самога Хрыста, Госпада, у нашыя дзверы. Стукае ён, скажу, часта, каб абудзіць нашы душы. Але адчыніць дзверы толькі аднойчы.

Фурман раптам — «Эх-хе-хе!» — узмахнуў над галавою пугаўём:

— А што, калі ён прыйдзе да нашых дзвярэй сёння, га? Што, калі зноў не адчыніць? І пойдзе?

— Хто ведае.

— Усе цяпер пра гэтую душу толькі і гавораць.

— А што табе наша душа чалавечая?.. У ёй жа ўсё створана: і страсці, і боль. — Грazноў памяў рукамі задубелыя калені, прыслухаўся, схіліўшы набок галаву, да рыпення фуры, перажагнаўся. — І скажу: «Але ж і вялікі ты, Госпадзі, калі даў чалавеку нават тое, што прынадна купляць і д'яблу».

— А не багахульствуй пры нябожчыках! — ускінуўся фурман. — Д'ябал, ён забірае толькі слабыя душы.

— Слабыя? — перапытала Алаіза. — А калі чалавек моцна любіць? Другога чалавека ці ідэю... Гэта што, слабасць?

— Ва ўсякім выпадку, — уголас падумаў Гразноў, — і не сіла, я скажу.

Фурман маўчаў.

Гразноў міжволі залюбаваўся прыгожым абліччам Алаізы, лавіў позіркі яе сумных насцярожаных вачэй. Думаў: хіба не такое магло быць і аблічча святой Саламеі?

Неба, як відаць, не было раўнадушным да пакут гэтай жаночай душы — Алаізін твар здаваўся знутры прасветленым, нават аскетычным, злёгку насупленыя трапяткія бровы выдавалі няспынны ход трывожных думак. А гэты бляск шырока расплюшчаных цёмных вачэй. Праз хваляванне прабівалася тое святло, якога ён заўсёды шукаў у людзях і якога потым доўга, ці не ўсё сваё жыццё, шукаў фарбамі, калі маляваў лікі святых пакутнікаў.

Цяпер ён ужо ведаў — ягоным абразам заўсёды не хапала таямнічай прасветленасці. Нават цяпер, ужо такі стары і нямоглы, ён зайздросціў сапраўдным майстрам, бо яго ўласны пэндзаль так і не спасцігнуў такую мудрую і простую прыроду хараства. І цяпер трэба ўрэшце прызнацца сабе, што ў сваім мастацтве ён зрабіў вялікую памылку. Бо паленаваўся духам, апусціўся да гардыні і не здолеў адшукаць фарбамі ў святых ліках зямны іерогліф жыцця і яго сэнс. А можа, і Евангелле ён чытаў, як той гогалеўскі паштмайстар чужыя лісты, шукаючы толькі доказаў грахоўнасці бліжняга свайго.

Алаіза па-ранейшаму ішла з боку фуры. Шкада, што блізу дарогі ўжо няма арабінак, без іх усё адразу пашарэла і пасуравела.

Грaзноў важка саскочыў на зямлю, і Алаіза нарэшце яго паслухалася, папрасіла фурмана прытрымаць каня, села.

Гэтая дзяўчына, хоць і гаварыла цяпер пра Дзяржаўную думу, яго не раздражняла. І ўсё ж — хіба пра такое дзяўчыне думаць?

А яна нібы пасміхалася з яго:

— А цар загадаў склікаць Думу і кажа: «Вот вам мой указ. Няхай вашы выбарныя прыязджаюць. Як я ім скажу — так і яны скажуць... Гэта і ёсць «народнае праўленне».

Фурман гучна зарагатаў. Усміхнулася і Алаіза.

— Ды ціхенька!.. От-так. — Фурман нацягнуў лейцы, конь, аднак, зноў ірвануўся наперад. — Ціхх! Ты... От, фельчарка, растлумач мне, што гэта будзе за самапраўленне? Ну, мы-то гэтую ласку даўно ўжо відзім, а ўсё ж, — прымяў рукою ўздыбленае ветрам сівое крыло ў густым чубе, — дзе тая праўда? Наш брат цяпер паўсюль у бядзе. А ў бядзе чалавек і сароку паслухае.

— Ну і слухай сваіх сарок! — не вытрываў Грaзноў.

— А ты ціхінька! Хо! Табе аднаму ўсё ясна. А тут жа ў нас такога нагарочана, што й віламі не разграбеш.

— А ў мяне сын і ўнук патанулі, — нечакана для самога сябе сказаў Грaзноў.

— Як гэта? — здзівіўся фурман.

— Пад Порт-Артурам.

— А?! На вайне... Стуль не ўстануць.

Алаіза глядзела на Грaзнова, і ён змеціў у яе шырока расплюшчаных вачах «фіялетавы», як сказаў бы Костусь, агеньчык трывогі і жаласці.

— А вы самі адкуль, пан Грaзноў?

— Дзед з Арлоўскай, а бацька ўжо віленскі.

— У Арле хоць раз былі?

— Ах, вы пра сум па радзіме? У мяне, мілая, гэтае самае паняцце радзімы мае толькі эмацыянальныя межы. Любоў, нянавісць, вера. Мая радзіма, мілая, мае сэрца. Там няма ні Арла, ні Вільні. Няма і цара. І ніякага народа няма...

— Ніякага народа?

— Мы — сляпыя! А для Госпада, мілая, існуе толькі чалавецтва. Чалавек грэшны, чалавек з малітваю... Вось чаму мастацтва павінна ўзвысіцца над

страсцямі зямнымі. — Алаіза маўчала, і Грозноў адчуў, што яна не згодна з ім, раззлаваўся. — Вялікі Мікеланджэла ўсё жыццё ненавідзеў і змагаўся з Медзічы. А потым для іх узвёў велічны саркафаг. Вось так...

— Але ж чакайце, дзядзечка, — расхвалявалася і пачырванела. — Ён увасобіў у статуі Медзічы свой адчай. Яго, вядома, папракалі, казалі, што ён здрадзіў сам сабе...

— Сляпыя. Плявузгалі, што статуя зусім не падобна на Медзічы. А Мікеланджэла адказаў: «Хіба гэта праз дзесяць стагоддзяў хто-небудзь заўважыць?» Ах, мілая, я вас слухаў, ваш верш, і я зразумеў, як моцна вы ненавідзіце забойцаў.

— Але ж іх апетыты ганібалаўскія!

— Вы і напраўду ў тое верыце?

— Напраўду, пан Грозноў, як у амэн. — Засмяялася.

Фурман стомлена мармытаў пад нос нудную мелодыю. Грозноў зірнуў на пасумнелую жанчыну. Яна папраўіла свой клятчасты шалік:

— Пан Грозноў, вы так любіце Мікеланджэла? То нагадаю вам подпіс на адным з яго надмогільнікаў: «Пакліч — і абудзіцца яна!» І скажыце, хіба так рэдка спіць у чалавеку душа? Трэба толькі яе паклікаць, разбудзіць.

— Я разумею.

— І гэтаму можна ўсё жыццё аддаць.

— Значыць, вы хочаце будзіць і клікаць душы?

— Я? Так, я хачу іх будзіць. Толькі ў мяне свая мова. Чуеце?

— Я разумею вас. Я зразумеў — вы з тых, хто піша пра ўсё ўбачанае ў жыцці. Бо вы, мілая, думаеце вачамі. Вы жывяце толькі адной хвілінай. Якую перажываеце.

— Можа. Можа, і праўда ваша. Але ж гэтая хвіліна — не толькі мая. І не адна я жыву ў тую хвіліну. А — цэлыя народы. Хіба не так?

— Я разумею.

— О, дзядзечка, у адну хвіліну можа ўмясціцца ўсё. І смерць. І жыццё.

— І жыццё... — Грозноў глуха ўздыхнуў.

Да Касабуцкай заставалася два павароты. Зноў успыхнулі ўздоўж дарогі маладыя арабінкі, стала весялей.

* * *

Развітанне было цяжкае.

Костусь абяцаў вярнуцца, як толькі ўправіцца з важнымі справамі, праз некалькі дзён. Але Грazноў ужо ведаў, што гэтага не будзе. Дапамог Костусю схаваць чамадан з кнігамі і шрыфтамі ў фуры пад саломаю. Была пятніца, і айцец Сергій меўся прыйсці па абедзе.

Дамавіны з фуры перанеслі ў царкву. Цяпер Грazноў добра прыгледзеўся да нябожчыкаў. У адной з дамавін ляжала яшчэ маладая жанчына з велічнараўнадушным выразам тонкага аблічча. Вочы ў яе былі напаўзаплюшчаны, і з-пад доўгіх цёмных веяў холадна блішчалі дзве вузкія палоскі бялкоў. Здавалася, што яна яшчэ жывая.

У другой ляжаў сівы, вельмі маршчыністы дробненькі дзядок са скрыўленым ротам. Грazноў пачуў сябе блага і адвярнуўся, пайшоў на вуліцу. Алаіза з Костусем чакалі яго каля цвінтарных варот. Калі Грazноў наблізіўся, абое замоўклі, і Грazноў крыху пакашляў, пачакаў.

Першай загаварыла Алаіза:

— Прашу вас, дзядзечка...

Грazноў раптам адчуў такую важкую стомленасць, што толькі лена пазяхнуў. Схіліў галаву.

— Прашу, паедземце з намі. У нас усё чыста лечаць. І сэрца, і грудзі.

— І розум.

— Не крыўдуйце.

— А на каго я пакіну козачку? — Паклікаў: — Ізабэла! Бяжы сюды, дурніца. — Але каза спакойна стаяла каля стажка. — Пашкадуеш у мяне, чортава семя.

— Гэта ваша?

— А то чым бы я гэтага «рыштанта», як некалі мая бабка казала, на ногі паставіў? — Грazноў кіўнуў на Костуся.

А той ужо разаслаў паверх саломы вялікі кажух. Падышоў і абняў Грazнова, моцна прыціснуў да сябе.

— Я прыеду.

— Прыязджай, сынок.

...Гразноў стаяў пад белаю сцяною царквы, глядзеў услед няўклюднай шпітальнай фуры, слухаў, як шуміць у высокіх надмагільных соснах восеньскі вецер і рыпяць вароцечкі.

Потым прычыніў іх, завязаў і паволі пацягнууся ў старожку.

* * *

Аб тым, што фельчарку Пашкевіч, сяброўку Барановіча, можна будзе знайсці ў Нова-Вілейцы, Костусю сказаў яшчэ ў Пецярбургу Вацюк-«тройца». На выпадак правалу.

Але Костусь нават не здагадваўся, што фельчарка ■ Нова-Вілейскай псіхіятрычкі — Алаіза! Яго Алаіза.

Спачатку яго афармілі як хворага. Зрэшты, ён і сапраўды быў вельмі слабы пасля тыфусу. Але праз тыдзень па новым, таксама з Пецярбурга прывезеным пашпарце на імя Іванова Костуся прынялі на службу — галоўным качагарам лячэбніцы.

Цяпер ім была магчымасць сустракацца амаль кожны дзень. Па шрыфты адразу ж прыехаў грамадаўскі друкар «Аганёк». Але справа ■ тыпаграфіяй зацягвалася. Не хапала сродкаў.

Успомнілі аднойчы Коса і тую нечаканую пецярбургскую сустрэчу. Вядома, за шырмаю ў кватэры старога фіна быў сапраўды Костусь... Заступіўшы на працу, цяпер ён яшчэ раз прыхварэў. Ужо запаленнем лёгкіх, праляжаў цэлы месяц. І яна праседзела каля яго без сну і адпачынку, чуючы ў сабе новае пачуццё. І гэта было яшчэ невядомае ёй асаблівае пачуццё невераемнай жаласці і любові. Вялікай любові і жаласці.

* * *

Яны не бачыліся са Стэфаю амаль месяц. І раптам — гэтая кароткая страшная тэлеграма: «Прыязджай паміраем твая Стэфа».

Зноў давялося прасіць Жэню Малкус памяняцца дзяжурствамі. Але ў Вільню выехала ў той жа дзень.

...Доктар яшчэ не паспеў зачыніць за сабою дзверы, як Стэфа зноў палящела на кухню, запаліла пліту і паставіла на яе вялікі саган з вадою. Алаіза не спыняла яе, не перашкаджала. Зрэшты, Стэфа ўжо не валодала сабою і бегала з пакоя на кухню і назад у пакой ад псіхічнай гарачкі. Стэфчына Волечка, спавітая ў старую стракатую коўдрачку, ляжала ў шырокай, але з нізкімі лазовымі сценкамі, калысцы. Пад дзіцячую галоўку, у белай паркалёвай хустцы, яны са Стэфаю асцярожна падсунулі аксамітавую падушачку. Дзіця гарэла ўжо трэці тыдзень, і ніхто з запрошаных дактароў не сказаў Стэфе нічога суцяшальнага, не абнадзеіў.

Пасярод пакоя на доўгім і тоўстым дроце гойдалася невялікая газоўка з бляшаным задымленым каптурыкам над шклом. Стэфа бясцямна таўклася на кухні, і Алаіза падышла да хворага дзіцяці. Лазовая калыска стаяла на вялікім, з меднаю акантоўкаю па вуглах куфры. Куфар быў размаляваны ў белыя і сінія кветкі на цёмна-зялёным фоне. Стаяў недалёка ад акна, падсунуты да самай сцяны.

Алаіза паціху схілілася над калыскаю, але тут жа разагнулася, баялася на хворанькую нават дыхнуць: маленькі тварок і шыйка здаваліся цяпер абсыпанымі дробнымі чырвонымі крупамі. Дзіця задыхалася і разпораз ускрыквала. Нешта трэба было рабіць, але што — Алаіза не ведала. Доктар таксама параіў толькі адно — чакаць, калі міне крызіс.

Алаіза зазірнула на кухню. Саган з вадою густа дыхаў белаватаю параю, але Стэфа, здаецца, нічога не бачыла. Сядзела на табурэтцы, прыхінуўшыся спінаю да сцяны і ўтаропіўшыся ў гэтую белую пару над саганом невідушчым позіркам. Дзіўная, нейкая спакойная бледнасць залівала Стэфчына аблічча. Яшчэ нядаўна такое спакутаванае і цёмнае, яно было цяпер праясненым. І Алаіза зразумела, што Стэфа — спіць. Спіць з расплюшчанымі вачамі, седзячы на табурэтцы. Пасля бяссонных начэй на хвілінку проста аддалілася ад страшнай рэальнасці, ведаючы, што з хворай дачушкай — Алаіза. Таксама стомленая, Алаіза вярнулася назад у пакой, села на вузкі тапчан супроць куфра з калыскаю, выпрастала ногі. І раптам...

І раптам у дзверы пастукалі. Патрабавальна, груба. Але яна сядзела. Не абзывалася і Стэфа. Значыць, не чуе. У дзверы зноў пастукалі, але цішэй. І Алаізу як ударыла — гэта была паліцыя. І імгненна з гэтай здагадкай прыйшла яшчэ адна бліскавічная думка: як жа можна было забыць, што ў куфры, на якім цяпер стаяла дзіцячая калыска, яна якраз і схавала пакунак са сваімі надрукаванымі вершамі. Ды яшчэ экземпляраў пяцьдзесят брашуры «Царава служба». Паднялася і чужымі, непаслухмянымі пальцамі павярнула ключ, адчыніла дзверы. У пакой адразу ж уваліліся двое жандараў. За імі няспешна — Генісарэцкі. Казырнуў ёй сваёй белай, заціснутай у руцэ пальчаткай, загаварыў, быццам яны толькі ўчора сустракаліся. Але яна яго амаль не чула. Хутчэй — здагадвалася: Генісарэцкі паведамляў, што павінен зрабіць у грамадзянкі Залускай па такім-та адрасе вобыск...

Падначаленыя стаялі пасярод пакоя і з гатоўнасцю чакалі загаду.

Алаіза зірнула на іх і нечакана хітнулася, пакой запаўняла ружаватае святло, у якім абодва жандары здаваліся нерэальнымі істотамі, амаль прывідамі. Цяпер баялася аднаго: сарвацца і нагаварыць лішняга. Аднак стрымалася.

Белыя і сінія кветкі на куфры нарэшце паярчэлі. Бачыла, як паліцэйскія падступілі да Волечкінай калыскі і нават прымерыліся ўзяцца за плеценыя круглыя ручкі па баках. Але, пэўна, убачылі, што дзіця хворае, і на хвіліну завагаліся.

Рэзкі крык вылецеўшай з кухні Стэфы заглушыў злосны загад Генісарэцкага: «Узяць!» Але Генісарэцкі ўжо сам падыходзіў да куфра, нават пацягнуўся рукою да калыскі. І тут Алаіза ўбачыла: Стэфа кінулася назад на кухню, але тут жа вярнулася, трымаючы голымі рукамі перад сабою вялізны саган з кіпенем, падбегла да Генісарэцкага. Той хітнуўся назад, але саган ужо выслізнуў са Стэфчыных рук і гохнуўся аб падлогу, пакаціўся. Вар парнаю хваляй плюхнуўся Генісарэцкаму на ногі, абпаліў іх амаль да самых каленяў, мокрыя сінія штаны над ботамі адразу ж пацямнелі. Ашаломленыя жандары павярнуліся да яго, але Стэфа закрычала яшчэ раз. І тут жа змоўкла — у калысцы

жаласна, ціхенька заплакала Воленька. Генісарэцкі лёгка адштурхнуў Стэфу, глянуў на дзіця, перасмыкнуў вуснамі. Адступіўся ад куфра і сказаў Алаізе:

— Я зноў вам хачу сказаць, што вы, мадэмуазель, надзіва неасцярожная асоба. І ад гэтага атрымаюць належнае якраз вашы сябры.

— Пры чым тут мае сябры? Залішне добра я вас ведаю, каб верыць.

— У тым, што я вам казаў, заўсёды было зерне праўды. — Генісарэцкаму, відно, балелі ашпараныя ногі, і ён, з перакрыўленым тварам, адступіў. У бліскучых вачах нечакана ўспыхнула нешта падобнае на спачуванне. Уздыхнуў:

— Ах, і навошта вам гэта, мілыя жанчыны. Лепей бы вы проста любілі, раджалі... — ківунуў галавою на калыску.

Урэшце, падаў знак сваім падначаленым выйсці, узмахнуў белай пальчаткай да какарды, пакланіўся і выйшаў.

Алаіза пабегла на кухню, змачыла чысты палатняны шматок у алеі, вярнуўшыся, асцярожна ўзяла Стэфчыны рукі ў свае, выціра ла апаленыя чырвоныя і чорныя ад сажы далоні, і Стэфа толькі ціхенька стагнала, не зводзячы цёмных ад болю вачэй з прымоўклай Воленькі. Буйныя слёзы каціліся па яе шчоках. І гэта — добра. Добра, што яна нарэшце заплакала. Паднялася і пачала асцярожна прыкладваць да маленькіх, спечаных гарачкаю даччыных вуснаў мокрую марлечку. Зноў і зноў бегла на кухню, каб змачыць яе ў халоднай вадзе.

Ёй нельга было перашкаджаць, і Алаіза стомлена апусцілася на тапчан. Воленька раптам гучна засмяялася, і Стэфа засмяялася таксама, але праз імгненне зразумела, што Воленькін смех — зусім не смех. Тады сумна і безнадзейна глянула на дачку і сказала:

— Адкачалася, мая маленькая.

Алаіза паспрабавала падняцца з тапчана і падбегчы да Стэфы, але ногі не паслухаліся. Стэфа схілілася над калыскаю, паклаўшы галаву на даччыны ножкі. Не плакала і, здаецца, нічога не чула. Не чула нават стуку ў дзверы, толькі лёгка пакалыхвалася ў бакі і нешта шаптала.

У дзверы зноў пастукалі, і Алаіза механічна паднялася і адчыніла іх. Насустрач, нечакана весела і недарэчы гарэзліва, успыхнулі іскрыстыя Костусевы вочы — ажно адступіла назад. Костусь, відно, адразу ж адчуў нядобрае, нясмела ступіў у пакой, схаваў белазубую ўсмешку, запытальна зірнуў на Алаізу.

І раптам Стэфа, якая дасюль нават не абзывалася, імкліва сарвалася са свайго куфра. З чырвоным перакошаным тварам, з раскіданай па плячах чорнай грывай растрэсеных валасоў, нібы звар'яцеўшы, падскочыла да Костуся, пачала біць яго, зніякавелага, кулачкамі ў грудзі.

Але Костусь не адступаў і не адварочваўся. Нават апусціў рукі. І толькі цяпер Алаіза змеціла, што ён прыйшоў з чамаданчыкам. Стэфа, аднак, прыціхла, схамянуўшыся, крута павярнулася да Костуся, нібыта зразумела сваю памылку, прашаптала:

— Прабачце, прашу вас. — Павярнулася да куфра, але не прысела, а стала каля яго на калені, схіліла галаву і затуліла аблічча спаленымі рукамі.

Костусь зірнуў на Алаізу, нібы прасіў прабачэння, паясніў:

— Думаў узяць тваё «Мора» ў «Аганька», а ён даў гэты адрас. Дзе? — Пытаў, вядома, пра лістоўкі, і Алаіза моўчкі паказала вачамі ў бок куфра.

Стэфа не абзывалася, і яны таксама замаўчалі. Аднак Стэфа зразумела, паднялася з каленяў, зірнула на Костуся:

— Ідзіце сюды, трэба аднесці яе на тапчан. — Але сама павольна павярнулася і пайшла на кухню, прыхапіла з падлогі ўжо астылы саган.

Калі яны з Костусем паставілі калыску з мёртвым цельцам на тапчан, Костусь таропка пераклаў пачак і брашуры ў свой чамаданчык. І адразу ж пакіраваўся да дзвярэй. Глянуў на Алаізу.

— Можа, вернешся потым? Костусь? Памагчы трэба.

Згодна кіўнуў.

Воленьку хавалі на Касабуцкай. Гразноў, убачыўшы Костуся з Алаізаю, узрадаваўся, але, даведаўшыся пра прычыну прыезду, моўчкі пайшоў па рыдлёўкі. Стэфа нават не плакала.

Добра ўсё ж, што з імі быў Костусь. Пры вяртанні з Касабуцкай ён ужо на руках унёс спакутаваную Стэфу ў халодны пакой.

А назаўтра Алаіза адвяла Стэфу на вакзал і, аддаўшы на білет апошнія грошы, адправіла яе ў Стары Двор. Напісала бацькам кароценькую запіску-просьбу. Стэфа нават не супраціўлялася.

Добра, што зноў прыехаў Костусь.

Аднак жа трэба было вяртацца ў Нова-Вілейку.

Пачаўся дождж. Да прыгараднага заставалася дзве гадзіны, і яны з Костусем, не змаўляючыся, пайшлі да Вострай Брамы. Уступілі ў касцёл, доўга сядзелі побач, пэўна, думаючы аб адным. Не наважваліся зірнуць адно аднаму ў вочы, але існавала нешта паміж імі такое, што не патрабавала слоў. З хораў паліліся грымотныя і густыя, але ж і такія пяшчотныя акорды. Яны ліліся, здаецца, з самага неба. Тады ўжо яна не стрымала накіпелыя ў душы слёзы, чула, што ў Костусевым сэрцы адбываецца нешта важнае. Важнае для іх абаіх. І што гэтае важнае выспявае менавіта вось цяпер.

Пачала шаптаць словы малітвы, сустракаючы імі новае і такое патрэбнае ёй цяпер пачуццё. Не ведала яшчэ, ці ўрэшце настала пара сапраўднага кахання. Ці гэта было нешта большае... нешта падобнае да вялікай і моцнай, на ўсё жыццё — Любові.

Нанялі фурмана і праз дзве гадзіны былі ўжо ў лячэбніцы.

Костусь, крыху пасумнелы, нямоцна, але ўпэўнена прыгарнуў яе да сваіх грудзей. І хоць яны за ўвесь гэты час не прамовілі ні слова, абое ўжо ведалі, што самае важнае — сказана.

* * *

У Пецярбургу чакалі, чым нарэшце завяршыцца барацьба прыдворных обер-лакеяў з графам Сяргеем Юльевічам Вітэ. Словаблуддзе прыдворнай камарыллі горш за патоп, і калі цемрашалам — не дай Бог — удасца давесці сваё, то сацыялістычныя партыі змогуць адсвяткаваць бяскроўную перамогу.

* * *

— Усё наша грамадства развіваецца ў неадольным памкненні да свабоды. — Вітэ быў спакойны. Дадаў: — А значыць, і да самаўпраўлення.

Мікалай не расхаджваў, як звычайна, па кабінеце, а стаяў за крэслам, у якім сядзела імператрыца. Яна прыязна ўсміхнулася Вітэ, але даволі скептычна прыўзняла бровы:

— Сяргей Юльевіч, даражэнькі... Рускія людзі і самаўпраўленне? Ды ці прагнуць яны самі гэтае свабоды?! Падумайце...

Вітэ, аднак, глянуў толькі на Мікалая.

— Гэтак жа можна было б сумнявацца, а ці добра, што чалавек расце да пэўнага ўзросту. Рэвалюцыя дасюль лезла ў шчэлкі, але вельмі хутка яны ператорацца ў вароты.

Тыдзень назад Вітэ перадаў у канцылярыю двара запіску пра неабходнасць тэрміновых палітычных рэформаў. Але адказу не было. Даносілі, праўда, што Мікалай ужо раіўся з віленскім губернатарам графам Паленам.

Мікалай адступіў ад крэсла, ціхім голасам загаварыў пра тое, што становішча ў імперыі сапраўды нездаровае, а таму толькі палітычныя ідыёты могуць спадзявацца на супакаенне ў бліжэйшы час і што ён жадае ўскласці ўвесь цяжар улады на свайго будучага прэм'ер-міністра:

— А значыць, на вас, Сяргей Юльевіч.

— Ваша вялікасць, я рашуча...

Імператрыца нечакана паднялася з крэсла:

— Я заўтра ад'язджаю ў Данію.

Яна была апранута ў цёмна-вішнёвую сукенку з пышнымі, таго ж колеру, карункамі, і Вітэ падумаў, што якраз вішнёвы тон імператрыцы зусім не пасуе. Моўчкі ёй пакланіўся.

— А вам, граф, я перадам сваю думку з Капенгагена, праз Ізвольскага.

Без сваёй аўгусцейшай Мікалай крыху абмяк. Вітэ ўсё яшчэ з цяжкасцю тушыў у сабе раздражненне.

— Ваша вялікасць, — Вітэ міжволі лавіў позірк імператара, каб ведаць яго рэагаванне, — цяпер вам

давядзецца пераплысці акіян, што ўздыбіўся да дзевятага валу.

Мікалай стомлена прыплюшчыў павекі, прамаўчаў, потым схіліў галаву, даючы знак Вітэ працягваць.

— Я ўпэўнены, ваша вялікасць, што мой карабель і мой курс не шкодныя, а можа быць, найбольш мэтазгодныя для будучага Расіі. Але я не сноб і не шукаю прычыны апраўдацца ў будучым. Усё ж скажу: як толькі ваша вялікасць вырашыць плысці на маім караблі і ўзяць мой курс, то адбудзецца вось што. Не паспеем мы пакінуць бераг, як пачнецца моцная гойданка. Кожны дзень будуць аварыі — ці зломіцца нешта ў машыне, ці абрушыцца нейкая палубная частка, ці хваля знясе неасцярожнага пасажыра. І тады вам, ваша вялікасць, пачнуць нашэптваць... А такіх ахвотнікаў у нас хапае!.. Маўляў, вось калі б вы выбралі іншы карабель і іншы курс... І прочая, і прочая...

— Я павінен зразумець, што ўся гэтая карціна намалявана вамі, граф, толькі з надзеяй прадухіліць магчымыя непаразуменні паміж намі.

— Усё ў волі Усявышняга. Аднак ці не лепей выкарыстаць, ваша вялікасць, гавань, нават самую нязручную, але не выходзіць на падгнілым караблі ў штармавы акіян?..

— Граф, мы прыйшлі да высновы аб дараванні нашаму народу маніфеста. Прашу вас падрыхтаваць прымальны тэкст.

Вітэ схіліў галаву.

Шаснаццатага кастрычніка Вітэ прыбыў у Пецяргоф толькі а палове пятай вечара на караблі (чыгунка баставала).

Змяркалася. Ішоў мокры снег. Вітэ адпакутаваў бяссонную ноч і цяпер ледзь трымаўся на нагах.

Прыёмная невялікага палаца, дзе Мікалай правёў свае маладыя гады, выглядала даволі сціпла. Міністр двара барон Фрэдэрыкс, падняўшыся з-за стала, ветліва і цырымонна павітаўся. Яго прадаўгаватае аблічча з маршчынамі было змрочным, бровы хмура навісалі над невялікімі вачамі.

— Барон, вы перадалі гасудару, што я магу прыняць пост прэм'ера толькі з тою ўмоваю, што ён пагодзіцца з маёй праграмай «Маніфеста»?

— Вядома, перадаў, Сяргей Юльевіч.

— Гасудару лепей выбраць на прэм'ерства каго-небудзь з тых асоб, якім ён таксама даручаў пісаць праекты. Напрыклад, Гарамыкіну. — Вітэ здзіўлена ўбачыў: нягледзячы на электрычнае святло люстры, гарэла некалькі свечак.

Фрэдэрыкс перахапіў яго позірк.

— На выпадак, калі адключаць святло. Та-ак. Скажу шчыра, Сяргей Юльевіч, я перад вашым прыходам цэлую гадзіну ўгаворваў вялікага князя Мікалая. Паверце, я яму сказаў: «Ты павінен узяць на сябе ролю дыктатара!» Цяпер ён — там, — Фрэдэрыкс кіўнуў галавою на дзверы кабінета. І Вітэ раптам супакоіўся, нібыта пасля шторму, пагойдаўшыся на невялікім рыбацкім баркасе, толькі што ступіў на бераг. За дзвярыма кабінета нешта глуха ўпала на падлогу, затым пачуліся цвёрдыя імклівыя крокі. Вітэ адступіў да акна, шыбы якога залівала цёмна-сінім холадам. Упёрся спінаю ў шырокі падваконнік.

Вялікі князь Мікалай — у расхлістанай паляўнічай куртцы, з клятчастаю швейцарскай шапачкай на галаве — рэзка зачыніў за сабою дзверы. Ажно дрогнулі вострыя языкі свечак. Гарачыя блакітныя вочы вялікага князя спыніліся на Вітэ. Праз хвіліну вялікі князь апусціўся ў крэсла каля акна, выпраставў перад сабою ногі ў бліскучых жоўтых ботах. Фрэдэрыкс прастуджана пакашліваў, затуляючы рукою бледныя вусы.

— Гэта маніфест? З канчатковымі папраўкамі? — Вялікі князь глянуў на папку, якую паклаў перад ім на стол Вітэ. Але адказу не стаў чакаць. Павярнуўся да Фрэдэрыкса: — Аднясіце яму.

Фрэдэрыкс моўчкі ўзяў папку і моўчкі пайшоў да дзвярэй, пастаяў перад імі ў нерашучасці, але, пасля недавольнага кашлю вялікага князя, адчыніў іх.

Ён вярнуўся з кабінета Мікалая праз некалькі хвілін, скептычна пацiснуў плячамі.

Вялікі князь глыбока ўздыхнуў, імкліва падняўся з крэсла, зняў з галавы кепачку і кінуў на крэсла. Вы-

няў з кішэні рэвальвер. Вітэ застыў каля акна, але вялікі князь глядзеў толькі на Фрэдэрыкса.

— Ты бачыш гэты рэвальвер? Вось зараз я пайду да гасудара і буду прасіць яго падпісаць «Маніфест» з праграмай Вітэ. Альбо ён падпіша, альбо я ў яго на вачах пушчу сабе кулю ў лоб з гэтага рэвальвера.

Дзверы за вялікім князем зачыніліся.

Здаецца, сам Маркс назваў паўстанне парыжан тысяча восемсот семдзесят першага года «штурмам неба». Можа, якраз яму, Вітэ, давядзецца новы «штурм неба», ужо ў Расіі, адкласці хаця б на дзесятак гадоў?..

Вітэ зірнуў на суровага стрыманага Фрэдэрыкса і зразумеў, што шляхоў для адступлення ў яго болей няма.

* * *

...У залу камяніцы на Георгіеўскім праспекце сыходзіліся служачыя Палескай і Бялага-Сядлецкай чыгунак. Гразноў шукаў у гэтым шчыльным натоўпе Костуся Каранца, але марна. Нарэшце, сабраўшыся з духам, з дапамогаю двух маладых рабочых ускараскаўся на падваконнік бліжэйшага да сцэны акна. Цяпер Гразноў быў упэўнены: тут Костусь яго абавязкова ўбачыць.

Аб тым, што ў нядзелю на Георгіеўскім праспекце адбудзецца сходка, Гразноў даведаўся заўчора, калі на Касабуцкую гару наведаліся няпрошаныя госці. Двое жандараў і афіцэр. Доўга лазілі па цвінтары, нават агледзелі знутры царкву.

Гразноў зразумеў, што «сумленны рэвалюцыянер» Макс усё ж данёс свайму ротмістру на Костуся.

Афіцэр нарэшце зайшоў у старожку і пачаў асцярожна распытваць пра багамольцаў; Гразноў скептычна ўсміхнуўся. Афіцэр успыхнуў, сціснуў рукою ў белай пальчатцы эфес жандарскай «сялёдкі», груба запытаў пра маладога чалавека, які хаваўся нядаўна ад паліцыі ў гэтай старожцы. Маўляў, так, пан Гразноў, вы не маглі тады ведаць, што за птушка прыляцела ў ваша гняздо, але цяпер павінны ўладам дапамагчы.

Але чым? (Гразноў ледзь стрымліваў раздражненне.) Сказаць, дзе хаваецца той самы малады чала-

век. Аднак, майце літасць, адкуль цвінтарны вартаўнік... («Кіньце, пан афіцэр, я даўно ўжо не малюю. І ніякі я не знакаміты мастак. Помніце, у Мусаргскага: «Я — воран!») ...Дык адкуль жа цвінтарны вартаўнік можа ведаць, дзе хаваюцца розныя басякі. Не можа ён гэтага ведаць, бо нават не бачыў, з кім і куды той малады чалавек пайшоў. Ну, што ж. У такім выпадку Гразнову варта пайсці на нядзельную сходку чыгуначнікаў на Георгіеўскім праспекце. Каб пазнаць там Костуся Каранца: а раптам з'явіцца.

Выходзячы са старожкі, афіцэр затрымаўся ў дзвярах, азірнуўся:

— А што гэта за дзірка... у магіле? Там, дзе пліта абвалілася.

— А-а... Ход у «пекла».

Афіцэр паглядзеў на Гразнова, з разуменнем паківаў галавою і, адвярнуўшыся, ціха прычыніў за сабою дзверы. Гразноў зразумеў, што болей яго трывожыць не будуць.

...Побач, захапіўшы большую палову падваконніка, нахабна масціўся малады рудаваты чыгуначнік. Відно, з канторшчыкаў. Акуратна склаў на каленях шынялёк, прытрымліваў яго левае рукою. Праваю сціскаў скручаную ў трубку старую газету, абмахваўся ёю, часта пры гэтым штурхаў Гразнова ў бок. Механічна прасіў прабачэння, але зноў тузаўся і штурхаўся.

Гразноў агледзеў залу. Людзі сядзелі ў крэслах, стаялі шчыльна каля сцен і ў цэнтральным праходзе, тоўпіліся ў адчыненых дзвярах. Над чорнымі шынялямі і над паліто, над суконнымі дэпоўскімі бушлатамі і дзесяткамі бліскучых ад мазуты шапак з чырвонаю акантоўкаю — гайдалася, быццам туман, пара. Шыбкі за спінаю ў Гразнова ўспацелі.

Перад вачамі раптам замітусіліся, пайшлі зігзагамі чырвоныя палосы. Гразноў адкінуўся назад, каб, не дай Бог, не зляцець з падваконніка ўніз. Здалося, што на галаву, асабліва на патыліцу, цяжка налегла цэлая шапка гарачай ваты.

Невысокі пан у светлым паліто, з клятчастым кашнэ ў руках, стоячы на сцэне, гаварыў пра агульную сходку міравых суддзяў. Гразнова раздражняў яго рэзкі фальцэтны тон.

На сцэну падымаўся высокі чыгуначнік у скуранцы, відно, інжынер, з акуратнаю светлаю барodкаю і зачасанымі ўверх над высокім лобам бліскучымі валасамі. Падняў руку, быццам адсунуў даланёю ад сябе нябачную сцяну.

— Мы павінны валодаць сітуацыяй, але — не падстаўляць людзей пад дурныя кулі. Цярпенне...

— Цярпець, што на Георгіеўскім пікеты?! Эх, Барткевіч!

— Не паддавайцеся рэвалюцыйнаму ап'яненню! Гэта небяспечна...

Над залаю ўзляцеў глухі выдых, і нельга было зразумець, што пераважае цяпер у настроі прысутных — здзіўленне, гнеў ці адабрэнне. Грnamoў убачыў: да сцэны, па нешырокім «калідоры», імкліва ішоў даволі высокі сівы стары без шапкі, у светлым шынялі з залатымі пагонамі. Падняўшыся на сцэну, адразу ж загаварыў:

— Тры гады я працую ў поце чала свайго... — падняўся шум у зале. — Народ, да якога я прывык і які палюбіў...

Навокал толькі шум і смех — «Вон паліцэйскіх!».

Грazноў раптам зразумеў: перад залаю стаяў віленскі губернатар граф Пален. На твары ў гэтага, бадай, самага старога расійскага губернатара была спакойная, нават лагодная ўсмешка.

Сусед Грaзнова закашляўся, стогнучы. На іх пачалі азірацца. Пален таксама пачакаў.

Пачаў тым жа спакойным тонам:

— Я прыйшоў да свайго народа сам (рогат залы). Але паверце, зняць вайсковыя патрулі можа толькі генерал-губернатар...

— Сцервы! — У гэтым пагрозлівым выкрыку з залы было столькі злосці, што твар Палена — гэта Грaзноў добра бачыў — пабілі вішнёвыя плямы.

— Я сам вазьму на сябе міратворчую місію і прашу паслаць са мною дэлегацыю.

З залы выкрыквалі незнаёмыя Грaзнову прозвішчы.

З акна біла такім ледзяным духам, што Грaзноў асцярожна злез з падваконніка. Рабочыя навокал яго дружна, як па камандзе, павярнуліся і пайшлі да выхаду. Ледзьве паспеў зняць з падваконніка

цёплую світку. Натоўп груба штурхнуў яго да крэслаў — балюча выцяўся нагою аб вострае паламанае сядзенне.

...На вуліцы пачынаўся дождж. Грazноў адразу ж адчуў, які ён халодны, але прыкрыцца не было чым, пінжак застаўся на зламаным крэсле ў зале. На плячах была толькі важкая калючая хламіда, падперазаная чорным раменьчыкам. Добра, што ён нацягнуў старыя чобаты, і цяпер не баяўся, што адтопчуць ногі. Ён ішоў зусім блізка ад шырокіх плячэй пад залатымі пагонамі.

Натоўп шалеў.

«Будзь цвёрды і мужны...» Падзьмуў вецер, і над людзьмі ўзляцела цэлая хмара рудой і чырвонай восеньскай лістоты. Бездапаможны і бяссільны, Гразноў з жахам адчуваў, што яго вось-вось кіне на губернатарскую брычку, якраз на яе імклівае вялікае кола.

«Толькі будзь цвёрды і дастаткова мужны... Не бойся і не жахайся, таму што з табою Гасподзь, Бог твой, усюды, куды пойдзеш...»

Побач з Гразновым ледзь трымалася на нагах невысокая кучаравая дзяўчына ў светлым палітончыку — сіні шалік зляцеў з яе чорнай галавы на вузкія плечы.

Граф Пален спакойна сядзеў у карэце, з бакоў на падножках стаялі забастоўшчыкі. Першы з правага боку чыгуначнік у скуранцы — Барткевіч.

Ішлі па Георгіеўскім праспекце на Херсонскую. Пален падняўся з сядзення і неяк разгублена заківаў у бакі галавою. Натоўп шалеў.

Сіні шоўкавы шалік суседкі казытнуў Гразнова па твары, зачапіўся за адзіны гузік на яго хламідзе.

...Спачатку Гразноў нават не зразумеў, што гэты часты пошчак і непрыемнае ўедлівае дзумканне каля самых вушэй — не што іншае, як стрэлы. Кучаравая суседка схапілася абедзвюма рукамі за бок — Гразноў тузануў з гузіка свае хламіды сіні шалік, — глянула на яго шалёнымі вачамі і раптам асунулася на мокры, пасланы рудым лісцем брук. Інжынер Барткевіч саскочыў з брычкі і таксама павярнуўся тварам да Гразнова. Пацямнелыя ад дажджу валасы прыліплі да лоба, пасярод якога... Не, якраз над левым, адломленым ад

здзіўлення брывом чарнела дзірачка. Гэта была куля-вая рана, з якой пырскала кроў і два цёмныя струмкі сцякалі па скронях. Барткевіч чамусьці злосна і строга паглядзеў на Гразнова, нібыта збіраўся запытаць у яго пра нешта вельмі важнае, моўчкі паваліўся на тратуар, ударыўся галавою аб ліхтарны слуп. Удар быў глухі, але Гразнову здалося, што ў ягоных вушах раптам лопнуў вялікі бычыны капшук. Далёкім, як з-за сця-ны, здаўся і крык графа Палена: «Не страляць!» Але зверху, ці не з акна трохпавярховага будынка ваенна-палявога суда, зноў прагучаў стрэл. Прыстаў, які стаяў перад брычкаю, павольна, як нехаця, адкінуўся назад, споўз на сагнутыя калені — пад самае кола. Гразноў убачыў, што прыстаў яшчэ зусім малады. З пша-нічнымі валасамі і ружовымі пульхнымі вуснамі.

Граф Пален пахіснуўся. Рукаво яго шыняля было акрываўлена. Наперадзе застыла шэрая салдац-кая шарэнга. Гразноў бачыў чорныя дзірачкі дулаў, але нічога не чуў. Ні людскога тупання навокал, ні плачу і стогнаў, ні крыкаў. Людзі разбягаліся; Гразнова моцна і балюча штурхалі, але ён цярпліва стаяў на месцы.

Кучаравая суседка, лежачы на баку, падціснула ка-лені пад грудзі, зірнула на Гразнова шырока рас-плюшчанымі ад болю вачамі.

Гразноў нахіліўся, але тут адчуў моцны ўдар па спіне. Калені надламіліся, і ён адразу ж асунуўся, сеў, асцярожна прысланіўся спінаю да сцяны камяніцы.

...Гразноў вярнуўся да памяці з адчуваннем нечага непапраўнага. Ён па-ранейшаму сядзеў, прысланіў-шыся спінаю да шурпатай сцяны. Усё ў яго сярэдзіне заклякла. Было холадна. Трэба было падняцца і пайсці дахаты.

Гразноў азірнуўся і толькі цяпер убачыў, якая во-сень усё ж сіроцкая. Дрэвы зусім голыя і з такімі нерухомымі бліскучымі галінамі, быццам яны намаля-ваныя на шэрым небе чорнаю слінаю.

Трывожная памяць вярнула нядаўна вычытанае ў Бібліі: «І ўсплакала зямля крывёю...»

Доўга блукаў яшчэ, як прывід, па апусцелых заву-лачках, нарэшце ўткнуўся лобам у шэры мокры ба-зыльянскі мур. Застыў, успомніў: каля гэтай сцяны

даўно яшчэ, на яго дзіцячых вачах, расстралялі двух ксяндзоў. У шэсцьдзесят трэцім...

Чамусьці прыгадалася — у той самы дзень, калі ён наведаў Нова-Вілейку і расказаў фельчарцы Алаізе Пашкевіч пра Костуся Каранца, па двары лячэбніцы хадзіла некалькі вар'ятаў. «Гэта ціхія, — паясніла яму Алаіза. — Няхай пагуляюць». Гразноў добра запомніў толькі аднаго з іх — худога, галавастага, як дзіця, вельмі старога чалавечка з рэдкаю сівою бародкаю і вузкімі, як у мангола, вачамі.

«Мангол» увесь час нядобра, хітра ўсміхаўся, і менавіта яна, гэтая падкалодная ўсмешка, падняла ў душы Гразнова такую моцную трывогу, што ён некалькі дзён пасля не мог супакоіцца. А можа, сустракаў гэтага «мангола» раней? Але дзе і калі?! Вядома, сустракаў...

Гразноў азірнуўся: вось яна, разгадка! Ён сустракаў яго тут, каля базыльянскіх муроў, яшчэ падлеткам. У тую раніцу, калі ўпершыню ўбачыў, як расстрэльваюць людзей і як пасля на шурпатай сцяне застаюцца беларужовыя мазгі, бо ў аднаго з ксяндзоў раскалоўся чэрап.

Ксяндзоў расстрэльвалі маладыя афіцэры — галавасты «мангол» быў у радзе крайнім і, калі цэліўся, усміхаўся. Васіль Гразноў яго такім і запомніў, з усмешкаю.

Бацька Васіля Гразнова, штабіст графа Мураўёва, ужо ніколі больш сына з сабою на такія відовішчы не браў.

Змяркалася. Гразноў нарэшце выбіўся на даволі шырокую вуліцу. Ішоў, гледзячы сабе пад ногі.

Прыпыніўся толькі на хвіліну, перад тым самым будынкам, каля якога сёння была перастрэлка. Каля ўвахода ў клуб тоўпіліся ўзрушаныя людзі. Гразноў прыслухаўся — абмяркоўвалі заўтрашняе пахаванне ахвяр. Зусім блізка на галінах дрэў былі развешаны белыя сарочкі з крывавымі плямамі. Гразноў падумаў, што душы мёртвых знаходзяцца яшчэ там, дзе не высахла іхняя кроў.

Жахнуўся сваім адчуваннем, голасна сказаў:

— Ты носіш імя, быццам жывы, але ты мёртвы!

Маладзенькі рабочы побач здзіўлена глянуў на Гразнова, але тут жа адвярнуўся.

Грaзноў апрытомнеў. Адчуў, як рука нябачнага анёла раптам зняла з яго вачэй мутную плеўку, і ён успомніў, па-новаму ўявіў перажытае за дзень. А таму здзівіўся, што застаўся жывы і што выйшаў цэлым з чорнага слупа. Толькі цяпер успомніў: так і не знайшоў Костуся.

Акрываўленыя сарочкі на голлі развяваліся ад лёгкага ветру. З неба апускалася ўніз вялікае мёртвае сонца. Грaзноў убачыў: вось яна, высокая, моцная, з чыстым поўным аблічча жанчына, узвышаецца над усім горадам, над людскім натоўпам, над камяніцамі і барыкадамі, трымае над сабою чырвонае палотнішча. Дым ад стрэлаў і агню ахінаў сцяг, крывавыя кроплі сцякаюць уніз... Як на палатне Эжэна дэ ля Круа...

Грaзноў ведаў, што гэтая жанчына, якая ўзнесла ў неба і паказала Госпаду на сцягу кроў ахвяр — сама Свабода, і яна вядзе народ... але куды?

Дзьмуў моцны вецер. Людзі каля чыгуначнага клуба не разыходзіліся.

* * *

Алаіза ўжо даўно не атрымлівала лістоў са Старога Двара. Таму нічога не ведала, і найперш пра тое, як бацькі прынялі Стэфу. Нарэшце, недзе праз тыдні два пасля Стэфчынага выезду з Вільні, доўгачаканы ліст усё ж прыйшоў. Але ў ім — ні слова пра Стэфу, быццам тае ў бацькоў увогуле не было.

Устрывожаная, сабралася да старой пані Залускай.

Але Стэфа аб'явілася ў Нова-Вілейцы раней. І зноў, як некалі на курсах у Лесгафта, здзівіла Алаізу рэзкаю ў сабе зменаю.

У пакойчык флігеля ступіла зусім незнаёмая, модна апранутая, упэўненая ў сабе жанчына з ярка нафарбаванымі вуснамі. Вялікія чорныя вочы з нейкім асабліва прыцягальным бляскам глядзелі на свет з-пад шыракаполага прыгожага капелюша. Годная паблажлівая ўсмешка хавалася ў высокім лісовым каўняры цёплай накідкі.

Радасць сустрэчы зацьміла насцярогу, хоць пытанняў пра бацькоў і Стары Двор Стэфа быццам і не чула. І Алаіза адступілася. Усяму, значыць, свой час.

Весела наразалі кілбасу і вяндліну, прыпасеную для такіх нагод Алаізаю. Па цэнтры стала, засцеленага абрусам, зіхцела бутэлька прывезенага Стэфай шампанскага.

Трэба было б паклікаць Костуся, але той нечакана прыйшоў сам. У новым шэрым касцюме, светлачубы і ўсмешлівы. Выцягнуў з кішэні губны гармонік, іграў «Амурскія хвалі», і яны танцавалі амаль да самай раніцы. І ніхто, ані словам, не згадаў пра Волечку.

Танцавалі нават «пад язык». Стэфа клала на Костусевы плечы тонкія рукі — такая прыгожая ў белай бліщчастай блузцы...

Пасля адводзіла Костуся да Алаізы, папраўляла і без таго акуратна прыгорнутыя пушыстыя валасы, што хвалiста пераліваліся ў жоўтым святле свечкі. Костусь ужо абдымаў вольнаю рукою Алаізу і зноў пачынаў іграць «Амурскія хвалі».

У Нова-Вілейцы Стэфа аб'явілася дарэчы. Якраз вызвалілася месца санітаркі, а таму лёгка дамовіліся з галоўным урачом, што абедзве пажывуць пакуль у Алаізіным флігелі.

Стэфа і сапраўды з радасцю ўзялася за работу, хоць і не такую лёгкую. Аднак пра сваю паездку ў Стары Двор зноў — ні слова.

Выдавала спакойнаю. Пасля таго вечара з «Амурскімі хвалямі» часам пытала пра Костуся, хоць аднойчы Алаіза бачыла, як яна заходзіла ў качагарку — разам з санітарам Лыкавым.

Аднойчы папрасіла Алаізу падмяніць яе на рабоце — выехала на некалькі дзён у Вільню. Вярнулася сапраўды хутка, але Алаіза адразу ж змеціла змены ў сяброўчыных паводзінах. Але ў чым яны — не магла дакладна вызначыць... Стэфа была ўзбуджаная і расказала пра нейкія выпадковыя сустрэчы ў Вільні, але пра галоўнае — і Алаіза гэта адразу ж адчула — ні гуку.

Праз пару дзён Алаізе прынеслі яшчэ адзін ліст ад бацькоў, але пра Стэфу ў ім зноў нават не згадвалася. У Стары Двор, значыць, Стэфа так і не даехала. І дзе была, у каго была так доўга, нікому не адкрывала.

Пасля работы Стэфа ўсё часцей садзілася на табурэтку перад акном і магла праседзець так, моўчкі гледзячы ў шырокі двор, цэлыя гадзіны. І Алаіза зразумела, што даччыну смерць гэтая жанчына, яе сяброўка, перанесла не так лёгка і проста, як здавалася

Часта забягаў Костусь, але ў прысутнасці Стэфы яны ўжо не маглі сябе паводзіць па-ранейшаму. І гэта была не проста звычайная сарамлівасць, ахова пачуцця ад чужых вачэй. Алаіза змеціла аднойчы Стэфчын насцярожаны, нават злосны позірк, упершыню злавіла сябе на прыкрай думцы, што пасяляць Стэфу ў свой флігель ёй усё ж не варта было. Праз хвіліну папракнула сябе ў чэрстваспі.

Стэфа звычайна бегла на кухню гатаваць гарбату і шыкаваць што-небудзь смачненькае.

Алаіза толькі ўсміхалася. Усміхаўся і Костусь. І ёй зноў захацелася, вельмі моцна захацелася пайсці разам з ім у касцёл святога Станіслава...

Костусь ужо знайшоў новага сябра — Кайлюнаса і, як сказала Алаізе Аўгінька Малкус, шчыра заняўся баявой дружынай. Цяпер абодва заняліся пошукамі зброі для дружыннікаў. І Алаізе адразу ж успомніўся ротмістр Генісарэцкі, што ўсё часцей пачаў адведваць сярэдначы свайго бацьку.

Неяк увечары, кладучыся спаць, Стэфа нечакана запытала:

— Ліз, ты яго... кахаеш? Свайго Костуся.

Хацелася пажартаваць, але Стэфа зірнула неяк асабліва строга і сур'ёзна.

— Не ведаю... Нас звязвае, ты ж ведаеш, яшчэ юнацтва. Першае каханне. А яно бывае мацнейшым за... Маё пачуццё... Яно, можа, нават большае, чым проста каханне. Разумееш?

— Большае за каханне? Так не бывае. А ён? Што ён табе кажа?

— А тут словы і не патрэбны. Стэфка, мы ж з табою добра ўжо ведаем, што словы... Пачуццям яны не заўсёды патрэбны.

— Такая ж ідэалістка, Ліз! І за гэта, можа, я цябе і люблю! Аднак — ідэалістка...

— А — ты?

— Пэўна — не. Ужо — не! І ніколі ўжо ідэалісткай не буду.

— Ах, Стэфка, ну, вядома, я яго... Я яго кахаю...

— Тады навошта цягнуць? Мужчын трэба адразу!..

— Чалавек прадпалагае, а Бог распалагае.

— І сама ў шапку не спі. А то Аўгінька Малкус вунь як на яго зіркае!

Засмяяліся. Прыкрае пачуццё, што сціснула сэрца, адразу ж развеялася.

4

На наступны дзень пасля перастрэлкі Пален адаслаў пасыльнага з двума лістамі. Першы — гарадскому галаве генералу Бертгольду з просьбаю, каб менавіта ён асабіста суправаджаў пахавальную працэсію ахвяр перастрэлкі да самых могілак. У другім лісце, генерал-губернатару, раіў не адсылаць у бліжэйшыя дні на вуліцу вайсковыя і паліцэйскія патрулі. Аднак генерал Бертгольд не вытрываў.

Калі раніцаю на Нямецкую вуліцу выйшлі дворнікі, насустрач ім з крыкам «Застралю!» вылецела паўсотня казакаў на чале з афіцэрам. Яшчэ раз пацвердзілася, на думку Палена, бяссілле расійскай паліцыі з яе нязменна тупым: «Асадзі на тратуар!» Узнікла пагроза «чырвонага тэрору», тым больш што яго абяцалі эсэры.

Увечары графа Палена, які асабліва не зважаў на рану ў руцэ, наведаў адзін з яго даўніх сяброў — Аляксандр Харуздзін, упраўляючы канцылярыяй генерал-губернатара. Харуздзін быў худы і высокі, але так падкрэслена ветліва схіляў сваю стрыжаную кораценька сівую галаву, што ніхто пры гэтым волаце не адчуваў сябе нязручна.

Харуздзін выняў з пашарпанай, як у беднага канторшчыка, папкі паперу. Перадаў яе Палену:

— Гэта ад Саюза адвакатаў.

— Усё супраць «Маніфеста»? Гэтыя казліныя рожкі цяпер нам вельмі недарэчы.

— Апошнія вобыскі паказваюць, што ёсць лістоўкі асабліва модныя: «Не страляць у народ!», «Да салдат».

Адна з новых — «Да ўсіх рабочых і работніц Нова-Вілейскай лячэбніцы». Здаецца, ад Беларускай грамады.

— Як сказаў Вітэ, трыццаць пяць працэнтаў іншародцаў, патэнцыяльных бунтаўшчыкоў, не вынеслі ганьбы японскай вайны і запілі горкім рэвалюцыйным запоем...

Пален расхваляваўся і міжволі зірнуў на сваю падвязаную забінтаваную руку.

— Яшчэ і дасюль не працверазелі. Так што — «Уперад, начныя патрулі!».

Харуздзін таксама часта паўтараў гэтую, любімую графам Плятарам, прымаўку. Сутнасць яе заключалася ў тым, што салдаты Парыжскай камуны, перапіўшыся ад рэвалюцыйных поспехаў, сярэдначы выпраўляліся ў горад з воклічам: «Уперад, начныя патрулі!» І потым вярталіся з «паланянкамі».

* * *

Назаўтра віленцы, акрамя розных аб'яў, прачыталі яшчэ і зварот Палена да жыхароў «Краю» пасля падзей шаснаццатага кастрычніка.

— Вы толькі паслухайце: «І я дзякую Госпаду, што той, хто падняў на мяне зброю, змог збегчы... Я радуюся, што яго не бачыў і не магу паказаць...»

— Старая змяя!

Грозноў, як заўсёды, сядзеў унурыўшыся і не глядзеў на суседзяў, толькі прыслухоўваўся да іх раздражнёных галасоў.

— «Не ён вінаваты... Чуеце? ...Не ён вінаваты, а вінавата хвіліна, што даводзіць узрушанага чалавека да бясцямнасці і штурхае яго наперад...»

...Сёння ўначы Грозноў прысніў акрываўленага Костуся Каранца. Абліты халодным потам, прачнуўся і стаў чакаць раніцы, каб пайсці на вакзал. Можа, сустрэне яго там.

Вакзальная плошча была забіта народам. Гаварылі пра «Маніфест».

Зноў задажджыла. Хламіда ў Грознова за дарогу намокла, але ў вакзале высахла — ад гарачага цела.

Урэшце падняў вочы. Побач на лаве прымасціліся два немаладыя, франтаватыя чыноўнікі. Той, хто чытаў заяву Палена, расшпіліў цёмна-сіні шынель і засунуў паперу ва ўнутраную кішэню, скасіўся на Гразнова. Тонкія падфарбаваныя вусікі пагардліва таргануліся.

Гразноў падняўся, выйшаў на плошчу перад вакзалам і адразу ж адчуў таўханіну шчыльнага натоўпу. Прабраўся наперад, падняў з брукаванкі затаптаную, але яшчэ цэлую газету, падумаў, што зноў толькі змарнаваў час, азірнуўся, усё яшчэ спадзеючыся ўбачыць Костуся. І раптам замёр, але не таму, што ўбачыў яго. Але ён — пачуў! Пачуў знаёмы голас — крыху хрыплаваты, узрушаны:

Не такое цяпер мора...

Гэта была яна, фельчарка з Нова-Вілейкі. Але цяпер Гразноў ледзь яе пазнаў. Гарачка хвалявання змяніла аблічча, вочы расшырыліся, здаваліся амаль чорнымі. Вось — парывіста падняла руку, нават, здалося, падалася наперад:

Мора вутлем цяпер стала,
Мора з дна цяпер гарыць,
Мора скалы размывае,
Мора хоча горы змыць!

Навокал шумелі, нехта груба штурхнуў Гразнова ў бок, але ён не мог адвесці ад яе вачэй, пачуў блізка насмешлівы шэпт:

— Што-т-та за круцёлка жорнамі?!

— Маладзец баба!

— Разбіраешся...

Яна, здаецца, нічога не бачыла. Нібыта нейкая невядомая сіла завалодала гэтым худзенькім кволым целам, і аратарка толькі паслухмяна паўтарала тое, што ёй нашэптваў унутраны патаемны голас:

Мора злуе; крэпнуць хвалі,
З дзікім шумам бераг рвуць!
Гром грыміць у сіняй далі,
З мора брызгі ў неба б'юць!

Вострае шыла раптам кальнула Гразнова ў левы бок, ён ад нечаканасці нават азірнуўся, каб убачыць, хто зрабіў яму так балюча, але тут жа зразумеў: шыла

гэтае — унутры. I адразу паспакайнеў, падначаліўся агульнай каменнай нерухомасці натоўпу, які цяпер толькі слухаў.

Растуць сілы мора злога,
У размаху відзен гарт!

Зноў, зноў коле так балюча, што даводзіцца ўдыхаць паветра толькі маленькімі глыткамі. Слухаючы, каб толькі не пачало балець мацней.

Такі бой вякамі жджэцца,
Такі бой гігантаў дасцы!..

Грозноў падняў вочы, але яе ўжо — не было. На тым самым месцы стаяў даволі высокі мужчына ў сялянскім жупане, таксама ўзбуджаны. Нехта крыкнуў:

— Давай, Пазняк!

Да Гразнова даляцела:

— Мы — не Паўночна-Заходні край! Мы — за свабоду!..

Гразноў бачыў: Пазняк, яшчэ нешта крыкнуўшы, падняў над сабою пачак паперы, рэзкім узмахам рукі падкінуў лістоўкі ўверх, і яны адразу ж разляцеліся, закружыліся і затрапяталі над людзьмі. Натоўп зашумеў. Людзі перад Гразновым падымалі рукі і стараліся злавіць паперчыны, але Гразноў не мог нават варухнуцца. Толькі змеціў паблізу знаёмага цыганчука, і той радасна выскаліўся, бліснуў вялікімі зубамі.

На імгненне здалося, што наперадзе стаіць між людзьмі невысокая зграбненькая фельчарыца з Нова-Вілейкі, але падступіцца да яе бліжай сіл ужо не было. Добра, што хоць боль злева паціху адпускаў...

Да сваёй Касабуцкай ён даплёўся толькі пад вечар. Лёгка націснуў на дзверы і ўвайшоў у старожку. Здзівіўся — над сталом, паклаўшы галаву на рукі, схіліўся незнаёмы сівы чалавек. Гразноў гучна кашлянуў, але дзіўны госць яшчэ больш згорбіўся.

— Я зараз грубку запалю, — сказаў Гразноў.

Загадзя нашыкаваныя бярозавыя паленцы і сасновыя смалякі адразу ж шуганулі жоўта-чырвонымі агеньчыкамі, па току паплыў саладкаваты дымок, але праз хвіліну выветрыўся. Грубка весела гудзела.

Зрабілася ўтульна. Госць нарэшце падняў галаву, і Грозноў пазнаў бацюшку.

Айцец Сергій быў у сваёй старой сутане, крыху пацёртай спераду. На худых грудзях цяжка вісеў вялікі сярэбраны крыж.

Грозноў нават спалохаўся — з чырвоных, шырока расплюшчаных вачэй айца Сергія цяклі слёзы. Ён падняў са стала далоні, і Грозноў убачыў на ім лісток паперы. Тады сеў насупраць айца Сергія, спінаю да акна, упёрся ў падваконне. Маўчаў.

— «Сім паведамляем, што афіцэры Вербалоўскай мытні Леў і Пётр Кудраўцавы...» А, значыць, мае сыны... «Кудраўцавы абвінавачваюцца ў кантрабандным перавозе з Эйдкуненя ў Кібарты партыі рэвальвераў Сміта і Весана. Да лістапада Леў Кудраўцаў пераносіў мяккі тавар, шаўковыя хусткі, шкарпэткі і адрэзы ў магазін Фельдмана і Накса». — Грозноў маўчаў, але айца Сергія гэта не спыніла. «Пасля таго як ламавы з Кірбатаў у доме Мільца прапанаваў Пятру Кудраўцаву перанесці дваццаць штук рэвальвераў па дваццаць капеек за штуку, Пётр Кудраўцаў і яго калега Мітрафан Паплаўскі зброю даставілі па ўказаным адрасе, дзе і былі затрыманы...» Пан Грозноў, чуеш, Грозноў... ён мне сказаў... — Голас айца Сергія сіпеў, як прастуджаны. — Ён мне сказаў: «Хто?»

— Ротмістр, які мне гэта даў. — Айцец Сергій кіўнуў на паперку. — Ён мне сказаў: «Праз рагаткі нашай мяжы прасачыцца вельмі цяжка. Аднак вашым сынам такія пераходы ўдаваліся па той прычыне, што на прахадным пункце дзяжурны афіцэр ставіў на білеце адзнаку «туды — назад»... Але, Грозноў, скажы мне, чаму яны гэта зрабілі? Сыны рускага свяшчэнніка! Скажы мне, Грозноў? — З чырвоных вачэй айца Сергія цяклі слёзы. — Чаму — мае сыны? Усё сваё жыццё я аддаў змаганню з д'яблам. А ён — вырас у маёй сям'і і ў маёй крыві, пан Грозноў. Навошта і чаму так?

— Я не ведаю паліцэйскіх законаў, але я дзіўлюся, што яны далі вам усё гэта. — Грозноў паклаў руку на лісток паперы перад айцом Сергіем.

— Яны мне сказалі, што Пётр пераносіў яшчэ і нейкія злачынныя тутэйшыя брашуркі і што яны нават ведаюць, каму іх аддаваў. Яны прапанавалі, па-

прасілі, каб я пайшоў да цябе і даведаўся, дзе можна знайсці таго маладога чалавека, які жыў у гэтай старожцы.

Грзноў рэзка адкінуўся назад, упёрся спінаю ў падваконне яшчэ мацней.

— І тады суд над Пятром і Львом не будзе такім суровым. Яны так паабяцалі. І я ім таксама паабяцаў. Але, пан Грзноў. — Айцец Сергій застагнаў. — Лепей смерць, чым такая ганьба на сівую галаву... Я паабяцаў так. Але калі я сюды ішоў, я ўжо ведаў, што нічога не буду пытаць і прасіць. Д'ябал. Гэта ўсё д'ябал. І яму мала маіх сыноў, Льва і Пятра. Яму патрэбны яшчэ і я...

Айцец Сергій важка падняўся з-за стала, ступіў да дзвярэй.

Гразноў маўчаў.

— Яны пыталі ў мяне яшчэ адно. Ці прыходзіў ад Пятра і Льва да мяне нейкі Антось Луцкевіч. Але я ім нічога не мог сказаць.

Гразноў таксама маўчаў.

* * *

Мінула тры дні. Старожка настыла. Усе тры дні Гразноў не паліў у грубцы. Усё цела круціла і крышыла так, быццам яго кінулі ў жорны.

Гразноў нехаця абышоў цвінтар, задубеў яшчэ больш. Потым прывёў у старожку схуднелую козачку, якая апошнім часам днявала і начавала ў загарадцы каля выскубленага з аднаго боку стажка. Кожны, хто прыязджаў на Касабуцкую, пакідаў ахапак з воза перад старожкаю. За лета Гразноў склаў цэлы стажок сена і капіцу саломы.

Адсырэлыя дровы ў грубцы не хацелі загарацца, чадны смярдзючы дым клубкамі пакаціўся да дзвярэй. Гразноў накінуў на плечы кажух, закашляўся — надрыўна і доўга. Козачка ляжала на залатой саломе і не зводзіла з гаспадара бяздумных вачэй: дзве чорныя вертыкальныя стрэлачкі зрэнак. У дзверы і ў сцены рыўкамі біўся вецер, агеньчык лямпы на стале трывожна міргаў. Газы заставалася толькі на дне, і праз вузкае шкло да столі цягнулася тонкая чорна-дымная нітачка.

Грaзноў доўга раздзьмухваў агонь, не шкадаваў лучыны — у грубцы нарэшце весела загуло. Але Грaзнову было холадна. Так холадна, што касцянелі і не слухаліся рукі. Ён сеў за стол і разгарнуў знойдзеную каля вакзала газету з мікалаеўскім «Маніфестам». Чытаць пачаў, як вясковы школяр, з канца: «Пастанавіць, як непарушнае правіла, каб ніякі закон не мог займець сілу без адабрэння Дзяржаўнай думы». Гэта значыць, пункт трэці. Грaзноў хмыкнуў.

— Ізабэла!

Козачка не звярнула на Грaзнова ніякай увагі. Спакойна ляжала на саламяным падсціле і не зводзіла з яго неміргаючых вачэй.

— Неадукаваная ты каза, Ізабэла! Паслухай, што я табе пачытаю: «...і каб выборным ад народа...» Ты разумееш? Гэта каб і ваўкі сытыя, і козы цэлыя... Ізабэла! Прынесла б хоць вады гаспадару. Істота неразумная... Та-ак: «Заклікаем усіх верных сыноў Расіі ўспомніць абавязак перад Радзімаю, дапамагчы спыніць гэтую нечуваную смуту і разам з намі засяродзіць усе сілы на ўстанаўленні цішыні і міру на роднай зямлі. Дадзены ў Пецярбургу семнаццаты дзень кастрычніка, у лета ад нараджэння Хрыстова тысяча дзевяцьсот пятае, царавання ж нашага адзінаццатае...» Грaзноў ажно пераждагнаўся: няўжо адзінаццатае? Ногі, здаецца, адымаліся. Моцны кашаль раптам схапіў і затрос усё цела, на газету з рота хлюпнула кроў. Грaзноў спачатку нават не паверыў, што гэта сапраўды цёмная пляма ягонай крыві. Лёг на тапчан. Да саланаватага даўкага прысмаку крыві дамешвалася гаркота спакутаванай душы, — Грaзноў выпрастаўся на тапчане ў чаканні Костуся. Альбо, можа, смерці? Смерці альбо Костуся. Хто — першы...

Грaзноў растуліў вусны для малітвы, і адразу зрабілася цёпла. Пацяплела пад калючаю дзяружкаю нагам, палягчэла галаве і грудзям.

...Напэўна, тая доўгая чыгуначная забастоўка кончылася, бо ён цяпер сядзеў у цягніку, ехаў да Уляны і праўнучкі. Дзіўна, але ў вагоне ён быў адзіным пасажырам, а вагонныя сценкі абшыты пазалочанымі квадратнымі пласцінкамі. Гарыць тоўстая свечка ў шклянцы — на століку. Цягнік набірае хуткасць, час-

та стукаюць колы. Гразноў бачыць, што ўпоравень з акном, не адстаючы, ляцяць птушкі з доўгімі дзюбамі, сочаць за ім, павярнуўшы галовы, узіраюцца круглымі ружовымі вачамі. З чорнымі стрэлачкамі зрэнак. Гэта птушкі часу, і Гразноў бачыць, як з іхніх высунутых тонкіх язычкоў сцякаюць уніз кроплі крыві, чуе, як шаргацяць у сустрэчным ветры шырокія чорныя крылы...

Але ці не заляпіла яму ўжо вочы? Гэта ж — вароны. Звычайныя цвінтарныя вароны. Чорныя, тлустыя і дзяркастыя. Кожны дзень над касабудкімі соснамі, да самых хмар, ляціць іх дружнае агіднае карканне.

«Бо час ужо блізка...»

З тае самае ночы, калі да Костуся прыходзілі басякі, Гразноў так і не заткнуў дзірку ўвахода ў «пекла», і цяпер туды, вядома, налілося дажджавой вады. Забыў заткнуць... Раптам моцна загрукала сэрца — тое самае сэрца, якое ён пачуў у «пекле», яшчэ калі абмацваў кіем яго цагляныя сцены і дно. Цяпер тое сэрца — хоць і здалёку — білася трывожна і часта, нібыта прасіла дапамогі.

Гразноў падняўся з тапчана, хітнуўся — перад вачыма хаатычна затанцавалі жоўтыя агеньчыкі. На стале ўжо, акрамя свечкі, стаяла некалькі газовак; Гразноў не здзівіўся. Адчыніў дзверы і выйшаў са старожкі. Паўз беласценную царкву святой Еўфрасінні Полацкай пасунуўся да крыжоў, туды, дзе зялёна свяціўся надмагільны дух.

Дарэмна ён не абуўся. Вязкая ледзяная гразь цвыркала праз пальцы ног. Зямля была гліністая, і Гразноў баяўся паслізнуцца. І ўсё ж — паслізнуўся.

...Роўна застукалі вагонныя колы. У белым, шытым золатам і срэбрам кафтане і ў высокай, упрыгожанай каштоўнымі камянямі кароне перад ім сядзеў міраносны імператар Аляксандр Трэці. Белая рука імператара знерухомела каля свечкі на століку.

— І першае слова Уладыкі нашага: «Радуйцеся!» І другое слова: «Мір вам». — Твар у імператара быў такі бледны і васкова-бліскучы, што здаваўся ледзяным. Гразноў і сам скалануўся ад холаду, пацёр калені. Захлюпала вада, але адкуль яна ўзялася ў гэтым вагоне?

Тонкія вусны імператара не варушыліся, аднак Грaзноў чуў голас: «Ты пачаў сумнявацца ў праўдзе мітрапаліта Уладзіміра, вернага прастолу. Так, сталічнае духавенства раскалолася. — Голас імператара быў сумны. — Чуеш? І вось грэшнікі ў сутанах клічуць у гадзіну смуты на духоўны сабор, каб святая царква аддзялілася ад імперыі. Якая страшная пагроза! І для прастола, і для хрысціянскай веры. Бо не выжыве дзяржава, адлучаная ад святой царквы...»

Гразноў нечакана ўбачыў, што імператар вельмі падобны на Плеве, колішняга міністра ўнутраных спраў, які быў забіты паўтара года назад маскоўскім студэнтам Ягорам Сазонавым і кнышскім мешчанінам Лейбам Сікорскім. Газеты ў той час паведамілі, што Сікорскі сам быў адкінуты ўбок выбухам бомбы і нават страціў прытомнасць. Калі ж прыйшоў да памяці, фанатычна закрычаў: «Няхай жыве сацыялізм — мы сваю справу зрабілі!»

— А цяпер паўтары, Гразноў: «Адчыніліся суды твае». Так сказаў Амінь, міласэрны і праўдзівы. То чаму ж маўчыш, Гразноў? Не верыш? Я прачытаў у вашых газетках такое: «А колькі пахавана маладых сіл пад руінамі разбуранага будынка старой улады... Бяспраўе і насілле падалі адно аднаму рукі і наладзілі д'ябальскую вакханалію...» Ты чытаў гэта, Гразноў? Ах, ты не хочаш... Тады слухай: «Прыслужваў сам сатане, і дапамагалі яму розныя лёкаі ў эпалетах. Замест мясных страў на стол падаваліся чалавечыя трупы, а замест віна ў шкляных бакалах — свежая чалавечая кроў у разбітых чарапах... Вось за што заплоцяць нам і ў пятым калене. Табе заплоцяць, Гразноў!»

Гразноў успыхнуў, раззлаваўся:

— Вы забылі, імператар. Забылі Крывавую нядзелю. Хто вінаваты?!

— Тады я напомню табе, Гразноў, што Гасподзь ушчуваў сваіх вучняў, якія спалохаліся, калі на моры, якое яны пераплывалі, паднялася навальніца. Але яны спалохаліся. Помніце? Ці ім не хапала веры, Гразноў?..

— У мяне ёсць вера!

— Тады чаму ж ты не сказаў людзям, якія прагнуць крыві, пра блізкае пакаранне?!

— Яны не чуюць. — Гразноў ужо не бачыў імператара, але па-ранейшаму чуў яго ціхі голас. — А калі будзе знята сёмая пячатка, зробіцца цішыня на небе як бы на паўгадзіны...

Гразноў перажагнаўся:

— Чаму на паўгадзіны? — Яшчэ раз здзівіўся: — Няўжо толькі паўгадзіны? — Зноў перажагнаўся... і — глянуў уніз.

На шырокім беразе акіяна стаялі цэлыя шпалеры маракоў і афіцэраў расійскага флоту.

— Ідзі і глядзі!

Замільгалі залатыя пагоны і гузікі; сын Гразнова, капітан другога рангу, у белым кіцелі, усміхнуўся яму знізу, бліснуў роўнымі зубамі, завёў нечакана тонкім хлапечым голасам: «В дураках кругом мы, братцы! Распроклятая война!..» Матросы задзірыста падхапілі песню, падмаглі свайму капітану: «Ух-на, ух-на!»

> И видать, не глядя в святцы,
> для кого она нужна! (...ух-на, ух-на-а-а!)

Роўныя шпалеры чорных бушлатаў і бліскучых, ажно біла ў вочы, шнуроў і корцікаў паварочвалі з берага ў акіян; матросы і іх капітаны рашуча ішлі ў ваду — спачатку па пояс, потым па грудзі, па плечы... Песня не сціхала.

Унук Гразнова, гардэмарын, весела выскаліўшыся, таксама пазіраў знізу ўверх і махаў рукою. Пачаў падпяваць матросікам:

> ...Не для нашей благостыни,
> а для прибыли купчине
> ты забрался на Амур,
> прикарманил Порт-Артур!

Гразнову здалося, што ён таксама ідзе ў акіян разам з усімі і таксама захлынаецца. Грудзі разрываліся. Ён ірвануўся ўверх, шукаючы рукамі, за што б учапіцца. Пальцы, і сапраўды, намацалі шурпаты каменны выступ... Дыхаць стала лягчэй.

Але цяпер Гразнову здавалася, што ён бесцялесны і бязважкі, распрасціраецца над празрыстаю, як шкло, акіянскаю вадою і бачыць, якія ўсё-такі ў яго ўнукагардэмарына бледна-фіялетавыя вусны. І раптам гэтыя вусны растуліліся:

— Дзе-ед!.. Кітайскія войскі... пад камандаю генерала Ма («Ма-ма-а... — паляцела над чорна-белымі шпалерамі бушлатаў і бесказырак), — адсунуты на той бок Вялікай сцяны на дыстанцыю... Дзед! Лінія Шанхай — Гуань — Нючжоан... Дзед...

Гразноў кінуўся да ўнука, але пачаў так цяжка задыхацца, што...

Нарэшце прыйшоў той, каго Гразноў так доўга чакаў. Костусеў голас ён пазнаў адразу ж: «Ледзь вывалак!» Так, гэта быў Костусеў голас. Спазніліся б хоць на хвіліну — і хана! Захлынуўся б, бядак, у сваім «пекле».

— Мокры, як шчупак!

— Пад руку вазьмі... Цяжка?

— Як-небудзь ужо.

— Толькі сама, глядзі, не паслізніся.

— Добра. А дождж — скончыўся.

Гэты хрыплаваты жаночы голас таксама добра знаёмы Гразнову. Голас фельчаркі Алаізы з Нова-Вілейкі. Дарога зусім слізкая, цяжка ўтрымацца. Нечакана пачуўся далёкі паравозны гудок.

— Пецярбургскі. Пусцілі нарэшце...

Гэта сказаў Костусь.

Гразноў тарганууся наперад, крыкнуў ад болю і сам пачуў свой крык. Боль у грудзях быў такі рэзкі, быццам разарвалася сэрца і разляцелася, як гарачае вугалле, па ўсім целе.

— Цяпер яму будзе лягчэй.

Праз мутны туман убачыў Гразноў жаночае аблічча. Гэта была яна, Алаіза з Нова-Вілейкі: трымала перад сабою, у вузкім ліхтарным праменьчыку, невялікі шпрыц:

— Усё, здаецца. Палягчэе. Міленькі дзядзечка, як вы? Адзавіцеся...

Гразноў застагнаў, але зразумеў, што нарэшце сапраўды вярнуўся да памяці і ўжо не трызніць. Паслаў позірк у высокае зорнае неба з чырвонаю поўняю. Адчуў спінаю, што ляжыць на разасланым на зямлі кажусе; на гарачым лобе — халодная Костусева рука.

— Зараз мы адвядзём цябе ў старожку. Ну, давай! Бяры мяне за шыю.

Грaзноў паслухмяна тупаў па слізкай халоднай дарозе, потым, у старожцы, спакойна даўся, каб з яго сцягнулі мокрую хламіду. Жаночыя маленькія, але моцныя рукі доўга расціралі яго шурпатым ручніком; ляжаў на тапчане і задаволена маўчаў. Чуў, як апускаецца ў глыбокі сон. «Бо час ужо блізка...»

...Па шырокай бясконцай дарозе, пасярод мёртвай пустыні, ішлі і паўзлі бедныя дзеці-калекі: паралітыкі, ідыёты, эпілептыкі. З успучанымі, як у цяжарных жанчын, жыватамі. Торгаліся і крыўляліся, смяяліся і тузалі адно аднаго за валасы, гулялі.

Гразноў ужо аднойчы бачыў гэтых няшчасных на фотакартках, выстаўленых у вітрыне прытулку Царыцы Нябеснай.

— За што, міраносны? Забіваюць мячом і голадам, і морам, і звярамі зямнымі...

Худзенькі, чыста жывы шкілет, з непамерна вялікаю галавою хлопчык глядзеў на Гразнова і шаптаў:

— Я Бога жаждал — и не знал,
Еще не верил, но, любя,
Пока рассудком отрицал,
Я сердцем чувствовал тебя...

Хлопчык падняў рукі і дакрануўся пальцамі да падбародка Гразнова.

Гразноў ведаў, што гэта сон, але не мог прыпыніць яго. Дзеці-калекі неслі перад сабою ў мяшэчках вялікія васковыя лялькі з берлінскага музея Кастана. Кожная лялька абавязкова што-небудзь трымала ў руках — птушку, шаблю, пісталецік, бутэльку на металічным ланцужку — і ўсё гэта таксама смешна торгалася, падскоквала, прытанцоўвала ў густым жоўтым пыле пустыні. Пыл не даваў Гразнову дыхаць, праз сціснутае болем горла вырваўся рэзкі нядобры кашаль.

Нехта паднёс да ягоных вуснаў халодны медны кубак, у рот палілася вада, і Гразнову стала лягчэй.

...Каля дарогі стаялі тры жанчыны ў доўгіх чорных сукнях. Ён так часта маляваў іх на абразах, што адразу пазнаў — і святую Марыю Магдалену, і святую Саламею, і тую, што паднесла яму вады, — святую Еўфрасінню Полацкую.

— Скажы, Еўфрасіння, хто адваліць нам камень ад дзвярэй дамавіны?

Еўфрасіння зірнула на Гразнова цёмнымі бліскучымі вачамі, сказала: «Чакай!» Зноў прыткнула да яго вуснаў халодны кубак з вадою. Ледзяны струмок змейкаю пабег на грудзі, Гразноў уздрыгнуў і — прачнуўся. Расплюшчыў вочы. Над ім у высокім небе прыветліва міргалі ранішнія блакітныя зоркі. Рыпелі колы. Ён ляжаў на возе, прыкрытым кажухом. Спінаю адчуваў ломкую салому. Твар лагодзіў ранішні свежы ветрык. Аднак усяму целу па-ранейшаму было горача, так горача, што ў грудзі быццам біла духам з распаленай печы. Паклікаў Костуся, але над ім схілілася Алаіза:

— Дзядзечка, як вы? Ужо хутка даедзем. — Гразноў памкнуўся падняцца, але яна не дала, прытрымала за плечы: — Чакай, дзядзечка. Нельга...

— І Еўфрасіння сказала чакаць. Чакай, сказала, і дачакаешся.

— І памаўчы. Ціхенька ляжы.

— Ужо не чутна будзе... І голасу тых, што на гуслях іграюць, і тых, што спяваюць і на сваіх жалейках іграюць, і тых, што трубамі трубяць у небе...

— Ну што мне з вамі рабіць? — ...не будзе ўжо ў табе ніякага мастака, ніякага мастацтва...

— Дай яму папіць, Алаіза.

Гразнову прыўзнялі галаву — вуснамі адчуў цвёрды край кубка, выпіў крыху. Закашляўся, але ціха, набраў у грудзі паветра.

— ...І шуму ад жорнаў не чутна ўжо будзе ў табе... І галасоў жаніха і нявесты не будзе ўжо чутна ў табе...

Гразнова раптам ударыў такі моцны глыбокі кашаль, што захісталася павозка. Адразу ж пачуўся саланаваты прысмак крыві. Так захацелася жыць, што ён зноў, з усяе сілы, ірвануўся, каб сесці на возе, — і паляцеў. Паляцеў уніз, на гарачую дарогу пасярод пустыні. Бухнуўся на калені і прыпаў вуснамі да цвёрдай, чамусьці прапахлай ёдам рукі Еўфрасінні, глядзеў на яе праз слёзы, узіраўся ў спакойнае беднае абліччa з пякучымі цёмнымі вачмі і ружовымі вуснамі.

— На ніве чалавечага развіцця, — сказала Еўфрасіння, — народы сеюць слязьмі і крывёю. Крывёю і слязьмі. Бо час ужо блізка...

А па дарозе праз пустыню валачыліся старыя нямоглыя калекі, але не дзеці, а ўжо зусім пасівелыя старыя. Як хутка ўсё ж выраслі і як хутка людзі пастарэлі на гэтай дарозе. І цяпер прагнулі толькі аднаго — апынуцца за Брамаю. Блізу Брамы на белым кані сядзеў Ён — у белай, вышытай срэбрам і золатам тозе, дакранаўся сваім бязважкім мячом да кожнага, хто набліжаўся... Дзьмуў гарачы вецер, на зубах хруснуў пясок. Гразноў хацеў выплюнуць яго, але сліны не было. Гразноў сам ішоў да Брамы, баранаваў здранцвелымі пятамі гарачую дарогу. На імгненне здалося, што ён бачыць паблізу кастлявае гарбатае стварэнне. Прыгледзеўся, зразумеў, што гэта — ягоная няшчасная праўнучка, якая ўжо дайшла да Брамы. Апярэдзіла дзеда.

Гразноў пачаў азірацца, шукаючы вачамі худзенькую постаць Уляны. Але не. Уляны перад Брамаю яшчэ не было.

Уздоўж дарогі ўзвышаліся цэлыя цацачныя горы — з папяровых кветак, васковых нямецкіх лялек, пеўнікаў, парыжскіх мамзэлек з блакітнымі халоднымі вачамі... І цэлыя завалы брудных лахманоў і стаптанага абутку. Той, хто сядзеў на белым кані і трымаў у руцэ свой серабрысты бязважкі меч, глянуў на Гразнова з такім болем і такім спачуваннем, што Гразноў асунуўся на падломленым калені, распластаўся і прыціснуўся да гарачай пустыні.

— Даруй мне, Госпадзі!

Падняўся і паглядзеў. Той, хто сядзеў на белым кані, плакаў. Белая тога вольна развявалася за яго плячамі ад спякотнага ветру пустыні. Конская грыва пасівела ад ліпкага пылу.

Тунель дарогі блізіўся да брамы.

Гразноў пабег наперад, але неяк нечакана для самога сябе натыркнуўся грудзьмі на вастрыё празрыстага мяча, аднак адчуў зусім не боль, а такую радасць і палёгку, што здзіўлена і шырока расплюшчыў вочы.

Ён ужо не спаў і не трызніў. Нарэшце ўбачыў расплывістае ў густым ранішнім тумане аблічча Костуся Каранца і зрабіў спробу ўсміхнуцца.

Паўгадзіны яго цішыні на зямлі кончыліся.

## 5

### З ДАНЯСЕННЯ ГЕНІСАРЭЦКАМУ

«Звяртаю ўвагу Вашага правасхадзіцельства на падрыхтоўку выступлення ўрачоў Коўна. Калі насельніцтва Краю чатырнаццаць мільёнаў, то на аднаго ўрача — па чатырнаццаць тысяч чалавек.

Эпапея з Ілжэдзімітрыем мясцовай выпечкі (Міхаілам Жакам) працягваецца. Цеста мясцовай інтэлігенцыі Валкавыскага пав. Выпечка наша. Міхаіл Жак — настаўнік Кененскага народн. вучылішча — каналля і сялянскі аратар. Інфармацыя паступае — ад старасты Івана Лойкі.

*Пецярбург. 18—23 кастрычніка.*

Новая роля Вітэ — перагаворы з рускім народам. Але гатовы да тэрарыстычных актаў дзяржаўнага маштабу. Аблуднасць і цемрашальства народа — самыя заганныя вынікі загаднага дзяржаўнага ладу. Аднак без гэтага Расію цяжка ўявіць.

Даношу факт прыезду ў Пецярбург А. Пашкевіч на вечар «беларускіх танцаў». Выбыла ў Вільню на наступны дзень. Галоўная сустрэча з Вацлавам Іваноўскім. Размова — аб стварэнні беларускага выдавецтва.

*18 снежня. Пецярбург*

Нарада рэдактараў у Вітэ: «Свабода слова не азначае свабоды друку!» І гэта — сапраўднае аблічча Вітэ.

*Майшаголе*

На кватэры ратніка другога разраду Янголіна знойдзена: наборная рама, пяцьдзесят пяць запалкавых каробак са шрыфтамі, два долаты, драўляны валік, абцягнуты сукном. Знойдзена: пачак лістоў са Львова, іматрыкамацыйная карта слухача інжынернага аддзела Львоўскай політэхнікі. Жыў у доме тэхнікаў на вул. Ісаковіча. Расшукваўся намі з канца чэрвеня. Экспертамі Каралеўскага суда выдадзены більярдныя кнігі, таксама кнігі асвятлення і ацяплення. Запіс газы пачынаецца толькі з верасьнёўскай рубрыкі. Нідзе подпісу Янголіна, які нібыта быў загадчыкам паліва, няма. Амбіцыі «Майшагольскага міністра» пасля абвяшчэння ўказаных фактаў упалі, так як цалкам разбураюць прад'яўленую следству версію.

Алаіза Пашкевіч пастаянна ўдзельнічае ў сустрэчах урачоў на кватэры Клевезела. Сярод іншых — прыезджыя з Вільні, вядомыя Вам Вігілёў і Сцяпан Кайрыс. А. Пашкевіч выступіла на тайным сходзе работнікаў лячэбніцы, які адбыўся 21 кастрычніка блізу мясцовых могілак. Аднак у тэрарыстычных актах не ўдзельнічала. Як можна заўважыць з выступленняў, Алаіза Пашкевіч — беларуская нацыяналістка.

Вядомы Вашаму правасхадзіцельству К. Каранец пад прозвішчам В. Іванава працуе качагарам лячэбніцы. Месца сховы прывезеных ім з Пецярбурга шрыфтоў высняецца.

Даводжу да ведама: на захаванні ў А. Пашкевіч — дзвесце экземпляраў «лятучых лісткоў» пад назваю «Мора».

Згодна пратаколу, у арыштаванага В. Чыжа было знойдзена дадаткова:

а) План мясцовасці павета і Ашмянаў, выкананы сіняй, чорнай і чырвонай фарбамі. Выдзелена: «дарога на Варапаева», «дарога да доктара», «дарога да С. Двара», запытаць пра А. П.

б) Форма квітанцыі на ахвяраванні.

*Коўна, Лідскі павет, Варшава*

...сім даводжу, што на апошнім сходзе «Драўгаса» намеціўся канфлікт паміж Міцкявічусам-Капсукасам і Феліксам Дзяржынскім, які выступіў з рэзкай крытыкай Янулайціса і Кайрыса. Галоўнае для літоўцаў — перапраўка літаратуры на літоўскай мове з-за мяжы. Адкуль дакладна — высняю. Дапускаю ўдзел Антона Луцкевіча. Брашура «Царава жніво» ад Беларускай грамады карыстаецца папулярнасцю значна большай, чым «Зварот Сінода да хрысціян аб пакаянні і пакоры».

Тутэйшы «Адэмос» шалее, аддаючы справу веры «на жор палякам».

Звяртаю ўвагу Вашага правасхадзіцельства на асобу Амброзія Кастравіцкага — інжынера Лідскай чыгункі, які тройчы цярпеў ад нападзення невядомых узброеных асоб. Мяркую, прычыны палітычнага характару.

Па звестках агента Аляксандру Ельскаму ў Варшаву з Вільні перададзена наступнае: «Тутака таксама ёсць людзі, што пераламылі кніжачак крыху. Падрыхтавалі «Першае чытанне для дзетак». Прасочына лінія Коўна — Вільня — Нова-Вілейка.

...Звышпрыцягальная мадам Стрэк з заезджага вадэвільчыка «Бядовая бабулька» заўважана ў коле вядомага Капсукаса. Высняю. Актывізацыя мясцовых католікаў дайшла да вышэйшай стадыі. У кафедральным касцёле барон Рап зноў маліўся па ахвярах Порт-Артура. — З чорным катафалкам.

Не абышлося і без графа Плятара з цэлым вывадкам гімназістаў.

*Мінск. 18—20 снежня*

Рэпетытар Мусін-Пушкіна (малодшага) разам са сваім падапечным арыштаваны проста ў рэстаране «Шато дэ Флер» пасля вясёлай паездкі ў Трокі. Гімназіст з «траецкага саслоўя» прад'явіў наступнае: «Я толькі быў у патоку дэманстрантаў. І мы пайшлі да турмы. Але чырвонага агню я не нёс і ні разу не стрэліў. Потым, разам з вызваленымі вязнямі, пайшлі на вакзал. Я запомніў прозвішча начальніка цягі: Жабо. Ён узяў чырвоны сцяжок і выступіў. Яшчэ выступіў малады афіцэр, ён пераламаў на трыбуне шашку. З боку маста пачалі страляць. Але ні ў мяне, ні ў маіх сяброў зброі не было. Толькі пана Гофмана забілі. Асабіста я лёг на зямлю, потым падпоўз да кандытарскай».

Што ж, наша гісторыя напісана крывёю, але мы не чакалі, што задумы цёмных сіл прывядуць да такога жніва!

*Альф».*

* * *

Алаіза стаяла, прыхінуўшыся спінаю да дзвярэй, і ніяк не магла прымусіць сябе павярнуцца да дзвярэй і адчыніць іх, зайсці хоць бы ў сенцы. Стэфа, пэўна, даўно ўжо спіць, і Алаіза не будзіла б яе, але ў лячэбніцы нечакана, як і заўсёды поначы, аб'явіўся д'ябал у плоці — сам Генісарэцкі. Папрасіла паглядзець за сваімі палатамі Жэню Малкус і хуценька дахаты — забраць і перахаваць лістоўкі.

Па нізкім небе плыла яркая тугая поўня. І ад яе святла белая суцэльная лава маладога снегу перад Алаізаю трымтліва ўспыхвала вялікімі, як гранёнымі, шкельцамі буйных сняжынак. Зіма сёлета ранняя. Ад снежнага насту падымалася і струменіла ў бакі святоч-

ная велічная яснота. Вось толькі мароз яшчэ зусім нямоцны. Значыць, гэтае нечаканае хараство нядоўгавечнае, і хутка наступіць адліга. Блакітнае рэдзенькае серабро быццам пераліваласся ў глыбокай чашы і тонка звінела. Адно перад вачамі цямнела стужка сцежачкі, нядаўна пратаптаная ад самай лячэбніцы да флігеля. Праз усю прастору струменіла ўвысь велічная яснота.

Але чаму так глуха ў душы? Няўжо толькі ад сустрэчы з Генісарэцкім? Вось калі пашкадавала, што не аддала Антосю Луцкевічу ўсе лістоўкі. Некалькі пачачак ляжалі цяпер пад ложкам у яе старым чамаданчыку. Больш надзейнай схованкі і не прыдумаеш!

Сцежка да флігеля была раўнюткая, бы чыркнутая алоўкам на чыстай снежнай паперы.

І, нібы гэты чорны на зімовай белі шнарок, душу расцінала незразумелая трывога. Захацелася нават пабегчы назад, але тут жа згадала Генісарэцкага, прыкрыкнула на сябе: знайшла час патураць настрою!

Акно флігеля было цёмнае, толькі бялелі, адбіваючы снегавы бляск, фіранкі.

Нарэшце ціхенька, каб не разбудзіць Стэфу, адчыніла дзверы і зайшла ў сенцы. Пасля празрыстасці ў двары тут было асабліва змрочна і цёмна. Адразу ж адчула, як моцна змерзлі ногі. Асцярожна, з выцягнутымі перад сабою рукамі, ступіла да дзвярэй у пакой. Намацала ручку і лёгенька пацягнула да сябе. Дзверы бязгучна падаліся. І раптам яна адступіла назад — з пакоя даносіўся нейкі цяжкі грудны стогн Стэфы. Працяло: хворая! Але тут жа дагнала яшчэ адна, больш пэўная гідкая здагадка — слых выразна ўлавіў рыпенне ложка. І зноў стогны, але не глухія, а хрыплa-пяшчотныя. Адчула, як грудзі абдала ліпкая гарачыня, загрукала ў скронях. Цяпер ужо не магла варухнуць нагамі. Але не магла дапусціцца, каб тыя, на ложку, пачулі яе прысутнасць.

Ліхаманкавы, перарывісты шэпт Костуся — так, гэта быў Костусь — адразу ж быццам расшчапіў Алаізіны пальцы. Тут жа крута павярнулася, штурхнула дзверы з сенечак у двор і — пабегла. Яна ляцела па чорнай сцежцы сярод святочнай і велічнай зімы, нават не ўзіраючыся сабе пад ногі. Моцна затуляла вушы

далонямі, але зноў і зноў усё чула. І тыя Стэфчыны стогны, і задыханы ліхаманкавы шэпт мужчыны.

Жоўта-чырвоная поўня ўжо затапіла галаву і горача ціснула ў скроні і лоб. Сэрца, здавалася, было кінута ў атруту. Гаркота расцякалася на грудзях. Падступіла нервовае ванітаванне. Адчула, што цяпер, вось так адразу, пайсці на дзяжурства яна не зможа. Доўга, не чуючы ног, блукала па мястэчку. Потым пайшла на станцыю, перачакала, стоячы на вузенькім пероне, таварняк. Слухала, як металічна тахкаюць колы.

Сэрца не балела. У яе ўвогуле ўжо нічога не балела. Але боль быў. І такога моцнага нечалавечага болю ва ўсім, цяпер чужым, целе яна ніколі яшчэ не адчувала. І гэтым болем была яна сама. Думкі. Пакутлівыя думкі... І зноў у вушах — тое!.. Нарэшце боль пераплавіўся ў здзіўленне, быццам сама ў сябе пыталася: «Што гэта? Што ж адбылося?»

Вярталася да лячэбніцы на дзяжурства і сама сабе адказвала: «А нічога страшнага не адбылося. Звычайныя рэчы».

Боль, аднак, зрабіўся ўжо ўсюдным, вусны запекліся. Але — нічога. Усё благое міне. Паўтарала сваё «нічога» сотні разоў. Як заклінанне.

Нарэшце вярнулася на дзяжурства. Доўга сядзела ў дзяжурцы, паклаўшы на стол стос паперы. Чакала, што вылье нясцерпны боль у словы. Было тры гадзіны ночы.

Нарэшце быццам крыху супакоілася і сабралася пісаць ліст. Невядома каму. Сабе альбо Костусю. І раптам адчула, што сёння не зможа напісаць анічога. І гэтае прыкрае адчуванне страты, згубы нечага вельмі важнага ў жыцці — зусім не прыдумка ці какецтва, а скарэй прадчуванне сапраўднай блізкай бяды. Прадчуванне таго, што жорсткі лёс усё-ткі не адступіцца, не адпусціць яе са сваіх няўмольных абдымкаў, але пачне ўсё мацней сціскаць...

Увесь апошні час яна намагалася адагнаць ад сябе холад, не зважаць на позірк шалёных жоўтых вачэй наканаванага, што так часта цікавалі за ёю... То на вакзальным пероне, то пасярод лясной дарогі, калі за спінаю, крок у крок, ішоў забойца. Але нават гэта — драбяза. Бо чалавечая здрада ўспрымаецца іначай.

Здрада, хлусня і — расчараванне. Вось калі па-сапраўднаму пачынеш... баяцца!... Найперш — саму сябе.

Успомніла пра Костуся, пачула ўнутры палын...

А можа, гэта ўжо даўні палын вымушанага манаства? Ці справа ў нечым іншым. Хоць бы ў тым, што не можа чалавек так проста пераламаць у сабе прагу кахання і грэшную пажадлівасць, грэх цялесны і прагу гэтага граху.

Ах, як часта ёй здавалася, што ўнукі, калі яны будуць, — болей за ўсё пашкадуюць яе, Пашкевічанку, не за тое, што яна памрэ зусім рана, а гэта адчувала, але за тое, *як* яна памрэ. І гэтае «як» цяжкае, быццам само нявер'е. Так часта ў апошнія месяцы здавалася, што навокал разліваецца жывая смерць. Што варта працягнуць руку да таго ж Костуся ці да каго іншага і пальцы адчуюць не трапяткую цеплыню цела, а толькі мармуровы холад. І гэта холад... страчаных мрояў і далёкіх зорак, нязбытых ілюзій, што толькі пасміхаюцца над намі ў сваёй велічнай халоднай вышыні.

Раніцаю, здаўшы дзяжурства, яна ішла дахаты зусім спакойная. Тым сябе і суцяшала. Хаця добра ведала, што спакой гэты выбуховы. Ішла, падняўшы галаву. На двары пачалася адліга. Абцасы боцікаў выціскалі ў снезе сцежкі круглыя ямачкі, што адразу ж цямнелі. Снег навокал паволі асядаў. Пастаяла каля дзвярэй, стрымліваючы зябкае лекаценне. Нарэшце прымусіла анямелую руку ўзяцца за клямку. Увесь час яна толькі прымушала сябе нешта рабіць. Цяпер трэба было ўсміхацца. Можна толькі ўявіць гэтую ўсмешку. Але, дзякаваць Богу, нікога па дарозе не сустрэла. Пастаяла перад дзвярамі.

Нарэшце спакойна ўвайшла ў пакой. Стэфа не спала.

— Так і ведала! І гарбатка гатова. — На Стэфчыным твары не прамільгнула ні ценю сораму. — Ты што такая? — У голасе толькі мяккая спагада і заклапочанасць. — Т-ты што такая?

— Якая?

— Не, не ведаю... — Стэфа ўжо накроіла хлеб і паставіла на стол падносік з цукарніцай і шклянкамі. Потым прынесла глыбокую талерку з кілбасою.

— Стамілася ты. Паеш. Аднак што здарылася?

— Нічога.

— Не, не ведаю. Ты нейкая... — упершыню за ўвесь час Стэфа зірнула на яе больш уважліва.

Не хацелася падымаць галаву і ўсё ж сустрэлася з насцярожаным позіркам вялікіх цёмных вачэй. Не рашылася загаварыць, нібыта гэтаю ноччу тут з Костусем была не Стэфа, а яна сама.

— А да мяне ўчора ўвечары, калі ты на дзяжурстве была, сяброўка адна прыехала, не-не, — Стэфа, відно, змеціла Алаізін здзіўлены позірк. — Ты яе не ведаеш. То я ўжо, прабач, яе тут паклала.

Стэфа разлівала гарбату з меднага чайніка.

Не прамовіўшы ні слова, Алаіза стомлена паклала на край стала галаву, і лоб прыемна халадзіў крыху шурпаты, прывезены з хаты кужэльны настольнік.

Нарэшце падняла галаву, здаецца, нават усміхнулася Стэфе, запытала:

— І дзе яна, твая сяброўка?

— Пайшла ўжо. На прыгарадны. У Коўна з'ездзім на колькі дзён. Там у яе сястра.

— Значыць, і ты паедзеш?

— Ну, прабач. Я з галоўурачом дамовілася... А знаеш...

Стэфа не дагаварыла, і Алаіза змеціла ў яе вачах прытоеную трывогу. Але тут жа сама адвяла позірк убок.

А Стэфа ўжо прымервала капялюш.

— Як ты думаеш, холадна не будзе? — запытала, але, відно, адказу не чакала. — Я ўжо і гарбаты не паспею папіць.

— Бяжы.

Стэфа нахілілася, выцягнула з-пад ложка загадзя падрыхтаваны дарожны чамаданчык, імкліва пацалавала Алаізу ў шчаку і таропка ступіла да дзвярэй. Нават не азірнулася.

...Ужо трэці дзень Алаіза нікуды не выходзіла, трохі прапаліла ў грубцы. Прыбягала Жэня Малкус: «Зноў саплівіш? Скажаш мне... Я ж бачу. Уся гарыць, а яшчэ... Ладна, ляжы, падзяжурым. Я вечарам падскочу».

Алаіза ляжала ў ложку, і падымацца ёй зусім не хацелася. Ляжала ў ложку гарачая і стомленая, нібыта ўся пабітая. Боль нарэшце перамясціўся толькі ў левую частку цела, і ўвесь левы бок прашывалі пякучыя вострыя голачкі.

Цяпер, успамінаючы тарпкія ўцёкі Стэфы, ужо ведала, што ўхапілася за тую раніншнюю гаворку з сяброўкаю, як за саломінку. Проста яшчэ раз хацела прымусіць сябе не верыць таму, што чула на ўласныя вушы. Не верыць — і ўсё. Нічога — не было! Яго тут — не было! Хавалася пад коўдру, нават нацягвала на галаву злямчаную падушку, крыху супакойвалася, на хвіліну засынала, але нават у сне слых вяртаў з тае ночы... усе гукі... Цела пакрывала вільготная гарачая ліпкасць. Раз-пораз ляцела ў бяздонне вогненнага калодзежа... І не здагадвалася, што яе адносіны да Костуся, яе пачуцці, аказваецца, вось такія!..

Нарэшце — прачнулася, пачуўшы ў сэрцы распаленую голачку, паднялася, механічна пацягнулася на кухню, каб наліць хоць халоднай гарбаты, і раптам... раптам пачула хрыплаваты голас, які адразу пазнала: «...А я, як адбіты ад статка жораў...» З вачэй хлынулі слёзы. Пачулася так блага, што села за невялічкі кухонны столік, закрыла далонькмі гарачы твар, але вочы, знаёмыя вочы, так, гэта былі вочы Ажэшкі, цёмныя, вялікія, суровыя, зноў глянулі на яе і зазіралі проста ў сэрца, у яго балючую рану. «Гэта ж як мала, Алаіза, як мала каля нас праўдзівых людзей, калі падумаць. Бо так мала вераць у бессмяротнасць душы. Хаця думаюць, што вераць у Бога».

Усім сваім целам, усёй сваёй збалелай душою Алаіза настолькі выяўна і моцна адчула каля сябе прысутнасць Ажэшкі, што зноў пачула глухаваты знаёмы голас: «Ах, мілая Алаіза, вера ў бессмяротнасць душы, у яе сапраўдную ўнутраную цягу да Боскай мыслі, да Боскай мэты — вось... Вось рэлігія. Яе чыстая сутнасць. А без гэтага чалавек не ўмее ні мысліць, ні цярпець. Без яе і я даўно пакінула б гэты свет. Бо ён такі чужы палёту маіх думак. Але ж, Алаіза, паверце мне... Прыйсці да Бога можна толькі па адной дарозе! Праўды і міласэрнасці. І беражыцеся, мілая, бойцеся, бяжыце ад спакусы на каленях выгандляваць у нашага

Пана жменю злотых заместа сапраўдных промняў святла. О, як добра ў апошнюю хвіліну прынесці Пану Езусу сваё сэрца на шчыце хараства!»

Цёмныя вочы зноў пазіралі на Алаізу са спачуваннем, але ж і самі нібыта прасілі літасці...

Але ж гэта... Але ж гэта ўжо — не Ажэшка. О, так, гэта была ўжо Стэфа Залуская. І яе цёмныя вочы аб нечым пыталі, нешта прасілі, нешта паяснялі, але што — цяжка было зразумець. Як цяжка было зразумець і тое, як жа гэта можна чалавеку змяніцца так хутка...

А можа, мая мілая Алаіза Пашкевічанка, ты [redacted] самага пачатку памылілася, не разгледзела, хто ж такая ў сапраўднасці Стэфа Залуская.

А Костусь? Яе Костусь!

Але ж — ціха. Эгаізм — суддзя няпраўдзівы. Тым болей — рэўнасць...

Адно добра, што абое з'ехалі ў сваё Коўна. Іначай сустрэча з Костусем была б...

І ўсё ж сустрэча адбылася. Адбылася вельмі хутка.

Алаіза толькі паднялася і з асалодаю выпіла свежай гарбаты.

Падумала: «Вось і выздараўліваю!» Але як гром з яснага неба:

— Ось як мы тут?!

— Антось! Ты на якой ступе ўляцеў? Ну, зноў дзверы адчынены...

Радасна абдымала Антося Луцкевіча — з чырванаватым ад холаду тварам, але такога вясёлага. [redacted] любасцю глядзела на яго:

— Пацэліў якраз на гарбатку. Налью, чакай. Ах, паглядзіце, а які ў яго капялюх! Не дзіва, што нос задзёршы...

Але расседжвацца не выпадала. Антось похапкам выпіў шклянку гарбаты і адразу ж намерыўся ісці да Костуся. Сказала, што таго, можа, і няма, пачырванела, але Антось нічога не заўважыў. Толькі зноў прыспешыў.

— А ты, мой Антосік, бачу, свецішся. Зноў нешта?..

— А ты як думаеш, Цётка?

— Слухай...

— Не-не! Чакай. Так табе ўсё адразу і скажы!

Антось ужо нацягнуў шэрае і па модзе доўгае паліто. Вочы яго гарэлі, і Алаізе імгненна перадаўся гэты бадзёры настрой.

Засмяялася і, ні аб чым дрэнным болей не думаючы, таропка накінула на плечы мяккую цёплую хустку. Толькі ў дзвярах на імгненне, быццам хто штурхнуў у грудзі, завагалася, зноў пачуўшы... тыя гукі... Але пасаромелася Антося, выбегла ў двор.

Яна ішла да Костусевага флігеля не спяшаючыся. Толькі слухала за сабою энергічныя Антосевы крокі — падганяў.

Снег яшчэ не сышоў, але пашарэў. Антось нецярпліва пакашліваў і соп. Ледзь не засмяялася, але яны былі ўжо каля самага Костусевага флігеля. Галаву перапаўняла ціхае роўнае гудзенне, хоць Костуся, ведала, няма.

Аднак Костусь быў. А значыць, Стэфа паехала без яго.

Сама добра, што ў пакоі быў яшчэ і санітар Лыкаў. Антось адразу ж адвёў Лыкава да акна і пашаптаўся хвілінку, але Алаіза ведала, што ён толькі вычэквае зручны момант, каб пагаварыць з прыціхлым Костусем.

Нарэшце пераняла дыханне і — азірнулася. Костусь сядзеў за сталом насупраць акна ў левай сцяне. Бачыла яго ўсяго, але як у тумане, бачыла нізка схіленую светлую галаву.

Лыкаў нарэшце пайшоў. Антось задаволена пацёр рукі, стаў каля стала. Алаіза пераняла позірк на акно, але ўбачыла толькі брудную шэрую пляму.

Антосеў голас быў радасны і моцны ад хвалявання:

— Знаходзіцца адзін чалавек для «Нашай долі». Вы разумееце?! Нейкі даражэнькі Тукеркес! Малады злёдак. Але пакуль тое, ёсць справа больш тэрміновая. Ну, то колькі ў нашай касе цяпер? Учора гаварылі са Сцяпонасам.

Адарвала вочы ад аконнай пляміны:

— Зноў у Вільні?

— Табе ручкі цалуе!

Засмяялася, але прамаўчала. І тут, нечакана, сустрэлася з сіняй бліскавіцай. Костусь, відно, увесь гэты час не зводзіў з яе вачэй.

— Ну, то вот, дарагія! — Антось пачаў ужо адчуваць нешта нязвыклае, пільна зірнуў на Алаізу, але працягваў з тым жа імпэтам: — Знайшлі мы для твайго «Мора», Цётка, яшчэ адну друкарню. Экзэмпляраў дзвесце абяцалі задзешава. Трохі даплацім на паперу.

— І многа?

— Не важна, Цётка! Грошай у нас на тое хопіць. Добра, а што вы такія як вараныя? Аднак, браткі, не маю часу, — зірнуў на гадзіннік. — Да прыгараднага хвілька. Так што пабягу. Ты калі паедзеш? — Ужо да Алаізы.

Задумалася:

— Два дні — на дзяжурстве. І адразу ж.

— Добра. — Антось перавёў позірк на Костуся. — Вазьму ў цябе грошы — і ад'ю — бывайце!

— У мяне — няма...

Костусёў голас быў непазнавальным. І яна адразу ж усё зразумела, хаця зразумець было цяжка. Тады зірнула Костусю проста ў вочы. І ўбачыла. Яна... убачыла такую балючую пакуту і такі затоены жах, што хацелася нават падысці да яго, узяць у свае далоні бледнае схуднелае Костусева аблічча, супакоіць.

Антось яшчэ нічога не разумеў:

— Чаго няма?

— Грошай.

— Чаго?!

— У мяне няма грошай, — яшчэ раз паўтарыў Костусь.

— Гэта ж чаму няма? Мы столькі збіралі!

— Антось... — Антось павярнуўся да яе. — Прашу, чуеш, я цябе вельмі прашу... Няма — значыць, няма. Я думаю, Костусь мусіў іх аддаць.

— Каму? Як гэта аддаць?!

— Я цябе вельмі прашу...

— Дарэчы, твой жа верш трэба выдрукаваць. Тваё дзіця!

— Я прашу.

Антось рэзка павярнуўся, шырокімі крокамі ступіў да выхаду, моцным ударам адчыніў дзверы. Але развітаўся ўжо ціха.

Пайшла і яна, але не вытрывала і на парозе азірнулася.

Зноў — тая балючая сіняя бліскавіца і трымценне бяскроўных вуснаў. І толькі адно, хрыплае:

— Яна — паехала...

Выбегла, але скіравалася не да лячэбніцы, а да станцыі. Спяшалася, каб застаць Антося, але на паўдарозе спынілася. Падумала, што ўсё роўна не змажа нічога расказаць. І, зразумеўшы тое, змяніла накірунак, павярнулася да свайго флігеля.

Адразу ж, ледзь не ў дзвярах, сцягнула з сябе хустку і важка апусцілася на табурэтку за сталом. Схапіла аловак, які заўсёды тут ляжаў. Ні аб чым, здаецца, не задумваючыся, пачала пісаць: «Скрыпка грае, скрыпка плача...» Паўтарыла напісанае ўголас і тут жа пачала запісваць новае: «А музыка ў душы плача...» — перадыхнула, але зноў — за аловак. «...сціісне струны, смыкам жахне, аж ад болю народ ахне. Чорны вочы...» — убачыла перад сабою бліскавіцу, паўтарыла: «Чорны вочы бліcь слязою, струны стогнуць пад рукою. Сам музыка з скрыпкай зліўся і, як вецер, ў неба ўзвіўся...» — далей запісвала, не паўтараючы аніводнага радка, хаця верш нараджаўся ў адну хвіліну. І яна запісвала яго хутка і лёгка:

Весь у песні, весь у тоне.
То смяецца, то зноў тоне...
То людзей усіх абніме,
То адступіць, камень кіне...

Уздыхнула, але не спынілася:

Як маланка на прасторы,
Свеце, гасне, ціхне, млее,
Ўместа агню іскрай тлее...

Яна пісала — і плакала. Але не ведала, чый боль плача цяпер у ёй. Свой ці чужы... І чыя бяда так моцна працінае сэрца...

Ледзь бачыла паперу, але зноў пачала імкліва запісваць:

Рука стала, смык згастрыўся,
Бы змяя — у скрыпку ўпіўся...

У дзверы — пастукалі. Нясмела, як просячы адчыніць. Падышла, стала і прыслухалася.

Зноў пастукалі, але ўжо гучна, патрабавальна.

І яна адразу ж, у адно імгненне адчула, што за дзвярамі стаіць... бяда. Адступіла да стала, але яе ўжо гучна паклікалі:

— Ты — дома?!

Тады бягом вярнулася да дзвярэй, адкінуўшы абрыдлыя цяжкія прадчуванні:

— Сцяпонас? Ты?..

А ён ужо цалаваў халоднымі вуснамі яе мокрыя ад слёз, як у малой, шчокі.

І яна зразумела, што ўсе гэтыя доўгія блытаныя гады чакала якраз вось гэтых суцяшальных і самых патрэбных ёй цяпер пацалункаў.

Каля брычкі, што стаяла недалёка ад флігеля, нецярпліва тупаў, азіраючыся на іх, малады вазак.



# РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

*(ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА)*

* * *

*Галіцыя. 1905—1906 гады*

— Як можна было дапусціць гэтую крывавую стычку паміж студэнтамі? І такое — у старэйшым універсітэце Аўстра-Венгрыі! У адным з лепшых універсітэтаў Еўропы! А вы, барон, правакуеце новыя ўспышкі нянавісці.

— Ваша высокапраасвяшчэнства...

— Два дні на Лычакіўцы[1] стаіць адкрытая дамавіна з нябожчыкам... На вуліцах — пекла!

— Ваша высокапраасвяшчэнства?! Яны дорага заплоцяць за смерць Патоцкага.

— Вам мала ўласнага граху? Сёння мы атрымалі дэпешу з Вены. Кароль абураны.

— Абураны? Нам знаёма цана падобных заяў Франца-Іосіфа. Але ж Аўстра-Венгрыя не ведала яшчэ такога дзікага забойства. Мы страцілі ў Галіцыі не толькі годнага каралеўскага намесніка, але — незвычайнага чалавека.

[1] Львоўскі цвінтар.

— Гэты нарыў нацыянальнай барацьбы за Львоў, урэшце, за панаванне над краем усё больш набухае, барон. Аднак скальпель тут не патрэбны.

— Затое Пецярбург моўчкі цікуе, а хто ж у нас каму перарэжа горла. Мы — украінцам ці наадварот: яны — палякам!

— Ваша сляпая катэгарычнасць для мяне зусім не новая. Аднак прашу памятаць, дзе знаходзіцеся, барон.

— Прашу прабачыць, Ваша высокапраасвяшчэнства.

— Сёння ж, праз гадзіну, трэба пахаваць нябожчыка.

— Але дазвольце мне выклікаць з Тарнопаля ўзмоцнены гарнізон. Паверце, нас ужо не трывожаць студэнты-русіны, але ваяўнічасць польскай часткі львавян насцярожвае. Ускіпеўшае мора паднялося над ватэрлініяй. І гэта — у нашым найпрыгажэйшым горадзе! Еўропа ўсхвалявана!

Мітрапаліт Шаптыцкі адвярнуўся. Глуха сказаў:

— Прадстаўце ўсё, барон, волі Божай.

Разам з усімі Алаіза ішла ўздоўж трамвайнай лініі. Вузкія вёрткія трамвайчыкі нязвыкла застылі і нават не перазвоньваліся.

У канцылярыі універсітэта ёй павінны былі сёння ўручыць пасведчанне вольнаслухачкі, дзеля гэтага ўрачыстага моманту нават пазычыла ў Маланні Бордун прыгожы капялюшык, але на рагу Саксаганскай шлях перакрыў вайсковы ланцуг.

Украінскія студэнты і жыхары Львова ішла бясконцым патокам у кірунку да Лычакоўкі. Тысячная грамада рухалася як анямеўшы. І гэта ўражвала больш, чым крыкі ці стрэлы.

Ішлі на пахаванне ўкраінскага студэнта, забітага ў перастрэлцы паміж універсітэцкімі палякамі і ўкраінцамі.

Вось яно, дзікунства, змагацца з якім пад сілу толькі Часу! Але ступіць на Лычакоўку ім не дазволілі. Двое, праўда, прарваліся праз вайсковы пікет, але тут жа былі арыштаваны.

Вярнулася амаль поначы... Капялюш, пазычаны ў Маланні, згубіўся недзе. У вузкім, з высачэзнаю столяю, звонкім калідоры былога кляштара, дзе цяпер

жыла, яна прысела за невысокі столік насупраць акна. Калідор запаўняла густое святло поўні, што цягнула свае празрыстыя рукі праз шыбкі ажно да супрацьлеглай сцяны.

Села, сціснуўшы аблічча ў далонях. У скроні грукала. «Хацела б быць я рэчкай быстрай, аббегчы родны край!» Паднялася, пайшла па гулкім калідоры. «...дзе напаіць, а дзе скупаць, а дзе ўтуліцца ў гай... — шаптала як бясцямная. — То зашумець, то зашаптаць, то спаць ў салодкім сне! То зноў сарвацца, зноў гуляць, агнём кіпець у дне...»

На плячах была цёплая бавоўнянка. Тады спусцілася па шырокіх прыступках уніз, на першы паверх, выйшла, не зважаючы на здзіўленага дзяжурнага, з будынка. Ішла ўверх па вузкай брукаванай вуліцы. Шаптала: «...Украсці сонца, зноў спусціцца, болей свету людзям даць!..»

Нарэшце дайшла да трамвайнага прыпынку. І хаця была ноч, але нерухомы трамвай раптам ажыў. Яна паднялася ўнутр і ўбачыла іншых пасажыраў. Трамвай калыхнуўся, пабег. Міма бібліятэкі, Нацыянальнага музея, потым ніжэй. Убаку засталася плошча з помнікам Міцкевічу.

«...Альбо ветрам абярнуся ды над светам пралячу, цёмным віхрам закручуся...»

Услед за трамвайчыкам сунулася да самай Пасічнай жоўтая лупатая поўня.

Сама Алаіза не пайшла б на Лычакоўку, але ўбачыла нечакана сярод іншых пасажыраў Маланню Бордун са свечкай.

Усе спускаліся да цвінтара па вузкай сцежачцы між бярозак і асін.

Свежая магіла чарнела недалёка ад правага ўвахода ў цвінтар. Зусім блізка ў агароджы ўзлятаў у начное неба серабрысты надмагільны мармуровы анёл.

Чалавек дваццаць, узяўшыся за рукі, абступілі свежы грудок, асветлены поўняй і запаленымі свечкамі. Сівая старэнькая ў чорным няўцешна плакала. Людзі маліліся: «Господи міцний, Господи безсмертний... Дай нам сили...»

Яна вярнулася пад раніцу. Але заснуць не магла. Хадзіла па гулкім шараватым калідоры, шаптала: «Я —

пасланец, вецер буйны, прыляцеў на суд вас звацы! У нас цёмна, край наш хмурны, ад цямноты людзі спяць. Я там біўся, я там віўся. Я ім хаты паламаў... А ўсё ж такі не дабіўся, каб народ свой голас даў!..»

Рыпнулі паблізу дзверы.

— То що, знову не спиш?

— Сплю! Сплю.

Раніцаю да яе ў госці прыйшоў Іларыён Свянціцкі. Следам у пакойчык ступіў усмешлівы Вітак Чыж. Прынёс радасць — свежы нумар прывезенай з Вільні «Нашай нівы».

Мінуў месяц.

Магутны манах-базыльянін у чорным, з вялікім смуглым тварам і густымі бровамі, моўчкі правёў іх ва ўнутраны дворык. Алаізу папрасіў пачакаць: да шэрай сцяны прыткнулася лавачка. Падбадзёрыўшы яе ўсмешкай, Іларыён Свянціцкі пайшоў услед за манахам у кляштар.

Перад Алаізаю ў той жа момант спыніўся маленькі, з жывымі калючымі вачамі свяшчэннік у чорнай рызе. Здзівілася, але праваслаўны святар ужо прымошчваўся на другім канцы лавачкі, касіўся на Алаізу.

— Погода, кажется, идет к бабьему лету.

Згодна кіўнула галавою.

— Вижу, госпожа хорошая — не здешняя. Откуда же?

Стрымана адказала. Аднак жа хутка ўцягнулася ў гаворку, хаця добра ведала, што на Львоўшчыне тэма палякаў і русінаў забаронена.

Асабліва для прыезджых.

— Священники навіть за святу сповідь кажуть себі платити. А без курки и корони навіть Отченашу за дурно не хотите замовити. — Адказвала толькі пагалічанску, хаця і рабіла памылкі...

— Вы преувеличиваете, госпожа хорошая. Если бы поляки помнили, что Польша первоначально была оглашена учением восточного православия, а предки полякующих были православными, то те и другие легко перешли бы в недра православной церкви и тогда на деле составили бы с русскими семейное единство!

Важкія дзверы зарыпелі. Да Алаізы шпаркім крокам падыходзілі манах са Свянціцкім, але пакунка з яе

матэрыяламі і папкі з вершамі ўжо не трымалі. Іларыён задаволена ўсміхаўся. Манах кальнуў Алаізу чорнымі вачамі:

— Ми зможемо надруковать ваши дописи, тільки...

Запабеглівa ссунула бровы.

— Його високопреосвященство митрополит Шептицький...

— Та ні, ми маемо на увазі тільки вартісць паперу.

— Це не головне, брате мій!.. — Свянціцкі нерваваўся.

— Звісно, пане Свентицький, ми зробимо для пані все можливе.

Ужо выходзячы за Іларыёнам на вуліцу, пачула глухі бас базыльяніна:

— З цим просимо звертатися тільки до Львова...

— Но это же так просто!

У калясцы, акрамя іх з Іларыёнам, сядзелі яшчэ двое. Аб нечым ціха спрачаліся. Стомленая, улаўлівала толькі асобныя словы — «...а адвокати русини, а лікарі, а потарі... чи зроблять що хлопови за дурно?..» — «в равній мірі мені ненависна і Австрія Габсбургів, і Німеччина Гогенцогернів...».

— Т-ти... хо.

З утульнай, забудаванай невысокімі акуратнымі драўлянымі і цаглянымі будынкамі Жоўквы выязджалі давольныя: зборнік Алаізіных вершаў і беларускі малітоўнічак[1] для дзяцей будуць надрукаваны.

Хаця дарога па ўзгорках здавалася дастаткова ўезджанай, але ж быстрая і лёгкая каляска неміласэрна торгалася ў бакі, наскокваючы коламі на вострыя камяні.

— Вось так, білоруска!

— Хіба што ў вашых уніятаў паратунак і знайду. Ах, Іларыён.

— Разам пашукаем.

Пад'язджаючы да Львова, здзівілася невераемнай колькасці коннай паліцыі. Тратуары таксама былі запоўнены. Іх спынялі, нават правяралі дакументы.

---

[1] Рукапіс малітоўніка бачыў у Жоўкве ксёндз А. Станкевіч у 20-х гадах. Аднак асобнага выдання не было.

Але, убачыўшы Свянціцкага — правую руку мітрапаліта Андрыя, адварочваліся.

* * *

Цёплая львоўская восень цікавала за імі з высокіх залатых крон Стрыйскага парку. Паўсюль разлівалася кляновае золата і медзь.

Як з глыбіняў сярэднявечча, з нетраў старога парку патыхала сырасцю і, адначасна, старой перасохлай карою, ствааламі. Недалёка ў рэдкіх мітуслівых промнях верасня блішчалі фарбаваныя ў зялёнае парэнчы мосціка праз равок. Уладарылі толькі таямнічасць, спакой і птушыны ціхі шчогат.

Старыя пані ў капелюшах з вуалькамі выгульвалі гладкіх, але вёрткіх сабачак.

Наведвальнікаў у парку было зусім мала. Рэдкія прахожыя часам ветліва кланяліся, перакідваліся словам-другім з Іларыёнам.

Да лавачкі, на якой яны са Свянціцкім, смеючыся, каштавалі прывезеную са Старога Двара хатнюю кілбасу, падыходзілі двое. У адным — невысокім, з каленькаю, рудым пышнавалосым чалавеку — адразу ж пазнала Івана Франка.

— Адже не уявляю розвитку соціалізму у нас!

Другі, даўгалыгі і чарнавусы, з суровасцю на маладым хударлявым твары, узрушана працягваў, відно, раней пачатую гаворку:

— О так, пане Франко, я не Шекспір і не маю таких претензій, але ж мова...

— Якщо ви не вважаете себе великим майстром слова, а вартість ваших оповідань залежить од вашего хисту змалювати вірно народний побут, то тим бильше передайте мову і правопис оцінці спеціалістів.

— Однак тепер настала така цудасія...

Франко нечакана павярнуўся да Алаізы, кіўнуў галавою, як добрай знаёмай, хаця пазнаёміліся яны зусім нядаўна.

— Звідки приїхали?

Маўчала, але ўступіў Свянціцкі:

— З Жовкви.

Франко зноў зірнуў на Алаізу.

— Хочете заснувати свою оселю на порожньому білоруському місці? А може, помиляюся? — Гэта ўжо да Свянціцкага.

Той у адказ звыкла ўсміхнуўся.

З боку вуліцы данеслася гучнае конскае цоканне.

Франко павярнуўся да свайго маладога калегі:

— Як би вони захотіли мене втягти в ту «коломийку» з пропагандою католіцизму, я мусив би на старість наслідувати Лютера!

Алаіза не стрымалася:

— А хіба можа творца жыць і працаваць без веры? Не разумею вас...

— Адже подумайте лише про політичні хисти деяких громадьских діячів.

У гаворку ўступіў малады пісьменнік, імя якога Алаіза яшчэ не ведала:

— Вони просто хочуть перемазати Львів із столиці Галичини на столицю Малопольщі... Ах, якій велетеньский вчинок, пане! Цей замах — перша ластівка української свободы.

Франко зноў імпульсіўна павярнуўся да Алаізы, нават падняўся, схіліў вялікую рудую галаву.

— Як сказала наша Леся, цілувати руки варто тільки батькам! Однак же — дозвольте, пані...

Праз хвіліну трое мужчын — Франко, яго суразмоўца і Іларыён Свянціцкі — ужо адыходзілі па дарожцы ў глыб Стрыйскага парку. Дамовіліся, што Алаіза дачакаецца іх вяртання...

Высока над галавою шалясцела залатое лісце каштанаў. Заплюшчыла вочы: такога шчасця, такой еднасці з ўсёй прыродай, што цяпер акружала яе, такога спакою яна даўно ўжо не адчувала.

...Праз гадзіну ў сваім пакоі — вузкай келлейцы былога агромністага жаночага кляштара, даведалася ад суседкі самае важнае: раніцою, калі яны ездзілі ў Жоўкву, у Львове адбылося новае дзікунства: пры адкрыцці ўкраінскага факультэта была... перастрэлка.

Блізіліся летнія вакацыі.

Алаіза спешна збіралася на свой філасофскі, але ў дзверы моцна пастукалі. Таго, хто ўвайшоў у яе келлейку, пазнала адразу ж. Да таго ж незнаёмы згадаў пра іх кароткую сустрэчу ў Стрыйскім.

— І як здароўе шаноўнага «Каменяра»?

Далей іх размова ішла на мове галічан.

— До панечки ми всі маемо таке прохання... Таке прохання!..

— Вы ж ведаеце, што я заўсёды гатова памагчы.

Праз хвіліну зразумела, што просьба няпростая ды і небяспечная — выехаць са Львова ў Вену, потым праз кардон — разам са студэнтам, які значыўся ў чорных паліцэйскіх спісах па справе замаху на графа Патоцкага. Дала згоду, бо сапраўды верыла, што Зэнак ні ў чым не замешаны. Выязджаць рашылі праз два дні. Надумала спыніцца на сваёй Лідчыне, але дома часта не аб'яўляцца. Можна месяц які перабыць у лесе.

* * *

*Лідчына*

— Стэй!

Іх з Зэнакам нагналі адразу ж за Васілішкамі. Ураднік Пяткевіч, а з ім маладзенькі жандар з мясцовых загадалі Яну, бацькаваму вазаку, павярнуць назад, і праз гадзіну Алаіза ўжо сядзела за сталом у будынку васілішкаўскай жандармерыі. Зэнака, пад аховай жандара, трымалі пакуль у суседнім пакоі.

Пяткевіча Алаіза не раз сустракала ў Іваноўскіх, заязджаў ён і да бацькі. Цяпер задумліва ківаў галавою.

— Ці хоць ведаеш, любка, што гэта з забойствам Патоцкага звязана? Таго, забойцу, гвалтам вызвалілі. Пэўна, свае ж хахлы. Цяпер у Амэрыцы. Ёсць звесткі, што твой Зэнак замешаны.

— Дзядзько, Зэнак і муху не скрыўдзіць... Не тое што ў нейкіх тэрарыстах хадзіць...

— Не хапала нам яшчэ праблемы Аўстра-Венгрыі рашаць... — Пяткевіч махнуў рукою ў бок насцеж расчыненага акна. — Аднак пра вас, веш, свае данеслі. Толькі свае, любка! І што будан, і дзе ў лесе, і што сама ты ў Мякішы прыходзіла. Гэта толькі свае ўгледзелі.

— А хто?

— Каб сам ведаў хто... З воласці загад. Добра, што трапіў у мае рукі. Ну, з табою прасцей. Трохі, — панізіў тон, — ...трохі падмазана. А хахла... — Паказаў рукою на дзверы ў суседні пакойчык. — Хахла, пэўна, этапіруюць у Львоў. Лістоўкі... — Паклаў важкую руку на пачак лістовак перад сабой. — Добра, што

на іхняй мове. Як вышчэсцвенае даказацельства, любка.

Грубы, у новенькім сінім кіцелі, падняўся — схіліў вялікую галаву да акна, зычным голасам паклікаў:

— Янак! Ідзі сюды! А ты, любка, — глянуў спадылба на Алаізу, — а ты адумайся, любка! Каб не ведаў бацькі твайго — далёка была б! А так — умірг на станцыю і каб паўгода сюды — ані! Ясна?

— Ды ні ў якой жа справе Зэнак не замешаны, дзядзько.

— Можа, і не. А ты — слухайся! Гуцулы з палякамі самі разбяруцца. А для мяне загад ёсць! Мне твой ха- хол — во! — Пяткевіч ткнуў рабром далоні ў кадык.

* * *

*Львоўшчына*

Прасторная, але з нізкаю столяю гуцульская гражда стаяла недалёка ад краю каменнай лабаціны. Язык забудаванай пляцоўкі ўпіраўся ў частую драбіну маладых асінак і хвайняку. І гэтая ненадзейная, але ўсё ж бачная воку зялёная сцяна аддзяляла чалавечае жытло ад глыбокай прорвы, на дне якой бурліў горны паток.

Была і сцежачка, амаль на самым аброжку ўпадзіны, але Алаіза ступала на яе рэдка і баялася глядзець уніз.

Узыходзіла сонца. Высока, з левага боку.

Пані Лэсі, гаспадыні, не было ўжо тры дні.

Кашляючы, Алаіза выйшла ў двор. Аглядзелася.

Над няроўным абрысам горных вяршыняў, перад граждаю, клубіліся з цясніны агромністыя барвовыя кудзеры. Здавалася, горы заняліся, і хоць не было відно самога «агню», але кучаравы дым ірваўся з прорвы ўверх. Клубкі ўвачавідкі гусцелі, засланялі сонца і ўсё больш і больш цямнелі. Нарэшце разлегліся па ўсім небе, нагадвалі цяпер паднятую ветрам зваляную аўчыну. Тая авечая шкура надзімалася, як ветразь, бясконца кудлацілася і ўсё плыла, плыла... Нарэшце важкая цёмная хмара заняла над Карпатамі ўсё неба, пачала апускацца і тапіць у сваёй глухой шэрай воўне раней такія ясныя абрысы гор. Залегла і даўкая ватняя глухата.

...Алаіза прыехала сюды з каляжанкаю — такой жа вольнаслухачкай філасофіі Львоўскага універсітэта.

Вырваліся на колькі дзён — паесці сыру і папіць гаючай крынічнай вады. Але Алаізін жахлівы кашаль тут абвастрыўся і не даваў жыць; змушана была легчы пад важкую цёплую дзяружку.

На курсе пачыналіся заняткі, і сяброўка паехала ў Львоў, паабяцаўшы вярнуцца праз тыдзень. Пані Лэся таксама павезла свайму «чоловіку»-аўчару на паланіну новы запас ежы, але хутка павінна была вярнуцца. Праз цэлы дзень Алаіза хадзіла сустракаць пані Лэсю, усё ніжай спускаючыся сцежкаю ўскрай прорвы. Нарэшце зразумела, што Лэся не прыедзе сёння, легла, стомленая, пад калючую дзяружку. Супакойваючы кашаль, прымушала сябе заснуць. Нарэшце і праўда заснула, але сярэдначы прахапілася — ад моцнага гравнага гудзення. Спачатку падумала, што гэта навальніца з градам, але яго манатоннага абвальнага стуку па гонтавым даху не ўлавіла.

А гудзенне нарастала, нават уяўлялася, што да гражды блізіцца нейкая дзікая і вялізная, як гара, пачвара.

Залажыла вушы, жах схапіў і ажно затрос, здавалася, усю забудову.

Грымела так, быццам у двары качаліся, кулячыся і налятаючы адна на адну, вялізныя бочкі.

Працяглы, моцны гул спачатку сціснуў Алаізе скроні, потым перамясціўся ўнутр галавы, пачаў распіраць яе і асабліва моцна і балюча ціснуў на вушы і вочы.

Ляжала і не варушылася. У цёмным куце хаты жаласна забляяла хворае ягнятка. Тады паднялася з абрыдлага дашчанага лежака і выйшла, падстаўляючы разгарачанае аблічча начной свежасці.

Ноч была глыбокая, засыпаная паўсюль вялікімі зоркамі.

Наблізілася да жываплота з асінак і хвой, пагладзіла далонямі шурпатую кару, пастаяла. Ад зямлі патыхала мохам і адсырэлым гранітам. Чулася адлiжнасць. І тады Алаіза ўспомніла недзе вычытанае: гэтае жахлівае гудзенне — вынік таго, што з глыбокіх цяснін адлiжнай парою праз горныя трэшчыны на волю вырываюцца вятры і патокі заціснутага з усіх бакоў спрасаванага паветра.

Таму і разлягаецца ночаю гэтае страшнае гудзенне, якое не вытрымлівае, вар'яцеючы ў адзіноце, нават самыя моцныя гуралі. І кідаюцца часта ўніз.

І тут Алаізін слых улавіў яшчэ адзін асаблівы гук — шум напорыстага горнага патоку, але на адлегласці. І яна зрабіла ў той бок некалькі рашучых крокаў, але тут жа спынілася перад невераемна чорнаю, хоць вока выкалі, зваблівай ночаю. Выцягнула перад сабою руку, каб дакрануцца да яе. Зладіла думку-пытанне: але чаму не відно зорак? І раптам адчула, што наперадзе — пуста і што ад бяздоннай чорнай дзіркі яе аддзяляе нават не крок ці паўкроку, а толькі адзін неасцярожны рух!

Ногі, абутыя ў лёгкія гуцульскія пастолікі, занямелі, адчула пад падэшвамі зледзянелую, а значыць, вельмі слізкую цяпер каменную круцізну.

Пачала павольна адступаць назад, старалася нават дыхаць паціху, пакуль не кранулася ўрэшце халоднага вільготнага ствала.

У граждзе, гасячы лекаценне, скінула з плячэй кароценькі сярдак. Навобмацкі знайшла каля сцяны свой вузкі тапчан.

Зноў у куце тонка забляяла ягнятка.

Спакойная, легла пад тоўстую дзяружку. Заснула.

— «Сиди і нічагосінько не жди!» — як ваш Тарас пісаў...

— А він мені, паничику, і каже: а давай чкурнем у місто!

Давольны мужчынскі смех.

Алаіза зрабіла выгляд, што яшчэ спіць, але краем вока ўжо змеціла: за сталом сядзела пані Лэся — расчырванелая, у прыгожым, з меднымі гузікамі і ланцужкамі-рэцязямі сердаку, гарэзна ўсміхалася.

— А вона така ж гарна! Тільки все кіху-кіху...

— То, пані, нічого! От поїдемо до Закопаного, і все будзе гаразд!

— Звісно! З таким паном — звісно!

Цяпер ужо не сумнявалася — за сталом сядзеў...

— Сцяпонас?! Як добра, што гэта — ты!

*Кракаў, Закапанэ, 1908 год*

У гэтым рукаве калідора на філасофскім факультэце Ягелонскага універсітэта свяціла толькі тры лямпачкі. Высокія вокны з густымі пераплётамі рам і дробнымі

рознакаляровымі шыбкамі рассявалі сонечнае праменне толькі ўверсе.

Міма прабеглі даве студэнткі, адна знарок ветліва павіталася з Вітаком Чыжом, але тут жа гарэзліва засмяялася.

Засмяялася і Алаіза.

— Бачу, зноў гербарый збіраеш.

Ведаючы нораў і досціп Пашкевічанкі, Вітак прыціх і ўсё ж не вытрываў:

— Які гербарый?

— З высахлых ад палкага кахання сэрцаў!

— Чыіх сэрцаў?

— Цяпер — студэнтачак Ягелоні.

— Я — Маню яшчэ не забыў. І не забуду.

У Вітакавым голасе нечакана пачулася столькі пакуты, што Алаіза пачырванела.

— Мы збіраліся разам у Закапанэ, да доктара Храмэка. Але я доўга не ведаў пра яе смерць. Нават калі быў уцёкшы з турмы. Ды яшчэ і тады, як мы з табою ў Львове сустрэліся — таксама не ведаў. Потым Барановіч напісаў.

Вітак ужо займеў акуратныя чорныя вусікі па кракаўскай модзе. Настойліва гаварыў ёй пра «Спуйню» — баявітую студэнцкую арганізацыю. Вялікія цёмныя вочы на смуглым твары блішчалі.

— Ах, Вітак, зноў ты мяне ўцягваеш у нейкую авантуру.

— Ды зразумей, «Спуйня» яшчэ помніць парыжскія барыкады!

— Няўжо ты не бачыш, што я даўно расчаравалася ў такіх выбуховых метадах змагання.

— Гэта на цябе захапленне філасофіяй шкодна ўплывае. Ды і стары барсук Віндакевіч...

— Ты хоць маіх прафесараў не чапай! А то — як певень! — Яны ўжо выходзілі з універсітэта. Павярнулі на Любамірскую.

— У праграме вашай «Спуйні» мяне цікавіць адно. Але гэта, бадай, самае важнае — барацьба з царызмам! І я да канца буду змагацца з гэтай пачварай. Да канца! За сваю радзіму. Разумееш?

— Значыць, на «Спуйні» цябе чакаць?

— Прыйду.

— Сходка паслязаўтра, на кватэры ў Барыса Вігілёва. Не забудзь.

— Вігілеў тут?!

— Ты што, не ведала? Дарэчы, ён таксама на вуліцы Любамірскіх. Толькі дом пятнаццаты.

— Слухай, я забыла ўзяць дзве кароны. А сёння абяцалася заплаціць за бібліятэку. Вітачак! Да заўтрашняга...

— Вядома! Ты куды цяпер?

— У трупу.

— Знаеш, я тваю Смольскую аднойчы бачыў. І яна на мяне ніякага ўражання не склала! Так сабе актрыска! І чаму такая фіфка можа навучыць?..

— Слухай...

Вітак спяшаўся на Фларыянскую — паспець да адкрыцця студэнцкай сталоўкі «Здрове». Прыпыніліся на рагу вуліцы Томаша, насупраць камяніцы, дзе размяшчалася студыя Смольскай.

Да сталоўкі адсюль таксама рукой падаць.

Цёплая восень лашчыла сонечным праменнем жоўтыя абалонкі вокнаў і шырока адчыненыя пад'езды шэрых будынкаў старога прыгожага места. Дзве немаладыя пані недалёка ад увахода ў сталоўку рассыпалі па бруку зерне, сабраўшы вакол сябе чародку шызых вёрткіх галубоў. Птушкі то ўзляталі, спуджаныя прахожымі, то зноў, дробна перабіраючы чырвонымі лапкамі па бліскучым адшліфаваным бруку, заклапочана кружылі вакол сваіх дабрадзеек.

Ледзь чутная восеньская мелодыя старога Кракава напаўняла душу такім спакоем і святлом, што Алаіза адчыняла дзверы студыі так ціха, нібыта баялася парушыць гэты свой настрой рэзкім рухам ці лішнім словам... Цяпер, як і заўсёды, яе сустрэлі мудрыя, але такія самотныя, напоўненыя незвычайнай таямнічасцю і спагадай зялёныя вочы рана пасівелай, незвычайна таленавітай, але дасюль яшчэ мала ўхваленай драматычнай актрысы...

Пасля заняткаў у трупе пабегла на вакзал. Кошт білета дацягваў ужо да паўтары кароны. У вагоне выняла з сумачкі паперу, якую ёй даў Вітак Чыж. Учытаўшыся, зразумела, што справа тычылася нядаўняга выступлення студэнтаў універсітэта. Вагон асвятляўся толькі вісячым ліхтаром, даводзілася напружваць зрок. Прачытала аб'яву, прымацаваную да ўнутранай сценкі вагона: «Sanatoryum dia chorych piersiowych D-ra K.

Dluskego w Zakopanem — wspanialy widok na Tatry». (...na Bystre do Adasiówki, na Zywczańskiem w dzień — 80 h.)

* * *

Стары ў доўгім чорным кажусе ахвотна паказаў ім дарогу:

— Dalej po moście! A tam — Gubatówka!

І сапраўды, мінуўшы па мосціку паток з нязвыклай для тутэйшых мясцін назваю Ціха Вода, прайшлі яшчэ мілю па горнай дарозе, сціснутай з бакоў мешаным ляском і бліскучымі каменнымі глыбамі.

Нарэшце падляцелі шумныя дзяжурныя сані, перапоўненыя турыстамі, але месца для Сцяпонаса з Алаізай, пацясніўшыся, знайшлі.

Потым яны падымаліся яшчэ вышэй у Татры, але ўжо ў кашолцы падвясной дарогі.

Белыя і вялізныя, як фуры, горныя аўчаркі, запрэжаныя ў глыбокія сані, былі настолькі калматыя, што поўсць на баках звешвалася да самага снегу. Каюр, седзячы спераду, тузануў за лейцы, і сані, пад здзіўлены і радасны Алаізін смех, рыпуча скрануліся з месца.

— Хой-хой! — Каюр быў у белым, з вялізным каўняром кажушку.

Сцяпонас моцна прыціскаў Алаізу да свайго пляча і таксама смяяўся. Заўтра ён адпраўляўся ў Вену.

Пад'ехалі да прыпынку з чырвоным сцяжком на высокай жэрдцы.

Саступаючы месца ў санях новым пасажырам, падняла галаву:

— Вітак! Чыж? Ты — адкуля? Даўно тут? А дзе пасяліўся?

Засмяяўся:

— Гатэль Стамары! Сёння прыехаў.

— Увечары ўбачымся! А Сцяпонас ад'язджае, як на тое ліха. Знаеш — тут і Білюнасы!

— Проша пана! Прэндзэй! Хой-хой! Прэндзэй!

[illegible]

Агромністыя валёнкі, з абшытымі тоўстаю скураю падэшвамі, добра трымалі на крушзіне. Яны са Сцяпонасам падымаліся ўсё вышай, і Сцяпонас падаваў ёй

руку. Памагаў сабе вялізнай, загадзя ўзятай у каюра кіркаю.

Нарэшце вырашылі перадыхнуць. Перад квадратнай пляцоўкаю, атуленай з трох бакоў чорнымі і шэрымі скаламі, плылі срэбраныя пушыстыя хмары. Раптам іх сівыя пасмы падняліся, альбо так толькі здалося Алаізе. Падняліся і дакрануліся да яе ног...

Апусціла галаву:

— Сцяпонас! Глядзі!

У глыбокай трэшчыне, натаптанай зеленаватым мохам, пунсавела невялікая дзівосная кветка!

— Эдэльвейс! Алаіза, які цуд!

— А я ўсё думала, што ж падараваць Ёнасу!

— Білюнасу? — здзіўлена запытаў Сцяпонас. — Але пры чым тут...

— Сёння, разумееш... Сёння ў яго — дзень нараджэння!

— Хацеў бы я, каб мне ў мой дзень нараджэння... — У Сцяпонасавым голасе нечакана пачуліся ці то рэўнасць, ці проста ноткі раздражнення, але Алаіза сумна глянула яму ў вочы.

— Ён памірае, наш Ёнас. Праклятыя сухоты. Я ж казала табе...

— Прабач. Але якая дзівосная кветка. Бачыш? Хочаш, я таксама знайду эдэльвейс. Для цябе...

— Вядома. Вядома, знойдзеш. Але спярша гэтую мне сарві!

* * *

*Італія. З дарогі*

«Сцяпонас, мілы!

Зноў думаю аб тым, што па прыездзе парадую цябе новымі апавяданнямі. Падзённа, пагадзінна адмяжоўваюся ад гэтага чорна-белага свету, ад яго матэрыялізаваных і матэрыяльных клопатаў, паняццяў. І ўсё бліжэй падступаюцца нейкія хімеры мрояў. Суцяшае толькі хмурае надвор'е, калі на Святыя горы растрыбушвае сваю чорную кучаравую вінаградную бараду нейкі там скептычны Зеўс. Клічуць сірэны. Забытыя марскія антычныя багі пагрукваюць плячамі. І ў гэтым голасе і грукаце ледзь ценькае памяць аб далёкім Старым Дварэ. І ўсё ж гэтая памяць здаецца цяпер мне больш рэальнай за ўвесь цяперашні нава-

кольны аб'ёмна-агромністы незнаёмы свет... І ў гэтай рэальнай жывой памяці ёсць рэальны і жаданы, адзіны назаўсёды — ёсць Ты!»

* * *

Венецыя была непрыветна дажджлівая. Гладзь каналаў спрэс пакрылася пупырышкамі. Гандальеры сумна пазіралі ў шэрае неба. Алаіза кіўнула аднаму, і той жаўтазуба радасна выскаліўся. Спачатку падаў руку Маланні Бордан, з якой Алаіза ішла па Італіі трэці тыдзень, потым памог і ёй. Малання, як жанчына спрактыкаваная ў доўгіх вандроўках, адразу ж пачала паказваць на пальцах, колькі заплоціць, але малады вясёлы гандальер зноў жаўтазуба выскаліўся і праз хвіліну замурлыкаў прыемным голасам невядомую яшчэ Алаізе мелодыю.

Стаяў перад імі ў мокрай чырвонай кашулі, танклявы і гнуткі, і Алаіза ажно залюбавалася.

Нечакана з воблачка выслізнула вялікае сліпучае сонца і па ўсёй вадзяной гладзі канала пакаціліся перад гандолай залатыя зыркія колцы цёплага святла. Гандальер крыкнуў: «Бравісімо!» — і заспяваў, ужо гучна і надзіва прыгожа.

— Я зараз стану... я зараз стану перад ім на калені!

— Слухай, дай спокуй! — Малання тарганула яе за рукаво лёгкай блузы.

— Не, ты чуеш? Ты — чуеш?!

Прывеславалі да маленькага, на чатыры прыступкі, порціка, дзе іх ужо чакаў вялізны каржакаваты італьянец-пастух з казой, такой жа, як і сам, вялізнай і рудой. Гандальер на развітанне кінуў Алаізе маленькую папяровую кветачку. А яшчэ праз хвіліну яны з Маланняй ужо ўзбіраліся ўслед за італьянцам па лесвіцы агромністай камяніцы над каналам. Малання — у доўгай зялёнай спадніцы — пыхцела і пахіхіквала. Алаіза таксама. Але пастух на гэта не зважаў. Вёў сваю да ўсяго прызвычаеную рагатую карміліцу на пяціпавярховую вышыню і звыкла аб нечым гаварыў. Вось толькі — аб чым?

Нарэшце, на шырокай пляцоўцы, прывязаў казу да парэнчаў.

— Fine il viaggio![1]

---

[1] Канец падарожжа! *(італ.)*

Уздыхнуўшы і крыху падняўшы свой шырокі жывот, пастух стаў на калені, адвязаў прышнураваны да пояса драўляны кацялок і спрытнымі рухамі вялізных лапішчаў пачаў даіць казу.

Праз пару хвілін кацялок быў поўны, пастух засмяяўся і асцярожна падаў яго Маланні. Тая, усміхнуўшыся Алаізе, не думаючы доўга, пачала піць сырадой, потым падала кацялок Алаізе. Выцягнула з патаемнай кішэнькі грошы.

Густое малако было крыху гаркаватае, нават аддавала палыном, але выпіла яго адным духам: гэта быў іх першы за апошнія дні ласунак.

А пастух ужо адвязваў сваю казу, і яна звонка, дробна зацокала і зашкрэбала капыткамі па мармуровых прыступках шыкоўнай венецыянскай камяніцы, спускаючыся з гаспадаром на свой порцік, да новых згаладалых вандроўнікаў.

Пастух азірнуўся на Маланню, стукнуў сябе пяцярнёю ў грудзі:

— ...te amo![1] — махнуў рукою, запрашаючы жанчыну да сябе, але тая, смеючыся, бліснула зубамі, пагразіла пальцам.

Пераначаваць рашылі ў прытулку святой Тарэзы.

Раніцаю, ці то на маленькай павозцы, ці то ў дарожнай карэце, трэба было дастававацца да Рыма.

У прытулку ім з Маланняй адвялі ў кутку неширокі ляжак з лісцвяным сеннікам. Аднак было так цесна, што Алаіза сярэдначы выйшла ў дворык. Але хутка азябла. Тады вярнулася да дзяжурнай манашкі ў белым. На стале стаяла запаленая свечка. На шчасце, было яшчэ адно крэсла. Села, выняла з кішэнькі лёгкага пінжака аловак. Маладая прыгожая манашка мыляла вялікімі пунсовымі вуснамі і перабірала тонкімі пяшчотнымі пальцамі празрыстыя гарошынкі ружанца. Запала цёплая сонная цішыня.

Алаіза схілілася над паперай, вывела першыя словы: «Мамачка, мілая, анідзе няма такой пекнаты, як у нас дома...»

У Рым дасталіся толькі праз два тыдні.

Малання, яшчэ вельмі маладая, прыгожая смуглян-

---

[1] *...люблю цябе! (італ.)*

ка, Алаізіна прыяцелька па Львову, весела ішла па бліскучай разслізганай рымскай брукаванцы, адразу ж паддаўшыся святочнаму настрою. Азіралася, белазуба ўсміхалася Алаізе, падбадзёрвала.

Вуліцы Рыма былі запруджаны народам з усяго белага свету, і яны вельмі баяліся згубіць адна адну ў гэтай таўкатні.

Доўга стаялі, не маглі адвесці вачэй ад магутнай імператарскай фігуры Марка Аўрэлія.

Ужо другі дзень, блукаючы па вулічках ад храма да храма, яны ішлі да Ватыкана.

Недалёка ад фантана Трэві, паклаўшы на калені невялікія мальберты, чакалі заробку задумлівыя барадатыя мастакі...

Маланне тут жа села перад адным з іх — і сталы ўжо, з пышнай сівой шавялюрай волат лёгка зашоргаў па ватмане графітавым чорным пальцам. Усміхаўся Маланні, шчупаў позіркам белую гладкую шыю... Зноў усміхаўся.

Недалёка ад фантана спыніўся вазак-сіцыліец. У ягонай расквечанай каляровымі стужкамі двухколцы, запрэжанай вослікам, сядзеў малады светлачубы мужчына ў прасторнай па рымскай модзе малінавай блузе.

Яшчэ не верачы сваёй здагадцы, успыхнуўшы, Алаіза апусцілася на ўслончык перад вулічным мастаком недалёка ад Маланні. Маладзенькі сухапары партрэціст кальнуў яе чэпкім позіркам сумных чорных вачэй і праз імгненне ўзяўся за работу.

А той, светлачубы, у малінавай блузе ўжо коратка і быстра вітаўся са знаёмымі, таксама прымошчваўся.

Нарэшце скручаныя ў трубкі і перавязаныя суравой ніткаю партрэты (Алаіза чамусьці атрымалася залішне сур'ёзнай, нават насупленай) упалі на дно іх вялізнай дарожнай сумкі.

...Святая галубіца вылятала насустрач ёй з глыбіні базылікі святога Пятра...

Тады ўдарыла па вачах не бляскам промняў, а моцаю гэтага святла.

«Ты — можаш сказаць, што збываешся цяжкіх і нядобрых думак сваіх, блукаючы праз бяссонне па дарогах маіх?»

«Ты — можаш з пэўнасцю сказаць, што збываешся граху пажадлівасці, калі мазоліш ногі свае аб прыступкі касцёлаў веры нашае?»

Слёзы пакаціліся па шчоках на перасохлыя вусны і далей — на агорклы язык і ў немае ад спазмаў горла...

Укленчыла на халодны мармур і так доўга малілася, што адчула, як праз усё цела, праз кожную, нават самую крохкую костачку, нават праз пазногці і пучкі пальцаў прыходзіць гарачая магутная сіла. І гэтая амаль рэальная прысутнасць Пана Езуса расцірала на дробныя макавінкі, рассейвала яе ў пыл...

«Ці ты можаш сказаць, што збываешся помслівай памяці і крыўдаў на людскія слабасці, абмываючы душу сваю маімі слязьмі?»

— Божа літасцівы. Божа міласэрны, злітуйся...

«А ці можаш ты з пэўнасцю сказаць, што спаўняеш даконча волю маю, калі аддаеш сілы жыцця свайго маёй беззаганнасці?»

«А ці ты можаш сказаць, што збываешся слепаты сваёй, не ўбачыўшы глыбіняў усяе любові маёй?»

Паднесла вочы, азірнула захоплена агромністую базыліку. О не, такія храмы будуюцца не золатам металу, а золатам сэрцаў...

Вочы засцілаліся слязьмі, але і праз слёзы змеціла, што непадалёку стаіць высокая чорнавалосая, з нізка схіленай галавою жанчына, трымаючы каля сябе за ручку яшчэ зусім маленькую дзяўчынку.

Чарадою пайшлі манашкі ў чорным, і жанчына згубілася... Жанчына, што так падобна была на Стэфу Залускую.

«А ты, ты можаш з пэўнасцю сказаць, што збываешся гардыні, калі цалуеш скрываўленыя раны мае?!»

Аднак калі гэта напраўду Стэфа Залуская, то, значыць, яна не памылілася і каля фантана Трэві сапраўды бачыла яго, Костуся Каранца.

«А ці ты можаш упэўніць мяне, што збываешся сваіх смяротна грэшных таямніц, калі прыпадаеш сэрцам да таямніц маіх?..»

Маланн я Бордун нічога не разумела, але паслухмяна выйшла з базылікі і гэтак жа паслухмяна паляцела ўслед за Алаізаю да фантана.

Таропка прабеглі па ўсім скверыку, узіраючыся ў твары мастакоў. Але Костуся ўжо не было, не было і Стэфы.

«А ці можаш ты сказаць, што збываешся жорсткасці сваёй, калі не разумееш усяе глыбіні любові маёй?..»

Цяпер была пэўная, што зусім нядаўна бачыла тут Костуся Каранца і не прызналася.

Увечары трэба было збірацца на канцэрт у тэатр.

Мільгнула думка: а раптам сустрэне там і Костуся...

* * *

*Вільня, Мінск. 1914—1915 гады*

Першая сусветная вайна ахапіла Гродзеншчыну і блізілася да Вільні.

Раніцаю, выбегшы з рэдакцыі сваёй «Лучынкі», Алаіза сустрэла Костку Буйлянку, якая тут жа радасна паведаміла аб прыездзе Купалы.

— А я во іду з Радзівіліхай пагаварыць. Аднак — паспею. Калі тут Купала — то спярша да яго.

— І Уладка з ім, чуеш?

— От і добра.

Галодны і халодны Мінск запоўніўся бежанцамі. Быў пачатак верасня.

Ступіўшы ў пакой, пасля радаснага «Дабрыдзень», Алаіза нават пагладзіла пушыстую доўгую касу Уладкі. Тая падняла на Алаізу светлыя сумнаватыя вочы. На запытанне, дзе ж сам Купала, паказала на дзверы ў суседні пакой:

— Ужо трэцюю гадзіну працуе.

Алаіза ўспомніла пра Магдалену Радзівіл, да якой спяшалася раніцай, каб папрасіць грошай на бежанскі камітэт. Уздыхнула:

— Уладка, схадзі да Радзівіліхі!

— А сама?

— Я ўжо ў яе на «Лучынку» прасіла.

— То ж і дала. Значыць, прасіць умееш.

— Каб для сябе — і не глянула б у той бок. Мяне як у жорнах круціць. Не дай Божа хадзіць з працягнутаю рукою. Ды яшчэ з маім норавам! Усё ў сабе пераламала! Дзе тое колішняе? І сама дзіўлюся.

— Ты ж і праўда не для сябе! Супакойся.

— Слухай, Уладка, ты — маладзейшая. І з яе сабачкамі ладзіш.

Уладка засмяялася.

— Яна мяне да Янчыка раўнуе.

Як бы чуючы, пра што яны загаварылі, у пакой ступіў Купала.

— Пра бежанцаў? І ты тут, цётачка?

Абняліся...

— Ты бачыла, што на Свіслачы робіцца? Увесь бераг занялі.

— Хачу ў Магдалены на бежанскі камітэт папрасіць.

Купала паціснуў плячамі. Праз два дні ім з Уладкай трэба было ад'язджаць у Маскву — на вучобу ў Народны універсітэт Шаняўскага.

— Куды толькі нашы людзі бягуць, Цётка? У Сібір? На край свету? Ім, значыць, пад немцам горш, чым у нейкай Сібіры — катаржанам! Аднак жа немец як прыйшоў — так і сыдзе! А з Сібіры ўжо цяжка вярнуцца.

— Патаемны сэнс тае ж расейскай палітыкі! Перакачка чыстай крыві беларусаў. Бо падымаюцца найбольш рухомыя і энергічныя нашы людзі.

Купала гартаў «Лучынку».

— То дзе цяпер начуеце? — хітравата скасіўся на яе. — Кажуць, усёй рэдакцыяй на худым сенніку. Ты хоць абедаеш? Ці так сабе?

— У яе заўсёды пост. Вялікі! — Уладка сумна ўсміхнулася.

— Ты і мяне хочаш постам карміць? — Купала запытальна зірнуў на жонку. Потым — да Алаізы: — Ідзём крыху прыгубім. Ах, я ж і забыў, што ты ні-ні! А я думаў, такую пачостку госці зраблю.

Бадзёрасць Купалы падняла і яе настрой, пераміргнулася з Уладкай. Але зноў да Купалы:

— А што цяпер на варштаце?

— «Ворагам беларушчыны». Як табе назва?

— Купалаўская! Ворагі... Знаеш, яны ўсё часцей нас крыўдзяць. І не так чужыя, мой Купалка, як свае.

— А я ад чужых крыўду і не прымаю! Свае — вось тыя ўмеюць! Балюча, пад дых! І ўсё з лепшымі намерамі.

— Прабач ім усім...

— А ты — прабачаеш?

— Усё прабачаю. Любыя слабасці людскія. Акрамя аднае — здрады Бацькавіне! Гэтага не выбачаю.

Шырокі бераг Свіслачы быў заняты бежанцамі. Паўсюль зырка палалі вогнішчы. На раку, аточаную рэдкім хмызняком і вербачкамі, слаўся шызы дым. Забівала дыханне. Ішла, гразнучы чаравікамі ў разбітым няроўным беразе.

Каля адной сям'і прыпынілася. Вялізны, з цыганскай рудой шавялюраю, абраслы мохам, хоць і малады, мужык у лапцях сядзеў на грудку і закалыхваў на руках яшчэ зусім маленькае немаўля. Побач сядзеў хлопчык гадоў пяці.

— Куды ж вы гэта з імі?

Маладзіца ў доўгім цёмным каптане памешвала драўлянай лыжкаю ў кацялку кашу. Смуглавідая, прыгожая усміхалася Алаізе, але злосна:

— У Сібер! Сама імператрыца казала, што будзе ўспамажэнне!

Мужчына задумаўся:

— Яно-то і немец неблагі гаспадар. Але ж калі там будзе ўспамажэнне... Дый і хата згарэла.

— Думаеце, там, у Расеі, так і палучыце? І харомы, і спажытак сабе?

— То не ведама. Адразу не... Імператрыца ж, аднак, абяцала.

— Вы што — чулі?

— Людзі кажуць, пані.

— Усё ж згубіце, дзядзько. Што значыць — карані сарваць? На чужым беразе шчасця не шукаюць. Ні кловы, ні мовы... роднае.

— А што мне тая мова ваша, калі дзеці чэзнуць. І з голаду хутко гаўкаць пачнуць.

— Няхай лепей чытаюць, дзядзько, пацеры кажуць, співаюць.

— Гэта добра, калі співаюць.

— Значыць, паедзеце ўсё-ткі?

Маладзіца ўздыхнула:

— Паедзем, цётко.

— Ну, то вазьмеце на памяць маю «Лучынку» і помніце пра Беларусь.

Да маладзіцы падышоў хлопчык, і тая, не ведаючы, куды дзець падараваную кніжку, аддала яе маломy.

* * *

*Вільня — Гародня*

Генерал Генісарэцкі праходжваўся па пероне Віленскага вакзала, неахвотна казыраючы ніжэйшым чынам. Сачыў за пагрузкай. На доўгай платформе спецыяльнага скорага бокам ляжала жалезная аграмадзіна Мураўёва-вешальніка... На суседняй — у поўны рост стаяў помнік Кацярыне. Наўкруг імператрыцы, і на платформе, і на пероне, заклапочана тупалі салдаты інжынернага батальёна: Кацярына аніяк не хацела ўмяшчацца і вытыркалася галавою за край платформы.

— Андрэй?! — Генісарэцкі ведаў, што скоры адправіцца толькі па знаку палкоўніка Андрэя Гмырака. І ўсё ж здзівіўся, убачыўшы таго перад сабою.

— Ну, то як? Служба, бачу, ідзе.

Андрэй стрымана казырнуў.

— Гэта першы твой прыезд сюды? Значыць, шчаслівая сям'я? Дзеці ёсць?

Андрэй адмоўна пахітаў галавою.

— Што так? Зрэшты, прабач. Сам спраўляешся? — Генісарэцкі глянуў на платформы.

— Не. Тэрміновы загад вяртацца на пазіцыі.

— Пад Беласток?

— Так. — Задумаўся. — А... як яна?

— Ведаю яе мужа Кайрыса. Талковы інжынер па мастах. А вось дзяцей... Тут вы як згаварыліся. Прабач. Ніколі не ўмеў жартаваць. Пані Кайрысова — першая скрыпка ў Грамадзе. Верная сваім ідэалам, як і заўсёды.

— Беларусы многа ўзялі пасля пятага года. Цяпер, на жаль, прыціхлі.

— З акторскай трупай вандравала па ўсім краі. Піша апавяданні. Кажуць — таленавітая. Дарэчы, ты ведаў яе малодшага брата, Юзіка?

— Ведаў.

— Заўчора загінуў. Пад Гроднам.

— Я яго, Віктор, нават вельмі добра ведаў. Такая бяда...

— Дарэчы, ты ўсё яшчэ на мяне крыўдуеш?

Андрэй нічога не адказаў і адвярнуўся.

Генісарэцкі моўчкі пакрочыў далей.

* * *

Снег быў неглыбокі, пустая дамавіна глуха стукалася аб рэзгіны. Войцах, яе старэйшы брат, сядзеў на санях, у кажусе паверх старога шыняля.

— Няхай бы ужо лепей — мяне! Лізанька, Лізанька!

Конь хрыпеў, абмінаючы свежыя, чырвоныя ад крыві пляміны на снежным полі. Крывавыя сляды цягнуліся ўздоўж свежай саннай палазні. Пачулася некалькі адзіночных стрэлаў. Усё паказвала на тое, што яны сапраўды едуць у полк.

Іх спыніў вартавы, маладзенькі зусім салдацік, але, пачуўшы прозвішча забітага камандзіра, адразу ж казырнуў.

— Вось па гэтым акопе ідзіце. А там падпаручніка Малецкага найдзеце. Пакуль новага не прыслалі, ён брата вашага замяняе. Але сам — з радавых. Толькі ж цяпер камандзіраў забіваюць часта. Каторыя за нашы спіны не хаваюцца. Ваш брат, пані, не хаваўся. Любілі мы Юзіка.

— І мы любілі. — Спазма перахапіла горла, але ўжо ступіла за Войцахам у перамерзлы акоп.

Малецкі, падняўшы каўнер салдацкага шыняля і нацягнуўшы на самыя вусны кушак, кальнуў Алаізу адчужаным, стомленым позіркам. Увесь час адварочваўся. Худы, толькі скура і косці, чалавек.

— Я яго сам паклаў паверсе ўсіх целаў. Увечары будзем хаваць. Зямля так прамерзла, што насыпалі толькі крыху грудак. Людзі ўсе мае, «браты-апосталы», натомленыя.

— Ромак?!

— Пазналі нарэшце.

— Пазнала.

— Я вашага брата, Алаіза, сам на руках вынес. Ён ужо тут, у акопе, ад ран памёр.

— Мы яго забяром і дома пахаваем.

— Немцы аж ляцяць. Так што спяшайцеся. А то застануць.

— Бывай, Ромак.

— Бывайце, я памагу вам яго ў сані перанесці. Вось так, у шынялі, і пакладзіце. А то чысто лёд.

— Дзякуй, Ромак. Беражыся і пад дурныя кулі не лезь.

— А я ўжо столькі год засланяўся ад усяго, што цяпер можна і рызыкнуць.

— Не варта ўсё ж.

— Прабач мне, цётка.

— Што так?

— Прабач, што брата не ўбярог. Плячо ў плячо з ім ішлі на брустверы. Але мяне той... — Малецкі паказаў рукою ў неба. — Мне яшчэ не прабачылі там. Жыць трэба. А вот Юзіка — навылёт. Такая ў яго чэсная парода. Усюды сам у пекла бег. Вось так. Аднак — слава пераможаным! Помніце, Алаіза?

— Глёрыя, Ромак.

Страляніна за іх спінамі пачалася ледзь не ў тую ж хвіліну, як сані з дамавінай павярнулі ад акопаў. Конь спалохана фыркаў і часам браў трусцою, але Войцах яго прыпыняў.

...Яна, напэўна, трызніць.

Ішла цяпер па Італіі. Венецыя сустрэла дажджом, але чорныя лодкі слізгалі па гладзі каналаў, пакідаючы за сабою чорныя сляды. Зусім блізка з залатой галубятні вылецеў статачак прыгожых птушак. І тут жа адчыніўся магазін масак, прадавец вадзіў шчоткай па вялікай, ярка расфарбаванай масцы клоуна, нечакана працягнуў яе Алаізе, усміхнуўся. Памкнулася наперад, але тут нечая рука перахапіла падарунак. Азірнулася:

— Юзік! Юзік?

А ён, высокі, усмешлівы, у новенькім мундзіры паручніка, ужо нацягваў на светлую галаву клоунскі каўпак. Павярнуўся да Алаізы і раптам сказаў пачарнелымі вуснамі:

— І заўсёды, чуеш, нам заўсёды трэба di relaverite la pure verite rien gue la verite[1]. — Потым паклаў руку на яе плечы і затрос. Расплюшчыла вочы.

...Але гэта быў Войцах:

— Так і замерзнуць можна.

Усміхнулася:

— ...di relaverite la pure verite rien gue la verite...

Войцах насцярожана зірнуў ёй у вочы, але нічога не сказаў. Спачатку зняў з-пад кажуха шынель, накрыў

[1] Гаварыць праўду, чыстую праўду, адно толькі праўду *(франц.)*.

ім Алаізу паверх паліто. Зноў нацягнуў кажух. Сеў перад дамавінай і крануў лейцы.

Заплюшчыла вочы, падцягнула да падбародка шынель.

...Зноў быў цёплы Рым. Не згаворваючыся, павярнулі да прыступак, што вялі ва уніяцкую царкву. На лавачках ужо сядзелі некалькі вернікаў. З бакоў і пад абразом Выратавальніка дрогка мігцелі трапяткія агеньчыкі жоўтых тонкіх свечак. Маланння адразу ж апусцілася на калені, схіліла галаву. Алаіза таксама пачала малітву. Потым паціху ступіла ўправа.

Выбрала некалькі свечак, кінула ў бляшаную скарбонку грошы.

Стаяла, узіраючыся ў аблічча Хрыста, адчувала на шчоках цёплы след нечаканых слёз. Запальвала і ставіла, ставіла свечкі...

«Божа міласэрны, дай здароўя і атулі ласкай сваею маці маю бедную...»

«Божа, дай здароўя і спагадаю агарні бацьку і братоў маіх, і яшчэ дзеда Вызгу, і...»

«Божа міласэрны, пашлі ласку сваю, і любоў, і дараванне... малюся табе аб Сцяпонасе і зямлі літоўскай...»

«Божа міласэрны, Святыя зямлі роднай, беражыце мой Стары Двор ад пажараў, ад ліхалецця і мору! Злітуйцеся... Пачуйце мяне і ўмацуйце, каб аддала я вам як болей сілы і працы свае...»

«Божа міласэрны, Божа літасцівы, паспагадай і моцы дай сябрам... І Вацаку Іваноўскаму, каб завяршыў дзела з друкаваннем кніжак беларускіх, і Антосю Луцкевічу, каб трымаў сваю дыпламатыю... І дай яшчэ здароўя Карусю і Янку, Паўліне, Буйлянцы, міламу Галубку... Усяму роду беларускаму».

Шаптала і зноў, апякаючы пальцы, ставіла тоненькія васковыя свечкі.

Нехта побач таксама трымаў іх. Скасілася: вядома ж, сплаканая ўжо Маланння:

— Господи міцний, Господи милосерний, Господи безсмертний, рятуй нас!..Підемо, Ліза!

Пры выхадзе на хвіліну прыпыніліся. У вочы ўдарыла сліпучае паўднёвае сонца. Да Ватыкана заставалася толькі дзве-тры невялікія вулачкі. Не

ўтрымаліся і зноў зайшлі ў храм. Касцёл святой Анны.

...Але ж гэта зусім не касцёл. За невысокім, але даволі шырокім сталом сядзеў яшчэ зусім малады, амаль хлапчук, светлагаловы гаспадар прасторнай, з квадратнымі вокнамі будынiны. У кутку стаяў мальберт, каля сцен упрытул — завешаныя тонкім белым палатном карціны. Аднак на сценах ніводнае.

Мужчына падняўся. І яна ўзрадавана кінулася яму насустрач:

— Алексантэры?! А я ўсё думала — хто гэта мяне па Фінляндыі павядзе?!

— Алаіза? Я так часта ўспамінаў вас, Алаіза...

— І я цябе. Думала, ты з тых турмаў і не вылез...

— Рукі ў іх кароткія. А вы адкуль цяпер?

— Па Швецыі пахадзіла. Цяпер да цябе... Пакажаш зямлю сваю?

— Вядома. Вам — вядома! Усю Фінляндыю.

Алексантэры нечакана працягнуў да яе рукі...

Але гэта ўжо быў не Алексантэры.

— Юзік? Юзік?!

Юзік, высокі, светлачубы, у новенькім шынялі, паклаў на яе плечы доўгія рукі і раптам — зноў затрос...

Адчула моцны боль злева і расплюшчыла вочы.

Над ёю схіляўся Войцах.

— А я ўжо крычу, клічу... А белая ты, што палатно. Ты ўжо не бярыся ж, не пераймайся так, Ліза... думаеш, мне лёгко? — Сціснуў вусны.

Наперадзе пачулася страляніна.

— Дай Бог давезці хоць да Гародні...

* * *

*Вільня — Стары Двор. 1916 год*

У прыціхлай душы панавала дзіўная халодная абыякавасць. І — глухата. Ці не ад таго, што навакол столькі гора. Але яно быццам і не кранала Алаізу. Толькі выклікала ахоўную рэакцыю — працаваць даводзілася па васемнаццаць — дваццаць гадзін у суткі. Эпідэмія тыфу працягвала рухацца ў глыб Віленшчыны і гарадзенскіх земляў.

Тыфозных баракаў на Звярынцы было два. І яшчэ — прыбудова блізу лесу, невялікая дашчаная санітарская, дзе захоўваліся горы старых, выпраных посцілак, ды яшчэ дошкі і некалькі рыдлёвак.

Баракі, з вялікімі крыжамі на сценах, былі вельмі доўгія. Непадалёку ў глыбокім рове, што за ноч завальваўся снегам, а ўдзень зноў пачынаў цямнець, нават ноччу сівелі нияркія смуродныя вогнішчы: санітары спальвалі лахманы хворых.

Увечары Алаіза і яшчэ адна сястра — кожны раз яны мяняліся — дапамагалі паласкаць вымытыя халаты. Вецер цягнуў у баракі смуродам ад чадных вогнішчаў. Сёння таксама.

Хаця і свяціў прыветны месяц, зімні дзень не спяшаў ачахваць.

На дзяжурства выйшла полька Яніна і адразу ж адпусціла Алаізу крыху паспаць. Але паляжала толькі з гадзіну.

— Трэба вынесці халаты, хай сохнуць. — Яніна сядзела, дрэмлючы, за столікам. Ад Алаізінага голасу ўздрыгнула і падняла галаву.

— Доктара чакаю, але хай хоць да пяці паспіць. Трэці дзень на нагах.

З-за посцілкі, што аддзяляла палату ад сястрынскай, пачуўся стогн.

— Давай я. — Алаіза кіўнула на мядніцу з выкручанымі шараватымі халатамі.

— А ты ўжо й паспала? — Яніна ўздыхнула. — Іду, іду, родненькі! — Гэта ўжо да нецярплівага хворага.

— Нешта вочы не змыкаюцца, пані Яніна.

— Я тэж, як percatамлюся, заснуць не магу.

Алаіза накінула на плечы ватні каптанік, узяла мядніцу, выйшла.

...Развешвала халаты недалёка ад другога барака, уваход у які быў якраз у супрацьлеглым тарцы.

Пастаяла крыху, узіраючыся ў высокае зорнае неба. Шу-шух!..

Ці не шоргаюць гэта, падаючы з вышыні ўніз, слёзы вялікіх самотных зорак?.. Шу-шух!.. Аднак жа досыць рамантыкі. Якія там слёзы?! І якія зоркі...

Зусім блізка нехта гучна войкнуў. Здзівілася. Ноч хаця і была цёмнаю, але прасвечвалася ад зямлі лавай бырка-белага снегу. Зноў даляцеў крык. І тады ўбачыла — да дашчанай санітарскай ад лесу блізіліся

трое незнаёмых. Два вайскоўцы і мужчына ў цывільным. Ад іхніх вачэй Алаізу надзейна хавалі развешаныя халаты, але сама яна бачыла ўсё. Вялі, пэўна, хворага, але ж ім спярша трэба ў доктарскую.

Цывільны нечакана рэзка крутнуўся ад вайскоўцаў і пабег уздоўж барака, але канваіры яго адразу ж дагналі, пачалі біць, ужо ляжачага, нагамі.

Намагалася закрычаць, паклікаць на дапамогу, але голас нечакана прапаў. Толькі глуха застагнала.

А тыя двое ўжо цягнулі збітага ў санітарскую, потым мітусліва залёталі навокал з каністрай. І Алаіза жахнулася, усё зразумеўшы, сарвалася з месца, пабегла да незнаёмых, але ўсё яшчэ не магла крыкнуць. Аднак яе заўважылі. У той жа момант аблітыя газай дошкі ўспыхнулі, ды так ярка, што агонь асвяціў амаль усю даўжэзную шэрую сцяну барака. Адзін з вайскоўцаў нешта крыкнуў Алаізе, і абодва кінуліся ў бок лесу.

Вярнулася і яна, сарвала з вяроўкі мокрыя, толькі што развешаныя халаты і зноў назад — да палаючай санітарскай.

...Увечары таго ж дня, прачнуўшыся, Алаіза не магла анічога ўспомніць. Ведала толькі адно: збітага і ўжо крыху абпаленага на грудзях мужчыну яна давалакла да ўвахода ў барак.

Усё далейшае патанала ў цемры.

* * *

Адбылося нешта важнае. І гэтае важнае закранула найперш сэрца.

Нібыта нябачная брытва паласнула па ім знутры і адкрыла насцеж безабароннае і такое балючае, што не чула цяпер увесь левы бок.

Але не ў цялесным тоілася галоўная пакута.

Колішнія пачуцці і перажыванні, што дасюль цепліліся ажно на самым сподзе свядомасці, цяпер, у пагрозліва рэальнай блізкасці да смерці, пачалі — вяртацца!

То ў мімалётных згадках успыхвалі далёкія ўжо словы-прызнанні, рэдкія палкія пацалункі. То, выхапленыя ліхтарыкам лёсу з небыцця і цемры перажытага, бачыліся мілыя аблічы...

Купалкава, з моднымі зухаватымі вусікамі, смешнымі, калі расцягваў вусны ва ўсмешцы: «А ты, ка-

жуць, акравак маланкі! О не, ты, Цётка — мая жалейка, ведаеш?» Костусева — з ружаватым шрамам на шчацэ, вясёлае Каралінчына і, нарэшце — Юзікава, белае ад снегу, што ўжо не тапнеў на шчоках...

Толькі сёння на ранішнім дзяжурстве яна ўбачыла ўратаванага ёю з полымя чалавека.

Але ж якія гэта сілы незямныя рашылі яшчэ раз кінуць яе душу ў пекла? І — за што?

Аднак жа яна добра ведае, што гэтае новае выпрабаванне, можа, і пасылаецца за тыя колішнія радкі ў яе вершах, калі маладою напісала, што трэба... «павесіць...». Няважна цяпер — каго. Важна, што жыццё чалавечае — у руках Боскіх мае быць!

Так даўно пісаўся «Хрэст на свабоду», але і цяпер за яго — сплочвае.

Толькі хіба не ведае Суддзя роду людскога, што не яна тады прагла згубы, не яна пісала, а тая істота, што ўсялілася ў яе жывое цела на той вогненны час. Таму і было столькі веры пасярод няверʼя, столькі надзеі на роўнасць няроўных, на збудаванне храма... але ж — на касцях тысяч дзеля... А дзеля чаго? Зрэшты — і дзеля каго? Здавалася тады, дзеля шчасця мільёнаў. Вось яна — вялікая віна.

Час быў разламаны, і час — гарэў знутры.

Яна толькі бачыла, чула, нераўнадушная, і — апісвала, натавала дні і месяцы ў сваім бясконцым лісце, які ўжо апусціла ў паштарскую скрыню валацужнай мачыхі — беларускай гісторыі... Ніхто з нас не вольны быць суддзёю іншых людзей. Роўна як і суддзёю аднаго чалавека. Так позна гэта зразумела.

Ад аднаго толькі не адступіцца яна і на судзе страшным... Божа літасцівы, міласэрны — вярні народу майму, знявечанаму няверʼем і ярмом, сваю любоў. Дай розум яму і сілу, каб падняцца з дамавіны...

— Ах, пані, не таго суду табе баяцца трэба. Не таго...

— А ты не скажаш, дзядзечка, навошта мне дбаць пра рай для сябе, калі ўвесь народ у пекле?..

— Грэх, пані...

— Ну, то як мы сёння?

На суседнім з Балвановічам ложку, як яе папярэдзілі, ляжаў якраз той, каго яна ўратавала ноччу.

Пачуўшы яе голас, чалавек адразу ж адхінуў нацягнутую на галаву коўдру, глянуў. Ён быў увесь чорны, але не ад сажы ці бруду. Проста чалавек быў збіты да такой жахлівай чарнаты, што яна ледзь... пазнала. Але ж пазнала.

— Андрэй?!

Выбегла. Нават у двары, абутая толькі ў кароткія лёгкія чаравікі, з адной толькі баваўнянкаю паверх халата, не адчула холаду. Зусім блізка нехта паколваў ранішні туман зыркімі агеньчыкамі запаленых папярос. Пачуўся мужчынскі смех.

Супакоілася крыху, уцякаючы ад дыму смярдзючых вогнішчаў, вярнулася ў сястрынскі закутак.

Доктар ужо быў на месцы, прыветліва кіўнуў:

— Ідзіце адпачніце, пані Алёізія.

— Я не...

— Ідзіце. Я вас разбуджу.

Легла, але ці можна было заснуць, убачыўшы Андрэя ў такім стане?! І хто?.. Хто так счарніў яго, за што?

Ваенны час забіваў людзей не толькі ў акопах, але і ў гэтым бараку з чырвоным крыжам на сцяне. Заплюшчвала вочы, але бачыла толькі спакутаванае Андрэева аблічча. А ў вушах — толькі стогны параненых і хворых, якія ляжалі на сенніках проста на падлозе.

* * *

— Якую колькасць атруты прыняў хворы?

— Дакладна невядома. Атруціўся ў гарачкавым стане, прыняўшы за ваду раствор французскай зелені. Цяпер усё ў норме.

Доктар суправаджаў Лесгафта: ішлі ўздоўж шчыльна застаўленай ложкамі мужчынскай палаты. Алаіза шапнула сядзелцы, што вернецца ў мірг вока, і кінулася за імі следам. Дзяжурыла з учарашняй раніцы і цяпер чулася блага. Прыслухалася. Доктар на хаду паясняў, што ў многіх падвышаная тэмпература яшчэ і з прычыны катаральнай ангіны.

Пры іхнім з'яўленні ўсе ў палаце прыўзняліся на ложках. Доктар павёў Лесгафта ў левы куток да но-

венькага — дзікаватага няголенага мужчыны гадоў сарака, з пукатымі, што гусіныя яйкі, буграмі лоба. Счэрканыя крывавымі жылкамі, слязлівыя вочы хворага глядзелі на ўсіх з адкрытай варожасцю, з-пад павек чарнелі толькі мачыны зрэнак. Задзёр да падбародка сарочку.

Убачыла яго пальцы — вузлаватыя, з глыбокімі рубцамі.

Доктар пагартаў сшытак рэгістрацыі.

— Як сам сказаў — трапіў пад колы павозкі. Ускочыў і пабег, але тут жа зваліўся без памяці...

— А ідзіце ў старое мейсца!

Распалены хворы напяўся ўсім целам, тузануўся і зарыпеў ложкам, аднак Лесгафт як і не чуў яго. Слухаў толькі доктара. Немаладога, з ружовымі абвіслымі шчокамі.

— Паламаны да ўсяго два рабры.

— Вы мяркуеце, калега, прыбегнуць да масажу? — Лесгафт не стаў чакаць адказу, кіўнуў хвораму: — Апусціце сарочку. — Зноў да доктара: — Следавацельна, так... Спачатку прывядзіце ў парадак абломкі...

Лесгафт выцягнуў з кішэні вялікі сярэбраны гадзіннік, але чамусьці адразу ж апусціў яго назад. Неяк дзіўна захістаўся і зашаптаў:

— У сямідзесятых гадах, следавацельна, прафесар Каломін стаў рабіць кароткатэрміновыя павязкі, пасля якіх канечнасць адпачывала...

— Сёння зраблю ім «голую банкету»! — сказаўшы так, Алаіза пачырванела, успомніўшы, што пры тыфусе лазні не дазваляюцца.

Хворы з чырвонымі вачамі злазіў з ложка, кінулася да яго, каб утрымаць, але ён ужо стаяў і, дрыжучы, крычаў ёй проста ў твар:

— У васьмідзесятыя ў палаце можна было застаць цэлы лес... лес мачтаў з паднятых канечнасцяў!

У нос рэзка ўдарыла карболкай і яшчэ аміякам...

Закашлялася так, што тузанула ў галаве, і нарэшце... прачнулася. Гэты кароткі сон не збавіў ад важкай даўняй стомленасці.

Паднялася, як п'яная, і адхінула ўбок шырму — за сталом сядзела Яніна. Парадкавала бінты.

Але ж той хворы з яе сну... Ён так нагадваў Андрэя, што думкі зноў вярнуліся ў раніцу. Не магла зразумець, чаму яго хацелі спаліць тыя незнаёмыя ў салдацкіх шынялях і хто яны? Аднак жа ўсё яшчэ наперадзе. Цяпер ведала толькі адно. І тое самае важнае, аб чым з трывогаю сказаў ёй доктар, адсунула ад Алаізы важкі сумёт колішніх перажыванняў і крыўду.

Андрэй — згасаў. Ад пабояў і тыфусу... І цяпер іншыя пачуцці і трывогі дыхнулі ў Алаізіну душу. Дыхнулі жахам — як з сырой магільнай ямiны. Трэба быць мудрай і шчырай. Шчырай перад сабою і перад ім.

О, як жа яна, жонка дапраўды харошага вельмі чалавека, як жа яна любіць! Любіць усім пражытым і ўсім перажытым. Усім сваім болем. Боль кахання афарбоўваў цяпер усё навокал у свой вогненна-трапяткі колер вялікай жаласці. Урэшце ўсвядоміла самы галоўны сэнс жыцця... Нябачная стрэлка рухалася ад самых юначых дзён да вось гэтых, набрынялых смерцю, хвілін, і вось ужо спынілася на ўзроўні сэрца. То пакалвала ў яго, аж не было як дыхнуць, то шоргала па ім, ды так рэзка, быццам помсціла...

Андрэю блага. Андрэй перад Брамай.

Паднялася і, хістаючыся, ступіла да дзвярэй, каб хутчэй — засланіць яго...

Насустрач у барак ужо ўваходзіў доктар. Моўчкі, апусціўшы вочы, падаў тэлеграму. Прабегла яе вачамі: «Лізанька, прыязджай, памёр тата».

— Прабач, Андрэй!

* * *

*Вільня — Стары Двор. 1916 год*

Перад дзвярамі старога драўлянага будынка пад гонтаю, на Звярынцы, спыніўся мажны мужчына ў старым афіцэрскім шынялі без пагонаў. Пастукаў. Нарэшце дзверы адчыніліся. Высокі, гадоў сарака, з сівым вожыкам коратка падстрыжаных валасоў гаспадар быў у шырокім пінжаку. На белай сарочцы завязаны бантам карычневы гальштук.

— Ці дазволіце? Так разумею, пан Кайрыс?

— Вы, пэўна, шукаеце Лізаньку?

— Яна дома?

— Выехала на радзіму, аднак няма ўжо цэлы месяц. Думаю і сам туды. На Лідчыне тыфус у разгары. А вы ж, пэўна, ведаеце самаахвярны характар Лізы?!

Падзьмуў вецер, сыпнуў у адчыненыя дзверы жменю цвёрдага снегу.

— Пан Кайрыс... Прашу пана прабачыць, але я нават не зайду.

— Аднак што сказаць, калі прыедзе?

— Проста зямляк.

— То, можа, пан?..

— Не-не! Дапраўды спяшаюся.

Зачыніўшы дзверы за незнаёмым у афіцэрскім, але без пагонаў, шынялі, Сцяпонас вярнуўся ў свой кабінет. Схіліўся над перакладам, ад якога адарваўся з-за нечаканага госця. Задумаўся, бо ўжо бачыў раней гэтага дзіўнага прышлага незнаёмца. Але дзе? Тое — не ўспаміналася. І Сцяпонас зноў схіліў галаву. Пачаў пісаць: «Стары даўно перастаў удзельнічаць у справах дзяржаўнага жыцця, але на пасяджэнні Сінедрыёна заўсёды прыходзіў першы, аднак хутка засынаў... Стары Ёсэ быў праціўнікам любога гвалту. Самы жорсткі злачынца, прыгавораны судом да пакарання смерцю, калі наступаў той час, знаходзіў у старога спачуванне. Ёсэ плакаў, нібыта быў то яго родны сын. Адзін раз у год старэйшына знаходзіў сілы для казання, і тады збіраліся ўсе маладыя святары...»

Сцяпонас адкінуўся ў крэсле — з галавы не выходзіў дзіўны госць. Толькі цяпер зразумеў, хто гэта. Значыць, былы палкоўнік Андрэй Гмырак выжыў. Аднак ніхто ў Вільні не ведаў, за што і хто хацеў гэтага чалавека спаліць...

Чаму ўсё ж ад Алаізы так даўно няма лістоў? Сцяпонас выйшаў у пярэднюю, зняў з вешака паліто. («Трэба ехаць».)

Праверыў, колькі мае грошай.

Па дарозе на вакзал завярнуў у рэдакцыю, адправіў у друк яшчэ адзін матэрыял пра адкрыццё новых літоўскіх і беларускіх школак.

Забегшы ў прывакзальны рэстаранчык «Дагмара», купіў на дарогу два яблыкі.

Тыфус на Лідчыне нарэшце пачаў ачахваць, аднак фурман згадзіўся давезці Андрэя толькі да Мякішаў. Праз усю ноч, відно, быў снегапад. Кудаса залізала нават шырокі гасцінец, рысы ад палазоў адгадваліся пад тонкай крохкай наледдзю. Ламаючы яе, Андрэй саскочыў з фурманкі на дарогу. Развітаўшыся з фурманам, падаўся пеша ў бок Старога Двара. Змяркалася, але іншага выйсця не было. Сцяганы шынель, прасмярдзелы дымам салдацкіх вогнішчаў, даўно не грэў. Андрэй ішоў праз цемру, чуючы дарогу толькі нагамі ў расслізганых ботах. Спяшаўся, быццам гнала яго наперад невядомая сіла. Спяшаўся, каб нарэшце ўбачыцца і, мінуўшы доўгія гады расстання, сказаць ёй, адзінай, так і не сказанае яшчэ дасюль.

Падзьмуў з поля вецер, сыпануў за каўнер снежную крупу. Андрэй спяшаўся. Ішоў і думаў: да чаго ж дайшлі людзі, калі хацелі забіць іншага чалавека толькі за тое, што той быў сведкам крадзяжу ў палку. Урэшце, ва ўсім абвінавацілі толькі яго, афіцэра. А потым — палаючы барак.

Але няхай! Бо ніколі, ніколі яшчэ ён не бачыў у Алаізіных любых вачах столькі жаласці, і болю, і кахання, як у тыфозным бараку.

Змяркалася. Да Мякішаў трэба было ісці цэлую ноч. Стала зусім холадна, таму пабег. Потым пайшоў спакайней, аддыхаўся. Адчуў невераемную, ажно ўспыхнулі ў вачах чырвоныя мушкі, слабасць. Снежнае поле было глухім і абыякавым. Ад снежнага насту падымалася бляклае святло. Пачаўся спуск. Тады зноў пабег, але нечакана паслізнуўся і з усяго маху выцяўся патыліцаю аб востры прыдарожны камень. Заплюшчыў вочы і... апынуўся ў агні таго санітарнага барака, дзе яго хацелі спаліць. Пачуў, як горача стала ў ногі, сціснуў вусны.

* * *

Раніца была марозная і светлая. З боку Старога Двара кіравалі сані, у якіх разваліўся стары доктар-немец. Фурман у кажусе ўсё нокаў на марудлівага каня.

Яны ехалі ад Пашкевічаў. Доктар прабыў у Старым Двары цэлую ноч, але ўратаваць сярэднюю дачку, Лізу, так і не змог. Згарэла ад сыпняку.

Ад гарачкі нават вачэй не расплюшчыла, толькі трызніла. Кажуць, заразілася ад суседскай Анэлькі, якую два дні ратавала. Суседку ўратавала, а сама... Фурман уздыхнуў, азірнуўся на немца:

— Ах, якая пані была харошая! Каб не яна, Пашкевічава, мой Янак навуку не кончыў бы. А нядаўна яны і бацьку ў зямлю паклалі.

Конь спыніўся, немец недавольна заварочаўся пад важкім доўгім кажухом, закрактаў.

— А я ўсё ж думаў, доктар, што вы яе ўратуеце. Пашкевічаву...

Конь раптам заржаў і спыніўся. Фурман пакратаў лейцы, але змушаны быў саскочыць з шырокіх саней на дарогу. Пайшоў наперад, гразнучы ў снезе. Атарапела спыніўся перад распластаным на снезе чалавекам.

— Was ist los?!

Фурман нічога не адказаў. Толькі з жахам глядзеў на знаёмае аблічча замерзлага мужчыны. Шырока расплюшчаныя і цяпер зялёныя, што трава, вочы, не міргаючы, пазіралі ў высокае халоднае неба. Лапіна снегу на лобе не раставала. Быў у старым афіцэрскім шынялі.

— Бач ты, бедалага, не дайшоў. А тут міля ўсяго і заставалася. — Фурман вярнуўся назад. Немец нерваваўся.

— Zum Teufel! К тшорту! — Замерзлага немец так і не ўбачыў.

— Зараз, зараз, паночку! Яшчэ адзін кажух вазьмеце. Там, за вамі. Ды паспеемо. Нашы кабеты цярплівыя.

Фурман з немцам-доктарам спяшаліся са Старога Двара ў Лябёдку да парадзіхі! Па просьбе інжынера Іваноўскага.

— Гэто ж трэба, усюды ўміраюць, а яна дзіця родзіць. Што тут парадзіш?.. Даедзем!

— Я ўжо не вырвуся з гэтага круга, Алаіза. А табе — вышай...

— Вырвешся, Андрэй.

— Ты чакала?..

— Чакала, бо ўсё зразумела. І прабачыла. Радуйся.

Праз дзве душы, што нарэшце сустрэліся ў вышыні на кароткі міг, прайшло калючае жывое цяпло. І яны ведалі, што іх працяў з зямлі, мінуючы хмары, моцны чалавечы, матчын, позірк.

— Ты вернешся на зямлю? Ты вернешся дахаты, Алаіза?

— Буду маліцца і прасіць, каб толькі вярнуцца. Бо яшчэ не кончыла сваіх спраў. Не завяршыла наканаванае Панам Богам.

— Калі?

— Роўна праз сорак гадоў.

— Мы сустрэнемся?

У глыбокім небе ўспыхнула зорка.

*1982—1996*

# ЗМЕСТ

**Гэта было жыццё** . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 3

**КНІГА ПЕРШАЯ**

**Раздзел першы** . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 9
**Раздзел другі** . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 105

**КНІГА ДРУГАЯ**

**Раздзел першы** . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 241
**Раздзел другі** . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 375
**Раздзел трэці (*замест эпілога*)** . . . . . . . . . . . . . . . . 456

**Коўтун В.**

К 73 **Крыж міласэрнасці: Раман: Для ст. шк. узросту. — Мн.: Маст. літ., 1996. — 493 с., іл. — (Школьная бібліятэка).**

ISBN 985-02-0382-Х.

Творы Валянціны Коўтун добра вядомы чытачам не толькі Беларусі, але Украіны, Літвы, Расіі, іншых краін.

Раман «Крыж міласэрнасці» ў еўрапейскай літаратуры — з'ява унікальная. Гісторыка-біяграфічная дылогія створана на аснове жыцця і творчасці славутай паэтэсы, сястры міласэрнасці пачатку стагоддзя Алаізы Пашкевіч (Цёткі). На старонках востраcюжэтнай кнігі ажывае шмат іншых знакамітых людзей пераломнай эпохі — Я. Купала, І. Франко, Э. Ажэшка, К. Каганец, браты Луцкевічы, В. Іваноўскі, дзяржаўныя дзеячы — Мікалай II, граф Вітэ, мітрапаліт Шаптыцкі.

Асабліва трапяткой мовай напісаны старонкі пра каханне. У рамане ўспыхвае светлая зорка паэзіі і кахання, гучыць магутны арган эпохі — у храмах Вільні, Львова, Гародні, Кракава, Рыма, Венецыі.

К $\frac{4702220202 - 046}{М 302(03) - 96}$ БЗ 30—96 ББК 84 (4Бен) 6

Літаратурна-мастацкае выданне

ВАЛЯНЦІНА МІХАЙЛАЎНА КОЎТУН
Крыж міласэрнасці
*Раман*

Для старэйшага школьнага ўзросту

Рэдактар Л. Р. Законнікава. Мастак В. Г. Паўлавец. Мастацкі рэдактар М. Е. Шкурпіт. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктары Л. А. Даядаюля, Л. М. Маслоўская.

Здадзена ў набор 30.05.96. Падп. да друку 11.09.96. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. Гарнітура школьная. Афс. друк. Ум. друк. арк. 26,0. Ум. фарб.-адб. 26,57. Ул.-выд. арк. 26,94. Тыраж 15 000 экз. Зак. 822.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220013, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.